Падпісны індэкс: **74813**
Чытайце «Дзеяслоў» у Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**
.......................................................................................



Ілюстрацыі на вокладцы Рыгора Сітніцы:
на 1-й стар.: «...», 2003 г.;
на 4-й стар.: «...», 2005 г.



Пасведчанне аб рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 631 ад 28 жніўня 2009 г., выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Заснавальнік — ГА «Літаратурна-мастацкі фонд «Нёман».
Юрыдычны адрас: вул. Кузьмы Чорнага, 18-2, 220012, г. Мінск.

Адрас рэдакцыі:
220025 г. Мінск-25, а/с 91
e-mail: dzieja@tut.by
www.dziejaslou.by
Тэл.: 200-80-91.

Здадзена ў набор 20.10.2017 г. Падпісана да друку 30.11.2017 г.
Фармат 70x108 1/16. Папера афсетная. Друк афсетны.
Аб'ём — 22 ул.-выд. арк. Наклад 700 асобнікаў. Заказ №

Паліграфічнае выкананне: сумеснае таварыства з абмежаванай адказнасцю «Медысонт».
ЛП № 02330/20 ад 18.12.2013.
Вул. Ціміразева, 9, 220004, Мінск.

Кошт нумара – па дамове.
Для дзяцей, старэйшых за 16 гадоў.



№1 (92)
/студзень-люты/ 2018

Дзе

дзеяслоў

ЗМЕСТ

**Паэзія**



**Проза**



**Дэбют**

Васіль Зуёнак



...Дай народам, о Валадар
Усясветаў, з Боскай рукі
Векавечнага міру дар
І свабоду – на ўсе вякі...

# Ты сам сабе і шлях, і абарона...

### ЧАС І МЫ

Час – мінулага памяць і тло,
Час – дзён існых двайнік пакутны,
А таго, што яшчэ не было,
Час не знае – ён там адсутны...

### НАРОДЗЕ МОЙ...

Яшчэ не ўсе адмёрлі карані,
Тысячагоддзяў не засохла крона, –
Народзе мой, з дарогі не звярні –
Ты сам сабе і шлях, і абарона.

Яшчэ душу тваю не скрыўдзіў Бог, –
Ты толькі сам сябе не адцурайся,
Не вер таму, хто гне ў барані рог
Цябе ў абдоймах абяцанняў райскіх.

Нязломны будзь – і станам, і душой,
Кроч вертыкальна – не па “вертыкалі”,
З якой выпростваюць цябе ў прыўладным “шоў” –
Глядзі, каб і цяпер не ашукалі...

Народзе мой, падмануты не раз,
Не дай сябе расцерушыць дарэшты...–
Інакш дзяцей – заслужыш гэткі час –
І на памінкі нават не збярэш ты...

* * *

Лёс то прыціхне, то бунтуе,
А вось не скажа, што рыхтуе
Табе на кожную хвіліну.

Як у імя айца, і сына,
Й святога духа ні маліся –
Маўчанне: на зямлі і ў высях.

Не выдасць лёс загадку тую:
Дзе ён сур’ёзна, дзе жартуе...

## *ТВАРЭННЕ*

Хвалімся,
Прыходзім у захапленне,
Узносім самі сябе да нябёс:
Чалавек – вяршыня тварэння,
І не марна пакутваў за нас Хрыстос...

Баюся праслыць ератычным блюзнерам,
Перад імем Тварца саграшыць, –
О не, я зняважыць Яго намераў
І ў думках не маю.
А ўсё ж карціць на душы...

А можа, з чалавекам не так усё й гладка,–
І гэта ўсяго толькі першая творчая проба? –
Паглядзіць Усявышні:
Яно і някепска было для пачатку,
Але ж – і лепей, здаецца, магло быць? –
Жах! – і...
Ну што бывае ў такіх выпадках?..

Даруй мне, Божа, мае грахі...

## ІНШЫ РАЗ...

Як усялякая крывая
Прамою іншы раз бывае,
Так і прамая іншы раз
Крывой абернецца для вас.

І вы тут рады не дасцё:
Здзіўляе іншы раз жыццё.

## ДЗЯСЯТЫ

*Успамін 1945-га года*

З чорнага белым зрабіўся груган,
Крыві – на адзіны ўздых.
Дзевяць служак у смерці – дзевяць ран:
Тры – ад кулі і шэсць – нажавых.

А ён – дзясяты, – супроць дзевяці.
І свет бялее ўваччу, –
Гэта смерць гукае. І ён ляціць.
І першым пра гэта груган пачуў.

Ды раптам палёт абарваўся, як сон,
І ў цемені зноў апынуўся ён...

А хто пагукаў вярнуцца назад,
І дагэтуль не знае ссівелы салдат...

## КАЛІ СПЫТАЕ...

Калі ўжо часіна падступіць,
Спытае – не без прычын:
Ці не даволі ўжо тупаць,
Ці не пара на спачын?.. –

Вось так – як за горла возьме...
І што мне ёй адказаць?..
А я ўсе рэзоны – вобзем!
А я пачну ўспамінаць...

І ўспомню я хату над Начай,
І маму – сонейка ў ёй,
З якой і смяюся, і плачу –
З дзіцячай планідай маёй...

І сенажаць, дзе з касою
За татам пракос вяду...
І сад з салаўінай вясною,
Куды на спатканне іду...

І сцежку, дзе хлопчык босы
Збівае вясёлку расы, –
І бачу праз срэбны той россып,
Што гэта не я ўжо, а сын...

Успомню, як праўдзіў дамовы
Крылом цецярук-такавік...
І неруш пад лапкай яловай:
Як ёсць ягамосць – баравік!..

Успомню жытнёвы вечар
І голас, што "жаць пара!.."
І ветрык, што шэпча аб вечным –
І полю, і хлебным дарам...
І месяц над полем поўняй,
І зор незлічоную раць... –

Успомню, успомню, успомню...

І – не захачу паміраць!..

## *ГЛЫБІНІ*

Надзяліў Бог нябеснымі крыламі,
Каб у нетры зямныя ўглядзецца
Мог з вышыняў Радзім Гаўрылавіч –
Акадэмік з роду Гарэцкіх.

Хай гісторыкі звоняць шчытамі –
Ходзіць лёс яго ў іншых пастронках:
Ён зямлю, нібы кнігу, чытае –
Пласт за пластам гартае старонкі.

Чым багатыя нашы глыбіні,
Ён высвечвае, як на рэнтгене.
– Не! – такая зямля не згіне! –
Так сцвярджае Гарэцкіх Геній!

* * *

Трактуюць, што паэзія *павінна*,
І што паэт камусьці там даўжнік,

І рыфмы, як эпохі пілавінне:
З-пад цыркуляркі – на чыноўны ўлік.

Тракт цыркулярны мне недаспадобы.
Паэзія не наймітка, ды ёсць –
Ёсць слугаванне – найвышэйшай пробы:
Яна ва ўсім! і праз усё! – наскрозь!..

І гэта кожны знае па сабе.
Паэзія – у кожнага ў планідзе:
З адным у злагадзе, з другім у барацьбе
Жыццё тварыць – інакш яна не прыйдзе.

І ў гэтым сэнс – і для сябе й для свету:
Рабіць – і прыгажосці слугаваць.
Жыве паэзія – і не крычыць аб гэтым,
А слугаваць – як з Богам размаўляць.

## ***УЗГОРКІ ЛЕДНІКОВЫЯ...***

Дарога прагінаецца –
Бяжыць то ўверх, то ўніз,
То ўвіліста ўхіляецца –
Зусім як твой капрыз:

Якую ўзяць правізію
І кошыкі з сабой,
Як выйграць у дывізіі
Грыбной няроўны бой.

Ды клопат лёгкай хмаркаю
Развеяў гор абрыс –
Дарогаю швейцарскаю –
Палёт: то ўверх, то ўніз.

Матор грыбною зонаю
Наўскач ірве аброць.
–Зялёнае? –Зялёнае! –
Прыехалі, выходзь!..

О не-е – мы ў лысагорскае
Паселішча ў садах,
Дзе дождж у кронах порскае,
Цвікамі б’ецца ў дах...

А нам, дальбог, вось гэтае
І н*а*любкі якраз:

З грыбамі так адлетаваць,
Каб быў зіме запас.

Вязьмо баравіковае
І ў слоіках грузды...

Узгоркі ледніковыя,
Вы ў памяці, як дым...

Было... Грыбныя нерушы,
Цяпельца ля ракі,
Дзе нас, ужо цяперашніх,
Гукаюць грыбнікі.

Туды, туды ў былое,
Да нетраў баравых...
А тыя, тыя двое
Зусім не чуюць іх...

### *МЕЛІ- ...*

Крыгалом! Крыгалом! –
Гул стаяў над сялом:
Уздыхала па-весняму
Нача...

Ветралом, ветралом –
Напралом! Напралом! –
І над пусткай асушанай
Плача...

Рад-не-рад, рад-не-рад, –
Сам сабе супастат –
Нарабіў земляроб
На заробкі:
Ад ракі нацянькі
Збеглі прэч раўчукі –
Засталіся пясчаныя
Сопкі...

Мелі-
ярацыя:
Мелі –
і страцілі...
З'елі авацыі:
Мелія-
рацыя...

## ***ЛАВЕЦ МЕТАФАР КАРАДАГ***

*Метафара-згадка**

Дух вечнай непакоры –
Два небы і два моры.

Адно ў адным люструюцца,
Адно адным цікуюцца:
А хто з іх прыгажэйшае?
А хто багам раднейшае,
Тым, што плылі з Элады
Сюды здзіўляць пагляды?
І ласкаю Гамеравай
Каму яны даверылі
Ўлагодзіць спрэчку гэту
Ў сям'і дзівосаў свету?

Пытайце сто разоў цяпер,
Каму дастаўся той давер.
Спытайце й тысячу: каму?
Не здагадаліся? Чаму?

Тады яшчэ спытайце раз:
Каму? –
Іх шмат... Ды сёння час,
Скажу, не ім даваць адказ
Пад сонечнай прысягай –
А мне! І Карадагу...

З уцёсам слынным мы стаім,
І горы высяцца за ім –
Як памяць Кімерыі...

Мы з ім сябры старыя.
Ён тут – паэт з паэтаў.

Мы з ім дзівосы свету
Падлічым – а пры гэтым
І наша ранг набудзе:
Па ліку – восьмым будзе!

Мы сведчым гэта ўпершыню:
І высь нябёс, і глыбіню
Марскую ў Кактэбелі –
Як славу – мы не дзелім,
Бо дзіва ў лучнасці: яно
Нам з Карадагам так відно!

На тым, хоць не па ўзросту,
Займелі мы сяброўства.

Я тут – нібы запрошаны
Яшчэ самім Валошыным,–
Сюды, дзе "Дом паэта"
Яго душой сагрэты:

Над лонам мора неба дах...
Лавец метафар Карадаг!..

---

* З дадаткам – Postscriptum – апошніх захопніцкіх воклічаў "Крымнаш!.."

* * *

Я тую песню па каліўцу,
Як слёзы зязюля, збіраў.
Згубіў – дык няма чаго каяцца, –
Сам жа сябе пакараў.

Сам і яе ў беспрытульнасці
Кінуў па свеце блукаць...
Песня наноў не расчуліцца, –
Гэта як здраду гукаць...

## *ЛАЦІНІСТЫ*

Сёння я размаўляў на класічнай латыні,
Хоць калісьці блукаў па ёй, нібы ў пустыні.
І як ні стараўся прафесар Мельцар,
Праціраючы акулярам лацінскія шкельцы, –
Хай сабе ў лацiністах быў ён сам бог,
А скарыць летапісцаў эпохі не мог, –
Гэта значыць, газетчыкаў заўтрашніх, нас,
Ды яшчэ і з амбіцыямі на Парнас.

Вучыў прафесар: "аква" – "вада",
Каб мудрасць латыні з глыбінь перадаць, –
А ў нас толькі "ква" заставалася –
"А" безнадзейна гублялася...

І ўсё ж быў прафесар спагадлівы,
Жаданым "залікам" радаваў...

Па тых "заліках" сёння і я
Рачным паплавам раўня і радня:

Разам вясну сустракаем –
“Ква” і “а-ква” гукаем...

Нібыта слухаем песню з Ліннеем
І ад захаплення проста п’янеем.

Так-так: праз стагоддзі стаім з Ліннеем –
І салавеем з ім, і нямеем, –
Толькі і можам вымавіць “ква”
Замест класічнай лаціны: “а-ква”...

“Ведаеш, – кажа даследчык Лінней, –
Вашы пяюць за французскіх п’яней.
Пэўна, таму французы-гурманы
Іх і абралі для закусі п’янай...”

Што ж, я не супраць гурманскіх ухілаў,
Ды мне, як во зараз, і песні хапіла б...

І ўсё ж, каб французам не даў паблытаць,
Якія лапкі ідуць на спажытак,
Я патлумачыць Ліннею бяруся
Мець на ўвазе, што ў Беларусі
Жабы міжсобку розняцца.
Адны панура цвярозяцца:
Тыя, з падполля, – рапухі,
Лупата-бугрыстыя папаўзухі.
А лёгкія ў скоках – жабы, “лягушкі”,
Прыткія берагавушкі:
Хочаш купайся, хочаш ныра, –
“Аква” для іх – зямны акварай.
О: гэтыя лаціністкі,
Выдатніцы-мельцарысткі, –
“О-ква!” – супраць нашай спагады
І ёсць для французаў прынада...

Стаім на ўзбярэжжы з Ліннеем –
Французаў не разумеем! –
Ну як жа вы гэтак, ну, як жа, французы,
Каб гэткую песню за лапку ды ў пуза?..

* * *

Зямля – загадка, адгадка – неба.
А як злучыць іх, якой сустрэчай?..
Пакінь вымогі, сын чалавечы:
Каб уваскрэснуць, памерці трэба.

## *А БЫВАЛА…*

А бывала, і ночкі мала.
Песня – птушкаю на плячы –
Ні хвілінкі на сон не ўступала...
Што ж цяпер – маўчыш і маўчыш?..

Не смяецца ноч і не плача,–
Як манашка, глухне ў мурах...
Голас мой, успеснены Начай,
Ты ў якіх патануў вірах?..

## *У КАШУЛІ ІЛЬНЯНОЙ…*

У кашулі ільняной
З халадком кужэльным, –
Дзе ты, дзень святочны мой
З полечным кружэннем?!.

Што з табою стала, лён?
Кожны год – няўроды...
І мяне ў шкляны нейлон
Апранула мода.

Так абшыла – б'е сувой
Іскрай з ног да шыі,
І ўключае лямант свой
Песенны глушыльнік...

Сцежкай шэрай сум брыдзе –
"Тэлікам" не грэбуй!..
І няўцям: ці ападзе
Ў лён блакітам неба...

У кашулі ільняной
Дзень той ночы сніцца...
А са мной... А што са мной? –
Колкая кастрыца...

Песня з крыўдай на мяне
Засталася ў полі.
Пагукаеш – абміне
І ўспамінам коле...

Лён мой, лён, ласкавы лён,
Залатая пасма...
Што ж ты змоўк, блакітны звон,
Песняю пагаслай?..

Лёгкіх бёрдаў не чутно,
Не прадуць кудзелю,
Не выносяць палатно
На расу адбельваць...

Толькі як жа мне забыць
Тое неба ў полі:
Вечна мама будзе шыць
Мне кашульку-лёлю...

Як жа з песні зняць ланцуг –
Небу памаліцца,
А ільну –даўгунцу
Нізка пакланіцца?..

## *У КАСМІЧНЫМ МІЖЗОР'І...*

У касмічным міжзор'і –
Ні памежжаў, ні дат,
І ніхто не прыгорне
І не верне назад.

Ва ўсясветным рэжыме
Кропляй духу ляцім...

Для каго мы чужыя
І хто нам пабрацім –
Знаць-не-знаем, і, пэўна,
Знаць не дадзена нам, –
Бог зямную даў крэўнасць
Чалавечым сынам.

Што ж яе мы дратуем
Варажнечай і злом,
І суладнасць святую
Асуджаем на злом?..

Маем Боскую ласку,
То не здрадзім жыллю:
Неба – толькі падказка,
Каб не страціць зямлю.

Будзем шчыра маліцца
Свету, людзям, сябрам,
І маўклівай травінцы,
І шумлівым барам...

А ці песні, ці плач там –
Гэта нашы, яны:
Карабельная мачта
І сасна для труны...

## ГРАМНІЦЫ

Прыгрэла сонейка, і ўраз
З прысадаў і з падстрэшкаў
Адсвяткаваць грамнічны час
Спяшаць – хто ўлёт, хто пешкі.

Бо знаюць: часу на сугрэў
Той дзень адводзіць вобмаль:
Яшчэ зімовы сон у дрэў,
Мароз яшчэ ў аглоблях –

Не распрагаецца зіма, –
Яшчэ апошні выезд
Узніме ў полі снег стайм*а*
І ў сто вятроў завые...

Ды вераб'іны каляндар
Гульні той непадлеглы
І вераб'ям грамнічны дар
Не замяцеліць снегам!..

Свяці ж ім, сонейка, свяці, –
Сініцам, зелянушкам
І дубаносам адпусці
Праменьчык – на вяснушкі!..

Звініць капеж. А на вярбе
З цяжарам дум прарочых
Варона слых усім шкрабе,
Нібы прамовіць хоча:

–Не, не пракоўзацца кату
Туды, дзе на падталку
Змываюць з пер'я чарнату
Вадою снежнай галкі...

## ПЕСНЯ

А ўсё здаецца, што зарана
Брацъ на пазыкі ў салаўя,
Што і свая не даспявана, –
Яшчэ свая... Яшчэ свая...

Здаецца, што й жыццё – як песня:
За рукі ўзяўшыся, ідуць.
І я для іх – вясёлы хрэснік:
Бяду любую развядуць...

Здаецца... Ды ўжо кон з пацехай
І мне, і песні ў твар глядзіць.
А шчасце... Шчасце – толькі рэха
Таго, што не павінна быць...

* * *

Час і прастора... Вечнасці парог
Ці існасць, не падлеглая смяротным?
Час і прастора... Даў жыццё ім Бог
Ці чалавек прыдумаў беспалётны?...

Час і прастора... Будуць, ёсць, былі...
Угрунтавана ўсё як і належыць...
А як спытаць у вечнасці: “калі?”
А як дарогі мерыць у бязмежжы?..

Час, – то скажы: калі і як узнік
Бясконцасці сусветаў абаронцам?
Прастора, – дзе пачатак, што адлік
Вёў ад нуля няіснага ў бясконцасць?

Аб тым я ў іх дапытваўся не раз –
Лічыў на пальцах: сёння-заўтра-ўчора...
Але – для Вечнага – які быць можа час?
Але – Бязмежнае – акрэсліць як прасторай?

Іх паасобку не шукай – няма! –
Прастора не аддзельная ад часу.
Адзінства й супрацьлегласць... як турма,
Дзе я трываю тэрмін свой сам-насам...

Час і прастора... Як адолець іх –
Бяздушна-вечных і глуханямых?

Прастора часу ці прасторы час –
Як мы без іх і як яны без нас?..

Нарэшце, неадступнае, карціць
Яшчэ адно наіўнае пытанне:
Хто стрэлкі тыя і куды круціць
Пачне тады, калі мяне не стане?..

### *ТАКСАМА...*

“Смерць ёсць”, –
Сказаў песіміст –
І памёр...
“Смерці няма”, –
Сказаў аптыміст –
І... таксама памёр...

* * *

Нары і труны –
          знае дашчынка:
Не лепшыя спосабы
          адпачынку...

### *ПРАДУКТ ЭПОХІ*

*Навагодняя сага*
*пра штодзённую смагу*

Быў час, калі ў грузінскае віно
Са Сталіным мачыў свой вус Будзённы...
Быў час, які атаку нейтрыно
Змываў саракаградуснай казённай...

Быў час, калі дэнатурат ліхі
У мозг з пахмелля забіваў цвікі...

Быў і такі:
          па імені “сухі”
Закон ён сплёў,
Каб нас
Схіліць на квас,–
Каб раз! –
І на вякі!..

Быў час,
          калі падчас,
                    хоць ты й не рад,
А вольны вецер шастаў па кішэнях,
У трубку самагонны агрэгат
Трубіў усім вялікае зрушэнне...

Быў час...
І з часам тым
Мы й сёння дружым.

Жывём
І п’ём –
І я, і ты :
Жывём-не-тужым!..

Мы круг арцельны –
Не выпівохі!
Расцём у целе,
Мацнеем духам.
Да дна пацеем:
У куфаль –
Скруху!..

Зляцелі
Мухі,
Падохлі
Блохі...

А мы –
    прымаем
Штодня патрохі...

І ўрэшце – маем
Прадукт эпохі!..

## ДЗВЕ ПРОСЬБЫ

Дай народам, о Валадар
Усясветаў, з Боскай рукі
Векавечнага міру дар
І свабоду – на ўсе вякі.

Ну а нам, чалавекам, дай
Пекнату да жаночай красы,
Незахмараны небакрай
І каханне – на ўсе часы!..

Мікола Захаранка



...начіву...

# Дзе ноч агорне, хай там разбудзяць

***З цыкла фантастычных апавяданняў “Дарогі”***

**1.**

Яна вярталася з радзімы. Сядзела ў “маршрутцы” з папяровым скруткам на каленях і пільна ўглядалася ў знаёмыя да болю і да болю родныя краявіды за акном. Было незразумела, куды едзе, чаму, і ці вернецца? Такое адчуванне накрывала яе кожны раз, як па гэтай шашы ад’язджала ад роднага Брагіна. І ў дзяцінстве, едучы з мамай і меншай сястрычкай у піянерскі лагер; і ў маладосці, калі пасля выходных даводзілася вяртацца на вучобу ў Гомель; і вось зараз, вяртаючыся “ў высылку”, як яна называла сваё цяперашняе месца жыхарства, дзе апынулася пасля атамнай бяды ў Чарнобылі. Яе вёсачку шчодра пасыпаў атрутны попел, а іх усіх дзяржава рассяліла па гарадах ды весях, далёка ад вільготнага Палесся. Апынуліся і яны з мужам і першынцам Іванкам за трыста з гакам вёрст ад сваёй малой радзімы, у сасновых барах паўночнай Міншчыны, у вёсцы Забораўцы. “Аж за Мінскам”. Зоі здаецца, што ўсё гэта было

ўчора, хаця ў той Забораўцы яшчэ дваіх дзетак нарадзіла, і парасціла, і ў свет выпусціла. Адна гаравала, муж Раман трагічна загінуў у самым росквіце іхняга маладога жыцця. Ого-го, колькі доўгага горкага часу прайшло!

Але гэта там, на чужыне рухаўся час. А тут, на радзіме, ён як спыніўся, тут яна, калі ні прыедзе, – кожнага разу зноў маладая! Тут яе памяць пра апошнія тры-чатыры пражытыя дзесяцігоддзі завалакваецца густым белым туманам, як пасля кантузіі. Ну, яна не ведае, як бывае пасля кантузіі, але так гаворыцца... Гэтая “кантузія” прыемная. Бо не толькі розумам яна маладзее, але і целам! Адчувае нават, як грудзі робяцца тужэйшыя. Ну, грудзі, – то, можа, здаецца. А вось паходка насамрэч мяняецца! Як прыязджае на радзіму, то сама здзіўляецца з таго, як ногі лёгка ступаюць па дарозе. Тыя разы шчэ не так. А ў гэты зусім пад сабою ног не чуе!

У першую ноч па прыездзе яна бачыла нябесны знак. Начавала, як заўсёды, у брагінскай далёкай родзічкі. Выйшла з дому падыхаць і ўбачыла: неба зрабілася светла-бэзавае, без хмар і без зорак. Адна зорка на ім, праўда, засталася. Але якая! На каляным бэзавым купале на поўдні яна роўна свяцілася блакітнымі зыркімі промнямі. Хвілінаў дзесяць такое было, а потым бэзавае сплыло, а зоркі вярнуліся на свае месцы, праступілі на звычайным чорна-сінім небе.

Відовішча яе не напалохала, наадварот, на душы зрабілася лёгка-лёгка, як бывала некалі аж у маленстве.

Прыязджае Зоя рэдка, мо раз на пяць гадоў, як і ўсе “адсяленцы” – на Радаўніцу. І кожны раз апынаецца ў маладосці. І не сказаць жа, што ў весялосць трапляе, дзе там... На могілках сустрэчы нярадасныя, не вясёлыя. Там усе, хто прыехаў, не толькі бацькоў пахавалі – сваё жыццё мінулае прыкапалі слоем атручанага атамам пясочку. Цяпер бывае з цяжкасцю пазнаюць адна адну пажылыя кабеты – былыя школьныя сяброўкі. Гэтым разам Зоя, нават, сваё першае каханне – Віцьку Брацуна, не пазнала. Доўга пазіралa на стараватага дзецюка са спітым азызлым тварам, і не пазнавала. А Віцька здалёк утаропіўся быў на яе, нібыта пазнаў, але не падышоў, а толькі з вінаватай усмешкай па-блюзнерску падміргнуў прыплюшчаным вокам і адвярнуўся. Што з ім? Галька, лепшая школьная сяброўка, распавяла, што Віцька за нешта сядзеў у турме, а што ён, дзе ён зараз, яна сама не ведае. Зоя і не дапытвалася. Ні пры чым да яе, *маладой*, быў гэты пажылы чужы чалавек.

Зноў адбылося раздваенне ў часе і прасторы. У ёй два чалавекі сядзіць. Два дні яна на радзіме раздвоеная хадзіла. І ўжо назад вяртаецца, а раздваенне гэтае не праходзіць. Яна нават не ведае, як правільна казаць: з дому яна едзе ці дадому? Бо з дому, з дому ж! Але й... дадому. У Забораўцы дом яе зараз, за Мінскам...

Зоя ніяк не даўмеецца, што ўжо яна бабуля, двое ўнукаў мае. Хоць, праўда, унукі цесненька да душы прытуліліся, вось і зараз нібыта едуць з бабуляй у “маршрутцы” па гомельскай шашы, але яна й сама маладзенькая, амаль дзяўчынка, і салодкія хвалі маладых успамінаў накатваюць на звыклую горыч пражытага.

Злева за акном лёгенька, нібы вальсуючы, падплываў насустрач белы святочны бярэзнік у светла-зялёным марыве майскай лістоты. Жоўтыя на прасвет вясновыя хмаркі набеглі на заходнюю палову неба і па вокнах “маршруткі” зашапацеў дожджык. Нагрэты сонцам дарожны асфальт наперадзе пацямнеў ад вільгаці і закурыўся туманам. Яна раптам успомніла, як тады, сто гадоў таму, у дачарнобыльскую шчэ пару, цалаваліся з Віцькам у такім вось бярозавым гаёчку на беразе Брагінкі. Успомніла, і ажно сэрца застукала, а пад грудзьмі закалыхалася хвалямі цёплае мора. Нічога сур’ёзнага з Віцькам у яе не было, напрыканцы школы Віцька падмеўся з танцаў правесці. Ды потым яшчэ колькі спатканняў было з пацалункамі. Пасля школы з’ехала яна ў Гомель на вучобу, і ўсё скончылася само сабой.

А вось жа ўзгадалася...

“Ай, тут у нас клімат такі, – засаромелася свайго ўспаміну Зоя. – Вясна была, што тут казаць...”

## 2.

Аляксей Пятровіч азірнуўся назад, не ўбачыў ніводной жывой душы, падабраў з рэменя пад паху сумку і прыпусціў бежкі па правулку. Намеціў сабе роўна тры пралёты паміж ліхтарнымі слупамі, але ў канцы другога пралёту, за глухімі платамі двароў, на розныя лады забрахалі сабакі, і ён перайшоў на крок. З весніц наперадзе выйшаў пажылы мужчына ў цыратавым фартуху, з вялікім гаечным ключом у руцэ.

“Добра ў горадзе жыць. Ні цябе ніхто не ведае, ні ты нікога – рабі што хочаш!” – легкадумна разважыў, аж засмяяўся, Аляксей Пятровіч.

– Здрасце! – павітаўся ён з мужчынам. Той адказаў маўклівым падазроным позіркам і схаваўся ў двары.

Аляксей Пятровіч валяў дурня. Не таму, што быў легкадумны ці малады. Яму далёка за пяцьдзясят, і ён быў меланхолік – сусветны смутак часцяком падступаў да грудзей. Але сёння яму *гэтак* хацелася. Ён не мог зразумець, што з ім такое! Тры дні ўжо доўжыцца гэта, як прыехаў *дадому* –так і здурнеў.

Бадзёрая энергія падпірала знутры, прасілася вонкі праз рухі, весялосць і несамавітыя паводзіны. Ён і пабег, каб выпусціць яе лішак.

Энергія наплывае хвалямі. Накоціцца хваля – тады прыходзіць вясёлы роздум. Нават лёгкія мары ўсплываюць. Або, вось, як зараз, на блюзнерства цягне. Затоіцца хваля – хочацца плакаць. Ён не ведае, чаму. У яго няма асаблівай прычыны смяяцца, няма й падставы для слёз. Пабыў, вось, дома на Радуніцу, з сястрой пабачыўся, з забытымі знаёмцамі пасустракаўся... Сумам, вядома, надыхаўся, але гэты сум прывычны, *свойскі*.

На могілках у яго бацька, маці... І Яна.

Гэта праз яе ён не быў дома дваццаць гадоў. Ці помсціў ці крыўдаваў – сам не ведаў, не мог разабраць.

Яна яму здрадзіла, пайшла замуж, як ён на Балтыйскім флоце служыў. А потым узяла й памерла. Двойчы здрадзіла...

Усю тую духмяную ноч перад яго ад’ездам у армію прасядзелі яны на лавачцы пад бэзавым кустом – мілаваліся. Яна не клялася ў вернасці, а толькі ціхенька плакала ды цалавала гарачымі вуснамі. У яго замірала сэрца ад шчасця, ад упэўненасці ў ёй і ад свайго... *іхняга* вечнага кахання.

На службе ён быў звар’яцеў, як даведаўся пра яе вяселле – ноччу на вахце хацеў скочыць з катэра за борт, але мічман Луба не даў. Ухапіў кашчавай рукой без мізінца за каўнер бушлата, паваліў на палубу і збіў нагамі пад рэбры да паўсмерці.

З дэмбеля ён, як які франтавік з ваеннага фільма, тайна ўвечары пракраўся ў хату да бацькоў, таго-сяго ім нахлусіў і поначы сышоў па брукаванай шашы, нічога нецямячы ад гневу і мілосці. Не мог Яе бачыць і не мог выкінуць з галавы і сэрца. Сябры звабілі на працу ў Сібір, і ён толькі двойчы вяртаўся – на пахаванні бацькоў. А потым, як пачуў пра яе смерць, зусім зарокся радзімы.

Так Яна атруціла яго, што ў сэрцы зрабілася карава і суха, і ён ужо раўнадушна ўспамінаў сваю вёску, і не ехаў, не ехаў, не ехаў...

І хоць бы што! Цэлых дваццаць гадоў не быў дома. А гэтым разам, быццам які колішні царскі салдат,вярнуўся. Наважыўся, прыкаціў...

Нічога страшнага, наадварот, пабыў на родных могілках і як акрыяў. Пастаяў ля магіл, а потым выйшаў за агароджу і пабрыў па полі з сухімі вачамі. Вясёлая энергія ў ім не дазволіла б яму плакаць, калі б і захацеў. Ішоў па пустой сцежцы ў пустым пясчаным наддняпроўскім полі і ўголас дэкламаваў:

Не стану плакаць,
што за плячыма
мая айчына і круг сяброў,
Што ўжо ніколі больш
перад вачыма
яна не ўстане, мая любоў.

Ён напамяць ведаў гэты верш грузіна Бараташвілі, запомніў з тых часоў яшчэ, як служыў. Той самы мічман Луба, пасля таго скрушнага здарэння, даў на чытанне беларускі часопіс. Адкуль на балтыйскім ваенным катэры беларускі часопіс? Луба і сам беларус. І самы загадкавы мічман у свеце. Дзе ён зараз, ягоны збавіцель, ці жывы? Наўрад.

Дыхалася вольна, сумавалася... радасна.

Дзе ноч агорне,
хай там разбудзяць,
хай там і будзе
мой родны кут.
О, калі б зорачцы той пуцяводнай
сказаць прычыну маіх пакут!

Яе магілка з мармуровым крыжом стаяла наўскос ад аградкі яго бацькоў. Ён здзіўляўся вось чаму: прайшло ж... многа год прайшло, а магіла была як новенькая, *пясчаная*. А наўкол жа цесненька туліліся старыя, утравелыя!

Пакуты сэрца –
ужо астылы
кахання вугаль ці папялок –
Даверу хвалям,
і ты, двухкрылы,
нясі на ўзмор'е іх
із-пад аблок.

Раптам з-пад ног выпырхнула чародка нейкіх дробных птушачак і рассеялася па нясмеламу яшчэ травяному зяленіву.

Вось ён і сам, нібы той конь крылаты, ляціць, як апраметны, па полю, і горка яму, і весела!

Рвіся ж, мой коню, толькі наперад
і пра спачын не гадай;
Чорныя думы мае і мой смутак
буйнаму ветру аддай.

А чорных думак і не было. Ён магілцы не *паверыў*. Наадварот. Там, на далёкай чужыне, быў зміры́ўся, спакойна размаўляў з Ёю *памёрлай*, а тут, як прачытаў на надмагіллі мілае імя і прозвішча – засумняваўся.

...Таму, калі ўбачыў Яе жывую, ехаўшы назад, у Гомелі, зусім не здзівіўся.

Родны кут нічым асабліва не прыласціў. Старыя сябры – хто памёр, хто пастарэў так, што нічога свайго роднага маладога ў ім было не ўгадаць, іншыя нават палохалі гэтай сваёй непазнавальнасцю, асабліва жанчыны. Адно пустая бацькоўская хата прыняла душу ў свае цёплыя абдымкі, ды і то, пахі, якія ішлі ад сцен, печы, падлогі мала нагадвалі пра тату з мамай.

Да мінскага цягніка было яшчэ тры гадзіны, і ён вырашыў пагуляць па горадзе. Паклаў у ячэйку свой халасцяцкі рукзачок і з пустымі рукамі хадзіў, пасвістваў, як хлопец, па вясенніх вуліцах, на дзяўчат пазіраючы. Такі дурны настрой у яго быў.

“Дурань стары! Настаўнік... Убачылі б зараз вучні!”

Дражніліся б:

– Аляксей Пятровіч, свістаць нельга, грошай не будзе! – І смяшлівым гуртам пабеглі б, нібы ўцякаючы.

Успомніўшы дзятву, сам сабе заўсміхаўся. Вучні яго любілі і паважалі, бо ён дазваляў ім такія вось жартачкі над сабою.

Ён убачыў Яе ў парку над Сожам. Крокаў за сто наперадзе па пандусе перад палацам графа Паскевіча яна ішла прагулачнай хадою і вольна размахвала сумкай з чырвонымі пеўнікамі. Хацеў пагукаць, і не пасілеў – у горле нешта захрасла. Памкнуўся бегчы – і ўспомніў. Яна не захоча! Яна ж...

Успомніў і надзіва хутка і лёгка змірыўся.

## 3.

Мінскі цягнік адыходзіў позна, а дванаццатай гадзіне ночы. Было вольных болей за чатыры гадзіны. Але яна нікуды не спяшала, яшчэ й рада была “гэтаму святу”. Паклала ў ячэйку сумку, скрутак, паздымала з ног асеннія боты, набрала код на ячэйцы – год свайго нараджэння – і ў купленых у Брагінскім універмагу туфліках з адной сваёй любімай сумачкай з чырвонымі пеўнікамі пайшла сабе гуляць па вясеннім Гомелі. Нетаропка ішла па галоўным праспекце і як збоку дзівілася сваёй незалежнай самавітасці. Па тратуары крочыла не вясковая кабета, з нябачным грузам неадступных жаночых клопатаў; не таропкая, заўсёды ўвішная “бабуля Зоя”; нават не дзяцінaя маці крочыла. Ішла і ела пламбір, і разглядвала вітрыны, і размахвала сумкай з чырвонымі пеўнямі разняволеная маладая дзяўчына, якаясь студэнтачка ці, нават, старшакласніца.

“Во, даю! – адкрыта, не тоечыся мінакоў, заўсміхалася Зоя свайму такому “хуліганству”. І спахапілася, схавала ўсмешку, пастражэла тварам.

“Яшчэ прычэпіцца які-небудзь...”

І зноў засмяялася, уявіла, як ідзе пад ручку па гомельскай вуліцы з чубатым белагаловым хлопцам. Вось яна ідзе з ім пад ручку. А насустрач дачушка Волечка:

– Мама, ты што-о!

“От сораму б набралася!” – засмяялася са сваёй фантазіі Зоя.

А хадзіла ж... Адразу, як паступіла, у тэхнікуме да яе і падкаціў белагаловы чубаты аднакурснік Вася. Ну, схадзілі ў кіно, пагулялі дапазна... Ён палез з абдымкамі. Але цнатлівая дзяўчынка Зойка з палескай вёскі спалохалася, што гэтак *у Гомлі* можна “і да абы чаго дакаціцца”, і адлучыла ад сябе смелага чубара. Як той ні дамагаўся – яна ні ў якую! Адстаў...

А можа, не таму, што палеская, што з вёскі. Не надта й падабаўся ёй той Вася. Калі б падабаўся, можа, й дазволіла б яму штосьці вальнейшае. Дазволіла ж потым Раману! Ды што – дазволіла... Сама галаву страціла! На трэцім жа спатканні яны з Раманам... Ай, што ўспамінаць!

Зоя прайшлася скрозь па праспекце пёхам аж да парку. Паназірала, як плаваюць-кахаюцца белыя лебедзі ў запруджаным рове з казачным домікам, прайшла па шырокім пандусе пад сценамі графскага палаца, міма царквы, у якой калісь месціўся планетарый. Успомніла: іх, навучэнцаў будаўнічага тэхнікума, вадзілі туды на экскурсію. Ні-ча-гу-senькі са слоў лектаркі яна тады не зразумела, але была ўражаная штучным зорным небам, якое падалося ёй глыбейшым за сапраўднае.

Да чыгуначнага вакзала вярталася ўжо на тралейбусе, хоць планавала пёхам і назад вяртацца. Але адчувальна занылі ногі ад стомы.

“Іч, сямнаццатка, разбегалася”, – пасмяялася яна з сябе і села ў тралейбус.

На вакзале падсілкавалася бутэрбродам, купленым у буфеце. У сумцы было што і свайго з’есці. Хлеб быў і сальца было, і варанае яйка фарбаванае – з Радуніцы ж. І апетыт разгуляўся, як у дзяўчынкі. Але ў сумку не палезла, пасаромелася.

“Якая дзяўчына стане есці на людзях *сваё*!” – падумалася Зоі.

Сур’ёзна падумалася, без усялякай іроніі. Яна ўвайшла ў ролю. Не, яна не здурнела, не забылася пра сябе *сапраўдную*. Пра гады свае помніла, пра дзяцей з унукамі помніла, пра мужа-нябожчыка не забывалася. Але адчуванне несамавітай маладой лёгкасці не пакідала яе.

“Іч, раздухарылася баба!” – паспрабавала вярнуцца да прывычнага сялянскага гумару Зоя. Так жартавалі б яе забораўскія таваркі, суседкі па вуліцы, калі б пабачылі, *што* тут з ёю робіцца.

“Гэта, мо, радыяцыя так дзейнічае. Адвыкла, а калі малая доза, дык, кажуць, можа, наадварот, – лечыць”.

Канечне, не радыяцыя. Нешта сваё, тутэйшае, роднае і таемнае заўжды мацавала яе па прыездзе дамоў. Але гэтым разам з ёю рабілася нешта зусім незвычайнае! Яна адчувала гэта падэшвамі ног. Мо зорка тая нябесная сурочыла?

“Нічога, вярнуся ў Забораўку – куды што й дзенецца”.

– Пасунься трошку, дачушка, – вывеў яе з думак мужчынскі голас. Зоя схамянулася, хуценька падскочыла і перасела на канец лавы. І ўжо потым пацікавілася, хто гэта яе турбуе.

Пажылы вусаты мужчына ў капелюшы па чарзе падымаў з падлогі і ставіў на лаву вялізны чамадан, перавязаную вяроўчынай кардонную каробку, потым набітую нечым, закручаным у газетную паперу, авоську і важчэнную сумку. У цэлым, мужык быў апрануты па-гарадскому, толькі штаніны былі запраўлены ў керзавыя боты.

– Ты, ета... Прабачай, дачушка, – узгрувасціўся нарэшце паміж Зояй і багажом мужык. – Эта ж от, ік дачцэ еду, – чамусьці паказаў ён рукою на пакункі. – К унукам, – дадаў пасля паўзы, і засмяяўся. – Трое ўнукаў маіх у яе... Тоесь, яеных дзяцей...

Мужык дапытліва, вочы ў вочы, паўзіраўся на Зою.

– А сама замужняя ці як?

– Не паспела яшчэ, дзядзька, – пажартавала Зоя. Бо і ён жа, відаць, жартаваў. Не ўсур’ёз жа казаў на яе “дачушка”.

“Гадоў на пяць за мяне будзе старэйшы”, – прыкінула яна.

Але, відаць, дзядзька і не думаў жартаваць.

– А-а, ну хай сабе, хай сабе. Ваша дзела маладое, – згадзіўся з нечым ён. Пасоўгаўся задам па лаве, зручней ладкуючыся, і заплюснуўся, нібы драмаць сабраўся.

“Во, дзівак. І адкуль едзе, куды?”

– У Мігілёў еду, – не расплюшчваючы вачэй, прамармытаў мужык. – У Мігілёве яны жывуць...

Зоя і ўвагі не звярнула на тое, што дзядзька прачытаў яе думкі.

“Ён што, сляпы? – дзівілася і абуралася яна. – Дачушку знайшоў!”

Зрэшты, не надта яна й дзівілася, не так ужо й абуралася. Галавою разумела, што амаль равесніца гэтаму вахлаку ў керзачах. А ўсім астатнім, што ў сабе мела, усім сваім *дзявочым* нутром ані не пярэчыла яму *даросламу*. Вось жа падскочыла была з лавы перад ім, як непаўналетняя!

Дзядзька, здавалася, канчаткова заснуў, нават падхрапваў. У галаву палезлі бязладныя думкі пра мінулае жыццё. І ўсе з выклікам, з нейкім пратэстам.

“Калі б не Раман – была б зараз вучоная, прарабам бы якім рабіла, а не даглядчыцай на ферме, ці, во, як цяпер, тэхнічкай у школе”, – з крыўдай на Рамана думала яна.

Ужо як яна зацяжарала, было не да вучобы, з’ехала назад у вёску да бацькоў...

“А то б тэхнікум скончыла, у які б інстытут убілася. А што? – падумалася дзёрзка. – У школе нічога сабе вучылася”.

Калі б не Раман, то хто ведае... Пасля яго другі раз замужам не была. Спа-

чатку сама не хацела, потым не было за каго, потым не было калі, а тады, як агледзелася, – дык ужо баба старая!

– О, Васілеўна! Гэта вы? – пачула аднекуль Зоя і заазіралася. Голас быў знаёмы, свойскі, – хто гэта тут? У слаба асветленай зале сноўдала, гаманіла, спяшалася, шоргала нагамі шматлікая дарожная заклапочаная публіка, і не адразу позірк знайшоў спачатку постаць, а потым і ўсмешку Аляксея Пятровіча Данілюка.

“Ён? Тут? У Гомлі?” – яна здзівілася, амаль спужалася. Яе ўразіла не тое, што на зваротнай дарозе з радзімы, ноччу на гомельскім чыгуначным вакзале, сярод дарожнага люду бачыць Аляксея Пятровіча, настаўніка з забораўскай школы; што ён сам пазнаў і паклікаў яе. Непрыемна занепакоіла тое, што ён быў... з Забораўкі! Кожны *з Забораўкі*, хто б ён ні быў, напружыў бы яе не менш. Бо не стасаваліся жывыя сведкі яе сапраўднага забораўскага жыцця з сённяшнім несапраўдным, мройлівым, чароўна-казачным і крышачку грэшным станам яе душы.

– О, Пятровіч! Вы? – ягонымі словамі адгукнулася яму Зоя.

– Што вы тут робіце? – шумна і весела здзіўляўся настаўнік.

– А вы? – у тон яму адказвала Зоя. Таксама весела.

– Я? – смешна паказаў на сябе Аляксей Пятровіч. – Дык я ж тут вырас! Не ў Гомлі, канечне, а ў Лоеве... Нават і не ў Лоеве, а ў вёсцы каля яго! – з камічным гонарам пахваліўся ён.

– А я з Брагіна! – гэтак жа дурасліва адказала Зоя.

– Вы? З Брагіна? – быццам не паверыў Аляксей Пятровіч. Вочы яго смяяліся.

– Ну, не з самога... З вёскі каля Брагіна.

– Выходзіць, зямлячка?

– Выходзіць так.

Зоя сама не ведала, чаму размаўляе з настаўнікам – быццам какетнічае. У Забораўцы такога сабе не дазволіла б, ды і з якой нагоды...

“Дык то – у Забораўцы!”

У Забораўцы яны ўсяго толькі знаёмцы, а тут, бач, – землякі!

Тая першая спалоханая асцярога, што гэты аднекуль узніклы пажылы чалавек з Забораўкі дачасна разб*у*рыць яе, вернутую родным краем, маладосць, – рассеялася, знікла, прапала. Наадварот, у гэтым раней чужаватым настаўніку (як жа, яна простая тэхнічка, а ён настаўнік!) Зоя адчула родную душу, нават змоўшчыка. Нібы іх палескае зямляцтва было пяшчотнай таямніцаю, якую ім абодвум трэба хаваць ад астатняга свету. У гэтым было нават нешта *інтымнае*.

Штосьці здарылася ў вачах Зоі і з самім Аляксеем Пятровічам. З маладжавага мужчыны пенсійнага ўзросту ён ператварыўся ў маладога чарнявага дзецюка, амаль хлопца. Праўда, з пасівелымі скронямі. Па яе *сённяшніх* гадах ён быў ёй роўня! Гэтая ў ім перамена пацвярджала, узаконьвала, рабіла пэўнаю і перамену, якую адчувала яна ў сабе. Яго жарцікі, лёгкія жэсты рукамі, несамавіты смех яшчэ больш узбуджалі і ў ёй маладую несамавітасць. Нават тое, што ён незаўважна перайшоў з ёю “на ты”, цешыла яе гарэзлівую дзявочасць.

– Ты ў якім вагоне едзеш? – прыцішана спытаў Аляксеей Пятровіч, як пра нейкі страшны сакрэт, нават галавою прыхіліўся да Зоі.

– У сёмым, – таксама ціхенька адказала яна.

– Не можа быць! – спалохана акругліўшы вочы прашаптаў настаўнік.

– Чаму? – спалохалася і яна.

– Я таксама ў сёмым! – раптам зайшоўся ён гучным смехам.

Зоя не разумела, чаму ён спалохаўся, чаму кругліў вочы, чаму засмяяўся, не разумела, у чым тут гумар, але чамусь ахвотна падхапіла яго гульню, і яны смяяліся разам, ківаючы адзін на аднаго.

Дзядзька ўжо прачнуўся і пазіраў на іх з паблажлівым здзіўленнем.

– От, маладзёж! – ці то дакорліва, ці то ўхвальна крутнуў ён галавою. – На поезд не апаздайця.

Дзядзькава рэпліка насмяшыла яшчэ больш, яны смяліся, не ведаючы прычыны таго смеху, смяяліся без глузду, проста так.

Па гугнявым гулкім радыё аб'явілі цягнік на Мінск, і яны праз вузкі гомельскі тунэль пайшлі на пасадку.

У вагоне Аляксей Пятровіч угаварыў Зоіну суседку памяняцца з ім месцамі. Тая, незадаволена скрывіла вусны, моўчкі падхапіла з падлогі сумку і паплялася ў другі канец вагона да прапанаванага ёй крэсла.

Поезд крануўся, плаўна заківалася, закалыхалася чэрава вагона, у вокнах паплылі агні начнога вакзала.

– Ну вось, паехалі, – мірным і ўжо нейкім сумным голасам прамовіў Аляксей Пятровіч.

– Паехалі, – шэптам згадзілася Зоя, скоса зірнула на яго і ўбачыла стомленага, са смуткам у вачах, чалавека. Такім яна і ведала яго там, у Забораўцы.

Маўчалі.

Насланнё, якое спакваля пачалося яшчэ ў Брагіне і завалодала ёю на гомельскіх вуліцах, – пачало марнець, меншыцца, саступаць *нармальнаму* розуму. Але не знікала. А яна й не хацела пазбаўляцца ад свайго прывіднага шчасця, падараванага ёй розумам зрушаным і п'янаватым. Не хацела, каб гэты просты, вясёлы, *свой* мужчынка ператварыўся ў чужога настаўніка, а яна ў школьную тэхнічку Зою. Зою Васілеўну, як, здаралася, звяртаўся ён да яе там, у Забораўцы. На "*Вы*". Яна павярнулася да яго ўсім тулавам, дакранулася рукой да яго рукі.

– Аляксей Пятровіч, – ціха, нібы здалёк, паклікала. Бо ўвесь ён быў у задуменні, здавалася, забыўся пра яе. – А вы... – пачала яна і раптам зразумела, што не ведае, што хацела сказаць. Ды ці й хацела? Яна ж павярнулася да яго імпульсіўна, спалохаўшыся *праўды*. Бо ёй падалося, што толькі разам з ім, удвух яны могуць яшчэ крыху пабыць у шчаслівым гіпнозе. Ён жа таксама быў яшчэ нейкі *не такі*, яна ж бачыла! – А... А калі мы будзем у Мінску? – знайшлася яна.

– У Мінску? – ён вярнуўся з задумення. – Каля пяці-шасці... не ведаю. Карацей, рана будзем, – зноў заўсміхаўся ён весела, як тады на вакзале. Смяяўся і паглядаў на яе, як ужо пачало здавацца Зоі, закаханымі вачамі. Яна смяялася разам з ім, зноў не ведаючы, чаму.

Потым крыху размаўлялі пра тое-сёе з забораўскага жыцця. Так, ні пра што, абы гаварыць. Гаворка збяднела, сышла на нішто, і яны пазаціхалі. Калі праехалі Жлобін, пачала насоўвацца начная дрымота. Зоі ўтульна было сядзець побач з гэтым дзіваком, хацелася ехаць і ехаць, і драмаць, і ні пра што не думаць, і адчуваць побач яго цеплыню.

"Калі б ён мяне зараз пацалаваў, што б я рабіла?" – гарэзліва падумалася ёй нечуванае, забароненае. Як можна было падумаць такое *пра яго*! Але яна не збянтэжылася, не засаромелася, ведала ўжо, што гэта не яна падумала – яе ажыўшая дурная маладосць. "Маладому з маладою маладое ў галаве", – успомніла яна і хмыкнула.

– З мяне смяешся? – страпянуўся яе спадарожнік.

– Ой не, што вы! – спалохалася яна.

– А я смяюся, – сур'ёзна сказаў ён, і зноў у яго голасе ёй пачуўся сум.

– Смейцесь на здароўе, смех не грэх, – сказала яна – нібы суцешыла.

– Праўда?

– А няўжэ ж! – ужыла яна палескае слоўка. Ён доўгім вывучальным позіркам агледзеў яе ўсю.

– Якая *ты* ў мяне...

– Паспіце, Аляксей Пятровіч, – перабіла яго Зоя, хаваючы сарамлівасць і нейкую неразумную сваю замілаваную радасць. – Чаму б нам не паспаць?

Яна наўмысна сказала “нам”, каб пасмакаваць гэтае злучальнае слова. Бо “нам паспаць” гучала грэшна і соладка. Ёй хацелася граху і асалоды. Таму што так разнявольваў яе гэты *незнаёмы* выпадковы спадарожнік.

...Таму што поезд няўмольна вёз яе ў край наканаванай стрыманасці, да ціхамірнага ўдовага жыцця, туды, дзе яна мусіць будзе сустрэцца са старасцю.

І няхай сабе, тады тое й будзе. А *тут*, пакуль што, яна... жанчына.

“Чаму гэта, пакуль што! – абурылася ў ёй уся яе жаночая сутнасць. – Я й так, без гэтай дурной дарожнай прыгоды, яшчэ не старая! Я яшчэ, калі б захацела... Вунь жа, прасіўся летась у прымакі Толік брыгадзір! Адмовіла, дурніца. А жыла б за ім не горш за іншых. Ну й што, што п’е...” Яна спаймала сябе на тым, што зноў незнарок убілася думкамі ў будзённае сваё забораўскае. Прэч, прэч! Да Забораўкі яшчэ далёка. Скасавурылася на спадарожніка – ці не пачуў маркотных яе разважанняў? Той пагойдваўся разам з калыханнем вагона, прыплюснуўшы вочы. Відаць, паслухаўся яе, заснуў.

“Паслухмяны”, – з усмешлівай пяшчотай паглядзела на яго Зоя і таксама заплюснулася.

І без таго змрочнае святло ў вагоне патухла зусім. Толькі зрэдку ліхтары на паўстанках наскрозь пранізвалі вагон – яна бачыла іх мільгатлівае святло праз заплюснутыя павекі. Вагон гайданула на стрэлках чарговай мімалётнай станцыі, і яго сонная галава апусцілася ёй на плячо. Яна сцялася ад неспадзяванкі, не адвяла пляча. Ён заварушыўся, шукаючы зручнейшага становішча целу, перасмыкнуў плячамі і спрасоння пачаў уладкоўваць сваю руку паміж яе спіною і спінкай сядзення. Зоя аўтаматычна нахілілася крыху наперад, даючы ходу яго руцэ. А ён яшчэ цясней прыціснуўся, абхапіў рукой за талію.

Зоя замёрла. “Наўмысна ён ці незнарок”, – напружана думала-гадала яна і не смела заварушыцца. Было і ўтульна, і трывожна. Што, калі ён сонны і не ведае, што робіць? Прачнецца – абодвум сорамна будзе.

– Аляксей Пятровіч, Аляксей Пя-тро-віч, – прашаптала яму на вуха Зоя. – Сядзьце правільна!

Ён адхінуўся, выпрастаўся, адкрыў вочы, але рукі не адымаў. Страсянуў галавою, прытомнеючы, угледзеўся і раптам ашчапіў яе галаву дзвюма рукамі і ўпіўся вуснамі ў яе вусны. Не дакрануўся, не прыпаў – упіўся!

“Ён... якое права... гарачы... пусціце... было... даўно... сорамна... людзі... няхай... няхай...” – узвіхрыліся, пранесліся вірлівай плынню бязладныя думкі-пачуцці ў Зоінай галаве, і яна, адчайна губляючы сябе ў гарачай мітусні абрывачных успамінаў, пачуццёвых карцінак, пратэсту і сумненняў, змушана адказала яму сваімі вуснамі.

Цягнік расхадзіўся на ўсю сілу. Вагон калыхала, гайдала, матляла, паторгвала. Калі б у вагоне гарэла святло – усё роўна іх бы ніхто не бачыў. Гэта быў вагон сядзячых месцаў, абсталяваны мяккімі крэсламі, павернутымі ў напрамку па ходу поезда. Яны сядзелі на апошніх месцах, каля ўваходу з тамбура, і бачылі перад сабой вузкі праход, які губляўся ў цемры, і высокія спінкі крэслаў.

## 4.

Ён дзівіўся са сваёй смеласці. Ды й не смеласці, бадай. Пажыццёвы стары халасцяк Алёша Данілюк і ў маладосці не губляўся перад жанчынамі.

Яго бянтэжыла ўласнае нахабства.

Смеласць і нахабства – розныя рэчы! Жанчыны... Ён быў з імі смелы, часам настойлівы, здаралася, нават, напірысты. Але *далікатна* смелы, *ласкава* настойлівы,

яго напорыстасць, калі да якой заляцаўся, заключалася хіба што ў прадпрымальнасці ды дасціпнасці. Можа, калі й хітраваты быў ён з імі, ды ніколі – нахабны. Сам грэбаваў нахабнікамі, гідзіўся іх.

А тут жа... Кабета адна ў вялікім горадзе, сустрэла знаёмага аднавяскоўца... Узрадавалася, даверылася. А ён з пацалункамі!

“Фф-ф!” – выдыхнуў ён з грудзей задушлівую хвалю сораму. Пажылыя салідныя людзі, у яе ўнукі, у яго скроні сівыя, у вёсцы настаўнікам, аўтарытэт... Яна паважае, давярае, а ён... Яна й адказала яму з павагі ды ад нечаканасці!

Пасля яго праступку абое адхінуліся, паселі роўненька ў сваіх крэслах і, як нашкодзіўшыя школьнікі, не пазіралі адзін на аднаго.

“Мусіць, сядзіць і думае: што гэта было?! – саромеўся ён. – Хіба яна магла чакаць?”

Не павярнаючы галавы, асцярожна, каб не заўважыла, бакавым зрокам зірнуў на яе. І стала відно: магла!

На яе твары ў профіль, у кароткім пробліску ліхтара на нейкім пераездзе, выразна выхапілася мройлівая ўсмешка.

“Не гневаецца, не абураецца...”

І тады, адчуўшы палёгку, у новым прыступе дзёрзкасці, трошкі яшчэ баючыся, ён узяў яе руку ў сваю. Яна не адхапіла рукі, адказала кароткім прывітальным поціскам. Ручка была маленькая, сухая, гарачая і дужая.

– Не крыўдзішся? – прагаварыў ёй на вуха.

– Яшчэ чаго! – адказала яна і жартаўліва торкнула яго кулачком у бок. Відаць, адчула, што залішне ўжо фамільярнічае, збянтэжылася і засмяялася ад няёмкасці. Ён таксама засмяяўся. Спачатку, як і яна, – у замяшанні, ад ветлівасці, потым, па-змоўніцку, ад узаемаразумення і лучнасці.

Над спінкай пярэдняга перад імі крэсла ўзнялася мужчынская галава ў капелюшы, паўглядалася міргаючы, прамовіла: “А-а, маладзёж...” – і знікла.

Яны пазналі таго дзядзьку з гомельскага вакзала. Як ён там апынуўся? Калі?

– Дзядзька, ты ж казаў, табе ў Магілёў, – азвалася Зоя. Вусатая галава зноў узнялася над сядзеннем.

– Ну, у Мігілёў. Дак цераз Мінск жа! – і зноў прапала.

Зоя прытулілася шчакою, прашаптала:

– У Магілёў жа з Гомля прамы поезд ходзіць! Цераз гэты... Доўск, я ездзіла.

– У Магілёў цераз Доўск. У *Мігілёў* – не, у *Мігілёў* цераз Мінск. – Яны зноў пырснулі смехам.

## 5.

Аляксей Пятровіч Данілюк упершыню ў сваім жыцці не ведаў, як сябе паводзіць з жанчынай. Увесь багаты досвед пажыццёвага халасцяка і лавеласа патрабаваў працягу і *развіцця*. Але той сумнеўны вопыт застаўся недзе ў далёкім-далёкім мінулым, ён ужо й забыўся, калі тое было... Апошняе каханне ці, лепш сказаць, “каханнейка”, недарэчнае і, бадай, няшчырае, скончылася балюча, амаль трагічна, і ён, – так атрымалася, – паматляўшыся па “вялікіх будоўлях” Сібіры, наспытаўшыся прафесій і спецыяльнасцей, напрацаваўшыся і набамжаваўшыся, асеў, нарэшце, у Забораўцы, у непарушным статусе бабыля. “Не п’е, не курыць, да баб не ходзіць”, – гэта пра яго. “Стары настаўнік”, – так ужо даўно кажуць пра яго вяскоўцы. Ключавое слова тут “стары”, хоць напачатку жаночая палова прыглядалася было да яго, як да проста настаўніка, “нічога сабе мужчыну”. У яго нават два кароткія забароненыя раманы былі з замужнімі настаўніцамі. Дык то калі было, яны ў зморшчаных бабульператварыліся. Вось і ён... Неяк незаўважна перайшоў у лагер “старых”, незаўважна і бязбольна, нават з прыем-

ным супакаеннем. “Стаптаўся”, – у думках пасмейваўся з сябе. Але сёння... Што здарылася сёння? Гэтая Зоя, – ён даўно з прыемнасцю паглядаў на яе пры сустрэчах у школьным калідоры. “У маладосці, мабыць, была сімпатычная”. Яна і зараз падабалася яму выглядам – валасамі чарнявая, фігурка з тонкай, як у дзяўчыны, таліяй і шырокая ў клубах; прамы востранькі носік, чорныя, заўсёды нейкія смяшлівыя вочы, а галоўнае, падбародачак. Ён у яе выступае крышачку наперад, дапаўняючы цікаўны выраз чорных вачэй, выдае нейкую вясёлую задзірыстасць і выклік. Калі б не паспелая скура на твары, не зморшчынкі ля вачэй і вуснаў – па фігуры маладзіца ў самым саку. Ды што маладзіца – дзеўка. Яму, знатаку і аматару жаноцкай вабнасці, прыемна было паглядаць. Ён і паглядаў, але грэшных думак і блізка не меў.

А сёння, у гэтым цягніку, у яго зрок памяняўся. Або розум. Вачмі ж не аслеп, разбірае і зморшчыны, і ўсе іншыя пазнакі ўзросту. Вачамі бачыць. Але *не заўважае*. Суцэльнае вядзьмарства. Яна, вядома, маладзейшая, але не настолькі, каб так ад яе ачамярэць.

Ён не такі наіўны, каб не разумець, што справа не ў ёй.

Сівізна ў бараду – чорт у рабрыну. Няўжо гэта той выпадак? Ён крадком пазірае на спадарожніцу і міжволі любуецца ёю. Не, чорт ні пры чым. Якая сівізна, калі дыхаецца вольна, рукі наліліся сілай,– так бы й падцёгся на турніку, – а ў грудзях хлапечае трымценне.

І гэтая Зоя тут ні пры чым. Ён памаладзеў яшчэ да спаткання з ёю. Яшчэ на могілках. І назаўтра, калі ехаў у Гомель, і потым, пры сустрэчы на вакзале з ёю, яго жывіла гэтая маладая сіла...

Поезд пастаяў-пастаяў у Бабруйску і з новым імпэтам разагнаўся па рэйках. Зоя спала, даверліва і сонна-бездапаможна прытуліўшы галаву да яго пляча. На процілеглым канцы вагона ў змроку ладкаваліся, ніяк не маглі паўсядацца, новыя пасажыры.

“А што, – лёгка, па-заліхвацку, з выклікам, раптам ускінуўся ён, –“какие наши годы!”

У запоўненым вагоне было душна. Яшчэ ў Гомелі яна адразу, як селі, распранулася, белы плашчык вісеў на кручку каля акна. На той жа кручок яна павесіла сваю сумачку.

“Дзе я бачыў гэтых пеўнікаў?” – рассеяна падумаў ён, выпадкова, разам са светлавым блікам, слізгануўшы позіркам па сумачцы. Але пытанне растала ў грукаце сустрэчнага таварняка.

Ціхенька, каб не разбудзіць, ён правёў даланёй па яе плячы і праз тонкую тканіну сукенкі адчуў цяпло яе цела, і здзівіўся сваёй памяці, якая не забылася *той* далёкай юнацкай пяшчоты. Ён у думках ласціў гэтую чужую, выпадковую сваю спадарожніцу, як некалі *Тую* з маладосці.

*Як тую*? Ніякіх “як” – гэта Яна і ёсць!

Распалавіненым сваім розумам ён прагна аб’ядноўваў два жаноцкія Сусветы ў адзін і быў рады, рады гэтаму свайму “раздваенню асобы”.

Жанчына ўздыхнула, паварушылася. Яна не спала! Прыкідвалася соннай і слухала яго нявінную ласку. З асалодай слухала, гэта адчувалася нават па стрыманым яе дыханні. Ён прысланіўся шчакою да яе валасоў.

– Прыйдзеш... да мяне сёння... у госці?

Яна далёка адхінулася і цёмным, як ноч, позіркам утаропілася яму ў вочы.

– А людзі?

– Прыйдзі, як сцямнее.

Яна паглядала моўчкі.

– Прыйдзеш?

– Чаго пытаецеся?

– Хачу ведаць...

– Прыйду, не бойцеся, – і адвярнулася.

Тады ён прыабняў яе, ужо не баючыся, а яна ўтульна паварушылася ў яго абдымках і надоўга сцішылася. Мабыць, напраўду заснула.

Аднойчы яму падалося, што яны нясуцца праз ноч, адны ў пустым вагоне. Але па вагонным праходзе праплылі светлавыя перакошаныя прамавугольнікі з вакон, там-сям выхопліваючы звешаныя з поручняў на праход рукі сонных людзей, і мроя знікла. Ён здзіўляўся, чаму столькі незлічоных гадоў калеў душою ў адзіноце? Як мог? *Яна* жыла побач, на адной з ім вуліцы!

## 6.

У Мінску, мабыць, сонца яшчэ не ўзышло, у брудноватым акне віднелася шэрае неба, і было цяжка зразумець: ад хмар яно шэрае ці ад ранняга, яшчэ начнога, досвітку. Насустрач падплываў перон з пасажырскім саставам на суседняй ветцы. Яны спыніліся якраз насупераk шыльды “Мінск – Масква”. На асфальце перона стаялі лужыны: ці дажджом наліло ці палівальная машына праехала, было не ясна.

Паўставалі ўжо з крэслаў людзі з разнастайнымі сумкамі, чамаданамі, торбамі, рукзакамі, з заспанымі, нічога не разумеючымі каназлівымі дзецьмі на руках і ў праходзе, нецярпліва імкнуліся ў тамбур, да выхаду.

– Не спяшы, выйдзем апошнімі, – прамовіў ёй тайным паніжаным голасам. Яна, была ўжо ўскочыла, таропка прасоўваючы рукі ў рукавы плашча, – пакорліва села.

Калі на праходзе застаўся невялікі хвост людской чаргі, пайшлі па праходзе і яны.

– Хто ж бы ета мне памог... – ні да каго не звяртаючыся прамармытаў дзядзька ззаду. Нязручна абвешаны пакункамі, прасоўваўся ён па праходзе з чамаданам перад сабой.

Яны й забыліся на яго!

– Мы, мы паможам! – з жывой гатоўнасцю адазвалася Зоя.

Яна падавала дзядзькавы манаткі зверху, з тамбура, яе “напарнік” прымаў і ставіў на зямлю. Не адрываючы вачэй ад пакункаў, дзядзька стаяў на пероне і, нібы лічыў, прыгаворваў:

– От так. От так. От так, – і, калі ўвесь ягоны багаж апынуўся ўнізе, задаволена пакруціў галавою:

– От, правільна, маладзёж! – разагнуўся, падняў вочы на памагатых, і недаверлівы цень прабег па ягоным твары. Доўга заклапочаным позіркам паглядаў ён то на Зою, то на яе спадарожніка, пакуль заклапочанасць не змянілася на нейкую зацятую падазронасць.

– Бывайце, дзядзечка! – азірнулася Зоя, як адыходзілі.

– А... Ну хай сабе, хай сабе, – разгублена прамармытаў той, а потым з нейкай насмешлівай ironіяй дадаў ужо за іх спінамі, самому сабе, –*пляменніца*!

Але яны пачулі.

– Чаго ён? – здзівілася Зоя пакрыўджана. Падняла галаву і запнулася.

На яе збянтэжана паглядаў стары забораўскі настаўнік Данілюк. Яшчэ чарнявы, але з сівымі скронямі і з патухлымі вачамі пажылы мужчына. Не той малоец, што жартаваў у Гомелі, што гадзіну таму трымаў яе ў абдымках, а гэты – з сівымі скронямі і патухлымі вачамі...

“Чаму ён збянтэжыўся?” – падумала Зоя. – Мо хустку крыва надзела?” Узяла пакунак пад паху і, папраўляючы на галаве хустку, раптам зразумела: ён убачыў *тое, што і яна*. Па аслабленых сваіх руках, па раптам прывычна занылай паясніцы зразумела, *каго* бачыць ён. Не расчаравалася, не зашкадавала, – апатыя агарнула душу: казка скончылася.

“Развіднела, дык і агледзеліся, – млява падумалася ёй. І зусім нелагічна вывела: – Мінск табе не Гомель, не той клімат”.

Да Забораўкі на аўтобусе ехаць яшчэ дзве гадзіны. З чыгуначнага вакзала да аўтастанцыі дабіраліся ў метро, ішлі пёхам. І ні слоўкам не перакінуліся. Гэтая мінская раніца сцёрла з іх твараў той малады флёр, якому паверыў вусаты дзядзька ў паўзмроку начнога вакзала там, у Гомелі. Маўчалі, як *чужыя*, нібы й не было ў іх начной прыгоды. У аўтобусе паселі на розныя сядзенні, хоць былі вольныя месцы. Не наўмысна – неяк так атрымалася. Да Зоі падсела маладая цыганка ў даўгой квяцістай спадніцы, але насуперак іхняй адвечнай цыганскай традыцыі, ні пагадаць не прасіла, ні іншага чаго – сядзела з роўнай спіною і моўчкі паглядала чорнымі, як слівы, вільготнымі вачамі ў акно.

“Прыкідваецца, – чамусь нядобра касавурылася на цыганку Зоя, – ці нешта ўкрадзе... ці вошай падпусціць!”

## 7.

Аляксей Пятровіч адчуваў тамленне ў грудзіне. Нібыта нябачная гумка абматала яго сэрца і выцягвала душу вонкі з цела. Гумка цягнулася назад, у процілеглы ад руху аўтобуса бок. Прывязаная да нечага трывалага за даляглядам, яна расцягвалася на кіламетры, і здавалася вось-вось парвецца. Перад паваротам на Забораўку яна і парвалася. Аляксей Пятровіч нават пачуў, як тоненька тынькнула. Сэрца вызвалілася ад прывязі, але палёгкі не было. Наадварот, сонечная раніца пацямнела, хоць сонца нікуды не хавалася. Пацямнела і ў душы. І паспакайнела.

Дарога яму не сцеглася, але дарожная стома ўжо давалася ў знакі. На прыпынку ў Забораўцы няёмка саступіў з прыступка на дарожны жвір і балюча патрывожыў вывіхнутую ў Якуцкай шахце шчыкалатку – памяшаў рукзачок, зачапіўся за нешта ў аўтобусных дзвярах. Нічога. Ён агледзеўся навокал. У абодва бакі вуліцы ад прыпынку разыходзіліся нешматлікія пасажыры, якія раней злезлі з аўтобуса. Пайшоў і ён. Крокаў за дваццаць паперадзе з важкаватай сумкай у адной руцэ і папяровым скруткам у другой дробненька крочыла Зоя. Не ведаючы, навошта, – паклікаў:

– Зоя!

Яна быццам не пачула.

– Зоя Васілеўна! – узвысіў ён голас.

Не спыняючы ходу, павярнула галаву.

– Што?

– Ты... – ён не ведаў, што казаць. – Давай... Давайце, сумку паднясу.

– Ай, не... Лёгка! – адмахнулася яна і яшчэ хутчэй заперабірала нагамі, нібы ўцякаючы.

Недаўменным вокам пазіраў ён услед. Аляксей Пятровіч бачыў не старую яшчэ, спраўную кабету, але не тую пяшчотную і палкую дзяўчыну, якую абдымаў.

“Хай сабе, хай сабе”, – як той вусаты дзядзька мармытаў услед Аляксей Пятровіч, ужо й забыўшыся на Зою.

Невядома адкуль назбіралася дажджу і давялося паскараць хаду. І раптам яму стала ясна, да чаго быў прывязаны другі канец той гумкі. Нават убачыў: прыадчыненыя веснічы з вуліцы ў пусты двор яго роднай хаты, утравелая сцежка ад весніц да ганку, аднастворкавыя бацькавы дзверы ў хату. Да дзвярной клямкі і была прывязаная тая гумка, якая там, у аўтобусе, парваўшыся каля яго сэрца, праляцела назад палову Беларусі і скамечаным жмуткам звалілася на ганак.

*20 верасня – 1 снежня 2017*



Уладзімер Арлоў



...гісторыя забаўляецца
нястомна хлусіць
жартуе
заходзіцца ад рогату...

# Вуліца Саламеі

***Галіцыйская балада***

***1***

на 305-й прыступцы
ратушнай вежы
тваё сэрца
пачынае любіць Львоў
радасным болем
сэрца хацела
пералічыць усе прыступкі

ты падымаўся на ліфце
на Старамесцкую ратушу ў Празе
на сабор Святога Пятра ў Рызе
на Сусветны гандлёвы цэнтр у Нью-Ёрку
апошні прыклад небездакорны

цяпер ты падняўся б на правую вежу
толькі пешкі
прынамсі на 65 паверх
там было выдавецтва
восем супрацоўнікаў
тваe *Дзесяць вякоў беларускай гісторыі*
выйшлі па-англійску
ужо ў іншым свеце

дваццаць гадоў таму
ты стаяў на даху правай вежы
Манхэтэн прымяраў
сіні пінжак вечара
унізе лёталі нью-ёркскія арлы
турыстычныя гелікоптэры
душы самагубцаў

целы самагубцаў ужо не лёталі
новы жалезны нерат
не пратараніў бы
нават гіганцкі птэрадактыль
пра самалёты ніхто не думаў

ты з’еў на 100-м паверсе *chicken*
выпіў пінту каліфарнійскага
нехта пускаў з блізкага вакна
папяровыя самалёцікі
свет навокал быў надзейны
як гэтыя вежы
як срэбны даляр поўні
як курс *$US*

унізе скача курс грыўні
галубы даследуюць рэнесанс
Венецыянскай камяніцы
леў святога Марка
марыць пра цёплы душ
ты робіш з квітка самалёцік
пішаш на ім нечае імя
дорыш самалёцік ветру

людзі што скакалі з вокнаў
11 верасня 2001-га
здалёк здаваліся самалёцікамі
самалёцікамі якія ўвайшлі ў піке
магчыма і Кэтрын з 65 паверха
ты памятаеш яе голас
голас быў фігурысты і лёгкі

як восеньскі кляновы ліст
чаму быў калі ён кружляе ў табе?

аднойчы Кэтрын спытала
чаму ў цябе левая мочка
удвая большая за яе правую сястру?
*памяць пра татавы гены*
з гонарам адказаў ты
колькі хвілін Кэтрын ляцела?

твой аэраплан
кіруецца ў Італьянскі дворык
ты заплюшчваеш вочы
вочы вільготныя
вядома ад ветру
праз хвіліну расплюшчваеш іх
плошча Рынак не знікае
яе італьянскі акцэнт таксама
няўжо вунь у той кавярні
ты еў не пасту а варэнікі з вішнямі?

***2***

у львоўскіх дварах
карціць кагосьці зарэзаць
але не Сяргія Жадана
сярод арабесак цвілі
цвіце Сяргіева страфа
*я бачив твої падолисти*
ту ніч що тебе огорне
*там де високи під'їзди*
*мов застуджені горла*

у львоўскіх кавярнях
прагнецца кагосьці атруціць
але не Марыяну Кіяноўску
ты згодны з ёю
мы забуваємо досвіды наші дитячі
й діти біжать у майбутнє
*мов босі на скло*

на львоўскіх прыпынках
рупіць кагосьці піхнуць пад колы
але няхай жыве і пасецца
нязнаны аўтар радаснага адкрыцця
*завжди блищить Великий Віз*
*який не вимагає за проїзд*

зараз уначы
на Вялікім Возе
вы ўсе разам
паэты і чытачы
нябесныя і пякельныя сотні
кібаргі з Данецкага аэрапорта
раскосыя салдацікі з Бураціі
палеглыя за *русский мир*
байцы УПА
непадкупныя прэзідэнты
шчодрыя алігархі
у міжнародным вышуку
Правы і левы сектары
белы сабачка з перабітаю лапай
ты з Залацістай Эфай
Залацістая Эфа трымае цябе
за левую мочку
кажа: дапамагае ад сурокаў і падвею

***3***

ты саскокваеш з Вялікага Воза
у кавярню *Кабінет*
пасля поўначы
*Кабінет* хутка запаўняецца

заходзіць пісьменнік Юрый Віннічук
пад пахай *яго Вясновыя гульні ў асенніх садах*
замаўляе *шампан*
бясконца тэлефануе
раз-пораз чуваць пругкае слова *прутень*

ці ведаў што такое *прутень*
кампазітар Франц Ксавер Моцарт?
сын таго самага бацькі
пражыў у Львове палову жыцця
раскашаваў не з адной *розкішницею*
у Франца Ксавера старэнькая *Nokia*
кампазітар нікому не тэлефануе

на канапцы пад люстэркам
самотніцца Ёган Георг Пінзель[1]
дастае партманетку
здзіўлена разглядвае грыўні

пры століку з друкавальнай машынкай
Леапольд Захер-Мазох
такі самы як помнік на Сербскай

адно на штрыфлі ордэн Ганаровага Легіёна
табе хочацца падсесці:
пане Мазох вы заўважалі?
чытачы падзяляюцца
на садыстаў і мазахістаў
садысты чытаюць вас
Леапольд Леапольдавіч
мазахісты – маркіза дэ Сада

з лёгкім ветрыкам
левітуе між столікамі Залацістая Эфа
Віннічук душыцца шампанам
Леапольд Леапольдавіч
ліхаманкава малоціць па машынцы
Моцарт пакутуе:
чаму ён не Вольфганг Амадэй?
Георг Пінзель асвятляе твар
усмешкаю эпохі позняга барока

пад пашкай у Залацістай Эфы кніга
у гэтай кнізе Эфа жыве
танчыць з табой на даху
плавае ў паднябесных азёрах
кажа: будзем імклівымі
белыя чаплі выцінаюць вам крыламі
*Let It Be*

у люстры над Пінзелем
Марына Мнішак
уся ў белым
толькі што з вянчання
ў касцёле Святога Андрэя

каралева Францыі
Марыя Караліна Сафія Феліцыя
(пруцень прачынаецца ўжо ад імя)
уся ў чорным:
жалоба па тату
адстаўны вялікі князь і кароль
тваіх продкаў
Станіслаў Ляшчынскі
засумаваў у Францыі па родным Львове
выжлукціў пляшку арманьяку
даў нырца ў вогненны камін
праз хвілю з’явіцца ў *Кабінеце*
з французскім дымком

***4***

вялікі князь і кароль Ян Сабескі
упершыню наклаў у штонікі ў Алескім замку
сікаў з гэтых стромаў
як некалі вы ў Палату: хто далей?
цяпер скача па сцяне ў *Бітве пад Венай*[2]
за ім лятуць крылатыя гусары
з-пад Полацка Горадні Слуцка
удалечы Вена
сабор Святога Стэфана

летась у нязгасным суме
па полацкім Святым Стэфане
ты пераведаў венскага
услед усунуўся ўзвод расейскіх турыстаў
ніводны не зняў шапкі:
*ведь мы христиане а они католики*

Алескі замак памятае
*Дзікае паляванне караля Стаха*
перад вамі алькоў
тут начаваў галоўны рэжысёр
каб не баяўся побач была
выканаўца галоўнай жаночай ролі

вы з Эфай таксама б не разгубіліся
уранні кава
венскі штрудэль
о гэтая незабыўная нотка цынамону!
магчыма келіх аўстрыйскага
*Аўслезе* або *Мускат-Сільванер*
можна ў ложак
пагатоў вакол усе свае
геніяльнае трансільванскае вуха
Стэфана Баторыя
Барбара Радзівіл
мармур і пазалота
грудзі трэцяга памеру
бяссонныя вусы Пане Каханку
для еўрапейскага кантэксту –
Марыя Антуанета
пакуль з галавой
афіцыянт! усім каву па-венску!

*Vivat* Сабескі!
нашы ўзялі ў палон
тысячу мяхоў кавы
туркі прайгралі
кава перамагла

**5**

кавярня *Світ кавы*
Кенія ці Ямайка?
з кім параіцца?
Залацістая Эфа яшчэ не нарадзілася
замаўляеш Мексіку
ёсць звесткі: у былым жыцці
ты быў мексіканскай танцоркаю

у паслужным спісе Джакома Казановы
мексіканак здаецца не было
калега піў каву сярод тутэйшых львоў
запісваў у дзённіку
*Львоў прыўкрасны горад*
*львоўскія паненкі недаступныя*

насупроць *Світу кавы*
капліца Боімаў
экскурсаводка: нідзе ў свеце
капліца не мае аналагаў ці паўтораў
ты: кожны з нас таксама
не мае аналагаў ці паўтораў
(тата мала цябе выхоўваў
пракурорскай папругай)
экскурсаводка (ветліва):
ви не з нашої групи
*та порівняння ваше некоректно*
*але дякуй що говорите по-білоруськи*

да цябе падыходзіць дзяўчына
даўганогая
кароткая русявая фрызура
вішнёвыя вочы
*ви з Білорусі?*
пытанне такое ж ідыёцкае як і тваё
*а вы з Украіны?*
*зі Львова*
*а білоруська мова така гарна*
яна трошкі расцягвае словы
*мой тата був білорус*
*білоруською мовою ніколи не говорив*
табе пашанцавала болей
твой тата загаварыў з табой
калі ляжаў на Божай пасцелі

ці не падкажа пані
дзе сабор Святога Юра
пані нават пакажа

па дарозе безыменная кавярня
тры столікі
*Martini extra dry*
на пляшцы дата 1863
звычайна пры марціні
ты спрабуеш знайсці адказ:
твае прадзеды стралялі ў маскалёў
або здавалі інсургентаў карнікам?
пяць рублёў за жывога
тры за мёртвага

цяпер ты думаеш:
русявая фрызура
вішнёвыя вочы
ці бываюць такія спалучэнні?
хіжынкі ў ражках поўных вуснаў
нос гераіні *Нясцерпнай лёгкасці быцця*
Мілана Кундэры
успомнілі? нос замінаў цалавацца

о святы Юр!
хіба можа ў святога
быць такое імя?

***6***

падзеі развіваюцца імкліва
вуліца Саламеі Крушэльніцкай[3]
які вецер панёс Саламею ў жніўні 1939-га
з італьянскай вілы ў Львоў?
чыю галаву хацела  атрымаць на сподзе?
ад якога Ірада?

зялёная аўстрыйская камяніца
парадныя дзверы адчыненыя
на гарышчы вяроўкі з бялізнай
вазоны з фіялкамі
нос замінае цалавацца
ты цалуеш персікавую патыліцу
целам не патрэбныя словы
мамачка мая Марыя...

гэта фіяска
ты шкадаваў гаротніка Казанову
цяпер цябе шкадуе
увесь ягоны прыўкрасны Львоў
беларуская мова такая гарная
беларускі мужчына такі недалуга

табе хочацца выйсці ў вакно
чамусьці разам з фіялкай у вазоне
нехта ўмыкае ў галаве жахалку
*хлопчык бадзёра па даху пабег*
*весела скончыўся гэты забег*
*хлопчык зрабіў адмысловае сальта*
далей вы памятаеце
рыфма з асфальтам
жахалка нечакана дапамагае

на гарышчы з'яўляецца бабуля
зялёны тазік пад бялізну
ветліва вітаецца
была сувязной УПА думаеш ты
сустракалася тут з нарачоным
кожнае спатканне лічылі апошнім
нарачоны не меў права на фіяска

унізе ты ловіш таксоўку
Стрыйскі парк цалуецца з восенню
вы таксама цалуецеся
нос па-ранейшаму замінае
ты нарэшце ператвараешся ў фаўна
мамачка мая Марыя!

дошкі летняй сцэны
кілім з кляновага лісця
часам кілім збіваецца
калені ўжо смыляць
Леапольд Леапольдавіч з маркізам
цалкам задаволеныя

які назоў у вашай трохактоўкі?
дзе тэатральная праграмка?
як завуць дзейных асобаў?
хаця б выканаўцаў галоўных роляў?
ты: гэта неарыгінальна
ёсць такі фільм Берталучы
яна: *Апошняе танга ў Парыжы*
што зменяць імёны?
калі ты так хочаш
я буду *розкіш*[4]
ты – *прутень*
цяпер можна з вялікай літары

ну-ну гладзіць яна цябе
па няголенай шчацэ
якія мы далікатныя...

смяецца дзіўным смехам:
а чаму ў цябе левая мочка
удвая большая за правую?
*памяць пра татавы гены*

у глыбінях яе смеху
пераліваецца марціні 1863

ты ловіш таксоўку
*Розкіш* жыве ў тым самым доме
на вуліцы Саламеі Крушэльніцкай
ты ўсё ж паспяваеш на цягнік
партугальскі партвейн
цёмны як загуслая на ране кроў
тое што табе зараз трэба

усю ноч розные кропкі
адчуваюць ейны нос
пад раніцу зноў узнікае Мілан Кундэра
*гісторыя безаблічная і няўцямная*
гісторыя вандруе ў захмар'і
забаўляецца непрадказальнымі сюжэтамі
нястомна хлусіць зневажае здзекуецца
часам жартуе
заходзіцца ад рогату
гэта і пра тваю асабістую гісторыю

прыедзеш праз дваццаць гадоў
знойдзеш дом на Крушэльніцкай
пачуеш далёкі смех
з пералівамі марціні
на дзвярах кодавы замок
так і павінна быць

**7**

на фрэсцы ў Армянскім саборы
пахавальная працэсія
армяне хаваюць мітрапаліта
мастак намаляваў сяброў і знаёмых
адзін мужчына з труной на плячы
азіраецца на Залацістую Эфу
гэта сам мастак

на Лычакаўскіх могілках
ты знаходзіш армянскія магілы
запальваеш свечкі
датыкаешся да граніту і мармуру

помнікі адказваюць тваім пальцам
цёплымі дотыкамі
магчыма ў былым жыцці
ты быў зусім не мексіканкай

Самуіл Кіпрыян Старымовіч
1755 – 1858
ці хочаш ты пражыць 103 гады?
нават армянскім мітрапалітам
чым у 103 гады можна займацца?
напрыклад з жанчынамі

тваю знаёмую Саламею
вартуе нацыянальна свядомы Арфей
у руцэ жоўта-блакітны сцяжок
стральцы Галіцкай арміі
замірыліся з польскімі жаўнерамі
крот накапаў у гонар міру свежыя грудкі
байцы *АТО*
ні з кім не замірыліся
якая бл...дзь *АТО* калі вайна
крот не можа без цемры
Расея не можа без вайны

маладая ўдава выцірае малому смаркачы:
Тарасік адпомсціць за тату
ты бачыў тату ў Дамініканскім саборы
у саборы цэлы іканастас з фотак
ці ёсць такія іканастасы ў расейскіх цэрквах?

***8***

Драгобыч
гэта цынамонавыя крамы
вуліца Кракадзілаў
санаторыя пад клепсідрай
мужчыны ў чорных цыліндрах
жанчыны з хвосткімі бізунамі
Залацістая Эфа ля рыны
на даху сінагогі

Драгобыч
гэта неба Бруна Шульца
скляпеністае
поўнае анфіладаў
трыфорыяў
вокнаў у вечнасць
зданяў

лахманоў аповесцяў
трэба толькі паставіць сіло

тут Бруна Шульц
астатні раз бачыў сваё неба
неба якое ўсё ведала і прадчувала
неба якое на даляглядзе
пусціла карані ў сутнасць рэчаў

шарфюрэр Карл Гюнтэр
з дзяцінства любіў габрэяў
асабліва мёртвых
мёртвыя габрэі
не вучацца лепей за вас у школе
не паступаюць ва ўніверсітэты
не выйграюць у вас у шахматы
не пішуць дэгенерацкіх кніжак
не валяюцца ў нагах у сваіх жыдовак
на дэгенерацкіх малюнках
мёртвыя габрэі
не размалёўваюць фрэскамі
вілы вашых начальнікаў
свет дзе ўсе габрэі мёртвыя
набудзе гармонію і дасканаласць
няхай жывуць мёртвыя габрэі!

ты бачыш Карла Гюнтэра на схіле дзён
Карл Гюнтэр падразае ружы
гуляе ў бадмінтон з унучкаю
п’е каву ў альтанцы пад ветраўнікам-анёлам

Карл Гюнтэр удзячны драгобыцкаму мазілку
той стрэл захавае імя Карл Гюнтэр у вечнасці
яму прывозілі турыстычныя даведнікі:
19 лістапада 1942 года
шарфюрэр СС Карл Гюнтэр
застрэліў Бруна Шульца
на вуліцы драгобыцкага гета
апрача даведнікаў спасылкі ў інтэрнэце

цяпер Карл Гюнтэр ведае дату
раней памятаў адно: быў чацвер
юдэ казалі *чорны чацвер*
шкада не чорная субота

Карл Гюнтэр дазваляе сабе глыток каньяку
ён заўсёды страляў юдэ ў галаву
для пэўнасці два разы

даведнікі пішуць:
у астатнюю хвіліну
мазілка карміў галубоў
якая чуллівая дэталь!

Бруна Шульц
прысніўся табе ўсяго аднойчы
у сне ты прачнуўся
пайшоў на кухню папіць баржомі
зірнуў направа ў кабінет
пры тваім кампутары
сядзеў Бруна Шульц
злева на стале стаяў чорны цыліндр

ты прачнуўся
ціха прычыніў кабінет
папіў баржомі
лёг
разгарнуў *Цынамонавыя крамы*
*пахла фіялкамі*
*вандроўнікі збіралі сярод імху ды кустоўя*
*апалыя мокрыя ад снегу зоркі*

ты шчасліва заснуў:
на тваім кампутары
працаваў Бруна Шульц

***9***

кавярня *Під клепсидрою*
пачынаецца з газеты-меню
перадавіца пра гісторыю роднага *краю:*
*Онофрей був вченою людиною*
*служив ще в австрійскому війску*
па вайне вучоную людыну з радзінаю
запраторылі ў Сібір
выграблі з дамоўкі дзве фуры кніг
вызвалілі месца ваенруку Сазонаву
згарэў п’яны ў хаце

застаецца замовіць каву *Вогник*
30 грыўняў
летась была восем
тваё пакутлівае здумленне
сканчаецца віном *Тарапака*
480 грыўняў
летась было сто
у букеце пампасы Араўканіі

філамат і філарэт Дамейка
*Дом духаў* Ісабель Альендэ

Тарапаку ты піў з Аксанай Забужкай
вы гулялі па палях і лугах
вострава Готланд  Швецыя
займаліся тэорыяй і практыкай літаратуры
уначы ты штудыяваў кнігу Аксаны
*Палявыя даследаванні ўкраінскага сексу*

*Під клепсидрою* джаз
за кутнім столікам самотны жаўнер
джазавы рытм адстуквае
самотная нага
думаеш пра яго палявыя даследаванні

у партманетцы ёсць яшчэ 480
у Тарапацы ўсё больш джазу
у джазе ўсё больш Тарапакі
у сінкопах прысмак
чалавечых ахвярапрынашэнняў
нешта джазавае і ў тваёй страве
кіш са шпінатам

на сцэну выходзяць
ільвы Алены Кіш
у львоў сумныя чалавечыя вочы
з араўканскай смугі
выплывае човен
у чоўне ты з Залацістай Эфай
другі човен з аднаногім жаўнерам
трэці човен пусты
у трэцім чоўне слухала джаз
Алена Кіш

***10***

вуліца Сцяпана Бандэры, 1
тут была турма НКВД
Аксана Забужка чытае ў турме прозу
*Непраяўленыя стужкі Мішеля Настрадамуса*
усё зараза француз бачыў наперад:
капец барбарскай імперыі
мусульманскую кроў у Срэбраніцы
барысфенцаў супроць усходняга закону

ты чытаеш вершы
*Калі паміраюць паэты*

*Два сінія цені*
чытачоў нашмат болей
чым ты налічыў спачатку
падыходзяць новыя
бязважка сядаюць на падваконні
ціснуцца ля сцен
не адкідаюць ценяў
чые тут маленькія бурыя сляды?
такія самыя бурыя плямы
на сценах у турэмным двары
*анёлы!*
*дайце мне*
*яе запясці*

у былой віленскай турме
расстрэльвалі ў сутарэннях
на падлозе равочкі для крыві
ты бачыў такія равочкі ў Нямеччыне

твой праваднік унук закатаванага
аднойчы сыходзіў апошні
зачыніў на ключ усе камеры
здаў музей на сігналізацыю
уранні турма пад сігналізацыяй
усе камеры наросцеж

***11***

твой гатэль па-ўкраінску завецца
*Reikartz Медиваль*
Багуміл Грабал сказаў бы
прывітанне ад бабулі Аўстрыі

у сваю астатнюю хвілю
Грабал як і Шульц карміў галубоў
сядзеў на шпітальным вакне
папрасіў галубку дапамагчы
пісьменнікі таксама лётаюць

ты хацеў бы паплысці
*там на беразе іншага часу*
*апануюць мяне ўспаміны*
*празрыстасць імклівае плыні згадаю*
*быў рыбай калісьці?*

***12***

усе кавярні навокал поўныя
кажуць так было ў Парыжы
перад Другой сусветнай

ты шукаеш на небе Вялікі Воз
Залацістая Эфа кажа
гэта надае раўнавагі

з рэстарацыі *Тлустий Гусак*
выходзяць дзяўчына і два парубкі
дзяўчына кіруецца да цябе:
*Слава Україні!*

ты марудзіш з адказам
ты ніколі не любіў лозунгаў
у піянерах: заўжды гатовы!
ты быў заўжды гатовы да іншага
на дэманстрацыях: няхай жыве!
ужо не жыве
потым: *Жыве Беларусь!*
жыве і жуе

*Тарасику він не не розуміє*
дзяўчына трошкі расцягвае словы
няўжо смаркаты Тарасік
з Лычакаўскіх могілак
так хутка пасталеў?
*Тарасику!*
дзяўчына даўганогая
кароткая русявая фрызура
колер вачэй растае ў прыцемках

Тарасік падскоквае на месцы
*хто не скаче той москаль!*
Тарасік дастае рукі з кішэняў
ты дастаеш рукі з кішэняў:
*хто не скача – беларус!*

сітуацыя імгненна мяняецца
Тарасік дастае з кішэні пляшку
сухі крымскі херас
Масандра 2013
ты думаў ужо забыў яго смак

вы па чарзе цягніце з рыльца
ты: *Vivat Галіцыя!*

узнікае другая пляшка херасу
абдымкі і пацалункі
дзяўчыне замінае цалавацца нос
нос як у гераіні Мілана Кундэры
адна мочка ў дзяўчыны
удвая большая за другую

табе робіцца нясцерпна лёгка
тры глыткі херасу для смеласці
зараз ты запытаеш
ці не жыве яе мама
на вуліцы Саламеі Крушэльніцкай

---

[1] Знакаміты галіцкі скульптар XVIII ст.
[2] Карціна італьянскага мастака Марціна Альтамонтэ. 1692 г.
[3] Славутая ўкраінская спявачка.
[4] Тое самае, што і *розкішниця*.



Вінцэсь Мудроў



...духоўнае адраджэнне нацыі
за кошт маральнай трываласці
асобных патрыётаў
на сённяшні дзень немагчыма...

# Зарок

***Апавяданне***

Я бягу следам за міліцэйскай машынай, што паволі, калоцячыся на калдобінах, едзе па дарозе. З-пад колаў вылятае густая пылюка, якая рэжа вочы, трашчыць на зубах і салодка свярбіць у горле. Пад’ехаўшы да збітага з дошак барака – яго ў нас называюць «інтэрнатам», – машына спыняецца і на момант знікае ў нетрах пыльнай аблачыны.

Першым з задніх дзверцаў выскоквае міліцыянт. Абабіўшы штаны, ён гукае ў цёмны атвор, і з машыны – сцярожка, азіраючыся на бакі, – вылазяць трое дзядзькоў: два старых і няголеных і адзін маладзейшы, шчыгульна паголены, які трымае ў адной руцэ чорную валізу, а ў другой перавязаны аборкай стос кніжак. Дзядзькі выстройваюцца шыхтом, і міліцыянт штосьці ім чытае, сюд-туд тыцкаючы нос у паперчыну і раз-пораз уздымаючы ўгору палец.

Падыходжу бліжэй і паспяваю пачуць апошнюю фразу:

«Адзначацца будзеце кожную раніцу і кожны вечар у каменданта», – міліцыянт кіўком галавы паказвае на Пятроўну, якая шыбуе па вуліцы. Гэта наша суседка: хата яе стаіць праз дарогу.

У бараку жывуць «хімікі». Хто яны такія, дакладна невядома, але бацька кажа, што гэта дробныя злодзеі і хуліганы. Хто жонку ці цешчу пабіў; хто, п'яны, на матацыкле гойсаў. Летась адзін дзівак у цеплавоз залез, калі цеплавознікі нешта звонку рамантавалі, і паехаў. Выехаў з Полацка, а спынілі ўжо недзе за Грамамі. У маладосці памочнікам машыніста працаваў. Нападпітку быў, вядома. Яшчэ адзін вырабляў ды прадаваў з-пад крыса паляўнічыя нажы. Але той доўга тут не прабыў. Пайшоў увечары да Пятроўны адзначацца – і палез да яе. Ну і атрымаў патэльняй па кумпале. А наступнай раніцай прыехалі міліцыянты і некуды бедака звезлі. Ёсць таксама адзін латыш. Як ён да нас патрапіў – ніхто не ведае. Распавядаў днямі, што сапраўднае прозвішча расейскага прэзідэнта Пуцінш і што дзед прэзідэнта валодаў хутарам непадалёку ад Рыгі. Гэтым балачкам, вядома, ніхто не дае веры. Але самы адметны «хімік» – той, які падрабляе праязныя білеты. Ды так спрытна, што ніхто не мог адрозніць падробку ад сапраўднага праязнога. Дзядзька той класна грае на баяне. Кожны вечар сядзіць на прызбе і факстроты рэжа. А яшчэ па замове Пятроўны яе ўлюбёную песню выконвае: «Подари мне платок». Бабулі, якія жывуць непадалёку, усе да адной выходзяць тады з хат, стаяць ля платоў, галовы рукамі падпёршы, слухаюць, а некаторыя і слязу з вачэй змахваюць. Бабулі і зараз стаяць ля платоў. Цікава ж паглядзець на новых «хімікаў».

– Навошта столькі кніжак чалавеку?! – адчайна, на ўсю вёску, крычыць глухаватая Мамоніха, наваліўшыся грудзямі на агароджу.

– Пятроўна казала, павінны пазіцынера прывесці, – шапялява адгукаецца праз дарогу суседка – сівагаловая Галузіха.

– А што за пазі... цынер?

– Ай, ну во... што проці Лукашэнкі. Кніжак начытаюцца, а тады з міліцыяй б'юцца, – Галузіха смаркаецца ў прыпол хвартуха.

– Толькі пазіцынераў нам і не хапала, – азываецца Мамоніха і, спахапіўшыся, са спалохам у голасе кажа: – А мне ж пад «краму» трэба ісці!

За кіламетр ад вёскі знаходзіцца чыгуначная станцыя. Чыгунка наша зусім занядбаная. Свойчас тут хадзілі пасажырскія цягнікі, а цяпер раз на дзень сноўдае «дызель» – спачатку ў адзін бок, потым у другі. Лучыць ён Вялікія Лукі з Полацкам, і ў абед, калі «дызель» ідзе з Расеі, пад яго сунуцца цёткі з усяго наваколля. Цягнік апанавалі велікалуцкія гандляркі, якія прадаюць з вагонных прыступак розныя харчы ды прысмакі, таму яго «крамай» і празвалі. Сёння ўпрасіў маці даць грошай на бутэльку «Колы» і таксама збіраюся ісці да цягніка.

«Вось жа цікавы дзядзька, – думаю я, ідучы бярозавым гаем да станцыі, – заявіўся «на хімію» з абярэмкам кніг». У нас кніг ніхто не чытае. Калісьці ў вёсцы была бібліятэка. Я хоць і малы быў, але любіў туды заходзіць. Кніжкі гартаў. Асабліва падабалася энцыклапедыя. Пяцьдзясят адзін том! Цэлую шафу займала. Бібліятэкарка казала, што апроч мяне энцыклапедыю тую ніхто і ў рукі не браў. Іншыя кніжкі, праўда, бралі, і амаль кожная была пазначана брунатнай мецінай. Чытачы на іх гарачыя патэльні ставілі. Бібліятэкарку да нас з горада прыслалі, і да яе ўвесь час мясцовыя хлопцы чапляліся. Таму і хадзіла зарумзаная. А потым некуды знікла. Бібліятэка цэлы год пад замком прастаяла, а неяк увосень – я

якраз у чацвёрты клас пайшоў – да яе самазвал падагналі і кніжкі разам са стэлажамі ў кузаў закінулі.

Дарога да станцыі разбіта мазаўскімі коламі і спрэс засыпаная трэскамі. На чыгуначнай станцыі месціцца леспрамгасаўскі пункт, і туды машынамі возяць бярвенне, якое потым грузяць у вагоны. Мой бацька таксама працуе ў леспрамгасе, на тралёвачным трактары. Я міжволі прыслухоўваюся, намагаючыся пачуць рокат бацькавага трактара, ды навокал ціха. Нават вецер не шуміць у бярэзінах.

Першымі пад «краму» прыходзяць сабакі. Цёткі, харчоў набыўшы, і цюцькам штосьці кідаюць, таму яны і збіраюцца на платформе. Насустрач мне бяжыць Ваўчок – нядошлы, з аблезлай гагавіцай дварняк. Цюцька мае брудна-малочную афарбоўку і яго, з невядомай прычыны, усе б'юць. Таму і не падыходзіць да людзей. Мяне ж ён любіць і заўсёды лашчыцца, як пабачыць. Вось і цяпер ускочыў пярэднімі лапамі на жывот, адчайдушна віхляе хвастом.

Цёткі адна за адной уздымаюцца на бетонную платформу, і лёгкі ветрык раздзімае пустыя торбы.

– Ці будзеш браць хлеб? – пытаецца дзябёлая цётухна, імя якой не ведаю, і якая працуе прыбіральшчыцай у леспрамгасаўскай сталоўцы.

– Во... узяла пазаўчора, а яго ж не ўкусіць. Такі чэрствы, – адказвае хударлявая цыба з суседняй вёскі Хмызы і прыкладае далонь да брывоў: – Ці не глушня гэта сунецца?

Па дарозе да станцыі пыліць, прыпадаючы на правую нагу, глухаватая Мамоніха.

– Ай, што скажу! – яшчэ здалёк гукае старая, трасучы ў паветры кавенькай.

Кабеты, якія чакаюць цягніка, дапамагаюць кульгавай пляткарцы ўзлезці на платформу.

– У інтэрнат пазіцынера прывезлі, – выдыхае Мамоніха, папраўляючы хустку, – тая збілася набакір, і з-пад яе вылезла пасма сівых, як кужаль, валасоў.

– А хто гэта? – спалохана пытаецца цыба.

– Ну... які Лукашэнку не любіць, – Мамоніха выцірае ражком хусткі пот з ілба. – Ай, страшны... з кніжкамі прыехаў... і па-беларуску размаўляе.

– Во забірае чалавека, – уражана ківае галавою цыба.

– І зусім не страшны, – з інтанацыяй абурэння заўважае Нінка – мясцовая паштарка. – Малады, паголены. З выгляду непітушчы.

– Гэта толькі з выгляду, – бубніць Мамоніха, усе наўкол пачынаюць голасна гаманіць, абмяркоўваючы навіну, але аціхаюць, пачуўшы басавіты гудок цеплавоза.

Цёткі адразу ж кідаюцца да першага вагона, бо менавіта там, адразу з двух дзвярэй, ідзе гандаль. Дзверы з металёвым шоргатам разыходзяцца, з іх вытыркаецца гандлярка, а за яе спінай хтосьці ў роспачы гарлае:

– Ну дайце выйсці!

«Крама на колах» стаіць дзве хвіліны, таму трэба паспець узяць тавар ды яшчэ і расплаціцца.

– Валя, мне дзве буханкі, – енчаць з натоўпу, і з вагона вылятае два боханы хлеба.

– Грэчку ці прывезла? – гарлае Мамоніха, і голас яе перакрывае залівісты лямант:

– Ну дайце выйсці!

Нехта пхае прадавачку ў каршэнь, і тая, пад гучныя воклічы пакупніц, валіцца ім на галовы.

– Халера, не магла з другога вагона вылезці! – крычыць Мамоніха на тоўстую кабету, што, з хатулямі ва ўзнятых руках, выкульваецца з вагона.

Каля другіх дзвярэй народу меней: там завіхаецца пара кабет ды яшчэ наш сусед па вуліцы Мішка Макагон. Сусед ўзвальвае на карак кардонавую скрыню з надпісам «Стеклоочиститель» і, зладзеявата азіраючыся, шыбуе ў канец платформы.

Цягнік дае гудок, кранаецца з месца. Мамоніха махае кавенькай машыністу, маўляў, пачакай хвіліну, і прадавачка, сціснутая вагоннымі дзвярамі, галёкае:

– Як будзем ехаць назад, – расплаціцеся!

Аднастайны гул цягніка аціхае за дальнім лесам.

– Хацела грэчкі ўзяць, ды не паспела, – абурана мармыча Мамоніха. – А ўсё з-за той тоўстай сучкі.

“Тоўстая сучка” – гэта кабета, якая з боем вылезла з вагона.

– І хто ж такая? – пытаецца цыба.

– Нявестка Галузішына. У Неўлі жыве. Летась з Пецькам Галузам распісаліся, а да свякроўкі во першы раз выбралася. Галузіха кажа: яе смерці чакае, каб хату на сябе перапісаць.

Цёткі, абгаворваючы Галузішыну нявестку, валюхаста ідуць па праселіцы, сабакі таксама некуды зніклі, і толькі Ваўчок стаіць пасярод платформы, пазіраючы на мяне сумнымі вачыма.

– Нічога не ўзяў, – кажу сабаку, і той з разуменнем апускае пысу. – Пайшлі, вынесу табе што-небудзь з хаты.

Шырокім крокам, каб абагнаць цётак, шыбую па дарозе, і Ваўчок бяжыць следам, задаволена махаючы хвастом.

Едучы пасля працы з лесасекі, бацька звычайна спыняе тралёвачнік ля хаты «спіртавоза» Мішкі Макагона. Макагон прывозіць з Неўля шклоачышчальнік на спірце, па-мясцоваму – «максімку», прадае апівудам, і тыя сядзяць штовечар на бярвенні каля ягонай хаты. Сам Макагон, праўда, з імі не п’е і нават гоніць апівудаў прэч ад хаты, але тыя адно махаюць рукамі і, прымасціўшыся на таўсценных, метровага дыяметру стаўбурах, разліваюць у пластмасавыя кубкі пітво. Балазе, яны заўсёды пад рукой – наторкнуты на штыкецціны плота. Заядаюць даўжэзнымі пёрамі цыбулі і яшчэ запіваюць сырадоем: малако, па чутках, нейтралізуе шкодныя рэчывы, якія вытворцы дадаюць ў шклоачышчальнік. Нядаўна ў вёску прыязджаў дэпутат, дык цёткі навыперадкі прасілі яго зачыніць «аўтапаілку» – так яны называюць Макагонаву хату, – бо мужыкі праз яе скрозь спіліся. Дэпутат ківаў галавой, штосьці ў нататнік запісваў, пытаўся – хто Макагону столькі бярвення прывёз? А што там пытацца... Леспрамгасаўцы навезлі. Крадуць лес на дзялянцы ды Макагону вязуць. А той іх шклоачышчальнікам поіць. Думалі, сапраўды зачыняць «аўтапаілку», ды як зачыніш, калі ў Макагона брат пракурорам працуе.

– А каб на цябе! – выдыхае маці, наструніўшы вуха. – Зноў ля Макагона спыніўся.

Я таксама прыслухоўваюся. Бацькаў трактар перарывіста ляскоча ў канцы вуліцы.

– Ідзі скажы, каб ішоў дахаты.

...На бярвенні поруч з бацькам сядзіць Мішка Ігнацёнак – не стары яшчэ мужчына, які свойчас валіў хвоі, ды па п’янцы адрэзаў пілой «Дружба» пальцы на правай руцэ і цяпер працаваў у леспрамгасе вартаўніком.

– Усё, хопіць мне на гэтым драндулеце дзяўбацца... Заўтра ж еду ў горад – хай даюць новы ТДТ.

Бацька, узяўшы чарку, увесь час збіраецца ехаць выбіваць новы тралёвачнік, але ж, вядома, нікуды не едзе.

Ігнацёнак спрытна налівае з ёмістай бутэльчыны «максімку» – адзін палец на правай руцэ ў Мішкі ўсё ж такі захаваўся, і ён спрытна трымае ім кубак.

– Ну, давай, – падганяе Ігнацёнак, і бацька, пякельна зморшчыўшыся, куляе чарку.

– Моцная, х-халера, – выдыхае бацька і ўсё ж той жа пякельнай гіморай глытае малако з літровага слоіка.

Ігнацёнак прыпальвае цыгарэту і, прыцішыўшы голас і азірнуўшыся, мармыча:

– Кажуць, у інтэрнат апазіцыянера прывезлі.

– Прывезлі, – ківае бацька, – нас папярэдзілі ўжо: ніякіх размоваў пра палітыку. І наогул – трымацца ад яго як мага далей.

– А што ён будзе рабіць?

– Можа, стропалем на станцыі, а можа сучкі паставяць абсякаць. Без працы сядзець не будзе.

Бацька хоча яшчэ нешта сказаць, ды прастору апаноўвае жаночы лямант:

– А каб цябе парвала! А каб ты спрах, інвалід няшчасны!

Ігнацёнчыха, цётка звяглівая і злая, як стручок чырвонага перцу, бяжыць па вуліцы, узняўшы над галавой маслатыя кулакі.

– Ты ж, падлюка, казаў, на пошту ідзеш, а сам пад «аўтапаілку» падбіўся!

Ігнацёнак, увабраўшы голаў у плечы, пхае пляшку «максімкі» бацьку ў кішэнь, падымаецца на ногі, і жонка хвацка б’е мужа кулаком па карку.

Бацька таксама падымаецца, а, убачыўшы мяне, торгае падбародкам.

– Маці дадому кліча, – прамаўляю з уздыхам, і бацька, мацюкнуўшыся і памацаўшы рукой пляшку ў кішэні, паволі ідзе да трактара.

Звычайна сплю на вышках, але днямі прастудзіўся, і цяпер даводзіцца ўсю ноч круціцца на мулкай і цёплай печы. Самы сон зранку, ды як паспіш, калі ад самай раніцы ў хату ўвальваецца Мамоніха. Ад яе шапялявага голасу мяне ўжо нервовыя дрыжыкі працінаюць. Ды і гарлае ўвесь час як не ў сабе, бо глухаватая на правае вуха. Вось і цяпер – не паспеў бацька на працу выправіцца, як яна ўжо керхае ў прысенку.

– Ці чула? Да Галузіхі нявестка прыехала, – ад парога гарлае пляткарка. – Пецька ж Галузішын з нейкай развядзёнкай зблытаўся. Таму і прыкаціла... ратунку шукаць. Ды яшчэ нейкіх падарункаў прывезла. А ў самой «ліхтар» пад вокам. Учора пудрай замазала, а цяпер памылася – той і засвяціўся, – Мамоніха засоплена пераводзіць дых. – Пецька хоць і лагодны малец, але ж давяла... прыклаўся кулаком... дзеля гэтай.... як яе? Пра-фі-іі...

– Прафілактыкі, – падказвае маці.

Устаю, каб бегчы на двор, і міжволі наструньваю слых.

– Ці бачыла пазіцынера? – пытаецца Мамоніха.

– Не яшчэ. Людзі кажуць – прыстойны чалавек, – маці налівае ваду ў чыгунок. – Кніжкі чытае.

– Як жа... прыстойны... На «хімію», мая дарагая, прыстойных не выпраўляюць. Невядома яшчэ – якія ён там кніжкі чытае. Можа, тыя, дзе пішуць, як людзей рэзаць ці як хаты паліць, – Мамоніха на момант сціхае. – На кухні бразгае конаўка і чуюцца прагныя глыкі – старая п'е ваду. – Учора Ігнацёнчыха гнала свайго ад «аўтапаілкі» і гарлала на ўсё вёску, што спаліць Макагону хату.

– Хутка дакрычыцца, – азываецца маці, – таксама на «хімію» выправяць.

– А я ёй кажу – падгавары пазіцынера, – голас Мамонішын прыкметна жвавее, – той за бутэльку «максімкі» каго хочаш з дымам пусціць. Што там нейкая хата... яны, па тэлевізары казалі, Дом урада збіраліся спаліць.

– А сапраўды, сабраць капейчыну ды заплаціць пазіцынеру. Хай бы падпаліў таго чорта, – з інтанацыяй абурэння прамаўляе маці, і цяжка зразумець – кажа яна ўсур'ёз, ці жартуе. – Мой учора таксама сядзеў на бярвенні...

– Пашалелі мужыкі. Макагон іх нейкай карасінай поіць, – гучна шапялявіць Мамоніха, і я, ляпаючы босымі нагамі па падлозе, бягу на двор.

Другі тыдзень апазіцыянер працуе ў леспрамгасе: абсякае сукі з паваленых хвояў. Бацька новага работніка нахвальвае. Той, нібыта, за любую працу хапаецца. Хоць з выгляду і не надта цягавіты, але спрабаваў ужо і лес валіць. І, што ўсіх надта здзівіла, тыпавую інструкцыю за два дні на памяць вывучыў. Яму для цікаўнасці мальцы іспыты ўчынілі. Узялі ў брыгадзіра інструкцыю і давай, старонкі перагортваючы, пытацца: – Які павінен быць вугал насадкі калуна? – Не меней за 88 градусаў. – А сякеры? – Не меней за 86 градусаў. – А якая павінна быць шырыня недапілу пры дыяметры стаўбура паўтара метры? – Два сантыметры. – Бацька распавядаў пра ўсё гэта з натхненнем, бо ніхто з брыгады інструкцыю не чытаў. Яшчэ казаў, што напачатку дзіўна было чуць беларускую мову, а цяпер сёй-той спрабуе з новым работнікам на ёй размаўляць.

Мы ў школе таксама беларускую мову вучым. Але што гэта за вучэнне. Часцяком замест «белкі» геаметрыю ўплішчваюць. Ды і ўвогуле на мову даўно махнулі рукой. А навошта яна? Паедзь у горад ды пачні гаманіць па-беларуску – гарадскія засмяюць. А вось жа прыехаў чалавек з самой сталіцы, размаўляе па-наску, і ніхто з яго смешкі не правіць. Падшыванцы нават бегаюць следам, а глухаватыя цёткі, як яго пабачаць, з вуха хусцінку прыбіраюць: цікава ж людзям жывую беларускую мову пачуць. Адна толькі Мамоніха незадаволеная. Вярзла надоечы, што «пазіцынеры» адмыслова па-беларуску балбочуць, каб Лукашэнку насаліць. А я ўзяў і прачытаў ёй Купалаў верш пра хлопчыка і лётчыка. Не ўвесь, праўда, а самы пачатак, які калісьці вучыў на памяць. Каму, кажу, Янка Купала насаліць хацеў? Гэты ж верш яшчэ да вайны напісаны. Карга хмыкнула ды пачала маці нагаворваць, каб я далей ад «пазіцынера» трымаўся. А то, чаго добрага, саб'юся з тропу і буду ўсё жыццё па «хіміях» туляцца. Маці пасля таго забараніла і блізка падыходзіць да інтэрната. Але што мне тыя забароны. Я і цяпер хаджу ля інтэрната, чакаючы – калі прывязуць рабочых з лесасекі. Хачу прачытаць апазіцыянеру той самы верш Янкі Купалы.

Па вуліцы, уздымаючы пылюку, калываецца легкавік. Хтосьці прыехаў з горада. Я сыходжу на ўзбочыну, і легкавік, параўняўшыся са мной, спыняецца.

– Эй, хлопец, дзе ў вас «хімікі» жывуць? – пытаецца дзядзька ў сонечных акулярах, адчыніўшы дзверцы. У дзядзькі вялікія натапыраныя вушы: у нас такіх называюць Аблавухамі.

– А вунь у тым доме, – выдыхаю, торгнуўшы галавою. – Толькі там цяпер нікога няма.

– А куды яны падзеліся? – кіроўца здымае акуляры, працірае іх белай насоўкай.

– На лесасецы працуюць.

– А можаш паказаць – дзе гэта?

Я торгаю плечукамі, і дзядзька, наваліўшыся локцем на сядзенне, адчыняе бакавыя дзверцы.

Ехаць у машыне, хай і па калдобінах, адно задавальненне. Легкавік злёгку падкідвае, люляе, матляе ў бакі. Задаволена гляджу наперад і тут жа спаўзаю з сядзення ды прыгінаю голаў.

– Ты што? – спалохана пытае ўладальнік сонечных акуляраў.

– Мамоніха, – шапчу я, стукнуўшыся лбом аб прыборную панель.

Мамоніха аж праз плот перавесілася, выглядаючы – хто там едзе на машыне. Ды і не дзіва. Па нашай вуліцы толькі Макагон зрэдзьчасу праедзе на сваім старым «фордзе», і раптам шыкоўная гарадская машына пыліць немаведама куды.

– А хто такая? – пытаецца Аблавух, прытапіўшы понаж газу.

– Звяга, якіх свет не бачыў, – адказваю, ладкуючыся на сядзенні. – Раскажа маці, як я на машыне ехаў. Ды яшчэ што-небудзь прыпляце. Апраўдвайся тады.

Заціскаю нос ражком кашулі і здушана чхаю: ад пылюкі папросту няма прадыху.

– А вы да апазіцыянера прыехалі?

– Да апазіцыянера, – пасміхаецца суразмоўнік, бліскаючы белымі зубамі. – Як яго... яшчэ не пабілі?

– Ды не. Ён усім падабаецца. Толькі Мамоніха носам круціць. Баіцца, што апазіцыянер ёй хату падпаліць. Дом урада, кажа, каменны быў, таму і не ўдалося падпаліць. А хату – чыркні запалкай... праз пяць хвілін адна печ застанецца.

– Ну і людзі, – хітае галавой Аблавух. Абхапіўшы локцямі стырно, ён прыпальвае цыгарэту.

Дзе тая дзялянка, я і сам дакладна не ведаю. Бацька казаў, недзе каля Сіроцінскай паваротки. А таму, праехаўшы паваротку, прашу спыніцца і паслухаць – дзе зумкаюць пілы. Дзядзька вылазіць з машыны, прыслухоўваецца і, плюхнуўшыся на сядзенне, мармыча:

– Непадалёку.

...Пасярод разлеглага, засыпанага пілавіннем ляда завіхаюцца рабочыя. Бацькавага трактара не бачна. Ды яно і добра. Не надта хочацца патрапляць яму на вочы. А вось апазіцыянер тут: сячэ, бліскаючы лязом сякеры, сукі на паваленай яліне. Неўзабаве ён выпроствае спіну, глядзіць у наш бок і, увагнаўшы сякеру ў стаўбур, бяжыць некуды ў дальні канец ляда. Відаць, каб адпрасіцца з працы. Праз пару хвілін шыбуе да машыны, радасна раскрыліўшы рукі.

– Доўга ж думалі – куды цябе ўпячы, – прамаўляе Аблавух, абняўшыся з апазіцыянерам, – і прыдумалі. Упяклі ў цёмны бор – ні дарог, ні мабільнай сувязі, ні цывілізацыі.

– А ты хацеў, каб я ў цывілізацыю патрапіў?.. Блукаў па гранітнай набярэжнай ды пляваў у Тэмзу? – апазіцыянер абабіў ад трэсак ватоўку.

– Ну, навошта так далёка. Мог бы ў якой менскай кавярні сядзець,

бізнес-планы палітычнай барацьбы складаць... як твае сябрукі, – Аблавух дрогкімі рукамі прыпальвае чарговую цыгарэту. – Напісаў бы тое чортава прашэнне аб памілаванні – і свабодны. І каму наогул патрэбны гэтыя твае прынцыпы? Ім? – гарадскі госць выпусціў дым у бок рабацяг, якія завіхаліся непадалёку.

– Ты прыехаў, каб са мной палаяцца? – у голасе апазіцыянера гучыць незадаволенасць.

– Ды проста ўбачыў цябе – і шкада стала, – Аблавух ляпае суразмоўніка па спіне, уздымаючы пры гэтым пыльную аблачынку.

Я адчыняю дзверцы, вылажу з машыны.

– З кім ты? – ужо вясёлым голасам пытаецца апазіцыянер.

– Хлопец з вёскі, дарогу мне паказаў, – вадзіла кіўком галавы загадвае мне садзіцца на задняе сядзенне.

Там, на заднім сядзенні, ляжыць вялізны чорны мех.

– Ці не Пятра Іванавіча ты сын? – апазіцыянер сядае поруч з вадзілам.

Ківаю ў адказ і адчуваю, як загараюцца шчокі. Дагэтуль бацьку ніхто так не называў: клікалі толькі па імені.

– Цябе, я чуў, Мішам завуць, – апазіцыянер працягвае руку, і я насцярожана цісну ліпкія ад жывіцы пальцы, – а мяне Віталём.

– Што ты там прывёз? – дзядзька Віталь перагінаецца праз сядзенне, выцягвае з меха вялізную бутэльку «Кока-колы».

– «Кола»? Я яе зроду не піў... А гэта што? Бульбяныя чыпсы? Ды яшчэ польскія?

– Хлопцу аддай, – глуха прамаўляе Аблавух, заводзячы машыну. – Вэфаўскі прымач табе прывёз. Увесь Менск аб'ехаў, пакуль знайшоў.

– А за прымач дзякуй! – дзядзька Віталь перадае мне бутэльку «колы» і вялізны пачак чыпсаў. – А то сяджу практычна без інфармацыі.

Дастаўшы прыймач, дзядзька Віталь выцягвае антэну. Чуецца бязладны шум, потым нейкія кітайскія спевы, нарэшце салон поўніць прыемны жаночы голас.

– Алена Радкевіч, – задаволена выдыхае дзядзька Віталь.

– Слухай цяпер, – Аблавух, абмінуўшы вялізны пень, выязджае на праселіцу, – цябе там ледзь не кожны дзень згадваюць.

Ляжу на вышках, убіўшы вочы ў «Гісторыю Беларусі», якую мне надоечы даў дзядзька Віталь. Чытаю раздзел пра Аршанскую бітву. Малайчына быў гэты Астрожскі. Зрабіў выгляд, што яго войска адступае, уцягнуў маскоўцаў у пагоню і вывеў пад агонь замаскаваных гармат. А потым яшчэ з флангаў дзеўбануў. У школе пра тое нічога не распавядаюць.

Кніжку даводзіцца чытаць употайкі, бо маці, калі пабачыць, і падзерці можа.

Перагортваю старонку і чую да млосці абрыдлы голас.

– Слухай, што скажу! – Мамоніха поўніць наваколле шапаценнем капуснага лісця.

Нечакана старая каротка войкае і аціхае. Павалілася, відаць, у ляху. Але праз імгненне зноў шамаціць капуснікам.

– Што скажу... – з астатніх сіл лапоча Мамоніха, і маці з нецярплівасцю азываецца:

– Ну дык кажы ўжо.

– Сучка невельская... цалавалася... – задыхана лапоча пляткарка, і маці з панікай у голасе перапытвае:

– Якая сучка? З кім цалавалася?

– Нявестка-а... Галузіншына-а... з баяністам цалавалася-а, – расцягваючы гукі, тлумачыць Мамоніха. – Да ночы сядзелі каля інтэрната – ён ёй «Ладу» на баяне граў, а потым цалавацца пачалі. Ды не проста так, а ўзасмок!

– А ты бачыла?

– Сама не бачыла, Пятроўна казала. Яна якраз прыйшла «хімікаў» праверыць, а тут такое чыніцца...

Праз пару хвілін старая зноў шамаціць капуснікам. Пабегла да Галузіхі. Паведаміць – якая ў той нягеглая нявестка.

Закідваю рукі за голаў і – каторым ужо разам – згадваю размову дзядзькі Віталя з Аблавухам. Пачуў яе, калі ехалі з высекі. «Ну дзе ты бачыў той народ, за які рупішся? Ты паглядзі на іх твары. Ды гэтыя істоты ўжо згубілі чалавечае аблічча», – казаў тады Аблавух. Хай бы, думаю я, гарадскі госць адвячоркам да Макагонавай хаты падышоў. Вось бы ўбачыў твары! А будзе ахвота – хай бы яшчэ на Мамоніху глянуў. Тая цэлымі днямі бегае па вёсцы ды языком мянціць. Цяпер у Галузішыну нявестку ўчапілася. Ну, цалавалася нявестка з баяністам. І якая каму да таго справа? Але ж не – будзе лётаць ды плявузгаць, пакуль якая новая падзея не надарыцца.

Як я зразумеў са словаў Аблавуха, дзядзька Віталь мог і не патрапіць на «хімію». Трэба было толькі прашэнне напісаць аб памілаванні. Усе напісалі, а ён адмовіўся – і загрымеў на лесасеку. Аблавух яго і дакараў. Маўляў, напісаў бы тую паперчыну ды кінуў ім у пысу. «Зразумей, на волі ты больш патрэбны», – казаў гарадскі госць, а дзядзька Віталь маўчаў і неадрыўна паглядаў на дарогу. Вось каго абраць прэзідэнтам! Іншае б жыццё пачалося. Бацька кажа, лес у Латвію гоняць, нават не распілаваўшы. А распілавалі б – больш грошай атрымалі. А яшчэ і крадуць па дарозе. У дзядзькі Віталя, калі б ён стаў прэзідэнтам, не кралі б. Загадаў бы кожнае бервяно пранумараваць і на пільню завезці. Ну і шынок бы Макагонаў зачыніў бы – гэта ўжо дакладна.

Цэлы дзень ляжаў на сене, чытаў кніжку і ўжо збіраўся спускацца долу, ды на гародзе ізноў зашамацела капуснае лісце.

– Лёшка на хвою палез! – яшчэ ад сярэдзіны гарода загарлала Мамоніха. Голас яе дарэшты асіп ад балбатні і крыку.

– А на якую халеру? – такім жа надрыўным голасам адклікнулася маці.

– Галузіха ў Макагона мабільнік узяла, каб з Пецькам звязацца.

Спускаюся з вышак і пад матчын лямант: «Куды ты, не еўшы!» – выбягаю на вуліцу.

Насупраць Галузішынай хаты стаіць старая, у два абхваты, хвоя. На яе і лезе Лёшка – малады хлопец, які працуе шафёрам у леспрамгасе. На дрэва Лёшка лезе не першым разам. Мабільная сувязь у нас працуе толькі як на верхатуру залезеш. Таму калі якой цётцы трэба пільна ў горад патэлефанаваць, заўсёды Лёшку просяць ці яшчэ каго з маладзейшых – каб залезлі на дрэва ды набралі патрэбны нумар. Нездарма на стаўбуры – ад камля да першых вялікіх сукоў – драўляныя дошчачкі набітыя. Бо проста так на хвою не ўзбярэшся.

Лёшка прымасціўся ў вілаваціне і, паглядаючы ў паперку, набірае

патрэбны нумар. Пад дрэвам стаіць, задзёршы голаў, Галузіха і некалькі вясковых падшывальцаў. Нечакана за спінай маёй рыпаюць штыкеціны – гэта Мамоніха навалілася на плот і, каб лепей чуць, прыклала далонь да вуха.

– Пеця?! Чуеш мяне? – гойкае Лёшка. – Матка просіць, каб ты тэрмінова прыехаў... – хлопец колькі часу сядзіць, прыціснуўшы слухаўку да вуха, нарэшце крычыць долу: – А што здарылася?

Галузіха зацкавана аглядаецца па баках і, склаўшы далоні рупарам, ціпіком прамаўляе:

– Вельмі дрэнна сябе паводзіць.

– А?!

– Вельмі дрэнна сябе паводзіць! – ужо ад душы галёкае Галузіха, і Лёшка голасна паўтарае гэтыя словы.

– Ну, што ён сказаў? – пытаецца Галузіха калі леспрамгасаўскі вадзіла саскочыў на зямлю.

– Заўтра прыедзе, – Лёшка перадае старой мабільнік, але тая, са словамі «Аддасі Макагону», адводзіць руку.

Старая доўга і падслепавата падлічвае грошы, нарэшце аддае іх Лёшку, той з лёгкім падскокам шыбуе па вуліцы, і Галузішыха шамкае яму ўслед:

– Такі малады, а ўжо співаецца.

Цёмнай ноччу ля нашага дома праехаў легкавік. Скрозь сон чуў, як недзе непадалёку брахалі сабакі, рыпалі дзверы, звінела разбітае шкло і працяжна лямантавалі жанчыны. А раніцай, калі сонца пачало прабівацца праз шчыліны старой адрыны, зыркімі палоскамі падсвяціўшы зляжалае сена, на двары ізноў з’явілася Мамоніха.

– Прыехаў, а жонкі няма... Схапіў сякеру і давай па вёсцы гойсаць... А яна ў Пятроўны сядзела – тая ёй на картах варажыла... Ну і стаў да Пятроўны ў хату ламацца... Вакенца выбіў у сенцах...

Я чуў усё гэта спрасонку і, не паспеўшы ўцяміць, хто там і на якую халеру гойсаў па вёсцы, заснуў.

Сёння субота. Усё яшчэ жвавае, але ўжо не гарачае сонца б’е ў вочы, лагодна кранаецца скроні, і такой ціхай вечаровай парой я выпраўляюся ў інтэрнат – да дзядзькі Віталя. Пад кашуляй, каб ніхто не бачыў, у мяне «Гісторыя Беларусі», якую трэба вярнуць гаспадару, а ў руцэ хатуль з тузінам папяровак. Сабраў пад яблыняй, каб пачаставаць «хімікаў».

Каля плота Мамонішынай хаты сабраліся ці не ўсе тутэйшыя цёткі. Абмяркоўваюць учарашняе здарэнне. Як высветлілася, з сякерай па вёсцы гойсаў Пецька Галуза. Прыехаў позна ўвечары з Неўля і шукаў жонку. Думаў, яна мілуецца з баяністам, а тая ў Пятроўны сядзела.

– А далібог, Пецька яшчэ ў маленстве дуракаватым быў, – прамаўляе Нінка-паштарка, а пабачыўшы мяне, лезе ў паштарскую сумку.

– У інтэрнат ідзеш? Перадай пісьмы.

З радасцю перахопліваю пульхнатыя пісьмы і ўважліва разглядаю і нават нюхаю кожнае з іх. Самы прыемны пах у пісьма, адрасаванага латышу. Пахне нейкім замежным мылам. Яно ж і самае прыгожае. А самы важкі – ліст да дзядзькі Віталя. Я яго не толькі з цікавасцю вывучаю, але і спрабую на зуб. Капэрта ўся пакамечаная, і на ёй стаіць штамп «Атрымана ў пашкоджаным выглядзе».

Яшчэ здалёк чую знаёмыя пазыўныя. Радыёстанцыя, якую слухаюць «хімікі», называецца «Свабода» і гучыць з далёкай Прагі. Штовечар, а восьмай гадзіне, дзядзька Віталь выносіць на ганак прымач, выцягвае даўжэзную антэну, і стары «вэф» азываецца кароткім поклічам народнай песні. Баяніст у той момант расцягвае мяхі, сіпатым голасам спявае: «Люблю наш Край, старонку гэту...» – і ўсе, хто сядзіць ля інтэрната, незадаволена шыкаюць. Маўляў, дай навіны паслухаць. Калі-нікалі па радыё згадваюць дзядзьку Віталя, і тады ўсе аціхаюць, а баяніст, паклаўшы рукі на мяхі, ціха і ні да каго не звяртаючыся, прамаўляе: «Такога чалавека ў лес упяклі, сукі».

Вось і цяпер насельнікі інтэрната сядзяць на лаўках каля ганка, моўчкі паляць і слухаюць радыё.

Я перадаю дзядзьку Віталю лісты і той раздае іх адрасатам. Латыш надта здзіўлены, што яму напісалі, таму з недаверам надрывае капэрту, спалоханымі вачыма прабягае першыя радкі. Неўзабаве вочы ягоныя лагаднеюць і нечакана поўняцца слязьмі. Магчыма, у лісце паведамілі пра смерць блізкага, а можа надарылася яшчэ нейкая непрыемнасць. Я кладу перад латышом яблыкі. Мне шкада гэтага самотнага дзядзьку. Да «хімікаў» часцяком наведваюцца родныя ды знаёмцы. І грошы час ад часу па пошце дасылаюць. А да латыша ніхто ніколі не прыязджае, і грошай не шлюць. Ці не таму ў вёсцы нарадзіўся жарт: калі якога безграшовага запрашаюць скінуцца ды пайсці да Макагона, той звычайна адказвае: «У мяне, як у латыша – х... ды душа».

Дзядзька Віталь тым часам адышоў убок і, блукаючы ўздоўж інтэрнацкай сцяны, чытае ліст. Бачна, што ён хвалюецца.

Я падыходжу бліжэй. Дзядзька Віталь на момант уздымае галаву, слізгае па мне невідушчымі вачыма.

– «Духоўнае адраджэнне нацыі за кошт маральнай трываласці асобных патрыётаў на сённяшні дзень немагчыма», – уголас чытае дзядзька Віталь і, звяртаючыся да аўтара ліста, шэпча: – Любую чалавечую загану можна падаць у бліскучай тэарэтычнай абгортцы.

Адно што цямлю з пачутага, гэта тое, што ў лісце напісана не пра родных і блізкіх, і не пра тое, хто там са знаёмцаў ажаніўся ці развёўся, а пра лёс краіны. І я, ціснучыся спінай да сцяны, прагну хутчэй вырасці і таксама стаць апазіцыянерам.

– Зноў ускрывалі, – дзядзька Віталь з невясёлай усмешкай на твары разглядае пакамечаную капэрту.

– Кнігу прынёс, – кажу дзядзьку, выцягнуўшы з-пад кашулі «Гісторыю Беларусі».

– Ну як? Спадабалася?

– Спадабалася! – я частую дзядзьку Віталя папяроўкамі. – Не зразумеў, праўда, чаму раней нашу краіну называлі не Беларуссю, а Вялікім Княствам Літоўскім.

– Таму што гістарычна мы Літва. А Беларусь – так... звонку прыцягнутая назва.

Вось табе і маеш. Аказваецца, наша краіна калісьці называлася Літвой. І ўсё вакол – стаўбуры засохлых яблынь, якія растуць наўзбоч інтэрната, праселыя і ўтравелыя лехі пад імі – пару гадоў таму «хімікі» садзілі там цыбулю, густыя, шэрыя ад пылу елкі, якія падступілі да дарогі, сама дарога і камендантша Пятроўна, якая па ёй шыбуе – усё гэта Літва!

Увечары ем поліўку і, нечакана для сябе самога, пытаюся ў бацькоў:

– А дзе мы жывем?

– Як дзе? – ад нечаканасці маці нават адклала лыжку. – На зямлі...

– І зямля наша Літвой называецца! – выпальваю я, сёрбнуўшы поліўкі.

– Ну ты даеш... Літва чорт ведае дзе, – бацька кіўнуў у бок печкі. – Яна каля Балтыйскага мора. – І потым, адыходзячы ад стала, з дакорлівым смяшком выдыхнуў: – Літва... трэба ж такую лухту прыдумаць.

Макагон яшчэ з учарашняй раніцы з'ехаў у горад, «максімку» не было дзе ўзяць, бацька быў цвярозы, і маці сядзела за сталом шчаслівая.

Усю ноч шалела навальніца. Вецер шпурляў у дах буйныя кроплі і, здавалася, гэта не дождж, а прыхаваны ў цемры град дае волю сваёй прыроднай лютасці. На раніцу навальніцы абрыдла лютаваць і з неба сыпануў дробны грыбасей.

Я гляджу ў вакно. Па мокрай шыбе – павольна і неахвотна – паўзуць дажджавыя кроплі, рупліва абмінаючы плямы брудных пальцаў на адваротным баку шкла. Па небе імкліва ляціць ашмоцце хмар, пагражаючы новай навальніцай, а міма вакна праплывае спавітая поліэтыленавым капюшонам галава Мамоніхі.

– Дык слухай, што скажу! – як заўсёды гучна гукае Мамоніха.

Балаболка, на шчасце, у хату не ідзе – стаіць на ганку, пад капяжом. Заходзіць, відавочна, няма часу – трэба абабегчы суседзяў ды паведаміць навіну.

Пазяхаю, утварыўшы на мокрым шкле запацелую пляму, і наструньваюся.

– Пазіцынер пра нашы парадкі ў газету напісаў. Што лес крадуць і што Макагон усю акругу спаіў, – у звяглівым Мамонішыным голасе ці не ўпершыню гучыць ухвала на адрас «пазіцынера».

– А якая газета? – азываецца са двара маці.

– Я іх, дзякуй богу, не чытаю. Пятроўну зараз пераняла, яна мне і расказала. Так што радуйся, прычыняць Макагона з яго карасінай.

– Як жа... прычыняць. Глядзі, каб таго пазіцынера самога не прычынілі, – маці гучна бразгае вёдрамі і ідзе да калодзежа.

Доўга ўцямліваю пачутае. Дзядзька Віталь, аказваецца, пра нашу вёску ўсяму свету распавёў. І Макагона не пабаяўся, і тых, хто лес крадзе. Бацька казаў, з тымі людзьмі лепш не звязвацца. Забіць могуць. Мне карціць зараз жа пабегчы ў інтэрнат і папрасіць у дзядзькі Віталя газету. Ды куды пойдзеш, калі на вуліцы дождж і маці не выпускае з хаты?

Бацька падымаецца дасвеццем. Я звычайна прачынаюся і слухаю, як ён, пакашліваючы, сёрбае гарбату, потым, гучна пстрыкнуўшы запалкай, прыпальвае цыгарэту, нарэшце бразгае дзвярыма і выпраўляецца на працу. Я ж салодка пазяхаю і куляюся на правы бок – даглядаць не дагледжаныя сны. Вось і цяпер ляжу і слухаю, як бацька – прагна, з адчаем пераводзячы дых, – п'е са слоіка агурочны расол.

– Віталь сёння апошні дзень працуе, – паведамляе бацька, аддыхаўшыся. У іншае месца пераводзяць... Шкада, добры хлопец, – бацька чыркае запалкай, з шумам выпускае дым.

– І, галоўнае, непітушчы, – удакладняе маці, і бацька, штосьці незадаволена буркнуўшы, падаецца з хаты.

Як пераводзяць? Куды? Я ліхаманкава ўяўляю тых змрочных людзей, якія паслалі дзядзьку Віталя на лесараспрацоўкі, а цяпер, пабачыўшы, што апазіцыянер уведаў, хто крадзе лес, – выпраўляюць у іншую мясціну.

Страшныя людзі. Такія ж, відаць, сволачы, як Макагон. Нядаўна, у размове з латышом, дзядзька Віталь сказаў, што яму не дае спакою дзіўнае адчуванне. Адчуванне таго, што на нашай зямлі пануе нейкая гадзіна – тая самая, якая перайменавала нас з ліцвінаў у беларусы, пазабівала нашых лепшых людзей, а цяпер спойвае тых, якія яшчэ засталіся, «максімкай» ды іншай брыдою. Згадваю тыя словы і з адчаем хаваю галаву ў падушку.

Адвячоркам, набраўшы па старой завядзёнцы папяровак, шыбую да інтэрната. Трэба ж развітацца з дзядзькам Віталем.

Ля Мамонішынай хаты, як заўсёды, стаіць купка цётак. Прыспешваю крок, каб іх абмінуць, і ў гэты момант Мамоніха крычыць мне ўслед:

– Ну не бяжы ты ўжо так. З’ехаў твой сябручок.

– Як з’ехаў? Куды? – уражана пытаюся ў цётак.

– Не дакладваў, – уключаецца ў размову камендантша Пятроўна. – Ты, малец, лепш з нармальнымі людзьмі сябруй, а не з «хімікамі». Навучышся ад іх розных паскудстваў ды сам няўрокам у калонію патрапіш.

«Хто нармальныя людзі? Вы з Мамоніхай?» – думаю я, са злосцю паглядаючы на камендантшу.

Усё ж такі вырашыў спраўдзіць – ці сапраўды дзядзька Віталь з’ехаў. Бо Мамонісе з Пятроўнай нельга даваць веры.

На ганку сядзіць латыш, паліць цыгарэту і, калі я падыходжу бліжэй, зморана выдыхае:

– Паехаў. У іншым месцы будзе тэрмін адбываць.

Я моўчкі ссыпаю яблыкі на ганак і чую далёкі матчын вокліч: маці стаіць каля весніц, махае мне рукой, а потым тыцкае пальцам у дальні канец вуліцы.

...Поруч з Макагонавай хатай усё адно як надарыўся бой. Ігнацёнак ляжыць, раскінуўшы рукі. Лёшка стаіць вокраччу і ванітуе. Яшчэ нехта ляжыць у прыдарожнай яме, наставіўшы ўгору балотнікі. А бацька сядзіць, абхапіўшы галаву, на цюльпаку, і штосьці няўцямна мармыча сабе пад нос. Макагонавая карасіна і сапраўды добра б’е ў галаву: нядаўна скончылася змена, а ўсе ўжо дарэшты ўпітыя.

– Уставай, – кажа маці, тузае бацьку за рукаво, але той рашуча і са злосцю адмахваецца.

Маці пакутліва ўсхліпвае, выцірае рукавом вочы.

Мне ўжо і раней даводзілася цягнуць бацьку дахаты, таму ўскідваю бацькаву руку на шыю і выпроствают. Бацька з цяжкасцю падымаецца. Хістаючыся на бакі, ідзем па вуліцы.

– Каб ты спрах са сваёй гарэлкай! – плаксіва выдыхае маці, тупаючы следам, і бацька спрабуе павярнуць галаву.

– Пайшлі, пайшлі, – кажу, папраўляючы на карку млявую бацькаву руку.

Уваходзячы на кухню, чапляемся за парог і ляцім на падлогу. Маці спрабуе падняць бацьку, і той, злавесна гыркнуўшы, наводліў пляскае далонню па матчыным твары.

– Не бі маму! – крычу я і змаўкаю, адчуўшы ўдар у нос.

Дагэтуль бацька ніколі мяне не біў, а цяпер вось ударыў, і я, расцёршы гарачую юшку, плачу – не столькі ад болю, колькі ад пякучай крыўды.

Шморгаючы разбітым носам, выбягаю на вуліцу і заплаканымі вачыма бачу, як хтосьці рухаецца па дарозе. Ну вядома, гэта Ваўчок клыпае насустрач. Нехта перабіў яму заднюю лапу. Зрэшты, чаму нехта? Вядома, хто – Макагон! Апівуды пакідаюць на бярвенні рэшткі закускі – сабакі і

збіраюцца там, каб перахапіць чаго на зуб. Сам бачыў, як Макагон кідаў у сабак паленам.

ЛашчуВаўчка гарачай рукою і заўважаю ў сабачых вачах слёзы.

За спінай маёй надрыўна гудзе легкавік: Макагон выпраўляецца ў горад на сваім дабітым «фордзе».

Сыходжу з дарогі, Ваўчок клыпае следам, ды надта павольна, на трох лапах, і Макагон, паддаўшы газу, едзе проста на сабаку. У апошні момант няшчасны цюцька скочваецца ў прыдарожную канаву, ціснецца аблезлай гагавіцай да плота. Дыхнуўшы выхлапным смуродам, легкавік праязджае ў лічаных сантыметрах ад мяне, я пляскаюся на азадак і, пазіраючы ўслед машыне, сціскаю правай рукой жменю сухой зямлі.

Рэшту дня ляжаў на вышках і не спускаўся адтуль нават на вячэру. Маці два разы падымалася па драбінах – першы раз прыносіла паесці гарачай бульбы і прасіла даравацъ бацьку, а другім разам паклала мне на лоб далонь і прашаптала: «Ці не захварэў ты, братка?» Мяне і сапраўды даймалі дрыжыкі, і я ляжаў, з галавой накрыўшыся коўдрай.

Яшчэ ніколі ў жыцці так не чакаў ночы. Шчыліны між дошак адрыны цямнелі занадта павольна, а навакольныя гукі не жадалі аціхаць. Натужліва рыкала Галузішына карова, граў баян ля інтэрната, дробна стукаў сякач у ночвах – хтосьці з суседзяў сек парсюку бацвінне, і дзесьці на другім канцы вёскі зацята лескатаў матацыкл.

У трывожным чаканні я забыўся... не, не сном... проста цяжкая дрымота навалілася на мяне, і калі ачуўся, навокал ужо было цёмна, і знадворку адно спявалі конікі, ды нейкая начная птушка раз-пораз гракала каля станцыі.

Пара!

Асцярожна, на нягнуткіх нагах, злажу з вышак і запіхваю пад кашулю сухі мох, гара якога ляжыць ля драбінаў. Летась бацька хацеў перабіраць падгнілыя вянцы ў хаце і набраў у лесе моху, але так нічога і не зрабіў.

Сагнуўшыся, як той жаўнер у час артналёту, бягу ў канец агародаў. Сэрца маё б'е ў вушы, заглушае навакольныя зыкі. На Галузішынай верандзе запальваецца святло, хтосьці выходзіць на ганак, і я сцішваюся ў бульбяной разоры. Ляжу без дыху і, толькі калі ў хаце грукаюць дзверы і святло патухае, паўзу на каленях у бок Макагонавай хаты.

Каля сцяны грувасціцца клад бярозавых дроў. Запіхваю між палення сухі мох і чыркаю запалкай. Кволы агеньчык кранаецца імху, паўзе ўгору, а, наткнуўшыся на бярэсту, успыхвае зыркім жоўтым агнём.

Не адчуваючы пад сабою ног, на злом галавы бягу да сваёй хаты. Узлятаючы па драбінах, балюча б'юся каленам ад папярочку і бачу на шатах яблынь, што растуць каля адрыны, злавесную палымніцу.

З галавой падбіваюся пад коўдру і дзіўлюся – як гэта сэрца яшчэ не выскачыла з грудзіны – так адчайна яно калоціцца. Яшчэ імгненне, і ў вёсцы з адчаем забрэшуць сабакі, забразгаюць вёдры, нема загарлае Мамоніха. Вяскоўцы пабягуць на пажар, як на свята. Нават старыя бабулі прывалакуцца. Макагонаў дом будзе гарэць па-святочнаму, зыркім агнём асвяціўшы нашу глухамань і кідаючы ў неба памаранчава-вогненныя вужакі. Цісну далонь да таго месца, дзе грукае сэрца, і даю сабе зарок: як вырасту, абавязкова паквітаюся з тымі, хто ўпёк на «хімію» дзядзьку Віталя.



Вольга Гапеева



...я абіраю

мову...

# Маўчанне

* * *

учэпістым лапкам самае месца
на каваных парэнчах гаўбца
схапіцца штомоцы і з кожнаю хвіляй даваць зразумець
што цяпер
давяраеш
пагойдвацца
          і бачыць што
быць супраць ветру – прыгожа
     ускудлачана пер'е колеру крэсак алоўка
     упярэмешку з колерам валуна злепленага
                                        vajarka'й
     на ўскрайку мястэчка дзе толькі чорныя горы
пагойдвацца
у такт тралейбуснага сапрана

[1] Vajarka – з чарнагорскай мовы "скульптарка".

і ўзгадваць што старыя трамваі спявалі аднак душэўней
хаця ў гэтым горадзе іх ніколі і не было
затое былі каханкі
цяпер яны разам з трамваямі
спяць у іншых краінах
а гэтым учэпістым лапкам
самае месца тут
на гаўбцы той што нарэшце здолее іх палюбіць
не праз танклявасць або сілуэтнасць
але праз гук несамоты
які абвяшчае прыбыццё птушынага госця
яна будзе любіць кароткія пёры ўлетку
і троху даўжэйшыя ўзімку
захапляцца спрытнай няўклюдай
і абавязкова казаць пра гэта ўголас
бо іначай птушкі не разумеюць
яны не чытаюць думак
праўда ведаюць розныя мовы
сярод якіх і чалавечая
але з птушкамі рэдка вядуць размовы
больш слухаюць іхнія спевы, фатаграфуюць,
трымаюць у клетках, палююць
і хочацца тады птушкам забыцца на мову людзей
маўчаць і чакаць на паэтку
бо ў кожнага паэта ёсць свая птушка
крумкач, голуб, кірля, бывае яшчэ сарока
хаця сярод птушак бытуе павер'е
быццам у кожнай птушкі ёсць свой паэт
ці паэтка
што бы анёл-абаронца
піша і піша пра іх свае вершы
а птушкі думаюць што гэта малітвы
і паўтараюць штодня
а некаторыя нават штоночы
спадзеючыся што можа хоць так
іх пачуе
дурны
ашалелы
непрадказальны
бескампрамісны
птушыны
лёс

* * *

прачынаюся па чужым будзільніку
перапісваю чужыя тэксты
думаю пра чужых нябожчыкаў

сустракаюся з чужымі сябрамі
размаўляю на чужых мовах
фатаграфуюся з чужымі дзецьмі
пешчу чужых катоў
жыву ў нічыйных пакоях
чытаю нічыйныя кніжкі
ем нічыйным відэльцам
рэжу нічыйным нажом
сплю пад нічыйнымі коўдрамі
так я вучуся быць госцяй
у гэтым чужым і нічыйным свеце
і калі мяне потым папросяць
я нарэшце сваёю памру смерцю

* * *

м а ў ч а н н е

пакой куды садзяць і не пытаюцца ці там зручна

м а ў ч а н н е

выстаўленне уладных межаў і іх добрае дбанне

м а ў ч а н н е

стратэгія хворых, дзяцей і вар'ятаў

м а ў ч а н н е

пакаранне без выстаўлення даты смяротнага пакарання

м а ў ч а н н е

выкрэслівае ўсё са спісу жывых

м а ў ч а н н е

здрада таму пякельнае але пустое

м а ў ч а н н е

для паэткі што для верніка адлучэнне

м а ў ч а н н е

я абіраю мову

* * *

*Хіле, Кім, Нурдуран, Ліндзе, Крысціне, Марыі, Мод*

калі пяць жанчын чытаюць са сцэны свае вершы
шостая сядзіць праваруч
сёмая наперадзе
я нарэшце адчуваю сябе ў бяспецы
і што гэтая выпадковасць не выпадковасць зусім
а доўгая балючая праца стагоддзямі тых хто верылі ў сябе
калі не верыў ніхто
і гэты ніхто дагэтуль сядзіць сярод нас
але нас ужо восем
і мне не вусцішна
болей

* * *

паветраны змей і птушка сустрэліся неяк у небе
каля воблака нумар пяць
птушка падумала – вось ён мой альтэр эга
а паветраны змей сказаў што не ведае птушку
хаця
яны лёталі разам ужо цэлы дзень – думала птушка
усяго толькі дзень – думаў змей
але запрасіў-такі птушку на сваю палову неба,
пазнаёміў з сябрамі
і ў адказ
птушка запрасіла змея на сваю палову неба
але на 600 кіламетраў не хапіла вяроўкі
і птушка сказала давай я дзюбай яе разаб’ю
паветраны змей не згадзіўся, сказаў мы не выбіраем
да каго быць прывязаным
і зваліўся да ног сваёй гаспадыні
калі сціх вецер

* * *

чарговы ліст ад цябе атрымала сёння
чытала яго на гаўбцы, хоць і без каваных парэнчаў
калі адкрывала канверт з надзеяй падумала
што гэта апошні твой ліст з такім адваротным адрасам
яшчэ падумала што час існуе незалежна
ад цябе ад мяне і ад нашых аб ім уяўленнях
бывае нясецца і за дзень тады пражываю
тры дні тваіх, а бывае некаторыя даты
зусім выпадаюць і дзіўны такі каляндар вымалёўваецца раптам
хаця лічбы і числы – гэта асобны тэмат для размовы...

яшчэ ты пытаўся пра лёс,
таксама няпроста,
напэўна мне цяжка абраць адно для яго вызначэнне
надоечы чула досыць трапную фразу
што лёс – гэта не тое, што з табою здараецца
а тое што думаеш, што з табой адбываецца
значыцца лёс – адказнасць перад сабою

якія навіны? ды асабліва ніякіх:
раблю пераклады, нешта чытаю, нафарбавала пазногці
хачу вывезці ровар свой на шпацырку
праўда то халадно, то яшчэ якая халера
вучуся не падпускаць кепскія думкі
спрабую сябе зразумець і часам – іншых
намагаюся ўсвядоміць свае жаданні
бо як высветлілася дагэтуль жыла без іх я
кіравалася жаданнямі іншых
ігнаравала сябе
як вынік – стаю пасярод нейкага поля
што за яно? навошта я тут? і куды мне падацца?
усё ж галоўнае ў жыцці чалавека
гэта яна сама
шкада што не даведалася пра гэта раней
хаця з іншага боку лепш цяпер чым ніколі
так што галоўнае, каб у згодзе з сабой, астатняе – як давядзецца

ты пісаў што неяк праз дождж адмовіўся ад шпацыркі
захацелася перадаць дажджавік або парасончык
штось падказвае, аднак, што іх не прапусцяць
ну і ладна, перададзім тады лепш чакалядку

пайду патэлефаную стэфе
і буду працаваць далей
на завяршэнне наконт ліставання
яшчэ адно невялічкае назіранне
лісты напісаныя зранку
адрозніваюцца ад вечаровых
напэўна, як і размовы
двух непадобных людзей

* * *

спраўджваю фіялку
ці супадае ейны колер
з колерам бэзу што квітнеў калісь ля майго дома
даведнік усё ўскладняе
дадаючы лаванду і фуксію

у гэтай кветкавай разнастайнасці
перакладаю твой верш

усё што адбываецца з намі – словы
усё чым мы ёсць адна для адной – вершы

і калі я пішу гэты радок мой лятак выпускае шасі
а ты пайшла на шпацыр у парк
і ў нашых пакоях сталы з разгорнутымі нататнікамі
памаранчавым і чорным
у прадчуванні нас, нашых целаў і колерных
каардынатаў
сумных і сухіх
як размовы пасля таго як ты аднойчы сказала што
сябрам мне быць не хочаш

## *ПАЭМА "ЗНАКІ"*

### *1.*

забабонамі поўніцца свет
і мая галава час ад часу
гарадскі дзіцячы фальклор
мяшаецца са спрадвечным вясковым

мой каханы ў адчаі чытае свой гараскоп
на год
ён стаміўся ад хворых і як сапраўдны паэт
шукае паратунку ў словах

чым гараскоп не паэзія?

усё залежыць ад інтанацыі
але вымаўленне ніяк не даецца майму каханаму
таму ён верны служка пані тэорыі і грэбуе
практыкай

перакатвае мяне ў сваім роце
не разумеючы куды зрабіць націск
каб я загучала так як магу

хаця ўсё гэта адбудзецца потым

цяпер мой каханы пакуль не мой і не каханы
а разгублены леў сярод катоў, галубоў і кніжак
з адчуваннем вяроўкі на шыі
ён чытае свой гараскоп

***2.***

першы дзень у горадзе
намацваю свае клапаны звяраю гадзіннік
вакол задуменныя людзі стомленыя савецкім стэрэатыпам
неяк сяброўка сказала, што гэта краіна бы тая путана
можа прапанаваць адно – віно і каханне
а што яшчэ трэба паэткам
хіба каліва сну і добрыя вершы
раз-пораз і кепскія
жарты, грошы і новыя мовы

***3.***

сёння ў банку незвычайна натхнёна
паэткі, паэты запаўняюць паперы
колькі вы атрымліваеце на год у лары?
які адсотак падатку вылічваецца з даходу?
паэты пыхцяць
паэткі ўздыхаюць
чарговым разам усведамляюць сваю іншавасць
або іншавасць анкетаў складзеных для незвычайных людзей
якія ведаюць пра падаткі і даходы
яны – богі рэальнасці і рацыянальнасці

***4.***

трэці дзень на грузінска-эстонскай мяжы
захад і ўсход
зменяцца на поўдзень і поўнач
гэта апошні пункт прызначэння – марыла я
іншых кірункаў свету пакуль не прыдумалі
можа прыдумаю я?

***5.***

веданне памнажае смутак
а яшчэ падказвае мытнікам дзе схаваная халодная зброя
пальчаткі гумовыя трыбушаць мой заплечнік
сурвэткі, цукеркі, пігулкі, пракладкі, алей, крэм,
пігулкі, грабеньчык, пігулкі, флэшкі, аловак, асадкі,
рулетка, пігулкі і гаманцы

а трэцяй ночы
а трэцяй раніцы
усё так адносна
адносна мовы
на якой мы прызнаемся ў каханні
адно да адное
але гэта не лічыцца

гэта як пабрацца шлюбам у лас-вегасе
калі мова – нейтральная тэрыторыя
мы ўдаём іншых сябе а можа і самых сапраўдных
нашы летакі стаяць побач, адпраўляюцца ж у розных кірунках
ягоны – на паўгадзіны раней

ах, пенелопа, чаму ты не з'ехала першай

### *6.*

*for many happy years together*
надпіс на ўкладанні скрынкі

вось мой абраны мой нарачоны
цяпер мы разам і назаўсёды
умее ён лашчыць скуру маю як ніхто не ўмее
маланкаю пралятае па целе
мой верны сябра здраджвае толькі аднойчы
калі сточваецца клінок
тады ніяк мне не распрануцца
але нездарма ж я – кандыдатка навук
ведаю як на ім завастрыць рашучасць
і тады мы зноў будзем разам
танчыць удвох
мой сцізорык і я

### *7.*

чорны сабака пачынае са смерці ўласнай
ахвяруючы галавой
прачынаюся
думаю
кепскі знак і не кажыце мне што  ва ўсім ёсць добрае нешта
што добрага ў адрэзанай галаве бязвіннай істоты
гэта урок, экзамен – шапочуць вакол галасы
але жыццё – тэатр, не школа,
здаецца так нам казалі

мой каханы сядзіць на ўскрайку ложка
а я на ўскрайку сябе гатовая скасаваць усе межы
звольніць усіх мытнікаў
ніякіх візаў уздоўж майго цела і больш тонкіх матэрый
канешне ж гэта захворванне
нават жэле мае межы

жэле
je lait
je l'air
je le

дзяўчына-жэле
дзяўчына-вяроўка
дзяўчына-цень

***8.***

сярод усіх нармальных
мы самыя ненармальныя
сярод усіх ненармальных
мы самыя нармальныя

***9.***

*It's so easy to love you*

і таму што? нецікава? вусцішна? нязвыкла?
немагчыма? банальна? сорамна? сумна? балюча?
не балюча? а хочацца каб балела? каб крывяніла
і не загойвалася? каб свідравала і пазбаўляла сну?
бо барацьба, бо сэнс нейкі, бо так зразумела
і звыкла? бо так вучылі? бо іншага і не ведаў?

тое што лёгка прыняць складана

не змог

***10.***

*It all went wrong*

цяпер мой каханы болей не мой
і не каханы

цяпер
ёсць толькі цяпер

Анатоль Разановіч



...жабчыны лапкі
нагадвалі курынае мяса...

# Сезон пралесак

***Урывак з рамана***

## Частка першая

### I

Над вялікай палескай вёскай Бабровая Затока, дзе Антон Апанскі гасцяваў у дзеда Сцяпана і бабы Ганны, няспешна ўставала сонца. Яго прамяні, пазалаціўшы смугу туману, ліплі да дахаў дамоў, скакалі на электрычных дратах, танулі ў рацэ Гарынь. Вада ў ёй за апошнія суткі паднялася болей чым на паўтара метра і выходзіла са сваіх берагоў. Лёд на рацэ са скрыпам трашчаў і пачынаў калоцца па краях.

«Цяпер пачнецца», – падумалася Антону.

Стоячы на беразе ў лёгкай куртцы з капюшонам, ён сцепануўся ад халоднага, парывістага ветру.

«Цяпер...»

Праз колькі хвілінаў лёд на сярэдзіне ракі задрыжаў. Ва ўсе канцы пайшлі па ім расколіны. З іх адразу ж хлынула вада. Яшчэ нядаўна моцны лядовы панцыр, які цяжка і трывала накрываў раку, ператварыўся ў дзясяткі, сотні, а потым і ў тысячы крыг. Вялікіх, малых, зусім маленечкіх. Яны напіралі адна на другую, ламаліся і крышыліся. Падхопленыя плынню, крыгі спачатку павольна, а потым усё хутчэй панесліся ўніз па бурлівай рацэ.

– Давай, давай! – крыкнуў нехта з разявак, што стаялі на беразе.

– Давай! – узбуджана паўтарыў Антон, як быццам падганяючы крыгі.

Гэтае ўзбуджэнне ў ім нарастала. Яму захацелася скочыць на адну з крыг і таксама панесціся ўніз па плыні, удыхаючы ў сябе вільготны вецер. Гэтая нечаканая думка тут жа набыла матэрыяльную аснову, калі Антон убачыў вялікую драўляную лодку, нядбайна прывязаную гаспадаром вяроўкай да штакеціны плота, пад якім калыхалася веснавая вада. Антон кінуўся да пласкадонкі, адвязаў, жвава ўскочыў у яе, падхапіў вясло, якое ляжала на дне, і накіраваў лодку да ракі. Хуткая плынь добразычліва прыняла лёгкую, вастраносую лодку, яна прыстроілася да крыг і рушыла разам з імі на раку Прыпяць.

Нейкі час, падстаўляючы свой разгарачаны твар ветру, Антон атрымліваў асалоду ад свабоды і прастору. Але калі ўбачыў, што ўсё далей адплывае ад берага, спалохаўся і паспрабаваў спыніць лодку, павярнуць яе ў адваротны бок. Вяслом Антон учапіўся за бліжэйшую крыгу. Гэта было лёгка зрабіць: верх крыгі быў пакрыты наздраватымі ямкамі. У адну з іх вясло ўвайшло лёгка і затрымалася.

На жаль, радасць яго была заўчаснай. У крыгу з вяслом стукнулася іншая крыга, якая была буйней і цяжэй. У той жа момант вясло выскачыла з рук Антона, захісталася, павольна ўпала ў ваду і панеслася, як трэска, паміж крыг. Цяпер лодка падпарадкоўвалася не Антону, а плыні, крыгам і ветру. Да таго ж пачало псавацца надвор'е: вецер узмацніўся, стаў калючым і пранізлівым; у небе пачалі брыняць хмары, яно пацямнела.

«Будзе дождж ці нават снег», – зразумеў Антон, нацягваючы капюшон курткі на галаву.

Але на яго пасыпаўся дробны і ліпкі град.

Антон стаў рыхтавацца да горшага. Але не паспеў ён зашпіліць у куртцы верхні гузік, як на шляху пласкадонкі з'явілася велізарная крыга. Здавалася, яна не ведала куды плыць і спынілася, каб агледзецца і выбраць сабе далейшы курс. Нос лодкі наехаў на крыгу, рушыў па ёй далей, а потым на некалькі секунд застыў на адным месцы. Антон хацеў быў выскачыць з лодкі на крыгу, якая была метраў дванаццаць у даўжыню і каля васьмі ў шырыню. Але паверхня крыгі была падобнай на снежна-ледзяны кісель, які аддаваў нядобрай сінечай. Ступіш ў яго і не заўважыш, як праваліўся пад ваду, адкуль выбрацца ў цяжкай вопратцы будзе няпроста, калі наогул магчыма.

«Не...»

Антон падаўся назад, сеў на борт лодкі. Яна нахілілася, і яе нос пачаў спаўзаць з крыгі. Антон азірнуўся. Бабровая Затока была ўжо далёка ззаду. Яму стала так сумна, што хоць плач.

«Паплаваў... З ветрыкам...»

Антон раскайваўся ў сваім неразумным учынку. Але што зроблена, тое зроблена – час назад не павернеш...

– Дурань, – абазваў ён сябе.

У яго галаве заварочаліся дурныя думкі: «А што, калі мяне панясе за дзясяткі кіламетраў ад Бабровай Затокі?..»

На нейкі час Антон перастаў рэагаваць на ўсё, што было вакол яго. Яму было ўсё адно. Свет у вачах пацямнеў, стаў растварацца, а замест яго вакол закалыхаўся туман. Ён быў такім белым і шчыльным, быццам гэта малако разлілося, а потым разляцелася ў прасторы.

«Вось бы выпіць малака...»

Гэтае нечаканае жаданне было невыканальным, але настолькі моцным, што Антон адчуў сапраўдную смагу. Яна сушыла яму рот, нутро, нават скуру. Твар у яго пачырванеў, вусны высахлі.

Каб здаволіць смагу, ён зачарпнуў далонню вады з ракі і выпіў. Яна была халоднай і нясмачнай. Да таго ж аддавала балотам. І ўсё ж яна асвяжыла Антона, а галоўнае – супакоіла. Ён убачыў, што знаходзіцца далёка ад вёскі. Так далёка, што ўгадваліся толькі яе абрысы.

«Што думаюць дзед з бабай?..»

Па рацэ павольна плыў лёд. Месцамі з вады падымаліся дрэвы і хмызнякі. У іх раз-пораз ўпіраліся невялікія крыгі, на імгненне спынялі свой ход, потым, абыходзячы перашкоды, плылі далей.

Прайшла хвіліна, дваццаць хвілін, гадзіна, паўтары гадзіны, але нічога ў прыродзе не змянілася. Хмурная карціна паводкі была ўсё тая ж. Гэта спалохала Антона. І палохала больш, чым яго думкі пра ўласную гібель.

Антон стаў халаднець, а дакладней – мерзнуць. Пальцы на нагах Антона зрабіліся драўлянымі, а пальцы рук не жадалі згінацца ў кулакі.

«Як жа я вазьму выліўку змёрзлымі пальцамі, калі ў лодку пачне прасочвацца вада?» – задаў Антон сабе простае пытанне, але нічога не адказаў. Толькі паглядзеў на алюмініевую міску, якая на судне служыла выліўкай. Міска – адзінае, што мелася ў лодцы, не лічачы невялікага кавалка вяроўкі. Яшчэ ў Антона былі запалкі, усяго пяць штук. З ежы ў кішэні курткі ляжала толькі шакаладная цукерка.

– Гэй, гэй! – закрычаў Антон што было сілы.

Закрычаў не таму, што ўбачыў кагосьці з людзей, а каб хоць неяк падтрымаць сябе.

У адказ яму пачулася глухое рэха:

– Гэ-эй!..

Накрычаўшыся, ён задраў галаву ўверх і заплюшчыў вочы. Удыхаючы сырое паветра, Антон спрабаваў асэнсаваць, што яму рабіць далей. Але нічога ў яго галаву не прыходзіла. Праўда, надзея ў ім усё ж цеплілася. Гэту надзею давала плынь вады, якая павінна была аднесці Антона да берага. Пакуль ён гэты бераг не бачыў, але разумеў, што знаходзіцца не ў моры, а на паводкавай вадзе, пад якой сям-там бачыцца дно. Значыць, шанцы адчуць неўзабаве пад нагамі цвёрдую зямлю ёсць.

– Ёсць! – не зусім упэўнена прамовіў Антон і раптам убачыў наперадзе невыразныя абрысы нейкага паселішча.

Схапіўшы міску, ён пачаў грэбці ёю, паварочваючы нос свайго судна да меркаванага людскога жытла. Аднак лодка працягвала плыць сярод крыг, якія плынь упарта несла толькі ў адзін бок – туды, дзе яшчэ больш вады, прасторы, прыроднай неўтаймаванай сілы.

– У-у-у... – нешта падобнае на стогн і адначасова на выццё вырвалася з Антона.

«Нават мабільны тэлефон не ўзяў, – пашкадаваў ён, не жадаючы мірыцца са сваёй доляй. – Цяпер давядзецца расплочвацца за сваю безгаловасць...»

Антон скрыжаваў пальцы рук, паднёс да твару, нібы збіраўся памаліцца. У гэты час пласкадонка раптам пачала паварочвацца і паплыла направа. Антон зразумеў, што яна трапіла ў вір, але па інерцыі, ужо няўпэўнена, працягвае трымаць ранейшы курс. Дзякуючы віру, лодка апынулася ў густым, высокім хмызняку. Антон схапіўся за галіны і прывязаў лодку да маладой, але дастаткова трывалай алешыны, якая расла сярод хмызняку.

«Трэба менавіта тут чакаць дапамогі, – зразумеў Антон. – Плыць па плыні далей небяспечна...»

Між тым набліжаўся вечар. Пацягнула холадам. Ён рабіўся ўсё мацней, нібы была не вясна, а позняя восень. Антон замерз, хацелася есці. Можна было часткова здаволіць голад адзінай шакаладнай цукеркай, што знайшлася ў кішэні, але Антон, хутчэй падсвядома, бярог яе: раптам яму давядзецца прабыць тут ноч, а затым і наступны дзень?..

– Нічога, нічога, – супакойваў ён сябе.

Ноч яго застала ў кустах, паміж якіх паводкавая вада значна павольней, чым на адкрытай мясцовасці, неслася ўніз. Антон наламаў дробных галінак, расклаў на дне лодкі, лёг на іх. Нават часткай накрыўся, але заснуць не змог. Ляжаў на спіне, глядзеў у неба. Яно ж, здавалася, прыглядалася да чалавека, які адзінока ляжыць у пласкадонцы, якая бездапаможна пагойдваецца сярод вялікай вады.

## II

Світанак надышоў нечакана. Антон знаходзіўся ў тым стане, калі дрымота пераходзіла ў сон, а сон у дрымоту. У нейкае імгненне Антону падалося, што ён растварыўся ў навакольным свеце, як туман. Замест рэальнай карціны Антон бачыў нешта вялікае і празрыстае. Яно калыхалася, падымалася ўгару. Сабраўшыся з сіламі, Антон прыўзняў галаву і адчуў, што ў твар яму закалола нечым вострым. Гэта былі галінкі, якімі ён уначы асцярожна, па-над капюшонам курткі, прыкрыў галаву, думаючы, што так будзе цяплей. На галінках блішчэла вада. Скінуўшы галінкі, Антон убачыў сонца. Яно было вялікім, але бледным, чымсьці падобным на месяцовы дыск. Ад яго зыходзіў супакой. Але не жыццесцвярджальны, а зусім іншы – нейкі нежывы, які нагадвае магільны. Некалькі хвілін Антон ўбіраў у сябе гэты змрочны і невытлумачальны супакой, але раптам адчуў, што дыхаць яму стала цяжка – горла як быццам сціснулася. Баючыся задыхнуцца, Антон адкашляўся. Разам з кашлем з яго вырваўся стогн:

– О-ох!..

Стогн азваўся слабым рэхам. Яно на нейкі час нібы застыла ў паветры, не жадаючы растварацца, прападаць...

«Што такое?»

У галаве Антона раптам нешта ўспыхнула. І ў тую ж секунду да яго вярнулася ўсведамленне таго, што адбываецца. Праўда, настрой ад гэтага не палепшыўся: Антон зразумеў, што ён па-ранейшаму адзін пасярод паводкавай ракі. Антон міжвольна ўтаропіўся ў дно лодкі. Па ім перакочваліся невялікія лужынкі вады. Гэта азначала, што пласкадонка працякае. Праўда, цеча нязначная, ледзь прыкметная, але хто ведае, што можа быць далей.

– Чорт пабяры, – выціснуў з сябе Антон.

Дыск сонца між тым прыкметна пасвятлеў. Гарызонт аддаліўся, але ў той жа час стаў лепш бачным. Да яго, далёкага і невядомага, распасціралася цёмная сінеча вады. На ёй вылучалася галіністая алешына, якую, хутчэй за ўсё, збіла крыга. Бліжэй да берага вада была жаўтлявая, з бруднай пенай на хвалях і смеццем – мінулагодняй травой, зламанымі галінкамі, карой дрэў. На паверхні вады, у двух метрах ад лодкі, уверх жыватом плаваў дохлы лінь. Яго залатая афарбоўка ўжо страціла сваю яркасць і ўсё больш налівалася шэрай фарбай. Па ўсім, лінь так плаваў не першы дзень.

Адвярнуўшыся ад здохлай рыбіны, Антон ўтаропіўся ў каламутную далеч, спрабуючы зразумець, колькі кіламетраў аддзяляе яго ад сушы. Але як ён ні напружваў зрок, меркаванага берага не бачыў.

«Трэба плыць у адным кірунку, – вырашыў Антон. – Я не на моры. Значыць, хутка ступлю на зямлю...»

Спаласнуўшы твар халоднай вадой, ён выламаў палку і пачаў грэбці ёю, быццам вяслом, накіроўваючы лодку да далягляду. Гэта было няпроста: палка нешырока захоплівала ваду, таму рухалася пласкадонка павольна і няроўна. Да таго ж, натыкаючыся нават на невялікія крыгі, яна спынялася, мяняла курс. Антон цярпліва выраўноўваў сваё судна і працягваў весці яго ранейшым курсам – у кірунку сонца. Нарэшце, удалечыні паказаўся лес. Гэта ўзрадавала Антона. Ён з новай сілай стаў грэбці. Але яго чакала неспадзеўка: лес стаяў у вадзе. Яна амаль на чвэрць хавала ў сабе ствалы дрэў і цалкам пакрывала сабой дробны хмызняк. Крыўда, боль, расчараванне...

«Яшчэ крыху і я страчу розум...»

– Эгэ-гэй! – закрычаў ён, каб не расслабіцца.

У адказ яму пачулася толькі глухое рэха.

«Дзе я? – задаўся трывожным і страшным для яго пытаннем Антон. – Дзе?..»

Ён разумеў, што адказу тут на яго не атрымае: вакол затоплены лес, уверсе хмурнае, закрытае цяжкімі аблокамі неба.

«Прыплыў...»

Ужо няўважліва і неяк мітусліва агледзеўшыся, Антон сеў на карму лодкі, абхапіў галаву рукамі і асуджана прамовіў:

– Усё... – Яму ўспомніўся здохлы лінь. На яго месцы Антон уявіў сябе – безжыццёвага, жыватом уверх.

– Не!..

Антон, не заўважаючы таго, размаўляў сам з сабой.

– Не, – паўтарыў ён. – Я вярнуся ў Бабровую Затоку, вярнуся дадому...

Пашукаўшы вачыма палку, Антон схапіў яе і накіраваў лодку ўглыб лесу – далей ад царства веснавых вод, якія разліліся на сотні кіламетраў у даўжыню і на дзясяткі ў шырыню. Прыкладна праз гадзіну Антон адчуў, што палка пачала дставаць дно. Праўда, яно было нейкім мяккім. Але ў той жа час дно як быццам прыліпала да палкі і не хацела яе адпускаць ад сябе.

«Дзіўна, – падумаў Антон. – Можа, гэта мне здаецца...»

Спыніўшы лодку, ён паспрабаваў уторкнуць палку ў грунт пад тоўшчай вады. Палка ўвайшла ў яго адносна лёгка, без асаблівых высілкаў.

«Гэта балота, – зразумеў Антон. – Трэба плыць далей. Далей...»

Суша з'явілася зусім нечакана. Яна паўкругам ўзвышалася над вадой, сыходзячы ў гушчар.

– Зямля, – прашаптаў Антон.

Ён не выйшаў, а выскачыў з лодкі, у надзеі ўбачыць непадалёк вёску ці хаця б хутар. Але ўбачыў перад сабой паваленае дрэва, вершаліна якога ляжала ў вадзе, а вывернуты корань быў пахаваны пад густой мінулагодняй травой і пачарнелым ад часу апалым лісцем. Амаль голы ствол дрэва быў пакрыты мохам і сліззю. Гэта сведчыла аб тым, што паваленыя дрэвы тут ніхто не прыбірае. А значыць, чалавек у гэтых месцах – рэдкі госць, а можа, наогул сюды ніколі не заходзіў і не заходзіць.

«Нічога, нічога...»

Асцярожна пераступіўшы праз гнілое дрэва і рассоўваючы рукамі тугія галіны дрэў і кустоў, Анон пачаў прабірацца ўглыб незнаёмай яму мясцовасці.

«Зямля круглая, – падганяў ён сябе. – Каго-небудзь сустрэну... Павінен сустрэць... Павінен...»

Рухаўся Антон павольна, а таму за гадзіну пераадолеў усяго кіламетра паўтара. У яго хапала сіл і жадання ісці далей, але наперадзе была вада.

Антон устрывожыўся: усюды, куды падаў яго погляд, калыхалася хмурнае воднае царства.

– Я здохну тут ... – Гэта былі не проста словы, а стогн, нават плач. – Здохну...

Антон машынальна ступіў у ваду і той ж міг адчуў яе ледзяны холад. Гэты холад разам з вадой ліўся ў боты. Каб не ўпасці, Антон, ухапіўся за тоўстую галіну вярбы, з цяжкасцю выбраўся на бераг і стомлена прыхінуўся да высокай і гладкай асіны.

«Не хапала яшчэ застудзіцца...»

Гэтая думка надала яму сілаў. І фізічных, і псіхалагічных. Пашукаўшы вачыма, дзе б прысесці, Антон убачыў нізкі тоўсты пень. Прыладкаваўшыся на ім, зняў боты, а потым і шкарпэткі. Выкруціў іх, расцёр пачырванелыя ногі. Абуўся і пачаў збіраць сухія галінкі, траву, кару, абломкі дрэў, каб раскласці вогнішча. Балазе, запалкі былі. Сухая трава ўспыхнула адразу, ад першай запалкі. Уверх пацягнуўся дым. У ім мільгануў нейкі вясёлы твар, але тут жа знік.

Дым напоўніў сабой чыстае прыроднае паветра, уносячы ў гэтае нелюдзімае месца нешта новае і незвычайнае.

## III

Седзячы пад дрэвам, Антон глядзеў на вогнішча. Ад яго ішло цяпло.

«Як ля печы...»

Антону ўспомнілася бацькоўскае лецішча, печ на кухні, цяпло ад яе, і яму так захацелася ў гэтае сямейнае ўтульнае жыллё, што ён гатовы быў кінуцца да лодкі, каб паплысці туды. І толькі таму, што Антон разумеў: можна папросту патануць або заплысці ў зусім глухое месца, ён не паддаўся гэтай небяспечнай спакусе.

«Нервы, нервы...»

Падняўшы галаву, Антон ўтаропіўся ў неба. Па ім на захад плылі рэдкія аблокі. Скрозь іх свяціла сонца. Яно набірала вышыню і яркасць, афарбоўвала сваім святлом лес, балота, ваду. Прыціскаючыся да прамерзлай за доўгую зіму зямлі, снег сваімі языкамі набліжаўся да вогнішча, нібы хацеў злізаць яго, каб холад і далей быў гаспадаром дня і асабліва ночы.

Панурую карціну ажыўлялі толькі пралескі, сезон цвіцення якіх вось-вось павінен быў пачацца.

Варта было б падкінуць у вогнішча некалькі галінак, сукаватых палак, а лепш – тоўстых паленаў, але Антон, разморany цяплом, нават не паварушыўся.

«Потым...»

Над лесам паказаліся гусі. Пакружыўшы над лесам, з шумам пачалі садзіцца на раку каля самага берага. Было бачна, як на ваду падалі дробныя гусіныя пёркі.

«Падобныя на сняжынкі...»

Гусі апускалі галовы ў халодныя хвалі, вышукваючы жаданы корм, дробную рыбу.

Антону таксама хацелася есці. Ён дастаў цукерку і з асалодай стаў жаваць. Жаваў доўга, пакуль салодкі шакалад не растварыўся ў роце, пакінуўшы пасля сябе толькі прыемны смак. Цукерка голад толькі распаліла. Арганізм Антона патрабаваў дабаўкі – яшчэ б цукерку, а лепш бутэрброд. Але больш з ежы ў яго нічога не было. Ён інстынктыўна павёў вачыма па баках, шукаючы дзічыну. Паблізу плавала качка. Гледзячы на яе, Антон пашкадаваў, што ў яго няма стрэльбы.

«Бабахнуў бы і, калі ласка, – мяса...»

Агонь у вогнішчы згас. Антон занепакоіўся – без агню можна ноччу замерзнуць. З цяжкасцю падняўшыся, ён пайшоў па дровы. Яму пашанцавала: у некалькіх метрах ад вогнішча ляжаў вялізны сасновы пень. З цяжкасцю перакочваючы яго, Антон паклаў пень на вуголле.

«Да раніцы будзе гарэць...»

Цяпер можна было і адпачыць. Антон прысеў, пазяхнуў.

На сушу і на ваду спешна апускалася цемра. Антон міжволі падумаў:

«Паспаць бы...»

У гэтую хвіліну аднекуль з лесу пачулася ваўчынае выццё. Яно было неспакойным і кароткім. Магчыма, звера хтосьці напалохаў. Быць можа, чалавек, а можа, і іншы воўк.

Да свайго жаху Антон пачуў ціхае, больш працяглае, чым раней, выццё, а разам з выццём нейкі піск.

«Ваўкі тут, побач...»

Антон не памыліўся: непадалёк была ваўчыца з ваўчанятамі. Побач з імі быў і воўк.

«Хоць бы ўсё абышлося...»

Антон хутка пайшоў у супрацьлеглы бок ад воўчага логава. Праз кіламетры два спыніўся, аддыхаўся.

«Цяпер я далёка...»

Страх усё роўна не пакідаў Антона.

«Зраблю будан», – вырашыў ён.

Яго Антон склаў хутка, бо матэрыялу – галін, палак, абломкаў паваленых дрэў – для гэтага часовага жылля ў лесе хапала. Тыльным бокам Антон паставіў будан да лесу. На зямлю густа паслаў галінкі і тут жа, стомлены, лёг на іх. Лежачы, Антон доўга прыслухоўваўся, ці не пачуецца зноў выццё. Цішыня... Гэта яго супакоіла. Праўда, ненадоўга: выццё пачулася зноў за некалькі дзясяткаў метраў ад будана.

Антон падняўся і пачаў углядацца ў прастору, якая калыхалася наперадзе. Ён заўважыў звера. Воўк, угнуўшы галаву, глядзеў на яго. Да звера

можна было дакінуць камень. Але каменя ў будане не было, а выходзіць з яго Антон не адважыўся. Воўк стаяў хвіліны тры, не больш, пасля чаго схаваўся сярод дрэў.

«Усё ж такі баіцца», – узрадаваўся Антон.

Ён заплюшчыў цяжкія павекі і праз нейкі час задрамаў. На яго, саслабелага і соннага, навалілася цішыня, у якой растварылася не толькі ваўчынае выццё, але нават не чуліся ніякія гукі, шоргаты, павевы ветру. Свет як быццам знік, запанавалі пустата і спакой. Але галоўнае – у Антона зніклі страх, голад, пачуццё небяспекі, дурныя думкі.

Калі Антон расплюшчыў вочы, то ўбачыў зоркі. Яны засцілалі начное беспамернае неба. Напэўна, скрозь іх глядзеў на зямлю сам Бог, бачачы ўсё і ўсіх, ведаючы, што будзе заўтра, паслязаўтра, праз некалькі дзён, месяцаў, гадоў...

Антон зноў заплюшчыў вочы і праваліўся ў пустэчу.

## IV

Світала доўга. У Антона было такое пачуццё, што дзень наступаў са спазненнем: прачнуўшыся, сонца выглядала бледным, вакол яго плыла заслона туману, падаў рэдкі і мокры снег. Праз гадзіну падняўся вецер. Ён мацнеў. Дрэвы зашумелі, іх вершаліны пачало гнуць да зямлі.

«Зіма вяртаецца, ці што? – падумаў Антон. – Гэтага яшчэ не хапала – у сярэдзіне вясны...»

Антону здалося, што вялікі і нябачны звер затаіўся і назірае за ўсім, што адбываецца ў лесе. Гэты звер галодны, вось-вось раскрые сваю пашчу і схопіць першую ж істоту, якую ўбачыць.

«Дзікае месца... Дзікае...»

У гэтым Антон пераконваўся ўсё больш і больш. Ён прыціснуўся спінай да дрэва, уцягнуў галаву ў плечы, затрымаў дыханне, бо фізічна адчуў небяспеку. Не ведаючы, адкуль яна зыходзіць, Антон пачаў ваўкавата азірацца. Але нікога не было відаць – ні чалавека, ні звера, ні птушкі.

Калі вецер аслабеў, з неба паваліў густы снег. Да абеду ён адбяліў сабой зямлю. Бель сляпіла. Антону хацелася спаць. Ён заплюшчыў вочы, паддаўшыся слабасці, але раптам зразумеў, што замярзае. Пры гэтым холаду практычна не адчуваў. Яму было проста ўсё роўна, што адбудзецца праз хвіліну, гадзіну, суткі...

«Паспаць бы яшчэ...»

Антон з цяжкасцю расплюшчыў вочы – спрацаваў інстынкт самазахавання. Зачарпнуў далонню трохі снегу і прыклаў да твару. Холад абпаліў скуру шчок, носа, вуснаў.

«Халадзіна... – Антон абхапіў свае грудзі рукамі. – Як жа сагрэцца?..»

Ён утаропіўся ўглыб лесу. Метраў за трыццаць убачыў ляжачую алешыну, якая разламалася на некалькі частак. Яны чарнелі гнілатой, вышчараліся доўгімі расколінамі, з якіх лез мох.

«Пойдзе на вогнішча, – узрадаваўся Антон. – І сякеры не трэба, каб пасекчы. Упраўлюся рукамі...»

Антон сабраў усе кавалкі алешыны, доўгія з іх разбіў аб валун. Пасля гэтага каля старога разлапістага дуба разгроб снег, кінуў паміж яго каранямі бярэмя леташняга чароту, які вырваў непадалёк, паклаў на яго кавалкі алешыны, а наверх накідаў галінак. Дастаўшы з кішэні запалкі,

выняў адну, шоргнуў. Запалка не загарэлася. Антон паспрабаваў запаліць яе яшчэ раз і яшчэ, але з гэтага нічога не выйшла.

– Зараза, – буркнуў ён.

Выхапіўшы новую запалку, зноў паспрабаваў здабыць агонь. Галоўка запалкі цалкам сцерлася, але агню не дала. Гэта раззлавала Антона. Ён хутка дастаў наступную запалку, трэцюю па ліку, і рэзка прайшоўся яе галоўкай па бакавіне карабка, якая напалову была мокрай.

«Адкуль у кішэні вада?..»

Антон не разумеў, але потым успомніў, што мокрыя ад снегу рукі сушыў менавіта ў кішэнях.

«Сам запалкі вымачыў, дурань...»

Дастаўшы чацвёртую запалку – апошнюю, Антон нейкі час глядзеў на яе, не адважваючыся запальваць. Нарэшце старанна нацэліў запалку на сухі краёчак карабка, рэзка правёў галоўкай уніз. Яна неахвотна спачатку задымілася і ўжо потым, зашыпеўшы, успыхнула. Антон, баючыся, што агонь патухне, прыкрыў яго далонню і паднёс да чароту. Чарот тут жа ўспыхнуў, агонь пачаў раздавацца ўшыркі і ўгору. Прайшло ўсяго некалькі хвілін, і вогнішча задыміла, затрашчала.

– Ёсць! – крыкнуў ад радасці Антон.

З агнём ён адчуў сябе смялей, больш упэўнена, а галоўнае – бяспечней. Антон сеў на абломак алешыны, падставіў твар да агню. Твар пачырванеў, скура на ім стала лупіцца. Трэба было б адсунуцца ад вогнішча, каб не апячыся, але Антон працягваў сядзець, нібы баяўся, што яно патухне і ў лесе зноў запануе холад.

«Цяпло...»

У гэты час зноў пачулася воўчае выццё, якое набліжалася. Антон здрыгануўся, павёў вачыма вакол. Убачыўшы невялікі рухомы цень між дрэў, ускочыў на ногі. Выццё, зусім блізка, паўтарылася.

«Трэба сыходзіць...»

Гэта была не лепшая думка. І Антон гэта зразумеў: без агню ён стане лёгкай здабычай жорсткага звера. Гэта закон дзікай прыроды. Закон самы звычайны.

– Падавішся, – прыгразіў Антон ваўку. – Я яшчэ пажыву...

У яго голасе было больш адчаю, чым адвагі і здаровага разумення небяспекі. Ад гэтага думкі блыталіся, страх то мацнеў, то знікаў, жаданні хутка і неяк хаатычна мяняліся...

«Паесці б...»

Цела Антона ўжо настойліва патрабавала не толькі цяпла, але і ежы. Над лесам закружыла цемра. Дыхнула марозам. Усяго ў два ці ў тры градусы, але ўперамешку з сырасцю. Гэтая пагібельная сумесь велізарнай драпежнай птушкай завісла над вогнішчам, як быццам вырашаючы, у якое месца яго клюнуць, пасля чаго разварушыць падпаленую драўніну, раскідаць яе рэшткі сваімі крыламі, а потым і патушыць вуголле, каб стаць паўнаўладнай гаспадыняй ўсяго існага – леса, зямлі, вады, звяроў і птушак, і самога Антона які апынуўся тут.

«Што ж гэта?.. За што?..»

З надыходам ночы мароз узмацніўся. Антон кінуў у агонь два тоўстыя сукаватыя бервяны, якія з цяжкасцю прыцягнуў з гушчара. Агонь успыхнуў і пачаў прагна лізаць смалістую драўніну. Антон падсунуўся да самага вогнішча, прылёг на нагрэтую леташнюю лістоту, стомлена ўздыхнуў.

«Можна паспаць...»

Сон ласкава абняў Антона і быццам прыўзняў яго цела, асцярожна закалыхаў над самай зямлёй. Праз колькі імгненняў павекі Антона пацяжэлі. І ў той жа момант Антона агарнула цішыня. Яму здалося, што ён апынуўся ў нейкім іншым свеце. У ім было спакойна і добра. Так спакойна і добра, што нічога не хацелася рабіць. Не было жадання нават думаць. Новая рэальнасць калыхала Антона, як закалыхвае маці сваё малалетняе дзіця. І ён аддаўся спакою і жаданаму сну.

Прайшло каля гадзіны. У сне Антон убачыў маці – зусім маладую, прыгожую, з густымі цёмнымі валасамі, якія хвалямі спадалі на яе круглявыя голыя плечы, што выглядалі з-пад квяцістай летняй сукенкі. Пачуў ласкавы мацярынскі голас:

– Прачынайся. – Нахіліўшыся над сынам, маці паўтарыла: – Прачынайся, а то замерзнеш...

Антон не зусім разумеў, што адбывалася. Сон перайшоў у галюцынацыі: Антон убачыў сябе ў плаваючай па бясконцай вадзе лодцы. Яе ход быў запаволеным і абсалютна бясшумным. Антон ляжаў спінай на дне лодкі, нібы нябожчык – склаўшы на грудзях рукі.

«Я паміраю», – вырашыў Антон.

Дзіўна, але стан надыходзячай смерці падзейнічаў на яго з ажыўляльнай сілай. Ён расплюшчыў вочы. Над ім віселі зоркі. Яны раптам загайдаліся і быццам бы пачалі падаць. Ад нечаканасці Антон прыўзняў галаву і ўбачыў, што агонь у вогнішчы згасае. Пройдзе паўгадзіны, і на яго месцы зачарнее вуголле, а зямля вакол пачне халадаць. І ўсё вакол стане пакрывацца лёдам, паміраць...

З новай сілай Антон адчуў голад, які абяссільваў яго. З-за голаду кружылася галава, блыталіся думкі, пёк боль у жываце.

Антону ўспомніўся бяздомны сабака, што вечна блукаў ля яго менскага дома, у які пераехалі з Бабровай Затокі яго бацькі – Афанасій Сцяпанавіч і Надзея Канстанцінаўна Апанскія, і ён – іх адзіны і любімы сын. Часам, ідучы з крамы, Антон адломваў кавалак хлеба ці адрываў адну сасіску і даваў сабаку. Той з прагнасцю кідаўся да ежы, хапаў яе і ў адно імгненне з'ядаў. Пры гэтым цела сабакі дрыжала, а сам ён шумна і неяк хваравіта дыхаў. З'еўшы, маўкліва прасіў дабаўкі сваімі сумнымі і слязлівымі вачыма. Але дабаўкі Антон не даваў.

«Не трэба балаваць», – амаль абыякава думаў ён.

Цяпер Антон быў гэтаксама галодны, як той бяздомны сабака, што жыве ля яго дома. Ён, напэўна, ужо атрымаў нешта ядомае ад неабыякавых людзей. Можа быць, нават шчодры і сытны пачастунак – каўбасу, катлеціну, хлеб...

Антон міжволі аблізнуўся.

«Цяпер і я як бяздомны сабака».

Ён успомніў, што ў лодцы засталася міска. У ёй можна закіпяціць ваду, запарыць кару дуба – так калісьці баба Ганна рабіла, каб паласкаць горла, калі прастуджвалася і гаварыла хрыпла, з цягучым кашлем.

«У мяне таксама ўжо нейкія хрыпы... Трэба ўставаць, ісці...»

Кінутую лодку Антон шукаў доўга, але ўсё ж такі знайшоў. Яна стаяла ля берага, упіраючыся ў яго прыпаднятым носам. Можна было падумаць, што пласкадонка таксама, як і Антон, хацела выбрацца на сушу і ўжо па

цвёрдай зямлі пайсці – у вёску Бабровая Завока. Антон прывязаў лодку да дуба, забраў міску, абрывак вяроўкі.

– Нікога, – праз зубы выціснуў Антон.

Настрой яго палепшыўся толькі тады, калі ён дайшоў да вогнішча, ад якога засталося толькі вуголле. Яно слаба тлела. Антон накідаў у вогнішча галінак. Іх ахапіла полымя і прынялося разаграваць і разганяць сырое марознае паветра.

– Цяпер можна падсілкавацца, – нявесела прамовіў Антон.

Ён набраў у міску снегу і паставіў да агню. Снег пачаў раставаць, вада памутнела, вось-вось павінна была закіпець. Антон ададраў некалькі кавалачкаў кары ад дубка, які стаяў побач, наламаў трохі дробных дубовых галінак, кінуў у міску, перамяшаў тонкім доўгім сучком. Неўзабаве з міскі пацягнула ёлкім водарам.

«Здаецца, гатова...»

Каб астудзіць адвар, Антон паставіў гарачую міску ў снег. Яна ўвайшла ў яго да самых краёў... Астылы адвар Антон прагна выпіў. З кожным глытком ён адчуваў, што ажывае, набіраецца сіл, наліваецца цяплом.

«Палягчэла...»

Адвар па смаку трохі нагадваў грэйпфрутавы сок. У яго б дадаць цукру. Але пра гэта Антону заставалася толькі марыць.

«Паесці б яшчэ, – з надзеяй падумаў ён. – Хоць чаго-небудзь...»

Антон паглядзеў па баках. Акрамя дрэў, кустоў і сухой травы, што дзе-нідзе тырчала з-пад снегу, вакол нічога не было.

Антон разумеў, што трэба чакаць, калі паводкавыя воды пачнуць вяртацца ў рэчышча ракі. На гэта пойдзе некалькі дзён, а то і тыдняў. Толькі тады можна будзе ісці да людзей. Але да гэтага трэба дажыць, у што б ні стала выжыць.

## V

Надзея на паспяховы зыход неразумнага падарожжа па вялікай вадзе ў Антона раставала, як леташні снег, і ён, сабраўшы рэшткі мужнасці, вырашыў: «Няхай будзе, што будзе». У гэтым рызыкоўным рашэнні быў заклік да дзеяння. Трэба было перш-наперш, агледзець участак сушы, на якім ён апынуўся, больш уважліва і цярпліва.

«А раптам знайду што-небудзь з ежы?» – абнадзеіў сябе Антон.

Падкінуўшы ў вогнішча дроў, Антон выправіўся на пошукі. Лес стаяў няроўнай сцяной. Месцамі ляжалі невысокія гурбы. Праўда, бліжэй да вады, якая хавала пад сабой непраходнае балота, снежнае покрыва станавілася танчэй. Ісці па ім было лягчэй. Антон стараўся трымацца берага. За некалькі гадзін ён абышоў сушу. Яна, як аказалася, была невялікім востравам – каля трох кіламетраў у даўжыню і кіламетры два з паловай у шырыню.

– У маім становішчы і гэта нядрэнна, – буркнуў Антон. – Добра, што тут наогул ёсць узвышша...

Востраў толькі месцамі прыкметна ўздымаўся над вадой. Таму асноўная частка яго магла быць затопленай паводкай у любую хвіліну. І Антон гэта разумеў. Пазіраючы на ваду, ён узышоў на паваленую бурай хвою, крона якой учапілася верхнімі галінамі за разлапісты дуб і трымалася за яго моцна, нерухома.

На сярэдзіне хвоі Антон спыніўся, паспрабаваў яе калыхнуць. Дрэва завагалася, але не зрушылася нават на сантыметр.

«Як прыбітае...»

Корань хвоі, нібы велізарны вожык, шчацініўся сваімі чорнымі атожылкамі, а кара на ствале хвоі месцамі падымалася і з-пад яе выглядвала застылая смала, падобная на бурштын. Антон адарваў кавалачак гэтай смалы, паклаў у рот, спадзеючыся хоць трохі заглушыць голад. Але смала, нібы клей, шчыльна прыляпілася да зубоў. Антон з цяжкасцю выплюнуў яе. На нейкі час голад прапаў. Але пастулова ён зноў праявіўся, цалкам падпарадкаваў сабе думкі Антона, у якіх было амаль усё, што можна есці – мяса, рыба, хлеб, каша, яблыкі і нават бананы. Калі б хто ўсё гэта разам прынёс і паклаў перад ім, ён бы палічыў, што адбыўся цуд. Але цуды бываюць толькі ў казках, а Антон знаходзіўся ў лесе, на востраве, дзе акрамя дзікай прыроды не было нічога.

Гэта быў момант адчаю, які прыходзіць нечакана, але так жа хутка, на шчасце, сыходзіць.

– Божа...

Антон супакоіўся, пачаў узірацца ў зямлю, якая сярод снегу была падобнай на цёмны і доўгі язык. Гэты язык спускаўся з узвышша да вады, што акружала востраў. Пасярод гэтага языка бег ручай. У ім чарнелі нейкія кропкі. Антон саскочыў з хвоі на зямлю, падышоў да ручая. У ім плавалі абледзянелыя жабы.

Антону ўспомнілася, як ён з сябрамі ў рэстаране з французскай кухняй ўбачыў у меню страву з жаб.

– Закажам? – легкадумна спытаў ён сяброў.

Яны пагадзіліся паспытаць нязвыклую для іх ежу.

Прынеслі «жабіныя кумпячкі» – лапкі. Гэта адзіная ядомая частка жабы, якая гатуецца і падаецца пад рознымі соусамі. «Жабіныя кумпячкі» выглядалі апетытна, але Антон не змог іх есці, яго вырвала, ледзьве дабег да прыбіральні.

Цяпер пры выглядзе мёрзлых жаб Антон акрыяў духам – ён выратаваны! Выратаваны!..

Не марудзячы, Антон вылавіў з ручая некалькі мёрзлых цельцаў, засунуў іх у кішэні і панёс да прыстанішча, дзе правёў апошнюю ноч. Яно было блізка, бо Антон амаль цалкам абышоў востраў.

Вогнішча, відаць, даўно згасла, але вуголле яшчэ дымілася. Антон кінуў жаб у вогнішча. Вуголле зашыпела, дым тут жа збялеў. Антон пачаў збіраць галлё, сухія шышкі, старое лісце і кідаць іх у вогнішча. Яны ўспыхнулі слабым агнём, які пачаў расці і шырыцца.

Вочы Антона былі скіраваныя на жаб. Яны спачатку ляжалі нерухома, пакуль агонь іх не чапаў. Але як толькі іх цельцы вызваліліся ад лёду, заблішчэлі, жабы ажылі, заварушыліся і, стаўшы на пярэднія лапы, няўцямна ўтаропіліся па баках. Адна з іх раптам падскочыла і выскачыла з вогнішча. Быццам падкінуты ўверх вызваленай ад вагі спружынай, ускочыў і Антон. Ён са злосцю пачаў біць па ажылых жабах, аглушаючы іх і адначасова збіваючы агонь, раскідваючы падпаленыя галінкі, палкі, шышкі...

Вогнішча задыміла, пачало згасаць. Антон перастаў малаціць па агні палкай, узяў сябе ў рукі. Агонь ажыў. Неўзабаве запахла смаленым мясам. Антон адчуў, як у роце пачала збірацца сліна.

«Гэта жабы падсмажыліся».

Антон выцягнуў з вогнішча абвугленыя цельцы жаб. Яны дыміліся. Схапіў адну з іх, адарваў лапку, садраў з яе парэпаную скуру і ўпіўся зубамі ў яшчэ сырое мяса. Ірвануўшы яго, амаль не разжоўваючы, пачаў глытаць. Потым узяўся за другую, лапку, трэцюю...

«Смачна як...»

Жабчыны лапкі нагадвалі курынае мяса...

І тут Антон зноў пачуў ваўчынае выццё.

Хутчэй за ўсё, звера ўзбуджаў пах смажанага мяса. Антон павёў вачыма па баках і ўбачыў ваўка. Напэўна, таго самага.

– Пайшоў! – крыкнуў Антон. – Пайшоў адсюль!..

Зноў заплюшчыўшы вочы, ён усміхнуўся.

«Цяпер, ля агню, мне не страшна...»

## VI

Да вечара наступнага дня Антон яшчэ больш захацеў есці. Гэтае жаданне было не столькі фізічным, колькі псіхалагічным. Яму здавалася, што без ежы ён аслабне, зваліцца і замерзне, як тыя жабы, якіх знайшоў у ручаі.

Пачуццё прыгнечанасці раз'ядала Антона знутры. Сіл, каб супраціўляцца, у яго амаль не было. І ўсё ж жыццё ўзяло верх. Ён падняўся і пайшоў на пошукі ежы.

Ля адной з яшчэ закаваных лёдам затокаў Антон спыніўся, звярнуўшы ўвагу на вялікую палонку каля таўшчэзнай высыхаючай алешыны. Ён нагнуўся над палонкай, спадзеючыся ўбачыць рыбіну. І раптам заўважыў побач на цёмнай вадзе адлюстраванне чалавека. Спачатку Антон падумаў, што гэта яму здаецца. Але не – каля яго сапраўды стаяў чалавек. Антон, які яшчэ некалькі гадзін таму хацеў убачыць хоць каго-небудзь з людзей, спалохаўся.

– Што вышукваеш? – спытаў незнаёмец.

– Ры-ыбу, – заікнуўшыся, прагаварыў Антон.

Яшчэ малады мужчына, але з маршчынамі на лбе і рэдкай рыжай барадой, у якой серабрылася сівізна, хмура і варожа глядзеў на Антона.

– А можа, мяне шукаеш?

Незнаёмец падняў з зямлі невялікі камень.

– Пачакай... – Антон агледзеўся вакол, спадзеючыся таксама схапіць камень ці палку. – Я цябе ў першы раз бачу. І наогул, у гэтых месцах ніколі раней не быў.

– А чаго ж прыйшоў? – У голасе мужчыны быў недавер.

– Не прыйшоў, а прыплыў, – пачаў тлумачыць Антон. – На лодцы.

– Не брэшаш?

– Не. Заблудзіўся я.

– Адзін заблудзіўся, ці з табой яшчэ хто?

– Адзін.

– Гм... – Мужчына, адкінуўшы камень у бок, пачухаў патыліцу. – Паверыць цяжка.

– Табе што, паклясціся? – ужо смялей прамовіў Антон. – Я гэтага рабіць не буду.

– І не трэба.

– А што трэба?

– Нічога. Я бачу, што скуру на тваёй фізіяноміі сцягнула. Значыць, не адзін дзень галадуеш. Так?

– Так, – адчуваючы слабую палёгку, прагаварыў Антон. – А ты сам чаго тут?

– Я?

– Ты.

– Жыву тут.

– На востраве?

– Уставай і ідзі за мной, – замест адказу загадным тонам сказаў незнаёмец. – Не бойся: я чалавек мірны. Але... калі да мяне з мірам. Клічуць Кастусём.

– А я Антон.

Ён падняўся і неахвотна, адчуваючы сябе лішнім у кампаніі з новым знаёмым, паплёўся за Кастусём, які ледзь прыкметна накульгваў.

Ужо цалкам развіднела. У лесе было сыра, між дрэў гайдалася смуга туману. Яна стварала ілюзію таго, што недзе нешта гарэла, і гэта расплываўся дым ад агню.

Спыніліся каля вялікага яра, зарослага хмызняком. Над ім узвышаліся рэдкія алешыны і бярозы. На заходнім схіле яра ў вялікую кучу былі зваленыя высахлыя абломкі дрэў, вялікія і маленькія галіны. Куча была цёмнай, амаль чорнай. Да яе і накіраваўся Кастусь. Калі ён адкінуў ад кучы некалькі галін, Антон убачыў дзверы, збітыя з грубых, няроўных дошак-аполкаў.

– Тут мая хата, – сказаў Кастусь, адчыняючы дзверы. – Праходзь...

Ён запаліў тоўстую свечку.

Антон засцярожліва агледзеўся – ён не ведаў, чаго чакаць ад свайго новага знаёмага: ці то чалавечай міласці, ці то звярынай жорсткасці.

Лясное жытло было цесным, але цалкам прыдатным для жыцця: жалезная печка, нары з матрацам, стол, высокая тумбачка, на якой стаяў радыёпрымач, на адной са сцен ўбітыя ў дошкі-аполкі цвікі. На іх віселі адзенне, ручнікі і... туалетная папера. Гэтая папера больш за ўсё здзівіла Антона.

«Адкуль яна тут?..»

– Падабаецца? – На свайго госця Кастусь глядзеў ужо мякчэй, з ледзь прыкметнай на яго прыпухлым твары ўсмешкай. – Думаю, не вельмі.

Антон паціснуў плячыма, прамовіў:

– Як сказаць...

– Як ні кажы, – буркнуў гаспадар жылля. – У мяне тут не гарадская кватэра і не вясковая хата. Хоць, шчыра кажучы, я бачыў кватэры і хаты горшыя за маю зямлянку. Добра, здымай куртку і сядай да стала...

Толькі тут Антон адчуў, што ў жытле Кастуся цёпла. Падышоўшы да печкі, Антон прыклаў да яе гарачага боку далоні.

– Раніцай прапаліў, – сказаў Кастусь, паказваючы вачыма на печку. – Жыць можна.

Ён нагнуўся каля сцяны зямлянкі, прыўзняў квадратную жалезную пласціну, пасля чаго дастаў з-пад яе невялікую металічную скрынку. Паставіўшы яе на стол, дастаў поліэтыленавы пакет, выняў з яго мяса, невялікі кавалак сухога хлеба і бутэльку недапітай гарэлкі.

– Перакусім?

– Я не супраць.

– Яшчэ б...

Мяса было пахкім і смачным.

– Добрае, – пахваліў Антон. – Здаецца, еў бы і еў.

– А ты еш, не саромейся, – дазволіў Кастусь. – Вып'еш?

– Не-е, – закруціў галавой Антон. – Баюся, што адразу звалюся.

– А я вып'ю. – Гаспадар наліў сабе ў шклянку гарэлкі і адным махам выпіў. – Горкая... – Закусіўшы, дадаў: – Як нашае жыццё.

– Што за звер? – пацікавіўся Антон.

– Ты пра мяса?

– Так.

– Бабёр, – адказаў Кастусь. – Сёння ноччу я якраз планую пайсці на паляванне. Пойдзеш са мной?

– А на каго паляваць будзем? – Антон, перастаўшы жаваць, запытальна ўтаропіўся ў гаспадара ляснога жылля. – І чым?

– На бабра пойдзем, – адказаў Кастусь. – А зброяй нам будзе палка. Простая сукаватая палка.

– Добра. Але ўсё ж лепш было б узяць стрэльбу. – Антон уздыхнуў. – У цябе стрэльба наогул ёсць?

Кастусь незадаволена закруціў галавой. Памаўчаўшы, суха прамовіў:

– Ведаеш, што я цябе папрашу?

– Што?

– Не задавай пытанняў – не люблю. І наогул, менш гавары. Добра?

– Я проста бачыў ваўка, – пачаў апраўдвацца Антон. – Два ці нават тры разы. А калі ён тут з'явіцца і нападзе?

– Мы ўдваіх, – павольна прамовіў Кастусь. – Таму ніякі воўк нам не страшны. Мядзведзь, вядома, можа падысці да зямлянкі. І падыходзіў не раз. Падыдзе, пакружыць вакол і сыходзіць – у мяне харчовыя запасы надзейна схаваныя.

– А тут і мядзведзь ёсць? – разгубіўся Антон. – Я не ведаў.

– І мядзведзь не нападзе, – супакоіў Антона Кастусь. – Ну, а калі вырашыць напасці, дык няхай паспрабуе...

Антон на гэта нічога не сказаў.

## VII

Пад вечар Антон і Кастусь выйшлі з ляснога жылля. Спыніліся ля вузкага прытоку Прыпяці, падобнага на канаву: яго шырыня не перавышала і трох метраў. На адным і другім берагах прытоку на некалькіх маладых асінках кара была пагрызена, ствалы дрэў паблісквалі бялізной. Далей ад іх ляжалі дзве зваленыя бярозы.

– Бабры гаспадараць, – прашаптаў Кастусь. – Тут іх цэлая сям'я.

«Вось калі б папаўся малады і нявопытны звярок, – падумалася Антону. – Пападзіся толькі, пападзіся...»

Яго новы знаёмы ў гэты час пашукаў вачыма важкую палку, падняў яе і стаў метрах у дваццаці ад высокай і стройнай алешыны, чакаючы з'яўлення бабра. Тое ж самае зрабіў і Антон. Ён разумеў, што з такой адлегласці хвастатага плыўца палкай не забіць, але спадзяваўся хоць бы аглушыць звярка, патрапіўшы яму сваёй драўлянай прыладай у галаву.

«Не прамахнуцца б...»

– Ціха, – папярэдзіў Канстанцін. – Зараз з'явіцца...

Чакаць прыйшлося доўга. Цела Антона ўжо занямела. Яму хацелася прылегчы. Але тут ён заўважыў, што на паверхні з'явілася некалькі дрыготкіх зорачак – адлюстраванняў далёкіх нябесных свяцілаў, пасля чаго паказалася галава бабра.

Кастусь прыклаў палец да вуснаў. Маўляў, маўчы. Антон кіўнуў.

Між тым бабёр адразу ж нырнуў у палонку і знік пад вадой. Час, які ён знаходзіўся ў вадзе, здаўся Антону ледзь не бясконцым. Але вось бабёр выйшаў на бераг, атросся, пачухаўся аб ствол дрэва. Антон стаяў не зварухнуўшыся. Кастусь зрабіў некалькі лёгкіх крокаў наперад.

Звярок на нейкі той час застыў, стаў прынюхвацца і прыслухоўвацца. Пераканаўшыся, што чужога паху няма – вецер дзьмуў ад бабра да Антона і Кастуся, а не наадварот – засяпшаў на сваіх кароткіх лапах па ўжо прыкметна пракладзенай сцежцы да падгрызеных знізу і паваленых бяроз. Ён як быццам поўз. За ім валачыўся яго падобны на вясло хвост. Спыніўся бабёр каля высокай бярозы. Зірнуўшы па баках, узяўся за працу – пачаў хутка грызці бярозу, падняўшыся на заднія лапы і абапіраючыся на свой шырокі хвост. Можна было падумаць, што звярок грызе не дрэва, а рэпу. Ён завастрыў бярозу, як велізарны аловак. Калі, стаўшы на заднія лапы, бабёр упёрся ў бярозу, каб паваліць, яна сваім заточаным канцом нечакана паехала ўніз і прышчаміла звярку хвост. Бабёр тузануўся ў адзін бок, другі, але дарма – дрэва як быццам помсціла яму за сваю ранняю смерць і не адпускала ад сябе. Антон і Кастусь у імгненне вока падскочылі да бабра.

– У-у, – рэзка, выпускаючы з сябе паветра, апусціў палку на галаву звярка, Антон.

Яго напарнік з размаху, моўчкі, працягнуў палкай па галаве бабра, потым другі раз, трэці...

Бабёр упаў.

Яны не спяшаючыся панеслі здабычу да ляснога жылля. Расклалі каля яго вогнішча. Кастусь, умела працуючы шырокім і вострым нажом, разабраў бабра на часткі, насадзіў кавалкі мяса на тоўстыя дубцы і пачаў яго смажыць. Смажыў да таго часу, пакуль пах бабровага шашлыка, перамешаны з пахам падпаленых дубцоў, не пайшоў гуляць па лесе.

– Можа, хопіць ужо? – нясмела спытаў Антон.

Кастусь усміхнуўся.

– Я цябе разумею. Сам быў у такой сітуацыі. І не раз. І блукаў, і блудзіў... Па-чорнаму... І не толькі тут, у лесе...

Антон не зразумеў сэнсу слоў гаспадара зямлянкі, але ні пра што перапытваць не стаў.

– Так і быць, – прамовіў Кастусь, – прыступаем да сняданку. Але без хлеба, прабач.

Гаспадар ляснога жылля паклаў кавалачак мяса на гурбачку снегу, падобную на блінец, пачакаў, пакуль яно астыне, і пачаў есці. Антон жа, зняўшы дубец з шашлыком, пачаў адразу ж з прагнасцю есці мяса. Першыя кавалкі Антон праглынаў амаль не разжоўваючы, не адчуваючы ніякага смаку. Але калі голад аслабеў, Антон стаў есці павольней, атрымліваючы асалоду ад пахкага мяса, якое аддавала травой, вадой і трохі гарчыла. Гэтая горыч – адзінае, што стрымлівала Антона ад жадання з'есці бабровых шашлыкоў як мага больш.

– Ну як, смачна? – ці то з іроніяй, ці то проста ўспомніўшы галодныя часы, спытаў Кастусь.

– Угу, – выціснуў з сябе Антон.

Пасля ежы ён адчуў, што сілы ў ім не толькі аднаўляюцца, але і памнажаюцца. Што яму ўжо не так холадна і страшна на ўсё яшчэ незнаёмым, небяспечным лясным востраве, які ляжаў пасярод затопленага веснавой вадой балота. Унутры Антона ажыло нешта старажытнае, напаўзабытае, яшчэ чалавечае, але, праўда, ужо больш звярынае, якое сядзела ў ім і раней дзесьці глыбока. І вось цяпер яно выходзіла. Выходзіла, быццам змяя, нешта слізкае, страхавітае і галоднае...

«А забіваць лёгка», – нечакана для сябе падумаў Антон і тут жа скалануўся ад гэтай думкі.

«Лёгка, але як потым жыць? – задаўся ён няпростым пытаннем перад сном. – Не ведаю... Не ведаю...»

Запытаўся пра гэта ў Кастуся. Той неахвотна адказаў:

– У кожнага па-рознаму...

Пры гэтым яго шырока адкрытыя вочы загарэліся, быццам ён узяў у рукі зброю і падрыхтаваўся ў кагосьці страляць.

– Ніколі не думаў, што можна есці тое, што да гэтага лічыў чымсьці нявартым, брудным для чалавека, – прызнаўся Антон.

– А чалавек, значыць, самая годная і чыстая істота на свеце? – неяк адчужана спытаў Канстанцін і сам жа адказаў: – Выкінь з галавы гэтыя глупствы. Гэта школьнікі думаюць, што род людскі маральна і духоўна багаты. На самай справе ўсё далёка не так. І ты гэта ведаеш.

– Сумна.

– А чаму сумна?.. Пакуль жывы – жыві. У гэтым свеце для кожнага ёсць месца і кожнаму нешта належыць. Трэба толькі знайсці свой кут і своечасова ўзяць тое, што можаш узяць.

– А ты своечасова знайшоў і ўзяў?

– Калі б так было, то ў лесе не жыў бы. Так што шукай і бяры.

– Гэта твая філасофія? – спытаў Антон.

– Гэта маё жыццё, – адрэзаў Кастусь. – Не хачу больш працягваць гэтую тэму. І табе не варта гэтага рабіць. Каб не капацца ў сабе. Зразумеў?

– Зразумеў.

– Вось і добра.

## VIII

Пачатак дня, халодны і ветраны, прайшоў у дробных клопатах: спачатку Антон і Кастусь збіралі дробныя абломкі драўніны для печкі і вогнішча, потым доўга моўчкі сядзелі, кожны думаючы пра сваё, а калі пачало цямнець, павячэралі. За вячэрай гаспадар ляснога жылля дапіў гарэлку, а потым туманна прамовіў:

– Хочацца разрадзіцца... Па-мужчынску. Толькі тут няма з кім – бабы далёка. Туды б...

– Куды? – запытаў Антон, уяўляючы сабе горад, начны клуб.

– Туды, – паўтарыў Кастусь. – Цікава.

– Цікавасці няма, ёсць магчымасць.

– Паехаць у горад?

– Павесяліцца можна і ў вёсцы. Толькі не ў нашай краіне... Не ў Беларусі.

– Ты мяне заблытаў. – Антон уздыхнуў. – Прабач, але я не разумею цябе.

– Я і сам не разумею. – Кастусь з сумам глянуў на пустую бутэльку. – Заблытаўся.

– Ты раскажы толкам, а то ўсё ходзіш вакол, – адчуваючы раздражненне, прапанаваў Антон. – Мне нават штосьці не па сабе ад тваіх загадак.

– Не па сабе?

– Так.

– Зараз табе будзе яшчэ больш не па сабе, – з усмешкай вымавіў Кастусь.

– Чаму гэта? – насцярожыўся Антон.

– Ваяваў я, – адводзячы вочы ўбок, сказаў Кастусь. – Ну, ці, як кажуць па тэлевізары, ўдзельнічаў у ваенным канфлікце.

– На Украіне, – адразу здагадаўся Антон. – Цяпер зразумела, чаму ты тут.

– Чаму?

– Хаваешся.

– Гэта праўда, – пацвердзіў Канстанцін. – Асуджаеш?

– Каб асуджаць, трэба ведаць на якім баку ты ваяваў.

– А хіба гэта важна?

Задумаўшыся, Антон прызнаўся:

– Не ведаю.

Ён сапраўды не ведаў, так як у любым ваенным канфлікце разабрацца не проста, а часам і немагчыма. Да таго ж галава ў Антона была забітая іншым: ён усе апошнія дні і ночы меў патрэбу ў чалавечых зносінах, спагадзе, дапамозе, чакаў гэтага, але ўсе яго чаканні былі марнымі. Яны як быццам сыходзілі ў сырасць, пустэчу, дзе раствараліся і знікалі назаўсёды. І вось ён, Антон, мае побач чалавека. Больш за тое, у яго лёсе прымае ўдзел малазнаёмы, а па сутнасці – чужы яму чалавек, які гатовы аказаць, і ўжо аказвае, дапамогу. Гэта амаль цуд. Ці варта адмаўляцца ад такога шчасця і апускацца ў крывавую рэчаіснасць, якая знаходзіцца недзе далёка, за сотні кіламетраў ад гэтай выспы пасярод вады?..

– Не ведаю, – паўтарыў Антон.

– Вось што я табе скажу, – павольна прамовіў Кастусь, нервова скамячыўшы ў кулаку сваю бараду. – Там, дзе я быў, ваюе шмат народу. Украінцы, рускія, грузіны, беларусы, палякі, сербы...

– За што?

– За праўду. Сваю праўду.

– Хто б сумняваўся, – буркнуў Антон. – У кожнага свая праўда. І кожны даказвае, што яго праўда праўдзівей іншых.

– Ты маеш рацыю, – пагадзіўся Кастусь. – Я табе яшчэ скажу: у большасці тых, хто там узяў у рукі зброю, у галаве наогул каша. Хтосьці хоча аднавіць Савецкі Саюз, хтосьці вырашыў, што ўсходняя частка Украіны павінна ўвайсці ў Расію, хтосьці спрабуе стварыць нейкую новую рэспубліку, спадзеючыся, натуральна, потым заняць у ёй хлебную пасаду і зарабіць сабе кучу грошай.

– Ты не адказаў на маё пытанне.

– Якое?

– За што ўдзельнічаў у гэтым ваенным канфлікце.

– За грошы. – Кастусь сціснуў пальцы правай рукі ў кулак, грымнуў ім па стале. – За іх... Я працаваў у калгасе электрыкам, атрымліваў капейкі. На іх не разгуляешся. Мне хацелася атрымліваць больш, нашмат больш. І такая магчымасць падвярнулася. Неяк мяне занесла ў раённы цэнтр. Там я сустрэў чалавечка. Сур'ёзнага. Ён мяне загітаваў паехаць на

Украіну. Кажа, будзеш адстойваць там свабоду, незалежнасць, роўнасць і ўсё такое, а за гэта атрымліваць тысячу даляраў у месяц. Для мяне гэта вялікія грошы. Вядома, я пагадзіўся...

– Смешна.

– Мне таксама смешна. Толькі смяяцца не хочацца. Задумаешся – слёзы душаць.

– Крыўдна?

– Не крыўдна, а страшна. Страшна таму, што можна, аказваецца, забіваць і наогул рабіць усё, што заўгодна. Асабліва калі вып'еш, і табе прыйдзе ў п'яную галаву жаданне неадкладна пальнуць у кагосьці. А калі гэта можна, то няма нічога забароненага. Так учарашні трактарыст ці слесар становіцца забойцам. Страляе, потым заходзіць у любую хату, рабуе гаспадароў, здзекуецца з іх, гвалтуе, рэжа, страляе... І яго, заўваж, за гэта ніхто не карае – ваенныя дзеянні. – Кастусь узяў пустую бутэльку з-пад гарэлкі і паставіў яе пад стол. – Наогул, на вайне забойства – звычайная рэч. Звычайная... Праходзіць месяц, другі і ты пачынаеш разумець, што і сам можаш валяцца кавалкам абгарэлага мяса дзе-небудзь у полі ці каля дарогі. Вайна, я табе скажу, змяняе людзей. Яна адрывае ім не толькі рукі, ногі, галовы, але і душу. А без душы жыць цяжка, немагчыма.

– Ты пра сябе?

– Пра сябе, – прызнаўся Кастусь. – Калі я збег з вайны, то нечакана зразумеў, што душа ўва мне ледзь трымаецца. Гэта значыць, ужо напалову, а можа і больш выйшла з мяне. У мяне з-за гэтага з'явілася нянавісць да цывільных. Зніклі практычна ўсе нармальныя пачуцці. Але засталіся агрэсія, жаданне забіваць. Значыць, хімія майго арганізму стала на вайне зусім іншаю, і гэтая хімія вяртацца ў першапачатковы, добры стан не хоча, а магчыма, ужо не можа. Нават эмоцыі, якія адказвалі за радасць, у мяне зніклі, выпарыліся.

– Гэта часова, пройдзе.

– Калі?

– Не ведаю...

Недзе далёка, за зямлянкай, пачулася выццё. Дзіўна, але ў гэты раз яно не спалохала Антона. У гэтыя хвіліны ён больш баяўся людзей. Кастусь на гэтае выццё нават не павярнуўся. Толькі агонь свечкі ўздрыгнуў і пусціў больш дыму.

– А як табе ўдалося праз нашую мяжу праехаць? – пацікавіўся Антон.

– Я не ехаў, а ішоў, – адказаў Кастусь.

– Ну, прайсці?

– Лічы, пашанцавала.

– Раз ты вярнуўся, дык ідзі ў міліцыю, напішы, што прымусіла цябе паехаць на Украіну, чаму вярнуўся, што плануеш рабіць далей, – параіў Антон. – Не век жа табе тут жыць, баяцца, каб не арыштавалі.

– Ага: добраахвотнае прызнанне змякчае віну. Асабліва пакаянне. Чуў і бачыў я гэта. – Памаўчаўшы, Кастусь абурана дадаў: – У кіно.

– Не зразумеў.

– А што тут не разумець?.. – Гаспадар зямлянкі шумна задыхаў. Здавалася, ён зараз сарвецца з месца і пабяжыць, куды вочы глядзяць. – Ну, пайду я ў міліцыю, прызнаюся, што ваяваў, і што?.. Пахваляць мяне, адправяць у санаторый здароўе папраўляць, нервы лячыць?.. Не. У лепшым выпадку залічаць мне яўку з павіннай, а ў горшым – пасадзяць.

– А што ты хацеў? – развёў рукамі Антон. – Удзел грамадзян Беларусі ва ўзброеным канфлікце – гэта крымінальная справа. Пакаранне – пазбаўленне волі ад трох да сямі гадоў, ды яшчэ з канфіскацыяй або без канфіскацыі маёмасці. Гэта як пашанцуе.

– Ты, гляджу, добра ведаеш крымінальны кодэкс, – глуха прамовіў Кастусь.

– Я па спецыяльнасці юрыст, – прызнаўся Антон. – Мая праца звязана з юрыспрудэнцыяй.

– Юрыст, значыць... – Твар Кастуся за некалькі секунд пацямнеў, зрабіўся непранікальным, а рука пацягнулася да нажа. Спынілася каля яго ручкі. – Звязаны з юрыспрудэнцыяй, гаворыш?.. Глядзі, каб мы не пасварыліся.

– Я гэтага не хачу, – адчуваючы, як лоб пацее, прагаварыў Антон.

– І я не хачу, – працадзіў гаспадарляснога прытулку. – Добра, я так...

Нейкі час сядзелі моўчкі. Антон асцярожна спытаў:

– Назад, на Украіну, не хочаш?

– Не хачу, – рэзка адказаў Кастусь. – Хіба што ў начны клуб, каб на ўсю катушку адарвацца, забыць усё на свеце. А проста так – не. Мне лепш у нашым родным беларускім лесе камароў карміць, але быць жывым, чым там, ва ўкраінскім горадзе ці вёсцы, ваяваць і штодня, штогадзіны чакаць сваёй смерці. Праўда, і ў нас усё можа памяняцца: сёння я тут непажаданы, а заўтра скажуць, што герой. Яшчэ паклічуць, напрыклад, служыць.

– Каму?

– Ды ці мала каму... Прыйдуць да ўлады якія-небудзь, і пачнуцца разборкі.

– Не думаю.

– Думай, не думай, а ўсё можа быць. Што тычыцца мяне, то я жыць хачу. Мне гэта пакуль магчыма толькі тут, у лесе. Ён мой дом. І ведаеш, гэты дом мне падабаецца. Дыхаецца лёгка, свабодна. Як быццам перад смерцю... Ну і хай. Галоўнае, што я на волі. На свабодзе. А вось ты не, ты ў палоне. У мяне... Згодзен?

– Так.

– Вось... Таму я зараз падумаў і даю табе, так бы мовіць, вольную.

– У якім сэнсе?

– У прамым. Заўтра з раніцы валі з маёй зямлянкі, шукай сам выхад з гэтага залітага вакол вадой кавалка зямлі ў бліжэйшую вёску, а потым ужо куды хочаш. Карацей кажучы, жыві... Ты потым зразумееш мяне, потым...

– Ты гэта сур’ёзна?

– Вельмі сур’ёзна, – з хрыпам, вочы ў вочы, вымавіў Кастусь. – Для цябе будзе бяспечней і для мяне. Толькі прашу: пра мяне нікому ні слова. Даведаюся, што камусьці сказаў, пакараю: высачу і зраблю інвалідам, а то і наогул прыстрэлю. Я кажу праўду...

– Добра, добра, – паспяшаўся запэўніць Кастуся Антон. – Толькі, калі можаш, дай мне запалак і нож. У цябе, я бачыў, іх некалькі.

– Гэта можна, – пагадзіўся Кастусь. – Дам яшчэ і бабровага мяса. Хочаш – вер, хочаш – не вер, але я табе не вораг. І табе не варта быць маім ворагам. Мы не на вайне. Да таго ж не выключана, што нам яшчэ давядзецца сустрэцца. Магчыма, я дапамагу табе, а ты, ці мала што, дапаможаш мне. Так?

– Людзі павінны дапамагаць адзін аднаму, – нагадаў вядомую прымаўку Антон.

– Калі яны сябры, – дадаў Кастусь. – Добра, не будзем больш пра гэта. Табе трэба адпачыць, ды і мне таксама.

## IX

Ноччу Антону, які ўладкаваўся на падлозе, не спалася. Варочаўся на сваіх нарах і Канстанцін.

– Ты не спіш? – падаў ён голас.

– Пакуль не, – прамовіў Антон. – Такое пачуццё, што я не ў цябе ў зямлянцы, а ў лодцы, сярод вады. Вакол ні сцен, ні даху, толькі пустата і чарната.

– Як у пекле?

– Магчыма.

– А ты ніколі не задумваўся, што жыццё на зямлі і ёсць пекла?

– Калі так, то не для ўсіх.

– Не для ўсіх, кажаш? – Кастусь сеў на нарах, запаліў свечку. – Ты маеш на ўвазе багатых, у якіх жыццё – маліна?

– Я кажу пра тых, каму хапае таго, што ў іх ёсць.

– А табе хапае?

– Не, – прызнаўся Антон

– Вось і мне не хапае, – прамовіў Канстанцін. – Расказаць табе, як я ў аднаго бізнесмена грошы выбіваў?

– Як хочаш?

– Ты юрыст, павінен ведаць.

– Тады расказвай, хоць слухаць пра гэта, адчуваю, мне будзе не зусім прыемна.

– Во як... Ты ж сам казаў, што забіваць лёгка.

– Не падумаў.

– Надалей будзеш думаць... – Кастусь рэзка нагнуўся, дастаў з-пад нараў вінтоўку і накіраваў яе на Антона. – Кладзіся на жывот.

– Ты што? – Адчуваючы ўнутры сябе холад, Антон сагнуўся. – Забіць мяне вырашыў?

– Кладзіся! – прыкрыкнуў Канстанцін.

Антон лёг. Цела яго здрадніцкі задрыжала, кроў хлынула да галавы, зашумела ў вушах. Кастусь спрытна звязаў Антону рукі і ногі, злучыў вузлы вяроўкай, пасля чаго нацягнуў яе так, што ў Антона пачуўся хруст касцей.

– Гэта называецца “ластаўка”, – дзелавіта буркнуў Канстанцін. – Каб моцна не балела, не варушыся.

– А што далей? – са злосцю выціснуў Антон. – Скажы, не цырымонься.

– Ты зразумееш, – паабяцаў Канстанцін. – Пацярпі... – Ён яшчэ мацней нацягнуў вяроўку і перавярнуў Антона на бок. – Гэта каб ты менш прыслухоўваўся да болю, а больш слухаў мяне.

– Я і так слухаю, – прасіпеў Антон.

Кастусь ухмыльнуўся.

– Выдатна... Ты бачыў амерыканскі фільм «Сезон забойцаў» пра ветэранаў баснійскай вайны, дзе галоўныя ролі выконваюць Роберт Дэ Ніра і Джон Траволта?

– Так.

– А памятаеш, што гаварыў герой Траволты, былы сербскі салдат?.. Не?.. Я нагадаю. Ён казаў, што чалавек ўсяго толькі кавалак мяса, костак і сухажылляў. Забі яго, і яму стане лягчэй.

– Ты вар'ят, – выдыхнуў Антон. – Ты пераблытаў жыццё з кіно?

– А хіба мы ў кіно? – хмыкнуў Кастусь. – Мы на вайне... Бачнай або нябачнай, але на вайне. – Ён задыхаў у твар Антону. – Менавіта на вайне... Паглядзі вакол: людзі ваююць, звяры грызуцца, вакол зямлянкі холад сабачы, ваўкі... Усе і ўсё супраць нас. А мы супраць усіх і ўсяго. Хіба не так?.. Гавары!

– Так...

– Ведаеш, чаму я на паляванне на бабра стрэльбу, а дакладней – вінтоўку не бяру?.. Таму, што ўва мне прачынаецца звер. Мне хочацца гэтага бабра грызці, ірваць зубамі, душыцца яго крывёю... Ты разумееш?..

– Разумею. У мяне гэта таксама праяўляецца.

– Вось... А таму, каб не стаць зверам, я хапаю палку і б'ю бабра па галаве. Па галаве. Ён абмякае, перастае супраціўляцца... І я абмякаю, раблюся не такім крыважэрным, якім бываю, калі на мяне находзіць раздражненне, злосць, нянавісць... Калі я хачу забіваць... А я хачу... Цяпер, у дадзеную хвіліну, секунду!..

Кастусь хутка падняўся, ірвануў на сабе кашулю, пасля чаго выскачыў з зямлянкі і прыглушана завыў:

– У-у-у ...

Праз нейкі час начную цішыню пачало раздзіраць ваўчынае выццё. Гэта працягвалася хвіліны дзве ці тры. Антон, развітаючыся з жыццём, застагнаў...

Калі цішыня зноў запанавала над зямлянкай і ў самой зямлянцы, ён адчуў, што вяроўкі на яго руках і нагах саслаблі, а потым упалі на падлогу.

– Уставай... – Над Антонам стаяў Кастусь. – Апранайся і сыходзь. Я паспавядаўся табе, і мне стала лягчэй... Ідзі і памятай: забіваць лёгка, нават весела... Як мне было весела, калі ўкраінскі ці ўжо расійскі бізнесмен пагадзіўся даць мне дзве тысячы баксаў... Усяго дзве тысячы. Я яго тады, як цябе зараз, звязаў, мучыў... А потым... Табе лепш не ведаць...

– Я зразумеў, зразумеў, – ціха прамовіў Антон, зашпільваючы куртку.

– Ды пайшоў ты! – закрычаў Кастусь. Яго твар пачырванеў. – Напэўна, думаеш, чаму гэта я раптам на каня сеў?.. Так?..

Антон маўчаў.

– Так, – працадзіў Кастусь. – Сеў я на каня, бо гэты конь прыходзіць да мяне ці ўваходзіць у мяне нечакана... Хвіліну назад яго не было, а цяпер ён тут.

– Гэта нервы, – асцярожна прамовіў Антон.

– Нервы? – хмыкнуў Кастусь. – Гэта бес... Бес... Ён у кожным з нас. І нават не адзін, шмат іх... Як у мяне. Ды і ў цябе... Вось скажы: як ты сюды трапіў?..

– Так атрымалася.

– Не, ты скажы... – Кастусь узвёў курок. – Скажы!

– Сеў здуру ў лодку і мяне з гэтай лодкай панесла па плыні, – усё яшчэ адчуваючы блізкасць смерці, дрыготкім голасам вымавіў Антон.

– У сваю лодку?

– У чужую...

– А чаго ты сеў не ў сваю, а ў чужую?

– Не ведаю.

– А я ведаю: дэман у табе прачнуўся, ён і штурхнуў цябе не ў тваю лодку... Як мяне прывёў на вайну... Вайну, якая нармальным людзям не патрэбна. – Кастусь апусціў вінтоўку ўніз. – Зразумеў?..

– Зразумеў, – ледзь вымавіў Антон.

– Калі зразумеў, выходзь з зямлянкі... – Погляд Кастуся быў халодным, але ўжо не такім, як усяго толькі імгненне таму. – Давай... Я лепш сабе сабаку вазьму. Прынамсі, ён не будзе задаваць пытанняў і корпацца ў маёй душы...

## X

Антон брыў па востраве і больш нікога і нічога не хацеў бачыць, але ўбачыў тое, што і ў самым страшным сне яму не прыснілася б: проста з зямлі перад ім тырчалі пацямнелыя чалавечыя косткі з кавалкамі прагнілай скуры. І не аднаго чалавека, а некалькіх... Спачатку Антон не паверыў вачам. Падумаў, што галюцынацыя. Але, прыгледзеўшыся, зразумеў: з вачыма ў яго ўсё ў парадку, ён бачыць тое, што ёсць на самой справе.

Яму раптам стукнула ў галаву: «Тут былі людзі да мяне. Не адзін, а некалькі чалавек. Ім ніхто не дапамог выбрацца з гэтага дзікага месца, і яны памерлі. Я таксама памру... Памру... Буду гнісці ў гэтым праклятым балоце...»

«Ніхто мне не дапаможа... Ніхто...»

Каб не бачыць парэшткі мёртвых, Антон хуткім крокам адышоў ад страшнага месца. Ён больш не хацеў нават набліжацца туды – да невядомых магіл. Але цікаўнасць, якая чымсьці падобна на тую, якую адчувае забойца, таемна ідучы на месца свайго злачынства, прымусіла Антона вярнуцца. «Падобна на тое, што з людзьмі тут распраўляліся таемна...», – падумаў ён.

Распраўляліся, зразумела, людзі. Гэта было дзікасцю, злачынствам. Тым больш, што тут, амаль у непраходным лесе, на балоце, дзе варта трымацца разам, а не пазбаўляць жыцця тых, хто можа аказаць дапамогу, раздзяліць незайздросную долю адзіноты, хоць неяк палепшыць цяжкае жыццё.

«А можа, гэта проста могілкі, а побач з імі калісьці была вёска?» – не жадаючы верыць у самае страшнае, падумаў Антон. Гэтая здагадка была туманнай, нелагічнай. Проста Антону хацелася так думаць. Але ён тут жа прагнаў гэтыя думкі – на могілках звычайна стаяць крыжы, помнікі, бывае, што надмагільныя камяні. Але тут нічога падобнага не было. Проста тырчэлі з зямлі невялікія драўляныя крыжыкі, якія былі, хутчэй за ўсё, часовымі, пастаўленымі не сваякамі памерлых ці забітых людзей, а тымі, хто бываў тут рэдка. Значыць, пахаваныя людзі сапраўды памерлі не сваёй смерцю. Ва ўсякім разе, большасць з іх. Таму гэтых людзей, напэўна, па-хуткаму, неглыбока закапалі ў сырую, нават мокрую зямлю, не захацеўшы вынесці нябожчыкаў на больш высокае і сухое месца, каб іх рэшткі не размывала вада.

«Вось дык справы...»

Панічны настрой авалодаў Антонам, які і сам учыніў забойства. Хай не чалавека, не, але ўсё роўна жывых істотаў – жаб і бабра.

«Госпадзе, выратуй...»

Антон заспяшаўся да свайго вогнішча, якое расклаў дзякуючы запалкам Кастуся. Каля вогнішча было адносна спакойна і бяспечна. Антон лёг на зямлю, ляжаў і думаў, што яму рабіць далей. Але нічога талковага ў галаву не прыходзіла.

– Халера, – праз зубы выціснуў ён.

Пры набліжэнні ночы трэба было дадаць у вогнішча дроў. Але Антон не стаў гэтага рабіць. «Небяспечна, – падумаў ён. – А раптам непадалёк

тыя, хто забіў і пахаваў людзей у гэтым лесе, побач з балотам?..» Гэтага нельга было выключаць. Таму Антон зрабіў наадварот – затушыў вогнішча, пасля чаго прыкрыў яго галінкамі.

«Можа, не ўбачаць...»

Гэта была слабая надзея. Ды і ці надзея? Хутчэй за ўсё, неспакой за сваё жыццё, падсвядомая абарона сябе ў дзікім лесе ад драпежнікаў, нарэшце, рэакцыя на вымушаную адзіноту, ды яшчэ побач з невядомымі магіламі. А ўсё разам – холад, голад і страх. Але ўсё ж і такое становішча давала шанец на выратаванне з ляснога палону, ад ваўка, мядзведзя, рысі і магчыма – ад небяспечнай людской увагі.

«Выхад адзін – сплысці адсюль...»

Дачакаўшыся раніцы, Антон закруціў рэшткі мяса ў палатняны мяшэчак, узяў міску і накіраваўся да лодкі. Ледзь ступіўшы ў яе, пачаў вычэрпваць ваду. Яна была халоднай і калючай. Здавалася, што тысячамі сваіх іголак вада спецыяльна ўпіваецца ў рукі Антона, каб замарозіць іх і не даць сплысці з гэтага кавалачка зямлі, акружанага халоднай і абыякавай вадой.

## XI

Больш за гадзіну Антон вычэрпваў з пласкадонкі ваду. Вычарпаўшы, узрадаваўся: «Можна адчальваць». Але раптам пачуў побач асцярожны ўсплёск. Ён прысеў у пласкадонцы і стаў уважліва ўзірацца ў водную роўнядзь. Праз некалькі хвілін убачыў, што ў яго бок плыве невялікая драўляная лодка. У ёй сядзеў апрануты ў армейскі бушлат і ватовыя штаны хударлявы дзед. На яго шырокі маршчыністы лоб напаўзала зімовая футравая шапка. На выгляд незнаёмцу было гадоў семдзесят пяць. Можа, больш. Яго салідны ўзрост трохі супакоіў Антона, але ён не стаў мужчыну гукаць, баючыся, што незнаёмы нейкім чынам датычны да нябожчыкаў, а значыць, небяспечны.

«Трэба прасачыць за ім...»

Мужчына прычаліў лодку зусім побач з Антонам. Але не ўбачыў яго, бо пласкадонка Антона была ў кустах, што раслі дугой вакол тоўстага разлапістага дуба. Агледзеўшыся, незнаёмец выйшаў з лодкі і пайшоў у напрамку магіл. З сабой ён нёс рыдлёўку. Пераадольваючы страх, Антон пакрочыў за прыезджым, прыхапіўшы з сабой тоўстую палку, якой рыхтаваўся веславаць да бліжэйшага берага.

«Калі што, так проста не здамся...»

Антон падсвядома рыхтаваўся да бойкі, калі такая здарыцца. Але паводзіны загадкавага незнаёмца не былі ваяўнічымі. Каля размытых вадой магіл мужчына прысеў. Сядзеў і з сумам глядзеў на аголеныя парэшткі нябожчыкаў.

«Што ён збіраецца рабіць?» – збянтэжыўся Антон.

Адпачыўшы, прыезджы пачаў адкопваць нябожчыкаў.

«Вось яно што... Рабаўнік!.. Магілы рабуе...»

Гэта першае тлумачэнне, якое ўзнікла ў галаве Антона. Але яно тут жа змянілася на іншае, больш эмацыянальны і страшнае: «Мужчына – забойца, хоча перазахаваць свае ахвяры...»

Моцна сціскаючы ў руках палку, Антон не ведаў што рабіць: уцякаць ад прыплыўшага сюды незнаёмца або аглушыць яго палкай, а потым звязаць і здаць у міліцыю?

«Каму я здам гэтага мужчыну?.. Куды?..»

Як на тое пачулася ваўчынае выццё. Але Антон, разгублены і ўзбуджаны пабачаным, не надаў яму вялікага значэння, хоць і напружыўся, нібы ўбачыў перад сабой шэрага ляснога разбойніка – злога, з вышчаранымі зубамі, гатовага кусаць і рваць чалавека. Затое выццё ваўка пачуў і ўсвядоміў для сябе небяспеку незнаёмец. Ён перастаў капаць і пачаў узірацца ўглыб лесу. Прыгледзеўся і заўважыў спачатку лодку Антона, а потым і яго самога.

– Ты хто? – спытаў дзед, уважліва ўзіраючыся ў Антона.

– А вы? – пытаннем на пытанне адказаў ён.

– Мясцовы я, – адказаў незнаёмы. – Жыву недалёка адсюль.

– А чаму магілы раскопваеце? – пацікавіўся Антон.

Яго цікавасць была ахоўнай рэакцыяй, не больш. І гэта мужчына адразу зразумеў. Ён холадна ўсміхнуўся, паклаў рыдлёўку на зямлю, павольна падышоў.

– Не думаю, што табе гэта цікава ведаць, – сказаў ён. – Ды і ці трэба мне нешта тлумачыць? Ты ўсё роўна тут ужо нікому не дапаможаш.

– А вы растлумачце.

Антон трымаўся напружана, моцна сціскаючы ў руках сваю палку. Незнаёмец азадачана пакруціў галавой.

– Баішся, ці што?

– Чаго мне баяцца?

– Ды я ж да цябе па-добраму... А ты?

– А я што?

– Калючы, што вожык.

– Які ёсць...

Антон стаяў на месцы – не ссунеш. Мужчына, пачухаўшы падбародак, на якім вылучаліся дрэнна выгаленыя ямачкі, кіўнуў у бок магіл, адразу за якімі калыхалася каламутная вада. – Бачыш, паводка размыла пахаванні?

– Ну?

– Я прыехаў іх засыпаць зямлёй, а калі трэба, то перазахаваць нябожчыкаў.

– Падазрона гэта.

– Што менавіта?

– Усё...

Антон змоўк, не ведаючы, што яшчэ сказаць і пра што пытацца. Нічога не казаў і дзед. Так яны і стаялі, пазіраючы адзін на аднаго, пакуль Антон не задаў чарговае пытанне:

– А яны сваёй смерцю памерлі?

Твар незнаёмца стаў хмурным.

– Па-рознаму, – задумаўшыся, неахвотна выціснуў ён з сябе.

– Гэта як?

– А так, – дзед адвёў убок свае выцвілыя, вадзяніста-шэрыя вочы. – У кожнага свой канец.

Антону тут жа ўспомніліся свае развагі: «Забіваць лёгка, але як потым жыць?..»

– Значыць, вы глядзіце за гэтымі магіламі?

– Можна сказаць, што так, – неахвотна адказаў дзед.

З палёгкай уздыхнуўшы, Антон прызнаўся:

– Я падумаў, што вы рабаўнік. Магілы рабуеце.

Дзед таксама ўздыхнуў, толькі цяжэй і працяжней, пасля чаго нервова адрэзаў:

– Ты, хлопец, кажы, ды думай. Тут табе не гарадскія могілкі, дарагіх надмагілляў, як і трунаў з багатымі нябожчыкамі, няма. – Бачачы, што Антон не разумее, незнаёмы з раздражненнем у голасе вымавіў: – На гэтым месцы калісьці людзей расстрэльвалі.

Палка ў руках Антона завагалася. Можна было падумаць, што яе хтосьці паспрабаваў вырваць.

– Расстрэльвалі?.. Калі?

– У 1939 годзе, калі Заходнюю Беларусь уз'ядналі з Усходняй. Потым, калі пачалася вайна, і пасля вайны.

– А каго расстрэльвалі?

– Усіх, каго абвінавачвалі ў антысавецкай дзейнасці. Тут ляжыць бязногі афіцэр у адстаўцы, які служыў у Войску Польскім. Дагнівае, прабач Госпадзе, праваслаўны святар, якога мучылі, а потым забілі за тое, што хаваў старадаўнія іконы. Закапалі яшчэ жывога настаўніка гісторыі, што не захацеў быць сакратаром у сельсавеце. Закалолі штыкамі крамніка, які сказаў, што не будзе працаваць у калгасе. У гэтай зямлі магілы іншых няшчасных... Ваенных, грамадзянскіх...

– Жах, – выцiснуў Антон, узрушаны расповедам незнаёмца.

– Яшчэ які жах, – пагадзіўся дзед. Ён павёў вачыма па глухім, усё яшчэ заснежаным лесе, зірнуў на магілу, край якой залівалі брудныя пеністыя хвалі, пакруціў галавой. – Нездарма гэты востраў назвалі Вострававам блізкіх. Назва ў самы раз.

– Гледзячы, напэўна, для каго, – прамовіў Антон.

– Для ўсіх, – адрэзаў мужчына. І патлумачыў: – Блізкі востраў, таму што ўсе мы смяротныя. Значыць, для ўсіх гэты востраў блізкі. Усе можам застацца тут.

– Не палохайце.

– Я не палохаю. Проста нагадваю словы з Святога Пісання.

– Якія?

– З праху мы выйшлі і ў прах ператворымся.

– Гэта так. – Антон, адчуваючы ўнутры незразумелы холад, пацiснуў плячыма.

– Так, – прамовіў дзед. – Але пакуль жывы, жыві. А там... Там, як той казаў, відаць будзе...

Апошнія словы, зразумеў Антон, незнаёмец сказаў для сябе.

– Мяне ўвогуле Аляксеем Іванавічам клічуць, – прадставіўся дзед. – Прозвішча – Ашуркевіч. Былы ляснік. А цябе як зваць?

– Антон. Антон Апанскі.

– З горада?

– Мінчук. Але родам з вёскі.

– Мясцовай?

– Так. Бабровая Затока... Ведаеце?

– Ведаю. Там мой прыяцель жыў – разам некалі служылі. Але яна далекавата.

– Уяўляю...

– Настрой у цябе, бачу, не з лепшых. Што-небудзь здарылася?

– Заблудзіўся я.

Не расціскаючы вуснаў, Антон сумна ўсміхнуўся. Аляксей Іванавіч выціснуў:

– Вось яно як.

– Так, заблукаў, – пацвердзіў Антон.

– А я гляджу на тваю брудную вопратку, няголены твар, запухлыя вочы, якія, прабач, як быццам пасля выпіўкі, і ніяк не магу зразумець: здарылася з табой што, ці гэта мне здаецца? – дзед змерыў Антона позіркам. – Сапраўды, невясёлыя ў цябе справы, хлопец.

– Невясёлыя.

– Ну, не хвалюйся моцна. У час паводкі і не такое здараецца.

– Я сам вінаваты, – прамовіў Антон, у чарговы раз паўтараючы гэта для сябе і выказваючы тое, што казаў Кастусю. – Сеў у лодку, прычым чужую, і паплыў. Куды, навошта, для чаго?.. Не магу сказаць: зацьменне нейкае.

– Бывае... І колькі часу ты адзін жыў?

– Амаль тыдзень.

– Што ж ты адразу не сказаў? – Аляксей Іванавіч няўхвальна пахітаў галавой. – Амаль цэлы тыдзень... Галодны?

– Ёсць трохі. – Антон у першы раз шырока ўсміхнуўся. – Але толькі трохі.

– Падманваеш?

– Не, праўду кажу. Я жабы еў, а потым бабра забіў. Словам, падмацоўваўся...

– Тады пачакай гадзіну-паўтары, – папрасіў Аляксей Іванавіч. – А я магілы, якія вада падмыла, падсыплю. Як падсыплю, адразу паплывём да мяне ў хату. Па Прыпяці паплывём. Твая Бабровая Затока на Гарыні, а мая Бярозаўка ўздоўж Прыпяці стаіць. Хата таксама каля ракі. Але ў баку ад Бярозаўкі. І Блізкі востраў тут жа... Вось як яно выходзіць... Што скажаш на маю прапанову?

– У мяне іншага выбару няма.

– Вось і добра. Са мной унучка жыве, так што ў хаце заўсёды прыбрана, прыгатавана. Перакусім, пагаворым, а потым будзе відаць, што табе далей рабіць...

## Частка другая

### I

Хата Аляксея Іванавіча стаяла сярод высокіх і роўных сосен. Складзеная з тоўстага смалістага кругляка, яна ад часу счарнела, але выгляду свайго не страціла. Да таго ж, здаецца, раздавалася ўшыркі, падымалася ўгару. Трымалася хата на каменным падмурку, а дах мела металічны – з нержавеючых лістоў. Вокны, праўда, вялікімі памерамі не вылучаліся, затое ліштвы былі прыгожыя – з разьбой, пафарбаваныя ў жоўты і карычневы колеры. Вылучалася сваёй непаўторнасцю і веранда, якая напалову складалася з маленькіх акенцаў, аб'яднаных у адно вялікае акно. Над акном віднеліся дзве тонкія медныя трубкі, у якія былі працягнуты электрычныя драты.

– У вас і святло ёсць? – здзівіўся Антон.

– А як жа. Даўно правялі. Яшчэ ў шасцідзясятыя гады, пры сацыялізме. А вось калі адсялялі людзей пасля Чарнобыля, хацелі адключыць, але не

адключылі. Яно і правільна: слупы стаяць, драты на іх вісяць, за святло я плачу спраўна. Усё карысць: і дзяржаве, і мне.

– Наогул, так і павінна быць – па-гаспадарску.

– Вядома... – Аляксей Іванавіч правёў рукой па смалістай сцяне свайго жытла. – Парадак ўсюды павінен быць. Усюды. А інакш што? Развал, анархія. Гэта мы ўжо праходзілі.

– А як жа радыяцыя?.. Людзей адсюль выселілі, а вы засталіся.

– Радыяцыя, і гэта факт, – наша пакаранне за бяздумнасць, безадказнасць, ды і непісьменнасць. Я кажу пра тэхнічную непісьменнасць. Супакойвае толькі тое, што радыяцыя месцамі выпала. Ды і хто ведае, дзе яе больш, а дзе менш. Жывем пакуль. На здароўе асабліва не скардзімся. Значыць, нічога такога страшнага няма, ад чаго ў чужыя краі трэба бегчы, ад роднай зямлі адмаўляцца. Вось калі б дзеці ў мяне малыя былі, тады іншая справа – з'ехаў бы.

– Але ж унучка ёсць.

– Ёсць. Але яна сама так вырашыла – са мной жыць, нікуды не з'язджаць...

– Можа, і правільна, – сказаў Антон, не ўнікаючы ў падрабязнасці пустэльніцтва Ашуркевіча і яго ўнучкі. – Вы самі сабе гаспадары.

– Самі, – не зусім упэўнена прамовіў Аляксей Іванавіч. – Але на ўсё воля Божая. Нам грэх скардзіцца. Вакол прырода, свабода. Што тычыцца жылля, то яно надзейнае. Дождж і снег на галаву нам не падае, сырасці і халадоў мы не баімся – грубку, калі трэба, палім. Бывае, так напалім, што ў нашай хаце цяплей, чым у гарадской кватэры. Верыш?

– Веру.

Антон хатай залюбаваўся, нават пазайздросціў:

– Вось бы мне такую хаціну на дачны ўчастак.

– У цябе ўжо дача ёсць? – здзівіўся Аляксей Іванавіч.

– Пакуль няма, але на працы абяцаюць даць, – патлумачыў Антон. – Дачны кааператыў фармуюць. Я ў яго таксама запісаўся – бацькі параілі.

– А ў бацькоў дача ёсць?

Аляксей Іванавіч з цікавасцю ўтаропіўся ў свайго госця.

– Ёсць, але ўчастак вельмі маленькі. – Антон развёў далоні, нібы паказваў памеры бацькоўскага дачнага ўчастка. – Крыху больш за пяць сотак.

– Сапраўды, маленькі.

– Я і кажу.

Аляксей Іванавіч мудра заўважыў:

– Мала зямлі, затое свая будзе... А пакуль, калі хочаш, жыві ў мяне. Прыязджай і жыві, колькі душы заўгодна. Чым табе не дача?

Такой добразычлівай гасціннасці Антон узрадаваўся, але выгляду не падаў, а гаспадар ляснога жылля больш пра сваё запрашэнне не стаў згадваць. Проста сказаў:

– Заходзь і будзь як дома.

Ледзь Антон ступіў на прыступкі ганка, як з-пад яго выскачыў светлаcorrect руды, з белымі плямамі, сабака – звычайны дварняк. Ашчэрыўшыся, ён гаўкнуў на Антона.

– Лайка, на месца! – прыкрыкнуў на сабаку Аляксей Іванавіч. Звярнуўшыся да Антона, патлумачыў: – Хутка будзе шчаніцца, таму з сабой яе ў лес не бяру. Лепш хай ля хаты сядзіць, пільнуе яе, а заадно і за ўнучкай прыглядае.

«Які з гэтага дварняка ахоўнік?» – падумаў Антон, але ўслых гэтага не сказаў.

Аляксей Іванавіч, напэўна, здагадаўся пра думкі свайго госця і таму дадаў:

– Ты не глядзі, што яна ў мяне на дварняка падобная. Сабака, што трэба. Свайго не аддасць, чужога не чапае. А галоўнае – вельмі разумная. Я, бывае, з ёй як з чалавекам размаўляю. І ведаеш, яна мяне разумее – глядзіць, слухае, галаву паварочвае, накшталт як згаджаецца. Толькі сама нічога сказаць не можа... Добра, ты праходзь, праходзь ў хату...

Антон увайшоў, агледзеў веранду, а потым і гасцёўню. Абстаўленыя яны былі проста, але з густам: у верандзе стаяла шафа для адзення, вешалка і тумба з кветкамі, а ў гасцёўні па цэнтры – вялікі круглы стол. На ім адразу звярталі на сябе ўвагу шырокая драўляная ваза з ляснымі арэхамі, сшытак з шарыкавай ручкай і некалькі старых часопісаў «Алеся».

Заўважыўшы, што пры поглядзе Антона на часопісы яго вусны кранула лёгкая ўсмешка, Аляксей Іванавіч патлумачыў:

– Унучка чытае.

– Ды мне неяк усё роўна. – Антон збянтэжыўся. – Проста такія часопісы чытаюць у асноўным хатнія гаспадыні.

– А мая Наталка і ёсць хатняя гаспадыня, – строга заўважыў Аляксей Іванавіч. – Для жанчыны гэта галоўнае. Так?

– Напэўна.

– Ну, добра. Ідзі, мый рукі. І сядай за стол. Потым я лазенку пратаплю, папарышся... Наталля!

З суседняга пакою выйшла маладая жанчына гадоў дваццаці сямі – дваццаці васьмі. Невысокая, з вялікімі вачыма, распушчанымі русымі валасамі і амаль такой ж ямачкай на падбароддзі, як і ў яе дзеда. Апранутая яна была ў старыя пацертыя джынсы і кофту. На нагах – боцікі з нізкім абцасам.

Наталля выразна паглядзела на свайго дзеда.

– На стол падаваць?

– Сама бачыш – госць. – Гаспадар хаты кашлянуў, выцер шырокай далонню рот. – Заблудзіўся ён у нашых месцах, амаль тыдзень у лесе жыў. Адзін.

– Дзе? – Вочы ў Наталлі акругліліся. У іх бліснуў агеньчык, але тут жа згас, саступіў месца светламу блакіту.

– На Блізкім востраве, па суседстве з ваўкамі, а можа быць, яшчэ і з мядзведзем. Я аднаго ў мінулым годзе там бачыў. А гэтыя звяры, сама разумееш, у госці Антона не запрашалі і, вядома, не кармілі. Так што нясі ўсё, што ў печы.

Наталля змерыла госця лагодна-спачувальным позіркам. На стол яна падала боршч з мясам, каравай пшанічнага хлеба, прасяную кашу, пірог з макам, мёд і кампот. Антон, гледзячы на гэтае харчовае багацце, адчуў, як яго рот напаўняецца горкай слінай. Непрыкметна, угнуўшы галаву, праглынуў густую горыч.

– Чым багаты, тым і рады, – задаволена прамовіў Аляксей Іванавіч. – Блаславі, Божа...

Елі моўчкі. Гаспадар хаты быў засяроджаны і задуменны. Антон хоць і быў галодны, але стараўся есці павольна. Гэта давалася яму з цяжкасцю. Лыжка ў яго руцэ дрыжала. Таму з яе капала. Аляксей Іванавіч і яго

ўнучка рабілі выгляд, што не заўважаюць гэтага. Антон жа быў упэўнены, што нішто ў яго паводзінах не нагадвае перажыты ім голад. Час ад часу ён з цікавасцю пазіраў на сваю новую знаёмую. Яна некалькі разоў таксама глянула на яго.

– Вельмі смачна, – пахваліў Антон страву.

– Можа, дабаўкі?

Наталля гатовая была выставіць на стол каструлю з баршчом.

– Не. – Антон спалохана закруціў галавой. – Баршчу больш не трэба. Я наеўся. Дзякуй.

– Праўда? – Наталля глядзела з недаверам.

– Нават ужо лішняе. – Антон паляпаў сябе па жываце. – Праўда... Дужа дзякую.

Пачуццё нядаўняга голаду ўсё яшчэ не адпускала Антона. Ён працяжна ўздыхнуў і глянуў на пустую талерку, з якой толькі што еў.

– Ну, як скажаце... – Наталля ўсміхнулася, агаліла роўныя і моцныя зубы. – Дзед мой таксама слабы ядок. Я і то больш ем.

– Вы маладая.

– А вы мужчыны... Вы і дзед... Прымайцеся за кашу...

Аляксей Іванавіч, кінуўшы погляд на ўнучку, потым на госця, выразна кашлянуў. Маўляў, менш гаварыце, лепш ешце.

– А каша ў вас сапраўды такая, як мая маці гатуе, – заўважыў Антон. – Жоўтая, што гарбуз, і салодкая.

– Дык я гарбуза ў проса і дадаю, – патлумачыла Наталля. – Так каша разварыстай атрымліваецца і смак у яе асаблівы – мядовы. Вы з кампотам кашу ешце. З кампотам.

Калі паспыталі мёду з пірагом, Аляксей Іванавіч устаў з-за стала, павярнуў галаву да абраза «Тайная вячэра», ціха падзякаваў Ісусу Хрысту:

– Слава табе, Госпадзе, за хлеб і за соль...

– Слава, – прамовіла Наталля.

Аляксей Іванавіч перахрысціўся і дзелавіта прамовіў:

– Я дроў у лазенку прынясу, а вы тут пакуль пагутарыце без мяне. А ты, Наталка, пачастуй нашага госця адварам, што я раніцай прыгатаваў. Мне здаецца, у яго прастуда – дыханне цяжкае. Яно і зразумела – столькі дзён у сырасці, на холадзе.

– А з чаго адвар? – пацікавіўся Антон.

– Не бойся, не атруцішся. – Аляксей Іванавіч усміхнуўся. – Адвар з галінак і шышак хвоі. Гэта сапраўднае лякарства, без хіміі. Яго пілі яшчэ нашы дзяды і прадзеды. Дапамагае, калі ломіць цела, вылечвае пры запаленні. Адным словам, пі – не хварэй.

– А я адвар з кары дуба піў, – сказаў Антон. – Таксама дапамагае.

– Гэта калі па лесе блукаў?

– Так.

– А хто цябе навучыў адвар з кары дуба варыць?

– Мая бабка Ганна.

– Старыя людзі па-старому і лечацца. А гэтае лячэнне стагоддзямі правяралася ды сцвярджалася. Таму і карысць ад яго добрая, верная. Вучыцеся, моладзь.

– Дзякуй, што вы так добра сказалі пра маю бабку, – падзякаваў Антон. – Дзед у мяне таксама майстар на ўсе рукі: і за плугам ходзіць, і з касой на ты, і сталяр нядрэнны... Вы прабачце, але ў мяне да вас просьба.

Аляксей Іванавіч і Наталля павярнуліся да Антона.

– Патэлефанаваць мне ім трэба, каб не турбаваліся, – ён вінавата развёў рукамі. – Я тэлефон у іх забыўся.

Ашуркевіч павярнуўся да ўнучкі:

– Зрабі госцю паслугу...

Апрануўшыся, ён пайшоў.

Патэлефанаваўшы, Антон выпіў адвар з галінак і шышак хвоі, смак якога нагадваў перастаялы бярозавы сок, і, каб не маўчаць, задаў не зусім этычнае пытанне:

– Не сумна ў лесе?

– Калі як, – паціснула плячыма Наталля. – У асноўным усё добра – жывая прырода вакол. Звяры, птушкі... Але, бывае, што і туга мучыць, свет не мілы. Гэта ўсё ад настрою залежыць. І часцей не майго, а ад настрою дзеда.

– Што, нервуецца ён, злуецца?

– Ёсць такое. Ён у мяне праўдалюб. Жыццё больш сэрцам успрымае, чым розумам. Гэта таму, што не ўсё ў яго ў гэтым жыцці добра было. Шмат чаго не склалася. Жонка яго, а мая бабуля Еўдакія, пры родах памерла. Дзед сам маю маму гадаваў, выхоўваў. Яе Марыяй клічуць. Марыяй Аляксееўнай. Калі яна вырасла, дык выйшла замуж за мясцовага хлопца – лесніка, майго бацьку. Яго прозвішча, дарэчы, таксама Ашуркевіч. Жылі мае бацькі дружна, а калі я на свет з'явілася, дык яшчэ больш зблізіліся.

– А што потым здарылася? – Антон выцягнуў падбародак. – Нешта сур'ёзнае?

– Ды вядома што – Чарнобыль, – у вачах жанчыны з'явіліся слёзы. Памаўчаўшы, яна працягнула: – Бацька захварэў – анкалогія – і памёр. Маці неўзабаве выйшла замуж і з'ехала ў Расію.

– А чаму ў Расію?

– Ды яе новы муж па нацыянальнасці рускі, з Алтая, – патлумачыла Наталля. – Туды і падаліся.

– Рыба шукае, дзе глыбей, а чалавек, дзе лепш... Перажываеце?

– Вядома. Але я ўжо прывыкла, што яе няма побач. Чакаю маці ў госці.

– Не хвалюйцеся – мы ўсе пастаянна кагосьці чакаем, – суцяшальна прамовіў Антон. – Гэта жыццё. Я, калі адзін плаваў некалькі дзён, быў рады любому чалавеку, якога сустрэў бы. А сустрэў... – Успомніўшы Кастуся, які папярэдзіў Антона, каб менш балбатаў, ён замоўк, пасля чаго выціснуў: – Так...

– А я не хвалююся. У кожнага свой лёс.

– Свой, – Антон зірнуў на сябе ў люстэрка, якое вісела каля дзвярэй. На яго глядзеў няголены малады мужчына з заўважнай сінню пад стомленымі вачыма. – Менавіта свой. Тым больш, што шлюбы, кажуць, бяруцца на нябёсах. А там няма межаў.

– Ну, вось, – развяла рукамі Наталля. – Так і засталіся мы з дзедам. Я, можа, і не жыла б тут, бо ў мяне жаніх быў, у горад ехаць клікаў, але як дзеда аднаго кінуць? Не кінеш. Вось і жыву з ім.

– Але ў горад, напэўна, усё роўна цягне?

– Ужо не цягне.

– Чаму ўжо?

Наталля тлумачыць не стала, а Антон не дапытваўся, толькі задуменна прамовіў:

– Горад, вёска, хутар... Не важна, дзе жывеш. Важна, як і з кім.

– Гэта старая ісціна.

– Вельмі старая.

– А вы як жывяце? – жанчына запытальна глядзела на Антона. – Мне цікава.

– Нармальна.

– Адны ці жанатыя?.. Можаце, вядома, не адказваць.

– Ды мне няма чаго хаваць, – на твары Антона з'явіўся цень суму. – Жыву адзін і адчуваю сябе нядрэнна.

– Жывяце адзін, таму што не знайшлі яшчэ сваю палову, – упэўнена прамовіла Наталля. – Усё яшчэ наперадзе.

– А я не спяшаюся шукаць, – буркнуў Антон. – Лепш быць аднаму, чым разам з чалавекам, якога не любіш і не хочаш з ім жыць.

– А ў вас ёсць вопыт? – пацікавілася Наталля.

– Ёсць, – прызнаўся Антон. – У мяне была дзяўчына, з якой я жыў грамадзянскім шлюбам.

– Доўга?

– Амаль год.

– Значыць, разышліся?

– Як у моры караблі, – змрочна пажартаваў Антон.

– Такое бывае...

Наталля змоўкла. Маўчаў і нечаканы госць Ашуркевічаў. Праз некалькі хвілін цішыню парушыла жанчына. Яна пацікавілася:

– А ў вас свая кватэра?

– Свая, – адказаў Антон. – Невялікая, праўда. Аднапакаёвая.

– У мяне ў горадзе таксама была свая кватэра, двухпакаёвая, – ці то пахвалілася, ці то проста, без усялякай задняй думкі, сказала Наталля. – Яе маці на мяне перапісала, калі з'язджала ў Расію. Але... Ужо чатыры гады жыву тут, у хаце дзеда.

– З-за яго, вядома, характару, – з ноткай асуджэння легкадумна кінуў Антон.

– І з-за гэтага. – Наталля кіўнула. – Дзед даўно на пенсіі, а ўсё працягвае лес ад браканьераў і злодзеяў ахоўваць.

– А навошта гэта яму? Ён жа на пенсіі.

– Трэба, – з упэўненасцю прамовіла Наталля. – Усе браканьеры і злодзеі прыносяць людзям столькі бяды.

– Якім жа чынам?

Можна было Антону пра гэта не пытацца – і так зразумела, але ён вырашыў удакладніць, што менавіта Наталля мае на ўвазе, кажучы пра бяду.

– Усё проста, – выдыхнула жанчына. – Адны забіваюць дзічыну, а яна ў нашых месцах зараджана радыяцыяй, і радыяцыйнае мяса прадаюць на кірмашах. Напрыклад, у Гомелі, Магілёве, Бабруйску. У Мінск таксама вязуць. Дамаўляюцца і спакойна гандлююць на сталічнай Камароўцы. Спрабуюць вазіць нават у Расею. Там кошты вышэй, чым у нас... Другія крадуць лес. Таксама радыяцыйны. Распілоўваюць на калодкі, сякуць іх на дровы і вязуць у вёскі. Там прадаюць. Галоўны тут у іх – Ґудковіч, стрыечны брат намесніка старшыні раённага таварыства паляўнічых і рыбаловаў.

– Які гэты Ґудковіч сам, такое ў яго і прозвішча, – уставіў Антон. – Шмат ґудзе, а карысці, напэўна, нуль.

– Для яго ёсць карысць. – Наталля склала пальцы рук у замок, нервова хруснула імі. – Ён даўно зарабляе ў лесе, і ўжо дзеду не раз пагражаў, што зробіць усё, каб высяліць нас адсюль. А не выселіць, дык па-іншаму разбярэцца.

– Адчайны мужык.

– Ён сапраўды такі. Калі што не па ім, то адразу пагражае, помсціць.

– Баіцеся?

– Мне страшна, – адкрыта прызналася яна. – Але дзед не баіцца. Ён гэтага Гудковіча чапаць не хоча. У тым сэнсе, што ніколі ў яго не стрэліць, нават калі будзе з боку гэтага браканьера пагроза. Усё спрабуе выхоўваць. Але хіба яго выхаваеш? Канечне, не. Грошы лёгкія яму розум даўно зацьмілі.

– Цяпер такое не з адным Гудковічам адбываецца. Паверце... Сацыялізм скончыўся, таму рублі, даляры і еўра зводзяць людзей з розуму – шмат хто хоча ўзбагаціцца.

– Гэта я ведаю. Некаторыя дзеля нажывы нікога не пашкадуюць.

– Вы маеце на ўвазе, што і забіць могуць?

– Вядома.

– Можа, я чымсьці магу дапамагчы? – прапанаваў Антон. – У мяне ў міністэрстве ўнутраных спраў сябар працуе. Намеснік начальніка ўпраўлення. Гэта вялікая пасада.

– Не, мы тут самі разбярэмся, – адмовілася Наталля. – Вы пакуль свае праблемы вырашайце, а то заблудзіліся і цяпер мучыцеся.

– А давайце пяройдзем на ты, – прапанаваў Антон. – А то неяк няёмка: яшчэ маладыя, а выкаем.

– Давай, – пагадзілася Наталля, быццам з самага пачатку размовы чакала гэтай прапановы.

– Ну, вось так прасцей, – усміхнуўся Антон.

– Нацярпеўся ты, калі адзін плаваў. – У голасе жанчыны гучала спачуванне. – Адзіноцтва – гэта страшна.

– Я плаваў з надзеяй, што ўсё складзецца так, як трэба, – сказаў Антон.

– Гэта добра, што ў цябе была надзея, – адгукнулася Наталля. – У мяне таксама ёсць надзея.

– А ты на што або на каго спадзяешся?

– На сябе, на дзеда, на маці, якую люблю і ўвесь час, як ужо сказала табе, чакаю ў госці. Спадзяюся на добрых людзей.

– Зразумела...

Антон больш не ведаў пра што гаварыць. Ён проста глядзеў на Наталлю, з якой яму было добра і спакойна.

– Дзе ж дзед? – сумелася яна.

Аляксей Іванавіч якраз і з’явіўся ў хату. Атросшы ватоўку ад кавалачкаў кары, пацікавіўся:

– Пазнаёміліся?

Наталля, пачырванеўшы, кіўнула:

– Амаль.

Антон прамовіў:

– Усё больш аб лясным жыцці гаварылі.

– Ну, гэта таксама трэба, – хітра ўсміхнуўся Аляксей Іванавіч. – Чым менш таямніц, тым больш добрых спраў. Так?

Антон, як госць, стараўся падтакваць гаспадару хаты. Таму пагадзіўся. Праўда, не без долі гумару.

– Так.

Аляксей Іванавіч пацёр далоні.

– Рыхтуйся, хлопец, у лазню.

На твары Антона з'явілася невясёлая ўсмешка. Аляксей Іванавіч, гледзячы на свайго госця, прымружыўся.

– Я нешта не так сказаў?

Антон паціснуў плячыма.

– Усё так. Проста я ўжо не хлопец.

– У сэнсе?

– Мне за трыццаць.

– А мне пад восемдзесят, – выдыхнуў Аляксей Іванавіч. – Дык што цяпер – думаць пра гэта і ныць?.. Не. Трэба быць у форме. Вада і пара – найпершыя сродкі для падтрымання гэтай формы і наогул здароўя. Гэта яшчэ старажытныя лекары даказалі. Гіпакрат, напрыклад. Правільна я кажу?

– Правільна, – падтрымала дзеда Наталля і тут жа папярэдзіла: – У парыльні доўга не сядзіце.

Аляксей Іванавіч кіўнуў:

– Разбярэмся...

Невялікая драўляная лазня стаяла паміж хатай і хлявом, з якога даносілася рохканне свіней і кудахтанне курэй. Каля дзвярэй у лазню стаяў кот – сіямскі. Ён чакаў, калі яго ўпусцяць ўнутр пагрэцца.

## II

Перад тым, як пайсці ў парыльню, Аляксей Іванавіч і Антон разгаварыліся.

– Прабач, Антон, – раптам папрасіў Аляксей Іванавіч. – Пра сябе я шмат чаго расказаў, а цябе не спытаў, дзе працуеш, кім...

– Працую ў вялікай аўтатранспартнай фірме ў Мінску, – не без гонару сказаў Антон. – Начальнік юрыдычнага аддзела.

– Што ж, гэта нядрэнна. – Аляксей Іванавіч пахвальна заківаў галавой. – Пасада важная. Падабаецца?

Антон ў лёгкім здзіўленні прыўзняў бровы, як бы даючы зразумець суразмоўцу, што пытанне гэтае можна было б не задаваць. Маўляў, адказ і так зразумелы – усё добра. Але ўсё ж сказаў:

– Я сам сабе выбраў спецыяльнасць юрыста і ўсё больш пераконваюся, што зрабіў правільна.

Аляксей Іванавіч нейкі час маўчаў, фармулюючы чарговае пытанне, потым, адчуваючы некаторую няёмкасць, што прыстаў да чалавека, пацікавіўся:

– А ўсё згодна з законамі робіш?

Антон паціснуў плячыма:

– Імкнуся.

– Гэта добра, што імкнешся, – пахваліў Аляксей Іванавіч. – Чалавек павінен жыць па законах. І чалавечых, і Божых. Асабліва Божых, – падкрэсліў Ашуркевіч. – Гэта для таго, каб людзі не рабіліся бяздушнымі, не ператвараліся ў звяроў.

– Вы пра што?

– Пра тое, што знаю я і што бачыў ты.

– Востраў блізкіх?

– Ён... Суддзі не павінны выносіць несправядлівых прысудаў, а самае страшнае – каб не было сярод тых, каго абвінавачваюць, нявінна забітых.

Антону тут жа ўспомніліся чалавечыя парэшткі, якія тырчаць сярод дзікага лесу і вады.

– Нявінна, – падкрэсліў Аляксей Іванавіч

– Я такога ж меркавання, – прамовіў Антон, добра ведаючы, што судзяць, бывае, не тых, хто павінен адказваць за ўчыненыя злачынствы, а тых, у каго няма ўплывовых сваякоў ці хто не можа адкупіцца.

– Несправядлівасць была і ёсць, – прамовіў Аляксей Іванавіч. – Хто вінаваты?.. Усе. Усе мы.

– Калі ўсе, то часткова вінаватыя, – удакладніў Антон. – Гэта значыць, што ў кожнага з нас ёсць змякчальныя абставіны.

– Абставіны ёсць, згодзен. Але віна не здымаецца.

– Гэта справа часу.

– Памыляешся.

– У чым памыляюся?

– У тым, што час можа змыць віну. Віна не бруд, хоць гэтыя паняцці недалёка адзін ад аднаго знаходзяцца, а час не вада.

Аляксей Іванавіч, утаропіўшыся ў сцяну, глядзеў на яе хвіліны дзве, нібы спрабаваў убачыць там доказ сваім словам.

– Гледзячы, якую віну змыць, – паспрабаваў развіць сваю думку Антон.

– Любую віну ніякі час не змывае, – катэгарычна сказаў Аляксей Іванавіч. – Ні вялікую, ні малую. Розніца толькі ў тым, усвядоміў гэтую віну чалавек, зразумеў яе, ці не.

– Гэта ўжо іншае пытанне.

– Іншае, гаворыш?.. – Аляксей Іванавіч сумна паківаў сваёй сівой галавой. – Гэта ўсё словы. Ёсць віна – ёсць грэх. І за яго спытаецца. Калі не на гэтым свеце, дык на тым абавязкова.

– Я з вамі спрачацца не буду. – Антон расцёр патыліцу, у якой адчуў боль. – Проста, як юрыст, скажу: віна кожнага вызначаецца індывідуальна. На гэтым свеце – так. Ну, а на тым – паглядзім, калі да гэтых агледзін нас дапусцяць.

– Паглядзім, – пагадзіўся Аляксей Іванавіч.

– Што тычыцца несправядлівасці, то ад памылак ніхто не застрахаваны, – заўважыў Антон. – У тым ліку ў судовых справах.

– Справа не ў памылках, а ў чалавечых слабасцях, – з прыкрасцю ўставіў Аляксей Іванавіч. – Хтосьці баіцца начальства, хтосьці выслужваецца, хтосьці за хабар, асабліва буйны хабар, гатовы абвінаваціць каго заўгодна і ў чым заўгодна. І нават расстраляць...

– Згодзен, чалавек слабы.

– Як жа тут не згадзіцца? Вось колькі на Блізкім востраве магіл... Гэта вынік гэтай слабасці, граху.

– Напэўна, на гэтым востраве пахаваны і вашы блізкія.

– Чаму ты так думаеш?

– Калі вы так пра магілы клапоціцеся, то яны для вас не чужыя. З людзьмі, якія там ляжаць, вас нешта звязвае.

– Ты маеш рацыю: звязвае. Але не ў гэтым справа. Некаму ж трэба пра магілы клапаціцца, а каму?.. Нас тут, каля Блізкага вострава, чатыры чалавекі жыве. Усе на хутарах, якія ўжо на хутары не падобныя, таму што зараслі лесам. Гэта я, мая ўнучка Наталля, Пацук і Стэфа... Пані Стэфанія.

– Пані?

– Так. Яна з роду Свірскіх. Але ў нас да яе заўсёды звярталіся проста – Стэфа. Маці ў Стэфы рана памерла, а бацьку і жаніха забілі пасля вайны. Яны пахаваны на Блізкім востраве. Можна было ёй з'ехаць да сваіх сваякоў пад Варшаву, але яна засталася тут – ля магіл родных ёй людзей. Цяпер яна не юная паненка, а сталая жанчына, баба Стэфа або Стэфанія Вацлаваўна. За магіламі даглядаць няма ў яе сілы. Непадалёк ад маёй хаты знаходзіцца хата Пацука. Ён ужо амаль не ходзіць – ногі распухлі, ды і павыкручвала іх так, што глядзець страшна. Вось я і прыглядаю за магіламі. А раней, між іншым, за парадкам на Блізкім востраве больш за мяне Пацук сачыў. Улетку магілы абкошваў, кусты высякаў, нават частку плота – слупы з дротам – паставіў.

– Раз ён клапаціўся, то, значыць, нядрэнны чалавек, – выказаў меркаванне Антон.

– Яго клопат – асобная размова, – махнуў рукой Аляксей Іванавіч.

– А вы раскажыце.

– Расказаць?.. Магу, але мой аповяд не будзе прыемным.

– Нічога, раскажыце.

– Што ж, раз просіш, раскажу, – пагадзіўся Аляксей Іванавіч. – Але гэта няхай застанецца паміж намі.

– Не хвалюйцеся.

– Пацук не мясцовы, – пачаў свой аповяд Аляксей Іванавіч. – Прыехаў у гады перабудовы, купіў хаціну. І адразу ж падаўся на Блізкі востраў. Доўга ён там стаяў, калі ступіў з лодкі на зямлю... Доўга...

– Вы гэта бачылі? – удакладніў Аляксей.

– Бачыў. Лепш бы не бачыць ... – Аляксей Іванавіч хрыпла кашлянуў у кулак, працёр вочы, быццам зноў назіраў за Пацуком. – Пастаяўшы, Пацук накіраваўся да агульнай магілы – ёсць там такая... Асцярожна сеў каля яе і раптам завыў... Як той воўк завыў. Спачатку гучна, потым усё цішэй і цішэй. І нечакана як закрычыць: «На калені, гады!.. Пастраляю!..» Тут я і зразумеў, хто гэта – нутром адчуў, а потым ужо пераканаўся, што так і ёсць – гэта ён, той самы Пацук, якога я некалі ўжо бачыў...

– Нічога не разумею, – прамовіў Антон.

– Цяжка зразумець, – уздыхнуў Аляксей Іванавіч. – Справа ў тым, што Пацука ў першы раз мне давялося пабачыць яшчэ ў 1946 годзе. Я тады малы быў, але тое, што здарылася на Блізкім востраве, запомніў на ўсё жыццё. Страшная карціна... У той дзень мой бацька дровы нарыхтоўваў, а я яму дапамагаў. У абед селі перакусіць. І тут пачулі чужыя галасы. Цікава стала, хто гэта... Паднялі галовы і бачым: шэсць чалавек, апранутых у вайсковую форму, з вінтоўкамі, вядуць адзінаццаць чалавек. Усе са звязанымі рукамі. Сем чалавек у польскай вайсковай форме – афіцэры, а чатыры чалавекі апрануты ў цывільнае. Перагаворваюцца на нашай і польскай мовах. Бацька гэта адразу зразумеў, бо вучыўся ў польскай школе. Ды і я ж хлопец быў не дурны, нешта ведаў. Ля самага балота людзі з вінтоўкамі загадалі ўсім спыніцца. Пасля гэтага паставілі палонных у адну лінію. Галоўны з узброеных людзей, – а гэта быў Пацук, – сказаў: «Цяпер мы вас будзем забіваць». І засмяяўся. Нервова, п'яна... Потым закрычаў: «На калені, гады!..» Але ніхто на калені не стаў. Тады Пацук выламаў дручок, загадаў выламаць палкі сваім падначаленым, і яны ўсе сталі біць прыведзеных па нагах, каб яны не маглі стаяць і апусціліся на

калені. Немагчыма было глядзець, а бацька і я глядзелі. Я потым зразумеў, чаму мы не сышлі.

– Чаму?

– Сярод гэтых польскіх вайскоўцаў быў Франц – стрыечны брат бацькі, мой дзядзька. Ён у час вайны служыў у дывізіі імя Тадэвуша Касцюшкі. Гэтая дывізія ўваходзіла ў склад Войска Польскага, якое ваявала на савецкім баку. Франц дайшоў да Берліна. А яшчэ сярод польскіх вайскоўцаў, якіх прывялі на расстрэл, быў бацька пані Стэфаніі Свірскай – пан Міхал і Марцін – яе жаніх, малады афіцэр. Але мне пра яго стала вядома праз месяц ці два, калі Стэфа даведалася, што яе бацьку і Марціна расстралялі. Як даведалася, стала крычаць, біцца галавой аб сцяну, пасля страціла прытомнасць. А яна цяжарнай была. Ну, і ў яе здарыўся выкідак...

Аляксей Іванавіч замоўк. Парушыўшы цішыню, Антон спытаў:

– А як доўга яны супраціўляліся – не станавіліся на калені?

– Ды я ўжо і не памятаю. – Аляксей Іванавіч закруціў галавой. – Але памятаю, што сталі не адразу... Хтосьці яшчэ спрабаваў стаяць, хтосьці лажыўся... У рэшце рэшт усе, з пакалечанымі нагамі, ляглі. Жыватамі ўніз. Потым у ляжачых Пацук і яго падначаленыя пачалі страляць. У галовы, патыліцы... Але ўсяго гэтага жаху я ўжо не бачыў – мяне званітавала... на зямлю, у кветкі – пралескі. Іх расло столькі, што хоць касой касі – сезон быў... А назаўтра бацька зноў сабраўся ў лес. Ну, і я з ім – нешта пацягнула мяне. Мы ўбачылі невялікую гару пяску, змешанага з торфам. Мы зразумелі, што гэта магіла. І ў ёй ляжалі людзі, якіх на маіх вачах забілі... Забілі майго дзядзьку Франца, вайскоўцаў і цывільных... Вось так.

– А ад каго пані Стэфанія даведалася, што яе бацьку і жаніха забілі?

– Гэтага я не ведаю, а пытацца было няёмка. Хутчэй за ўсё, сярод тых, хто забіваў, быў чалавек, у якога не вытрымалі нервы, і ён пра гэта злачынства распавёў. Ці то самой Стэфе, ці то камусьці, хто яе добра ведаў. У рэшце рэшт, усё таемнае становіцца відавочным.

– Не заўсёды, –  запярэчыў Антон.

– Заўсёды, – упэўнена сказаў Аляксей Іванавіч. – Калі не на зямлі, то там, дзе мы ўсе будзем.

– Доўга, напэўна, прыйдзецца чакаць.

– Нічога, пачакаем. Нам не ўпершыню. Колькі гадоў прайшло, пакуль людзі праўду сталі даведвацца. Цяпер вось шмат пішуць і гавораць пра трыццаць сёмы, трыццаць восьмы, трыццаць дзевяты гады. А пра пасляваенны час чаму маўчаць?.. Ты нават уявіць сабе не можаш, што рабілася тут, калі праводзілі калектывізацыю. А гэта было ўжо ў канцы саракавых, у пяцідзясятыя гады. І нават пазней. У калгасы забіралі практычна ўсё – коней, кароў, вазы, плугі, бароны, нават косы... Разбіралі хаты і хлявы. У каго ў хляве трое дзвярэй было, часта яго забіралі на грамадскія патрэбы. Пакідалі гаспадарам толькі аднадзверныя і двухдзверныя пабудовы.

– Глупства, – кінуў Антон.

– Закон быў такі, – хмурна сказаў Аляксей Іванавіч. – Можна сказаць, ваенны. Нават горш за ваенны. Хто не здаваў сваё дабро добраахвотна, мучылі, забівалі. Але большасць раскулачвалі і высялялі. Прычым без суда і следства. Наша Бярозаўка амаль на трэць апусцела. Адзінкі дадому вярнуліся. Ужо пры Хрушчове. А ад большасці маіх землякоў і следу не засталося.

– Дзякуючы такім, як Пацук, – уставіў Антон.

– І такім, і іншым, як ён... Дурная справа – не хітрая, а чорная – тут і казаць няма чаго: бяда на бядзе, смерць на смерці.

– Можа, у Пацука ўсё ж такі сумленне загаварыла, і ён прыехаў, каб віну сваю неяк зменшыць, змыць? – Антон крыва ўсміхнуўся. – Я не магу падабраць патрэбнага слова.

– А ты не падбірай, не трэба, – параіў Аляксей Іванавіч. – Віна Пацука ў яго ўнутры сядзіць і памрэ толькі разам з ім. Так што не паменшыць ён сваю віну і не змые. Ды і не раскайваецца Пацук у тым, што рабіў.

– Але за магіламі, вы кажаце, ён прыглядвае?

– Прыглядвае... Але гэта не пакаянне, а накшталт, я думаю, настальгіі па тых часах, калі ён пры ўладзе быў. Настальгія па сабе – маладому, моцнаму, які ўзяў на сябе права караць тых, каго ён лічыў злачынцамі... Разумееш?

– Не зусім.

– Я таксама не зусім гэта разумею, хоць жыву з Пацуком па суседстве ўжо амаль дваццаць гадкоў. Ён яшчэ пры розуме, цяміць, але ўсё роўна не заўсёды нармальны. Бывае, як заварочае вачыма, пасля чаго падхопіцца і давай крычаць сваё: «На калені, гады!.. Пастраляю!..» Гэта ж якая ўлада ў яго была, што яна яму да гэтага часу ўспамінаецца, сядзіць у яго галаве?.. А такіх, як Пацук, нямала было. Нямала... Нездарма яны выбралі для расстрэлу людзей самае глухое месца, каб ніхто не даведаўся. Але людзі даведаліся, так як бачылі, што рабілася. І бацька мой бачыў, і я... Колькі ўсяго людзей на Блізкім востраве ляжыць, не ведаю.

– А прыкладна?

– Нават прыкладна не ведаю... Наогул, забіваць людзей у нашых месцах пачалі пасля таго, як Заходнюю Украіну і Заходнюю Беларусь далучылі да СССР. Многія, баючыся за сваё жыццё, збеглі ў Польшчу, аселі там. Яны тады не ведалі, што савецкая ўлада пачне наводзіць свае парадкі ў Польшчы пасля 1944 года. Тых, растраляных Пацуком на Блізкім востраве, прывезлі, думаю, з Польшчы. Можа, планавалі везці іх далей, у Сібір, а потым вырашылі кончыць тут. Гэта прасцей і танней, чым везці за тры-дзевяць зямель... Звычайнаму чалавеку гэтага не зразумець.

– Не любіце вы савецкай улады?

– Гэта так. Прычым, калі раней проста не любіў, то зараз, калі некаторыя нашы дзеячы зноў пачынаюць хваліць той страшны час, не люблю яе яшчэ больш, – прызнаўся Аляксей Іванавіч. – Бо хто хваліць?.. Ці тыя, хто не ведае і не хоча ведаць гісторыю, ці ўнукі тых, хто пісаў даносы, падтрымліваў арышты і забойствы або асабіста ўдзельнічаў у іх. Значыць, яны, ужо людзі дваццаць першага стагоддзя, гатовы працягваць справу Пацука. Дзіка, а факт застаецца фактам.

– Пацука і ягоных паплечнікаў судзіць трэба, – выказаўся Антон.

– Трэба, – пагадзіўся Аляксей Іванавіч. – Толькі мяне ў апошні час усе больш турбуе пытанне: хто судзіць будзе?

– У якім сэнсе?

– У прамым... Я чуў, што некаторыя супрацоўнікі міністэрства ўнутраных спраў на святы надзяваюць форму НКВД. Гэта праўда?

– Праўда.

– Гэта ж дадумацца трэба!.. Куды толькі глядзіць наша вышэйшае кіраўніцтва?

– Вось гэтага я не ведаю.

– Баюся гаварыць, але я ведаю... Думаю, што ведаю: глядзіць у мінулае. Гэта значыць туды, дзе з чалавекам маглі рабіць тое, што рабілі на Востраве блізкіх. Калі такое пераадзяванне будзе працягвацца і далей, то мы можам вярнуцца ў тыя гады, калі каралі толькі за тое, што чалавек нарадзіўся і жыў пры цары, Польшчы, проста быў за межамі нашай дзяржавы. Як думаеш?

– Усё магчыма, – сказаў Антон, здзіўляючыся простаму, але мудраму вываду Ашуркевіча.

Некаторы час яны маўчалі.

– На вялікі жаль, пакуль няма ў нас разумення таго, што трэба судзіць такіх, як Пацук, – першым парушыў цішыню Аляксей Іванавіч. – Ні ў нас няма, ні ў нашых суседзяў – Расіі, Украіне, Казахстане, дзе мільёны людзей забілі. А за што забілі?.. За тое, што хацелі жыць спакойна, сытна, па-людску. І не ў светлай будучыні, а сёння.

– Так, – пагадзіўся Антон.

– Ведаеш, мне ўвесь час здаецца, што мяне бачыў адзін з тых, каго расстрэльваў Пацук са сваімі памочнікамі. Нават памятаю вочы гэтага мужчыны. Вочы, як у чалавека ненармальнага. Можа, я сабе гэта прыдумаў, не ведаю, але ў галаве ў мяне гэта ёсць і не выходзіць. Магчыма, гэты няшчасны і расказаў пра расстрэл на Блізкім востраве...

– А пані Свірская ведае, што менавіта Пацук са сваімі падначаленымі забіў яе мужа?

– Не. І не дай Бог, каб даведалася. Не разумею, як гэта растлумачыць, але Пацук, калі прыехаў, то сватаўся да Стэфы. Але яна сказала яму: «Без мужа ўсё жыццё пражыла, ніколі не здраджвала яму, а на старасці грашыць не буду».

– Характар... У такім узросце, зразумела, можна і адной дажываць, а калі маладая была, няўжо не хацела выйсці замуж?

– Напэўна, хацела, але на любоўныя ўцехі ў яе часу не было.

– Чаму?

– Яна ўсё жыццё даяркай адпрацавала. А гэта без выхадных. Як летам, так і зімой. Калгас, што ты хочаш...

– Пані і даяркай працавала? – Антону не верылася.

– Жывот не пытае, ты пані, пан або проста чалавек ад зямлі, – павучальна сказаў Аляксей Іванавіч. – Хочаш жыць – працуй. А ў нас тут якая праца?.. Толькі ў калгасе. Вось Стэфа і працавала ў калгасе, хоць магла дзяцей у школе вучыць польскай мове.

– То трэба было вучыць.

– Трэба. Толькі як?.. У нас у савецкі час беларускую мову мала вучылі, а польскай не было. Да таго ж у нашай вясковай школе выкладалі іспанскую. Я маю на ўвазе замежную мову.

Твар Аляксея Іванавіча як быццам застыў – ніякіх эмоцый. Антон, хутчэй для сябе, чым для былога лесніка, прамовіў:

– Усё, што здарылася, напэўна, павінна было здарыцца. Як прыклад, урок.

– Урок, кажаш?.. Дзеці не хочуць вучыць урокі, а дарослыя іх наогул цярпець не могуць. Ты вось дай параду, напрыклад, п’яніцы не піць. Раскажы яму, як чалавек, які п’е, даходзіць да ручкі: усе прапівае, губляе працу, сям’ю. Дай яму параду спыніцца. Спыніцца ён?.. Не. Яшчэ пашле цябе куды далей, каб ты не перашкаджаў яму піць. – У вачах Аляксея Іванавіча закалыхалася смуга. – І ўсё ж не павінна на нашай зямлі быць

таго, што было... Не павінна. Але яно ёсць. Вазьмі Украіну. Там цяпер зноў страляюць. Зноў забіваюць. Нікога не шкадуюць. А ёсць Новы Запавет, ёсць словы Хрыста: «Любі бліжняга свайго, як самога сябе». У гэтых словах вялікі сэнс.

– Сітуацыі бываюць розныя, – заўважыў Антон, маючы на ўвазе сябе – забойства жаб, паляванне на бабра. Ды і звер зверу розніца.

– Гэта праўда, але любоў усё роўна павінна быць. Павінна. – Аляксей Іванавіч міжволі распрастаў грудзі, прыўзняў галаву. – Яна чалавеку даецца не толькі для таго, каб жонка, напрыклад, любіла мужа, а муж жонку. Любоў даецца яшчэ і для таго, каб чалавек не хапаўся за стрэльбу, калі бачыць звера ці птушку, не страляў у каго папала. Любоў, хлопец, гэта аснова ўсяго. І правасуддзя таксама. Ды і перш за ўсё – правасуддзя.

– Зразумела.

– Табе зразумела, мне, а іншым?

– Не ўсе аднолькавыя, – Антон сумна ўсміхнуўся.

– Гэта праўда, – не стаў спрачацца Аляксей Іванавіч. – Кусты, дрэвы, і тыя няроўныя. Адны вышэй, другія ніжэй.

– Вось. У кожнага з нас унутры па-свойму. І не толькі ўнутры, але і знешне.

– Па-свойму, – Аляксей Іванавіч, паклаўшы рукі на калені, паглядзеў на адну нагу, потым на другую. – Хоць створаны мы практычна аднолькава, па адным Божым плане.

– Ясная справа, – уставіў Антон.

– Гэта самая, што ні на ёсць, праўда. А праўда заўсёды справядлівая, нават калі яна жорсткая. – Аляксей Іванавіч задумаўся, зазірнуў у вочы Антону. – Не разумееш?

– Пра жорсткасць праўды разумею, – прызнаўся Антон. – Магу прывесці прыклады, так як сам ваюю за праўду, а ў любой вайне абавязкова ёсць ахвяры. Але ж у вашых словах ёсць нейкі і іншы сэнс?

– Ёсць. Гэты сэнс у тым, што Пацук будзе пахаваны, і не без маёй дапамогі, на Блізкім востраве. Ён жа ўсё ж такі чалавек... Гэта значыць, забойца будзе ляжаць па суседстве з забітымі ім людзьмі... Калі я пра гэта думаю, то ў мяне, што называецца, мазгі плывуць. «Як жа так?» – пытаюся ў сябе. Быццам разумею і ў той жа час не зусім разумею. Значыць, не сябе трэба пытацца, а таго, хто над усімі намі...

Антон толькі цяпер зразумеў, чаму яго Аляксей Іванавіч, яшчэ толкам не пазнаёміўшыся, запрасіў да сябе дадому, многае пра сябе расказаў – сэрца ў яго адкрытае і добрае. Такое, відаць, з самага нараджэння. І ён хоча бачыць іншыя сэрцы такімі ж аголенымі, якія рэагуюць на радасць і боль.

– Вы, напэўна, у царкву рэгулярна ходзіце? – хутчэй адказаў на сваё пытанне, чым спытаў Антон.

Адказ Ашуркевіча некалькі збянтэжыў Антона.

– Амаль не хаджу. – Аляксей Іванавіч шумна ўздыхнуў. – А ўсё таму, што так выхаваны быў – у бязбожнасці. Ды і няма ў нас тут у зоне адсялення ніводнага святога храма або дома малітвы. Але святары нас не забываюць. Бацюшка з райцэнтра пару разоў прыязджаў. Евангелісты наведваюцца. Ксёндз быў. Я ўсіх слухаю, імкнуся запамінаць біблейскія ісціны. Ды і сам Біблію чытаю... Самае страшнае – варожасць. Яна яшчэ можа праявіцца ў нас ва ўсёй сваёй д'ябальскай сіле. Па-новаму, як у страшныя трыццатыя гады.

– Вы думаеце?

– Думаю. Дзякуй Богу, не я адзін так думаю.

– І што гэта значыць?

Антон зацікаўлена паглядзеў на Аляксея Іванавіча.

– А тое значыць, што людзі, у большасці сваёй, разумеюць, да чаго вядзе варожасць, – упэўнена адказаў той. – Разумеюць... У варожасці адна дарога – да забойства. А хто забіваць хоча? Толькі вар'яты, хворыя на галаву людзі...

Наталля, якая прынесла ў лазню квас і пачула апошнія словы дзеда, строга зірнула на яго.

– Ты зноў за сваё?

Антон запытальна ўтаропіўся на яе. Наталля не стала нічога адказваць, толькі сказала:

– Мой дзед любіць паразважаць. Асабліва пра тое, што было. Напэўна, таму кожны тыдзень на Блізкі востраў плавае.

– Плаваю, – не адмовіўся Аляксей Іванавіч. – Ты, Наталка, ідзі ў хату, ідзі...

Жанчына асцярожна, каб не стукаць, зачыніла за сабой дзверы.

– Я ўжо таго вострава пачынаю баяцца. – Антон сцепануўся, нібы зноў плыў у пласкадонцы сярод крыг па халоднай вадзе.

– Баяцца няма чаго, – Аляксей Іванавіч спыніў свой погляд на адной кропцы, нібы ў ёй паказваліся родныя і проста знаёмыя яму людзі, якіх ужо няма з намі. – Такое тады рабілася...

– Было, – неяк асуджана выдыхнуў Антон, адчуваючы, як горла сціскаецца, быццам нехта нябачны спрабуе яго задушыць. Памаўчаўшы, прапанаваў: – А давайце ўжо не будзем пра мінулае... Лепш пойдзем мыцца?

– Хадзем, – пагадзіўся Аляксей Іванавіч.

Парыліся яны доўга, нібы ў першы і апошні раз.

## III

Соладка спалася Антону на пярыне, у цёплым пакоі. Падняўся ён на пачатку дзясятай гадзіны.

– Добрай раніцы, – Наталля лагодна ўсміхнулася. – Сняданак ужо на стале.

– Добрай, – вінавата выціснуў Антон. – Ты і Аляксей Іванавіч, мусіць, рана ўстаяце, а я, атрымліваецца, парушыў ваш распарадак. Прашу прабачэння.

– Няма за што прасіць прабачэння, – Наталля рассунула на акне фіранкі. У хаце стала прыкметна святлей. – Дзед у мяне пенсіянер, а я нідзе не працую, так што спяшацца няма куды.

– Гэта праўда, – пацвердзіў Аляксей Іванавіч, уважліва гледзячы на Антона. – Як адпачыў?

– Спаў як забіты, – прызнаўся Антон.

– Ну, і добра, – пахваліў Аляксей Іванавіч. – Чакаем цябе на сняданак...

Паснедаўшы, пілі зялёную гарбату. Завараная з мятай, яна прыемна казытала ноздры Антону, выклікаючы ў яго памяці карціны з дзяцінства. Вялікі агарод дзеда Сцяпана і бабы Ганны, абгароджаны штыкетам, стары вяз каля брамы, драўляны калодзеж, шырокая сцяжынка да ракі і сама рака...

– Добра ў вас, – задаволена заўважыў Антон, гледзячы ў акно. – Нават не верыцца, што так можна жыць.

– Як так? – Наталля, памешваючы лыжачкай гарачы духмяны напой, здзіўлена зірнула на Антона.

– Спакойна, – адказаў ён. – Па-хатняму.

– Не заўсёды ў нас спакойна, – прамовіў Аляксей Іванавіч, паставіўшы пусты кубак на стол. – Мясцовасць нашая пасля Чарнобыля стала дзікай, таму бывае ўсялякае.

– Усё роўна пасля ўсяго, што я перанёс за апошні тыдзень, у вас рай, – не хацеў адступіцца ад свайго Антон. – Мне хочацца жыць.

– Гэта можна, – усміхнуўся Аляксей Іванавіч. – Жыццё – самае лепшае, што ёсць.

Ён павярнуў галаву да акна. За ім падымалася сонца. З прачыненай форткі было чуваць, як лес напаўняўся галасамі птушак.

– Колькі птушак, столькі і птушыных галасоў, – заўважыла Наталля. – А ў іх пачуцці, нейкія знакі і нават, напэўна, гісторыі.

– Як у людзей, – падтрымаў яе Антон.

Галасы птушак звінелі, пераліваліся, змешваліся. Здавалася, у свеце ўсім сапраўды добра, весела, спакойна. І раптам гэтую гармонію разбіў стрэл. Птушыны хор у імгненне ператварыўся ў трывожны гоман, стаў глушэй і цішэй, пачаў адлятаць, аддаляцца...

У двары злосна і працягла забрахала Лайка. З ганка спалохана саскочыў кот і схаваўся за дровы.

За першым стрэлам грымнуў другі, потым трэці. Над самай вадой са свістам пранесліся качкі, закрычалі чайкі.

– Ну вось, зноў... – Аляксей Іванавіч прамовіў гэта з раздражненнем і абурэннем. – Я пасля сняданку планаваў сплаваць на Блізкі востраў, а зараз прыйдзецца ехаць разбірацца.

– Гэта яны? – занепакоілася Наталля.

– Магчыма, – заклапочана прамовіў Аляксей Іванавіч.

– Значыць, яны. – Наталля скрыжавала на грудзях рукі. – Няма ў нас ад гэтых браканьераў спакою.

– І наўрад ці будзе, – буркнуў Аляксей Іванавіч. – Трэба збірацца...

Ён падняўся, надзеў бушлат, узяў сваю старэнькую аднаստволку і выйшаў з хаты. За ім, нацягнуўшы падрыхтаваныя дзедавы штаны, кашулю, схапіўшы куртку, пайшоў Антон. Ён зразумеў, куды накіроўваецца былы ляснік. Таму папярэдзіў:

– Я з вамі.

– А ты не баішся? – хутчэй дзяжурна, чым сур’ёзна, спытаў Аляксей Іванавіч.

– Я ж не адзін, – спакойна прамовіў Антон, папраўляючы капюшон курткі. – Вы пры зброі, а я буду пры вясле.

– Гэта не жарты.

– Я ўсё разумею. Але вы дапамаглі мне, а я хачу дапамагчы вам.

– Тады ідзі, адвязвай лодку. Толькі глядзі, каб у яе Лайка не заскочыла, яна ў мяне шустрая...

Яны пайшлі да ракі. Наталля, гледзячы ім услед, перахрысцілася:

– Дай, Бог, каб вярнуліся...

Тэмпература паветра была не менш за пяць градусаў цяпла. Узровень вады за апошнія суткі падняўся яшчэ вышэй. Лодка плыла вольна, амаль не чапляючы дном дробны хмызняк, затоплены паводкай.

– Нашы клiенты ў сасоннiку, – прашаптаў Аляксей Iванавiч. – Грабi да яго, толькi асцярожна i цiха.

Ён падняў стрэльбу, нiбы збiраўся неадкладна страляць. Антон з асцярогай глянуў на аднастволку – раптам сапраўды бабахне.

– Гэта я так, – патлумачыў Аляксей Iванавiч. – Каб бачылi, калi браканьераў сустрэнем, што i мы ўзброеныя... Ты грабi, грабi. I не пляскай вяслом па вадзе. Апускай яго акуратна, без спеху.

– Ды я не спяшаюся.

– Добра...

Падплываючы да сасоннiку, Антон перастаў грабцi. Толькi з дапамогай вясла трымаў курс пласкадонкi да берага. Калi лодка ўткнулася ў пясчаную водмель, Аляксей Iванавiч i Антон асцярожна, каб не паслiзнуцца i не ўпасцi, выйшлi на сушу.

Ашуркевiч адразу спынiўся, пачаў прыслухоўвацца. Навокал не было нiякiх гукаў, падобных на чалавечыя галасы. Толькi ў кiрунку да балота шумна ляцелi сарокi. Спачатку дзве, потым каля дзясятка, а яшчэ праз хвiлiн пяць цэлая жывая эскадрылля.

– Гэта знак, – заўважыў Аляксей Iванавiч, праводзячы позiркам птушак. – Для нас знак...

– Чаму вы так вырашылi?

– Раз сарокi крычаць, значыць, знайшлi сабе ежу.

– Ну i што? – не зразумеў Антон.

– А тое, што браканьеры там ужо разбiраюць тушу забiтага дзiка або лася, – патлумачыў Аляксей Iванавiч. – За дробнай дзiчынай яны не палююць. Навошта?.. Чым буйней дзiчына, тым больш навару ад яе продажу.

– З буйной дзiчынай шмат валтузнi.

– З малой не менш... Ты iдзi за мной. Толькi след у след. I iдзi мякка, каб не выдаць сябе...

Тым часам сарочы крык нарастаў. Да яго далучылася карканне варон.

Iсцi было цяжка. Перад самым балотам снег амаль цалкам растаў, скрозь яго чарнела чорная тарфяная жыжа. Ногi ў ёй ўвязалi, лiплi ў цвёрдым грунце, якi ляжаў нiжэй пласта торфу. Антон некалькi разоў выцягваў ногi са спадаючымi ботамi – iх зямля як быццам не хацела адпускаць.

На падыходзе да балота Аляксей Iванавiч пайшоў павольней, уважлiва аглядаючыся па баках.

– Заўважылi што? – пацiкавiўся Антон.

Ашуркевiч нiчога не адказаў. Кiдаючы кароткiя погляды па баках, ён працягваў павольна i асцярожна рухацца наперад. Але ўжо праз метраў сорак падняў руку i прысеў ля прысадзiстага хмызняку. Прыгнуўся i Антон. Хмызняк быў без лiсця, таму скрозь яго тэрыторыя наперадзе добра праглядалася. I Аляксей Iванавiч, i Антон ўбачылi, як тры чалавекi здымаюць з забiтага лася шкуру. Па ўсiм, яны падстрэлiлi яго перад самым балотам, а можа i ў тую хвiлiну, калi лось ступiў у балота, але далей не пайшоў – стаў правальвацца i спалохаўся.

Аляксей Iванавiч i Антон пераглянулiся. Яны зразумелi адзiн аднаго без слоў: трэба браць браканьераў, пакуль iх стрэльбы ляжаць у баку ад забiтай жывёлы. Разам, амаль бягом, кiнулiся да мужчын, якiя спрытны разразалi нажамi вялiзную i яшчэ цёплую тушу. Самы рослы з мужчын, зарослы чорнай густой барадой, у скуранцы на цёплым падшпiльваннi, зрабiў выгляд, што здзiвiўся:

– Іванавіч, ізноў ты?

– Я.

Ашуркевіч наставіў на барадатага сваю стрэльбу і загадаў:

– Кінь нож.

Мужчына, падумаўшы, кінуў. Жаўлакі на яго чырвоным ад п'янства твары нервова захадзілі.

– І вы таксама, – звярнуўся Аляксей Іванавіч да кампаньёнаў барадатага – светлавалосага мужчыны сярэдніх гадоў з крывым касцістым носам, апранутага ў ватовыя штаны і ватоўку, і зусім яшчэ юнага хлопца з цёмнымі, пранізлівымі, але спалоханымі вачыма пад густымі і чорнымі як смоль бровамі. На ім было зімовае спартыўнае адзенне: куртка са штанамі і тоўстая вязаная шапка.

Светлавалосы мужчына і чарнявы хлопец паклалі нажы ля сваіх ног.

– Калі ж ты наясіся? – Аляксей Іванавіч зло паглядзеў на барадатага. – Калі?..

– Тады, калі ты, Іванавіч, найграешся, – з раздражненнем адказаў барадаты. – Прыйшоў браць мяне на месцы злачынства?

– Прыйшоў. І не адзін.

– Я бачу, не сляпы.

– А раз бачыш, то адыдзі ад тушы і сваіх ад яе адвядзі.

– Ну, і што пасля гэтага?

– Вядома што, – Аляксей Іванавіч не спяшаючыся абвёў калючым позіркам браканьераў. – Паедзем з тваімі сябрамі-таварышамі ў раён.

– Ды я раніцай з раёна прыехаў, – паспрабаваў аджартавацца барадаты. – Што мне там рабіць?

– Нічога, зноў паедзем. Для цябе гэта карысна, ды і нам нялішнім будзе.

– З чаго б?

– Пройдземся па асфальце. Не ўсё ж цэлымі днямі мне з маім маладым памочнікам бруд мясіць.

– А калі я і мае таварышы не хочам нікуды ехаць?

Аляксей Іванавіч узвёў курок аднастволкі.

– Я чакаю. – Ён павярнуўся да Антона. – Вазьмі ў іх стрэльбы. І падбяры нажы, а то мала што... Мужыкі злыя, нервовыя...

– Хай бярэ. – Барадаты шматзначна паглядзеў на сваіх кампаньёнаў. – Стрэльбы не зараджаныя, патронаў ніякіх няма.

– Значыць, у іншым месцы ляжаць? – Аляксей Іванавіч павёў вачыма вакол. – Прадбачлівыя вы.

– А ты як думаў? – Барадаты плюнуў, выцер шырокай далонню свой губасты рот. – Ты разумны, але і мы не дурні.

Браканьеры, здавалася, нікога і нічога не баяліся. Яны стаялі спакойна, хоць насцярожанасць у іх паводзінах адчувалася.

– Ты нас, Іванавіч, адпусці лепш, а то мы тваю ўнучку потым у дэкрэтны адпачынак адправім, – падаў голас светлавалосы мужчына.

Аляксей Іванавіч збялеў.

– Зсучыўся ты зусім... Пагражаеш мне?

– Пагражаю, – амаль без эмоцый, нават неяк ляніва сказаў мужчына і пачухаў свой касцісты нос, які за некалькі секунд як быццам выцягнуўся – відаць, адчуў, што вось-вось можа праліцца кроў.

– Змоўкніце! – зло выгукнуў Антон. – Страху ў вас няма, зразумела. А сумленне?.. Сумленне ўсё ж такі павінна быць...

Ён не баяўся браканьераў і быў настроены рашуча. Так рашуча, як тады, калі сярод хмурнай вады прагнаў свой страх, каб жыць, жыць...

– Добра, добра... – барадаты падняў рукі. – Не хапала нам тут разборак, ды яшчэ са стральбой. Едзем у раён. Дазвольце толькі зрабіць адзін званок.

– Звані, – буркнуў Аляксей Іванавіч.

Барадаты дастаў мабільны тэлефон, набраў нейкі нумар і коратка, але нервова паведаміў:

– Нас тут арыштавалі, пад стрэльбай стаім... Чыёй?.. Ашуркевіча, каго ж яшчэ?.. Так... Ён тут... Не адзін... Удваіх. З ім нейкі прыезджы...

Перш чым сесці ў лодку, Аляксей Іванавіч папрасіў Антона прыкрыць тушу забітага лася галінкамі.

Барадаты нахмурыўся, са здзекам спытаў:

– Баіцеся, што рэчавы доказ на корм ваўкам пойдзе?

Аляксей Іванавіч прамовіў:

– Бог не выдасць, свіння не з’есць. Мо й захаваецца.

– Ну-ну, – выціснуў барадаты.

– Ды і ваўкам далёка да вас, – дадаў Аляксей Іванавіч. – Яны хоць і галодныя, а ядуць мала, эканомна. А самае галоўнае – у сям’ю мяса нясуць, малым ваўчанятам. Не тое, што ты са сваімі сябрукамі – на базар.

– Можа, і так, – выціснуў барадаты. – У кожнага свае абавязкі, свой апетыт, свая мэта.

– Тваю мэту я ведаю.

– Ведаеш, дык маўчы.

– А то што? – Аляксей Іванавіч наставіўся на барадатага. – Пагражаць мне будзеш?.. Я гэта ўжо чуў.

– Пайшлі! – нервова павысіў голас барадаты. – Няма часу байкі разводзіць.

– На якой лодцы паплывем? – пацікавіўся мужчына ў ватоўцы.

– На маёй, – кінуў Аляксей Іванавіч.

– А наша?

– Няхай тут стаіць. Потым забераце.

– Як скажаш...

Аляксей Іванавіч, Антон і браканьеры селі ў лодку. Яна небяспечна захісталася, ледзь не зачарпнула бартамі вады.

– Асцярожна, – папрасіў хлопец. Чырвань з яго твару пачала спадаць, у цёмных вачах заскакаў страх. – Яшчэ перакулімся...

У нейкі момант у гэтым хлопцы Антон убачыў сябе – бездапаможнага, спалоханага, сярод бязмежных паводкавых вод. Яго ахапіў жаль. І да гэтага хлопца, і да сябе.

Светлавалосы мужчына, узяўшыся за вясло, зыркнуў на Аляксея Іванавіча.

– Куды руліць загадаеце?

– Грабі спачатку да маёй хаты, – скамандаваў Аляксей Іванавіч. Ён дастаў з кішэні хустку, выцер успацелыя лоб, твар. – Мне памятаецца, ты ў мяне ў мінулым годзе мёд купляў. Значыць, ведаеш, дзе жыву.

Мужчына, адной рукой утрымліваючы вясло, другой з сілай прыўзняў пальцамі кончык свайго касцістага носа, сціснуў яго, быццам баяўся, што можа чхнуць. Пасля гэтага выціснуў:

– Ведаю.

Аляксей Іванавіч павярнуўся да Антона, прамовіў:

– І я ведаю. Шмат чаго ведаю... Трэба папярэдзіць Наталлю, што мы выязджаем у раён і вернемся позна... Дарэчы, ты можаш адтуль прамым цягніком ці аўтобусам з’ехаць на Мінск.

– Паспею з’ехаць, – прамовіў Антон. – Спяшацца мне няма куды.

## IV

Наталля была ў двары – вывешвала памытую вопратку на нацягнутыя вяроўкі для бялізны. На іх ужо віселі, разам з вопраткай Аляксея Іванавіча, штаны і кашуля Антона. Убачыўшы гэта, ён збянтэжыўся.

«Абмываць мяне яшчэ не хапала...»

Аляксей Іванавіч скамандаваў браканьерам:

– Выйдзіце пакуль з лодкі і пакурыце, а зброю вашу мы на ўсялякі выпадак аднясем у хлеў... Антон!..

– Я зразумеў, – Антон кінуўся збіраць стрэльбы і нажы. – Сам занясу...

– Ды мы не ўцячэм, – барадаты ўхмыльнуўся. – Дарэмна ты, Іванавіч, так стараешся. Ні медаля, ні прэміі табе не відаць.

– А мне і не трэба.

– Зразумела, ты за ідэю. Амаль як у кіно: «Мне за дзяржаву крыўдна».

– Уяві сабе.

– Не ўяўляю і не разумею.

– Кінь, усё ты ўяўляеш і разумееш. Проста не хочаш жыць, як усе. Хочаш лепш.

– Не, ты не маеш рацыю.

Лайка, якая назірала за няпрошанымі гасцямі, быццам адчула ў словах барадатага няпраўду і зайшлася злосным брэхам.

– Маю рацыю, – цвёрда сказаў Аляксей Іванавіч.

– Добра, – барадаты махнуў рукой. – Ты лепш сабаку прывяжы, а то яшчэ кінецца на нас... – Памаўчаўшы, прамовіў: – Што тычыцца майго жыцця, Іванавіч, то я сам за яго адказваю, а таму раблю тое і так, што лічу патрэбным.

– Во-во, – дадаў светлавалосы. – У нашае жыццё няма чаго вам лезці. Навошта?.. Мы людзі законапаслухмяныя, зла нікому не робім. Так што крыўдзіць нас, ды яшчэ цкаваць сабакам, не трэба.

– Чыя б карова мычэла, – буркнуў Аляксей Іванавіч, прывязваючы вяроўкай Лайку, якая ўсё яшчэ насцярожана глядзела на чужынцаў. – Самі разбойнічае, дык у дадатак хлопца з сабой узялі. Чаму вы яго вучыце?

Хлопец засунуў рукі ў глыбокія кішэні курткі і апусціў галаву. Было бачна, што яму непрыемна знаходзіцца ў кампаніі з дарослымі мужчынамі, адказваць разам з імі за незаконны промысел.

– А табе што? – барадаты злосна наставіў вочы на Аляксея Іванавіча. – Ты лепш пра сябе паклапаціся і пра ўнучку сваю думай.

– А я і клапачуся, думаю, – адказаў Аляксей Іванавіч.

– Нешта не відаць, – прамовіў светлавалосы і ашчэрыўся.

У Аляксея Іванавіча нервова заходзілі жаўлакі. Ён ціха, як быццам самому сабе, прамовіў:

– Убачыш, не спяшайся.

– А сапраўды, слаба клапоцішся, раз у лесе з сабой адзіную ўнучку трымаеш, – сур’ёзна сказаў барадаты. – Ды калі б толькі ў лесе, а то яшчэ

і на балоце. Ёй у горад трэба, да людзей. Замуж тваёй унучцы даўно пара, а ты яе да сябе ў сядзелкі вызначыў, быццам старавер які. Нядобра гэта, вельмі нядобра.

– Ты не турбуйся, мы тут без цябе разбяромся, – холадна сказаў Аляксей Іванавіч. – Ты ў сваёй сям'і парадак навядзі. Зразумеў?

Ён павярнуўся і хуткім крокам накіраваўся ў хату.

– Зразумеў, – услед яму адпусціў барадаты і з сумам глянуў на раку.

Вада патроху пачала спадаць, таму бераг Прыпяці быў у бруднай пене і смецці. З-пад яго прабівалася свежая трава. Там, дзе над вадой ўзвышаліся горкі пяску, відаць былі ракавінкі. На іх невялікімі кропкамі ледзь прыкметна блішчэлі прамяні сонца.

Браканьеры, стаўшы паўкругам, пра штосьці зашапталіся. Барадаты выняў мабільнік, набраў нумар і коратка прамовіў у трубку:

– Мы ў двары Ашуркевіча...

Антон аднёс стрэльбы і нажы браканьераў у хлеў, потым падышоў да Наталлі, усміхнуўся ёй. Усмешка атрымалася скупой, ненатуральнай.

– Каго гэта вы прывезлі? – не хаваючы трывогі, пацікавілася маладая жанчына.

– Браканьераў. Зараз у раён павязем. Няхай там з імі разбіраюцца.

– Зноў?

– У сэнсе?

– Дзед ўжо адзін раз іх вазіў.

– І што?

– Нічога.

– Значыць, павязем яшчэ раз. Гэта Аляксей Іванавіч так вырашыў.

– Ну-ну...

Наталля надзьмула вусны, адвярнулася.

– Ну, і я, – дадаў Антон, каб узяць на сябе частку адказнасці.

– Лепш вы іх адпусціце, – параіла Наталля.

– Чаму?

У пытанні Антона прабіваліся ноткі выкліку. Маўляў, раз яны, дзед Наталлі і Антон, вырашылі так, то адступаць нядобра – мужчыны. Ды і зло павінна быць пакарана.

– Чаму-чаму, па качану, – нявесела пажартавала яна. – Памятаеш, я табе казала, што браканьерам і тым, хто незаконна вывозіць радыяцыйны лес, а потым прадае яго, грошы вочы зацьмілі. А раз так, то людзі гэтыя здольныя на ўсё. Разумееш?

– Разумею. Мужчына, што з барадой, Гудковіч?

– Так.

– Твой дзед ні па імені, ні па прозвішчы яго ні разу не называў.

– Можна было і так здагадацца.

– Прабач, не здагадаўся. Дарэчы, што за хлопец з імі?

– Гэта сын Гудковіча. Кастусём клічуць. Я яго ведаю. У дзявятым ці дзясятым класе вучыцца.

– Ты сур'ёзна?

– Сур'ёзней няма куды. Лепей адпусціце. Гудковіч – мужчына жорсткі, помслівы, за свайго сына на ўсё пойдзе.

– Родная кроў?

– Менавіта. Да таго ж, як ты ўжо ведаеш, ён блізкі сваяк начальніка раённага таварыства паляўнічых і рыбаловаў. А гэта гаворыць пра многае.

– Пра што?

– Сам знаеш, не малы.

Да Антона толькі ў гэтую хвіліну дайшло, што Гудковіч-старэйшы сапраўды задзейнічае свае сувязі, каб вызваліць сына, а заадно пакараць тых, хто падняў на яго руку.

– Зноў кажу: лепш вы ўсіх адпусціце, – вымавіла Наталля. – Ведаеш, якая ў гэтага Гудковіча мянушка?

– Адкуль мне ведаць?

– Бульдозер. Ідзе, не разбіраючы дарогі.

– А дзед твой ведае, з кім мае справу?.. Дакладней, з якім чалавекам?

– Канечне, дзед усё ведае. Гэты Гудковіч працаваў у калгасе, які быў у Бярозаўцы, ветэрынарам. На яго неяк справу завялі, але потым закрылі.

– Якую справу?

– Нешта звязана з калгаснымі каровамі. Гудковіч іх выбракоўваў дзясяткамі: па ўзросту, па розных хваробах. А потым высветлілася, што ён выбракоўваў здаровых кароў, у асноўным першацёлак, пасля вёз іх ва Украіну і там па вёсках прадаваў. Але пісаў справаздачы, што здаваў жывёлу на мяса. Розніцу ў коштах ад продажу гэтых кароў прысвойваў сабе.

– Спецыяліст.

– Яшчэ які. Яму палец у рот не кладзі.

– Можа быць, – прамовіў Антон. – Але не вельмі Аляксей Іванавіч асцерагаецца Гудковіча. Дарэчы сказаць, не баіцца і таго дзеяча, што ў раённым таварыстве паляўнічых і рыбаловаў запраўляе.

– А калі б вельмі баяўся, то што?

– Не ведаю.

– Вось і я не ведаю, – Наталля глядзела ў вочы Антону. – Я ў адным пераканана: дабром ваша самадзейнасць не скончыцца.

– Паглядзім.

– Глядзіце.

– Ты баішся?

– Ты ўжо ў мяне аб гэтым раз пытаўся.

– І што?

– Я вельмі баюся. Толькі не за сябе, а за цябе, уяві сабе, і за дзеда. У яго здароўя – кот наплакаў.

– Усё абыдзецца...

Антон храбрыўся, але разумеў, што Наталля нездарма баіцца. Аляксей Іванавіч, вядома, смелы чалавек, але яму не мінуць ліха, калі Гудковіч стане на абарону сябе і свайго сына. А Гудковіч стане, абавязкова стане, нават калі яму гэта будзе вельмі дорага каштаваць. Ды і сябе ён будзе абараняць заўзята, жорстка, як звер, загнаны ў кут. А калі складзецца крытычная сітуацыя, якая будзе пагражаць яго жыццю, матэрыяльнаму дабрабыту яго сям'і, то і крыві не пабаіцца – прывык да яе.

– Добра, я пайду ў хату. – Наталля падняла вялікую гаспадарчую алюмініевую міску, у якой прынесла прасушваць бялізну, выліла з яе рэшткі вады, што капала з бялізны. – Дзед, напэўна, зараз выйдзе. Пагавары з ім. Можа, цябе паслухаецца і не павязе ў раён Гудковіча з ягонай камандай.

– Можа, і не павязе... – Антон ботам калупнуў набрынялую вадой зямлю. – Ідзі ў хату, а то змерзнеш.

Антон у двары застаўся адзін з двума здаровымі мужчынамі і худар-

лявым, але жылістым хлопцам. Яны маглі б яго скруціць, але чамусьці не чапалі. Мірна дачакаліся Аляксея Іванавіча. Ён з'явіўся ў новай дэмісезоннай сіняй куртцы, з-пад якой ішлі ўніз, да асенніх карычневых туфляў, чорныя выпрасаваныя штаны.

– Ты, Іванавіч, прама як жаніх, – кінуў з усмешкай барадаты. – Можа, лепш табе сапраўды да якой-небудзь добрай жанчыны пасватацца?.. Мы слова замовім. Што скажаш?..

Гудковіч на ражон стараўся не лезці, паводзіў сябе ў асноўным спакойна, без агрэсіі. Раз-пораз усміхаўся. Але гэтыя ўсмешкі былі нядобрыя. І пра гэта казалі яго вочы – насцярожаныя, з ценем пагрозы. Антону даводзілася бачыць такія вочы. У першы раз ён сутыкнуўся з імі, калі праходзіў практыку ў раённым аддзеле ўнутраных спраў. Антону даручылі разабрацца з дачнымі крадзяжамі. Быццам бы звычайная справа, не дадае вялікіх прафесійных ведаў. Таму за пошук дачных злодзеяў Антон узяўся без энтузіязму. І калі знайшоў іх, то хацеў адразу ж адпусціць, бо яны выявіліся бамжамі. Ён бы і адпусціў, але адзін з бамжоў, высокі мужчына з медным кальцом у вуху, насмешліва і нахабна прамовіў: «Нічога ты нам, начальнік, не зробіш – няма ў цябе цвёрдых доказаў. Так, дробязь...» Гэтая ўпэўненасць не спадабалася Антону. Ён пасадзіў бамжа насупраць сябе і спытаў: «Вы ўпэўнены ў гэтым?» – «Упэўнены», – з выклікам адказаў злодзей. Яго парэпаныя, з крывавымі нарывамі вусны разышліся ва ўсмешцы, але вось у вачах не было весялосці. Наадварот, у іх поўзалі холад, безнадзейнасць і стомленасць. Больш за ўсё – стомленасць. Менавіта яна насцярожыла Антона, выклікала ў ім непрыемнае, смутнае пачуццё падазрэння, што бомж нешта хавае, што акрамя крадзяжоў на яго сумленні ёсць нешта большае, магчыма, нават страшнае. Так і было. У размове ён выпадкова абмовіўся, што па выпіўку ездзіў на машыне. Прычым сам. «На якой машыне?» – ажывіўся Антон. Бомж і за рулём машыны?.. Гэта выклікала не толькі падазрэнне, але і ясна казала, што дачныя крадзяжы – гэта так, дробязь, кажучы словамі гэтага ж бамжа. Гутарка перарасла ў доўгі допыт. Нарэшце нервы бамжа не вытрымалі, і ён прызнаўся, што забіў на дачы ваеннага пенсіянера, прапаршчыка, забраў у яго грошы і машыну, на якой гэты ваенны пенсіянер прыехаў у свой дачны домік...

На жаль, так бывае.

Аляксей Іванавіч на словы барадатага браканьера нічога не сказаў. Моўчкі адкрыў замок, кінуў ланцуг у нос пласкадонкі, паказаў браканьерам на яе вачыма:

– Сядайце.

– А мы не паедзем, – раптам заўпарціўся светлавалосы.

– Паедзеце, – Аляксей Іванавіч быў настроены рашуча. – Я завязу.

– Не паедзем, – паўтарыў мужчына. Не саромеючыся, ён высмаркаўся ў далонь, выцер аб штаны. – Няхай прыязджаюць сюды прадстаўнікі раённай улады і самі вязуць нас. Але калі шчыра, то і з імі нам нікуды ехаць не хочацца – дарага гэта для нас абыдзецца.

– Не дурыце, – Аляксей Іванавіч зірнуў на Гудковіча. – Можа, мне сабаку спусціць або стрэльбу ўзяць?.. Пад стрэльбай паедзеце, раскажаце пра сваё бандыцкае паляванне. І я таксама раскажу.

– А хто табе, Іванавіч, паверыць? – Гудковіч падышоў да былога лесніка ўшчыльную і пачаў свідраваць яго вачыма. – У мяне сябры – самавітыя людзі, мой сваяк – намеснік старшыні раённага таварыства паляўнічых і

рыбаловаў. Наменклатурны работнік. Адным словам, сіла. А ў цябе нікога і нічога.

– У мяне сведка, – спакойна, сказаў Аляксей Іванавіч. – Да таго ж не з простых грамадзян, а чалавек з сур'ёзнай адукацыяй і на юрыдычнай пасадзе. Так што ты тут не адзін з сувязямі.

Светлавалосы задраў галаву да неба і насмешліва выклікнуў:

– Божа, дай розум нашым пенсіянерам!..

– Дарэчы, Іванавіча мы ведаем, а ты хто такі? – звярнуўся да Антона Гудковіч. – Вы сапраўды з адукацыяй і на юрыдычнай пасадзе?

Антон з годнасцю адказаў:

– Так.

– А ў вас дзяржаўная праца?

– Не, я працую ў прыватнай фірме, – не стаў хаваць Антон. – Хіба гэта мае ў дадзенай сітуацыі нейкае значэнне?

– Мае, – выдыхнуў Гудковіч. – Мае вялікае значэнне. У нас дзяржава для народа.

– А я, значыць, не народ?

– Не. Вы, прабачце, прыватнік, бізнесмен. Можна сказаць, не наш чалавек.

– Цікава...

Гудковіч наступаў:

– Ты, малады чалавек, лепш не ўмешвайся. Мы самі тут разбярэмся, не ўпершыню.

– Не трэба мяне вучыць, – папярэдзіў Антон.

– Не грубі, – павысіў голас Гудковіч. – Я табе па-чалавечы кажу.

– Вы па-чалавечы лася завалілі, калі паляванне забаронена?

– Дык лось гэты радыяцыйны, ён бы сам хутка капыты адкінуў.

– Значыць, вы санітары лесу? – Антон ад абурэння засоп.

– Атрымліваецца, што так, – адказаў Гудковіч.

– Лася забілі, а мяса на базар павезлі б?

– Гэта ўжо наша справа. Абаронца знайшоўся...

– Не разумею.

– Чаго?

– Таго, што дзеля грошай вы гатовы радыяцыяй людзей карміць. Яны і так, няшчасныя, пасля Чарнобыля на розныя хваробы пакутуюць.

– Не думаю, што ў нас у рэспубліцы так шмат пакутнікаў ад радыяцыі. Асабліва за межамі зоны адсялення.

– Хапае. Заедзьце ў Бараўлянскую бальніцу, што пад Мінскам, там поўна хворых на анкалогію.

– Добра... – Гудковіч убіў пальцы ў сваю растрапаную бараду, пачухаў яе. – А ты, значыць, за людзей стаіш?

– Так.

– Тады скажы: толькі на зарплату жывеш?

– Я хабару не бяру, – імкнучыся не страціць цярпенне, адказаў Антон.

– Зразумела. – Гудковіч сплюнуў сабе пад ногі. – А вось у нас не атрымліваецца жыць на зарплату. Ды і не ўсе яе атрымліваюць, бо працы ў нашым райцэнтры на ўсіх не хапае. Таму і ходзім на паляванне.

– Не паляваннем вы займаецеся, а браканьерствам, – паправіў Антон.

– А хоць бы і браканьерствам, – пагадзіўся Гудковіч. – Як гаворыцца, што ў лоб, што па ілбе. І там забойства, і тут. Якая, у рэшце рэшт, розніца?

– Вялікая.

– Гэта для цябе вялікая, таму што ты, як я пагляджу, вялікі разумнік. Прыязджай у наш раён, пажыві тут, а потым будзеш жыццю мяне вучыць.

– Я не вучу, а спрабую абудзіць ваша сумленне.

– Сумленне? – да Антона ўшчыльную падышоў светлавалосы. – А што ты пра сумленне ведаеш?

– Ведаю.

– Не думаю... А ведаеш, чаму?

– Я слухаю.

– Таму што малады ты яшчэ, а ўжо для свайго ўзросту ўсё маеш. Ну, ці амаль усё. І вось нам спрабуеш даказаць, які ты правільны, справядлівы, непадкупны. Гэта ўсё твая ганарлівасць. Ты яшчэ няшчасным прыкінься. Маўляў, бядую, нават міласціну прашу... Хоць, калі б ты бедаваў, то я, можа быць, і паверыў бы, што ты хлопец сумленны. А так... Не.

– Хіба толькі ў бедных ёсць сумленне?

– Не толькі. У багатых яно таксама маецца. Але ў адзінак. Астатнія жывуць без сумлення.

– Як вы?

– А мы не багатыя. І палюем з-за патрэбы. Правільна Мікалай Дзям'янавіч сказаў: пажыві ў нашым раёне, будзеш ведаць, што па чым.

– А я ўжо жыву.

– Не верыцца.

У размову на павышаных танах зноў алею падліў Гудковіч, які, адсунуўшы свайго кампаньёна – светлавалосага мужчыну, закруціў нядобрым і працяглым позіркам Антона.

– Не, не жывеш ты ў нашым раёне, а проста гасцюеш, – кінуў былы калгасны ветурач Антону. – А я, да твайго ведама, усё жыццё тут. – Гудковіч перайшоў на шэпт. – Усё жыццё... І паляваннем сапраўды заняўся таму, што прымусіла. Нацярпеўся я з-за яго. Па самае горла. Асабліва ў дзяцінстве. У нас, каб ты ведаў, у сям'і восем душ было: бацькі і мы, дзеці. Два браты і чатыры сястры. Бацька з вайны інвалідам прыйшоў – без ног. Займаўся тым, што выразаў драўляныя лыжкі, міскі, падстаўкі пад патэльні, гаршкі. Усё гэта на раённым базары прадаваў. Маці ў калгасе гарбацілая. Жылі, як гавораць, ад капейкі да капейкі. А вось мой аднакласнік і сусед Пецька Жыгараў у параўнанні са мной панаваў. Ды і як яму не панаваць, калі яго бацькі галоўнымі спецыялістамі ў нашым калгасе былі. І грашыма атрымлівалі, і натурай бралі. Натурай – гэта, значыць, кралі. У іхнім халадзільніку заўсёды каўбаса была і масла ляжала. А ў нашай сям'і і халадзільніка не было. Дык я часта да Пецькі ў абед заходзіў. Для чаго думаеш?

Антон развёў рукамі.

– Я не празорца.

– Для таго, каб смачна паесці. А пасля абеду яшчэ і цукерку атрымаць або нават кавалачак шакаладу. Дома ў нас такіх ласункаў, зразумела, не было. Чорны хлеб у ваду макнеш, цукрам ледзь-ледзь пасыплеш, вось і ўсё задавальненне. Прызнаюся табе ў гэтым, хоць і не хачу прызнавацца, прыніжацца.

– Дык не расказвайце, – Антон зірнуў у бок Аляксея Іванавіча, які ў размову не ўступаў, але ўважліва ўсё слухаў.

– А я расказваю для таго, каб ты не асуджаў чалавека, якога ў першы

раз бачыш і не ведаеш яго жыцця, – з націскам прамовіў Гудковіч. – І варушу старое, таму што не магу яго забыць.

– То было ў дзяцінстве, – кінуў Антон. – Так што ўсё гэта комплексы мінулага, пакіньце іх. Я думаю, што цяпер вы жывяце багацей і можаце сабе дазволіць і каўбасу, і масла, і шакалад, і многа яшчэ чаго. Ды і ўсе гэта ўжо не дэфіцыт.

– Магу дазволіць, твая праўда, – ухмыльнуўся Гудковіч. – Але я хачу, каб і дзеці мае ні ў чым не мелі патрэбы. Не для сябе, для іх стараюся.

– Цынічныя ў вас развагі.

– Лепш быць цынікам, але багатым. Гэта не мой вывад. Але да яго я сам прыйшоў. Таксама з-за патрэбы. На шчасце, яна засталася ў мінулым.

– Сумніўнае шчасце, – упэўнена прамовіў Антон. – Ненадзейнае.

– Не турбуйся, надзейнае, – наблізіўшыся да Антона, сказаў Гудковіч. – Я ведаю, што кажу, бо страляю выдатна. Калі ўжо ўзяў каго на мушку, не прамахнуся. Магу і цябе стральбе навучыць.

– Не хачу.

– А я навучыў бы. Страляць не цяжка.

– А забіваць?

– Гэта гледзячы каго. Калі звера, у якога, дарэчы, можа ператварыцца і чалавек, то можна. Трэба проста прывыкнуць. Я прывык. Не адразу, вядома. З часам.

– Я зразумеў.

Антону ўспомнілася думка, якая прыйшла яму ў галаву некалькі дзён таму ў лесе: «А забіваць лёгка». За гэтай думкай выплыла з асветленай сонцам прасторы пытанне: «Забіваць лёгка, але як потым жыць?..»

– Вось і добра, што ты, хлопец, усё зразумеў, – падвёў рысу Гудковіч. – Жадаю табе ўдала дабрацца да Мінска...

Гэта была прыхаваная пагроза.

– Дабяруся, – скрозь зубы прагаварыў Антон.

Яго раздражняла самаўпэўненасць былога калгаснага ветэрынара, які звыкся браць чужое, як сваё.

– Ну-ну...

У гэты час пачулася гудзенне лодачнага матора. Браканьеры, хаваючы ўсмешкі, пераглянуліся. Лайка гучна забрахала, пачала рваць вяроўку. Гул ўзмацніўся.

– Напэўна, гэта нехта да нас на дапамогу спяшаецца? – насмешліва прамовіў светлавалосы.

Нарэшце паказалася маторная лодка. На ёй прыехалі трое: сярэдніх гадоў высокі шыракабровы мужчына ў асеннім паліто, рослы плячысты дзяцюк з заплечнікам за плячыма і малады кароткавалосы брунет з вузкім драпежным няголеным тварам у скуранай куртцы і скураных штанах.

– Ну, што ў вас тут? – звярнуўся прадстаўнічы мужчына з шырокімі бровамі да Ашуркевіча, пазіраючы на Лайку. – Вы мяне, Аляксей Іванавіч, ведаеце. Але ў дадзенай сітуацыі я ўсё роўна павінен прадставіцца: намеснік старшыні раённага таварыства рыбаловаў і паляўнічых Сяргей Аркадзьевіч Крыцкі. Са мной мой работнік Уладзіслаў Цупрык і шафёр нашага таварыства Васіль Кудзін.

– Вас мне даводзілася бачыць, – кіўнуў Аляксей Іванавіч Крыцкаму. – У нас тут невясёлая карціна: я затрымаў браканьераў. Толькі не да вас хацеў іх прывезці і не вам здаць, а ў міліцыю.

– Я патэлефанаваў туды, і дзяжурны папрасіў мяне ва ўсім разабрацца самому, – важна сказаў Крыцкі.

– Разбірайцеся. А я вам складу паперу, што Гудковіч са сваімі памочнікамі лася забіў. Калі трэба, гэтую паперу падпіша Антон Апанскі, мой госць. Ён юрыст.

– Добра. Але ў мяне да вас, Аляксей Іванавіч, спачатку адно пытанне: вы асабіста бачылі, як Гудковіч забіваў лася? – Намеснік старшыні раённага таварыства рыбаловаў і паляўнічых глядзеў на былога лесніка зверху ўніз. – Гэта важна.

– Я Гудковіча і яшчэ дваіх браканьераў на месцы злачынства затрымаў. – Твар у Аляксея Іванавіча пацямнеў. – Яны з лася ўжо шкуру паспелі зняць.

– Зразумела. – Крыцкі пакасіўся на Гудковіча. – Значыць, хто і як забіваў лася вы, Аляксей Іванавіч, не бачылі?

– Не бачыў. Але гэта і так зразумела. Можна стрэльбы гэтых гора-паляўнічых праверыць, у ствалах сляды парахавой гары. А гэта доказ – стралялі.

У Аляксея Іванавіча нервова падрыгавала павека.

– Праверым, – паабяцаў Крыцкі. – Цупрык, забяры стрэльбы гэтых грамадзян.

Дзяцюк з заплечнікам панура спытаўся ў Аляксея Іванавіча:

– Самі прынесяце ці мне з вамі ісці?

– Сам, – дрыготкім голасам выціснуў былы ляснік. – Яны тут, у хляве.

– Тады заадно і сабаку адвядзіце далей, – папрасіў Крыцкі. – На нервы дзейнічае.

Нейкі час Аляксей Іванавіч стаяў, нешта абдумваючы, потым хуткім крокам накіраваўся да Лайкі, адвязаў яе і павёў за лазню, дзе прывязаў да маладой бярозкі. Пасля патупаў у хлеў.

Гудковіч падышоў да Крыцкага, падаў яму руку:

– Дзякуй, Сяргей. З мяне бутэлька, ну, і не толькі...

– Гэта потым, – усміхнуўся Крыцкі і незадаволена ўтаропіўся на Антона. – А вы хто такі?

– Гэта Апанскі, – адказала Наталля, якая з прыездам гасцей выйшла з хаты і падышла да свайго дзеда і Антона. – Прыехаў у госці, а з'ехаць не можа – паводка.

– Ну-ну...

Крыцкі тут жа страціў цікавасць да Антона і загадным тонам папрасіў дзецюка з заплечнікам пайсці ў хлеў і дапамагчы Аляксею Іванавічу прынесці стрэльбы. Цупрык паспяшаўся выканаць даручэнне начальніка. Следам за Цупрыкам пайшоў у хлеў коратка падстрыжаны брунет. Праз хвіліну адтуль даляцеў нейкі шум, потым стогн. Зноў забрахала Лайка. На гэты раз асабліва гучна, злосна, з нейкім адчаем. Яна рэзка рванула на сабе вяроўку, спрабуючы ад яе вызваліцца. Але дарэмна. Між тым з хлява паказаліся плячысты дзяцюк і кароткавалосы малады мужчына. Яны неслі стрэльбы і нажы.

– Усё ў лодку, – скамандаваў Крыцкі. – Стары з дачкой і іх госць хай застаюцца. Яны нам не патрэбны.

Браканьеры і Крыцкі са сваімі людзьмі пайшлі да Прыпяці.

– А дзе дзед? – занепакоілася Наталля.

Яна сарвалася з месца і пабегла ў хлеў. За ёй Антон. Ён адчуваў унутры сябе трывогу, якая з кожнай хвілінай узмацнялася.

Аляксей Іванавіч стаяў на каленях ля стойла каровы. Адной рукой ён трымаўся за перагародку, а другой закрываў нос. З яго сачылася кроў.

– Дзед! – закрычала яго ўнучка. – Што яны з табой зрабілі?.. Што?!

– Хіба не відаць? – заскрыгатаў зубамі Антон. – Ну, пачакайце...

Ён выбег з хлява і кінуўся даганяць маладога брунета з драпежным тварам.

«Гэта ён біў Аляксея Іванавіча, – быў упэўнены Антон. – Крыцкі і Цупрык наўрад бы распускалі рукі – пры пасадах усё-такі. А шафёр службовай машыны, ён можа...»

Кароткавалосы брунет нетаропка ішоў да лодкі апошнім. Нагнаўшы яго, Антон схапіў маладога мужчыну за руку, павярнуў да сябе.

– Ты?

– Я, – нахабна адказаў Кудзін, адразу зразумеўшы, пра што яго пытаюцца.

Не кажучы больш ні слова, Антон рэзка ўдарыў Кудзіну кулаком пад дых. Калі ён сагнуўся, засвяціў каленам у яго драпежны твар. Удар прыйшоўся па носе, з якога пайшла кроў.

– Ну як, добра? – у Антона прачнулася тая першабытная агрэсія, з якой ён біў жаб і потым бабра, здабываючы сабе ежу.

– Заб'ю! – выгукнуў Гудковіч, убачыўшы скрываўленыя нос і верхнюю губу Кудзіна. – Прыехаў з Мінска свае парадкі ўсталёўваць тут?!

– Стаяць! – гучна скамандаваў Крыцкі. – Усім стаяць...

Ён падышоў да Антона і ціха прамовіў:

– Калі б я быў не пры пасадзе, то ўтапіў бы цябе тут. А так – жыві. Але больш мне на вочы не пападайся. Трапішся – наракай на сябе. І скажы Ашуркевічу, хай супакоіць сабаку...

Цупрык пагардліва ўхмыльнуўся і накіраваўся да лодкі. Гледзячы яму ўслед, Антон прамовіў:

– Мы яшчэ паглядзім хто каго...

Па рачной вадзе пайшлі бурныя хвалі ад набіраючай хуткасць маторнай лодкі. Яны доўга кідаліся на бераг, быццам яшчэ і яшчэ раз папярэджвалі Аляксея Іванавіча, яго ўнучку і іх госця, каб не звязваліся з Гудковічам, а таксама з яго кампаньёнамі і сябрамі.

– Паглядзім, – паўтарыў Антон.

## V

Аляксей Іванавіч два дні не ўставаў з ложка.

Каля яго прысела Наталля. Яна нічога не казала, але было відаць, што мучылася ад жалю да дзеда і свайго бяссілля што-небудзь зрабіць, каб хоць неяк яму дапамагчы. Назіраючы за ім, Антон параіў:

– У бальніцу вам, Аляксей Іванавіч, трэба ехаць. Там лекары, лекі, догляд.

– Не трэба ніякіх лекаў і чужога догляду, – адмовіўся Аляксей Іванавіч. – Жывы і на тым дзякуй.

– Антон табе дабра жадае. – Наталля ўзяла дзеда за руку. – У бальніцы ўсё ж такі спецыялісты, хутка пастравяць цябе на ногі.

– Сам ачуняю, – слабым голасам прамовіў Аляксей Іванавіч. – Сам... Галава, дзякуй Богу, пакуль пры мне, а цела – косткі і мяса – вылечу. Не ўпершыню.

– А калі што?..

Наталля не адважылася сказаць аб тым, што можа здарыцца з яе дзедам, калі ў жываце адкрыецца крывацёк, падымецца тэмпература ці рэзка папаўзе ўверх ціск.

– Калі памру? – Аляксей Іванавіч паспрабаваў усміхнуцца, але яго твар толькі скрывіўся. – На ўсё Божая воля. На ўсё... Але Бог міласэрны. Думаю, пакуль мяне забіраць не будзе. На зямлі яшчэ справы ёсць...

– Гады яны, гады! – з нянавісцю усклікнула Наталля. – Хіба можна біць старога чалавека?..

Закрыўшы твар рукамі, яна заплакала.

– Ну што ты, – пачаў супакойваць яе Аляксей Іванавіч. – Як маленькая... Ты лепш ідзі на кухню і зрабі мне грэлку. Толькі, каб гарачай была. І завары траву – ты знаеш якую... Антон, праводзь...

На кухні Наталля ціха, каб не чуў дзед, сказала:

– У наступным годзе яму будзе восемдзесят. Хвароб мора: ціск, сэрца, падагра, болі ў касцях ды яшчэ грыжа. Яшчэ з маладосці, калі камяні з лесу на падмурак хаты вазіў, а потым дрэвы карчаваў. Напэўна, яго гэты прыезджы, які ў скуранoй куртцы быў, не толькі ў нос стукнуў, але і ў жывот біў... Гад...

– Не думай пра гэта, – узяўшы за руку Наталлю, сказаў Антон. – Твой дзед паправіцца, вось пабачыш. Ён і сам пра гэта кажа. Значыць, ведае, адчувае... А гэты няголены вырадак, што Аляксея Іванавіча біў, сваё атрымае. Абавязкова атрымае. Гэта закон прыроды: калі ты са злом да людзей ідзеш, ды яшчэ невінаватых, то і цябе яно знойдзе.

Аляксей Іванавіч ляжаў у той жа паставе. У яго на жываце драмаў кот. Антон абурыўся: «Знайшоў месца». Але ўголас сваё абурэнне не выказаў. Наадварот, падбадзёрыўся, жадаючы сваім выглядам падтрымаць Аляксея Іванавіча.

– Я да вас. Пасяджу, каб вам лягчэй было.

Аляксей Іванавіч хвараваіта ўздыхнуў.

– Тады не стой, сядай... – Ён некалькі хвілін маўчаў, потым нерашуча загаварыў: – За мяне не трэба перажываць: пажыў я сваё, пажыў...

– То і далей жыць будзеце, – уставіў Антон. – Ваша пакаленне моцнае.

– Не перабівай, – строга заўважыў Аляксей Іванавіч, – а слухай... Мне не сябе шкада, а за ўнучку сэрца баліць. У яе з родных нікога акрамя маці, маёй дачкі, і мяне няма. Але мая дачка, ты ведаеш, у Расеі, а зяця даўно ўжо няма сярод жывых. Атрымліваецца, што я Наталлі за маці і за бацьку. Не ўяўляю, як мая ўнучка будзе, калі памру. Праз тыдзень ці праз месяц, год, але гэта здарыцца.

– Не трэба пра гэта казаць.

– Не, трэба... Я, каб ты ведаў, гатовы да адыходу... Гатовы... Але лепш бы яшчэ пажыць, Наталку сваю падтрымаць. Ды і наогул хочацца на сваёй зямлі пабыць даўжэй... Гэта так добра – жыць, дыхаць, кахаць... А яшчэ – ведаць, што цябе таксама любяць, клапоцяцца... Табе пра гэта, думаю, распавядаць не трэба, сам ведаеш, раз блукаў сярод вады столькі дзён.

– Ведаю...

Антону на імгненне адкрылася карціна, якая была перад ім, калі ён на чужой лодцы пакінуў Бабровую Затоку і апынуўся там, дзе нікога з людзей не было. Нікога. Толькі вакол вада. Бясконцая вада.

– Дык вось, – працягнуў сваю невясёлую размову Аляксей Іванавіч, – калі я пакіну гэты свет, з родных у Наталлі тут нікога не застанецца. Нікога...

– А я?

Антон паглядзеў у вочы Аляксею Іванавічу.

– Ты?

– Так, я. І гэта, думаю, будзе справядліва, бо без вас мне мог бы прыйсці

канец на Блізкім востраве. Канкрэтны канец.

– Мог бы, – пагадзіўся Аляксей Іванавіч. – Ты не паверыш, але гэты востраў як быццам уцягвае ў сябе тых, хто на яго ступіў. Як вір. Нездарма на ім столькі жыццяў пакладзена. Мне б ад яго бегчы далей, а я з ім побач жыву. Ды яшчэ з Наталкай сваёй, якую бязмерна люблю...

– Яна заслугоўвае вашай любові, – уставіў Антон.

– Ты так лічыш ці сказаў гэта, каб мяне супакоіць, падтрымаць?

– Лічу, – цвёрда вымавіў Антон. Для пераканаўчасці паўтарыў з націскам яшчэ раз: – Лічу.

– Дзякуй на добрым слове. – Твар Аляксея Іванавіча ледзь-ледзь пачырванеў, ажыў. – Ведаеш, Антон, я ўсё больш пераконваюся, што ты чалавек добры. Такога б маёй унучцы мужа.

– Вы гэта сур'ёзна?

– А хіба ў мяне ёсць выбар – жаніхі вакол маёй Наталлі круцяцца?.. Нікога тут няма. Вось і кажу, што думаю.

– Так, напэўна, – некалькі збянтэжана прамовіў Антон. – Але гэта яна павінна вырашаць.

– Яна, вядома. – Аляксей Іванавіч паказаў гэта павекамі, на некалькі секунд закрыўшы іх. – Але калі я пасадзейнічаю, так што ў гэтым дрэннага?.. Я ж хачу дабра. Дабра роднай душы. Ды і ты, бачу, гэтага ж хочаш.

– У гэтым можаце не сумнявацца.

– А я і не сумняваюся. Я проста турбуюся, што мая ўнучка адна.

– Я думаю, што гэта яе выбар.

– Мне ад гэтага не лягчэй. А ёй тым больш. Добра, ідзі...

Выходзячы, Антон павярнуўся і паабяцаў:

– З гэтымі браканьерамі і іх абаронцамі я яшчэ разбяруся.

– Нічога ты ім не зробіш, – сумна прамовіў былы ляснік. – Хітрыя яны. Настырныя. За свае барышы гатовыя любому горла перагрызці. А вось простым людзям, якія выконваюць законы, цяжка. – Вочы ў Аляксея Іванавіча памутнелі, нібы ў іх зацекла брудная вада. – Старыя, якія засталіся ў зоне адсялення, упаўшае дрэва баяцца сабе на дровы прывезці. Нават калі яго ніхто не прыбірае, і яно гніе. Ідуць, выпісваюць, плоцяць грошы і толькі потым забіраюць. А колькі яны дроў на сваю пенсію або нават зарплату выпішуць?.. Лес цяпер дарагі. Мне, напрыклад, на год трэба больш за дзесяць кубоў дроў. Сам я ўжо іх не нарыхтую. Гэта ж трэба зваліць дрэвы, прывезці іх у свой двор. Потым парэзаць, пасекчы...

– Дык у вас лес за плотам, – прамовіў Антон. – Можна сказаць, дома.

– Не дома, а за агародам.

– Калі быць дакладным, то так, за агародам.

– Ну, вось. А за агародам самавольна пілаваць нельга, – строга прамовіў Аляксей Іванавіч. – Для валкі лесу спецыяльныя дзялянкі ёсць. Ты гэта павінен ведаць. Я нават у маладосці, калі быў лесніком, рэдка бясплатна нарыхтоўваў сабе дровы. Праўда, валіў лесу заўсёды больш, чым выпісваў, але ўсё роўна на адведзеных для гэтага дзялянках.

– Я гэтаму не здзіўляюся.

– А чаму тут дзівіцца: я не лепшы за іншых, а яны не горшыя за мяне. – Аляксей Іванавіч працёр вочы краем коўдры, глянуў праз акно. За ім падымалася ўгору бяроза, наліваючыся сокам, сінела неба, у якім бялела вузкая паласа ад праляцеўшага самалёта. – Можна, вядома, гатовы лес купіць, але машына каштуе паўтара мільёна рублёў. Для мяне, пенсіянера, гэта вялікія грошы. Каб ты ведаў, у мяне месячная пенсія такая. Значыць,

усю маю пенсію за цэлы месяц – на дровы... А як жыць ўвесь гэты час?.. Я ж практычна нічога не назапасіў – жыў заўсёды з зарплаты, лесам не гандляваў. Вось так... А такія, як Гудковіч без грошай лес сабе дадому вязуць. Проста крадуць. Не ўсе, вядома, парушальнікі законаў і зладзеі. Далёка не ўсё. Але з кожным годам іх усё больш. Больш... Сумленне ў людзей памірае. А ў некаторых проста сыплецца. Як пясок...

– Я не лічу, што беззаконцаў становіцца больш, – запярэчыў Антон. – І не думаю, што яны ўсемагутныя – што хочуць, тое і робяць. Магчыма, на мясцовым узроўні, у такіх, як Гудковіч, усё дамоўлена, схоплена. Але гэта да пары, да часу.

– Так. Колькі вяровачцы ні віцца, канец будзе, – пацвердзіў Аляксей Іванавіч. – Але ў нашым раёне гэтая вяровачка вельмі ўжо доўгая. Канца ёй пакуль не відаць. Такая сёння праўда жыцця. Вось і вырашай, як тут быць і што рабіць...

– Падобна на тое, што сапраўды прыйдзецца вырашаць.

– Эх, быў бы я маладзейшы, – летуценна прамовіў Ашуркевіч, – я б гэтаму Гудковічу і яго галаварэзам зладзіў паляванне. Беглі б, як ад агню. Далей ад маёй хаты, Бярозаўкі, нашага раёна, нашай вобласці.

– Гэта зладзіць яшчэ не позна.

– Каб гэтых разбойнікаў узяць у рукі, – выказаў сваё меркаванне Аляксей Іванавіч, – трэба абласную або сталічную ўладу падключаць. І не абы каго, а людзей сумленных, адказных, якія і за сябе пастаяць могуць, і іншых у крыўду не дадуць.

– Гэта я зразумеў, калі з Гудковічам пагаварыў, – пагадзіўся Антон. – На мясцовым узроўні ўправу на гэтага браканьера і яго хаўруснікаў знайсці цяжка. Ён з сувязямі, грашыма. Такі сёння – герой.

– Герой. – Аляксей Іванавіч пакруціў галавой. – Сапсаваны чалавек. А вось бацькі ў Гудковіча, – я маю на ўвазе Мікалая Дзям'янавіча і яго жонку Фросю, – былі людзьмі нядрэннымі, працавітымі. Ды і пра дзяцей іх, пра яго родных братоў я благога слова не скажу. А вось гэты фрукт і яго стрыечны брат Сяргей Аркадзьевіч Крыцкі, проста нелюдзі нейкія... Праўду кажуць: у сям'і не без вырадка...

– Цікава, навошта ён з сабой на паляванне сына ўзяў?

– Навошта? – Аляксей Іванавіч задумаўся. – Баюся і казаць.

– Я разумею, не хвалюйцеся.

– Ведаеш, што ваўкі сваіх ваўчанят праз некалькі месяцаў да палявання прывучаюць?

– Гэта вядома.

– Так, напэўна, і Гудковіч, як былы ветурач, вырашыў свайму сыну паказаць, што забіваць дзічыну не страшна, а заадно яго да прыбытковай справы прыставіць. Каб вучыўся, вопыту набіраўся, а галоўнае – смак вялікіх і хуткіх грошай адчуў.

– Але кроў ёсць кроў, – выдыхнуў Антон. – Яна не вада, піць не будзеш.

– У гэтым і ўвесь сэнс: за сваю выгаду Гудковіч любога пераступіць, сам ведаеш. А калі спатрэбіцца, то і пакалечыць, нават заб'е. Менавіта такія як ён, скажу табе, войны і пачынаюць... Ён і сваё роднае дзіця ваяваць вучыць. Не змагацца, а ваяваць... Не разумее, што можа здарыцца... Э-хэ-хэ...

З Ашуркевіча вырваўся працяглы ўздых.

– Што такое? – Антон нагнуўся над Аляксеем Іванавічам. – Вам дрэнна?

– Нічога, нічога, – выціснуў з сябе ўсмешку былы ляснік. – Не ў такіх сітуацыях я бываў...

– Разбяруся я ўсё-такі з Гудковічам і яго кампаньёнамі, – у каторы раз упарта паўтарыў Антон. – У рэшце рэшт, гэта мой прафесійны абавязак.

– Ну, як Бог дасць, – ціха прамовіў Аляксей Іванавіч. – Ідзі, я адпачну...

Спаць Наталля і Антон доўга не клаліся. Па чарзе праведвалі слабеючага на вачах Аляксея Іванавіча. Ён ляжаў ціха, але час ад часу стагнаў. Можа, ад болю, а магчыма, нешта ўспамінаў, якія не адпускалі ад сябе і не давалі яму спакою.

Мікола Аляхновіч



...разумеецца толькі пасля
сэнс бясконцага слова – шлях...

# Роздум дарогі

### СВЯТЫ МІКОЛА

Хай беражэ цябе Святы Мікола...
Малітвы гукі ўсё цішэй...
Я чую мамы ціхі голас –
Ён з усяго мне даражэй!

Хай беражэ цябе Святы Мікола...
Нібыта рэха, стуль, здаля:
ці то з нябёсаў, ці то з долу–
аднекуль мовіла *Зямля*.

Хай беражэ цябе Святы Мікола...
Хай адвядзе ад зла-бяды,
нашчадкам выспеліцца колас–
пачуў ад вечнае *Вады*.

Хай беражэ цябе Святы Мікола...
Святое ў слове бараню.
Святлом Купалавага кола
я адгукаюся *Агню*.

Святлом Купалавага кола
нашчадкам выспеліцца колас;
ці то з нябёсаў, ці то з долу–
праб’ецца роднай мовы голас...

Хай беражэ ўсіх нас Святы Мікола...

* * *

паэзіі
цяжка прабіцца
ў салон
ці тралейбуса
ці якога буса...
а трапіць –
штрафуюць бязбожна
за безбілетны праезд.

## ***ШЛЯХ***

Ёсць пагода, і ёсць нягода
нават там, дзе пануе згода.
Разумеецца толькі пасля
сэнс бясконцага слова – шлях.

Ёсць сцяжынка, і ёсць дарога...
Спадзяёмся, што ўсё ад Бога.
Але нам вырашаць самім,
шлях жыццёвы будзе якім.

## ***АБРАННІЦА***

*Адпусціла на дварэ, затуманіла,*
*і мароз даўно не такі.*
*Чым жа ты душу маю раніла,*
*і адкуль у ёй жаўрукі?*

Так нялёгка было пасярод слаты
не растраціць цяпла свайго,
але ведаў, што ў сэрцы жывінкай ты
захінаеш ад ветру агонь.

Колькі часу нам лёсам адмерана
разам мерaць безмеж дарог,
мацаваць свае сэрцы вераю, –
мабыць, ведае толькі Бог.

Сустракаем з малітваю раніцы, –
адкідаем цямноты цень...
Для мяне ж ты світальнай абранніцай
асвячаеш наш новы дзень.

*Адпусціла на дварэ, затуманіла,*
*і мароз даўно не такі.*
*Чым жа ты душу маю раніла,*
*і адкуль у ёй жаўрукі?*

## СЭРЦА МАЁ

Не ў жалобе я і не ў скрусе:
проста ў сэрцы начуе боль...
Не ўяўляю, што не прачнуся,
не пачуюся больш з табой.

*Ах, як ціcне, сціскае грудзі,*
*і плывуць у вачах кругі...*
*Патрымайся, дурное, на людзях,*
*не выходзь за свае берагі.*

Можа, быў не такі, як усе я,
і не тое, што трэба, цаніў.
Не цярпеў па жыцці фарысеяў,
не гадаў на чужой далані.

Не прасіў, не стаяў на каленях,
хаця можна было б прасцей...
Не дазволіла ты сумленню
абярнуцца ў бязважкі цень.

Не баяўся ні спёкі, ні сцюжы,
ні марозу, ні нуднай слаты.
Горды быў, што нягоды адужаў...
І не цяміў, што ўсё гэта – ты...

*...Нешта ціcне, сціскае грудзі,*
*і плывуць у вачах кругі...*
*Патрымайся, дурное, на людзях,*
*не выходзь за свае берагі.*

## *РОЗДУМ ДАРОГІ*

Ён жыў як жыў –
Не ведаў асцярогі:
Ніяк не даражыў
Святлом сваёй дарогі.

Дарыў святло паўсюд
І ўсім, каго ні ведаў,
І не зважаў на бруд
І на нягоды-беды.

Ішоў, але святло
Ўвабраў прасцяг дарогі...
Яно яшчэ жыло,
Трывала, колькі змогі.

Але ўжо адчуваў,
Што сіла-моц не тая...
Ссівелая трава
Наўзбоч дарог – прымае.

Руку ты працягні –
Дапамажыце ўстаць мне!
Але ніхто ані
Табе не памагацьме.

Святло згасае ўміг –
Душа ў падман-адчаі...
А ў гэтай цемры МЫ
Сябе ці хоць пазн*а*ем!?

## *ДВА КІЛІШКІ*

Сядзім, гамонім, нешта маракуем...
– Налі яшчэ! Яна не будзе лішняй.
Вось так паціху век і давякуем,
Мы – двое, і пры нас кілішкі.

Прызнаемся: бардак ва ўсё прыродзе.
Тут вось – патоп, там недзе – землятрусы,
Але трывожымся пры ўсім народзе,
Што выміраюць, гінуць беларусы.

І пры самоце поўных двух кілішкаў
Ды агурка з картопляй, ды сялёдкі
Хапілі мы з табою, мабыць, лішку
Мясцовай самагонкі а ці водкі.

А ўсё-такі бардак, брат, у прыродзе:
Тут зноў – патоп, а там, бач, землятрусы...
Ну нельга не прызнаць пры ўсім народзе,
Што выміраюць, гінуць беларусы!

А калі ўсё па праўдзе, пры народзе,
То мруць, як мухі, нашы беларусы.

## *САМОТА*

*Алесю Каско*

Нікога няма нідзе,
Няма, як назло, настрою.
На ноч змяняецца дзень,
А я адзін у пакоі.

Пакутліва-сумна ў душы,
І роспачна, і адчайна.
Ну чым гэты боль заглушыць,
Каб сэрца хаця маўчала.

Адлічвае час хаду,
Няўцямна працуе розум...
Колькі яшчэ адвяду
Часу сабе на роздум?

Такую тонкую ніць
Тчэ нам Арахна, дружа...
Гаворыш ты: варта жыць...
А позірк такі засмужаны.

Няма цябе побач, шкада,
Шкада, што няма са мною.
Як тло маіх мар, жуда –
Чорная – у пакоі.
..................
Няма цябе, дружа, ў пакоі.
А мне цябе так не стае...
Я выпіў бы чарку з табою,
Перш чым разбіць яе.

## *ЛІПЕНЬ*

Мы ў Целяханах.
Ліпень.
Дождж
каторы дзень.

І ў гэтай дажджавіне
басанож
хлапцы мае ідуць,
нібы святыя,
да храма,
збудаванага наноў
на тых мурах,
што век яго трымалі.

Басанож
у храм ніхто
дагэтуль не заходзіў,
але з душой,
ушчэнт прамоклаю тым летам,
паспавядаліся
перад парогам-абярэгам...
А дождж – заціх...
А звон – маўчаў...

## ***ПЕРШЫ СНЕГ***

Ён выпаў – першы снег. Яго чакалі.
Чакалі так, як першае дзіця.
Хаця бярозы шчэ не скінулі лісця
І харашылі свет апошнім балем.

Каханая, цябе я *правяду*
У золата бяроз і ў снег той першы,
Быць можа, мне хоць зараз ты паверыш,
Што ёсць яно ў жыцці, не толькі ў вершы.

## ***ДЗЕНЬ І ЦЕНЬ***

Мінуўся дзень. І сонца на заходзе
З-за хмараў і аблок прарочыць новы дзень.
Няведама: на захадзе ці ўсходзе
Па-за абрысам поўні ўсплыве ягоны цень.

Мне гэты дзень не палічыўся ценем:
Ён поўны фарбаў, цеплыні, якіх не сцерці
Ні захаду, ні ўсходу, ані смерці,
Пакуль наш дзень зыходу не ацэніць.

## ***ПОТЫМ***

Быў твой званок – прыйдзі...
А я не змог
(ці восень задажджыла, ці здароўе...)
Я папрасіў – заглянь...
Не заглянула
(Спаслалася на лета, на спякоту...)
Мяне, быць можа, не пачула за бясслоўем,
А, можа быць, душою не адчула,
Што ў нас няма,
не будзе
слова
*потым.*

## ***ЛІСТАПАД***

Захінаюся. Холадна. Вецер.
Лістапад.
Беспрасвецце на свеце.
Нехта ў хаце сядзіць ля каміна,
Грэе плечы і ногі, і спіну,
Захінаецца ў плед, як у морак,
Аддаецца спакуслівай зморы.
Цёпла, ўтульна, самотна...
А мне...
Зверху чуецца – снег.
Ліст апошні спяшаецца ўпасці...
Захінаюся...
Ці ад холаду?
Ці ад шчасця?

## ***АСЕННІ СУМ***

Мне так хацелася з табой сустрэцца,
І тут нечаканка на алеі ў парку:
На даланю мне ліст прысеў нячутна,
Сам па сабе, прытомлены і ціхі... сумны.
Спынілася,
прыціхла маё сэрца.

## ***НЕ ЗАБЫЦЬ***

Спадзяваўся, што пражывеш
Сам-самохаць, на адзіноце,
Летам громным жыццё праміне –
Восень стрэне ў сваёй пазалоце.

Ты хаця ж не забудзь і скажы
За жыццё сваё лету дзякуй,
І вясну ў душы зберажы:
На цябе малілася ўсякага...

Грэшны быў, прызнаю, і грашу...
Мабыць, так мне акрэслена лёсам.
Аднаго
ад Яго
папрашу:
Як прыняў –
Адпусціць мяне проста.

### ГРОНКА

Адна была, адна і засталася
З прысмакам горычы,
Са смакам гарчыні..

Рабінаваю гронкай апяклася,
А я сасмяг з тае гарачыні.

### МОВА

Я ўсё-такі пасля сябе пакіну
Не слоўны бруд,
Не літар мітусню.
А тым, хто мову месіць,
Нібы гліну,
Падкідвае туды яшчэ й мякіну,
Ствараючы балотную хлусню,–
Скажу, пакіньце гэты блуд!
Не вашая яна,
І вашаю не будзе –
Яна ў крыві, мая,
І я ёй не зманю.

### НАША СЛОВА

На даланю маю,
Раскрытую для сонца і дажджу,
Прысела раптам
Слова,
Прытомленае,
Але яшчэ жывое
Наша Слова.

Прамовіла –
ці мне здалося–
пакуль яшчэ ёсць даланя,
што падтрымае
і ўзляцець паможа,
за гэта
блаславі нас, Божа!

## *ТЭЛЕФАНУЮ*

Хацеў пачуць, таму–
Тэлефаную.
Не спадзяюся сам,
Што голас твой пачую,
Але ўжо тое,
Што званок не заначуе
У гэтай змроці,
У гэтай каламуці,
Дзе і табе, і мне
Самотна...
Дае надзею.

* * *

Здароў будзь, дзень!
Неспадзяванкаю быць можа
Адно што мімалётны здрады цень
(Даруй яму, Высакародны Божа),
Яшчэ не ўсе прабачылі грахі,
Не ўсе йшчэ даравалі мы правіны.
Калі ж ад роду ты сляпы-глухі,
Наўрад ці самі ў гэтым мы павінны.

* * *

Так скрутна адчуваю:
Не хапае мне
Вітальнае жывое песні,
Якую маці, светла, на прадвесні
Мне падарыла, калі быў пры сне.

Я помню песню,
Помню голас мамы...

Да дня майго апошняга –
Той самы...

Прыйдзі адтуль, матуля, прытулі!
Цябе так не хапае на Зямлі...

### ЛЕТА

Так прагнула душа быць абагрэтай
Цяплом-святлом любімага мной лета...
Яно ж мяне дашчэнту апякло,
Ды ўратавала роднае сяло.

Мяне сустрэнуць там і прывітаюць,
І пастаю я ціха ля магіл.
Магчыма, калі ўжо не будзе сіл,
Мяне папросіць да сябе зямелька тая.



Дзмітрый Падбярэзскі



...Вучэнне Маркса – у масы!
Такім і будзе слоган нашай
передвыбарчай праграмы!..

# Пуцькаўскія аповеды

***Ну што вам сказаць? Пуцькава – гэта аніяк не адарваны кавалак краіны. Хоцьма-няхоцьма, але і на гэтай вёсцы нейкім чынам адбіваюцца ўсе тыя працэсы, якія ладзяць жыццё ў краіне. Няхай і ў меншых-маштабах, але ж з тымі самымі тэндэнцыямі. Вось і захацелася мне падзяліцца падзеямі, якія здарыліся ў Пуцькаве апошнім часам, пра што мне і распавялі жыхары гэтай прыгожай вёскі.***

## Хайвэй у Пуцькаве

*Рэалістычнае апавяданне*

Жыццё ў Пуцькаве кацілася само па сабе. Аніякія знешнія чыннікі на яго прыкметна не ўплывалі. Дый што на тое жыццё магло паўздзейнічаць? Рубель марнеў – дык жа калгас пад бокам, дзе за які сціплы падарунак сяму-таму можна было шмат чаго прысабечыць. На памяць і так,

проста з’есці. Калгас у аграгарадок перайначылі – а што ў сістэме змянілася? Акурат анічога: як нехта нешта бачыў нібыта непатрэбнае, адразу да сябе цягнуў. А як цегуна міліцыянты неахвоць знаходзілі, дык адмазка адна была: усе так робяць, забірайце адразу хоць увесь гарадок, тут усе аднакія. Ну, зразумела, увесь кантынгент не забярэш, таму й ад’язджалі ахоўцы правапарадку ні з чым. Хіба што з якім бідонам-другім крынічнага напою... Дык хіба ж гэта быў для аграгарадка падатак? Так, адно пачастунак.

Таму й не маркоцілі тубыльцы мазгі: кожны знаходзіць нейкі занятак, каб як мага наблізіцца да абвешчанага блакітным экранам паказчыка “ўсім папіццот”. Пуцькаўчане, збольшага здагадлівыя, разумелі гэта так: кожнаму, канечне, па пяцьсот. Адно што спрачаліся: гэта ў нейкай валюце ці ў рублях, але цягам усяго года? Спрэчкі віравалі ці не штодня, аднак калі з фермы знікалі раз-пораз ружовенькія парсючкі, дык ніхто асабліва не крыўдаваў: прыродны адбор, як той казаў. Дзякаваць, што на саму ферму яшчэ ніхто не паквапіўся...

Дзед Нырок з пазіцыі пражытага глядзеў на тое звысака і збольшага па-філасофску: калі недзе нешта злямзяць, дык у іншым месцы абавязкова нешта ды прырасце. Таму і не тлуміў розум рознымі здагадкамі. Бо кіраваўся адным правілам: за кожнае злачынства наступствы заўсёды адгукнуцца, раней ці пазней. Як крадзеш сярод табе блізкіх, дык яны ж цябе некалі і здадуць. Таму што пакрыўджаным няма чаго губляць: ці пры касцёле пабірацца, ці на ўступ у прафсаюз заяву накрэмзаць. Вынік прыблізна аднолькавы: і там аб цябе ногі вытруць, і ў прафсаюзе грошай калі й дадуць, дык толькі на трызну. І ты на іх ніколі не пагуляеш.

Такія вось думкі трымцелі ў галаве дзеда Нырка, калі ён абыходзіў ляскі вакол Цмокавага Віру, раз-пораз зразаючы калёныя маладыя баравічкі, што былі як на выставе народных дасягненняў: адзін у адзін, бы патроны з аўтаматнага магазіна. Аднак жа кожны з іх выклікаў у душы дзеда такі прыліў станоўчых эмоцый, што ён урэшце спыніўся на ўзлеску побач з шашой, якая кіравалася ў бок райцэнтра. Падумаўшы, прысеў на ўзбочыне ды назіраў, як восень паціху насоўвалася на наваколле.

Вакол панавала цішыня, лёгкі ветрык, бы кацяня, гуляўся з першай пажоўклай лістотай, ляніва пераганяючы яе праз шурпаты асфальт. Гэта былі тыя ледзь не апошнія цёплыя дзянькі, калі лета яшчэ не сунялося, а восень з яе дажджамі ды брыдкімі вятрамі здавалася вельмі далёкай. Кошык з грыбамі дадаваў настрою: будзе чым узімку закусіць і нашчадкам у горад што перадаць. Жук прылёг зводдаль і таксама задаволена паводзіў пыскай, убіраючы ў сябе цудоўныя пахі ранняй восені.

“Эх, – падумаў дзед Нырок. – Гадоў са сто таму ў такі час выправіўся б па грыбы з якой маладухай. Ой, начудзілі б! І калі б з пустымі кошыкамі ў вёску вярнуліся, ніхто б не рыпнуў: такое вось жыццё, усім зразумелае. Яно не стаіць на месцы, яно прагне даваць усходы, буяць і пладнець. А цяпер што? Адны грыбочкі й засталіся... Праўда, пад свойскі напой і яны на ўздым працуюць. Гэта ж амаль як маладуху пацiскаць...”

Роздум дзеда Нырка прыпыніў віск тармазоў на асфальце. Дзед убачыў вялізнае аўто, якое спынілася акурат там, дзе ён адпачываў. На бамперах зіхацелі расійскія нумары. “Уга! – падумаў Нырок. – Аўто не меншае, як адрына ў Капаніцы. Чалавек сто ў такое ўваб’ецца. Пэўна, начальства якое!”

– Нішто сабе! – прамармытаў і Жук, аднак дзеля парадку падняў заднюю лапу над колам аўто, якое адразу ашчэрылася дзясяткам шыпоў.

– Ой-ёй, – пракаментаваў тое сабака. – Якія ж мы, сталічныя, крыўдлівыя!

Аднак з самахода выйшлі ўсяго тры мужчыны ў салідных чорных касцюмах. Першы, мажны і крыху раздзьмуты для сваіх гадоў, агледзеўся па баках і прамовіў:

– Во тут і пачнем.

Другі, больш малады і вёрткі, разгарнуў папку і тыцнуў некуды пальцам:

– Акурат тут і пачнем згодна плану!

Трэці быў мажны, у чорных акулярах, і праз увесь час азіраўся па баках. Ягоную прафесію выдаваў тоненькі дроцік, што цягнуўся аднекуль з-пад пінжака да левага вуха.

– Дзень добры! – прывітаўся галоўны. – Я так разумею, вы тут з мясцовых будзеце?

– Але ж, – кіўнуў Нырок. – З самых што ні на ёсць. Заблудзілі, відаць?

– Ну не, – адказаў прыбылы. – Дакладна на патрэбнае месца прыехалі. Вобразна кажучы, забіць першы кол.

Дзед Нырок паставіў на зямлю кошык з грыбамі і пацікавіўся:

– А што ж тут пачнецца?

– Будоўля вялікая, – коратка адказаў галоўны. – Траса стагоддзя, якая пачнецца адсюль ажно да лепшага алімпійскага цэнтра свету.

– Ні храна сабе, – праскавытаў Жук, падціснуў вушы і хуценька пабег у бок хмызнякоў. – Гэтага шчасця нам тут толькі не хапала...

– Э-э... – не паверыў пачутаму Нырок. – Што за трасца?

– Хайвэй! – патлумачыў гарадскі. – Ду ю андэрстэнд?

– Аф коз! – адказаў дзед, навучаны на схіле гадоў інтэрнэтам. – Гэта будзе хайвэй ту хэл?

Мажнюк у чорных акулярах пасунуўся наперад:

– Яшчэ слова – і ты труп!

– Спокі! – асадзіў яго галоўны. – Значыць, тут пачнецца будаўніцтва алімпійскай трасы, дзве паласы ў адзін бок, дзве – у другі. Траса пройдзе праз Цмокаў Вір і далей, дзе будзе збудаваны комплекс грандыёзных алімпійскіх аб’ектаў. Такога будаўнічага праекта свет яшчэ не бачыў, на яго выдаткаваны велізарныя сродкі, якія мы павінны засвоіць у самы сціслы час. Зразумела?

– Ой, не магу, як ён брэша! – пачуўся недзе з адхону голас Жука, на што мажняк у чорных акулярах выцягнуў з-пад пінжака вялікі пісталет і прысеў.

– Спакойна, я ж сказаў! – выгукнуў начальнік. – Ідзе абмеркаванне, гэта нармальны дэмакратычны працэс. Кожны мае права выказацца. Хоць і не кожны мае права прымаць рашэнне. Гэта ўжо як манета ляжа. Нашая манета, спадзяюся, упадзе належным бокам.

Дзед Нырок пачуваў сябе ніякавата. Найперш, ён не разумеў, што да чаго, пра што наогул ідзе гаворка. Ну, шаша – гэта нібыта й добра для мясцовых, але чаму яна пойдзе ўглыб пушчы, дзе анічога няма? Па-другое, навошта там будаваць нешта грандыёзнае, калі нават у Пуцькава зацягнуць турыстаў расповедамі пра НЛА ды ажыўлены танк немагчыма?

– А-а... – прамармытаў ён, аднак прыбыш падхапіў ягонае сумненне:

– Вы ж з самых, так сказаць, тутэйшых-карэнных? Добра мясціны ведаеце, так? – спытаў ён.

Кіўком галавы Нырок пацвердзіў ягоную здагадку.

– Нам будуць патрэбныя супрацоўнікі, – працягваў мужчына. – Вартаўнікі тэхнікі, рознарабочыя і гэтак далей. Вы згодныя ахоўваць будаўніцтва алімпійскай трасы?

Дзед Нырок задумаўся.

– А за краты потым не кінуць?..

– Якія краты?! – выбухнуў маладжавы. – У нас усё згодна з законам! Во, глядзіце, план зацверджаны самім!

– Кім – Самім? – не зразумеў Нырок. – Гэта прозвішча такое? У нас у раёне такога няма...

– Дзярэўня... – прамармытаў худы. – Зацверджаны на самым версе! І грошы выдаткаваныя, толькі паспявай іх асвойваць!

– Во і пачнем, – пагадзіўся начальнік. – Вы згодныя быць начальнікам ахоўнай службы?

Пытанне было для дзеда Нырка нечаканым. Ну, танкам ён камандаваў, у хаце ўласнай жонкай – толькі час ад часу, аднак каб вось так узначаліць службу аховы... Ён задумаўся.

– Спытай, якая зарплата? – зацікаўлена вякнуў з-пад кустоўя Жук, чым прывёў працэс мыслення Нырка ў належнае рэчышча.

– Ага, сколькі? – упэўнена пацікавіўся ён.

Начальнік выцягнуў руку, хударлявы сунуў у яе нейкія аркушы. Пагартаўшы іх, тыцнуў пальцам:

– Дзевяцьсот рублёў у месяц, гэта калі кіраўніком службы аховы!

– Ай-ёй! – зароў Жук і, схапіўшыся пярэднімі лапамі за галаву, кінуўся праз поле ў бок бярэзніку.

– Згодны? – запытаў прыбылы.

– Ну, ета, – дзед Нырок, маючы пенсію ў 120 рублёў, нават не ведаў, што й адказаць. – Нібыта і нармальна, ага...

– Плюс прэміі, – патлумачыў працадаўца.

– Я ж яшчэ ветэран усяго і прочага! – набраўся смеласці Нырок.

– І гэта ўлічым! – запэўніў начальнік. – Штат будзе з чатырох чалавек. Ты і тры ахоўнікі на змену, дзень праз два. Іх набярэш сам на аклад у шэсцьсот рублёў штомесяц.

“У вёсцы ўсе паб’юцца!” – падумаў дзед Нырок, але згодна кіўнуў галавой. Бо разумеў: за дзевяцьсот рублёў зарплаты ў месяц ён праз некаторы час здолее купіць увесь аграгарадок.

– Я збяру да сябе яшчэ трох чалавек. Людзі – крэмень, ні адна гадзіна не пашкодзіць будаўніцтву! – запэўніў Нырок.

– Ну і выдатна! – начальнік працягнуў яму руку. – Дамовіліся! Тэхніку прыцягнуць заўтра, і мы адразу падпішам кантракт. Падрыхтуйце пашпарты і ўсё іншае да іх.

З гэтым ён пайшоў да машыны, якая, узарваўшы коламі рэшткі асфальту, паляцела ў напрамку сталіцы.

Дзед Нырок ледзь не бегма пашыбаваў у Пуцькава, але хутка спыніўся: кошык з грыбамі так і застаўся на месцы сустрэчы. Павагаўшыся, усё ж вярнуўся, свіснуў Жука, які пад кустом, не спыняючыся, скавытаў “Усім па дзевяцьсот”, і подбегам пакрочыў у вёску. Ягоныя думкі віравалі, аж у пот кінула. “Дзевяцьсот у месяц, шэсцьсот зменшчыкам... Гэта ж, гэта... Амаль як старшыня райвыканкама! От зажывем дзякуючы расейцам! І чаго гэты Шпілёнак зуб на тых расейцаў затачыў? Маўляў, ад іх адны здзекі

ды крыўды беларусам. Яны во як шчодра да нас ставяцца! Дзевяцьсот у месяц... Адурэць!"

Ідучы, Нырок пачаў набіраць штат ахоўнікаў. Што Іван Капаніца будзе ў спісе пад нумарам адзін, не выклікала сумненняў. Ён і трактарыстам дадаткова падзарабіць тут здолее, таму з ягонага боку праставон гарантаваны. Базыль Шпілёнак? Бадай што так. Ягоная праца ў школе настаўнікам у параўнанні з зарплатай шараговага вартаўніка – грош ля касцёла ў святочны дзень. І мухляваць, лічачы галасы падчас выбараў, не трэба. Узяў на працу кампутар і ганяй сабе танчыкі ад відна да відна. Трэці... Мінтай? Не, слізкі ён нейкі, да таго ж раёнку выпісвае і любіць зачытваць з яе розныя брыдоты. Кшталту: па эканамічных паказчыках наш раён упэўнена вырваўся ў спаборніцтве на перадапошняе месца. Жэўжык занадта рамантычны, будзе кіно сам сабе круціць, а за аб'ектам, за будоўляй сачыць трэба. Заставалася адно Еўка. На тым Нырок і спыніўся. Аднак, прыйшоўшы ў хату, Еўцы не сказаў ані слова, падумаўшы, што сюрпрыз павінен зваліцца знянацку.

На наступны дзень адразу ж зранку Нырок зладзіў сустрэчу з Капаніцам ды Шпілёнкам. Іван, толькі пачуўшы лічбу "шэсцьсот", пачаў ікаць. Нырок са Шпілёнкам і білі яго па спіне, і нос затыкалі – ніштo не дапамагала! Толькі што шклянка з віном, залітая ў Іванава нутро, дала хоць нейкі часовы паратунак. Капаніца прамармытаў "Заўсёды!" і зноў распачаў ікаўку. Шпілёнак тым часам разважаў: а якія такія гарантыі ў працадаўцы, ці варта прабіць у Сеціве ягоныя рэквізіты, якім заканадаўствам будзем карыстацца падчас працы – айчынным ці расійскім? Якія гарантыі, што па сканчэнні будаўніцтва хайвэя яго назад у школу возьмуць выкладаць?

– Я так думаю, што ты без школы не застанешся, – сказаў Нырок. – Бо на ўсе школы дурных усё адно не хопіць. Давядзецца крыху й разумных набраць. Так што...

І Базыль Шпілёнак таксама падпісаўся пад прапановай. А вось з Еўкай нечакана атрымалася куды больш складана. Яна не распытвала, што за працадаўца, колькі часу будуць плаціць грошы, якія гарантыі ды ўсё іншае, толькі спытала Нырка проста ў лоб:

– Ты дурны ці як?

Нырок не здолеў нічога адказаць, апрача як прамармытаць: "Пашпарт падрыхтуй. Заўтра абяцалі прыехаць па дамовы".

Еўка кінула свой пашпарт на стол і замацавала:

– Двойчы дурны!

"Дурны не дурны, а будуць грошы ў хату!" – адзначыў дзед і ўважліва зірнуў на Жука.

– Чым дурнейшы мужык, тым больш ягоная баба на грошы ахвочая, – адказаў той. Не пагадзіцца з мудрым сабакам Нырок не мог...

Назаўтра чорны аўтобус падкаціў да Нырковай хаты ў дакладна вызначаны час. З машыны выкуліліся ўсе тыя ж: салідны начальнік, зморшчаны памочнік і ахоўнік. Начальнік на лаўцы каля хаты хуценька запоўніў дамовы і прапанаваў паехаць на тое месца, адкуль павінна была пачынацца будоўля стагоддзя. Еўка ехаць не захацела, але Нырок, Капаніца і Шпілёнак не адмовілі сабе ў задавальненні праехацца ў шыкоўным аўто.

Яно спынілася на ўзбочыне. Жыхары Пуцькава ўбачылі стары, пабіты іржой вагончык і нейкі механізм на колах, які з вялікай доляй фантазіі можна было назваць колавым трактарам з каўшом.

– Ну вось, вагончык для нясення дзяжурства ўжо маецца, – паказаў начальнік. – І тэхніку прыгналі ўжо. Неўзабаве яшчэ давязем і пачнем.

– Гэта для чаго агрэгат? – пацікавіўся Капаніца, асцярожна наблізіўшыся да трактара.

– Карчаваць лес, капаць глебу, пракладваць шлях, – прамовіў начальнік.

– Нешта я сумняваюся, што яно працуе, – адказаў Капаніца, стукнуўшы нагой у спушчанае кола. – Такое і ў музей скарэння цаліны не возьмуць.

– Нічога, – супакоіў яго начальнік. – Як наладзім, дык яшчэ сто гадоў адпрацуе. Ну, мужчыны, адзначым па-руску пачатак!

Ягоны памочнік спрытна адчыніў багажнік аўто, дзе стаяла пляшка дарагога напою, пластыкавыя кілішкі і загадзя падрыхтаваныя бутэрброды з чорнай ікрой.

– Давайце, мужчыны, смялей! – прамовіў начальнік, а ягоны памагаты пачаў разліваць па кілішках пітво. – Як годна пачнем, так плённа й скончым! Ікорка вось, астраханская, мо й не каштавалі ніколі?

– У Цмокавым Віры такое водзіцца, што вашая астраханская і блізка не пасвілася, – пачаў быў Нырок, але Капаніца спрытна выхапіў з рук памочніка бутэльку і проста з рыльца заліў пад ніжнюю губу ці не палову. У ахоўніка ад убачанага павыпадалі навушнікі.

– Што ж там будаваць будуць? – пацікавіўся Шпілёнак, адкусіўшы кавалак бутэрброда.

– Міжнародны цэнтр спорту, – патлумачыў начальнік. – Футбольны стадыён на 70 тысяч месцаў...

Капаніца з перапуду адным рухам праглынуў усё раней назапашанае, але начальнік на тое аніяк не адрэагаваў.

– ...лядовы палац на 15 тысяч крэслаў, велатрэк і розныя спадарожныя збудаванні: гатэлі сеткі “Кемпінскі”, штучнае мора для яхтаў, поле для гольфа, аэрапорт і гэтак далей...

– І хто ж сюды, у глухмень, паедзе? – не здаваўся цікаўны Шпілёнак.

– Мы дапамагаем Беларусі зрабіцца вядучай краінай Еўропы ў галіне спорту і турызму, – працягваў распавядаць начальнік. – І як толькі пракладзем шашу, дык адразу ж пачнем узводзіць аб’екты. І хутка ўся Еўропа нам пазайздросціць і рынецца сюды.

– А што Амерыка? – гнуў сваё настаўнік.

– А потым і Амерыка, як панаставім розных казіно з Галівудамі. Куды яна падзенецца? – адрэзаў начальнік. – А цяпер прашу атрымаць аванс.

Да яго падскочыў памочнік, разгарнуў папачку, даў кожнаму з пуцькаўцаў распісацца ў ведамасці, уклаўшы ў руку кожнаму з іх па канверціку, на якім вялікімі літарамі было напісана па-англійску “Highway”.

– Значыць, ад заўтрага прашу заступіць на дзяжурства, – сказаў начальнік.

– Мо стрэльбу якую дадуць? – пацікавіўся Капаніца і хітнуў галавой у бок трактара. – Тут жа матэрыяльныя каштоўнасці, як-ніяк...

– Зброя каштарысам не прадугледжана, – асадзіў яго памочнік. – Ну, мы паехалі, а вы працуйце. Праз два тыдні будзе зарплата.

Працадаўцы паселі ў аўто, тое з віскам кінулася з месца і хутка знікла за паваротам.

– Дык, гэта... – прамармытаў Капаніца. – Варта абмыць аванс, традыцыя такая, каб ручай не перасох.

Пуцькаўскім мужчынам двойчы паўтараць слушную прапанову не

выпадала. Яны сунулі канверты ў кішэні і радасна пашыбавалі ў бок знаёмай да апошняй маснічыны крамы. Там узялі тое, што належыць: выпіць чаго даражэйшага, бляшанку "Вясёлых рабят" у таматным соусе, чвэрць чорнага. Дзед Нырок аб'явіў:

– Гэта... Паколькі мая ініцыятыва, дык дазволю сабе праставіцца.

З гэтымі словамі ён дастаў канверт, выцягнуў адтуль грошы і застыў, бы крыж на раздарожжы. Капаніца і Шпілёнак таксама ўтаропіліся ў ягоныя рукі і не маглі прамовіць ані слова.

– Колькі тут?.. – нарэшце прасіпеў трактарыст.

– Э-э... – прамармытаў Нырок. – Шэ... шэ... сцьдзесят усяго.

Ягоныя сябры сутаргава раздзерлі свае канверты. У кожным было роўна па сорак рублёў.

– Нешта я ні-чога не зра-зумеў, – да Капаніцы вярнулася ікаўка.

Шпілёнак жа ўспрыняў непрыемнае адкрыццё куды больш аптымістычна:

– Мужчынкі, тое ж аванс, меншая частка! Затое як зарплату прывязуць, дык яна ў кішэнях не змесціцца! Пайшлі, хлеб сохне!

Моўчкі яны завярнулі за будынак крамы, дзе здаўна ўсё было прыстасавана для правядзення нефармальных мужчынскіх сустрэч: старыя дзверы, пакладзеныя на два пні, ды тры адпаліраваныя загартаванымі задамі драўляныя лаўкі. На стол сталі дзве бутэлькі ружовага віна "Загадкі Неферціці", успоратая настаўнікам бляшанка і парэзаны на лусты яшчэ ў краме хлеб. Шпілёнак спрытна разліў віно ў выцягнутыя з-пад стала шклянкі і яшчэ раз супакоіў прысутных:

– Я й матэматыку, здаралася, выкладаў. Таму ведаю: аванс заўсёды – частка меншая. А калі маецца аванс, будзе і частка большая. Ну, за хайвэй!

Гэта быў той надзвычайны выпадак, калі мужчыны пілі моўчкі. Так і разышліся, адно што Нырок нагадаў Капаніцу:

– Заўтра пачынаеш, а восьмай ранку каб заступіў!

І з гэтага дня ў пуцькаўскіх мужчын пачалася працоўная варта. Шпілёнак звольніўся са школы, хоць і быў вымушаны сесці ці не на дыету: аванс раставаў, як снег пад першым веснавым дажджом. Тым не менш адказна праводзіў суткі ў вагончыку, пакуль яго не змяняў Капаніца. Дзед Нырок раз на дзень прыходзіў з праверкай, але і сам павінен быў дзяжурыць за Еўку. Аптымізму ім дадаваў нумар раёнкі, у якім быў здымак вагончыка на ўскрайку лесу і трактара. Загаловак вяшчаў пра пачатак будоўлі стагоддзя, а невялікі тэкст з гонарам паведамляў, што дзякуючы гэтаму ў раёне ўтвораны ажно чатыры новыя працоўныя месцы. Нырок прымацаваў нумар раёнкі да сценкі ўнутры вагончыка, а пад ім паставіў у слоіку кволы букецік сціплых восеньскіх кветак.

Так яны і вытрымалі два тыдні. Ажно акурат у пятніцу, калі мужчыны ў чаканні сабраліся ўтрох ля вагончыка, каля яго зарыпелі тармазамі з'едзеныя гадамі "Жыгулі" з прымятымі бакавінамі.

З машынкі выкараскаўся знаёмы – той самы памочнік начальніка.

– З працоўным прывітаннем! – павітаўся ён. – Ну як, тут усё спакойна? Тэхніка на месцы?

– Куды ж яна падзенецца? – адказаў Капаніца. – Тры колы з чатырох належных – як ёй ехаць?

– Ну, добра, – пагадзіўся памочнік. – Распішыцеся ў ведамасці, заробак у канверціках, як мае быць.

Мужчыны нашкрабалі свае подпісы на паперчыне, але, навучаныя папярэднім досведам, адразу ж праверылі змесціва канвертаў.

– Эй! – першым узвіўся Шпілёнак. – У дамове было шэсцьсот, так?

– Было, – пагадзіўся працадаўца.

– А тут усяго сто шэсцьдзесят. Плюс ранейшыя сорак. Усяго дзвесце, але зусім не шэсцьсот. Што такое?

– Так, тлумачу, – памочнік падняў указальны палец правай рукі ўгору. – Каб падстрахаваць нас і вас ад магчымых хваляванняў рынкавых каціровак, мы заснавалі стабілізацыйны фонд, у які адкладаем частку вашых заробкаў. Калі работы на будоўлі скончацца, а на рынку не адбудуцца ўсялякія форс-мажоры, вы атрымаеце тое, што не атрымліваеце цягам вашага дзяжурства. Гэта зразумела?

– Так, не зразумела, – адказаў Шпілёнак. – А што будзе, калі рынак абрынецца?

– Тады кампенсуем страты, – адрэзаў памочнік. – Мы – фірма салідная, трэці год працуем, гарантыі на ўсе сто. Аванс праз два тыдні, на гэтым жа месцы, у гэты ж час.

З тым ён скочыў у “Жыгулі”, якія доўга пляваліся чорным дымам, пакуль са скрыгатам не крануліся з месца.

– Ну, я ў школе ў месяц больш меў, – пачухаў патыліцу Шпілёнак. – А калі б яшчэ на выбарах працаваў – тым больш. Нешта мне той бізнес не падабаецца.

– Фонд нейкі прыдумалі, – прамармытаў Капаніца. – Чакай салаўя пад Каляды...

– Так, хлопцы, – падсумаваў Нырок. – Лепш салавей у канверце, чым праграма “Навіны” па тэлевізары. Пакуль працягваем вахту, усё ж нейкая капейчына капае. І за тое дзякуй.

Так яны і працавалі надалей. Двойчы на месяц каля вагончыка спыняліся “Жыгулі”, мужчынкі распісваліся ў нейкіх паперчынах, атрымлівалі фірмовыя канверты і ўпэўніваліся, што стабілізацыйны фонд працадаўцы ўсё больш расце і мацнее.

Ужо нудныя восеньскія дажджы пайшлі, адляцела ў вырай прыгожае лісце, адышлі крамяныя баравікі, на змену якім павылазілі зморшчаныя зялёнкі. Дзед Нырок звонку абнавіў набытай на ўласныя грошы фарбай вагончык, Капаніца паразбіраў і наноў сабраў нутро прывезенага агрэгата, Шпілёнак уладкаваўся на палову стаўкі прыбіральнікам у сваю ж школу. Але будоўля шашы ў светлую будучыню ўсё не пачыналася. Гэта нервавала вартаўнікоў вагончыка, але дзед Нырок як мог іх супакойваў, маўляў, цалкам магчыма, што пракладаць трасу пачалі з процілеглага боку.

З тым спадзяваннем сустрэлі і Каляды, наладзіўшы ў вагончыку сціплае мужчынскае свята. З тым жа настроем сустрэлі і Вялікдзень. Грошы на “Жыгулях” прывозіліся без затрымкі, памочнік начальніка штораз даводзіў лічбы росту стабілізацыйнага фонду і рост працэнтаў пад укладзеныя пуцькаўцамі грошы. Ажно як у канцы красавіка ў належны дзень для абмену канверцікі-подпісы “Жыгулі” не з’явіліся. Першы не вытрымаў Капаніца:

– Я адразу падумаў: лепш бы яму верхнюю губу на ніжнюю ссунуць, зараза!

– Чакай! – спыніў яго Нырок. – Мо бензін у яго скончыўся.

– Ага, у гэтых бензін скончыцца, чакай! – адгукнуўся Шпілёнак. – Такога не бывае! Спярша ў такіх заканчваюцца ўсялякія “Ламбарджыні”.

– Што заканчваецца? – не зразумеў Нырок.

– Гэта той жа трактар “Беларус”, толькі што для людзей зроблены, – патлумачыў Капаніца.

У вёску мужчыны вярталіся ў скрусе. Адно што Капаніца напаўголаса падлічваў, колькі ён зможа зарабіць не на будоўлі хайвэя, а на звычайнай пасяўной. На што Нырок адказаў: маўляў, дамова падпісана да сканчэння будоўлі, і калі ён яе разарве, дык атрымае пры разліку хіба на які пачак марозіва. На “Неферціці” дакладна не хопіць...

Праўда, недзе пад канец траўня ў вагончык па-за раскладам дзяжурства ўляцеў запыханы Шпілёнак, трасучы нейкай паперчынай.

– Во, мужыкі, глядзіце! – гукнуў ён і расклаў на століку нейкую карту. – Гэта мне з райцэнтра прывезлі, новая карта нашага раёна!

Мужчыны ўтаропіліся ў карту. Шпілёнак тыцнуў пальцам:

– Во, глядзіце! Во тут наш вагончык, ад якога праз Цмокаў Вір акурат намаляваная траса міжнароднага значэння, а?!

– Фальшыўка з Польшчы? – засумняваўся Нырок.

– Сам зірні: надрукавана ў сталіцы, – налягаў на сваім настаўнік. – Прадаецца афіцыйна. Шаша ёсць, хоць адразу па ёй шыбуй у светлую будучыню.

– Як яна ёсць, калі яе няма? – задумаўся Капаніца. – Нейкі...

– Нічога не разумею, – уставіў сваё Нырок. – Карта ёсць, на ёй шаша, якой няма.

– Гэта каб амерыканскіх шпіёнаў збіць з панталыку, – выказаў здагадку Капаніца.

– Я так думаю, што нам варта скончыць марнаваць час у гэтым вагончыку, – прамовіў Шпілёнак. – Грошай больш не вязуць – раз. Шашу нанеслі на мапу – два. Значыць, ужо збудавалі. Тры – гэта...

Дзед Нырок не даў яму скончыць прамову:

– Так, мужчыны. Ці маем мы ўтрох нешта такое, каб задаволіць апетыты нашай любай “Неферціці”? І гэтым зачыніць наш звышудалы бізнес-праект?

На рытуал “Неферціці” грошы адшукаліся. Інакш у Пуцькаве і не магло быць.

Мінуў год ад таго часу, як пад Пуцькавам распачалася гіганцкая будоўля. Капаніца, страціўшы ўсялякія спадзяванні ажывіць падобны на трактар агрэгат, нарэшце справадзіў яго ў райцэнтр, дзе выгодна здаў на лом. Грошы, канечне ж, падзяліў на трох. Пры гэтым дзед Нырок праявіў гжэчнасць і на атрыманыя рублі набыў Еўцы прыгожыя кеды кітайскага вырабу. Вагончык удала выкарыстоўвалі жыхары вёскі, выбіраючыся ў лес, каб перачакаць дажджы.

Вось так і дзед Нырок, зірнуўшы неяк на нізкія восеньскія хмары, выбраўся з поўным кашом грыбоў з вагончыка і пакрочыў быў у бок вёскі. Аднак каля яго спыніўся вялікі аўтобус з незразумелымі нумарамі, з якога пасыпаліся рознага колеру маладзёны ў спартовай вопратцы.

– Хэло! – прывітаўся адзін з іх.

– І табе таксама, – адказаў Нырок.

Маладзён сунуў пад нос дзеду нейкую прыладу, на экране якой той убачыў знаёмы кавалак лесу нават з выяваю струхнелага вагончыка.

– Мы ёсць спартоўцы з Бразіліі, – патлумачыў маладзён. – Мы ёсць запрошаныя на Кубак свету па гольфу. Тут павінны ехаць у сусветны цэнтр спорту. Навігатар паказвае, што тут ёсць хайвэй. Дзе ён?

Дзед Нырок паставіў кош з грыбамі на зямлю і пачухаў патыліцу.

– Ну як вам растлумачыць, дзе тая шаша?

– Так-так, дзе хайвэй?

– А няма таго вэя, – злосна кінуў Нырок.

– Дык вось жа, спадарожнік паказвае – ёсць. Дзе шаша? – не супыняўся спартовец.

– Самі зірніце – няма! – павёў рукой Нырок.

Спартоўцы абступілі Нырка.

– Ды дзе ж тут дарога? – пачалі дапытвацца Нырка з усіх бакоў.

– Ду ю спік раша? – не разгубіўся дзед.

– Пёрфэктлі! – зарагаталі спартоўцы.

– Тады я вам адкажу расейскай моваю, дзе той хайвэй, – пагадзіўся Нырок.

– Вэя, вэя! – загаласілі спартоўцы.

– Сп...здзілі! Андэрстэнд раша? – адказаў дзед, падхапіў кошык і, азірнуўшыся, дадаў:

– Перад тым, як сала з'есці, варта найперш паспрабаваць, ці яно не прагорклае!

І з тым горда пакрочыў у сваю вёску...

## Выбары ў Пуцькаве

*Электаральнае апавяданне*

Калі аднойчы ў Пуцькаве раптам нехта вельмі дапытлівы высветліў, што з дня ўтварэння калгаса "Наша зорка" выпадае 70 гадоў, было тэрмінова склікана праўленне, на якім адзінагалосна вырашылі ў гонар гэтай безумоўна выбітнай даты адлюстраваць гераічны працоўны шлях калектыву ў выглядзе грандыёзнага мемарыяла. Аснову яго мусіла складаць Дошка гонару, праект якой па знаёмстве замовілі ў райцэнтры ў брыгады дойлідаў, якія выраблялі помнікі пры гарадскіх могілках. Паколькі замова была салідная і тэрміновая, дасціпныя праекціроўшчыкі пайшлі простым шляхам, злучыўшы ў кампазіцыю найперш усе незапатрабаваныя надмагільныя пліты, разбавіўшы іх выявамі істот няпэўнага полу. Каб дадаць праекту ідэйнасці і пэўнасці, выявы гэтыя дапоўнілі канкрэтнымі рэчамі: граблямі, рыдлёўкамі, плугамі ды баронамі. Доўга думалі, што зрабіць з выявай жанчыны. Яна была злепленая ў позе русалкі, якая нібы глядзіцца ва ўласнае адлюстраванне ў вадзе. Гэты помнік заказаў мясцовы бізнесмен у памяць аб сабаку, які трапіў пад колы самазвала, але ўсталяваць не паспеў, таму што ў сваю чаргу патрапіў пад падатковую камісію. Ды так няўдала, што і следу-памяці аб ім у горадзе не засталося.

Каб заказчык нічога не падумаў дрэннага пра кампазіцыю, перад выявай "русалкі" пасадзілі нешта такое на чатырох нагах, і ў цэлым гэты фрагмент мемарыялу павінен быў азначаць руплівы догляд свінога пагалоўя. Прынамсі, аўтары кампазіцыі былі ўпэўненыя, што стварэнне на чатырох нагах – гэта менавіта свіння. Апрача іх, так не думаў ніхто, што не перашкодзіла ўсталяваць мемарыял на цэнтральнай вуліцы Пуцькава.

Ганаровая дошка атрымалася немаленькая. У даўжыню яна сягала метраў пяцьдзясят, а там, дзе на надмагільных плітах былі месцы для медальёнаў нябожчыкаў, раённыя дойліды прымацавалі партрэты былых старшыняў калгасу.

Вось з гэтым быў немалы клопат. Бо за тыя семдзесят гадоў праз крэсла калгаснага старшыні прайшло сама меней чалавек сто – сто пяцьдзясят. Баба Крыся бажылася, што за гады вайны яна ў Пуцькаве столькі немцаў не бачыла, колькі перад яе вачыма тых старшыняў праслізнула.

Святкаванне 70-годдзя цяпер ужо не калгаса, а аграгарадка вырашылі сумясціць з чарговымі выбарамі ў мясцовыя саветы. А перадусім – выбарам чарговага "медальёна". Сітуацыя была такая, што з мясцовых пуцькаўчанаў ледзь не ўсе панаціралі старшынскае крэсла. А хто праз гэта прайшоў, той ад другога тэрміну адхрышчваўся, як мусульманін ад крыжа. І таму выйсце ў раённых уладаў было адно: прапанаваць чарговага мігранта. Нават не з мясцовых, найлепш з нейкага блізкага раёна.

І калі на дзвярах пуцькаўскага клуба мясцовыя аднойчы пабачылі аб'яву аб маючых адбыцца выбарах кіраўніка мясцовага савета і адначасова – дырэктара аграгарадка, навіна тая развярэдзіла розумы прагрэсіўна настроенай часткі тутэйшых. Першым задаўся пытаннем настаўнік Шпілёнак. Прачытаўшы абвестку і выправіўшы на ёй граматычныя памылкі, ён паставіў адзнаку "2" і правёў адзіночны пікет, трымаючы выдраны са школьнага сшытка аркушык паперы з надпісам: "Даколі?!" Пікет пратрымаўся роўна пяць хвілінаў: Капаніца, які праходзіў паўз клуб у кірунку крамы, забраў пікетчыка з сабой, спакусіўшы яго тым, што ў краму толькі-толькі завезлі партыю напою ўраджаю мінулага тыдня. Устрымацца ад такой прапановы настаўнік не здолеў, аднак пасля дэгустацыі новага напою "Каралеўна Бона" прызнаўся трактарысту, што так проста гэтую справу ён катэгарычна не пакіне. Там жа і была створана і зацверджана ініцыятыўная група, якая адзінагалосна вырашыла прапанаваць на выбары кіраўніка мясцовага савета не нейкага прывезенага невядома адкуль, а свайго, пуцькаўскага. Аргумент у Шпілёнка быў жалезны:

– Ваня, ты ўважліва глядзеў на гэтую брацкую магілу?

– Ты пра дошку гонару кажаш? – здагадаўся Капаніца.

– Пра яе! Колькі там налічыў нашых, пуцькаўскіх?

Капаніца задуменна паварушыў ніжняй губой і прамармытаў нешта няўцямнае.

– Во і я пра тое ж! – усхадзіўся настаўнік. – Дык даколі нам будуць прывозіць з невядома адкуль нейкіх прахіндзеяў, каб яны намі кіравалі? Мо час настаў такі, што свайго, мясцовага варта было б паставіць, які добра разумее нашыя патрэбы?

– Яно-та, канечне, я згодны ў цэлым... – "Каралеўна Бона" замінала Капаніцу выкласці свае думкі ў больш асэнсаванай форме.

– Да таго ж Беларусь – краіна дзіка дэмакратычная, – працягваў Шпілёнак. – І правядзенне безальтэрнатыўных выбараў супярэчыць асновам дэмакратыі! Ты згодны?

– А то ж... – пагадзіўся Капаніца, адкаркоўваючы другую "Каралеўну". – Дэмакратыя – гэта такая рэч, якую так проста не прапіць. Прынамсі, гэта табе не цэбар саляры.

– Я ж пра тое, што гэтаму засланцу неабходна высунуць альтэрнатыву, – давёў настаўнік. – І абавязкова з нашых, тутэйшых. Вось хто, на тваю думку, здольны тут парадак навесці?

– Я – не, – адразу здаўся Капаніца. – Слабы характар. Падлягаю ўплывам заходняй дэмакратыі.

– Гэта як? – не зразумеў Шпілёнак. – Замежныя галасы слухаеш, розных Цыганковых ды Дубаўцоў?

– Не, адкуль? Проста ў іх трактары лепшыя... – прамармытаў Капаніца і заліў у сябе чарговую порцыю напою.

– Дык каго тады высунем? – дамагаўся настаўнік.

Капаніца задумаўся, засмактаў чарговую цыгарэту і нарэшце высунуў уласную прапанову:

– Я так думаю, што, апрача дзеда Нырка, аніводнай рэальнай кандыдатуры ў Пуцькаве няма. Па-першае, чалавек заслужаны, з дзяржаўнымі ўзнагародамі. Па-другое, адзначыўся рэйдам на танку ў самую сталіцу. Па-трэцяе, што ні на ёсць – свой, мясцовы, усіх і ўсё ведае.

– Гады... Маю на ўвазе ўзрост, – кінуў настаўнік. – Гэта – мінус.

– А што гады?! – усхадзіўся Капаніца. – Гады – гэта ж жыццёвы досвед. Да таго ж ён усіх тутэйшых навобмацак ведае. І ніколі чужога не браў. А нашыя як яго паважаюць – не раўнуючы як участковага міліцыянта. Сам жа ведаеш: як які непарадак у вёсцы, да каго найперш ідуць? Да Нырка.

– Ці да ягонай бабы, – прамармытаў настаўнік.

– А хоць бы да яе! – усхадзіўся трактарыст. – Еўка адна – гэта амаль англійскі парламент. Але ж канфлікты ў нас вырашаюцца без умяшальніцтва гэтых... прыблудкаў раённых. Ну, давай, афармім ініцыятыўную групу.

Мужчыны разлілі рэшткі напою і хрумстам пластмасавых кубкаў замацавалі рашэнне сходу грамадскасці. Пасля чаго знялі з прылаўка яшчэ два змесціва чарадзейнага напою і накіраваліся да дома Нырка.

Там іх на ганку і сустрэла Еўка, насцярожана скасавурыўшыся на адтапыраныя кішэні прышэльцаў.

– І чаго вы прыперліся? Ён Маркса вывучае, заняты!

– Дзела маецца, – патлумачыў Шпілёнак. – Дзяржаўнай, значыць, важнасці.

– Выпіць няма з кім, – з ляза падрэзала ініцыятыву Еўка. – Не сёння. Дзень ведаў рыхтык.

– Мы пра выбары хацелі б пагаварыць, – не здаваўся настаўнік.

– Якія выбары ў гэтым заранні?! – ускінулася Еўка, – Як Баршчэўская падлічыць, такія й выбары вам будуць! Няма чаго дарма газу паліць!

– Стоп! – Капаніца паставіў левую нагу на ганак і прамовіў: – Еўка, ты хочаш быць першай...

– Лэдзі... – падшаптаў Шпілёнак.

– Ну так... амаль, – пагадзіўся трактарыст. – Бываць у раёне на прыёмах, піць шампаны, квіткі на канцэрты Міхайлава Стаса са зніжкай мець?

– Ну, на Міхайлава згодная. А ад шампанскага ў мяне толькі ікаўка... Добра, дзесяць хвілінаў даю на перамовы.

– Йес, лэдзі! – пагадзіўся Шпілёнак і штурхануў Капаніцу ў плечы. – Цісні на педалі, пакуль не далі!

Нырок чытаў Маркса ў арыгінале. А паколькі арыгінал быў на нямецкай мове, дык ён вывучаў класіка са слоўнікам. А паколькі ў слоўніку многія старонкі адсутнічалі, засваенне “Капіталу” адбывалася з пэўнымі праблемамі. Прыбышоў ён сустрэў з відавочнай палёгкай.

– Хлопцы! – прыўзняўся ён з-за стала. – Маркс – гэта глыба, скажу я вам. Ягонае вучэнне й дагэтуль актуальнае ўсюды і для ўсіх.

– Во! – узрадаваўся Шпілёнак. – Яго, значыць, і агітаваць не трэба.

Вучэнне Маркса – у масы! Такім і будзе слоган нашай перадвыбарчай праграмы!

– Якой такой праграмы? – здзівіўся стары. – Ізноў у нейкае лайно ўступаем?

– Гавары праўду, – падказаў Капаніца настаўніку.

– Я й кажу, – пагадзіўся настаўнік. – Існуе ў пуцькаўскім грамадстве меркаванне, што на чале мясцовай улады павінен стаць не нейкі засра... засланец, а свой, тутэйшы чалавек. Які ведае ўсіх і ўсё.

– Лагічна, як пісаў Карл Маркс, – пагадзіўся Нырок.

– Дык вось мы, – правёў рукой наўкол Шпілёнак, – прадстаўнікі грамадскасці, так сказаць, і вырашылі высунуць цябе на пасаду кіраўніка мясцовай улады. Патрабуем тваёй адзінагалоснай згоды.

Дзед Нырок пачухаў патыліцу. Надоўга задумаўся, а потым спытаўся:

– Аргументы маюцца?

– А няўжо ж?! – Капаніца выцягнуў з кішэні пляшку “Каралеўны”. – Ажно два!

З-за таго, што ў кожны момант Еўка магла перарваць пачатак важных перамоваў, напой спажывалі ў спартанскім рэжыме: з рыльца.

– Дык што ж я адзін магу зрабіць? – падумаўшы, прамовіў Нырок. – Адзін і ў нераце не ёрш. Юшку не зварыш.

– Дык вось нас тут яшчэ два, – усхадзіўся настаўнік. – А там людзей сагітуем, падцягнуцца тыя, хто цябе добра ведае. Мільёны нас будуць!

– Дык у гэтых, з раёна, – патэнцыял, як казаў Карл Маркс, – працягваў сумнявацца Нырок. – Перабіць яго няпроста!

– Ты не верыш у наш, тутэйшы патэнцыял, – налягаў на сваім Шпілёнак. – Людзі пойдуць толькі за табой, адно паклікаць іх трэба будзе! Але гэта ўжо справа тваёй ініцыятыўнай групы. Мяне і Капаніцы.

– На тое грошы патрэбныя, – заўважыў дзед. – Нашыя, калі капейкай якой іх не прывабіш, ср...ку ад лаўкі не адарвуць.

– Гэтае пытанне абсалютна вырашальнае! – запэўніў яго настаўнік. – Зробім краўдфандынг.

– Што?! – ікнуў трактарыст.

– Гэта збор сродкаў праз добраахвотныя адлічэнні грамадзян у Інтэрнэце на слушную справу, – патлумачыў настаўнік. – Думаю, па капейчыне якой скінуцца не толькі пуцькаўскія, але й тыя, хто родам адсюль. Колькі маіх вучняў цяпер за мяжой жывуць! Дакладна назбіраем сродкаў на перадвыбарчую праграму! Агітацыю такую зладзім, што таму засланцу шанцаў не будзе! Усе з навакольных вёсак за цябе прагалосяць!

– А як прайграю – не кінуць за краты? – засумняваўся Нырок.

– Цябе?! – ускінуўся настаўнік. – Ветэрана дваццаці войнаў, ардэнаносца, камандзіра танка? Дык тут такая народная хваля паўстане, што й раённыя ўлады паваляцца! Усе за цябе пойдуць.

– Яшчэ будуць аргументы? – спытаў Нырок.

– А як жа ж! – Капаніца дастаў другую “Бону”. – Думаю, тваю згоду варта кацігарычаскі замацаваць.

На тым і вырашылі. Зранку Капаніца са Шпілёнкам занеслі ў мясцовую раду заяву на тое, што ад імя грамадскасці на пасаду старшыні мясцовай рады высоўваецца кандыдатура грамадзяніна Нырка Язэпа Серафімавіча. Пабачыўшы гэтую прапанову, сакратарка сельсавета Груня Баршчэўская спачатку збялела, потым пакрылася гарачым потам і нарэшце прамармытала:

– Толькі праз мой труп! Кандыдатура ўжо зацверджана ў сталіцы!

– Як так? – не зразумеў Капаніца. – Выбараў яшчэ не было, а кандыдатура зацверджана?

– Вы в какой стране жывёце? – залямантавала кабета з азызлым азадкам. – Вы за каго мяне прымаеце? Я вам хто?!

– Слуга народа, – адказаў Шпілёнак. – А народ – гэта мы, я і Капаніца. Так што трымайце заяву і слухайцеся нас. А не – дык гэць адсюль!

Баршчэўская нібы язык праглынула і села, як на цвік.

І з наступнага дня ініцыятыўная кампанія пачала працу. Найперш прыцягнулі кінамеханіка Жэўжыка, каб ён наладзіў кінафестываль "Пуцькава супраць Берліна" – паказ заляжалых стужак пра шпіёнаў, прыгажунь і розных звышгерояў сусвету пад дэвізам "Нырок радзіць". Так і было напісана на афішах. Шпілёнак дадумаўся нават да абанементаў: купляеш квіткі на 10 сеансаў, грошы аддаеш як за 8. Справа пайшла.

Наступным крокам ініцыятыўная група дамаглася публікацыі ў раёнцы пад рубрыкай "Запаветныя сакрэты дзеда Нырка", дзе той з дапамогаю мясцовых зёлак распавядаў пра рэцэпты для кабет сталага ўзросту, як ім адрадзіць сэксуальную цягу. Наклад раёнкі разнеслі за пару гадзін, і незадаволеныя бальзакаўкі нават грукалі ў дзверы рэдакцыі з патрабаваннем дадатковага накладу. Парады Нырка перадрукаваў і паважаны партал TUT.BY. А на сайце "Хартыі" з'явіўся допіс "Дзясяткі тысяч жыхароў Пуцькава паўсталі супраць новапрызначанага старшыні мясцовага савета".

Такім чынам, папулярнасць кандыдата ў мясцовага старшыню рэзка пайшла ўгару. Перад ягонаю хатай нават утварылася чарга з жанчын сталага ўзросту, якія прасілі аб асабістай кансультацыі адносна таго, як ім працягнуць сэксуальную вясну. Нырок быў вымушаны прызначыць асабістага асістэнта. Капаніца пяшчотна адводзіў незапатрабаваных кабетак у закутак за крамай і самастойна кансультаваў. Праўда, надоўга яго не хапіла. Праз які тыдзень ён прыйшоў да кандыдата Нырка і кінуўся ў ногі:

– Дзед, не магу! Здуўся ўжо, як паветраны шар!..

– Але ты ж столькім маладосць вярнуў, спадзяюся, – філасофскі адзначыў Нырок. – Такой трактарнай моцы ў іх, думаю, многіх і не было ніколі. Працягвай. І трымайся. Перадвыбарная кампанія – гэта табе не юшку з'есці. Ідзем да канца, помні! Перамога будзе за намі!

Тут і Шпілёнак выйшаў з ініцыятывай. На бакавым муры вясковае крамы з'явілася графіці невядомага аўтара з выяваю такога ж невядомага полу ды ўзросту. Праўда, подпіс знізу прыносіў нейкія тлумачэнні. Подпіс быў такі: "Нырок лепшы за Пуціна". Подпіс той пратрымаўся менш за суткі, бо назаўтра нейкая брутальная рука зафарбавала імя кандыдата, а таму надпіс чытаўся наўпрост "Лепш за Пуціна". І тады ўжо сам настаўнік зрабіў апошнюю праўку, аднавіўшы імя кандыдата і пакінуўшы слова "лепш".

Карацей, яшчэ за тыдзень да галасавання прастора каля хаты Нырка была падобная на цыганскі стан: мноства людзей, пераважна кабет сталага ўзросту, намёты, плакаты "З Нырком – у будучыню". Сям-там часам прабягалі маладзёны "Белсату" з тэлекамерамі. Гледзячы на ўсё гэта, Еўка доўгі час маўчала. Аднак калі раптам пачула на хвалях "Маяка" рэпартаж з Пуцькава "У Беларусі з'явіўся новы кандыдат у народныя прэзідэнты", не вытрымала. Выйшла на ганак і гэтак катэгарычна агаламшыла ахвочых атрымаць парады сэксуальнай маладосці:

– Вы, кабеткі, супакойцеся! Парады – парадамі, але самі шукайце годнага кабяля. Бо ў майго стан такі, што й камара не вытрымае – долу падзе.

З тым і сышла з ганка на збор ахвяраванняў на перадвыбарчую кампанію.

У дзень галасавання Пуцькава віравала. Напружанне было такое, што са сталіцы прыгналі вялізны “МАЗ” з кратамі на вакенцах, каля якога, цвыркаючы слінай, праходжвалася з пяток дужых маладзёнаў у пагрозлівай вопратцы. Крыся, пабачыўшы іх, прашамкала:

– Ну й панабіралі недаросткаў у войска! Такім у Напалеона адно што каштаны з-пад коняў дазвалялі збіраць.

Ад ранку амаль аднáчасова з пачаткам галасавання ў школьнай зале на ганку ўтварылася чарга вяскоўцаў. І калі там з’явіўся дзед Нырок са сваімі даверанымі асобамі Капаніцам ды Шпілёнкам, людзі пачалі пляскаць у далоні, што надзвычай напружыла пасажыраў “МАЗа”. Але сітуацыю выправіў сам Нырок, які на ганку ўзняў руку, супакоіўшы прысутных, і прамовіў вельмі стрымана:

– Дзякуй усім, хто прыйшоў аддаць свае галасы за тое... за...

– За тое, кабператварыць Пуцькава ў свабодную эканамічную зону! – выратаваў яго Шпілёнак.

У гэты ж момант да школы падкаціў райвыкамаўскі легкавік, з якога выйшаў мажных габарытаў мужчына ў суправаджэнні двух меншых па калібры памагатых. Пуцькаўскія адразу здагадаліся: гэта быў другі прэтэндэнт на кіраўніка мясцовае рады, засланец з вобласці на прозвішча Пятроў. Ягонае з’яўленне выклікала нездаровую рэакцыю. Жук сабраў зграю самых адчайных у вёсцы сабак, і яны зладзілі Пятрову са світай такі брэх, што ў школе палопаліся шыбы. Нават Мінтай, які да апошняга моманту даў сабе абяцанку трымацца нейтралітэту, не вытрымаў. Ён кінуўся да прыбыша і наўпрост пацікавіўся:

– А табе, даражэнькі, што тут трэба? У цябе ж шанцаў – нуль з гарохам!

Мінтая, праўда, міліцыянты лёгка адцерлі ад абласной дэлегацыі. Гэтак жа сама яны заблакавалі ўваход у школу і кандыдата Нырка, на што прысутныя нервова загулі. Улічваючы сітуацыю, Пятрова з атачэннем вывелі з будынка праз чорны ўваход, пасля чаго запусцілі ў залу ахвочых аддаць галасы за кандыдатаў у народныя выбраннікі.

Сам працэс мінуў без эксцэсаў і даволі хутка. Ужо недзе а 16-й гадзіне Баршчэўская аб’явіла, што прагаласавалі ўсе жыхары Пуцькава, хто толькі меў права ўдзельнічаць у выбарах. Мінтай, які запісаўся як нейтральны назіральнік, захацеў прысутнічаць пры падліку галасоў, праціснуўся ў спартовую залу, аднак міліцыянты адвялі яго ў кут, пасадзілі на мат і прыціснулі баскетбольным мячом.

– Адсюль і назірай, – патлумачыў галоўны. – А то будуць праблемы.

Народ ад школьнага ганка не разыходзіўся да таго часу, як пачало змяркацца. Усе чакалі вынікаў галасавання. Узбуджаны Шпілёнак сноўдаў паміж пуцькаўцаў і ўвесь час паўтараў: “Перамога будзе за намі!” Усе яго ўзнёсла падтрымлівалі, разважаючы, якім чынам трэба будзе зладзіць усенародную інаўгурацыю пераможцы. Вучні старшых класаў рабілі стаўкі, паводле якіх Нырок перамагаў Пятрова ў адносінах 1 да 127.

У зале тым часам Баршчэўская падсумавала вынікі і запрасіла да стала Мінтая:

– Прашу падпісаць пратакол пасяджэння падліковай камісіі.

З гэтымі словамі яна падсунула пад нос Мінтаю афіцыйную паперу.

Мінтай нацягнуў на нос акуляры, зірнуў на паперчыну, зняў оптыку, працёр яе крысом яшчэ шлюбнага пінжака, вярнуў акуляры на месца, пасля чаго ўтаропіўся на Баршчэўскую, спытаўшы:

– Чаго?!

– Таго! – адказала кабеціна і нагадала: – Падпісвай! Табе яшчэ ў раённай бальніцы лячыцца. А то месца не будзе.

І тады Мінтай здзейсніў, бадай, самы адважны ўчынак у жыцці, накрэмзаўшы на пратаколе тарашкевіцай: “Ня веру!”

З тым і пайшоў з залы. Спыніўся на ганку, счакаўшы колькі імгненняў, махнуў рукой і загадаў загадчыцы крамы:

– Адчыняй, “Бона” патрэбная!

Ягоныя словы прысутныя ўспрынялі адназначна: раздаліся радасныя воклічы, вяскоўцы зноў нясмела запляскалі ў далоні. Аднак гэта працягвалася нядоўга: на ганку паўстала Баршчэўская.

– Дазвольце аб’явіць вынікі галасавання, – яна падправіла ўзлахмачанае варанячае гняздо на галаве. – Усяго ў населеным пункце Пуцькава зарэгістравана 423 чалавекі, якія маюць права аддаць свае галасы за кандыдатаў. У выбарах прынялі ўдзел 123 чалавекі...

– Колькі? – узвыў Капаніца. – Тут жа ўся вёска была!

– 123 чалавекі, – адрэзала Баршчэўская. – Пратакол паказаць?

– Табе пратакол пад нос сунуць? – наблізіўся да трактарыста старшы з міліцыянтаў. – Ці дручка паспрабуеш?

Настаўнік ткнуў Капаніцу ў бок, і той праглынуў сліну.

– Такім чынам, – працягвала Баршчэўская. – Тры бюлетэні прызнаныя несапраўднымі з-за прысутнасці нецэнзурных выслоўяў. За кандыдата Пятрова аддалі свае галасы 107 выбарцаў. За кандыдата Нырка – 13 чалавек. Гэта значыць, што старшынёй мясцовай рады абраны Пятроў Пётр Пятровіч.

Над Пуцькавам завісла цішыня. Толькі аднекуль з боку крамы прагучаў стогн Мінтая:

– Бона, ты атруціла маю будучыню!

Гэтак жа моўчкі разыходзіліся пуцькаўскія ад школы. Крочылі, не зазіраючы адно аднаму ў вочы, і праз якую гадзіну вёска абрынулася ў такую цішыню, што, здаецца, на гэтым фоне і камяні зруйнаванае сінагогі гучалі куды гучней...

Еўка наліла ў хаце Нырку як мае быць. Сунула яму над нос патэльню з дранікамі і святочнай свойскай кілбасой. Падумаўшы, наліла і сабе, з сумам зірнула на дружка і прамовіла са скрухай:

– І што, табе слава сокала беларускай палітыкі вока муляла? Атрымаў, як мяцёлку ў ср...ку...

Назаўтра вёска прачыналася марудна. Здавалася, жыццё тут амаль скончылася. Толькі недзе бліжэй да поўдня героі праваленых выбараў сабраліся ў наседжаным месцы каля крамы. Бралі “Бону” і прыправы да яе. Паселі на звычайным месцы, моўчкі разлілі напой. І гэтак жа моўчкі, без радасці, выпілі.

– Скаргу буду падаваць, – нарэшце не вытрымаў Шпілёнак. – Адразу ў ААН. Каб вынеслі недавер Баршчэўскай і больш не пускалі ў Польшчу.

– Яна й не ведае, дзе тая Польшча, – махнуў рукой Нырок.

– Павысяць яе, чуе сэрца, – Капаніца пасля ўчарашняй трагедыі не мог паставіць на месца ніжнюю губу. – У раён перакінуць, кіраваць культурай. Там такіх ужо гняздо.

Мужчыны зноў надоўга замаўчалі. Ажно да таго часу, як да іх прыкінуўся Мінтай. У руках ён трымаў пачак запэцканых папер.

– Хлопцы! Гэта сенсацыя! – прамармытаў ён. – Я зараз жа на сайт "Хартыі" напішу. І ў "Савецкую"... як яе клічуць... таксама. Глядзіце, што маю!

Мужчыны, прынюхаўшыся, пачулі моцны водар гною.

Мінтай патлумачыў:

– Пайшоў я, значыць, да фермы па гной для дачнікаў. Капнуў, значыць, віламі, а з-пад іх нейкія паперчыны вываліліся. Узяў адну, бачу – бюлетэні галасавання, ну, што ўчора былі. Чытаю: за Нырка подпіс. Яшчэ адна папера – за Нырка. Яшчэ адна... Ды ўсе тут паперы – за Нырка, во, самі глядзіце!

Мужчыны, асцярожна трымаючы бюлетэні за краі, перакладалі іх і падлічвалі. У суме атрымалася амаль пад 400 галасоў за Нырка.

– Калі ў га...не ўважліва пакорпацца – шмат цікавага можна адшукаць, – падвёў вынік падлікам Капаніца.

– І вось з гэтымі доказамі мы і выйдзем на суд у Гаазе! – залямантаваў Шпілёнак. – Вось жа яскравы доказ маніпулявання ўладай волевыяўленнем грамадзян!

– І навошта з тым у Гаагу ехаць? – кінуўшы ў рот "Прыму", прамармытаў Нырок. – Ім гэтым усім нават і падцерціся не атрымаецца. Ім наогул да нас справы няма. Як там казалі, настаўнік?

– Белэкзіт, – патлумачыў настаўнік. – Прыліў па самыя вушы.

– Вы, мужыкі, чыста як дзеці, – нарэшце даў голас Жук. – Наіўныя, бы каты гарадскія.

Пасля гэтага ён падняў заднюю лапу над адным з бюлетэняў і звонка падвёў вынік выбарчай кампаніі.

– Дык што рабіцьмем? – пацікавіўся Мінтай.

– Пасіўны супраціў, – прамовіў Шпілёнак і разліў рэшткі "Боны". – Маю план.

І назаўтра ўсё Пуцькава, усе платы, сцены хат і нават Ганаровая дошка зіхацелі запэцканымі гноем паперчынамі, на якіх пры некаторым намаганні можна было прачытаць прозвішчы кандыдатаў на пасаду старшыні мясцовага савета. І на іх скрозь насупраць кандыдата Нырка значыліся вялікія плюсы.

Новая ўлада здзіраць бюлетэні сваімі рукамі грэбавала. А праз пэўны час вятры ды дажджы змылі гэты факт гісторыі ў нябыт. А да Ганаровай дошкі прыбудавалі чарговы фрагмент, каб прыляпіць на ім партрэт чарговага Пятрова Пятра Пятровіча...

паэзія

Віка Трэнас



...Не спыніцца час.
І не паскорыцца час...

# Вершы ў рытме хваляў марскіх

* * *

Жыццё тваё спрытна круціцца, як вініл –
адныя і тыя ж сюжэты,
як захады і ўсходы,
як вакол сонца планеты,
паўтараюцца.
Нішто так не мабілізуе, як пачуццё віны:
і нашым і вашым,
і тым і гэтым
усё, што ты робіш,
не падабаецца.
Аднак за ноччу прыходзіць раніца,
прыносіць новае і фартовае.
"Толькі каб
аб трывогу забытую не параніцца", –
думаеш, ставячы новыя трэкі,
і ведаеш –
атрымаецца.

* * *

Калі ты ўпадзеш на самае дно тугі –
адтуль узлятаць вышэй.
Калі развітаўся з блізкім і дарагім –
напаткаеш хутчэй яшчэ
свой лёс выпадкова.
Каб твой імпэт не пагас,
Пегас
дасць на шчасце падкову.
Не спыніцца час.
І не паскорыцца час.

## *ЯК МАМА. ЯК ТАТА*

### *1.*

І сніцца табе, што яна не спіць, трывожыцца,
штохвілю ў акно ўглядаецца, а там – золка,
змрочна, туманна.
Шукае цябе, як у тумане вожыка,
а ты за гарамі-морамі, за акіянам.
І раптам заўважаеш, што хвалі паўночныя
б’юцца аб бераг у такт ейнага сэрца,
і што яна насамрэч – усе твае дзённыя і
ўсяночныя,
і яно ў вас адно на дваіх агульнае б’ецца.
Холадна тут, настыла.
Апранаеш шапачку і пальчаткі,
як мама вучыла.
Гэта яна – усе завяршэнні твае і пачаткі.
Як мама?

### *2.*

Вы разам з татам (табе 32, тата – ужо на пенсіі),
прыдумляеце імя багоўцы,
што заляцела ў кватэру
і засталася
зімаваць на фіялцы.
Кузьмінічна.
Вы разам з татам
глядзіце забаўныя ролікі
з совамі, якія смяюцца,
і з *гаварушчымі папугайчыкамі.*
А калі ты далёка,
вы строіце міны адно аднаму
праз відэа ў скайпе,
каб было весялей.

Яму не трэба казаць мне:
Гэта жыццё, дзетка, будзь асцярожнай.
Я і так усё памятаю.
І пытацца: “Почему не звонишь?”
Я і так
патэлефаную.

* * *

*Мы прячем глаза за шторами век.*
В. Цой

Калі ты замыкаеш душу
на вялізны замок
і закрываеш вочы
павекаў фіранкамі,
каб чорна было табе
і ўваччу і ўвушшу –
не цешся неспадзяванкамі!
Калі б нехта нават і змог
з цёмнага шляху збочыць,
хто ў стане пабачыць цябе і пачуць?
Толькі Бог.

* * *

У той рэдкі момант, калі чутно, як расце трава,
Калі ад будзённых думак свабодная галава,
Калі крыкі чаек на прывакзальных вежах
Нагадваюць пах Балтыйскага мора свежы,
Я трымаю рот на замку, Бог бярэ мяне за руку:
“Сачы, не паказвай шчасця свайго, маўчы!”
– А як забаліць нясцерпна, не варта трываць – крычы! –
дадасць ахоўнік-анёл на маім плячы.

* * *

Ты чытаеш гекзаметры ў рытме хваляў марскіх
гучна, голасна, ледзь не крычыш у сябе ўнутры,
і калі не адмовяць пачуцці, зрок і слых,
ты не здолееш захлынуцца ў сваім віры.
У замкнёнага кола ў нутры схаваны вуглы,
у засмяглай рэчкі ў нутры – бяздонная глыб.

* * *

зноў надзея мая
на найлепшае

на вырашэнне
на ўваскрашэнне
прарасла маладою травой
а ўсяго толькі –
колер юнай лістоты
нованароджанай
сёлета ў модзе

* * *

Ты больш не шукаеш, як перажыць адзіноту.
Ты носіш яе ўнутры, як сасуд,
напоўнены ўспамінамі і пяшчотамі.
І, каб не расплёскаць сваю
самакаштоўнасць,
нідзе
нікому
ніколі
яе не паказваеш.
Нечаканае шчасце
гэтак сама,
як і несуцешны боль,
любіць адно цішыню.

* * *

Калі адчуваеш: нябачная нітка,
што звязвае нас, ледзь-ледзь –
абрываецца,
успомні:
сонечны бераг, непераможная Ніка,
на плечы накінуты плед
і ясная раніца.
Успомні
салёныя хвалі марскія –
аб сілу і гонар іх можна параніцца,
і станеш такім,
бо перамагаюць такія.
Згадай, каб не паддавацца паніцы.
Наш час прарастае
скрозь брудны асфальт,
і напаўняюцца лёгкія цёплым паветрам.
Спеліцца верасень
і ўзмацняецца вера.
Час завяршае гештальт.



Вячаслаў Казакевіч



...Пушкін дзецям казаў, лепш за бацьку не напішаце, а горш – не трэба...

# Па клетках казачнай краіны

***Апавяданне***

Калі мы пасля шматлікіх пераездаў, што стамілі б любога Мяльмота, Чайльд-Гарольда і ўсякіх перакаці-асобаў, пасяліліся, нарэшце, у абшарпанай кватэрцы ў Бяскудніkaве, наш маленькі сын, паверыўшы, пэўна, што мы сталі аселымі, выказаў сваю мару.

– Ты што?! – здзівілася жонка.

Мара сына мела калматую ашчэраную пысу, па-заліхвацку высалаплены барвовы язык і хвост як палена. Марыў ён, каб мы купілі яму вялікага сабаку.

– Хто за ім глядзець будзе?! – усклікнула жонка. – Я не буду, – паспешліва папярэдзіла яна. – Магчыма, тата? – дадала яна з такой інтанацыяй, што зразумела было, на мяне разлічваць не варта.

Засмучаны, сын кінуў даймаць нас упрошваннем, і мы з палёгкай вырашылі, што вялікая мара назаўжды яго пакінула.

*Пераклад з рускай Веры ЛОЙКІ.*

– Ну няхай, – прымірэнча сказаў ён праз тыдзень. – Давайце купім сярэдняга сабаку!

І ўсё пачалося спачатку. Ізноў жонка павучальна загінала пальцы, даказваючы, што сярэдніх памераў сабаку таксама трэба паіць, карміць, выгульваць, а галоўнае, вучыць добрым паводзінам.

– А некаторых, – зрабіла яна паўзу, – саміх яшчэ трэба...

– На ланцугу трымаць, – самакрытычна падказаў я.

Апусціўшы галаву і ні слова не кажучы, сын пакорліва слухаў.

– Ну, хай будзе зусім маленькі сабачка! – ледзь чутна прашаптаў ён, калі жонка вычарпала свае аргументы.

Наўрад ці мы б яго паслухалі, калі б да нас не зайшла знаёмая жонкі з псіхалагічнага факультэта. Паназіраўшы за нашай сямейкай, яна ненавязліва заўважыла, што ў нас надта ўразлівы сын і што сабака яму б не пашкодзіў.

У нядзелю жонка выправілася на Птушыны рынак і купіла хамяка. Пакупку засунулі ў пусты папяровы пакет з-пад малака, які жонка паклала ў скураную сумку. Пакуль яна ехала дадому, хамяк вызваліўся з пакета і падзёр усё нутро сумкі. Дома, як параіла цётка Рая, што жыла на паверх ніжэй і гадавала на балконе куранят, мы пасялілі яго ў шкляным трохлітровым слоіку.

– Вось... – прамовіў я сыну. – Марыш пра велізарнага сабаку, а атрымліваеш малесенькага хамяка. Гэта і ёсць жыццё!

У заакраме я выбраў лёгкую і звонкую драцяную клетку, якая выклікала асацыяцыі з гітарай.

– Для каго? – недаверліва спыталася прадаўшчыца.

– Для хамяка, – засаромеўся я, адчуваючы, што нашмат паважней было б папрасіць клетку калі не для тыгра, дык хоць бы для раскрыленага какаду.

Але прадаўшчыца не выказала ні пагарды, ні здзіўлення.

– Кіньце яму сюды газету! – толькі і сказала яна, працягваючы мне клетку.

“Цікава, чаму хамяк аддае перавагу, – думаў я на зваротным шляху, – “Известиям” ці “Літаратурцы”?

Але падраную на шматкі газету хамяк чытаць не стаў, а вобміг закапаўся ў чорна-белую папяровую гурбу. Клетку паставілі на кухні поруч з буркатлівай лядоўняй.

– Трэба імя яму даць, – спачувальна сказала жонка, гледзячы на рудавата-жоўтую пыску, якая баязліва і чуйна высунулася з газетных літараў.

– Хама Брут, – прапанаваў я.

– Не, – запярэчыў сын. – Васька.

– Чаму Васька? – незадаволена адгукнуўся я.

– Як мой сябар! – патлумачыў сын, які пасябраваў у дзіцячым садку з нейкім Васькам.

Паводле маіх планаў сын павінен быў у нас нарадзіцца, калі я стану прызнанай знакамітасцю. Іначай, здавалася, ён не будзе мяне паважаць. Мы б дасюль жылі без дзяцей, калі б жонка аднойчы не сказала: “Ужо ўсе мае сяброўкі нарадзілі!”

Яшчэ калі яна знемагала ў раддоме, я вырашыў, што размаўляць з немаўлём мы будзем нармальнай чалавечай мовай.

– Ніякіх ням-ням і пі-пі!

Пачаўшы размаўляць з сынам дарослай мовай, мы сталі і абыходзіцца з ім адпаведна. Я зачыняўся ў пакойчыку, які гучна называўся кабінетам, і рыпеў пранізлівым паркетам або раскачваўся ў не менш галасістым фатэлі-качалцы. Жонка апантана акуналася ў "Знамя", у "Новый мир", у Буніна, у Жапрызо, ды хоць бы ў інструкцыю па эксплуатацыі лядоўні. А сыну рытарычна прамаўлялі: "Разумнаму і аднаму не сумна!"

Спінай да нас ён ціха поркаўся са сваімі цацачнымі манаткамі. Калі з'яўляліся шумныя госці з размовамі пра Саюз пісьменнікаў, Розанава, габрэяў, мы заводзілі яго ў мой катушок, давалі талерку з ежай і больш да яго не зазіралі. Калі госці пра яго ўспаміналі, мы з гонарам адказвалі, што ён можа гадзінамі гуляць сам з сабой.

– Падобны на мяне? – ганарліва спытаў я ў сваёй вясковай бабулі.

– Ніколечкі, – адрэзала бязлітасная бабуля. – Ён *гжэчны*, чулы!

З хамяком сын пасябраваў не адразу. Перакладваючы яго са слоіка ў клетку, ён хацеў Ваську пацалаваць, але бяскрыўдны на выгляд звярок так яго хапануў за нос, што ён выпусціў хамяка з рук назад у слоік. "Занясіце назад гэтага хамячышчу!" – горка і пакрыўджана галасіў сын.

Але ўжо праз некалькі дзён, прачнуўшыся, ён найперш бег да клеткі, мяняў у сподачку ваду, нешта патаемна Ваську нашэптваў. Раным-рана ў нядзелю, калі мы з жонкай яшчэ спалі, сын, абхапіўшы калені рукамі і ўткнуўшыся ў іх падбароддзем, заміраў каля клеткі на крэсле, узіраючыся ў телевізар. І хамяк, нібыта дамавік, выбіраўся з газетнай нары і таксама прыслухоўваўся да музыкі і незнаёмых галасоў.

– Як стаць славутым? – спытаўся сын аднойчы.

З энтузіязмам, нібыта спрактыкаваны адмысловец, я пачаў шматслоўна раскрываць гэтую тэму.

– Толькі вершаў не пішы! – падвёў я рысу. – Пушкін дзецям казаў, лепш за бацьку не напішаце, а горш – не трэба!

Здаецца, і Пушкін пабойваўся канкурэнтаў у сваёй сям'і.

– Кім ты вырашыў стаць? – пачалі мы пасля гэтага дапытвацца ў сына.

– Царом, – нечакана адказаў ён.

Прыемна было ўсведамляць, што ў нас незвычайны сын. Абвясціць пра гэта ўсім блізкім і знаёмым перашкаджала толькі моцнае падазрэнне, што яны тое самае думаюць пра сваіх дзяцей.

Незаўважна мы ўсе, вяртаючыся дадому, прывыклі адразу зазіраць на кухню, каб паглядзець, як там жыве хамяк. Нават жонка, якая не любіла хатніх жывёлаў і лічыла хамяка зусім нікчэмным стварэннем, ішла разам з намі. "Васька, – з парога клікаў сын, і, атачыўшы клетку, мы з замілаваннем чакалі, калі хамяк вынырне са сваіх паперак. Неяк раз, калі мы адсутнічалі, ён умудрыўся адчыніць зашчэпленыя драцяныя дзверкі. Пераклікаючыся, нібы ў лесе, шукалі мы яго па ўсёй кватэры і злавілі пад канапай, дзе ён дрыжаў ад страху.

Быў Васька сімпатычны, ахайны, з вострымі, крыху няўцямнымі вочкамі, з чэпкімі, бездакорна чыстымі лапкамі. Удзень яго амаль не было відаць і чуваць. З нары ён выбіраўся пад вечар, сёрбаў са сподачка ваду, закусваў гароднінай і, стаўшы на заднія лапы або падвіснуўшы на кратах, раз'юшана і нястомна браўся іх грызці.

Спачатку мы хваляваліся за захаванне яго зубоў. Але высветлілася, што Васькавы зубы не саступаюць у моцы жалезу.

– Нудзіцца, напэўна... – меркаваў я.

Але жонка наведалася ў навуковую бібліятэку МДУ і тое-сёе пра хамякоў даведалася.

– Ані не нудзіцца, – сказала яна аўтарытэтна. – Проста ён грызун і павінен ўвесь час нешта грызці.

– Можа, ўсё ж купіць яму сябра або сяброўку? – з адмыслова-літаратарскай пагардай да навуковых ведаў прапанаваў я.

Але жонка пераможна адказала, што хамякі – абсалютныя індывідуалісты і за выключэннем перыяду злучкі жывуць паасобку.

Я зірнуў на Ваську з адценнем павагі.

Яго захапленнем былі семкі. Семкі ён любіў, як рэвалюцыйны матрос. Ён хапаў іх у сына проста з рук і спрытна адпраўляў за шчаку, пакуль яна не распухала. Тады хамяк ныраў у сваё логава і разгружаў там шчаку, назапашваючы ці то на зіму, ці то наогул на чорны дзень.

Мы таксама, назіраючы, як паліцы маскоўскіх крамаў ператвараюцца ў дарожкі для боўлінгу, назапашвалі, што маглі. Пад кухонным сталом выпраменьвала супакой высокая кардонная скрыня з пакетамі грэчкі, мукі, бутэлькамі алею.

З вялікімі цяжкасцямі ўціснулі мы сына ў англійскую спецшколу. Школьніку было куплена паліто такіх веліканскіх памераў, што, паводле маіх прагнозаў, яго павінна было хапіць да шлюбу. Старажытная Русь бачылася ў хлапечай фігурцы ў масіўнай абноўцы – крыссё па зямлі, рукавы да падлогі.

Зранку жонка запіхвала першакласніка ў вацінавы *о*хабень, усаджвала, а насамрэч прыхіляла яго да дзіцячага крэсліца ля дзвярэй і, сунуўшы яму ў рукі валёнак і заадно загадаўшы ўзяць з паліцы ключ, імчалася кідаць у сумку сваё дабро. А вярнуўшыся, знаходзіла яго ўсё ў тым жа становішчы, з валёнкам у руках або нерухома застылым перад некранутым ключом. Можа, ён спаў з расплюшчанымі вачыма? Або зачаравана ўяўляў сваю царскую будучыню? Адзін толькі ён ведаў, куды вядзе чорны тунэль цвёрдай халявы, якія зачараваныя дзверы адчыняе звычайны англійскі ключ.

– Пра што ты думаеш? – дапытваўся я, смутна спадзеючыся пачуць нешта такое, пасля чаго перада мной узнімецца даўно згінулы пасялковы гай з растрапаным Жуль Вернам на лаўцы.

У спецшколе ён збіраў двойкі і бурна накрэсленыя скаргі на паводзіны. Замест “птушка” упарта выводзіў “пцюшкя”. Настаўніца назвала яго педагагічна занядбаным дзіцем. Дасведчаныя людзі патлумачылі, што гэта эўфемізм: прасцей кажучы, наш сын недаразвіты. Агаломшаныя, мы з жонкай прыгадалі, што выхавацелька ў дзіцячым садку таксама паўтарала, што ў нас нестандартнае дзіця. Можа, гэта і быў эўфемізм, толькі з дзіцячага садку? А мы ж успрымалі яе словы як пахвалу!

Пасля ўрокаў сын, уладкаваўшыся на падлозе, размалёўваў аркуш ватмана. Хамяк, абгрызаючы краты, старанна сачыў за тым, як на паперы з’яўляюцца зарослыя зялёным алоўкам палі, карычневыя горы, гарады за зубчастымі сценамі.

Нясмела прыходзілі дваровыя сябры сына, імёны якіх я ніяк не мог запомніць, і сумесна з ім адасабляліся на кухні над ватманам. Пад гарачы шэпт і прыглушаныя ўскрыкі яны па чарзе кідалі непрыкметны кубік і, перасоўваючыся па клетках, ператвараліся то ва ўладальнікаў каралеўскага замка, то ў бандытаў у прытоне, то ў лясных нявольнікаў.

– Пра што вы размаўляеце? – часам пытаўся я ў сына.

– Ні пра што, – вычарпальна адказваў ён.

– А пра нас з мамай што твае сябры кажуць? – не супакойваўся я.

– Нічога! – з падазрэннем глядзеў ён.

– Ды я не маю на ўвазе нешта дрэннае, – тлумачыў я. – Пытаюцца, напрыклад, хто я такі, што раблю?

– Кажуць, што ты тоўсты.

Моцна былі зачынены дзверы туды, дзе тузаўся па кратах хамяк і скрозь казачную краіну прабіраліся дзеці.

У двары яны звычайна прападалі на закінутай спортпляцоўцы, падпальваючы смецце, і з асалодай глядзелі на густыя вывяржэнні смуроднага дыму і траскучую страляніну шыфера.

– Зноў смецце палілі! – засмучалася жонка, сустракаючы сына з абпаленымі вейкамі і з валасамі, ад якіх патыхала пякучым дымам.

– Я далёка ад вогнішча стаяў, – запэўніваў ён, размазваючы па твары сажу.

Са спагадай глядзеў я на сына. Хіба такое дзяцінства было ў мяне?

З англійскай школы мы яго забралі. Завуч сказала, што ён няздатны да замежных моваў. Ён перайшоў у звычайную школу, на ганку якой самавіта палілі старшакласнікі. Педагогі перасталі выклікаць нас для вымоваў. У новай школе, напэўна, ніякім пцюшкям не дзівіліся.

Мноства людзей з’язджала з Расіі. Але чым больш іх было, тым больш упарта хацелася цаніць радзіму, нават калі знаходзішся ў Бяскуднікаве. І жонка пагаджалася са мной і шкадавала калегаў, што надоўга з’язджалі ў замежныя камандзіроўкі: кожны з іх звозіў культурную аўру, якая атачае інтэлігентнага чалавека.

– Як можна пакідаць сваю краіну, калі ёй цяжка?! – гарачыўся я ў пісьменніцкім рэстаране.

І застольныя слухачы згодна трэслі барадамі, а некаторыя нават абляплялі барадамі мой твар і цалавалі мяне.

Іншым разам, каб не сумна было вяртацца дадому аднаму, я клікаў з сабой усю кампанію. Сям’ю не будзіў, але з адным дамачадцам гасцей знаёміў.

– Васька! – выграбаў я з клеткі хамяка, які ўпіраўся, і распавядаў пра тое, як аднойчы наш сын захацеў вялікага сабаку, потым сярэдняга, потым маленькага.

– І я сказаў яму, – натхнёна вяшчаў я, – каб атрымаць хамяка, трэба марыць як мінімум пра сабаку Баскервіляў.

Пасля адной такой ночы я прачнуўся позна. Жонкі і сына ўжо не было. Летні вецер праз адчыненыя балконныя дзверы надзімаў і ўзнімаў фіранкі. Ад пісьменнікаў, як звычайна, засталіся толькі смуродныя недапалкі і пустыя пляшкі.

Клетка на кухні аказалася адчыненай. “Ізноў Васька збег!” – падумаў я, паморшчыўся і з філіжанкай кавы ў руцэ адправіўся па пакоях.

– Васька! – лаючыся, заглядваў я пад канапу і адчуваў, што галава зараз расколецца.

Але ўцекача нідзе не было. Замест раздражнення прыйшла занепакоенасць. Я распачаў пошукі зноў, чыркаў шыплівымі запалкамі пад ваннай, заглядаў за ўнітаз, здымаў кнігі з ніжніх паліц стэлажоў, выходзіў на пляцоўку.

– Хамяк прапаў! – патэлефанаваў я жонцы.

– Ды ты што?! – ахнула яна.

Сын прыйшоў разам з ёй ужо з вільготнымі вачыма. З надзеяй ён паглядзеў на мяне, і я бездапаможна развёў рукамі.

– Гэта ты яго ноччу вымаў, а пасля не зачыніў! – заплакаў ён.

– Васька і сам мог клетку адчыніць, – пачаў я апраўдвацца.

– Ты... – несуцешна паўтараў сын.

– Давайце шукаць! – сказала жонка. – Недзе ж ён павінен быць?

І сумесна, з нечаканаю вераю, што Васька абавязкова знойдзецца, мы зноў узяліся збіраць пыл пад мэбляй, залазілі ў сцянную шафу, расштурхоўвалі на балконе грымлівыя скрынкі са шклотарай, правяралі кабінку ліфта, лесвіцу, пад'езд.

І нараніцу, не змаўляючыся, з патаемнай надзеяй адразу зазірнулі на кухню. Але нічога там не змянілася. На апусцелую клетку з убогім папяровым насыпам, з перасохлым сподкам і жменькай семак горка было глядзець.

Хутчэй за ўсё, вызваліўшыся са сваёй вязніцы, Васька выслізнуў за парог і неяк здолеў выбрацца з дому.

– Што цяпер рабіць? –хліпаў сын.

– Ды ты радавацца павінен! – патэтычна ўсклікнуў я.

Ад неўразумення ён нават падняў апухлы ад слёз твар.

– Думаеш, Ваську добра ў нас было? Ён бы тады не грыз клетку ўдзень і ўначы... А цяпер ён на волі!

І натхнёна і палымяна я ўзяўся распісваць, як Васька спрытна, перабежкамі пераадолеў двор, праскочыў міма дворнічыхі, што паднімае венікам шум і галубоў, міма смеццевых бакаў і накіраваўся да акружной дарогі.

– А машыны? Каты з сабакамі? – хваляваўся сын.

– Дык гэта ж звер! – узбуджана пераконваў я. – У яго інстынкт самазахавання! Удзень у лісце закапаецца, уначы – наперад. І зубы ў яго – памятаеш? – любая псіна адскочыць. А за акружной дарогай сапраўдная дзікая прырода. Вось дзе для Ваські рай і раскоша!

Я столькі разоў, з такімі маляўнічымі падрабязнасцямі расказваў гэтую гісторыю, што пераканаў у яе праўдападобнасці не толькі сына і жонку, але і самога сябе.

А праз пару месяцаў, калі я выйшаў на балкон папаліць і кінуў позірк на балкон пад намі, на якім кураняты ўжо не гаманілі, – цётка Рая са сваім прыплодам з'ехала на лецішча – мае вочы выпадкова натыркнуліся на зморшчаны буры камячок, у якім я ўзрушана пазнаў няшчаснага мёртвага Ваську.

Праз паўгода мы адляцелі ў Японію.

Прыбраны ў форменныя сінія шорты і круглы смешны капялюш на гумцы, сын пайшоў у японскую школу, схаваную за рассоўнай жалезнай брамай. Пасля ўрокаў ездзіў на курсы японскай мовы.

Уначы я па нешта зайшоў у яго спальню, і раптам у сне ён хутка-хутка загаварыў на чужой мове. Я пахаладзеў. Страх і агіда абдалі сэрца, нібыта я выпадкова даведаўся, што наш русявы, сінявокі сын насамрэч іншапланецянін.

У школе яго хвалілі. Асцярожна заўважалі толькі, што ў яго не японская эмацыйнасць. “Будзь стрыманым”, – такі дэвіз іерогліфамі накрэслілі яму на памятным фотаздымку.

Са словамі “Вымятайся ў сваю Расію!” нехта са школьнікаў, што праходзілі міма, плюнуў яму на чаравік. Дома ён кожную вольную хвіліну стаў адціскацца ад падлогі. З жалем я думаў, што сам бы імгненна кінуўся ў бойку. “Пайду да сваіх звяркоў”, – з робленай бадзёрасцю казаў ён штораніцы, падсвядома стараючыся, напэўна, ставіцца да крыўдзіцеляў, як да нечага забаўнага. Хутка ён прапанаваў класу паспаборнічаць у армрэслінгу і перамог усіх хлопцаў. Сын аказаўся разумнейшым за мяне. Больш крыўдзіць яго не рызыкавалі. Але таварышы ў яго з’явіліся толькі пасля школы.

– Усе мы тут габрэі, – задуменна сказаў ён аднойчы.

Падлеткам сын не асабліва нас мучыў, але амаль кожная нашая сварка канчалася тым, што ён крычаў: “Навошта вы мяне сюды, як чамадан, прывезлі? З’еду ад вас у Маскву!”

– Давай! – балюча закрануты яго словамі адказваў я, не звяртаючы ўвагі на ўмольныя мігі жонкі. – Так цябе там і чакаюць!

Паступіўшы ва ўніверсітэт, сярод выпускнікоў якога было некалькі прэм’ер-міністраў Японіі, ён з’ехаў ад нас у Токіа. Уступнае эсэ напісаў на трох мовах. Але яшчэ і студэнтам, раззлаваўшыся чарговым разам на японскія парадкі, са злосці выкрыкваў па тэлефоне:

– Пасля ўніверсітэта адразу ў Маскву!

– Правільна! – падтрымліваў я. –Там цябе адразу або ў армію, або на нары... Як шпіёна японскага!

Бачыліся мы рэдка. На канікулах ён сядзеў з аднакурснікамі ў сваім такійскім катушку, распрацоўваючы грандыёзныя дзелавыя праекты.

– Зараблю грошай, куплю кавалачак зямлі, – вырвалася неяк у яго, – лягу на яе і скажу: “Мая зямля!”

– А я да цябе брамнікам пайду, – падхапіў я, хаваючы за жартам таемны смутак па выраслым сыне, які ўсё далей адыходзіць ад нас.

Скончыўшы ўніверсітэт, ён яшчэ два гады вучыўся ў бізнэс-школе. Неяк з беглай усмешкай сказаў нам:

– Ведаеце, як мяне японцы называюць?

– Ну? – пераглянуліся мы.

– Mister Ice.

Ён працуе цяпер у вялікай кампаніі, размешчанай у цэнтры Токіа ў двух хмарачосах, і амаль кожны дзень заседжваецца дапазна. З яго месца за перагародкай шырокі від на бясконцы горад, на імператарскі палац, што ляжыць пад бокам, аточаны зялёнай плямай парку, па дарожках якога зрэдку выязджаюць белых коней, цугам запрэжаных у пустую карэту.

Мы ніколі не сказалі яму, што здарылася з хамяком. Ён, напэўна, дагэтуль думае, што Васька не загінуў, не ператварыўся ў ссохлы маленькі камячок, а выбраўся на вуліцу, пераадолеў страшную акружную дарогу і з таго дня, толькі іншы раз мройліва прыгадваючы былую клетку, шчасліва зажыў на волі ў прапахлай сонцам высокай траве.

Алесь Емяльянаў-Шыловіч



...мове твайго цела
пераклад не патрэбны...

# Дзверы ў літаратуру

### *ЧАС*

ты знаеш
з намі штось не так
змяніўся час
а можа мы яго змянілі
так ці інакш
ён нас не пазнае
і нават для прыліку
не зірне ў наш бок
але ж мы не адны
і гэта цешыць
час ад часу
спрабуе збегчы
таксама й мы з
тымчасам
дрэвы голыя стаяць

ды ўсё не так як летась
няма бярозкі побач з домам
яе нядаўна ссеклі
худую і маленькую дзяўчынку
ні зморшчынкі ні шнары
на яе цнатлівым целе
адно кармушка для птушак
цяпер зламалася
сінічкі прылятаюць на вакно
і дзюбкамі дзяўбуць
скрылёк старога сала на цвіку
прыбітым толькі што
сінічкі ў нас гасцююць
і адбіраюць час
як добра любая дачушка
што ты яго не ведаеш
але ж я не забуду
як аднойчы
з ім пазнаёміла мяне

* * *

наўрад ці такую гарбату
калісьці піў Фучай —
кітайскі імператар
гарбата ў нас звычайная
як кажа сваяк
— пыл грузінскіх дарог
я не маю ў падданых
ні Сі Шы ні Джэнь Дань[1]
уся мая імперыя змяшчаецца ў 37,5 $м^2$
затое я магу штодня
любавацца дзвюма прыгажунямі
якіх завуць Нас Ця і Лі На

* * *

калі на дварэ ноч і зіма
я запальваю святло
якое ты гасіш калі прыходзіш
і гэта правільна
бо я рызыкую аслепнуць
ад бясконцага святла тваёй мілосці

---

[1] Дзве красуні старажытнага Кітая, якія зрабіліся ўзорам прыгажосці ў літаратуры і мастацтве.

## *ПЕРАКЛАД*

я наўрад ці змагу прачытаць
*sous le pont Mirabeau*[1]
*sonetos del amor oscuro*[2]
альбо *meine genesung*[3]
бо не знаю французскай
гішпанскай
нямецкай
але дастаткова таго
што я ведаю
(прынамсі мне як пачаткоўцу падаецца)
мову
якой гавораць ружовыя півоні тваіх вуснаў
поўныя жадання вочы
і рукі — гнуткія галінкі вярбы
мове твайго цела
пераклад не патрэбны

## *АКУПУНКТУРА*

на целе тваім застануцца
дробныя сляды
ад акупунктуры травы

## *ДРАЖНЯ*

тралейбус ідзе на дражню
не падумай што дзеля рыфмы
але сонца жарыць і дражніць
я ляжу на сядзенні вачыма ўпіваюся ў неба
і не мяркую знайсці там нікога
ані бога ані тым болей феба
я сапраўды тралейбус
што знае шлях ад кальца да кальца
канец не заўсёды пачатак,
але пачатак нібы Ураборас
няўхільна паўзе да канца
электрычнасць цячэ праз мяне
салон мой з гэтага блажыць
дражня канцавы прыпынак мой
дражня

---

[1] Пад мостам Мірабо — пачатак верша Гіёма Апалінэра “Мост Мірабо”.
[2] Санеты цёмнай любові — паэтычны цыкл Федэрыка Гарсія Лоркі.
[3] Маё акрыянне — верш нямецкага паэта Фрыдрыха Гёльдэрліна.

* * *

калі змоўкнуць бразготкі лозунгаў
рыфма перастане вадзіць па пустэльні
строфіка скруціць сабе галаву
алітэрацыя растане ў паветры
і толькі артэрыя рытму
нястомна будзе пульсаваць у жылах радка
ад верша застанецца верш

### ДРЭВА

я дрэва
ты скура мая —
лісце маё
атуляеш мяне
ад дажджоў нянавісці
ветру пустых размоваў
пякучага сонца зайздрасці
трапечаш нутром
дрыжыш нада мною
абараняеш мае карані
ад холаду
адзіная перашкода
нашай любові —
дворнікі

### ДЗВЕРЫ Ў ЛІТАРАТУРУ

чамусьці ў літаратурных музеях
заўсёды цяжкія дзверы
відаць для таго каб паказаць
што ўвайсці ў літаратуру нялёгка
а музы і муміі класікаў
пад надзейнаю аховай
тых самых дубовых шкляных
альбо металічных створак
але гэта мана
муз тут няма
літаратуры таксама
бадай што няма анічога
апроч мумій
і тоўстых цяжкіх дзвярэй

## АПОШНІ ВЕРШ

ніколі
ніколі не пачынай верш з гэтага слова
нават калі верш апошні
у кожнага паэта бываюць такія імгненні
калі ён наіўна мяркуе што больш нічога не напіша
я сам так думаў не аднойчы
але дзякуй богу не даўмеўся нікому пра гэта сказаць
адзін ужо напісаў развітальны зборнік
які так і называўся апошнія вершы
а пасля праз тузін гадоў выдаў кніжку чаго б вы падумалі
ну канечне ж вершаў!
потым яшчэ
і яшчэ
другі сказаў што
пасля сарака паэт не паэт
але вось ужо дваццаць гадоў друкуе свае паслясаракі
паэты бываюць смелымі і баязлівымі
беднымі і беспрацоўнымі
сумнымі і саплівымі
п’янымі і вельмі п’янымі
мудрымі і дурнымі
але какецтва не робіць паэта паэтам
паэт не гаворыць пра гэта
і не ведае які верш будзе апошнім

* * *

калі ты сядзіш у чаўне маіх рук
я адчуваю як б’ецца
тваё хуткае роднае сэрца
я заўсёды адчуваю цябе
нібыта нас лучыць нябачная пупавіна
адчуваю калі ты плачаш
усміхаешся
засынаеш
і прачынаешся
маўчыш ці спяваеш
адчуваю
як матуля твая адчувала цябе
калі была з табой адным целам
дачушка

Алесь Гібок-Гібкоўскі



...ох ужо гэтая містыка жыцця, слёз, кахання,
якую так бліскуча апісалі класікі літаратуры!..

# Лідачка

***Апавяданне***

“Лідачка... Марына... Тамара... Ларыса...” Жаночыя імёны, як назойлівыя пчолы, настойліва ўсплываюць у куточках памяці Сяргея Андрэевіча, і кожная з іх нібы імкнецца ўджаліць, хоць і соладка, але адначасна і востра балюча... Самым патаемным і дарагім з усіх для яго быў куточак, дзе назаўсёды застаўся вобраз Лідачкі – першага кахання, мілай дзяўчынкі-смугляначкі з такіх далёкіх ужо шасцідзясятых...

Сяргей Андрэевіч стомлена зірнуў на гадзіннік. Ён паказваў за другую гадзіну ночы, і нават ягоны “час савы” падыходзіў да канца – трэба было класціся спаць. Цела настойліва ныла стомаю сёмага дзясятку гадкоў жыцця і рашуча патрабавала гарызантальнага становішча. Жонка ўжо даўно спала, неспакойна пераварочваючыся з боку на бок, – відаць, снілася нешта нядобрае.

Трэба было толькі выключыць ноўтбук, за якім ён працаваў цэлы дзень, зайсці ў ванны пакой, і затым упасці ў чысты, з водарам зімовай свежасці бялізны, ложак. Але ўставаць з-за стала зусім не хацелася. Думкі зноў і зноў вярталі ў далёкае мінулае, узнаўляючы надзіва выразныя яго малюнкі, наперабой прапануючы занатаваць сябе...

## I

Першае каханне напаткала Сяргея Андрэевіча, калі яму яшчэ не споўнілася і 14 гадоў. Яно было тым пачуццём, якое сваім чыстым павевам адкрывала свет сапраўднага дарослага жыцця. Яго ніколі не забудзеш, а калі і забудзеш на нейкі час, то рана ці позна яно само пра сябе нагадае. Часам вельмі і вельмі нечакана і ў зусім непрыдатным нават для думак пра яго месцы... Як гэта і здарылася ў жыцці Сяргея Андрэевіча...

Тое першае каханне было ў піянерскім лагеры, дарэчы, першым і адзіным для Сяргея Андрэевіча, тады проста Сяргейкі. Трэба сказаць, што згаданы лагер зваліўся яму як снег на галаву. У далёкія часы дзяцінства Сяргея Андрэевіча вясковая дзятва, адрозна ад гарадской, у піянерскія лагеры не ездзіла. Па-першае, яе ніхто туды і не накіроўваў, а па-другое, улетку для юных вяскоўцаў заўсёды хапала архіважнай для іхніх сем'яў працы. Тую працу ніяк нельга было ні аб'ехаць, ні абысці. Штодня трэба было нешта паліваць і палоць на агародзе, пасвіць скаціну і рабіць безліч іншай неабходнай для вяскоўцаў працы...

Але акурат у той памятны для Сяргея Андрэевіча год некаму з кіруючых бонзаў Краіны Саветаў раптам цюкнула ў галаву, што ў такім вось стане рэчаў, калі гарадская дзятва штогод адпачывае ў "Артэках", а вясковая тым жа часам набівае мазалі, праглядаецца відавочная дыскрымінацыя. Такі парадак яўна не адпавядаў самаму справядліваму ў свеце грамадскаму ладу. Выяўленую несправядлівасць акурат тым летам вырашана было паправіць. І зверху пайшла строгая дырэктыва на месцы – тэрмінова стварыць у кожным раёне піянерлагер для вясковай дзятвы.

Сяргейка, і блізка не падазраючы пра тыя тэктанічныя зрухі, якія адбываліся ў найвышэйшых эшалонах савецкай улады, мірна заканчваў у тым годзе шосты клас васьмігодкі, што месцілася ў суседняй вёсцы. І згаданыя вышэй "зрухі", бадай што, абмінулі б хлопца, каб ён нічым сярод сваіх аднагодкаў не вылучаўся. Але Сяргейка якраз вылучаўся. У вёсцы ўсе ведалі, што ён да сваіх трынаццаці гадкоў прачытаў ледзь не ўсе кнігі мясцовай бібліятэкі. І ў школе Сяргейка не меў сабе роўных па паспяховасці.

"Адстраляўшыся" і тым летам ізноў на круглага выдатніка, Сяргейка другі год запар атрымаў „пахвальную грамату". Такія граматы заўсёды толькі ўшаноўвалі, да іх рэдка дадавалася што-небудзь матэрыяльнае. У лепшым выпадку выдатніку дарылі якую-небудзь патрыятычную кнігу. Але тым разам усё здарылася інакш...

## II

У тым годзе, як і заўсёды, Сяргейку чакалі чарговыя трохмесячныя летнія вакацыі. Наперадзе былі нешматлікія забавы накшталт веласіпеда і нырцоў ды заплываў на невялікім мясцовым азярцы з не самай арыгіналь-

най назвай “Азярыска”. Чакала, зразумела, і цэлая плойма ўсялякіх персанальных Сяргейкавых гаспадарчых справаў. Першымі ў тым спісе стаялі традыцыйная пасьба козаў і нарыхтоўка корму для трусоў. Каб запатоліць іх невымерны апетыт, штодзённа трэба было нарваць цалюткі мех травы. Шчыра кажучы, справа гэтая была зусім няпростай, бо месцаў, дзе расла добрая трава, вакол іхняга дома было няшмат. Сяргейка выкручваўся парознаму. Адзін са спосабаў быў даволі плённым, але і самым небяспечным, – нарваць на калгасным полі, дзе трава заўсёды была спакуслівa шыкоўнай. Сяргейка, як запраўскі партызан, што надумаў падарваць варожую чыгунку, з мехам у руцэ падпаўзаў да поля і спачатку ўважліва азіраўся навокал. Трэба было падстрахавацца ад калгаснага начальства, якое, ведаючы схільнасць калгаснікаў да экспрапрыяцыі грамадскай уласнасці, часта аб’язджала свае ўладанні! Затым, ізноў жа рухаючыся паўзком, ірваў тую траву ў мех і такім жа чынам цягнуў сваю здабычу дахаты, праклінаючы на чым свет стаіць няшчасных трусоў.

У “абавязковай” Сяргейкавай працоўнай праграме на летнія вакацыі стаяла таксама яшчэ адна ёмкая задача: да пачатку новага навучальнага года ператварыць Эверэст распілаваных дроваў, што ўзвышаўся на падворку, у Манблан паколатых. Але ўсё гэта былі толькі кветачкі...

У летнія месяцы Сяргейку чакала і штогадовая, самая цяжкая і непрыемная праца, якую дзеці пра сябе дружна называлі “катаргай”. Гэта была вялізная (прынамсі, так здавалася Сяргейку) плантацыя цукровых буракоў, якую калгас штогод выдзяляў на кожную сядзібу. Тую дзялянку трэба было разам з маці і малым брацікам давесці да ладу – зарослыя пустазеллем даўжэзныя рады прапалоць і прарэдзіць, ці, як пісалі тады ў калгасных паперах, “произвести прорывку”.

Сяргей з сумам чакаў пачатку чарговай бураковай эпапеі, якая на некалькі тыдняў рабіла яго сапраўдным прыгонным, і нават падазраваць не мог, што тым годам зрабіць свой важкі ўнёсак у архіважную дзяржаўную справу вытворчасці цукру ў СССР яму не давядзецца!..

## III

Апрача сваіх прызнаных у вёсцы інтэлектуальных здольнасцяў Сяргейка меў нядрэнны голас і пэўныя артыстычныя здольнасці. З гэтай прычыны загадчыца клуба, а па сумяшчальніцтву і бібліятэкарка, Паўліна Іванаўна тым летам рашуча мабілізавала яго ў калгасную мастацкую самадзейнасць. Шчыра кажучы, хлопец не вельмі рваўся на сцэну – як вялікую, так і малую, – больш за тое, ён нават пабойваўся яе. Але адмовіць Паўліне Іванаўне, якая была захавальніцай сакральных для Сяргейкі скарбаў – кніг, было проста немагчыма!..

І вось, акурат на другі дзень па завяршэнні навучальнага года, Паўліна Іванаўна аб’явіла татальны збор мясцовых артыстаў. Назаўтра вясковая творчая каманда мусіла даць паводле культурнага абмену вялікі канцэрт у суседнім калгасе.

Сяргейка атрымаў ад Паўліны Іванаўны разнарадку ажно на дзве песні. Адна з іх была сольнай – пра горад “над вольной Невой”, то бок Ленінград, якая кіраўніцы чамусьці страшэнна падабалася, хоць родам яна была не з Піцера, а з невялікай украінскай Жмерынкі. Другую песню пра юнага барабаншчыка з мабілізуючым працоўныя калгасныя масы пачаткам – “Вста-

нь пораньше, встань порньше, встань пораньше!..” трэба было выконваць дуэтам. Напарнікам Сяргейкі быў аднагодак Вовік, якога, каб адрозніць ад яшчэ трох вясковых Вовікаў, звалі Вовік Альбінаў па імені ягонага бацькі. Паколькі ў Вовіка, які і ў Сяргейкі, быў прыгожы высокі галасок, амаль што а ля Раберціна Ларэці, то Паўліна Іванаўна моцна разлічвала на поспех наваствораната дуэта.

У дзень канцэрта і насамрэч давялося ўстаць “пораньше” – Сяргейку разбудзіў бацька і строга нагадаў, што, не зважаючы на сынавы грандыёзныя творчыя планы, задачу накарміць трусоў з яго ніхто не здымаў. Сяргейка, зразумела, абавязак той урэшце выканаў, але з гэтай нагоды не даспаў і быў цэлы дзень не ў гуморы. Да таго ж перад канцэртам ён вельмі хваляваўся і на рэпетыцыі, як пракаментавала Паўліна Іванаўна, ніяк не мог “злавіць сцэнічны голас”. Зрэшты, у той дзень голас “не лавіўся” чамусьці ледзь не ва ўсёй іхняй артыстычнай “труппы”. Адчуўшы непапраўна глыбокі эмацыйны і духоўны спад у сваёй творчай камандзе, Паўліна Іванаўна перад самым выхадам на сцэну наліла ўсім удзельнікам канцэрта (без выняткаў на ўзрост!) па сто “франтавых” грамаў добрай вясковай самагонкі. Дзякуючы такой радыкальнай меры, галасы ва ўсіх, у тым ліку і ў Сяргейкі, адразу ж “злавіліся”. І абодва ягоныя выхады на сцэну – як дуэтам, так і сольны – прайшлі на “біс” перапоўненага клуба. Асабліва спадабаўся публіцы ягоны “Город над вольной Невой”. Сяргейка тады, мо ўпершыню ў жыцці, адчуў смак славы і, шчыра кажучы, смак той падаўся даволі прыемным!..

Але гэта, як аказалася, быў толькі першы сюрпрыз таго вечара – галоўны чакаў Сяргейку наперадзе. Па завяршэнні канцэрта слова нечакана папрасіў Сяргейкавай школы. Слова тое было даволі важкім: Мікалай Усцінавіч, так звалі дырэктара, выкарыстаўшы міжкалгаснае свята як нагоду, павіншаваў гледачоў і артыстаў з завяршэннем навучальнага года і раптам нечакана для Сяргейкі гучна, на ўвесь зал, назваў ягонае прозвішча і запрасіў на сцэну. Потым дырэктар давёў да ўсіх прысутных, што гэты “малады чалавек” – адзіны выдатнік ягонай школы – узнагароджваецца традыцыйнай “пахвальнай граматай”. Сяргейка ўзяў з рук дырэктара тую грамату і ўжо хацеў было шмыгнуць са сцэны, але дырэктар рашуча затрымаў яго, зрабіў працяглую паўзу, амаль такую, якую робяць знакамітыя майстры сцэны падчас спектакляў. Зала прыціхла ў чаканні сюрпрызу. Паўза зацягвалася, бо было відавочна, што дырэктар відавочна нешта смакаваў.

Сяргейка пакутліва стаяў на сцэне, пераступаючы з нагі на нагу, ніяк не ацэньваючы высокае сцэнічнае майстэрства дэрэктара, бо ад хвалявання і выпітага кілішку самагонкі яму раптам вельмі захацелася да ветру. Але ўрэшце дырэктар спыніў тое “катаванне” і ўрачыстым голасам паведаміў прысутным, што ў яго для Сяргейкі ёсць яшчэ адна навіна. І пад бурныя авацыі перапоўненага мясцовага, традыцыйна не дужа цвярозага, клуба ўрачыста ўручыў Сяргейку пуцёўку ў піянерлагер. Для вёскі гэта і насамрэч была сенсацыя! Такога тут дагэтуль не было, каб некага ўзнагароджвалі пуцёўкай на адпачынак. Агаломшаны, Сяргейка ніяк не мог зарыентавацца – радавацца яму ці засмучацца, бо дырэктар тут жа на сцэне паведаміў, што ў гэты самы лагер хлопцу належала адбыць ужо праз пару дзён.

## IV

Што гэта была за такая халера – піянерскі лагер, Сяргейка ведаў дасюль толькі па кніжках і па чутках. Прычым самое гэта слова яму чамусьці не вельмі падабалася. Чаму – ён зразумеў значна пазней, калі, стаўшы ўжо дарослым, прачытаў шмат новых кніжак...

І тым не менш праз пару дзён раніцою Сяргейка з маці ўжо трэсліся ў рыпучым і страшэнна пыльным прыгарадным аўтобусе да раённага цэнтра. Для піянерлагера было выбрана адно з самых маляўнічых месцаў іхняга раёна – пасёлак на беразе возера, да якога ад райцэнтра трэба было дабірацца яшчэ некалькі дзясяткаў кіламетраў.

На вакзале райцэнтра будучых “лагернікаў”, якіх сабралі з усяго раёна, ужо чакаў адмыслова прысланы аўтобус, які хутка даставіў іх да месца прызначэння. Першае Сяргейкава ўражанне ад “лагера”, нягледзячы на зіхоткую шыльду над галоўным уваходам – “Рэспубліка Сонца”, было даволі змрочным. “Рэспубліка” аказалася прыстасаванай пад лагер мясцовай сярэдняй школай. А школа, хоць яна і стаяла непадалёку ад возера, яна і ёсць школа – тыя ж калідоры і класы, што і так намылілі вочы за навучальны год. Зрэшты, першае ўражанне даволі хутка развеялася, калі з’ехаліся ўсе будучыя калегі-“лагернікі”. Сяргейка адразу ўцяміў, што сабралі тут не абы-каго. Па-першае, усе былі выдатнікамі, а, значыць, найбольш здольнымі і арганізаванымі, а па-другое, народ аказаўся вясёлым і дасціпным. І не дзіва, бо ў той першы ў гісторыі раёна піянерлагер для вясковай дзятвы і насамрэч сабралі лепшых...

Сяргейка нечакана для сябе даволі лёгка сышоўся з “аднапалатнікамі”, то бок з тымі, каго разам з ім засялілі ў “палату” – так, чамусьці на бальнічны манер, называўся былы школьны клас, пераабсталяваны пад лагерную спальню. А калі потым падчас збору атрада абмяркоўвалася кандыдатура на пасаду старшыні Савета піянерскай дружыны лагера (па мясцовай тэрміналогіі – камандзір “Рэспублікі Сонца”), – ён не меў канкурэнтаў.

Непасрэдна камандзір “Рэспублікі” выбіраўся зусім не тыпова для тых часоў – цалкам дэмакратычна – ажно з трох кандыдатаў. На фінішы правялі нешта накшталт “конкурсу капітанаў”, як у Клубе вясёлых і знаходлівых, і Сяргейка са сваёй эрудыцыяй апынуўся на галаву вышэй за сваіх канкурэнтаў – Казіка і Пятра, прадстаўнікоў першага і трэцяга атрадаў. Мусіць, не дарэмна цягаў ён не адзін год дахаты звязкі кніг з вясковай бібліятэкі і чытаў іх днямі і начамі...

## V

Дзяўчынку-смугляначку Лідачку (у яе нават прозвішча было сугучным яе смуглявасці – Смурага) – яго будучае каханне – пасялілі ў суседняй, дзявочай, палаце пад нумарам “7”.

Лідачка была чароўнай прыгажунькай з чорнымі валасамі і цёмнымі, як ноч, вочкамі. Тыя яе вочкі былі заўважаны Сяргейкам адразу – і яго сэрца ў той жа момант зусім банальна затрапятала, разгублена збіваючыся са свайго звыклага рытму, у нейкім асаблівым, яшчэ зусім новым, незнаёмым прадчуванні.

Хто ведае, можа таму праз шмат гадоў ва ўласнай кнізе вершаў Сяргея Андрэевіча, які разам з Аркадзем стаў яшчэ адным вядомым паэтам з той

іх лагернай змены, ці не найлепшым быў твор, дзе сцвярджалася, што "прадчуванне мацней за каханне!" У тыя далёкія гады юнацтва Сяргейка яшчэ шмат чаго не разумеў, але адчуваў, што з таго імгнення, калі ўбачыў мілы тварык Лідачкі і яе чорныя вочкі, ён нібы пераступіў нябачны Рубікон, і нешта непапраўна змянілася ў ягоным жыцці...

З таго дня, штораніцы і па вечарах прымаючы на лагерных лінейках у якасці камандзіра "Рэспублікі" рапарты ад камадзіраў атрадаў, Сяргейка слухаў іх не вельмі ўважліва. Ягоныя вочы ў гэтыя імгненні шукалі статную Лідачку ў сімпатычным белым швэдрыку і цёмнай спаднічцы ў шэрагах яе першага атрада, і калі ён знаходзіў жаданае, на сэрцы рабілася лёгка і радасна. Магчыма, таму Сяргейка – па натуры мяккі і нават сарамлівы – падчас рапартаў дырэктару лагера быў смелым і рашучым, заўсёды дакладваў узнёсла і ўпэўнена. Начальству, зразумела, было зусім няўцям, што крыніцай такой яго ўзнёсласці была не фанатычная адданасць справе, а худзенькая смугляначка з першага атрада...

## VI

Усе наступныя дні знаходжання ў лагеры Сяргейка імкнуўся быць як мага бліжэй да Лідачкі, за выняткам хіба што сну. Што б Сяргей ні рабіў, чым бы не займаўся, яго як магнітам цягнула туды, дзе чуўся пяшчотны Лідаччын галасок-званочак. А каб не наклікаць непатрэбных падазрэнняў, ён заўсёдна маскіраваў тое жаданне нейкімі афіцыйнымі нагодамі і групкай адданых сяброў побач, якія, будучы зусім не дурнямі, даўно ўцямілі прычыну празмернай цікавасці камандзіра да штодзённых справаў першага атрада.

Зразумела, што ўсе тыя сустрэчы з Лідачкай былі пры сведках і мімаходзь, і Сяргейку ўсё ніяк не ўдавалася застацца з ёю сам-насам. Верны сябра Казік – спакойны і вельмі разважлівы хлопец – дарэчы, той самы, што быў канкурэнтам на выбарах камандзіра – першы заўважыў сардэчныя праблемы Сяргейкі. А паколькі Казік быў на год старэйшы, то і досвед у гэтай справе, па ягоных уласных словах, меў нашмат большы. Для хутчэйшага дасягнення мэты Казік раіў кіравацца вядомай пушкінскай мудрасцю: "Чем меньше женщину мы любим, тем..." і г.д. – то бок рабіць выгляд, што ён ва ўпор не заўважае чарнавокую смугляначку. І тады, даводзіў сябра, плод, то бок Лідачка, "сам упадзе да ягоных ног...".

Сяргейка паспрабаваў пэўны час карыстацца сябравым рэцэптам, але хутка заўважыў, што Лідачцы ад ягонай "няўважлівасці" ні холадна, ні горача, і "плод" аніяк не спяшаўся падаць пад ногі...

А аднойчы, калі іхнія атрады разам хадзілі ў невялікі паход па ваколіцах і белы швэдрык Лідачкі штораз мільгаў перад Сяргейкавымі вачыма, ён раптам хуценька нарваў невялікі букецік прыгожых палявых кветак і хацеў аддаць іх Лідачцы, але яна ніяк не заставалася адна, нават на імгненне, і Сяргейка так і не змог ажыццявіць свой намер, і калі вярталіся ў лагер, ён з горыччу і крыўдай на самога сябе за нерашучасць выкінуў букецік у прыдарожныя кусты...

Але хутка праблема непасрэдных стасункаў з Лідачкай вырашылася сама сабой. Старшая піянерважатая ўрэшце змагла пераканаць начальніка лагера, які традыцыйна асцерагаўся, "як бы чаго не выйшла", каб той дазволіў праводзіць лагерныя танцавальныя вечары.

Танцы штовечар адбываліся ва ўнутраным дворыку школы, то бок “Рэспублікі Сонца”, а ў непагадзь – у вялікім вестыбюлі. На танцы прыносілі прайгравальнік з горкай пласцінак, і пачыналася сапраўдная фіеста, якую Сяргей Андрэевіч запомніў на ўсё жыццё. Ён са здзіўленнем адзначыў у думках, што ні да гэтага, ні пасля ў ягоным жыцці больш не здаралася такіх цікавых і феерычных танцавальных вечароў, дзе яму было б так добра і камфортна. Што адметна, актыўна танчылі на тых вечарах усе – і дзяўчаты, і хлопцы! Апошнія зусім не саромеліся, як гэта традыцыйна было на такіх мерапрыемствах, і, як дарослыя, праяўлялі сапраўдны мужчынскі імпэт, хаця ледзь не палова тых бязвусых “мужчын” яшчэ не выраслі вышэй за паўтара метра. Безумоўна, сказваўся вялікі ўплыў на масы старшай піянерважатай (Сяргею Андрэевічу, на жаль, аніяк не ўдавалася ўспомніць яе імя!) – энергічнай прыгажуні з доўгімі валасамі, якая метэорам насілася па танцпляцоўцы. Яна не толькі асабіста развярэджвала “застойныя месцы”, але літаральна зараджала ўсіх сваёй бурнай энергіяй і актыўнасцю. Праўда, прычынай яе той неверагоднай актыўнасці была не толькі высокая адказнасць за справу, што, канечне, таксама мела месца. Стымулам быў неверагодна сімпатычны лагерны фізрук, імя якога Сяргей Андрэвіч памятаў добра, бо яго таксама звалі Сяргей, толькі па бацьку ён быў Сяргеевіч...

Апрача старшай піянерважатай не спалі ў шапку і важатыя атрадаў, пераважна студэнты педагагічных навучальных установаў, якія настойліва заклікалі хлопцаў “быць мужчынамі”. Пасля такіх заклікаў, пачутых з вуснаў “дарослых”, хлопцам стаяць на месцы было проста немагчыма.

У тыя лагерных танцах нібы была нейкая таямнічая спружына, якая да канца вечара паступова раскручвалася, прычым настолькі, што на “адбой” дзеці адпраўляліся ледзь што не са слязьмі на вачах, бо практычна ўсім хацелася танчыць бясконца. Што ўжо казаць пра Сяргейку, які стараўся як мага часцей запрашаць на танец сваё таемнае каханне – Лідачку. Лідачка ніколі не адмаўляла, але падчас танца трымалася трошкі напружана, быццам нечага баялася. Сяргейка не крыўдаваў, бо ўсё добра разумеў – на іх глядзеў не адзін дзясятак цікаўных вачэй. Яшчэ б – з кім гэта зараз танчыць Камандзір?

Трэба сказаць, што той лагернай змене першага ў гісторыі сельскага піянерлагера вельмі пашанцавала на важатых. Каманда сабралася на дзіва творчая і таленавітая, яна заўсёды так цікава і ўпэўнена вяла рэй, што дваццаць чатыры лагерныя дні праляцелі для яго юных насельнікаў як адзін. Згадваючы лагерныя танцавальныя вечары, Сяргей Андрэевіч, з гледзішча свайго цяперашняга ўзросту, добра разумеў вытокі такога творчага імпэту маладых важатых. Дбаючы пра цікавы занятак для дзяцей, маладыя і, як правіла, прыгожыя і таленавітыя юнакі і дзяўчаты, сабраныя ў той час воляю лёсу ў адным месцы, адначасна дбалі і пра сябе. Што цікава, у іх шэрагах дзіўным чынам склаўся амаль што парытэт паміж юнакамі і дзяўчатамі, і ў тым асяродку спарадычна загараліся агеньчыкі пачуццяў, якія, зразумела, нельга было ўтаіць ад астатніх... Словам, водар кахання літаральна лунаў у тыя дні над лагерам!

Што да Сяргейкі, дык, атрымаўшы нарэшце магчымасць зусім легальна быць побач з Лідачкай, ён знаходзіўся проста на сёмым небе ад шчасця, выходзячы з ёю ў кола тых, хто танчыў. І калі на першых вечарах нехта з хлапчукоў па недасведчанасці яшчэ запрашаў ягоную Лідачку, Сяргейка

ўжо сваім паглядам гатовы быў сцерці канкурэнта з твару зямлі. Дзякаваць Богу, да канфліктаў не дайшло, бо Сяргейкавы сябры хутка патлумачылі недасведчаным, што “гэтая смугленькая – камандзірава” і не трэба ўставаць на ягоным шляху...

## VII

У адзін з лагерных дзён у “Рэспубліку Сонца” завіталі з візітам госці – дэлегацыя з суседняга, “гарадскога”, лагера “Лясная казка”. З “казачнікамі” згулялі футбольны матч, асабіста для Сяргейкі вельмі няўдалы, бо ён не забіў стопрацэнтны гол, паспаборнічалі ў лёгкай атлетыцы. Там Сяргейку пашанцавала больш – ён апынуўся ў прызёрах у скачках у вышыню. Завяршаў усё конурс спевакоў, дзе Сяргейка ізноў адчуў слодыч славы, заняўшы з 10 удзельнікаў другое месца. І зусім не перажываў, што не першае, бо першым стаў Пятро, ягоны сябра з неверагодна прыгожым голасам. Сяргейку хапіла і розуму, і душы не зайздросціць, а парадавацца за поспех сябра. На развітанне госці запрасілі “сонечнікаў” да сябе з візітам у адказ.

Калі прыехалі ў лагер суседзяў, Сяргейка адразу адзначыў, што ў “Лясной казцы” – традыцыйным “гарадскім” піянерлагеры, які функцыянаваў ужо не адзін год, – было значна больш камфортна, чым у “Рэспубліцы Сонца”. “Казачнікі” месцілася ў неверагодна маляўнічым лесе. Жылі ў прыгожых, утульных, знешне насамрэч амаль казачных доміках, кожны з якіх не паўтараў архітэктуру іншага. Меўся ўтульны кінатэатр на свежым паветры, накрыты на выпадак дажджу.

Але любавацца на мясцовыя даброты не было часу. Адразу пачаліся спаборніцтвы, і Сяргейка, як адзін з лідэраў сваёй каманды, актыўна ўдзельнічаў у большасці відаў. Самым драматычным стаўся не футбол, дзе “сонечнікі” зноў прайгралі, бо былі заўважна слабейшымі, а лёгкая атлетыка, у прыватнасці любімыя Сяргейкавы скачкі ў вышыню. Гэтыя скачкі хлопцу потым нават сніліся доўгі час, бо па драматызме не саступалі сапраўднай вялікай Алімпіядзе.

Сяргейка хоць і быў яшчэ росту не самага высокага, але лёгка пераадолеў першыя дзве вышыні і ўрэшце застаўся адзіны са сваёй каманды супраць двух “казачнікаў”.

Наступнай была вышыня 115 сантыметраў. Яе ўрэшце ўзяў адзін з сапернікаў. А вось Сяргейка так і не змог з трох спробаў пераадолець гэтыя зласчасныя сантыметры. Потым паставілі 120 сантыметраў, на якія кінуўся адзіны ўжо на той час удзельнік – высокі цыбаты хлапчук з “Лясной казкі”. Але з трох спробаў вышыня яму не паддалася. І тут Сяргейку нібы нейкая хваля падхапіла і кінула ў бок суддзяў:

– Дазвольце мне паспрабаваць!

Суддзі пераглянуліся між сабой: дазволіць было парушэннем правілаў.

У гэты момант Сяргейка ўбачыў у натоўпе балельшчыкаў белы швэдрык Лідачкі...

– Дазвольце, калі ласка, – ізноў настойліва звярнуўся ён да суддзяў.

– Дык ты ж не ўзяў 115 сантыметраў, – развёў рукамі старшы суддзя, – а пнешся на 120, людзям на смех!..

– Пабачым, хто будзе смяяцца! – упарта адказаў Сяргейка

– Што, надта хочацца чэмпіёнам стаць? – неяк крыва ўсміхнуўся

суддзя. – Але правілы ёсць правілы, прабач, брат... Зрэшты, калі хочаш яшчэ раз зняславіцца, скачы...

Сяргейка адышоў ад планкі на патрэбную адлегласць, пракруціў у свядомасці ўвесь шлях да яе і раптам адчуў унутры нейкі неверагодны і халодны спакой. Такі ледзяны спакой бою з'яўляўся ў яго заўсёды, калі ён у сваім яшчэ не вельмі доўгім жыцці трапляў у крытычную сітуацыю. І тады ўсялякі страх адступаў і аднекуль з'яўлялася ўнутры неверагодная трываласць. Можа, з-за гэтага мала хто з равеснікаў у школе ўступаў з Сяргейкам у бойку сам-насам. Хлопец хоць і быў фізічна не самым моцным з іх, але ў такіх двубоях заўсёды пераўзыходзіў саперніка і... самога сябе...

Так і цяпер, перад гэтай планкай на вышыні 120 сантыметраў, ён адчуў сябе як перад смяротным ворагам, якога, кроў з носу, трэба было перамагчы.

Сяргейка нарэшце кінуўся наперад на планку, як плывец кідаецца ў зімовую палонку, толькі што не заплючыўшы вочы, а ў момант, калі ўзляцеў над планкай, нават і заплюшчыў іх інстынктыўна, быццам разумеючы, што ўсё, што ён змог, ён зрабіў, а астатняе не ў ягонай уладзе... Ужо пералятаючы над планкай, злавіў шчаслівае адчуванне, што не збіў планку, і хваля неверагоднай радасці ад здзейсненага запоўніла ўсю ягоную істоту.

Лежачы на зямлі пасля скачка, Сяргейка пачуў, як сотні рук радасна запляскалі ў ладкі ў гонар ягонай перамогі над вышынёй. Сяргейка падняўся і падышоў да суддзяў, чакаючы іх выраку. Але ўсё той жа старшы суддзя (ён быў з боку "казачнікаў"), ізноў крыва ўсміхаючыся, сустрэў яго зусім нечаканымі словамі:

– Малайчына... Але чэмпіёнам мы цябе аб'явіць не можам, бо ты скакаў па-за конкурсам...

– Як гэта – "па-за конкурсам"? – не зразумеў Сяргейка.

– А вось так. Ты да гэтага выбыў з барацьбы...

І суддзя жэстам паказаў цыбатаму "казачніку", што стаяў побач, падымацца на найвышэйшую ступеньку п'едэстала.

Але ў гэты момант у шэрагах балельшчыкаў пачаў нарастаць гул незадаволенасці. І ў той драматычны для юнага Сяргейкавага сэрца момант, калі ён ад нахлынулай роспачы гатовы быў расплакацца, відаць, сам Бог умяшаўся ў сітуацыю. Да старшага суддзі падышлі начальнікі абодвух лагераў, і пасля нядоўгай дыскусіі рашэнне старшага суддзі было перагледжанае. Пераможцам прызнаваўся Сяргейка. Старшы суддзя быў хоць і незадаволены, але спрачацца з начальствам было сабе даражэй, і Сяргейка з гонарам падняўся на п'едэстал, яшчэ раз сабраўшы шчодрыя апладысменты...

Тая спартыўная перамога засталася ў жыцці Сяргея Андрэевіча самай дарагой і значнай. Хаця ён пасля гэтага яшчэ не раз узыходзіў на розныя п'едэсталы і ў школе, і ў войску, і ва ўніверсітэце. Ды такога пачуцця гонару і задаволенасці дасягнутым ён больш не адчуваў ніколі...

## VIII

Але сапраўдная і самая каштоўная ўзнагарода чакала Сяргейку наперадзе!.. Пасля спаборніцтваў, калі ўсіх добра накармілі смачнай святочнай вячэрай, у кінатэатры "казачнікаў" меўся дэманстравацца мастацкі фільм. Сяргейка, безумоўна, ва ўсе вочы сачыў, дзе сядзе ягоная Лідачка, і як

толькі яна заняла сваё месца, ён змяюкай праслізнуў праз натоўп бліжэй да яе. Нейкая дзячынка з іхняга лагера хацела было сесці каля Лідачкі, але Сяргейка на імгненне апярэдзіў яе. Яна са здзіўленнем зірнула на хлопца, ды ўступаць у спрэчку з Камадзірам, ды яшчэ чэмпіёнам, не рашылася.

Сяргейка, сеўшы побач з Лідачкай, спачатку неяк нават замёр ад незразумелай унутранай трывогі: а раптам дзяўчынка не захоча, каб ён сядзеў побач, і ўцячэ. Але Лідачка не кранулася з месца, праўда, галоўку старанна адварочвала ад яго ў бок іншай сяброўкі, якая села злева ад яе.

Нарэшце пачаўся фільм. І тады, у тыя хвіліны, і цяпер, праз шмат гадоў, Сяргей Андрэевіч не мог сказаць, як называўся і пра што быў той фільм. Бо ён зусім не бачыў, што было на экране, таму што побач з ім, зусім побач, сядзела ягоная Лідачка, ягоная Прынцэса, найлепшая ў свеце дзяўчынка!..

А потым здарылася і тая самая "ўзнагарода", пра якую згадвалася вышэй... У нейкі момант Лідачка няўзнак хіснулася ў ягоны бок, і яе аголены локцік нечакана дакрануўся (!) да Сяргейкавага локця – зразумела, такога ж аголенага...

Сяргей Андрэевіч за сваё немалое жыццё зусім не быў пакрыўджаны лёсам у каханні. Былі і імгненні вялікай жарсці, і глыбокай асалоды, калі, здавалася, ляцеў быццам на крылах над светам разам са сваёй каханай, а да мяжы напятая струна твайго сэрца вось-вось лопне ад немагчымай вышыні і радасці. Але такой неверагоднай – прычым надзвычай чыстай і амаль святой – асалоды, якую Сяргейка адчуў у тое імгненне дакранання Лідаччынага локціка, ён больш не адчуў ніколі ў жыцці!..

Гэта было нешта накшталт удару маланкі, які ўзрушыў усё ў Сяргейкавай істоце. Хлопец быў шчаслівы тады да самых кончыкаў сваіх густа чырвоных (вядома ж, ад кахання!) вушэй і застыў у тое імгненне, як скамянелы, баючыся нават паварушыцца! І ўсё гэта ў абсалютным ўзаемным маўчанні, калі не было сказана нават паўслова!

Гэтае маўчанне, якое гаварыла нашмат больш, чым самыя гучныя і шчыльныя дыялогі, працягвалася паміж Сяргейкам і Лідачкай і потым, калі ў "Лясной казцы" пачаўся агульны развітальны танцавальны вечар. Зразумела, Сяргейка танцаваў толькі са сваёй Прынцэсай. А калі танцы скончыліся, і яны разам спускаліся з танцпляцоўкі, Лідачка (ізноў жа без словаў!) нечакана сама ўзяла Сяргейку за руку. Хлопец літаральна ляцеў, а не ішоў побач з ёю. Тое адчуванне шчаслівай акрыленасці было настолькі моцным, што нават і сёння, праз больш чым пяцьдзясят гадоў, пры згадцы пра тое імгненне Сяргей Андрэевіч у думках ізноў "узлятаў" разам са сваім першым каханнем!

Сяргей Андрэевіч не мог успомніць абсалютна нічога пра тое, што было пасля гэтага, насамрэч казачнага, вечара ў "Лясной казцы". Да канца змены заставалася ўсяго некалькі дзён, і яны праляцелі, як уздых. Яны так і не паразмаўлялі з Лідачкай – і магчымасці не было болей, ды і гаварыць пра што-небудзь не было патрэбы...

Ён памятаў толькі, як расплакаўся ў аўтобусе, у якім яны з маці ад'язджалі з лагера ў бок райцэнтра. Плакаў гучна, зусім не саромеючыся, нібы адчуваў, што развітваецца з нечым сапраўдным, вялікім, магчыма, самым істотным у сваім жыцці... Што Яно больш ніколі не паўторыцца,

не вернецца, як не вяртаецца слязінка расы на траве, скаціўшыся ўніз і раставарыўшыся ў зямлі назаўсёды, і яе больш нікому і ніколі не знайсці. Наперадзе яго чакала яшчэ амаль цэлае жыццё, але ён плакаў так, нібы яно ўжо завяршалася... Яго добрая матуля, відаць, разумеючы сына, нічога не распытвала, а толькі суцяшала добрымі і цёплымі словамі: “Усё пройдзе, сынок, усё будзе добра, вось пабачыш, усё будзе добра!..”

Потым нейкі час пасля лагера Сяргейка яшчэ пісаў сваёй Лідачцы лісты, вельмі жарсныя і балючыя, але яна яму не адказала...

## IX

Праз гады, калі Сяргейка пасля завяршэння васьмігодкі ўжо некалькі курсаў адвучыўся ў Мінску ў тэхнікуме і прыехаў дадому на канікулы, нехта са знаёмых запрасіў на провады ў войска. Провады адбываліся ў адной з вёсак іхняга раёна, якая месцілася па суседстве з вёскай, адкуль была родам Лідачка. Зрэшты, Сяргей зусім не чакаў сустрэць яе там, бо з лагерных часоў нічога не ведаў пра яе лёс. Тым не менш яны сустрэліся на танцах, і Сяргейка адразу ж пазнаў Лідачку па чорных як смоль валасах і такіх жа вачах.

Лідачка моцна змянілася – падрасла, пасталела і... нечакана для Сяргея зусім страціла той арэол таямнічых чараў, тую прыцягальнасць, якая была падчас іх сустрэчы ў піянерлагеры!.. Хлопец тады яшчэ не ведаў гісторыю куляшоўскай “Алесі” і ў душы быў вельмі здзіўлены такой метамарфозе! Гэта была ўжо іншая Лідачка, для яго зусім чужая і незнаёмая, і Сяргей канстатаваў, што ў ягоным, некалі такім гарачым да яе, сэрцы нічога абсалютна не зрушылася пры сустрэчы.. Але, нягледзячы ні на што, ён не адыходзіў ад Лідачкі ўвесь вечар. Яны шмат гаварылі, нібы стараючыся кампенсаваць даўнюю маўклівасць лагерных часоў. Сяргей танчыў з Лідачкай ўсе танцы і пасля правёў яе да самага дома. Яны ізноў вельмі шмат гаварылі, седзячы на лавачцы, размаўлялі неяк вельмі цёпла, зусім па-сяброўску, з задавальненнем згадваючы пра шчаслівыя імгненні “Рэспублікі Сонца” і пра іх першую закаханасць. Лідачка шчыра прызналася, што тады ў лагеры таксама адразу заўважыла Сяргейку, што ён, маўляў, вельмі вылучаўся і таксама ёй падабаўся...

Пры развітанні яны нават пацалаваліся, відаць, адчуваючы, што іх адзіная “паслялагерная” сустрэча будзе апошняй. Гэта быў нейкі вельмі дзіўны пацалунак, ён быў хоць і ў вусны, але нейкі зусім бязгрэшны, сяброўскі. І пасля гэтага Сяргей і Ліда развіталіся... Назаўсёды... Так, прынамсі, здавалася тады Сяргею, які не ведаў, што яшчэ адна сустрэча з Лідачкай – першым ягоным каханнем, хоць і вельмі незвычайная, усё ж такі чакае яго наперадзе...

## X

Ох ужо гэтая містыка жыцця, слёз, кахання, якую так бліскуча апісалі класікі літаратуры!.. Яе, гэтую містыку, Сяргей Андрэевіч асабліва востра адчуў акурат праз чвэрць веку пасля згаданай сустрэчы з Лідачкай, калі заехаў праведаць разам з маці магілы бацькі і заўчасна памерлай сястры, якую за паўгода да гэтага пахавалі каля бацькі.

Побач з магілаю сястры Сяргей раптам убачыў зусім свежую магілу.

На крыжы ён прачытаў імя – Лідзія, але прозвішча было незнаёмым. І тым не менш нешта раптам кальнула тады ў ягоным сэрцы. І ён папрасіў маці даведацца дзявочае прозвішча пахаванай побач з сястрой жанчыны.

Праз нейкі час маці па тэлефоне паведаміла, што дзявочае прозвішча згаданай жанчыны – Смурага. Але і тады Сяргей не быў упэўнены, што гэта тая самая Лідачка – ягонае першае каханне. Пазней, калі ён ізноў прыехаў на могілкі да родных, на магіле жанчыны, пахаванай побач з ягонымі бацькам і сястрой, ужо стаяў помнік. Зірнуўшы на здымак, Сяргей адразу пазнаў смугляначку Лідачку з піянерлагера – сваё першае каханне.

З таго часу, штогод наведваючы ўлетку магілы родных, – да бацькі і сястры потым далучылася і маці – Сяргей Андрэевіч заўсёды стараўся прынесці на магілу Лідачкі букецік палявых кветак, амаль такіх, якія некалі не змог падарыць ёй у лагеры, у памяць пра чароўны час юнацтва – час свайго першага кахання.



Андрэй Козел



...лепш казаць

аб невымоўным...

# Святло маленькай перамогі

***Пункціры***

*

Ранак.
Аўтобус мінае дамы:
з акна ў вакно
скача сонца.

*

Нагрувашчаны
цяжарам думак,
іду невядомай дарогай,
дзе забуду сябе.

*

Снегапад. Зіма
разбег свой пачынае.
Вочы хат
пазасціланыя адчаем.

Сумны лад:
ніхто нічога не чакае...
Неяк так:
за кавай – ты,
а я – за чаем.

*

Я ехаў сярод людзей,
глядзеў у акно;
марыў, усміхаўся:
прыгадваў былое...
Слёзы цяклі з маіх вачэй.

*

Прагна хапаю
кавалкі пачатку:
можа, будзе што
глынуць у канцы?

*

Хтось паклікаў мяне?
Вочы ў неба –
дождж.

*

Забыцца на радасць
хапіла хвіліны.
Каб гора забыць –
не хопіць жыцця.

*

І сонца ззяе
ззяннем здані.
трымціць касец
касою ўранні.

*

Будаўніцтва:
выкарчоўваюць дрэвы;
над гнёздамі – птушкі;
плача дождж...

*

Чалавек, які прайшоў
Афганістан,
нешта расказваў мне смешнае,
рагатаў на ўвесь тралейбус;
нястомным трэмарам дрыжалі
яго рукі,
нібы ён зноў ішоў у атаку...

*

Чаму ты плачаш
так, бярозка?
Няўжо не бачыш,
што – вясна?!

*

Я бачыў палёту
яго неабсяжнасць,
крылаў
яго неабдымнасць,
калі ён ляцеў
у наступнасць, –
самалёт.

*

Колькі год
не бываў на Радзіме?!
Б'е аранжавым
ў вочы рабіна.

*

Дайграў усё,
што было за дзень.
Засталася
адзіная нота –
адзі-
нота.

*

На досвітку прачнуўся.
Рана.
І разумею:
рана бегчы,
смяяцца, плакаць,
жыць...
Глядзець у столь –
таксама рана.
Расплюшчыў вочы –
лічу дажджынкі крана.

*

Хацеў разбіцца,
бы аскепак:
ды адчуваю –
не адзін.

*

Віруе лісце
на асфальце:
танцуе восень
карагод.

*

Хоча дзяліцца
сваім хараством
першая маланка
вясною.

*

Дым, падобны да туману,
сцелецца над вёскай –
кастрычнік.

*

Як найлепшы гмах,
узнеслася царква:
вышэй за ўсіх
і назаўсёды.

*

“Не хвалюйся,
усё атрымаецца”, –
падхопліваю дачку,
якая вучыцца хадзіць.

*

Сябра ў войску:
ў самоце
іду
па праспекце.

*

Спрабую хлебны
водар лёгкі:
камбайн зжынае
каласкі.

*

Ні дня не праходзіць
без адкрыцця.
Здзіўляцца ўсяму,
як тое дзіця.
Хваляю біцца аб рыфы жыцця
да забыцця...
забыцця...
забыцця...

*

“І адкуль ты тут узяўся?!” –
З цікаўнасцю слухае сабака
першы клёкат
бусла-суседа
на заімшэлым дрэве.

*

На месцы луга
з’явілася дарога:
у адчаі трава
расце праз асфальт.

*

Ніхто не ведае,
дзе гэты выхад.
А можа, не хочуць ведаць
зусім?
Заплюшчваю вочы –
іду, як усе.

*

Доўга чакаць:
вытоптваю
на снезе ўзоры.

*

Няўжо спадабалася?!
занатоўвае жаночы след
летні размяклы асфальт.

*

Хапаю ў абдоймы ўспаміны,
тулю да сябе і сціскаю:
набраклымі кроплямі часу
мінулага думкі сцякаюць.

*

Сказаў добрыя словы
свайму суразмоўцу –
і неяк самому
стала святлей.

*

Узгадваю
пражытыя гады:
блукаю думкамі
былога.

*

Летні дзень.
Іду дадому.
Малююць воблакі карціны.

*

О мясціны,
так сумна дарагія,
дзе калісь мінаў
спіраль жыцця,
кругі!
Раскажыце, чаму вы
ўжо другія?!
Падкажыце мне,
на колькі я другі?

*

Сакавік. Трымціць рака.
Адліга.
Зайчык сонечны скача
з крыгі на крыгу.

*

...усё ж ад рэальнасці
не выпадзе збегчы.
Ніколі не сцерці
ні плямы на сэрцы,
як прыкметы у смерці,
колькі б ні церці...

*

Стаіць святар і лечыць
прамовамі імшы.
Замглёны горам плечы,
разваліны душы.

*

Вецер варушыцца ў лістоце;
сабака рыецца ў зямлі;
вясна праворвае палеткі;
паэт капаецца ў душы...

*

Раней маўчалі,
хто павінен гаварыць;
зараз змоўклі –
хто павінен крычаць.

*

Стаю задуменна ў альтанцы,
знянацку заспеты
першай залевай траўня,
па даху азбукай Морзэ
расказвае нешта дождж.

*

Вясёлым мажным гулам,
усім агулам
студэнты крочылі
дамоў.

*

Бывае, ад болю так сцягне нутро,
што вельмі карціць пачуць мне
адказ:
няўжо сапраўды гэта Час
выбраў нас?
Ці гэта мы самі абралі яго?

*

Тут запрыкмеціў я на днях –
прайшоўшы зноў той самы шлях
па супярэчлівых слядах –
няпраўды колькі на вушах!
Жах! Жах! Жах!

*

Паэт не ў стане “гаварыць”,
І цяжкія ліць прамовы:
Так не жыццю трэба вучыць –
Лепш казаць аб невымоўным.

*

Восень: чырвона-жоўтая
лістота.
Нешта шэпча ветру
змоўшчыца-галінка.

*

Пасля доўгай
зімовай дарогі
неўзабаве змарыла дрыжака.
Хачу нарэшце сагрэцца:
чайнік сапе –
выратавальнік.

*

На базары
ўсё без зменаў:
безліч рук,
людзей,
бязменаў...

*

Нібы ўзялі
ў аблогу:
рыштаванні абступілі замак.

*

З грыбоў вяртаюся.
Вечар.
Морак накрыў нечакана.

*

Доўга цісну руку
знаёмаму,
якога даўно не бачыў,
не ведаючы, што сказаць, –
няўмольны час.

*

Дождж.
Прыбіраюць з плошчы
святочную ёлку,
якая так і не ўбачыла
снегу...

*

Ніколі не бачыў:
на машыну
брэша шчанюк.

*

Універсальна
працуе хмара:
то снег дасылае,
то дожджык зямлі.

*

Гармідар.
Гаманліва кідаюць дзеці
адзін у аднаго
першым студзеньскім снегам.
Не спазніўся?!

*

Там усё ж такі лепш?
Вераб'і з дрэва
зляцелі на дах.

*

Стаю на другім
канцы дарогі.
Падміргнуў зялёны:
"Ідзі!"

*

...Але выжыў той,
хто спадзяваўся на сябе
і верыў у заўтра.

*

Цісну лічбы
твайго тэлефона.
Гудкі –
час прыдумаць прычыну
свайго званка.

*

Ён пакажа,
каму я вінен:
час.

*

Нарэшце прахалода.
Дзеці рукі далонямі
скіравалі ў неба:
раздае пазыкі дождж.

*

Святло маленькай
перамогі –
дае надзею
на жыццё.

*

Сапраўдны кошт
таго, што ёсць,
відаць здалёк:
калі ўжо гэта страціў.

*

Твае ўчынкі –
рэха таго,
што цябе чакае.

*

Часам,
каб ісці наперад,
трэба запаволіць
крок.

*

Падманваць іншых –
не штука!
Цяжэй – не падманваць
сябе...

*

Калі з іншага боку
глядзець на праблему –
часам ты бачыш –
праблемы няма.

*

Чалавек і хацеў бы
быць чалавекам.
Але свет наш – натоўп.
Што ёсць натоўп –
сам разумееш...

*

Іду з грыбоў
шчаслівы і мокры.
З-за хмаркі
смяецца вясёлка.

*

Цяжкім, хворым,
неспакойным сном
правальваюся ў прадонне.

*

Перайначвае ўбранне, моду –
кілімы сцеле восень:
лістапад.

*

Іду па дарозе
без грошай у кішэні:
і неяк лёгка,
спакойна ў душы.

*

Нішто не вечна:
каханне, рэчы, людзі,
час, жыццё...
Ці будзе вечнай
вечнасць?

*

Разбітай кропляю дажджу,
аб асфальт ці аб жалеза,
адзін даўно ў траве ляжу,
лаўлю чароўны водар бэзу.

*

Абрабавала восень клёны,
што падняліся на гару.
І толькі вецер як шалёны,
абдымае галізну.

*

Не маючы большасці –
можна мець Большае;
не маючы Большага,
мушу мець Лепшае.

*

Прыйшоў у лес,
дзе доўга не быў:
лагодна ківаюць
верхавіны дрэў.

*

Іду зімой,
марозным ранкам, –
рыпіць аб нечым
снег

*

Які няўдалы дзень!
Стаю падпёршы плот:
са мною побач цень –
нябёсаў закалот.

*

Сустрэў сяброў старых
дзяцінства:
і ледзь не захлынуўся
ад успамінаў.

*

З адлігаю ранняю
самотна
стаяў разгублена і слухаў
цвірчанне-спевы раўчукоў.

*

Час ідзе. Не будзе спыну.
Ты прыпынку не чакай:
сёння – люты, заўтра – май
будзе гнаць і біць у спіну.

*

Ішоў я слатою, пакідаючы след,
ды чамусьці думка мяне ўсё
даймала,
пра тое, наколькі вялікі наш свет
і яшчэ пра тое, як месца ў ім мала.



дэбют

Аляксандра Дзмітранок



...– Заехаў сюды, прыхадзень,
і намагаецца мне нешта давесці
ў маім жа двары!..

# Справа прынцыпу

***Апавяданне***

Родзькі ехалі дадому. Абое лагодныя, яны цешыліся пятнічным вечарам.

– Чым вячэраць будзем? – спытаў Антон. Сам пасля працы, ён заехаў праз паўгорада па жонку, каб забраць яе з офіса. Меў спадзеў, што для Марыны гэта выглядала высакародна, бо яна і сама магла даехаць дадому роўна за той жа час аўтобусам, а яму гэты круг апрача літра бензіну каштаваў лішняй паўгадзіны за стырном. А ён жа галодны! Але, трымаючы ў галаве неабходнасць гатаваць вячэру самому, вярніся ён дамоў першым, цяжка было ганарыцца ўласнай клапатлівасцю.

У двор яны заязджалі, калі ўжо сцямнела.

– Мне дык усё адно, абы хутка.

– Давай спагеці: варыць хутка, што дадаць да іх – знойдзем. Хіба толькі сыру няма, – прапанавала Марына.

– Ну, тады я цябе зараз падкіну да пад’езда, а сам – па сыр, можа, і віна прыхаплю. А ты вары адразу, не марудзь, –

наказваў жонцы Антон і, кіруючы пад арку між дамамі, крутануў стырно направа. – Гэй, – засцерагальна выгукнула Марына, якая сачыла за дарогай не раўнуючы добры штурман.

– Ат! Каб яго! – пералякана выдыхнуў Антон: насустрач з цёмнай падваротні паволі выязджаў чорны “бээмвэ” з няўключанымі фарамі, паблісківаючы толькі святлом, адбітым ад бліжэйшага ліхтара.

– Святло дзе тваё! – голас па-здрадніцку станчэў і траха не сарваўся на апошнім слове ад раптоўнага перапуду. – Фары, фары, ідыёт! – ужо раз’юшана крыкнуў Антон, збольшага авалодаўшы сабой. Крычаў ён, хутчэй, каб ачомацца самому, бо ні пабачыць, ні тым больш пачуць яго праз падвойны шкляны бар’ер дзвюх машын было немагчыма.

Атмасфера ў салоне наэлектрызавалася, і Марына, каб не патрапіць пад агонь абуранага мужа, прыняла позу “моўчкі-неваруш”. Перавёўшы дух, Антон са здзіўленнем заўважыў, што “бээмвэ” за гэты час не кранулася з месца. Муж з жонкаю неўразумела пераглянуліся. Напружваючы зрок, Антон пільна ўглядаўся, каб пабачыць кіроўцу ў машыне насупраць, аднак вулічны ліхтар цьмяна асвятляў адно нечыя нерухомыя рукі на стырне.

– І што гэта значыць? – звярнуўся ён да жонкі. Марына спачувальна закаціла вочы.

– Пачакай крыху. Ён, пэўна, думае, што мы зараз самі пасунемся, – усміхнулася, падбадзёрваючы мужа.

Хвіліны ішлі, а іранічнае здзіўленне нахабнасцю кіроўцы паволі страчвала сваю іранічнасць. Уладальнік “бээмвэ”, відавочна, не збіраўся здаць назад, каб прапусціць, як мае быць, машыну з галоўнай дарогі.

– Не, ну я ж казаў, што “бээмвэ” – гэта дыягназ! – ужо без насмешкі прасіпеў Антон. А на мяжы свядомасці няўхільна паўставала вельмі канкрэтнае пытанне: “Што далей?”

Паставіўшы “барану” несуцяшальны дыягназ, Антон стаў разважаць, што рабіць: “З аднаго боку – сабе даражэй. Узяць ды махнуць рукой на ідыёта? Ну, не. Гэта, канешне, прасцей, аднак дурняў трэба вучыць: калі я адступлюся, дык хто яшчэ дасць яму рады? Дый гэта, зрэшты, і справа прынцыпу”.

На шчасце, машын ззаду пакуль не назіралася і, мяркуючы па цішыні пад аркай, з супрацьлеглага боку – таксама. Страўнік ныў ад голаду і раздражнення. Аднак нахабніка трэба было правучыць не зважаючы ні на што.

Марына без словаў усё зразумела і моўчкі згадзілася з мужавай тактыкай. Яна патэлефанавала бацькам. Антонавы цесць з цешчаю жылі непадалёк і забіралі ўдзень малых са школкі. Звыклая справа: дзеці проста заставаліся ў бабулі з дзядулем на ноч. Цяпер можна было спакойна адкінуцца ў крэслах. І Родзькі пачалі сядзець. Сядзець не з-за страху, а праз перакананне. Дзеля справядлівасці.

Быў вечар пятніцы. А потым надышлі ноч і субота. З пятніцы на суботу Родзькі горача, раз-пораз перарываючы бадзёры начны эфір “Бі-Эй”, выказваліся адно аднаму наконт маральных якасцяў ды псіхічнага стану ўладальніка “бээмвэ”. Ва ўзаемнай згодзе ўзрушана даводзілі адзін аднаму яго вінаватасць. Зноў і зноў пераконваліся ў слушнасці прынятага рашэння і ў гатоўнасці стаяць за прынцып і надалей. Усведамленне праўды на сваім баку саграваламі іх, справядліва абураных, зусім не цёплай кастрычніцкай ноччу.

– Заехаў сюды, прыхадзень, і намагаецца мне нешта давесці ў маім жа двары! – падсцёбваў Антон сваю злосць думкамі ўголас.

– І не кажы, – падтаквала Марына, адчуваючы сябе траха не паплечніцай Гандзі па негвалтоўным супраціве.

Раз-пораз паглядаючы ў бок BMW, Антон са здзіўленнем зазначаў, што варожы правілам дарожнага руху супрацiўнік разам са сваім транспартным сродкам ні на каліва не зварухнуліся. Развіваючы тэму паталагічнай сувязі між асобаснымі якасцямі чалавека і маркай абранай ім машыны, Родзькі, натуральна, чакалі ад нахабы далейшых хамскіх дзеянняў. Першыя пару гадзін Антон сутаргава прадумваў варыянты адказу на чаканыя ім дзеянні: ад прапаноў выйсці пагаманіць і пагрозаў патэлефанаваць каму трэба да – якія тут жарты – спробы апрацаваць іх сціплую машынку манціроўкай ці бейсбольнай бітай, якая мусіць быць пад рукой у такога вырадка.

Аднак той, хто сядзеў у “бэсе”, не збіраўся адпавядаць Родзькавым уяўленням. Ён не выходзіў, не адчыняў фортку, каб палаяцца, і нават не спрабаваў іх разгледзець. Рукі са стырна ён усё ж прыбраў у пэўны момант, і з боку падавалася, што ў машыне ўжо наогул нікога няма. Бяздзейнасць ягоная цягам бясконцых цьмяных гадзін прытупіла нервова-ўзрушаную пільнасць Антона. Здавалася, што нейкі нудны артхаўсны фільм спыніўся раптам на самым цёмным кадры бязрадаснай сцэны. Раптам Антон здрыгануўся, імгненна вынырнуўшы з цяжкай паўдрымоты, і заўважыў у машыне насупраць нязначны рух. Рука з’явілася на імгненне з небыцця цемры, а потым, ужо трымаючы тэлефон, зноў знікла. Пасля працяглага чакання немаведама якой пагрозы знерваваны Антон рэзка ўсхапіўся. Сон нібы рукой зняло.

Марына, жалезабетонна ўпэўненая ва ўласнай слушнасці і ў мужы, шчаслiва спала, скрывіўшы шыю і прыадкрыўшы рот. “А яшчэ кажуць, што ў жанчын больш далікатная псіхіка”, – з нечаканым раздражненнем падумаў Антон пра жонку, якая нават не зварухнулася ад яго падскоку хвіліну таму.

Спакойна чакаць пераможнага вырашэння дадзенай сітуацыі не выпадала. Антона зноў апанавалі змрочныя думкі наконт наступстваў, якія пацягне за сабой гэтая не чутная яму тэлефонная размова. Вось насупраць зноў мільганула прывідная рука з тэлефонам. Цяпер ужо можна было не выбіраць з мноства магчымых сцэнараў, а рыхтавацца да балюча прадказальнага працягу гэтага званка.

Але мінула гадзіна, другая, шэры золак няўлоўна пачаў сціраць звыклую ўжо начную перспектыву, а нічога новага так і не здарылася. Было дурнотна ціха, нават цішэй, чым уначы. А можа, так проста здавалася праз недасып і нервовае напружанне? З лагчынкі ззаду пацягнуўся шырокім покрывам туман, за колькі хвілін апавіўшы суседнія хмызы. Туман ужо прадукаваўся проста з паветра навокал, святло распускалася ў ім, і суботняя раніца ніяк не магла развіднець. Цяпер усё, акрамя дзвюх нядрэмных машын, было туманам. Туман паволі набрыньваў рассеяным святлом, робячыся пры гэтым усё менш пранікальным і ўсё больш рэчаісным.

“Колькі часу ўжо набегла?” – зірнуў быў на руку – час спыніўся. Антон меў снобскую прыхільнасць да механічных гадзіннікаў перад кварцавымі. За перажытымі трывогамі ўначы ён не ўспомніў пра абавязковы рытуал: перад сном – якога сёння, лічы, зусім не было – ён штовечар заводзіў механізм свайго фамільнага гадзінніка. “Пабеда” была яшчэ дзедава і, добра паслужыўшы бацьку, гадоў шэсць таму перайшла яму ў спадчыну. І вось яго ўлюбёны механізм, нібы пакрыўджаная палюбоўніца, на падарунак якой забыўся ў Валянтынаў дзень, помсліва спыніўся. Вось і выйшла-такі яму бокам гэтая пыхлівая вытанчанасць. Мабільныя, свой і жончын,

вядома, разрадзіліся. Уключаць магнітолу, каб даведацца пра час, Антон не хацеў: акумулятар у машыны даўно патрабаваў замены, але як ашчадны гаспадар Родзька вырашыў, што год той яшчэ працягне, так што няма чаго і раскашаваць. “Вось табе і эканомія, еш яе з маслам цяпер! Ды, урэшце, што зменіцца ад таго, што я ўдакладню час?!” – раззлаваўся Антон на сябе ды на гадзіннік з акумулятарам. Згубіўшы галаву, па валасах не плачуць. Пасля змарнаванай ночы што зменіць веданне дакладных хвілін раніцой?

Антон ніяк не хацеў пагаджацца з тым відавочным, што вынікала з гэткай жа, як і ў яго, упартай нерухомасці супрацоўніка: той таксама стаяў за прынцып. Прынцып суперніка, вядома, быў несправядлівы, але гэта не было пустым выхваляннем, якога чакаеш з боку таго, хто рушыць па жыцці ў “бээмвэ”.

***

Субота. Раніца. Мусіць быць раніца, бо дакладней сказаць немагчыма. Белы шчыльны кісель туману залівае ўсё навокал.

Нарэшце жонка заварушылася: пачала круціцца ў крэсле, уладкоўваючыся зручней. Зараз можна пакінуць машыну на яе.

– Марына! – таргануў яе за плячо Антон. – Марына, слухай, я выйду на хвілінку. Мне трэба. Не спі, чуеш!

Марына ці то згодна, ці то абурана прамармытала нешта, і Антон з палёгкай адчыніў дзверы машыны. Пасмы брыдкага тлустага туману, нібы жывыя, папаўзлі ў салон. Антон з агідай хуценька зачыніў дзверы і апынуўся з туманам сам-насам.

За спінай быў аўтамабіль, адзіная рэальная рэч у гэтым непразрыстым белым насланні. Трымаючы дыслакацыю ў галаве, Антон усляпую, намацваючы наперадзе нагой, адышоў на колькі крокаў. Наперадзе вымалёўвалася нешта падобнае на хмызы. Прынамсі, Антон пераканаў сябе, што гэта менавіта яны, і спыніўся, не адважваючыся рухацца далей, каб не наляцець у гэтым непраглядным малацэ вокам на галінку. Пакруціў галавой, прыслухаўся – нічога не чуваць. Азірнуўся на сваё “рэно”, але машыны ўжо не было бачна – а яна ж усяго за некалькі крокаў! Кінуў позірк на “бээмвэ” – яе пагатоў не было відаць, дарма што чорная.

– Чорт, ну і надвор’е сабачае! – вылаяўся скрозь зубы Антон і, нарэшце, заняў пазіцыю, каб справіць патрэбу. Уласнае пеннае цурчанне было адзіным гукам, які не здолеў увабраць у сябе туман.

З палёгкай Антон памахаў рукамі, пакруціўся ўлева-ўправа, размінаючы спіну пасля скурчанага начлегу. Патрэс рукамі і нагамі і задаволена крэкнуў. Потым асцярожна павярнуўся на пятах, каб не згубіць напрамку, і павольна, прыстаўным крокам рушыў да машыны. Чацвёрты крок, пяты крок... Антон запаволіўся яшчэ больш, каб не ўрэзацца ў сваю бляшанку, бо яна ўсё яшчэ не праступіла з туману. Пяты, шосты крок, з паловаю... сёёёмы крок. Далей Антон выцягнуў перад сабой руку і памацаў наперадзе – паветра. Не можа быць. Ён дакладна памятаў, што прайшоў не больш за сем крокаў. Выставіўшы для надзейнасці наперад ужо дзве рукі, Антон асцярожна прасунуў нагу яшчэ прыблізна на крок, з гучным шоргатам па асфальце, бо падсвядома ўжо баяўся адарвацца хаця б адной нагой ад адзінага пэўнага, што ў яго цяпер засталося. Прашорхаўшы па асфальце яшчэ крокі тры, Антон нарэшце рашуча сказаў сабе, што далей рухацца ў тым жа напрамку не мае сэнсу: так далёка адысці ад машыны ён не мог. Раптоўна ўзнікла паніка – бегчы, куды-небудзь, каб хоць да чаго дабегчы нарэшце, – праступіўшы на ілбе халаднаватымі кроплямі.

Антон шырока расставіў ногі і глыбока ўдыхнуў. “Так, – ён прымусіў сябе засяродзіцца на канструктыўным разважанні, – калі я нейкім чынам збочыў з ранейшага маршруту, мне проста трэба паступова рухацца супраць ходу гадзіннікавай стрэлкі, і тады я абавязкова наткнуся на нашу машыну, альбо, калі я забраў у іншы бок, на “бэху”, ці, крыху далей, на хмызы, і ўжо ад іх зноў зарыентуюся на нашу”.

Пранізлівае пачуццё адзіноты і пакінутасці апанавала Антона. Баючыся зноў падпасці пад панічны прыступ, Антон наўмысна прыняў позу выразнай самаўпэўненасці: склаў рукі за спінай і высока падняў галаву. Нібы прыросшы нагамі да зямлі, цяпер ён сам сабе нагадваў капітана згубленага ў моры карабля. Самотнага, як ніхто, капітана, які застаўся сам-насам са сваёй адказнасцю за прынясце адзіна правільнага рашэння. І ніхто яму не падмога. “Дом, любы дом!” – машына ўжо выглядала на пакінутыя пенаты, дзе пра яго думаюць і чакаюць. “Цьху! Любыя, родныя!” – успомніў Антон пра жонку, што спакойна сапла сабе ў машыне, замест таго, каб непакоіцца, падаць голас, у рэшце рэшт. “Вось так заўсёды: у найцяжэйшыя хвіліны даводзіцца разлічваць адно на сябе”. Антон вырашыў прытрымаць недарэчную пакуль крыўду, але ён яшчэ выкажа жонцы ўсё, што паспеў падумаць на гэты конт.

Прыкінуўшы дыяметр круга, па якім трэба рухацца, Антон пайшоў улева ад месца, дзе так востра ўсвядоміў сваю адзіноту. Прасунуўшыся ўбок метры на два, прыстаўным крокам, каб не збіцца з вызначанай акружнасці, Антон нічога не намацаў. Яшчэ колькі крокаў і з дзясятак рухаў выпрастанымі рукамі-шчупамі і, не паспеўшы адчуць наяўнасць побач з сабой чагосьці шчыльнейшага за туман, ён балюча выцяўся сцягном аб аўтамабіль. Гэта была “бээмвэ”. І хаця Антон разумеў, што можа наскочыць на што заўгодна, гэта было неспадзеўкі. Сэрца, падскочыўшы пад самы гарляк, спалохана затахкала. Варожая машына падалася яшчэ большай, яшчэ чарнейшай пасярод шчыльнай белыні, як бы выцінаная з аксамітнай паперы. Чарненная гаргара была злавесна ціхая, як усё навокал. Ён асцярожна абапёрся рукой аб аўтамабіль і, не здолеўшы ўтрымацца, зазірнуў усярэдзіну. Святло, рассеянае скрозь туман, не давала водбліску, і хаця шыбы былі злёгку зацемненыя, праз іх было відаць. Быў бачны мужчына. Ён напаўляжаў у крэсле, неяк дзіўна падкурчыўшы пад сябе руку. Вочы заплюшчаны. «Спіць», – з палёгкай зазначыў Антон.

Цяпер ён ведаў, куды рухацца: паўдзясятка крокаў наперад ад глянцавага капота – і вось яна, каструлька на колцах, свая, чаканая! Антона захліснулі цёплыя пачуцці да нарэшце знойдзенага прытулку. Ад радасці ён нават перастаў злавацца на жонку, якая дагэтуль млела ў прыемнай соннай напаўпрытомнасці.

Марына нетаропка падцягнула ногі, якія паспела ўладкаваць на вольнае пакуль ад мужа сядзенне.

– Ты дзе быў? – спытала. “Спакойная, нібы кошка!” – зазначыў у думках Антон, не паспеўшы вырашыць, раздражняе гэта ці, наадварот, імпануе.

– Дзе-дзе! Па патрэбе хадзіў! – па інэрцыі гыркнуў Антон. Яму стала сорамна прызнавацца, колькі часу ён праблукаў там, дзе нават трох хвояў не было.

– Колькі ўжо часу? – працягнула яна разморана, прапусціўшы Антонаву раздражнёнасць міма вушэй.

Жончына заміранасць пачала зноў раздражняць. “Быццам ляжыць у сямейным ложку ў выходны дзень! Дзень, што праўда, і ёсць выходны, але ж абставіны...”

– Колькі часу, не ведаю: гадзіннік стаў, тэлефоны мёртвыя. На радыё заводзіцца шкада, ты ж ведаеш, які ў нас акумулятар.

– Дык той ідыёт, мусіць, ад'ехаў ужо. Не такі ж ён ужо дурань, каб столькі тут стаяць, – заўважыла Марына. "Здзекуецца, ці што?" – падазрона зіркнуў на жонку Антон. Аднак падобна было, што яна ўжо ўсё сказала.

– Я глядзеў. Стаіць.

– Вось ёлуп! Што ён, цікава, хоча гэтым давесці?

– Напэўна, тое ж самае, што і мы, – голасам, у якім ужо не было колішняй перакананасці, адказаў Антон.

– Але ж праўда наша, не яго! – адрэзала Марына, якую абурыла гэтая неспадзяваная мужава разважлівасць. – І навошта нам тут стаяць, калі гэта не так?!

Антон паціснуў плячамі. У галаве ўжо неадчэпна дзынкала думка: «Колькі гэта будзе доўжыцца? Што потым?» Цяпер, калі стала відавочнай гатовасць іх візаві трымацца да апошняга, Антона пачала заядаць думка пра тое, як выкруціцца, не згубіўшы твару. Колькі б дакладна часу ні было, хаця гэта і субота, рана ці позна людзі прачнуцца, выйдуць на вуліцу, туман разыдзецца. І машыны паедуць. А яны абодва, менавіта абодва, замінаюць руху. Добра, калі спачатку з'явіцца машына на выезд з двара, каб прымусіць крануцца з месца гэтую чорную дамавіну. А калі пад'едуць за ім?.. Тады ўсё дарма? Але ж непазбежна павінна нешта здарыцца. У рэшце рэшт!

***

«Раніцай 11 кастрычніка жыхарамі дамоў нумар 60/1 і 60/2 па праспекце Газеты "Праўда" былі выяўлены два аўтамабілі, BMW 5 і Renault Kangoo. За стырном BMW знаходзіўся труп мужчыны, уладальніка аўтамабіля, асоба якога была ўстаноўлена згодна са знойдзенымі дакументамі. Па папярэдняй ацэнцы медыцынскага эксперта смерць – меркавана, ад інфаркту – наступіла не пазней, як за тры гадзіны раніцы 10 кастрычніка, то бок з моманту смерці мінула не менш як 30 гадзін. Двое іншых удзельнікаў здарэння, кіроўца і пасажыр "Рэно", муж і жонка адпаведна, знаходзяцца ў стане цяжкага псіхічнага і фізічнага знясілення, аб чым, між іншым, сведчыць іх упэўненасць у тым, што сёння субота, дзясятага кастрычніка, а не нядзеля, адзінаццатага.

"Рэно", відавочна, выконваў манеўр на заезд з галоўнай дарогі пад арку, адкуль, у сваю чаргу, яму насустрач рухаўся другі аўтамабіль. Чаму кіроўцы не здолелі раз'ехацца, не зразумела, бо паводле вынікаў трасалагічнай экспертызы BMW не рабіла спробы здаць назад, каб саступіць кіроўцу "Рэно", які меў перад ім перавагу. Ззаду BMW таксама не было выяўлена ніякіх перашкод для выканання гэтага манеўра.

Пакуль няма тлумачэння, чаму кіроўца "Рэно" не зрабіў спробы выехаць заднім ходам на вуліцу і заехаць у двор іншым шляхам, з боку вуліцы Вакзальнай. Сам кіроўца "Рэно", трыццацідвухгадовы мінчук, а таксама пасажырка, ягоная жонка, не змаглі даць выразнага адказу і адмовіліся ад любых каментароў. Вось адзіная рэпліка, якой здолеў дамагчыся ад іх наш карэспандэнт: "Наша праўда была: мы мелі перавагу!"

Па дадзеным інцыдэнце была ўзбуджаная справа, але звесткі аб ходзе следства пакуль не выдаюцца...»

– Ха! – рохкнуў і ледзь не папярхнуўся неправажаваным батонам Сяргей Пятровіч Саўчыкаў, адказны кватэранаймальнік, на кухні сваёй кватэры ў доме 64 А – акурат тым, што стаіць адразу на ўездзе між дамамі 60/1

і 60/2 – па праспекце Газеты “Праўда”, дзе ён стала пражываў разам з жонкай і дарослым сынам.

– Не выдаюцца! Звесткі я і сам магу паведаміць. Так, Юрась? – падміргнуў ён сыну.

– Вольга, чуеш, зусім забыў расказаць! – павярнуўся Пятровіч да жонкі ў бок пліты, дзівячыся сваёй няпамятлівасці на такое выдатнае здарэнне. – Што ты прапусціла!

– Ну давай ужо! – раздражнёна перарвала мужа Вольга, стомленая за выходныя больш, чым за працоўную пяцідзёнку.

– Дык вось, учора раніцой прачынаюся і не паспеў яшчэ ў прыбіральню схадзіць – грукат у дзверы. А гэта Пятро – куды ён пёрся так рана ў суботу, не ведаю, – карацей, і кажа: “Хутчэй пабеглі на вуліцу, там нешта такое... Не пашкадуеш!” – Ну мы ў двор, а там такі гармідар: людзей плойма, міліцыя, дактары, яшчэ нешта. Карацей, усё, пра што казалі, дадай яшчэ сюды ведаеш, што?.. – ледзь вытрымаў неабходную паўзу. – Гэны кіроўца “Рэно” – гэта той самы хлапец з трэцяга пад’езда з жонкай. Ну, тыя, што, калі які прыблуда на іхняе месца машыну паставіць, падпіраюць яе сваёй белай бляшанкай, нават калі ёсць вольнае месца побач.

– Ага! А спераду такую цыдулку ветлівую кладуць, маўляў, калі наш аўтамабіль вам замінае, патэлефануйце па нумары такім! – уваткнуў свае тры грошы Юрась, якому таксама карцела выказацца на гэты конт. – Блін, а самі, мусіць, адну лічбу пераставілі, і давай, тэлефануй ім, а яны такія потым: “Ой, прабачце, памыліліся трошкі!” Інтэлігенты вашывыя! – на высокай ноце скончыў ён сваё палкае выступленне. Пагарда да тых, хто “ўніверсітэты сканчаў”, у сям’і перадавалася ў спадчыну, таму слова “інтэлігент” тут ішло за абразу нават без эпітэтаў. Аднак гэта не перашкодзіла бацьку выдаць нашчадку поўху:

– Казаў табе, трымай свае меркаванні пры сабе, боўдур! Калісь атрымаеш за свой доўгі язык.

– Ой, не ведаю, што і сказаць, – пахітала галавой Вольга, якую прысутнасць знаёмых дзеючых асобаў змусіла, нарэшце, зацікавіцца здарэннем. – От халера! Праз вашы жахі ў мяне блін згарэў! – яна адставіла патэльню, забыўшыся на яшчэ паўмісы цеста. Дык што, вы думаеце, гэтыя прынцыповыя замарылі таго мужыка?

“Вось гэта думка! Ну Волька, ну галава!” – Пятровіч з павагаю зірнуў на жонку. Так далёка яго дэдуктыўныя здольнасці не сягалі. Як па праўдзе, то ён больш пазлараднічаў наконт уладальніка “бээмвэ”, хай ужо і нябожчыка. “Ну а што? Гэныя “культурныя” хаця б бачна, што самі зарабляюць: жывуць, як усе. А той, іншы, ну адкуль у яго такая тачка? Дзе ў нас можна столькі грошай зарабіць? Хіба накрасці. Ну вось і мае цяпер. Не заўжды, як на Дзяды!” Старэйшы Саўчыкаў страшэнна ўзрадаваўся і нават не падумаў гэта прыхаваць, бо ўсе атрымалі па справядлівасці: непрыемныя суседзі ўвэдзгаліся ў гісторыю, багаты, і таму таксама непрыемны, прыхадзень цяпер не будзе больш раздражняць сваім багаццем, ды і зусім ужо не будзе.

Праз колькі дзён гэтую думку падзялялі – хто сам дапетрыў, каму падказалі – усе Пятровічавы дружбакі і знаёмцы на раёне. А было іх ў Пятровіча шмат. А менш чым праз месяц Родзькі з’ехалі з кватэры па праспекце “Праўды” ў невядомым напрамку. “Вось жа, яшчэ, ціпа, культурныя: ні табе развітацца, ні праставіцца, ні куды падаліся не сказаць!” – пагардліва падвёў рысу пад былымі суседзямі Саўчыкаў.

Станіслаў Ежы Лец



...Баляць галовы і ў святых

ад німбаў залатых...

# Тысяча і адна фрашка

### *УРНЫ*

*(паслявыбарнае)*

Нашчадкі вочы ўтаропілі,
застылі між экспанатаў:
– Што гэта?
– Урны, і кожная ў попеле
спаленых кандыдатаў.

### *МІФАЛОГІЯ*

Я прызнаўся даме ў каханні,
намякаючы на інтым:
"Ці магу, нібы Зеўс, да пані
я прыйсці дажджом залатым?"

А яна смяецца гулліва:
"Вершатворца, будзь мужыком,

*Пераклад з польскай Андрэя ХАДАНОВІЧА.*

а калі зусім немажліва
нам без міфаў, прыходзь быком!”

* * *

Як розняцца людскія лёсы:
хто піша вершы, хто даносы,
а хто другое разам з першым –
даносы выкшталцоным вершам.

### *ІДЭАЛОГІЯ АДНАГО ПІСЬМЕННІКА*

Не марксіст і не каталік –
прававерны алкаголік.

### *НАКАНАВАНАСЦЬ*

Тут бяссільны прымус і вырак,
курсы крытыкі і дрэсуры.
Гэты вырасце й будзе сатырык,
той – начальнік аддзела цэнзуры.

### *ПРА ЛЮДЗЕЙ*

У людзей няшмат паўнамоцтваў:
новы гімн – ці турэмныя шлягеры.
Вось ты ў лагеры пераможцаў,
а пасля ў пераможцаў – у лагеры.

### *РАДАСЦЬ ПЛАГІЯТАРА*

Сяджу ў бібліятэцы, адводзячы душу:
чытаю свае вершы – якія напішу!

### *ФРАШКА*

Жонка прыехала ў госці нарэшце –
цэлы курорт абмяркоўваў патрошку,
як мы ўдваіх, бы жаніх на нявесце,
тыдзень і два не вылазілі з ложку.
Месяц кахаліся мы ўсё нястомней...
Класік пісаў, што нуду абуджае
жонка ў мужчыне. Наіўны!..

P.S. Не помню,
ці я казаў вам, што жонка чужая?

### ФРАШКА

Раз на нудысцкі пляж зайшоў у паліто
эксгібіцыяніст – сышліся дзве культуры.
Ім паказаў усё, а гадам – хоць бы што...
Ён закрычаў: “Банзай!” – і выскачыў са скуры.

### ПРА НЕКАТОРЫХ

“Ідзем да Хрыста!” – яны хваляцца горда.
Навошта? Каб крыкнуць: “Жыдоўская морда!”

* * *

Баляць галовы і ў святых
ад німбаў залатых.

* * *

Жабракі на катэдральным цвінтары
не жабруюць – атрымоўваюць дары!

### НЕПАРАЗУМЕННЕ

На холадзе пляскаў, каб рукі сагрэць, у далоні.
Праходзіў актор – і схіліўся ва ўдзячным паклоне.

### КОЖНАМУ ШТОСЬЦІ НАЛЕЖЫЦЬ

Кожная хвойда
свайго мае Фройда.

Кожная гніда –
свайго Парменіда.

Кожная чарка –
свайго Петрарку.

Кожная вена –
свайго Шапэна.

Кожная здрада –
свайго дэ Сада.

Кожная страта –
свайго Герастрата.

Кожная ср...ка –
свайго Бальзака.

А кожная нага –
свайго Дэга.

Кожная ў свеце штуковіна
мае свайго Бетховена.

Кожны жывы мае нешта.
Астатнім – рэшта.

### *ЦЯЖКАСЦІ ПАРАЗУМЕННЯ*

“Куды ты спяшаеш?” – у хвалі пытаю,
ды за паварот адплыла хваля тая,
а іншая, што наўздагон ёй цячэ,
пытання майго не пачула яшчэ.

### *САТЫРЫЧНЫЯ ЛАЎРЫ*

Сатырыку ўпляце ў вянок лаўровы ліст
пабіты ў вершыках удзячны мазахіст.

### *АДНОСНАСЦЬ*

У сараканожкі – гора:
трыццаць дзевяць мае ног.
Горка скардзілася ўчора,
што няроўна дзеліць Бог.

### *СКРОЗЬ СЛЁЗЫ*

Не кожны ідал неўміручы,
не з кожнай дупы выйдзе дучэ,
не ўсім венерыкам – Венеру,
не ў кожнай сральні быць пленэру,
не кожны шыбенік павешаны,
не ўсе прарокі пішуць вершамі,
не кожны Бог – занудны клірык...
А то б усім – смяротны вырак.

* * *

Цікава, калі ўрэшце пазнаёмяцца
унук паэта з цэнзара нашчадкам, –

каму з унукаў прыйдзецца саромецца,
каму – хваліцца дзедавым заняткам?

* * *

Запытаўся гарбун асвечаны:
“Ці бязгорбы вярблюд – скалечаны?”

## ГРАФАМАНУ

Усякая Муза – жанчына,
што любіць прэзент, камплімент,
ды гвалціць яе – злачынна,
тым больш, калі ты – імпатэнт.

## ПАПЯРЭДЖАННЕ

Герастрат – цяпер паэт, што безгаловым
паліць сэрцы. Нецэнзурным дзеясловам.

## ПРА САЛІДАРНАСЦЬ

Вальтэра купіў нашай моваю,
бо мёртвых калег падтрымоўваю.

* * *

Напісанне гімнаў і пэанаў –
спецыяльнасць нашых графаманаў:
так багоў малюе верш хвалебны,
што сатырык болей непатрэбны.

## ПРА ФРАШКУ

Як фрашку Пеpажыў герой яе гаротны?
Ледзь не памёр, але зрабіўся несмяротны.

## НОЧ

Паэт сніць водары нязнаных нам батанік,
зрываючы ўва сне з русалкі лёгкі станік,
сніць, як па небе цмок ляціць дзівосным дзівам,
і смачныя сыры з халодным моцным півам,
і салаўіны спеў, як месяцовы лівень...
Сніць, і ўсю ноч дрыжыць – і чэшацца ўвесь жнівень,

бо зноў пасцельны клоп, глухі да песні боскай,
прыпаў да генія сваёй душою плоскай.

### *ПРА ЗОСЬКУ*

Зоська-манашка шчыруе ў мальбе.
Злітуйся, Божа, з самога сябе!

### *НА МОГІЛКАХ*

Ходзіць фартуна вядзьмаркай касою.
Смерць не чытае газетаў і кніжак:
як непісьменная цётка з касою,
подпісы ставіць – за крыжыкам крыжык.

### *МІЖ ПАЭТАМІ*

*1. Версія для далікатных*

З ніваў чужых ты збіраеш свае ўраджаі.
– Гэта абраза? – Ды што ты, метафара не абражае.

*2. Версія для таўстаскурых*

Крадзеш ва ўсіх, не шкадуеш ні лаўраў, ні пенсій.
– Гэта абраза? – Ды што ты, я ў пераносным сэнсе.

### *ПАРАДОКС*

З кожным годам пытанне
гучыць у душы ўсё трывожней:
“Калі ж апошняя навалач стане
навалаччу апошняй?”

### *ПРА МОДУ*

Мы ў тонусе й добрым тоне,
глядзім у часопіс новы:
з чым у гэтым сезоне
трэба насіць галовы?

### *СУПРАЦЬ АДКРЫЦЦЯЎ*

На Месяц? Але не са мною,
мне досыць паверхні зямное,
для космасу я стары.

Бо хтось яшчэ вернецца з Месяца
і скажа: “Там шмат чаго змесціцца,
збудуем там лагеры!”

### *МАГІЛА ПАЭТА*

Сюды спяшаецца паломнік,
як да кастальскае бруі.
Стаіць абкаканы ўвесь помнік.
Не страшна. Гэта салаўі.

### *СЛОГАН*

Пацярпеўшы перамогу, свой шалом
патрыёт здае ў металалом.

### *ПРА ПАЭТА*

На шостым тварыў пачуцці.
Бо першых не меў пяці.

### *ПРА НЕЙКУЮ*

Столькі цноты ў гэтай лілеі,
аж сама ад нявіннасці млее.

### *АБО – АБО*

Быць лэдзі – тады ўжо Гадзівай.
Быць сучкай – тады ўжо праўдзівай.

### *ХЛЕБ НАШ НАДЗЁННЫ*

Дзеля хлеба, толькі дзеля хлеба
з кімсьці і катлету з’есці трэба.

### *ПРА ВАКАЦЫІ*

Адпраўляем думку ў адпачынак.
Каб не намякала нам на ўчынак.

### *ПРА НЯБОЖЧЫКАЎ*

Бывае, нябожчык ніяк
не сцяміць, што ён мярцвяк.

### *КЛАСІФІКАЦЫЯ*

І нават найвышэйшы рангам
асёл не зробіцца мустангам.

* * *

Хто спецыялісты ў справах веры?
Люцыферы.

### *ПРА МЕХАНІКУ*

Дасканалай машынкай зрабіў яго страх:
адкрывае душу – пры замкнёных дзвярах.

### *УКАЗАЛЬНІК*

Усе дарогі – да Рыма.
Кожнай можна праехаць міма.

### *ПРА НАМЕРЫ*

Не асуджайце мужчынаў, паненкі і пані!
Іхні намер празрысты, як вашыя ўбранні.

### *ДЗЯЎЧЫНЕ*

Твае вочы мне ззяюць згубаю.
Твае вусны прарочаць файнае.
Адыдзі! Праз цябе, мая любая,
эпігонам зраблюся Гайнэ я.

### *ЗЛАЧЫНСТВА І ПАКАРАННЕ*

Ён чытае ёй вершы – мае, як свае,
а яна яму сэрца навек аддае,
і ніякая песня мая ўжо не ў стане
ліхадзея ад ейнага збавіць кахання.

### *ПРА ЧАС*

Ахвяра і кат –
дзве стрэлкі, адзін цыферблат.

### ПРА ВАЎКОЎ І АВЕЧАК

І сытыя ваўкі, і цэлыя авечкі,
бо сёння гусакі, а заўтра чалавечкі.

### ГЕРОЙ!

Адным пальцам усіх перамог у баі вырашальным.
Бо той пальчык быў указальным.

### ПРА СНАБІЗМ

І ў мышынай дзір*ы*
жывуць снобы: шчуры.

### ПРА АДКАЗНАСЦЬ

Кожны каменьчык лавіны
лічыць, што ён нявінны.

### ПРА ОРГАНЫ СЛЫХУ

Як вухам пачуць немагчыма,
то бліжнія чуюць вачыма.

### У ЦІХІМ ЛЕСЕ

У ціхім лесе паляўнічы ўзвёў курок.
Ліс адказаў: “Я зразумеў намёк!”.

### ДАТКЛІВЫ

Сам не паліў людзей, а толькі дровы нёс,
і вельмі мучыўся, што дым казыча нос.

### КЛЮЧАВОЕ

Знайдзіце ключы хутчэй
для адкрывання вачэй.

### ПРЫВЫКАННЕ

І прынцэса на гарошыне патроху
пятай кропкай прывыкае да гароху.
Што казаць пра чалавечыя галовы,
менш пяшчотныя за ніжнія паловы.

* * *

Вясна, лета, восень, зіма,
Вясна, лета, восень, зіма,
Вясна, лета, восень, зіма,
Вясна, лета, вось...
І нас няма.

### *ПРА ДВУХ НЯБОЖЧЫКАЎ*

Той загінуў, як Гектар,
гэты жыў, як дырэктар.

### *ІНФАРМАЦЫЯ ДЛЯ РОЗДУМАЎ*

Нават з Эльдарада, шчыра вам кажу,
жыхары ўцякаюць за мяжу.

### *ТЫСЯЧЫ ГОД*

Тысячы год, як плывуць, абмінаючы рыфы,
разам міфічная праўда й праўдзівыя міфы.

### *НАПЭЎНА Ж!*

Каб далі нам бочку Дыягена,
доўга б не стаяла ў нас пустой:
бочку Дыягена вокамгненна
мы напоўнім вогненнай вадой!

### *ПРА СВЯТАСЦЬ*

За святыя німбы
гэты біўся з тым бы.

### *АПТЫМІСТЫЧНАЯ ФРАШКА*

Для кожнага асла
дзесь траўка падрасла.

### *ПРА ПЛАНАВАННЕ*

Змяняюцца багі – і ўжо ўзгаднілі мы,
каму блюзнерыць, а каму пяяць псалмы.

### *ПРА ДАРОГІ*

Каб хоць нехта з нашых начальнікаў
галавой зразумець бы змог:
лепш дарогі без указальнікаў
за ўказальнікі без дарог.

### *РУПЛІВЕЦ КУЛЬТУРЫ*

– Цяжка арэцца культурная ніва?
– Я толькі ўгнойваю, – хмыкнуў ляніва.

### *TIME IS MONEY*

“Ці ты ўжо на сёмым небе? Падай хоць маленькі знак!” –
на пахаванні секунды лічыў спадкаемца-сваяк.

### *ТВАР*

Твар палітычнага ладу
добра відаць толькі ззаду.

### *ЗАКОНЫ ФІЗІКІ*

Цяжка паціху-памалу
грымнуцца з п’едэсталу.

### *РОЗДУМ*

Кепска будзе нам, грэшным, нягеглым,
калі неба дамовіцца з пеклам!

Ары Бэн



...ты паказваеш, што кахаеш мяне,
калі загружаеш і разгружаеш пасудамыйку...

# Тыгр у садзе

***Апавяданні***

*Пераклад з нарвежскай Лідзіі ЁХАНСЭН.*

## Талент шчаслівчыка

Ён вярнуўся з працы раней чым звычайна, адштурхнуў жонку ўбок, але так і не пабачыў нічога падазронага ні ў спальні, ні ў шафе. Ён, аднак, не сумняваўся ў сваёй рацыі і гучна вінаваціў яе ў здрадзе. Хільдэ, казаў ён, ты паводзіла сябе непрыстойна. Ён згроб свае рэчы, сеў у машыну і газануў прэч. У гэты час іх сын быў у дзіцячым садку, але ён праехаў міма не развітаўшыся. Хвілінаў праз дзесяць ён мінуў школу, дзе вучыліся дзве дачкі: адна ў другім, другая ў чацвёртым класе. Што б ён ім сказаў? Праз дзве гадзіны ён быў на мяжы са Швецыяй. Хільдэ сказала, што кахае яго, але ён не паверыў. Гэта было жахліва, яму трэба было яшчэ далей заехаць у Швецыю. На скрыжаванні ён не справіўся з кіраваннем і на чырвоным урэзаўся ў машыну.

Хільдэ прыехала ў шпіталь тою ж ноччу. Ён быў слабы і разгублены, казаў, што без яе яму не выбрацца. Хільдэ

плакала, сціскала яго руку. Дактарам давялося ампутаваць абедзве нагі вышэй за калені.

“Добра, што хоць выжыў, – прамовіў ён, прачнуўшыся праз некалькі гадзін пасля аперацыі. – А можа, у мяне талент шчасліўчыка?”

Хільдэ згодліва ківала і заставалася побач, аж пакуль яго не павезлі на апошнюю аперацыю па стабілізацыі. Калі ён прачнуўся другі раз ва ўніверсітэцкай бальніцы Гётэборга, яе не было. На лапіку паперы яна напісала, што больш не ў змозе трываць яго абвінавачанні.

Пазней ён ляцеў самалётам дадому ў Нарвегію і кульгаў з самалёта на спецыяльных пратэзах. У аэрапорце яго сустракалі жонка і дзеці. Хільдэ абняла яго, дзеці з цікавасцю паказвалі на пратэзы, пыталі, ці цяжка было наноў вучыцца хадзіць і ці балела, калі адымалі ногі. Ён зухавата ўсміхаўся, усё яшчэ не разумеючы, чаму яго ўсё гэта навучыць.

## Тыгр у садзе

Неяк увечары, седзячы ў садзе з келіхам віна, ён пачуў глыбокі рык. Рычэла недзе блізка ў яго за спінаю, у кустах, за нейкі метр. Ён падскочыў. Рычэў, пэўна, нейкі сабака або лісіца. Ён часта бачыў лісіц у Лондане. Яны выходзілі пад вечар і елі тое, што знаходзілі ў сметніках і парках, і ён ніяк не разумеў, дзе гэтыя звяры сядзелі ўдзень, у самы разгар лонданскай мітусні. Неяк увечары ён пабачыў за смеццевым бакам казулю. Яна спужалася, калі ён адчыніў уваходныя дзверы, і знікла за прыпаркаванымі машынамі.

Рык быў занадта дзікі: сабака, нават вялікі, так рычэць не мог. Гэта было пагрозлівае рычэнне, больш падобнае да рычэння вялікага прадстаўніка кашэчых. Енк лісіцы хутчэй нагадвае дзіцячы плач. Ён паставіў келіх на садовы стол і пайшоў у дом. Дзеці спалі на другім паверсе. Можа, яны прачнуліся? Ён падняўся ў дзіцячы пакой праверыць. Там было ціха і мірна. Тры дачкі спалі, быццам нічога не здарылася. Ён спусціўся на першы паверх і зачыніў уваходныя дзверы на ўсе замкі. Упершыню за доўгі час ён зачыніў і дзверы на верандзе. На кухні ён святло не патушыў, падняўся ў спальню і лёг.

Сярод ночы яго разбудзіў неймаверны галас. Цяпер гэта быў не рык. Гэта быў сапраўдны роў. Ён выскачыў з ложка і дастаў афрыканскі меч, які захоўваў у шафе спальні. Прабраўся на кухню. Роў далятаў з саду. Ён патушыў святло, павагаўся крыху і падняў жалюзі.

У садзе стаяў тыгр. Ён адклаў меч убок. Тыгр быў самай буйной жывёлінай з тых, што яму даводзілася бачыць. Гэты гук быў невыносны. Тыгр глядзеў на яго. Не было ніякіх сумневаў, што той роў на яго. Ён адчуваў сябе зусім безабаронным. Тыгр лёгка мог кінуцца на дзверы веранды, але нічога не здарылася.

Тыгр задаволіўся ровам. Нібыта яму проста хацелася сябе паказаць. Роў быў страшны, але пагроза падавалася мізэрнай. Гэта быў усяго толькі шум. Ён апусціў жалюзі, падняўся ў спальню і залез пад коўдру, схаваўшы галаву пад падушку. Але шум у садзе ўсё роўна быў чуваць. Ён устаў, пайшоў у ванны пакой і знайшоў сіліконавыя затычкі для вушэй, якімі карысталіся падчас плавання. Запхаў іх у вушы. Дапамагло, больш ён нічога не чуў і хутка заснуў.

Наступным ранкам прачнуўся, выцягнуў затычкі з вушэй і пайшоў

у ванны пакой пагаліцца, пачысціць зубы і прыняць душ. Тыгр, па ўсім відаць, не збіраўся здавацца. Ён зноў пачуў гэты роў і нават падумаў, што роў нашмат падабрэў. Гэты роў быццам казаў яму: “Здароў, стары, а вось і я”. Менавіта так звычайна віталіся сябры – мімаходзь, на стадыёне або ў горадзе. Роў проста зрабіўся не такім пагрозлівым, і ён падумаў, што з ім можна было б зжыцца.

“У садзе стаіць тыгр і раве”, – паведаміў ён жонцы па тэлефоне.

Яна была ў Нью-Ёрку на семінары, і, крыху разважыўшы, ён вырашыў ёй пазваніць. Роў з саду быў чуваць увесь ранак, і ён пераканаўся, што пра гэта трэба сказаць жонцы. Непадобна было, што тыгр збіраецца адступаць. Яе варта было папярэдзіць.

“Чуеш, як раве?” – спытаў ён, паварочваючы мабільны ў бок саду. Тыгр зароў яшчэ мацней. Нібыта хацеў пакрасавацца.

“Мілы, паспрабуй супакоіцца, – сказала жонка і засмяялася. – Я ўжо заўтра прыеду”.

Два дні і дзве ночы тыгр расходжваў вакол дома і рычэў. Нянька заўсміхалася, калі ён папярэдзіў яе, каб не выходзіла ў сад. Яна адводзіць дзяўчатак у школу і забірае іх дадому пасля ўрокаў, але яшчэ ні разу не пракаментавала роў з саду. Ён спрабуе не думаць пра тыгра, хоць роў такі аглушальны, што яго немагчыма не заўважаць, але тое яго больш не турбуе. Ён запэўнівае дачок, што тыгр іх не кране, бо дзверы на верандзе надзейна зачыненыя.

Позна ўвечары прыязджае дадому жонка. Тыгр знік, і ў садзе зрабілася зусім ціха.

– Толькі што тыгр быў тут, – кажа ён. – Можа, ты чула што-небудзь?

– Сам ты тыгр, – кажа яна і цалуе яго.

– Я сур’ёзна. У нас у садзе жыве тыгр.

– Што за вэрхал, – кажа яна, азіраючыся. – Ты што, нават не разабраў пасудамыйку?!

І такое яна заўважае найперш, калі вяртаецца дадому.

– Мяне даймаў тыгр, – адказвае ён.

– Ты нават прыбрацца не можаш, – крыўдзіцца яна. – Ты мяне гэтым не паважаеш.

– Не разумею, – кажа ён.

– Канечне, – працягвае яна. – Ты не разумееш. Любоў – яна ў паўсядзённых справах. Ты паказваеш, што кахаеш мяне, калі загружаеш і разгружаеш пасудамыйку.

– Ты жартуеш.

Паміж імі пралегла бездань. Такое здараецца ўсё часцей і часцей, і ён больш нічога не кантралюе. Амаль гэтаксама, як з тыграм у садзе.

– Я хачу пераехаць назад у Нарвегію, – кажа яна. – Так болей не можа працягвацца. Мы выбіваемся з сіл. Мне не хапае маіх сяброў. Я хачу дадому.

– Так, – адказвае ён. – Шкада, што ты так думаеш. Мне дадому не хочацца.

– Не, – пярэчыць яна. – Ты нічога не разумееш.

Яму здаецца, што ён ізноў чуе тыгрыны роў, ён азіраецца, але ў садзе пуста.

– Я застануся тут, – кажа ён. – Буду круціцца паміж Лонданам і Осла, бачыць цябе і дзяцей на выходных.

– Ты нясеш лухту, – кажа яна, падымаючыся наверх.

Ён застаецца на кухні. Пазней выглядвае ў сад. Тыгр пахаджвае, быццам нічога кепска не здарылася. І калі жонка крычыць яму, што будзе спаць з дзецьмі, тыгр глядзіць проста на яго і раве.

## Усё будзе як раней

У наступныя тыдні ён вяртаўся дадому абходнымі шляхамі, пазбягаў скрыжавання насупраць будынка, ля якога ляжаў веласіпед. Пазней ён праязджаў зусім блізка ад яго, паварочваў проста да двара і з усіх сілаў прымушаў сябе не глядзець назад на дарогу. Тыдняў праз пяць, прачнуўшыся аднойчы раніцай, ён раптам зразумеў, што досыць. Зайшоў на кухню, дзе жонка гатавала снеданне, надзеў камбінезон і абуўся ў гумавыя боты, выпіў кавы, запаранай жонкай, выйшаў з хаты і рашуча скіраваўся да веласіпеда. Кола было перакручанае, паміж спіцамі прабілася трава, на раме і трохкутнічку сядзення назбіралася бруду і смецця. Ён схапіў веласіпед, крыху павагаўся і, рашуча яго падняўшы, хутка рушыў той самай дарогай, якою прыйшоў. У двары ён разабраў веласіпед: адкруціў сядзенне і стырно, склаў пашкоджанае кола і іншыя часткі ў кардонную скрынку і паставіў яе каля смеццевага бака. Ён спадзяваўся, што смеццявоз забярэ кардонную скрынку, нягледзячы на тое, што там метал. Але так не здарылася. Смеццявоз скрынку не забраў.

Мінула некалькі месяцаў. Скрынка набрыняла вільгаццю і разлезлася, адкрываючы груду іржавага ламачча. Па вясне ён узяў скрынку, прынёс на кухню і паставіў перад жонкай на стол. Кубак з кавай выслізнуў з яе рук на падлогу, яна адвярнулася.

“Нам даўно трэба было гэта зрабіць, – сказаў ён. – “Я адрамантую веласіпед. Адскрабу іржу і складу яго наноў. Усё будзе як раней”.

“Ты так думаеш? – яе голас дрыжэў. Яна адкашлялася. – Давай думаць, што ўсё будзе як раней”.

Ён падняў кубак, сеў. У кубка адбілася вушка. Яны сядзелі і глядзелі міма адно аднаго.

## Сахара

Ехалі праз Атлаская горы паскуднай дарогай праз абложны дождж і да Загоры дабраліся аж пад вечар. Начавалі ў “Ла Мамуніі” ў Маракешы, куды цэлы дзень імчалі аж з Танжэра. Па дарозе спыніліся ў адным пасяленні бербераў. Ён набыў сёе-тое ў старых, прыправаў і дыхтоўных нажоў ручной работы. У Загоры амаль не было людзей. Яны выпілі кавы ў вулічнай кавярні, купілі некалькі бутэлек вады. Яму падумалася, што ён ніколі раней не бачыў такога неба над пустыняй.

Пазней яны паехалі па пясках. Праз гадзіну машына ўгрузла. Яны выйшлі, на ўсялякі выпадак узялі з сабою па швэдры, астатнія рэчы пакінулі на пастуха, які стаяў і чакаў іх. Яны ішлі поплеч паўз пустыню. Паветра было прахалодным, неба – высокім і бясхмарным. І ўсё ж ён памыліўся, неба было такое самае, як раней. Слабыя парывы ветру несліся па Сахары. На ім быў гарнітур ад Іва Сэн-Ларана. Так яны ішлі яшчэ доўга. Нарэшце дабраліся да хаткі ля падножжа гор, якія раскінуліся ў пустыні на шмат кіламетраў. Яны фатаграфавалі адзін аднаго, гучна смяяліся. Сахара – не месца для пустых размоваў.

“Ты не хворы, – сказаў ён. – Ты здолеў дабрацца аж сюды які ўжо раз”.

“Я хутка памру, – адказаў сябар. – І гэта адзінае, у чым я цалкам упэўнены”.

Яны зайшлі ў дом. Стол быў накрыты. Хлопчык прынёс ежы і піва. Яны елі моўчкі.

Ён памёр праз два месяцы ў Парыжы. Яго кватэра была заваленая фотаздымкамі, зробленымі ў безлічы вандровак. Адно фота было з апошняй вандроўкі да хаткі непадалёк ад Загоры. На іх тварах былі ўсмешкі. Незвычайны гарнітур. Ён так хацеў. Пол Боўлз паехаў у Сахару на “Ягуары”, поўным гарнітураў, кашуляў і гальштукаў. Ніколі не ведаеш, што чакае цябе за наступным паваротам або наступным барханам, казаў ён. Яны абодва з гэтага смяяліся. Але Боўлз памёр, ён таксама.

## Турдэн Снэ[1]

Мінула некалькі дзён, перш чым мы пачалі размаўляць. Мы спалі кожны ў сваім куце прапахлага цвіллю пакоя, адведзенага нам мадам Розай у пансіянаце Танжэра. Мы абодва былі нарвежцамі, якія незалежна адзін ад аднаго выправіліся ў падарожжа па Паўночнай Афрыцы. Я не быў асабліва сарамлівым у той час і ўступаў у размовы з усякім, хто мне сустракаўся, і акурат праз гэта пазбягаў свайго суайчынніка. Я прыехаў сюды не для таго, каб бачыцца з нарвежцамі.

Аднойчы ўвечары ён стаяў на тэрасе і ціха размаўляў з мадам Розай. На ім былі кашуля і пінжак, доўгія валасы пакрываў капялюш. На шыі было начапляна розных бразготак, а на нагах боты з завостранымі насамі, ці не занадта цёплыя на тутэйшы клімат. Ён быў высокі і самавіты мужчына і называў сябе Турдэн Снэ. Я быў нізкага росту, неахайны з выгляду, адзеты ў джынсы і футболку з надпісам *Ramones* паверх выцвілай выявы чатырох хлапцоў без харызмы. Некалькі месяцаў таму банк даў мне пазыку на атрыманне вышэйшай адукацыі, і я зліняў з універа. Мадам Роза махнула мне, і я неахвотна пашкандыбаў да яе і майго суайчынніка.

“Мадам кажа, што ты знаёмы з Полам Боўлзам”, – сказаў Турдэн Снэ, падаючы мне руку. Рука была моцнай, поціск – доўгім.

“Не варта верыць усяму, што яна кажа”, – адказаў я.

“Добра, – сказаў ён. – Цяпер я напэўна ведаю, што ты з ім знаёмы”.

Наступнага ранку мы снедалі ў кавярні “Метраполь”, а праз некалькі гадзін выправіліся на пляж купацца. Увечары мы пайшлі ў госці да Пола Боўлза. Ён падаў нам чаю і прапанаваў тонкія самаробныя цыгарэты. Яны ляжалі ў невялічкай металічнай скрынцы. Першы раз Турдэн Снэ смаліў кіф. Вырачыўшы вочы, ён сядзеў у маленькім пакоі амерыканскага паэта і балбатаў пра падарожжа да Тымбукту. Больш за ўсё на свеце яму хацелася пабываць у гэтым ахутаным міфамі горадзе сярод пустыні. Боўлз лагодна ўсміхаўся.

“Я ніколі не быў у Тымбукту”, – сказаў ён.

Праз некалькі дзён мы развіталіся з мадам Розай і паехалі цягніком да Касабланкі. Адтуль селі на аўтобус да Заходняй Сахары. У Эль-Аюне мы вырашылі ехаць разам з канваірамі да маўрытанскага Наўкшота. Пакуль

[1] З нарвежскай “Tord” – гром, “Snø” – снег.

ехалі ў грузавіку, нам некалькі разоў траплялісе караваны. Туарэгі без асаблівых высілкаў пераходзілі межы самай вялікай на свеце пустыні, яны гандлявалі з людзьмі розных нацыянальнасцяў, ствараючы надзвычай прыбытковую транспартную сістэму гандлю таварамі ў Сахары.

“Туарэгі даставяць нас у Тымбукту, – сказаў Турдэн Снэ. Ён быў відавочна зачараваны многімі чуткамі пра гэты горад у пустыні. – Я заўсёды ведаў, што Сахара – мой дом. Я належу гэтай пустыні. Я збіраюся правесці ў Тымбукту рэшту жыцця”.

“Цікава, – сказаў я. – Я сам так думаў”.

“Ты сур’ёзна?” – шчаслівы, ён са здзіўленнем глядзеў на мяне.

“А то не, – сказаў я. – А чаму яшчэ я падтрымаў бы гэтае тваё вар’яцкае жаданне ехаць у Тымбукту?”

Больш чым месяц мы дабіраліся з Наўкшота да Тымбукту – аўтамабілямі і аўтобусамі, грузавікамі і, нарэшце, на вярблюдах. У дарозе абодва захварэлі на дызентэрыю. Калі мы нарэшце дасягнулі гэтага самотнага невялікага горада ў самым сэрцы Сахары, то былі такімі выматанымі, што радавацца ўжо не маглі. Мы ўладкаваліся ў гатэлі “Ле Букту” і праспалі цэлыя суткі.

Калі прачнуліся, вечарэла, у напаўпустым рэстаране гатэля нам прынеслі супу. Пасля мы выпілі піва ў бары. Там было поўна турыстаў з Францыі, Германіі і ЗША.

“Мы паставілі сабе мэту і дасягнулі яе, – сказаў я. – І можам гэтым ганарыцца”.

“Я ніколі не падумаў бы, што сустрэну тут немцаў і амерыканцаў”, – сказаў Турдэн Снэ.

Наступнага ранку мы прачнуліся на досвітку. За ноч у шчыліну пад дзвярыма надзьмула дробнага пяску, і ля парога ляжала цэлая намець. Гэта нагадвала снег высока ў гарах Нарвегіі. Турдэн Снэ і я адзеліся і пайшлі паглядзець горад.

Тымбукту – гэта выдумка. Проста купка дамкоў, што прадзімаюцца ўсімі вятрамі сярод бяскрайняга акіяну пяску. У гэтым горадзе няма чаго рабіць.

“Тут смярдзіць”, – сказаў я. – Якога чорта мы будзем тут рабіць?”

“Анічога, – сказаў Турдэн Снэ. – І таму гэта цудоўна”.

Мяне падманулі, прынамсі, складвалася такое ўражанне, хоць я нічога асаблівага і не чакаў. Няўрымслівы, я проста хацеў прыгодаў – бадай і ўсё. У мяне не было ніякага жадання сядзець тут, пасярод вялізнай пустыні, разам з потнымі турыстамі і нейкім вар’ятам, які называў сябе Турдэн Снэ.

“Я ліняю, – сказаў я. – Куды заўгодна, толькі прэч адсюль”.

“Хіба ты не зразумеў, што Тымбукту – гэта месца, якіх шмат унутры цябе самога? – з засмучаным выглядам спытаў Турдэн Снэ. – Гэты горад – мара і ўяўленне. Усім дзецям расказваюць пра Тымбукту як пра самае недасягальнае месца на свеце. І вось мы тут, ты і я. Як нялёгка давялося нам па дарозе сюды! Хай не выклікае ў цябе расчараванне, што вуліцы тут не вымашчаныя золатам і няма ўніверсітэтаў з бяздоннай мудрасцю. Гэтаксама думалі пра Тымбукту першаадкрывальнікі. Як і ты, яны былі вельмі расчараваныя, калі нарэшце сюды дабраліся”.

“Божачкі, ты гаворыш як гід-экскурсавод”, – сказаў я.

Турдэн Снэ заспяваў нешта сабе пад нос і рушыў уздоўж пыльнай вуліцы. Па-заліхвацку насунуўшы капялюш набакір, ён фатаграфаваўся

з турыстамі і паводзіўся так, нібыта ладзіў атракцыён. Мяне гэта яшчэ больш прыгнятала. У Тымбукту нельга было заставацца.

Я склаў заплечнік і купіў білет на стары вінтавы самалёт, які лятаў двойчы на тыдзень да Мопці. Далей я думаў скіравацца да Бамака, сталіцы Малі.

Я з'ехаў не развітаўшыся.

Два разы я вяртаўся ў Тымбукту, каб адшукаць яго, але не змог. Калі я сустракаю людзей, якія бывалі там, я пытаюся, ці не трапляўся ім загадкавы дзівакаваты нарвежац у капелюшы, з бразготкамі на шыі і ў пінжаку. Адказ заўжды адмоўны. Добра знаёмыя з Тымбукту кажуць, што нарвежцы там ніколі не жылі. Я амаль прымірыўся з тым, што, пэўна, сам яго выдумаў.



Васіль Жуковіч



...кахаюць не за тое, тое і тое... –
найтанчэйшая, найдалікатная з'ява
не паддаецца тлумачэнню...

# Сузор'я сусветнага зоркі

## Бацька беларускай свабоды, або Справа прарока – праўдзівае слова

### 1

Бог суддзя тым літаратуразнаўцам, якія ў свой час расхвальвалі ляўкоўскі цыкл Янкі Купалы, а цяпер, у XXI стагоддзі, спакойненька кажуць, што пясняр быў зломлены ў трыццатыя гады...

Нас, новыя і новыя пакаленні, не можа не засмучаць тое, што Купала, жывучы ў адной часавай прасторы з дыктатарам і катам народаў, аказаўся ахвяраю сумна вядомай таталітарнай сістэмы. На вялікі жаль, ён не пераджыў цмока-крывасмока. Патрапіў пры яго неабмежаванай уладзе пад цкаванне, допыты і пагрозы. Творцу прышывалася контррэвалюцыйная дзейнасць. Спробай самагубства ў 1930-м годзе драма паэта не скончылася, яна перарасла ў трагедыю. Таленавітае расследаванне Барыса Сачанкі «Сняцца сны аб Беларусі» (1988), па сутнасці, не пакідае сумнення; на загадку смерці Янкі Купалы дадзена да-

волі перараканаўчая адгадка – заказное забойства. Значыць, спроба самагубства і забойства Купалы – звёны аднаго ланцуга: курс на маральнае і фізічнае знішчэнне паэта як «кіраўніка контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай арганізацыі», узяты ў 1929-1930-м гадах, рэалізаваўся ў 1942-м.

Што ж не мог дараваць сталінскі людажэрны рэжым нашаму класіку? А тое, што і царызм не дараваў Кабзару, – адкрытага закліку да народа паўстаць, парваць кайданы, адбудаваць незалежную Бацькаўшчыну. Тут яшчэ існуе пікантны факт: Купала рэзкай крытыкай рэагаваў не раз на крывадушнасць бальшавікоў, іх парадкі, а перамогу ў рэвалюцыі называў бальшавіцкім пераваротам. Такая дзёрзкасць, вядома ж, не забылася.

## 2

Пякучы боль і смутак наш (з прычыны таго, як трагічна склаўся лёс Янкі Купалы ў савецкі перыяд) не павінны засланіць радасць асэнсавання творчага подзвігу геніяльнага песняра. Ён паспеў сказаць Бацькаўшчыне і занёс у скрыжалі памяці народнай і гісторыі самыя запаветныя думы. Між іншым, у адным з вершаў ён называе Тараса Шаўчэнку **праслаўным бацькам украінскай свабоды.** Думаецца, што бацькам беларускай свабоды можна называць Купалу, хоць і папярэднічаў яму палымяны, мужны і самаахвярны Кастусь Каліноўскі, з яго барацьбой і прагай перамогі, з яго выбітнай «Мужыцкай праўдай», «Лістамі з-пад шыбеніцы», а таксама не менш бліскучай польскамоўнай публіцыстыкай. Не малады Кастусь, а сталы і вопытны творца адпавядае найменню – бацька. Свабода, воля, незалежнасць для Купалы – паняцці святыя. Калі ў Каліноўскага адзіны вораг – маскаль, то ў Купалы вораг той, хто нясе няволю іншаму народу. У 1926-м годзе, азірнуўшыся на здзейсненае за 22 гады, сваціла першай велічыні ў нацыянальнай літаратуры не спрабуе ўзвесці сабе нейкі высачэзны помнік, пахваліць сябе за тое, што ён у стагоддзе крыві і слёзаў праславіў свабоду. У вершы «За ўсё...» гаворыцца проста і мудра пра самае істотнае:

Я адплаціў народу,
Чым моц мая магла:
Зваў з путаў на свабоду,
Зваў з цемры да святла.

На крутых гістарычных паваротах, калі і ў лёсе прыгнечанага народа можа адбыцца круты паварот, не мог маўчаць народны апостал, які на самым пачатку шляху зразумеў, што ён – «для бедных і загнаных», «у адных закут з імі кайданах». У адным з першых твораў Купалы «Чаго б я хацеў» (1905) прысутнічае ўжо матыў выбару, сумлення мастака:

Не хачу весяліцца, гуляць,
Дзе бяда, слёзы, скаргі ўвакруг,
Дзе другія ў няволі сядзяць,
Дзе замёрлі і сіла і дух!..

Як бачым, сваю місію будзіцеля і прарока творца адчуў рана. Не выпадкова ён, вясковы хлопец Іван Луцэвіч, абраў сабе такое народна-паэтычнае імя – *Янка Купала*; ужо ведаў: будзе разам з усёй Старонкай Роднаю шукаць таямнічую кветку шчасця, будзе «З цэлым народам гутарку весці...» А гутарыць з народам можна выключна моваю праўды, якую горкаю яна б ні была. Дый гэтага мала: праўду нельга казаць вяла, трэба – пранікнёна. І тут паспрыяла сама прырода таленту Купалы: ён – бліскучы майстра лірыка-публіцыстычнага верша, у якім можна сканцэнтраваць магутную энергію думкі і пачуцця.

**3**

«А хто там ідзе?» (1905-1907) – вырвалася з глыбіні сэрца паэта. Пятнаццаццю радкамі геній як бы падкрэсліў перад усім светам: павінна выстаяць і стацца вольнаю нацыя, якая ў бядзе, горы, «На худых плячах, // На руках ў крыві, // На нагах у лапцях» нясе сваю крыўду, прагнучы справядлівасці з неадольным жаданнем: «Людзьмі звацца». Далёка-далёка пайшло рэха дзейсных словаў. Нездарма кампазітар Рагоўскі стварыў да іх музыку – атрымаўся гімн. Крыху пазней, у 1911-м, з'явіўся ў паэта яшчэ адзін гімн – «Не загаснуць зоркі ў небе» (музыка Янчука) з такой надзеяй: «Не загіне край забраны, Покі будуць людзі». Спадзяванні, выказаныя ў гімнах, падмацавала гаючая «Мая малітва» (1906):

Я буду маліцца і сэрцам, і думамі,
Распетаю буду маліцца душой,
Каб чорныя долі з мяцеліцаў шумамі
Ўжо больш не шалелі над роднай зямлёй...

Па чысціні, красе і сіле пачуццяў з купалаўскаю малітваю можа параўнацца яго «Спадчына» (1918):

І ў белы дзень, і ў чорну ноч
Я ўсцяж раблю агледзіны,
Ці гэты скарб не збрыў дзе проч,
Ці трутнем ён не з'едзены.

Неверагодна развітая інтуіцыя прарока і пакутніка за Беларусь не можа не ўзрушаць, калі ўлічыць, якія жахлівыя падзеі навальваліся неўзабаве на нашую краіну.

Зноў і зноў, з гранічнай шчырасцю і трывогаю, на мяжы чалавечых высілкаў, звяртаўся паэт да свайго народа, заклікаючы яго стаць гаспадаром сваёй долі на сваёй зямлі:

Чужак-дзікун, крывёю ўпіўшысь свежай,
Запрог цябе ў няволю, ў батракі
І тваю маці Бацькаўшчыну рэжа,
Жывую рве на часці, на кускі.

«Упаў народ. Змарнеў народ...» – з вострым болем заўважае пясняр і з адчаем паўтарае: «Паўстань, народ!», «Паўстань, народ, прачніся, беларусе!» Падобнага хвалявання за лёс Бацькаўшчыны, змагання за нацыянальную ідэю мы не знойдзем больш ні ў кога з самых слынных нашых творцаў. Шмат могуць сказаць чуйным душам беларусаў нават найменні вершаў славутага песняра. Вось некаторыя з іх: «Ворагам Беларушчыны», «Роднае слова», «Беларушчына», «Маладая Беларусь», «Беларус», «Забраны край», «Свайму народу», «Беларускія сыны», «Паўстань», «Перад будучыняй», «Зваяваным». Відаць, толькі ў сусветнай літаратуры можна знайсці аналогію: хутчэй за ўсё геній нашага творцы-змагара сваёй народнасцю і самаахвярнасцю набліжаецца да генія Тараса Шаўчэнкі. Застаецца заўважыць: Шаўчэнка ўзышоў на сваю галгофу ў 33 гады, як і Хрыстос, Янка Купала – у 48. І да канца жыцця абодва пакутавалі, адзін – больш фізічна, другі – маральна.

Сярод вершаў 1918 года, моцных двухадзінствам заклікаў і веры «ў народ і край свой» (успомнім хоць бы ягоныя «Час!», «На сход!», «Мая вера»), ёсць і такія (як, напрыклад, «У вырай»), дзе дужа выразнае расчараванне і дзе тая самая вера ў народ падкошана пад корань:

Вы не ўмееце йшчэ, гусі,
Выракацца Беларусі,
Як умеюць людзі.

А ў адным з выданняў савецкага часу я некалі неспадзявана сустрэў верш «О так! Я – пралетар!..», датаваны 1924-м годам. Сэрца працінае горкая іронія апостала, што зведаў усё вераломства чужой улады, усю горыч чужое ідэалогіі:

Мне Бацькаўшчынай цэлы свет,
Ад родных ніў я адвярнуўся.
Адно... не збыў яшчэ ўсіх бед:
Мне сняцца сны аб Беларусі!

Але гэта ўжо фактычна было развітанне Купалы з Купалам-прарокам. Праўда, яшчэ ў шэрагу вершаў 1926 года часова адрадзіўся грамадзянскі бунт. Ён асабліва моцна адчуваецца ў вершы-праклёне “Каб...”, у якім ажно дванаццаць чатырохрадкоўяў. Заўважу: пасля гімнаў і малітвы з’явіўся праклён; наколькі ж рознымі пачуццямі, нярэдка палярнымі, валодаў наш нацыянальны волат! Аднак і ў гімнах, і ў малітве, і ў праклёне адчуваецца аднолькава востры боль народнага паэта за Бацькаўшчыну, і скрозь у яго прысутнічае грамадзянская жарсць. Вось дзве завяршальныя страфы гэтага твору:

Каб таго парвала
З сэрцам на тры часці
І звяр’ё збрылося
Мяса параскрасці, –
Хто быў прычыніўся
Нашаму падзелу,
На кускі парваўшы
Маці роднай цела.

Радкі, як бачым, недвухсэнсоўныя, таму яны ў савецкія часы апускаліся. А ў вайну скажалася найменне верша “Каб...” У газеце “Раздавім фашысцкую гадзіну” і ў літаратурным дадатку да “Савецкай Беларусі” яго друкавалі ў перайменаваным выглядзе: “Фашысцкім катам”.

*

Справа прарока – праўдзівае слова. Паэтычнаму слову Купалы, палкаму і праўдзіваму, не замінала яго публіцыстыка, адкрытая, вострая, часта дасціпная. Самыя надзённыя, актуальныя, лёсавызначальныя пытанні падымаў пясняр і ў гэтым жанры: «Ці маем мы права выракацца роднай мовы», «Вера і нацыянальнасць», «Адбудова Беларусі», «Незалежнасць», «Моладзь ідзе!», «Беларускае войска», «Зямельная спекуляцыя», «Справа беларускага нацыянальнага гімна»...

Калі яшчэ ўзяць пад увагу паэмы і драматургію песняра, гэтыя шэдэўры, непараўнальныя скарбы мудрасці, гэтыя ўзоры любові да ўсяго святога і нянавісці да ўсяго здрадлівага і агіднага, то зусім відавочна, што Янка Купала – нашая агульнанацыянальная святыня, нашая паходня, наш сцяг свабоды, дзякуючы якім абавязкова адбудуем рэальную незалежнасць.

## “Геній, народжаны ў рабстве, або “...За Украіну яго замучылі калісь”

Тарас Шаўчэнка (1814-1861) глыбока ўзрушае душу неверагодна цяжкім жыццёвым лёсам і надзвычай яскравым, высокім творчым і грамадзянскім подз-

вігам. З усіх геніяў свету ён, відаць, самы спагадлівы да людзей паднявольных, бяздольных, прыніжаных і зняважаных, да самазабыцця ўлюбёны ў Бацькаўшчыну і гнеўна-непрымірымы да яе прыгнятальнікаў і здраднікаў.

Ён абсалютна шчыры ў сваіх творах, пра што, дарэчы, так дакладна гаворыцца ў адным з праграмных і выніковых вершаў "Доля" (1858):

Ми не лукавили з тобою,
Ми просто йшли: у нас нема
Зерна неправди за собою.

Жыццё Тараса Шаўчэнку выпрабоўвала на трываласць з самага дзяцінства. Народжаны ў сям'і прыгонных сялян, па сутнасці ў рабстве, ён рана асірацеў: у дзевяць гадоў страціў маці і мусіў трываць жорсткасць мачахі, а ў адзінаццаць застаўся круглым сіратою. Словам, шлях выпрабаванняў і пакутаў спазнаў змалку. Біяграфічныя факты сведчаць, што падлетку давялося быць казачком у пана-самадура Энгельгардта, зведаць прыніжэнне і здзекі. З 15-гадовага ўзросту быў адарваны ад роднае зямлі, ад Украіны, змушаны як дваровы таго самага пана пераехаць з ім у Санкт-Пецярбург.

Аднойчы стаўся лёс літасцівы да маладога творцы. Дзякуючы сваймy яркаму, маштабнаму таленту і чулым, высакародным людзям – мастаку К. Брулову, паэту В. Жукоўскаму ды іншым – Тарас Шаўчэнка аказаўся выкуплены з прыгону. Пра тую ўзрушальную Тарасову радасць (радасць да слёз) дапытлівы чытач можа ўведаць з яго аўтабіяграфічнай рускамоўнай аповесці "Художник". Вось толькі адзін узор з мастацкага палатна:

"– Мне говорил вчера хозяин, что я... – И он остановился, как бы боясь окончить фразу. И, помолчав немного, едва слышно проговорил: – что я отпущен!.. Что вы... – И он залился слезами".

Вызвалены з прыгону паэт і мастак вучыўся ў Пецярбургскай акадэміі мастацтваў (1838-1845), працаваў у Кіеўскай гістарычна-археалагічнай камісіі (1845-1847). Здавалася, усё складваецца, урэшце, найлепшым чынам. Усё і склалася б у яго жыцці добранадзейна, калі б ён думаў-дбаў толькі пра сябе, свой супакой. Але Тарас Шаўчэнка не мог быць свабодным у несвабоднай краіне. За незалежнасць Украіны ён змагаўся праўдзівым словам. І гэтая адзіная зброя патрыёта наводзіла жах на царскіх каланізатараў, прыводзіла іх у шаленства. Неўзабаве чорныя хмары сышліся над яго яснай галавою, пагрозліва грымнуў гром. Тараса Шаўчэнку ў красавіку 1847 года арыштоўваюць і аддаюць у салдаты ажно на 10 гадоў за тое, што, як вынікае з пратакола допыту, паэт пісаў "*самые дерзкие стихи против государя императора*".

Мелася на ўвазе і сатырычнае выкрыццё царскага самадзяржаўя, і пратэст супраць сацыяльнага прыгнёту ў цэлым шэрагу твораў, і гранічна адкрыты заклік, выказаны ў "Запавеце" (1845): "Поховайте та вставайте,// Кайдани порвіте // І вражою злою кров'ю // Волю окропіте". Ну, вядома, "каранаваны кат" цар Мікалай І, той самы, што прагнуў быць асабістым цэнзарам Аляксандра Пушкіна, той самы, што ў 1840 годзе загадаў забараніць нават упамінанне наймення Беларусь, не мог стрываць бунтоўнага Кабзара. Не хто іншы – ён асабіста абцяжарыў дзесяцігадовае зняволенне творцы-свабодалюба забаронаю "*писать и рисовать*". Апроч таго, ім жа быў падпісаны і "*наистрожайший надзор*".

Кара жорсткая, кара лютая. А падараванае Богам не мог адабраць ніхто, нават цар. Паэт і ў змрочных казематах Орскай крэпасці знаходзіў выйсце: для занатоўвання вершаў рабіў з паперы сшытачкі, якія непрыкметна хаваў, насіў за халявамі цяжкіх салдацкіх ботаў. У гэткіх умовах стваралася бальшыня вершаў, у тым ліку такія шэдэўры, як "Мені однаково, чи буду...", "Садок вишневий коло хати...", "Царі", "Пророк", "І досі сниться: під горою..."

Але не забудзьма: Тарас Шаўчэнка быў асуджаны судом самадзяржаўя ва ўзросце ўкрыжаванага Ісуса Хрыста, у 33 гады. Як тут утрымацца, каб не сказаць: у росквіце не толькі фізічных, а і творчых сілаў, хоць бы таму, што на той час ён ужо быў знакамітым аўтарам сусветнавядомага цяпер шэдэўра "Заповіт". І як тут не заўважыць: дзесяць гадоў няволі прыйшлі пасля дзевяці гадоў свабоды. Такі рэзкі перапад у маральным і фізічным адчуванні не мог не адбіцца на характары твораў. Усё больш паэт пачаў скардзіцца на разлуку з Украінай, на няволю і нядолю, на страчаную маладосць, адзіноту і слёзы. Не менш чым жорсткасць ворагаў яго раніць глухата сваіх людзей. У вершы "Хіба самому написать..." (1849) ёсць радкі: "Ніхто не гавкне, не лайне, Неначе й не було мене". Гаворка тут пра тое, што замоўчаны быў ягоны "Кабзар".

Працяглая жорсткая няволя падарвала здароўе Шаўчэнкі. Узгадваюцца балюча-праўдзівыя, шчымлівыя радкі Купалавай паэмы "Тарасова доля":

З'ела царскае каранне
Тарасову сілу, –
Менш глядзеў ужо на неба,
Болей на магілу.
Мо пісаў бы свае думы
Ён крывёй і далей,
Але з жылаў яго каты
Кроў павыпівалі.

А вось і словы тады жывога сведкі – сваё ўражанне занатаваў мастак Кавалёў, які ўбачыў Тараса Рыгоравіча адразу пасля вяртання яго з выгнання: "Передо мною был совершенно исхудалый, лысый человек, без кровинки в лице: руки его сквозили до того, что видны были насквозь кости и жилы... Я чуть не прослезился..."

Канечне, доўгія гады няволі, фізічныя і маральныя пакуты ўкарацілі жыццё слыннага Кабзара, але не зламалі яго волі, ён не прасіў царскай літасці. Быў і застаўся сумленнем і гонарам вольналюбівае нацыі, яе відушчым і пільным зрокам, чуйным сэрцам і слыхам, яе неўміручым голасам. Свету ён пакінуў багатую літаратурную спадчыну, скарбы сваёй глыбокай, уражлівай душы.

## 2

Тое, што на інтэлектуальным небе Украіны, у космасе яе прыгожага пісьменства заззяла яскравая зорка паэзіі Тараса Шаўчэнкі, засведчыла з'яўленне балады "Прычынна" (1837). Пачынаецца яна крылатым радком: "Реве та стогне Дніпр широкий...". Першыя дванаццаць радкоў гэтай балады даўно сталі адным з неафіцыйных агульнанародных гімнаў Украіны, іх ведае кожны свядомы ўкраінец. Міжволі згадваецца Багдановічава трапнае азначэнне: "*Ёсць зоркі, якія настолькі блізкія адна да адной, і так роўна зліваюць сваё святло, што здаюцца нам адным непарыўным цэлым. Двайнымі зоркамі называюць гэтыя свяцілы. Іх доля стала доляю музы Шаўчэнкі і ўкраінскай народнай паэзіі: двайною зоркаю ззяюць яны ў свеце мастацтваў і красы*". Ён жа, Максім Багдановіч, першы з беларусаў вызначыў сутнасць чароўнай паэзіі Кабзара, адзначыў яе **красу і сілу,** яе буйны маштаб, у асобе Шаўчэнкі ўбачыў паэта, "*які ў формах строга нацыянальных выявіў агульначалавечы змест, прымушаючы чытача перажываць цэлую гаму самых разнастайных пачуццяў, пачынаючы ад страснага гневу і абурэння і канчаючы пачуццямі любові і ўсёдаравання*".

Каб пераканацца ў тым, што ў творах Кабзара народны характар і нацыянальна-украінскі каларыт, не трэба доўга шукаць прыклады – гэта відаць адразу, паўсюль. Усё, што выйшла з-пад пяра Шаўчэнкі, сведчыць пра тое, якое пяшчотнае і ранімае сэрца меў (і яно пульсуе ў яго неўміручых радках) славуты пясняр, як ён умеў прыслухацца да народных бедаў, падысці да чалавечага жыцця, знайсці

там і хараство, і ласку, і любоў. Паэзія Шаўчэнкі блізкая да народнае не толькі сваёй формаю, сваёй як бы гутарковаю мовaю – яшчэ і адметнай, пранікнёнай танальнасцю. Такая паэзія ідзе з сэрца ў сэрца, яе аўтар – шчодры мастацка-эстэтычны донар. Зусім невыпадкова з усіх украінскіх класікаў Шаўчэнка аказаўся найбольш, калі можна так сказаць, музычна-спеўны: на яго словы створана больш за 80 адных толькі народных песняў.

Натуральна, першай зонай уздзеяння мастацкага слова вялікага Кабзара з'яўляецца пачуццё, а другою – думка, свядомасць, – паэзія найперш кладзецца на сэрца, потым усведамляецца, асэнсоўваецца. Творца ўражвае любоўю да чалавека, роднага краю, сялянскага кутка, да садка вішнёвага каля хаты, да беленькай хаціны між вербамі над вадою, да "раю на зямлі", да маладой маці з малым дзіцем, да старых, да сям'і, словам, да ўсяго таго, што створана для шчасця, для гарманічнага жыцця, але яшчэ больш глыбока кранае выступамі супраць амаральнасці, сваёй няўхільнай прагай справядлівасці, чысціні ў людскіх стасунках. З болем шчымлівым ён распавядае пра цяжкую долю прыгнечанага народа. З мноства такіх твораў першы выступае "Сон" ("На панщині пшеницю жала..."). Шаўчэнка – творца выключнай сацыяльнай актыўнасці, які нязменна звяртаўся да вобразаў сірот, матуляў, дзяцей, пакрыўджаных людзей; дужа хваляваў яго і лёс дзявочы, пра што гавораць вершы: "На городі коло броду...", "Думка" (*Нащо мені чорні брови...*), "Не тополю високую...", "Маленькій Мар'яні", "Не вернувся із походу...", "Ой, маю, маю я оченята..." і многія іншыя. Шаўчэнкавы творы поўныя стваральнай энергіі. Не магу яшчэ раз не звярнуцца да яго аповесці "Художник": «Много, неисчислимо много прекрасного в божественной, бессмертной природе, но торжество и венец бессмертной красоты – это оживленное счастьем лицо человека. Возвышеннее, прекраснее в природе я ничего не знаю". Ён марыў пра шчасце чалавечае. Пікам яго любові і трывог сталася Бацькаўшчына, Украіна. Першымі з вершаў патрыятычнага кшталту прыходзяць у памяць "Заповіт" і "Мені однаково, чи буду..." У другім з іх ёсць такія словы: "...за Вкраїну його замучили колись". Тут паэт гаворыць пра сябе, пра свой горкі лёс. Шырока вядома, што за Украіну-маці яе верны Сын выступіў супраць царска-паліцэйскай сістэмы, якая ўзаконьвала нацыянальны прыгнёт і ўдушэнне ўсялякіх вольнадумстваў. Ён ведаў, што яго чакалі цяжкія выпрабаванні, і пайшоў насустрач ім, пад непераходныя ўдары, – на кару, на пакуты. А гэта ёсць подзвіг і перамога чалавечага духу, перамога над злом.

Шмат што радніла Тараса Шаўчэнку з Беларуссю. Яго шляхі-дарогі не раз пралягалі праз нашую краіну, якая давала яму нямала ўражанняў для новых твораў. У Пецярбургу Кабзар пазнаёміўся з яркімі прадстаўнікамі беларускай творчай інтэлігенцыі – Янам Баршчэўскім, Рамуальдам Падбярэзскім ды іншымі. Слынны ўкраінскі паэт цікавіўся паэтамі-беларусамі і асабліва – песнямі нашага народу. Быў Шаўчэнка знаёмы і з беларускім мастаком Башылавым, чый талент цаніў Леў Талстой.

Геній – з'ява, якая абавязкова выходзіць за межы нацыянальныя, гэта – з'ява сусветнага маштабу. Вялікі Кабзар блізкі розным народам, і асабліва тым, якія зведалі на сабе шматвекавы цяжар няволі з боку больш моцных дзяржаваў. Беларусам ён не толькі блізкі, а і дарагі, ён у нас – любімы, ён нам – як родны. Бо калі сваёй неўміручай творчасцю змагаўся за незалежную, самастойную Украіну, то гэта было – хай сабе ўскоснае – змаганне і за вольную Беларусь.

## Беларусь – калыска генія

**1**

У тую ўрачыстую ноч 24 снежня 1798 года ў глыбінях галактыкі акурат над Завоссем зырка ўспыхнула калядная зорка ПАЭТА. Дата яго нараджэння трывала

прапісана ў календары UNESCO, бо цяпер ён, Адам Міцкевіч, – сусветна вядомы творца. Ягоны ўнёсак у культуру і асвету дужа важкі. Гуманістычныя ідэі, якімі прасякнута ўся яго літаратурная спадчына, працягваюць служыць дабру. Дэмакратыі. Радзіме і Сусвету. Краса яго высокай і шчымліва-праніклівай паэзіі ў розных кутках свету зачароўвае тых, хто любіць мастацкае слова.

Постаць Адама Міцкевіча заўсёды была і застаецца надта прыкметнаю ў сферы прыгожага пісьменства. Яго любілі і любяць, шанавалі і шануюць розныя народы, а заўважалі і заўважаюць найперш іх вялікія сыны. Вельмі высока яго цаніў знакаміты творца, патрыёт Украіны Іван Франко. Міцкевіч, на яго думку, «...один з найгеніальніших людей, яких видало людство», пра што можна прачытаць у 39-м томе (с. 256) 50-томнага выдання «Твори». Заслужанаю і далёка чутаю славаю Міцкевіч карыстаўся яшчэ ў маладыя гады. Богам назваў яго ў адным з вершаў Яўгені Баратынскі. Як засведчылі сучаснікі генія (у прыватнасці – Антоні Эдвард Адынец у сваіх «Пісьмах з падарожжа»), Аляксандр Пушкін, сонца рускай паэзіі, на адной з вечарын сваіх усклікнуў, узрушаны імправізаваннем Міцкевіча: «*Які геній! Які святы агонь! Што я побач з ім*!»

Адам Міцкевіч бачыўся Пушкіну найперш Літвы натхнёным песняром.

Там пел Мицкевич вдохновенный
И посреди прибрежных скал
Свою Литву воспоминал.

*(З дадатку да «Яўгенія Анегіна»).*

Неяк прачыталася ў прэсе, што ў 80-я гады XIX стагоддзя жамойты (у цяперашнім разуменні – летувісы) называлі Адама Міцкевіча вельмі па-свойску – Адамас Міцкус, – смела залічыўшы яго, так бы мовіць, у стан сваіх нацыянальных волатаў духу. Далёка не ўсе цяпер разумеюць, што творца такога маштабу, дасведчаны ў пытаннях гісторыі, у той час, калі Беларусь ляжала бяспраўная і не мела афіцыйнае назвы, не кажучы пра акрэсленыя межы, – ён сваю Бацькаўшчыну, з яе цудоўнай моваю, «самай гарманічнаю» (ягоныя словы!), з багатым нашым фальклорам, называў Літвою – хоць бы таму, што ўваходзіла яна ў свой час у склад самавітага Вялікага Княства Літоўскага, дзе ў свой час і сталіцай узвышаўся яго родны Навагрудак. Ад неразумення Літву тых далёкіх часоў атаясамляюць з Летувой сучаснаю. Адно добра, што і ў цяперашняй Летуве да нашага слыннага ліцвіна ставяцца як да свайго. Не на словах, на справе – не перастаюць друкаваць Міцкевічавы шэдэўры.

Але найлепш ушаноўваюць яго палякі. Пра гэта сведчыць мноства фактаў. Па-першае, у Польшчы пастаянна перавыдаюцца творы Міцкевіча як найвялікшага нацыянальнага паэта. Так, у 1995 годзе завершана апошняе па часе выданне ўсёй яго літаратурнай спадчыны – 17 тамоў. (Цікава, што з іх чатыры апошнія – лісты.) Па-другое, творчасць генія-ліцвіна там не толькі чытаецца, а й вывучаецца і ўсебакова даследуецца. У 1977 годзе было ажыццёўлена ўнікальнае 11-томавае выданне: “Słownik języka Adama Mickiewicza”, дзе па сутнасці прааналізаваны ўсе ягоныя творы, дадзены навуковы каментар. Не магу не назваць яшчэ адно дужа каштоўнае і ёмістае (больш за 600 старонак) выданне: «Mickiewicz: Encyklopedia» (Warszawa, Choryzont, 2001). Па-трэцяе, шаноўная наша суседка Польшча дазволіла сабе раскошу некалькі разоў экранізаваць «Пана Тадэвуша», апошняя экранізацыя адбылася ў 1998 годзе. Малайцы палякі! Нам такіх пабольш бы якасцяў! А мы, пэўна, за шмат гадоў не выказалі ім падзякі хоць бы за тое, што і **парэшткі** Міцкевіча перавезлі з Францыі бліжэй да Айчыны, захаваўшы іх у Кракаве, пад скляпеннямі кафедральнага сабора Вавельскага замка яшчэ ў 1890 годзе. Бліжэй да Навагрудчыны!

Не забывала і не забывае пра Міцкевіча Расія; расійскімі перакладчыкамі і выдавецтвамі зроблена нашмат больш, чым нашымі. Гэта як бы плата за цяжкія грахі ўдушальнай расійскай імперыі, якая пасля разгрому ў 1823 годзе ў Вільні прагрэсіўных таварыстваў філаматаў і філарэтаў, арышту Міцкевіча, як і многіх яго сяброў, пасля працяглага следства і ў выніку прысуду спецыяльнай камісіі, зацверджанага 14 жніўня 1824 года «ўсялітасцівейшым» царом Аляксандрам I, знявольвала маладога паэта, асуджаючы на пажыццёвае выгнанне з роднага краю ў Расію. Расія ж свабодалюбівая ў асобе лепшых сыноў шчыра палюбіла нашага генія-выгнанніка і яго несмяротныя творы...

Даніну пашаны аддала Адаму Міцкевічу і нэнька Украіна. Як вядома, перш чым яму ўдалося дзякуючы Фадзею Булгарыну (памог аформіць пашпарт) эміграваць з імперыі, ён чатыры з паловаю гады правёў у Пецярбургу, Адэсе, Маскве, зноў у Пецярбургу; якраз у той перыяд на мапе Адамавых шляхоў пралеглі ўкраінскія дарогі. 25 студзеня 1825 года ён з Пецярбурга накіраваўся ў Адэсу. (З ліста да А. Адынца: «Еду з поўначы на другі канец Еўропы ў добрым настроі. Сёння, 5 лютага, быў у Кіеве».)

У Кіеве ён аглядае Пячэрскую лаўру, іншыя святыні. Знаёміцца з людзьмі. Гасцюе ў Галавінскіх у сяле Сцяблоў ля ціхае рэчкі Рось. Свае ўражанні ад гэтага маляўнічага кутка паэт выкажа ў «Пане Тадэвушы» пры апісанні народнага гуляння ля рэчкі... Далей А. Міцкевіча чакала Адэса, а там і падарожжа па Крыме. Па дарозе ён дзівіўся з неабсяжных стэпаў, дзе між станцыямі «нічога, акрамя зямлі і неба, не відаць на адлегласці каля 300 вёрстаў...» Бязмежжа духу паклікала музу. Натхненне спарадзіла... (З ліста да Адынца: «Мая муза пачала ў Адэсе рухацца патроху».) Тут ён працуе над «Конрадам Валенродам», санетамі, вершамі. У канцы ліпеня Міцкевіч выехаў у Крым, дзе правёў жнівень і верасень. Наведаў Севастопаль, Ялту, Алушту, Еўпаторыю. Пабываў у гарах. Пабачыў старажытныя руіны. Захапляўся морам, чароўнымі краявідамі, з шчымлівым смуткам успамінаючы сваю паўночна-заходнюю краіну. Вынікам крымскіх уражанняў з'явіцца «Крымскія санеты» – васемнаццаць паэтычных шэдэўраў.

Час і прастора падуладныя кандэнсацыі толькі праўдзівым талентам. Побыт у Адэсе і ў Крыме – усяго адзін эпізод на неспакойным жыццёвым шляху пілігрыма, але эпізод яскравы і незабыўны.

Глыбокі след, які пакінула Украіна ў душы А. Міцкевіча, яшчэ доўга выяўляўся ў яго творах. Зусім невыпадкова, скажам, паэтава «Засада» мае падзагаловак «Украінская балада». У знакамітых лекцыях па славянскай літаратуры, прачытаных у Парыжы, у Калеж дэ Франс, пра Украіну гаварыў паэт як пра край, «вельмі цікавы для гісторыі і літаратуры», а ўкраінскія раўніны называў «сталіцаю лірычнай паэзіі».

На Украіне ёсць важкія адзнакі глыбокай павагі і любові да нашага славутага земляка, адна з іх – кніга, выхад якой у 1994 годзе ажыццявіла львоўскае выдавецтва «Каменяр» і на вокладцы якой назва пададзена на дзвюх мовах: «W przyjacielskim domu» і «У дружньому домі». У ёй на мове арыгіналу і ў перакладзе на ўкраінскую мову змешчаны вершы, балады, санеты Міцкевіча, створаныя ім на цудоўнай зямлі ўкраінскай ці пад уражаннем знаходжання там або заснаваныя ўкраінскім фальклорам, а таксама тыя, у якіх – матывы і сюжэты, характэрныя для ўсходнеславянскай народнапаэтычнай творчасці. Шмат паэтычных старонак у якасці перакладчыка Адама Міцкевіча падараваў свету Максім Рыльскі. Сваю даніну ў гэтую высакародную справу ўнеслі М. Бажан, М. Пятрэнка, М. Прыгара, М. Старыцкі, А. Юшчанка ды іншыя майстры мастацкага слова. Прадмова да зборніка належыць У. Маторнаму і А. Татаранка.

Дзякуючы аднаму сябру, беларускаму татарыну Якубу Якубоўскаму, якога, на вялікі жаль, з намі ўжо няма, я прачытаў у пятым томе Кароткай яўрэйс-

кай энцыклапедыі, выдадзенай у Іерусаліме ў 1990 годзе, артыкул «Міцкевіч Адам» (с. 378-379). У ім з вялікай сімпатыяй гаворыцца пра знакамітага паэта і грамадскага дзеяча, і сімпатыя да яго грунтуецца на розных доказах, у тым ліку і на ўдалым паказе аўтарам «Пана Тадэвуша» аднаго з другарадных герояў – карчмара Янкеля. Ён, гаворыцца ў артыкуле, «адораны музыкант-цымбаліст і высакародны чалавек, захоўвае вернасць яўрэйскай духоўнай традыцыі і ў той жа час удзельнічае ў польскім вызвольным руху».

У кожным народзе існуе с в а ё ўспрыняцце Адама Міцкевіча. Але якія б крыніцы іншых народаў ні трапіліся на вока – усюды Міцкевіч Адам – адназначна «польскі» паэт... Крыўдна? Яшчэ як! Ды крыўдаваць нам, беларусам, варта на саміх сябе, бо, як ні дзіўна, тое ж самае: «Міцкевіч Адам – п о л ь с к і паэт» чытаем і ў нашых энцыклапедыях. Ці не з тае прычыны ў шасцітомным бібліяграфічным слоўніку «Беларускія пісьменнікі» (Мінск, Беларуская энцыклапедыя, 1992-1995) нават і ў дадатку месца яму не знайшлося?

## 2

Паварот у бок прызнання сваім сусветна вядомага творцы, якога ўзгадавала наша духоўнасць, проста непазбежны, ён ужо й адбываецца. Так, у кнізе «Філаматы і філарэты» (Мінск, Беларускі кнігазбор, 1998) К. Цвірка сцвярждае: «У беларусаў ёсць усе падставы называць Адама Міцкевіча сваім паэтам, сапраўдным песняром беларускай зямлі». Запаветную думку выказаў Я. Янушкевіч у прадмове да трохмоўнага «Пана Тадэвуша» (Мінск: Беларускі фонд культуры, 1998): «І ў той, ужо недалёкай будучыні, калі беларусы абавязкова зоймуць «свой пачэсны пасад між народамі», на покуці сярод першых нацыянальных песняроў яны з гонарам пасадзяць і Адама Міцкевіча». Нашым Адама Міцкевіча назвалі ў розных публікацыях Рыгор Барадулін, Ірына Багдановіч, Галіна Тычка ды іншыя творцы.

Вельмі шкада, што беларусы гэтак запаволена, марудна адраджаюць сваю дэфармаваную нацыянальную свядомасць, і ў гэтых умовах даводзіцца так пакутліва доўга даводзіць зусім відавочнае, нават элементарнае: Адам Міцкевіч – польскамоўны класік беларускай літаратуры, які павінен быць грунтоўна пададзены ў нашых школьных праграмах.

У 1926 годзе Вацлаў Ластоўскі пісаў: «Няхай расійская пісьменнасьць пышаецца Дастаеўскім, няхай польскае вока загараецца агнём, калі называецца імя Адама Міцкевіча, – крыўскі народ ведае, што абодва яны цела ад цела і кроў ад крыві яго, і абодвух – і Дастаеўскага і Міцкевіча – залічае да свайго алімпу». Можа, выказванне і занадта катэгарычнае, але яно асабліва слушнае ў дачыненні да Адама Міцкевіча. Хай сабе свае «козыры» ёсць у руках палякаў. Ды фактаў і аргументаў на нашу карысць – аж цераз край! Хай сабе да нашчадкаў Міцкевіча дайшла яго паэтычная спадчына на польскай мове, якая была агульнапрынятаю на тэрыторыі ўсёй Рэчы Паспалітай, уключаючы Беларусь. Але хіба толькі мовай творцы вызначаецца яго нацыянальная прыналежнасць? Не. Ёсць процьма прыкладаў, якія пераконваюць у гэтым. І хіба азербайджанцы адмовіліся ад свайго славутага паэта і мысляра Нізамі з той прычыны, што ён пісаў на персідскай мове? Не. Не адмовіліся. А хіба таджыкі не лічаць сваім вялікага паэта Саадзі, бо ён тварыў на персідскай і арабскай мовах?! І няўжо ўзбекі адмовіліся б прызнаць сваім легендарнага Алішэра Наваі, калі б ён пісаў, як і многія суайчыннікі, толькі па-персідску і нічога не стварыў на старажытнаўзбекскай мове? Ды ні ў якім разе! Ён заставаўся б для іх такою ж духоўнаю вяршыняй, нацыянальнай святыняю. Ну, а хіба лацінамоўны геній Мікола Гусоўскі не наш, таму што пісаў не па-беларуску? Хіба мы, чытаючы яго «Песню пра зубра» ў перакладзе на родную мову з лацінскай, у гэтым шэдэўры не адчуваем беларускага духу, усёй

велічы нашае прыроды, яе фауны і флоры, зуброў-асілкаў, подыху старажытнае пушчы, высокага чалавечага гуманізму?! Яшчэ як адчуваем. Чаму ж мы не ўцямім, што і польская мова Міцкевіча, мова па тым часе непазбежная, не замінае яму, як не замінае латынь Гусоўскаму, прыносіць славу нашай літаратуры і нацыі?! Назваць Міцкевіча польскім паэтам па моўнай прыкмеце – амаль тое самае, што назваць беларуса-католіка палякам ці беларуса-праваслаўнага расіянінам. Яшчэ трэба факты і аргументы? Калі ласка.

Радзіма генія – наша Наваградчына; тут жылі ягоныя продкі – прадзед Ян, дзед Якуб, а таксама бацькі. Бацька – Мікалай Міцкевіч, прадстаўнік збяднелай беларускае шляхты, быў наваградскім адвакатам, маці, Барбара Маеўская, – ураджэнка вёскі Чамброва (Наваградчына). Некаторыя даследчыкі сцвярджаюць, што сваё прозвішча паэт-ліцвін вымаўляў мякка: Міцькевіч, як бы падкрэсліваючы, што род ягоны ішоў ад чалавека з імём Міцька. Тут, на абшарах былога ВКЛ, не толькі яго радаводныя карані, а і вытокі яго духоўнасці, ментальнасці, паэтычнай сутнасці. А ці не абсалютная бальшыня вобразаў і матываў паэзіі Міцкевіча была падказана яму жыццём нашага народа, яго гераічнай і драматычнай гісторыяй, яго надзвычай багатай вуснапаэтычнай спадчынай, легендамі і паданнямі. На беларускім фальклоры ўзніклі вядомыя балады і рамансы, сярод якіх «Свіцязь», «Свіцязянка», «Курганок Марылі», «Лілеі», «Рыбка», «Тры Будрысы» ды іншыя, а таксама асобныя часткі паэмы «Дзяды», сюжэтам якой з'явіўся наш старажытны абрад памінання продкаў (дзядоў). З гісторыі ВКЛ узяў Міцкевіч сюжэты і сваёй «літоўскай аповесці» «Гражына, і «Конрада Валенрода». У паэтычнай эпапеі «Пан Тадэвуш», якая сталася вяршыняй яго творчасці, мы знаходзім цэлую галерэю яскравых вобразаў мясцовай шляхты, бачым цудоўную панараму народнага жыцця, чароўныя краявіды Наваградчыны, Налібоцкай пушчы. Інтымная лірыка паэта асветлена глыбінным і трапяткім пачуццём кахання да беларускай дзяўчыны, дарэчы, з такім адметным беларускім прозвішчам! У яго творах лашчаць вока ды сэрца песцяць нашы геаграфічныя найменні: Свіцязь, Нёман, Плужыны, Наваградак, Нясвіж, Вілля, Вільня, Літва, вялікія князі: Міндоўг, Альгерд, Вітаўт, Радзівіл, Кейстут. Проста Айчына. Край дзяцінства, заходнебеларускі каларыт. Усё тое, без чаго Міцкевіч не ўспрымаецца, як без беларусізмаў не ўспрымаецца яго польская мова. Адным словам, уся творчасць слыннага сына нашае зямлі прасякнута беларускім духам, шчырай сыноўскай любоўю да Бацькаўшчыны і настальгіяй па ёй. Гэта не маглі не заўважыць і прагрэсіўныя польскія навукоўцы. Так, Станіслаў Пігань слушна сцвярджаў, што Міцкевіч пачуццёва быў самым цесным чынам звязаны з роднай Наваградскай зямлёй, быў ліцвінам і ніколі не адчуваў сябе «корэняжэм», гэта значыць – жыхаром этнічнай Польшчы... Вядома, не адчуваў, бо ніколі там, у «каронннай» Польшчы, не жыў. Цікава, што польскі навукоўца Збігнеў Судольскі на міжнароднай канферэнцыі «Адам Міцкевіч і сусветная культура», якая адбылася ў 1997 годзе ў Гародні, назваў Адама Міцкевіча геніем памежжа культур. Такую пазіцыю польскага боку можна назваць цвярозай.

## 3

«Святы агонь», словы Пушкіна пра Міцкевіча, – трапная афарыстычная характарыстыка самой сутнасці Міцкевіча-творцы. Усё жыццё сваё нёс ён у сэрцы сваім, сэрцы паэта і самаадданага патрыёта, менавіта святы агонь любові да Бацькаўшчыны. Народа. Яго мовы. Духоўнай спадчыны. Да прыроды, жаночае красы. А паэзія і ёсць адлюстраванне якраз узвышанай любові.

Дзякуючы сябру Яну Чачоту, ужо ў першыя гады творчасці Адам звяртаецца да беларускіх народных паданняў і настройвае слых душы на ўдумлівы і пранікнёны лад балад. Вусна-паэтычная народная творчасць дала яму магутныя крылы для

імклівага ўзлёту, смак якога зведаў ён юнаком, і адначасна пажыццёвае прыцягненне роднай зямлі. Фальклор спрыяў афарыстычнаму мысленню, развіццю майстэрства, уменню пабудовы сюжэту (у паэта, як правіла, і вершы, і санеты – сюжэтныя), а яшчэ – і гэта галоўнае – ён даваў маладому творцу ўзоры маральнай чысціні і сілу духу, пра што сведчыць нават першая ягоная балада «Свіцязь». Гэта толькі напачатку аўтар запрашае падарожнага, які апынецца ў Навагрудскай старане, супыніць каня ў Плужынскім бары, каб паглядзець на возера Свіцязь, палюбавацца ім. Хараство прыроды, пададзенай Адамам Міцкевічам, сапраўды зачароўвае.

Свіцязі ясна-прывольныя воды
Пушча з бакоў абступае,
Гладкія воды, як шыбіна лёду,
Цёмная пушча, густая.
Глянеш на возера позняй парою –
Здзівішся з зорак, няйначай:
І над табой яны і пад табою,
Тут і два месяцы ўбачыш.

Высвятляецца, аднак, што хіба толькі найсмялейшы з людзей можа адважыцца наблізіцца ўначы да возера, бо тут ноччу не раз дзіўнае і страшнае дзеецца: недзе пад вадою нібыта чуваць гамонка, і лямант званоў, і бразганне зброі, і жаночыя крыкі, дым густы і агонь выбухае. Аказваецца, згодна з баладай, калісьці тут стаяў і квітнеў праз вякі чароўны горад Свіцязь. Але наляцела ліха: вялізнае варожае войска з Русі атачыла сталіцу ВКЛ Навагрудак і напала на горад Свіцязь. Людзі зачыніліся ў замку і вырашылі лепш загінуць, чым здацца лютаму ворагу і надзець з пакораю кайданы:

«Смерць нас ад ганьбы ўратуе». Дачка мясцовага князя Тугана звярнулася да Бога: «Лепей няхай нас твой гром пастраляе ці жывых прыме зямліца». Усявышні прыняў малітву князёўны: дзень пачаў праганяць цёмную ноч. Не паспела дзяўчына апусціць долу вочы, а ўжо зямлі няма пад ёю... Усе ўратаваліся ад ганьбы; захопнік застаўся з носам. Бо месца, дзе стаяў горад, ператварылася ў возера, а жанкі і дочкі перакінуліся ў зёлкі, у пекныя белыя кветкі. І жыць будзе вечна ў гэтых найчыстых кветках жаночая цнатлівасць. Яна цяпер самаахоўная, у чым пераканалася зграя заваёўнікаў разам з яе царом: хто квапіўся на тыя кветкі, у якіх вялікая чароўная сіла, таго на месцы смерць касіла...

У «Свіцязанцы», наступнай баладзе Міцкевіча, таксама драматычны фінал: там гіне юнак, які не ўтрымаўся перад спакусаю і парушыў клятву. Беларускаму народу ўласцівыя такія добрыя якасці, як вернасць, цнатлівасць. І гэта адчуваецца не толькі ў баладах, а і ў цэлым шэрагу санетаў і вершаў генія.

Між іншым, у тлумачальных слоўніках можна прачытаць, што геній – чалавек, надзелены самай высокай ступенню творчай адоранасці ў якой-небудзь сферы дзейнасці. Калі ж угледзецца ў жыццё, лёс, чалавечую сутнасць геніяльных людзей, лёгка заўважыць уласцівую ім цэльнасць натуры, глыбіню пачуццяў, можна нямала гаварыць пра іх закаханасць. Што да паэтаў, то іх улюбёнасць і глыбіня кахання адпавядаюць іх эмацыянальнай узвышанасці ў паэзіі. Вялікі лірык, як правіла, кагосьці абагаўляе. І цяпер, праз стагоддзі, мы ведаем, напрыклад, пра ўзвышанае каханне Дантэ да Беатрычэ, Пятраркі – да Лауры. Адам Міцкевіч адрозніваўся таксама глыбокім пачуццём кахання. Ідэальным у вачах ягонай душы і ў зроку відушчага сэрца быў вобраз незабыўнае зямлячкі Марылі Верашчакі. Гэта была выхаваная і адукаваная дзяўчына, ведала некалькі замежных моваў, добра грала на фартэп'яна, спявала, умела гуляць у шахматы. Але кахаюць не за тое, тое і тое... – найтанчэйшая, найдалікатная з'ява не паддаецца тлумачэнню.

Відаць, краса і сіла пачуццяў паэта-чалавека вызначальная ў лёсе паэта-лірыка. Можна не сумнявацца ў тым, што драматычны лёс Міцкевіча-чалавека спрыяў імкліваму росту ў ім геніяльнага лірыка. Калі каханая выйшла замуж за графа Ваўжынца Путкамера, паэт адрасаваў ёй з Коўна, дзе тады настаўнічаў, свой палымяны ліст: «Любая Марыля! Я шаную цябе і кахаю, як багіню. Каханне маё такое ж нявіннае і нябёснае, як і сам яго прадмет... А я не магу стрымацца ад хвалявання, калі падумаю, што страціў цябе назаўсёды, што буду толькі сведкам чужога шчасця, што ты забудзеш мяне: часта ў адну і тую ж хвіліну я малю Бога, каб была ты шчаслівая, хоць і забылася пра мяне, і адначасна гатовы закрычаць, каб ты памерла... разам са мной!.. Дарагая, адзіная мая! Ты не бачыш прорвы, над якой мы стаім».

У вершах і санетах закаханага генія, звернутых да Марылі, як і ў працытаваным лісце, выяўляюцца звычайна палярныя пачуцці: радасць ад усведамлення таго, што любая была і ёсць на белым свеце, і гаркота, шкадаванне, што ён разлучаны з ёю. У санеце «Да Лауры» (такім, на паэтычны лад, імем ён не раз называў Марылю) чытаем:

Лёс, людзі супраць нас, вядома, нам на гора.
Я знікнуць і кахаць так безнадзейна мушу.
Зямны шлюб не мяне тваёй рукой адорыць,
Ды знай, Бог павянчаў навечна нашы душы.

Шчасцем кахання і драмаю расстання прасякнуты ўсе дзесяць строф верша «Да М***». Шмат пра што гавораць і першыя чатыры радкі:

«З воч маіх прэч!» – скажаш, – знікну адразу,
«Прэч з майго сэрца!» – і сэрца скарыцца.
«Прэч з маёй памяці!» – не, з гэткім сказам
Памяці нашай ніяк не змірыцца.

Зусім відавочна, што каханне Адама Міцкевіча да Марылі было святым пачуццём. Хтосьці з чытачоў можа паставіць правамернае пытанне: «А ці не стаў Міцкевіч пасля замужжа Марылі ад такой няўдачы падобны на манаха?» Не, ён ніколі не быў «манахам». Нябёснае каханне да Марылі не замінала яму знаходзіць зямныя радасці з рознымі жанчынамі. З ім не раз грашылі і жонкі некаторых высокапастаўленых расійскіх чыноўнікаў. Трэба ўлічваць тую акалічнасць, што паэт ажаніўся толькі на 36-м годзе жыцця. Некалькі разоў улюбляўся ўсур'ёз, дзвюм асобам (пасля Марылі Верашчакі) прапаноўваў руку і абодва разы цярпеў фіяска. Натуральна, у сваіх творах ён звяртаецца да многіх прыгажуняў, а настрой у паэтычных радках адпаведны кожны раз той ці іншай гісторыі кахання. Вось радкі аднаго з санетаў:

Мне памяць, любая, нябёсная пяшчоты
Атручваюць разваг маіх, пакут хвіліны.
..........................................
Тваёй няма віны, а я прызнаць павінны:
Ўліў Творца шмат агню у нашыя істоты.
..........................................
Азёры слёз нясу ў вачах да алтара я,
Не ўжабраваць мне прабачэння, верагодна,–
Хай толькі Бог тваёй пакутай не карае.

Падумалася: ці ёсць у сусветнай паэзіі аналаг такой гранічна адкрытай мужчынскай споведзі? Або наступнай (радкі з санета «Да...»):

Глядзіш у вочы мне, о юная наіўнасць!
Ты не ўздыхай – бяжы: бойся майго пагляду,
Ўцякай ад згубных воч, змяінага іх яду...
..........................................

Аздобіць нельга лёс істотаю нявіннай!
Вялікае, чалавечае сэрца б'ецца у гэтых строфах.

Верш «Два словы», створаны паэтам у 1825 годзе, хутчэй за ўсё ў Адэсе ці Крыме, – бясспрэчна, з ліку шэдэўраў сусветнай класікі. Гэта цудоўны гімн яго вялікасці Каханню, які, спадзяюся, нават у перакладзе захоўвае свой адметны водар.

## 4

Асаблівае месца ў творчасці А. Міцкевіча займае Бацькаўшчына – Наваградчына, Літва, як ён часцей за ўсё яе называў. Не раз узгадваецца яна ў «Крымскіх санетах». У цішыні акерманскіх стэпаў, дзе чуецца не толькі клін жураўліны, а і тое, «як матыль гайдае дзесь травіну», «як таямнічы вуж крадзецца недзе», чуйны слых паэта ўлавіў бы «і ціхі кліч з Літвы». Ды заключныя словы санета балючыя: «Ніхто не кліча, едзем!»

У санеце «Пілігрым» паэт так натуральна і шчыра прызнаецца:

Літва! Мілей спявалі нашы баравіны,
Чымся Салгіра дзевы й салаўі Байдараў;
Я весялей таптаў дрыгву тваіх імшараў,
Чым ананасаў экзатычныя мясціны.

У адным з лірычных вершаў ён, пазбаўлены радзімы, разумее: яна – неад'емная, бо жыве ў памяці:

Я маю край, святлейшых дум айчыну,
Дзе сэрца майго чуйная радзіна...

Вобразы радзімы праходзяць і праз буйныя творы, праходзяць яны і праз усю паэтычную эпапею «Пан Тадэвуш». Кніга й пачынаецца запаветнымі словамі: «Litvo! Ojczyzno moja!..» Асабліва абвостраны смутак па краі дзяцінства, які параўноўваецца з чысцінёю першага кахання, чуецца ў эпілогу. Айчына – гэта і духоўная радня паэта, найперш самаахвярныя нацыянальныя героі. Вось і нараджаецца яшчэ адзін шэдэўр «Смерць палкоўніка» – узрушальны верш пра 25-гадовую ліцвінку, кіраўніцу паўстання Эмілю Плятэр, якая загінула за свабоду народа...

У 1829 годзе, незадоўга да незваротнага выезду з расійскай імперыі, А. Міцкевіч піша кароткі верш «Перад бурай, снягамі»:

Пералётныя птахі прад бурай, снягамі
Пакідаюць радзіму з тужліваю песняй.
Не віні іх! Яны паляцяць парой весняй
У напрамку зваротным – сваімі шляхамі.

Голас іх ты пачуеш – выгнанца успомні!
Колькі раз пасля буры засвеціць надзея,
Столькі раз яго дух да цябе зноў на поўнач
Прыляціць, акрылёны, не збочыць нідзе ён.

У думках пра свабоду Бацькаўшчыны Адам Міцкевіч увосень 1855 года накіраваўся ў Стамбул (Канстанцінопаль), каб арганізаваць там польскія легіёны для барацьбы супраць царызму: Турцыя ў той час была ў стане вайны з Расіяй. Там, у Канстанцінопалі, ён пачаў драму ў прозе пра героя-паўстанца Якуба Ясінскага. Ды неўзабаве захварэў на халеру і памёр. Існуе версія, што яго атруцілі.

**5**

Дыяменты пачуццяў і думак Адама Міцкевіча непадуладныя забыццю, а ззяюць яны не толькі ў мастацкіх творах – і ў яго лістах, на жаль, нешматлікіх (захавалася іх мала). Хачу звярнуць увагу зацікаўленага чытача на тры лісты маладога, сталага і, калі можна так сказаць, пажылога паэта. Вось якое, да прыкладу, шчырае прызнанне адрасаваў 22-гадовы Адам сябру Яну Чачоту: *«Кавальская не рабіла на мяне аніякага ўражання да таго часу, пакуль я не заглядзеўся на яе, калі яна дзьмухала на жар пад кававым чайнікам! Адкуль жа гэта? Румянец, а хутчэй нагрэты жарам твар, які іншаму воку не здаўся б нечым сентыментальным, прывабным, мяне ж прымусіў убачыць у яе асобе анёла, Венеру...»* А хіба можа не ўразіць досціп 40-гадовага паэта на адрас знакамітай Жорж Санд, чые заўвагі на ягоным рукапісе называе *«...ганаровымі слядамі чароўных пазногцяў!»* Нарэшце ліст 55-гадовага генія, ён узрушае зместам вешчага сну. У верасні 1855 года Адам Міцкевіч прызнаваўся Тамашу Зану, як вестка пра смерць Яна Чачота яго *«наскрозь працяла»*. І далей: *«Якраз у тыя часы, калі яго не стала, вельмі часта ён сніўся мне і ўсё аднолькава; заўсёды здавалася мне, што ён прыехаў у мястэчка, дзе цяпер я асеў, і шукае мяне; я ізноў, здавалася, забыўся, як адшукаць яго жыллё і сам сябе дакараў за такое нядбальства. Сон гэты паўтараўся некалькі дзясяткаў разоў, аж тут прыйшла вестка пра яго смерць, і ў астатні раз мне здалося, што ён нібы запрашае мяне да сябе»*. Пра гэта слынны творца паведамляў з Парыжа свайму сябру менш чым за тры месяцы да сваёй смерці.

І такі штрых. Яшчэ ў росквіце сваіх фізічных і творчых сіл Міцкевіч у санеце «Пахавальня Патоцкай» як бы прадказаў, што яго магілу вяшчун убачыць блізка ад пахавальні памерлай у Бахчысараі паланянкі. Прадказанне аказалася блізкае да рэальнасці. Бо, як вядома, паэт памёр у Канстанцінопалі, на чужыне, як і яго зямлячка Патоцкая. Праўда, пахаваны быў у прыгарадзе Парыжа, а праз 35 гадоў перазахаваны палякамі ў Кракаве.

Пра выключную чуйнасць унікальнай асобы Міцкевіча засведчыў у 1829 годзе і Антоні Эдвард Адынец: *«Апошні час ён быў заняты працай над найарыгінальнейшай «Гісторыяй будучыні». Ён піша па-французску, і ў яго ўжо напісана больш за трыццаць старонак... Апавяданне пачынаецца з 2000 года і павінна ахапіць два стагоддзі... Уся гэтая гісторыя, як мне казаў Адам, закончыцца ўстанаўленнем сувязі паміж Зямлёй і іншымі планетамі...»*

Нас, беларусаў, павінны асабліва ўражваць выказванні Адама Міцкевіча, вернага і самотнага песняра роднай зямлі, пра духоўную спадчыну беларусаў, нашу мову. Ён пісаў, што ў нашых казках і песнях *«ёсць усё»*. Заўважыў тое, што ў нас «Літоўскі Статут» напісаны нашай моваю, *самай гарманічнаю і з усіх славянскіх моваў найменш зменелай»*. І яшчэ не менш красамоўныя словы пра нашу галоўную нацыянальную святыню: *«На беларускай мове, якую называюць русінскай альбо літоўска-русінскай... размаўляе каля дзесяці мільёнаў чалавек; гэта самая багатая і самая чыстая гаворка, якая ўзнікла даўно і выдатна распрацавана. У перыяд незалежнасці Літвы вялікія князі карысталіся ёю для сваёй дыпламатычнай перапіскі»*.

Не дзіва, што такія рэалістычна-ўзважаныя ацэнкі нарадзіліся ў душы паэта і вучонага, які ўсё жыццё служыў праўдзе, ісціне, гармоніі, ідэалам дабра. Гэта натуральна. Але, пэўна, чуйнае сэрца найперш падказвала яму прамовіць і пакінуць свету такія прачулыя і ўзвышаныя словы, бо, валодаючы дарам яснабачання, прадчуваў: становішча бяспраўнай мовы ліцвінаў будзе яшчэ доўга працягвацца, ды гістарычная справядлівасць непазбежная. Прынамсі, і сёння Адам Міцкевіч дадае нам веры і аптымізму.

# 6

Дасведчаныя навукоўцы сцвярджаюць, што ў Міцкевіча было два сшыткі вершаў на беларускай мове. І ў гэтым цяжка сумнявацца. Думаю, творца, які ўзгадаваўся на беларускім фальклоры, душой увабраў яго маральную моц і мастацкую прыгажосць, творца, які ведаў і так высока цаніў беларускую мову, а сябе называў ліцвінам, проста не мог не выказваць хоць зрэдку свае думкі і пачуцці на мове роднага краю, хоць яна і не была тады афіцыйна прызнанаю. Да таго ж і яго блізкі і аўтарытэтны сябра Ян Чачот пісаў не толькі па-польску, а і па-беларуску, што павінна было паслужыць добрым прыкладам Міцкевічу. Але ж, будучы неапублікаванымі, такія творы хутчэй за ўсё проста не захаваліся ці, магчыма, былі знішчаны, трапіўшы ў нядобрыя рукі.

У эпілогу свайго паэтычнага шэдэўра «Пан Тадэвуш» слынны аўтар выказаў запаветную мару: «*О мне дажыць бы да такое ўцехі, //Каб кнігі гэтыя прыйшлі пад стрэхі!..*» Пад стрэхі сялянскіх хатаў. Што азначае: паэт марыў пра тое, каб чытаў яго народ, сярод якога ён рос, жыў, а гэта магло і можа адбыцца толькі праз нашу родную мову. Шкада, у нас так мала перакладзеных твораў Міцкевіча. Частка вершаў, баладаў, асобныя паэмы ці фрагменты з паэмаў, санеты; і ў шэрагу перакладаў, на жаль, зашмат грахоў, самы цяжкі з якіх – скажэнне зместу. Ну, вядома, ёсць і вынятак з правіла –некалькі варыянтаў збеларушанага «Пана Тадэвуша». Першым у ліку перакладчыкаў належыць назваць Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча – класіка новай беларускай літаратуры XIX стагоддзя, чый пераклад быў забаронены імперскай драконавай цэнзурай, з полымя якой ўратавалася ўсяго некалькі паасобнікаў дзвюх першых «*быліц*» паэмы (Вільня, 1859). Як заўважыў Я. Янушкевіч у кнізе «За архіўным парогам» (Мінск, 2002) «Аб'ектыўнай заканамернасцю бачацца імкненні наступных пакаленняў перакладчыкаў прычасціць сваіх сучаснікаў да крыніц харства, што бруяць з кожнай старонкі эпапеі Міцкевіча. Таму і паўсталі, абапіраючыся на вопыт і магчымыя ўдачы Дуніна-Марцінкевіча, новыя нацыянальныя пераклады "Пана Тадэвуша", зробленыя ў канцы XIX стагоддзя Аляксандрам Ельскім, у 1931-1932 гадах Браніславам Тарашкевічам». Вельмі прыстойны пераклад Пятра Бітэля, пакутніка сталінскіх лагераў, чыя тытанічная перакладчыцкая праца ў жахлівых умовах на нялюдскай зямлі ў першай палове 1950-х гадоў роўная не толькі творчаму, але і грамадзянскаму подзвігу.

Шырэе кола перакладчыкаў Міцкевічавай паэзіі. Але прыкра зазначаць, што і дасюль беларусы не маюць на паліцах дзяржаўных бібліятэк і сваіх хатніх кнігазбораў тамоў з творчай спадчынай нашага слыннага земляка.

Міхась Карпечанка



...чалавек, жывучы ў эміграцыі,
і сапраўды наўрад ці здольны
пачуваць сябе шчасліва...

# Мікола Цэлеш: Чалавек-загадка, чалавек-міфатворца

Міколу Цэлеша справядліва называюць адным з самых загадкавых беларускіх пісьменнікаў-эмігрантаў. Зрэшты, нарадзіўшыся ў краі, дзе на кожным кроку – загадка, таямніца, штосьці невытлумачальнае, чалавек, якога Бог узнагародзіў яшчэ і талентам пісьменніка, вострай назіральнасцю, проста не мог не стварыць і ўласных загадак.

Таямніц свайго жыцця і любага сэрцу роднага Заазер'я.

Усе мы з трапяткой святасцю адносімся да той мясціны, дзе кожнаму з нас упершыню давялося пабачыць свет. І ў сэрцы нашым яна – да апошняга ўздыху. Родны кут для нас не проста дарагая, блізкая і зразумелая маленечкая мясцінка на такой вялікай зямлі: знаёмая да кожнай былінкі на выгане ці беластволай бярозкі на ўзлеску, але разам з гэтым і – патаемны, дзівосна казачны край.

Зрэшты, і міфы, створаныя іншымі людзьмі, з'яўляюцца таксама абавязковымі спадарожнікамі ягонага жыцця. Узяць хоць бы


Мікола ЦЭЛЕШ.

дату нараджэння пісьменніка. У сваёй “Аўтобіяграфіі” ён называе яе канкрэтна: *“Прыйшоў я ў гэты сьвет якраз на самым пачатку двадцатага стагодзьдзя – 25 ліпеня 1900 года”*. Аднак грунтоўны шасцітомны біябібліяграфічны слоўнік “Беларускія пісьменнікі” прыводзіць іншую дату нараджэння пісьменніка – 25 чэрвеня 1900 года – і дадае: *“па іншых звестках, 1904 года*”.

Газета “Новое русское слово”, якая выдавалася ў Амерыцы, таксама лічыць годам нараджэння пісьменніка 1904.

Памяркуйма, што тады атрымліваецца: Мікола Цэлеш у 12 гадоў самастойна паехаў працаваць у Варонеж, а ў 15 быў прызваны на тэрміновую службу ў войска...

Практычна ўсе, хто пісаў пра Міколу Цэлеша (не з'яўляецца тут шчаслівым выключэннем і прыгаданы вышэй шасцітомнік “Беларускія пісьменнікі”), па няведанні, чыста механічна перавёўшы павет у раён, адносяць ягоную родную вёску Заазер'е да цяперашняга Барысаўскага раёна Мінскай вобласці. На самой справе паселішча Заазер'е знаходзіцца на тэрыторыі Эсьмонскага сельсавета Бялыніцкага раёна Магілёўскай вобласці.

Варта таксама адзначыць, што ўсе сённяшнія родзічы Міколы Яфімавіча прозвішча сваё пішуць праз літару “е” – Целеш. Толькі адзін ён здолеў захаваць напісанне свайго прозвішча, якое, прынамсі, па словах самога пісьменніка, гэтаксама не адпавядае першапачатковаму, спрадвечнаму, родаваму – Цэлесы.

***

Здаецца, у некаторых выпадках, ствараючы ўласны жыццяпіс, і сам Мікола Цэлеш ці не наўмысна захапляецца, выбудоўваючы прыгожы міф, легенду. Для прыкладу, ён “прыводзіць” на працу ў Заазерскую школку... Уладзіславу Францаўну Станкевіч і, натуральна, да яе зрэдзь часу завітвае... Янка Купала, *“едучы аднекуль па сваіх гаспадарчых справах у санках-развалках, на шэранькім, досыць ладным коніку; і сам у шэранькім саматканым кульку, але пашытым на шляхецкі хвасон. У клясу ён, праўда, ніколі не заходзіў, але настаўніца потым нам апавядала пра яго дужа шмат”*.

Хочацца, безумоўна, верыць у гэта, але ж пацверджанняў таму пакуль што не адшукалася.

Праўдападобна, хоць і залішне пафасна, апісана ў “Аўтобіяграфіі” і сустрэча пятнаццацігадовага Міколы Цэлеша, зноў жа ў Заазер'і, пры атрыманні заробку за працу па рамонце дарогі Магілёў–Барысаў, з Аляксандрам Блокам, якога *“паклікалі ў войска, але дзякуючы вялікай пратэкцыі, вызначылі скарбнікам у тую сапёрную адзінку, якая ладзіла ў нас шлях... Блок зацікавіўся мной, пэўна, па намове людзей аб маім гэраічным наведванні школы за сямнаццаць клм* (народнае вучылішча ў Бялынічах. – *М.К.*), *што было вылучна адзіным выпадкам у Зазер'і, і спытаў: ці чытаў я што-небудзь зь ягонае паэзыі. Пачуўшы, што дастаць тут кніжак нельга, даў мне невялічкі зборнічак сваіх астатніх вершаў. Я праглынуў гэтыя вершы літаральна ў адзін прысест. Яны ўскружылі мне голаў, і некаторымі зь іх я пачаў проста блюзьніць. Перада мной адчыніліся нейкія няведамыя мне небасхілы. Зазер'е мне ўжо стала здавацца нейкай чорнай ямай! Спаткаўшыся з паэтам у другі раз, ён спытаў: “Што ж ты думаеш рабіць цяпер?” Я паціснуў плячыма.*

*“Бацька на вайне – ня ведаю!”*

*Смутна-задуменныя шэрыя вочы Блока скіраваліся ў дол і ён ціха, але з пафасам, прадэкламаваў:*

*Какие ж сны тебе, Россия,*
*Какие бури суждены?..*

Біёграфы вялікага расійскага паэта, наколькі мне вядома, сярод шляхоў-дарог табельшчыка 13-й інжынерна-будаўнічай дружыны Аляксандра Блока Заазер'е аніводнага разу не называюць.

Аляксандр Блок праслужыў у войску з 7 ліпеня 1916 да 17 сакавіка 1917 года. Як вядома, інжынерна-будаўнічая дружына дыслакавалася на Лунінеччыне, і прызваныя ў яе склад воіны працавалі ў вёсках Парахонск, Колбы, Лапаціна. А гэта толькі выключна па прамой лініі, праз лясы і балоты, ад Заазер'я не менш як тры сотні кіламетраў.

З аповеду Міколы Цэлеша таксама вынікае і тое, што ён асабіста зрабіў на Блока вялікае, незабыўнае ўражанне. Аднак рускі паэт пра гэтую сваю выпадковую сустрэчу ні ў лістах, ні ў дзённіку так ніколі й не згадаў.

Яшчэ адна загадка?

Яшчэ адна штучна створаная таямніца?

Яшчэ адзін прыгожы міф?

Хто ведае...

***

Пісьменнік стараўся не толькі разгадаць тайны гісторыі сваёй Бацькаўшчыны, але і тварыў загадкі свайго жыцця і любага сэрцу Заазер'я, роднага і незабыўнага эсьмонскага краю. Тут ён настойліва шукаў летапісны Гарадзец; упарта стараўся давесці, што знакамітая бітва на Нямізе адбылася ў ваколіцах яго роднай вёскі. *"Паводле народных паданьняў* (а таксама й некаторых пісаных крыніц), – заўважае ён у "Аўтобіяграфіі", а потым абгрунтоўвае сваю выснову ў артыкуле "Летапісная НЕМІЗА і ейнае мейсца на мапе", – *на мейсцы сучаснага Зазер'я стаяў той гістарычны Гарадзец-Гарадзішчы, які ўпамінаецца расейскім гісторыкам Тацішчавым у зьвязку з падзеямі трэйцяга Сакавіка 1067 г. на р. Няміза".*

Гэтую чарговую гістарычную загадку можна сфармуляваць так: дзе насамрэч цячэ летапісная Няміга, на берагах якой 3 сакавіка 1067 года адбылася жорсткая сеча паміж князямі кіеўскімі Яраслававічамі і полацкім Усяславам? Тут дарэчы заўважыць, што яшчэ з часоў жыцця расійскіх гісторыкаў Карамзіна і Тацішчава робяцца спробы разгадаць загадку адносна знаходжання рэчкі і вызначэння месца крывавай бітвы. У "Аповесці мінулых часоў" гэтая збройная падзея апісваецца так: *"Ярославичи взяше Менеск, и исекоша мужа, а жены и дети вдаша на щиты, пойдоша к Немизе и Всеслав пойде противу. И совокупишася обои на Немизе месяца Марта в 3 день... И быть сеча зла..."*

Мікола Цэлеш наконт месца бітвы меў уласную версію. Падаю яе ў кароткім пераказе. Найперш пісьменнік і краязнаўца звяртае ўвагу на тое, што летапіс дакладна паведамляе аб падзеях у Менску, а пасля толькі абмяжоўваецца заўвагай *"пойдоша к Немизе... И совокупишася обои на Немизе"*, не гаворачы, пра якую Нямізу ідзе размова і дзе яна знаходзіцца.

Як усім вядома, падкрэслівае Мікола Цэлеш, Няміга працякае праз старажытны цэнтр сучаснага Мінска і ўпадае ў Свіслач. Відавочна і тое, што гаворачы *"пойдоша к Немизе"*, летапісец меў на ўвазе іншую рэчку, бо ў адваротным выпадку не трэба было так пісаць, паколькі, заняўшы Менск, Яраслававічы ўжо на самой справе былі на Нямізе.

Апроч таго, і ў "Аповесці мінулых часоў", і ў "Слове аб палку Ігаравым"

рэчка гэта мянуецца Няміза, а не Няміга. Розніцу ў вымаўленні можна было б патлумачыць асаблівасцямі скланення назоўнікаў беларускай мовы. Але ж абодва гэтыя творы напісаны не па-беларуску. Відаць, усё ж такі невядомы нам летапісец, зазначае пісьменнік і краязнаўца, меў на ўвазе зусім іншую рэчку, перадусім – Нямізу.

Па інфармацыі Міколы Цэлеша, які ў 30-я гады прамінулага стагоддзя працаваў навуковым супрацоўнікам Інстытута мовазнаўства і літаратуры Беларускай акадэміі навук і збіраў звесткі аб бітве на Нямізе, каля Эсьмонаў працякае рэчка, назва якой на тагачасных падрабязных картах пазначана, як Усяслаўка. Мясцовыя ж жыхары яе называлі Услаўка, а некаторыя старыя – Няміза.

Як заўважае пісьменнік, па сваіх памерах эсьмонская Няміза значна пераўзыходзіць мінскую Нямігу, і берагі яе нават ў ХХ стагоддзі былі яшчэ настолькі тванкія, што там і сапраўды маглі тапіцца коні. Правы бераг яе высокі і пясчаністы і на працягу амаль двух кіламетраў заняты курганамі, некаторыя з якіх мелі падоўжаную форму, а іншыя былі круглымі.

З-пад адной гары на правым беразе Усяслаўкі-Нямізы, вядзе далей свой аповяд Мікола Цэлеш, *"б'е моцны струмень крыніцы із сьцюдзёнай, як лёд, вадой. Над ёй да трыццатых гадоў* (ХХ стагоддзя. – *М.К.*) *стаяла капліčка з абразам цудадзейнае Божае Маці. Трэйцяга сакавіка да рэвалюцыі тут штогод адбываліся набажэнствы. У другі раз набажэнствы адбываліся на сьвята Сьвятога Духа... Цікава, што й вёска* (цяперашняя назва Вушлава. – *М.К.*), *якая разьмясьцілася ва ўпадзіне па-за гарой, называецца Услава (па дакумэнтах – Усяслава).*

*Найбольш узвышанае месца правага берагу Ўсяслаўкі, дзе стаяў да рэвалюцыі (і ў першыя гады пасьля яе) дом мясцовага сьвятара, называлася "Замкам". Яго абгінаў ручай, які браў пачатак недзе ў лесе за в. Услава. Тут былі відаць рэшты земляных насыпаў і равоў".*

*"У 1936 ці ў 1937 годзе,* – піша М. Цэлеш, – *я паінфармаваў аб гэтым ведамага беларускага архэалёга, кіраўніка сэкцыі архэалёгіі пры Інстытуце гісторыі Бел. АН сп. К. Палікарповіча. Вайна й новая акупацыя Беларусі, відавочна, не дазволілі Інстытуту давесьці гэтую справу да канца".*

Да сказанага варта дадаць, што спробы адшукаць сапраўднае месца, дзе адбылася бітва на Нямізе, працягваюцца і па сёння. Вядомы беларускі пісьменнік Іван Чыгрынаў некалі даводзіў, што Няміга (Няміза) працякае на Чарнігаўшчыне. Магчыма, што гэтая таямніца нашай гісторыі ніколі не разгадаецца. Але ж версія, выказаная Міколам Цэлешам, павінна падштурхнуць і гісторыкаў і краязнаўцаў да пошуку ісціны.

У Заазер'е Мікола Цэлеш "прыводзіць" і аднаго з паплечнікаў Кастуся Каліноўскага Зыгмунда Серакоўскага, які вядзе перамовы з прадзедам пісьменніка графам Базылём. Апошні шчыра прымае погляды паўстанцаў і на прапанову нечаканага госця пачынае выраблаць для інсургентаў зброю на ўласным заводзіку, а дзеля заахвочвання сялянаў раздае ім без выкупу свае землі, *"пакінуўшы сабе толькі адну валоку".*

Гэты крок нібыта так паўздзейнічаў на вяскоўцаў, што тыя стварылі моцны мясцовы паўстанцкі атрад, у шэрагах якога налічвалася *"каля трох тысяч асобаў"*. Ён *"быў добра ўзброены, аж да лёгкіх гарматак, з прадзедавага заводу; дзейнічаў у Барысаўскім і Ігуменскім паветах і наносіў царскім войскам цяжкія ўдары"*. Але змагаўся гэты паўстанцкі атрад нядоўга. Па словах Міколы Цэлеша, расійскія экспедыцыйныя сілы па задушэнні паўстання на чале з генералам Ганецкім акружылі ў заазерскіх балотах мясцовых інсургентаў. Пачалася асада. *"Паўстанцы, папаліўшы масты й паразбураўшы важнейшыя гаці да самага Гарадца, у сваю чаргу, рабілі нечаканыя дыверсіі з лясоў, наносячы ворагу балючыя страты. Баючыся, што яны могуць вырвацца з абкружэньня, Ганецкі загадаў біць па Гарадцу запальнымі*

*поцiскамi. Выбухлi i страшэнныя пажары: гарэла ўсё наўкола ў абсягу колькiх вёрст; завод, сялянскiя хутары, хутары шляхты – Гарадзец зьнiк з твару зямлi! Дзед Ян, якому тады было каля дванаццацi, пазьней успамiнаў: графу ўдалося выскачыць праз вакно з пылаючай агнём рэзыдэнцыi толькi ў астатнюю мiнуту.*

*Спачатку ён прабраўся ў Зах. Эўропу, але царскiя агэнты не давалi яму й тут спакою, i ён мусiў уцякаць, як казалi ў нас у сям'i, "за ваду, у Новы сьвет!" Толькi гэта й выратавала яго ад расейскае шыбенiцы..."*

Цiкава, што праз нейкiя восемдзесят гадоў самотны шлях на эмiграцыю графа Базыля паўторыць яго праўнук Мiкола.

Што ж да ўдзелу заазерцаў у нацыянальна-вызвольным руху 1863 года, жахлiвага спалення "рэзыдэнцыi" графа Базыля, навакольных паселiшчаў, то дакументальных сведчанняў, якiя пацвярджалi б гэта хоць ускосна, пакуль адшукаць не ўдалося.

Вядома толькi, што за паўсотню кiламетраў на поўдзень ад Заазер'я, у лясах каля вёскi Мяжонка Бялынiцкага раёна, дыслакаваўся невялiчкi паўстанцкi атрад пад кiраўнiцтвам Снiткi. Цi не ў першай жа сутычцы з рэгулярным расiйскiм аддзелам ён быў дашчэнту разбiты.

Зразумець Мiколу Цэлеша можна. Знаходзячыся на чужыне, ён лiтаральна абагаўляў тыя мясцiны, дзе з'явiўся на свет. Уяўляў сабе далёкае Заазер'е i наваколле ў казачным, таямнiчым святле, што, несумненна, не магло i яго самога падштурхнуць да стварэння легенд i мiфаў.

А можа, гэтым самым пiсьменнiк жадаў абудзiць цiкаўнасць iншых людзей да свайго роднага Заазер'я, да гiсторыi Беларусi, якую вельмi любiў, iмкнуўся навекi хоць гэткiм чынам захаваць памяць пра дарагое сэрцу паселiшча, паколькi легенды i паданнi на самой справе нiколi не памiраюць? Яны жывуць, перадаючыся з пакалення ў пакаленне, дапаўняюцца новымi дэталямi i змяняюцца часам да непазнавальнасцi. Але нiколi не знiкаюць.

З другога боку, для кожнага чалавека, а тым больш – пiсьменнiка, надзвычай уласцiвае i натуральнае жаданне не толькi зразумець таямнiцы сваёй Бацькаўшчыны, i наогул – спасцiгнуць гэты свет, але i зрабiць яго ўтульным, прыгожым. Хоць бы й на паперы – у нарысе, аповесцi, рамане...

***

У Заазер'i ўсё для Мiколы Цэлеша было родным, блiзкiм, знаёмым. А лёс цi нейкая звышнатуральная сiла, нiбыта здзекваючыся з яго, усцiлае не менш таямнiчымi загадкамi i саму жыццёвую дарогу пiсьменнiка i краязнаўцы. У шаснаццацiгадовым узросце Мiкола, якi дагэтуль у свет далей за Бялынiчы i, мажлiва, павятовы Барысаў анiразу не выбiраўся, падаецца спачатку ў Варонеж, а потым i ў шахцёрскi гарадок Кадзiеўка, што на Екацярынаслаўшчыне.

Выбiраецца ў белы свет... Свет невядомы, нават варожы таму ўкладу, якi спазнаў юнак, жывучы ў вёсцы, патрыяльхальнай да апошняй драбнiцы.

*"Спачатку я працаваў пад зямлёй i мне было дужа цяжка*, – прызнаецца Цэлеш у "Аўтабiяграфii". – *Але потым знайшоў працу табельшчыка ў канторы й пачаў нармальна наведваць агульна-адукацыйныя курсы* (яны былi створаны для тых, хто жадаў падвысiць уласную адукацыю. – *М.К.*). *У 1919 скончыў iх i атрымаў атэстат за сярэднюю школу"*.

Той жа 19 год ХХ стагоддзя мог аказацца ў пэўным сэнсе паваротным у лёсе будучага пiсьменнiка – Цэлеш мусiў цывiльнае адзенне замянiць на вайсковую форму.

У невялiчкай прадмове да зборнiка апавяданняў "Са стрэльбай i сабакам" ён пiша: *"Пры акупацыi Дзянiкiным зноў Данбасу паступiў дабравольна ў Чырвоную*

*армію, у якой і прабыў аж да 1924 года. Пасля таго стаў служыць у савецкіх установах Мінску".*

Запыняе ўвагу на гэтым перыядзе сваёй біяграфіі пісьменнік і ў "Аўтобіяграфіі". *"У гэты час на руінах Расейскае імпэрыі пачалі ўзьнікаць незалежныя гаспадарствы падбітых народаў. Дайшлі чуткі, што паўстае Літоўска-Беларускае Гаспадарства. Мне дужа хацелася ехаць дахаты, але кіпела хатняя вайна й мой год быў пад мабілізацыяй: я баяўся рушыцца зь мейсца, каб ня трапіць у самае пекла. У чэрвені гэтага ж году, усё ж мусіў стаць пад зброю. Даходзілі чуткі, што паўстала Беларусь і ствараецца наша нацыянальнае войска. Выклапатаваў перавод на Бацькаўшчыну, каб стаць у ягоныя шэрагі, але, раптам, захварэў на тыфус, а потым і на другі. Праляжаў у шпіталях роўна паўгода. Калі ў лютым 1919 г.* (значыць, вайскоўцам Мікола Цэлеш стаў у 1918 годзе. – *М.К.*) *дабраўся да роднае хаты, бацька не пазнаў мяне – так я быў зьнясілены голадам і хваробамі.*

*Стварэнне беларускага войска было неўзабаве адкінута й я дэмабілізаваўся".*

Мікола Цэлеш, апынуўшыся на жыццёвым раздарожжы, вымушаны быў вярнуцца туды, куды заўсёды з апошніх сіл імкнецца дабрысці, бадай, кожны стомлены і фізічна і маральна чалавек – у бацькаву хату, да сваіх вытокаў.

У пісьменніка ёсць характэрнае ў гэтым плане невялічкае апавяданне "Вярнуўся чалавек". Сюжэт яго просты: Захар Жыжка, "*генерал, поўныя грудзі ардэноў і мэдаляў, якога ў роднай вёсцы не бачылі амаль паўвеку",* прыехаў з Масквы памерці на радзіму, у хату да малодшага брата Міхайлы.

Златавуст і Чарняўчык, якія робяць дамавіну, разважаюць пра нябожчыка: *"...ён жа зусім ужо выбыў з памяці нашага народу, ён стаў чужым для кожнага з нас, а можа, навет, і для Міхайлы, ягонага брата! Дык ён прыйшоў паміраць да чужых, кінуўшы сваіх, якія маглі б зрабіць яму багатыя пахавіны?! Як гэта так?"*

А вось словы Міхайлы, брата: *"Карціла мне тут сказаць яму: брат, ты брат, але цураўся ты нас якіх сорак год, і ня толькі цураўся, але й рабіў усякае плюгаўства супроць нас, дык паварочвай, браце, аглоблі назад! Але падумаў: гэта я так магу сказаць яму, як брат, а як паставіліся б да яго бацькі нашыя тутака? Паўстрымаўся я й дапамог яму ўвайсьці ў хату. Жонка кінулася запальваць сьвятло, а ён загадаў ніабчым не турбавацца, быццам ведаў мой настрой, і палез на печку".*

І нарэшце паслухаем самога Захара, яго апошнія перад скананнем словы: *"Я ўпадобіўся той славутай сьвіньні, што падкопвала карэньне дуба, зь якога ела жалуды. Забыўся быў на ўсё, выракся й Бацькаўшчыны й усіх..."*

***

Але вернемся да Міколы Цэлеша і зноўку натрапляем на чарговую загадку: калі ўсё ж такі пакінуў ён войска – у 1919 ці 1924 годзе?

Заазерскі пляменнік пісьменніка Уладзімір Целеш, спасылаючыся на ўспаміны свайго бацькі Піліпа Яфімавіча, сцвярджаў, што дзядзька Мікола пэўны час нібыта вучыўся ў Ваеннай акадэміі разам з Ягоравым і Жукавым, навучанне ў якой спыніў сам, добраахвотна.

І наступнае дзесяцігоддзе больш нагадвае прагал, белую "пляміну" ў біяграфіі Цэлеша. Схільны да падрабязнасцяў, ён чамусьці падзеі ўласнага жыцця гэтага перыяду ўмяшчае літаральна ў два сказы: *"Факультэт грамадскіх навук Бел. У-та не захапіў мяне. Дый страшэнна абрыдла бадзяцкае жыццё; абзавёўся сям'ёй і пачаў працаваць у розных установах Менску".*

Хоць якраз гэты адрэзак біяграфіі надзвычай важны ў ягоным жыцці – Мікола Цэлеш фарміраваўся як нарысіст, апавядальнік, адбываўся яго назаўсёдны адыход ад паэзіі. *"Вершы я пісаў ад пятнаццаці год, але нікому іх не паказваў, нават тым дзяўчатам, якім былі прысвечаны".*

У 1929 на старонках часопіса "Паляўнічы Беларусі" (№6) ён дэбютаваў нары-

сам “Па воўчых сцежках”, а ў 11 нумары гэтага перыядычнага выдання было змешчана і першае яго апавяданне “Чарнавухая кумачка”.

Так нарадзіўся беларускі пісьменнік Мікола Цэлеш.

Пачынаючы з 1928 года, ён стала працуе ў рэдакцыях сталічных газет і часопісаў: “Паляўнічы Беларусі”, “Беларуская вёска”, “Звязда”, “Піянер Беларусі” ды інш.

Дужа плённым у творчым плане для Міколы Цэлеша аказалася наступнае дзесяцігоддзе. За гэты перыяд ён выдае пяць кніжак: “Буська”, “Апавяданні паляўнічага”, “Са стрэльбай і сабакам”, “Курылка”, “Знаходка”, якімі, як прызнаецца пазней, *“цяпер дужа незадаволены”,* падрыхтаваў да друку зборнік апавяданняў “Лясныя шумы” – *“лепшы зь іх, не пасьпеў выйсьці з прычыны вайны, і ёсьць чуткі, што выйшаў пасьля вайны”.*

***

У гэты ж самы час Мікола Цэлеш перажывае і вялікую асабістую драму: памерла жонка, пакінуўшы на яго рукі двух малых сыноў – Леаніда і Анатоля. Пісьменнік бярэ шлюб у другі раз, і за месяц да пачатку вайны ў ягонай новай сям'і нарадзілася дачка Слава.

Пачалася вайна. Немцы ў Мінску. Пісьменнік апынуўся на жыццёвым раздарожжы, перад нялёгкім выбарам. А сітуацыя ў сям'і Цэлеша такая, што хоць плач: трое малых дзяцей, хворая пасля родаў жонка. *“Хіба я меў права пакінуць іх на верную пагібель?”* – настойліва дапытваўся Мікола ў адным са сваіх пасляваенных лістоў у брата Піліпа, які жыў у Заазер'і.

Вось і яшчэ адна загадка: жыццё пісьменніка ў акупаваным фашыстамі Мінску. Сам ён у адным з лістоў да брата Піліпа сцвярджае: *“Як і кожны сумленны... грамадзянін, у час нямецкай акупацыі я рабіў, што мог. Не пайшоў да немцаў на працу. Наша кватэра на Дзяржынскага вуліцы (з Абутковай нас немцы выгналі) стала перадатачным пунктам розных неабходных рэчаў для вызваленчага руху, як медычныя прылады, марля для перавязак, тавар на абутак і шмат-шмат іншага... Урэшце, у 1943 годзе нашу кватэру нямецкая паліцыя ўзяла на падазрэньне, некалькі разоў быў зроблены пошук, ламалі дзьверы, мэблю, уздымалі падлогу. 7 лістапада 1943 года ў глыбокай начы на кватэру быў налёт вялікай зграі нямецкай паліцыі. На наша шчасьце, у гэтую ноч у нас ніхто з чужых не начаваў, а так вынішчылі б усю сям'ю”.*

А вось і зусім адрознае, супрацьлеглае меркаванне. *“У сярэдзіне шасцідзесятых гадоў,* – зазначае ў артыкуле “Учарашняе і сённяшняе” вядомы беларускі празаік Барыс Сачанка, – *з групай пісьменнікаў я наведаў удаву Касянкову – жонку пісьменніка Міхася Зарэцкага. Апавядаючы пра даваеннае жыццё, яна ўспомніла невядомае мне тады імя, Міколу Цэлеша – ён, гэты чалавек, калі арыштавалі Міхася Зарэцкага, быццам прыехаў да іх на кватэру і праз вокны выкідваў усё, што было ў хаце – ачышчаў сабе жыллё, каб пасяліцца.*

*– А потым, у вайну, як прыйшлі немцы, прадаўся ім, – гаварыла жонка Міхася Зарэцкага, абураная тым, што ведала”.*

***

Да калабарантаў Міколу Цэлеша ніхто ніколі не адносіў. Яго адзіным сведчаннем “прадажнасці” фашыстам можна прылічыць хіба што факт выдання ў 1943 годзе зборніка апавяданняў “На крыжы”, якому, прынамсі, было наканавана стаць пераломным у творчасці і светапоглядзе пісьменніка.

Крэда даваеннай літаратурнай творчасці Міколы Цэлеша, якое сам ён выразна пазначыў у прадмове да зборніка апавяданняў “Са стрэльбай і сабакам”, наступнае: *“Што ж датычыць маіх установак у творах, дык у мяне другой не было, як толькі тое, каб дапамагчы нашаму сацыялістычнаму будаўніцтву”.* І далей пісьменнік

настойліва і падрабязна тлумачыў савецкаму чытачу: *“Пры пісанні апавяданняў на выключна паляўнічыя тэмы, я па меры магчымасці імкнуўся паказаць і іншыя галіны нашага сацыялістычнага будаўніцтва, асаблівую ўвагу я звяртаў на тое, каб паказаць: чым жывуць зараз нашыя паляўнічыя, паляўнічыя савецкія? З чаго складаецца, якую ролю адыгрывае паляўнічая гаспадарка ва ўсёй нашай гаспадарцы? Як яе будаваць, каб яна давала больш карысці для нашага сацыялістычнага будаўніцтва? Чым было паляванне да мінуўшчыны, да кастрычніцкай рэвалюцыі? Хто меў магчымасць займацца паляваннем у тыя часы? Як працоўныя масы адносіліся тады да палявання, і як яны адносяцца, чым лічаць паляванне зараз? Як яны ўвязваюць паляванне з калгасным будаўніцтвам, з будаўніцтвам сацыялізму?”*

У зборніку апавяданняў “На крыжы” Мікола Цэлеш (кніга выйшла ў свет пад псеўданімам Мікола Лясун) паказаў, як тое самае сацыялістычнае будаўніцтва, якому ён асабіста яшчэ зусім нядаўна так стараўся дапамагчы сваёй творчасцю, панявечыла жыцці людзей, ператварала асобаў у паслухмяных рабоў.

Светапоглядныя арыенціры пісьменніка, як вынікае, кардынальна змяніліся. Але ў гэтых творах, напісаных у перыяд акупацыі, прысутнічае і непрыхаваны, сапраўдны боль па радзіме. Як будзе ён потым заўжды прысутнічаць у творах і ў самім паўсядзённым жыцці пісьменніка-эмігранта, да самага дня ягонага загадкавага знікнення.

***

Няма адназначнай яснасці і наконт канкрэтнай даты пакідання Міколам Цэлешам і ягонай сям’ёй Беларусі. Пляменнік яго з Заазер’я, сын брата Піліпа Уладзімір, сцвярджаў, што дзядзькаву сям’ю гітлераўцы арыштавалі і вывезлі ў Германію напрыканцы 1941 года.

Нехта І. Галіноўскі ў 1994 годзе ў “ЛіМаўскай” нататцы “Усе пёры Магілёўшчыны”, правільна, дарэчы, назваўшы месца нараджэння Міколы Цэлеша – вёска Заазер’е Бялыніцкага раёна, – тым не менш, вобразна кажучы, дачасна амаль што звёў яго ў магілу: “Самабытны пісьменнік згінуў недзе ў час ваеннага ліхалецця, творы яго, на жаль, не перавыдаваліся”.

Жонка Міколы Яфімавіча, спадарыня Цэлешыха, як сябе яна называла, наведала мужаву радзіму ўлетку 1999 года. На сустрэчы яна гаварыла наступнае: *“У 1943 годзе фашысцкія акупанты вывезлі Міколу і мяне ў якасці парабкаў у Няметчыну. Гнулі спіну на аднаго баўэра ў Швабіі. З няволі нас вызвалілі амерыканцы. І тут для нас з усёй вастрынёй паўстала пытанне: куды падацца?*

*Мы памяталі канец трыццатых гадоў, калі вынішчалася пад корань беларуская інтэлігенцыя, калі КДБ аднаго за другім арыштоўваў нашых сяброў. Яшчэ да вайны творы Цэлеша былі забаронены. І таму пасля доўгіх ваганняў мы выбралі ў 1949 годзе ЗША і выехалі туды”.* Да сказанага ўсё ж такі варта дадаць, што творы Міколы Цэлеша да вайны не забараняліся. Інакш як тады зразумець тое, што на працягу 1930-х гадоў выйшла ажно пяць ягоных кніжак прозы, падрыхтавана да друку шостая, перавыдадзены асобнымі кнігамі аповесці “Курылка” і “Буська”? Дый у трэцім перадваенным нумары часопіса “Полымя” змешчана апавяданне пісьменніка.

Магчыма, не друкаваліся асобныя творы.

Але – якія?

Творы накшталт апавяданняў “Янка сеяў – людзі жалі”, “Дзікі вецер” альбо аповесці “Загібельскі летапіс”, якія бязлітасна выкрывалі савецкую рэчаіснасць, яшчэ не былі напісаныя пісьменнікам. А калі і мелася штосьці падобнае ў шуфлядцы пісьмовага стала, то наўрад ці адважыўся б Мікола Цэлеш адносіць іх у рэдакцыі ды выдавецтвы. Гэта ў той час было падобнае да самагубства.

Але вернемся да аднаго з драматычных эпізодаў жыцця Міколы Цэлеша – пакіданне пісьменнікам роднай Беларусі.

Сам ён у працытаваным вышэй лісце ў Заазер'е сведчыць, што яго сям'я жыла ў Мінску, прынамсі, да 7 кастрычніка 1943 года. Існуе таксама інфармацыя, быццам горад Мікола Цэлеш са сваімі роднымі пакінуў зімой 1944 года. Яны падаліся на захад, некалькі тыдняў жылі на кватэры сябра ў Баранавічах, а потым апынуліся па-за межамі Бацькаўшчыны.

Пісьменнік значна пазней падсумуе гэты няпросты перыяд свайго жыцця такой надзвычай тужлівай, самотнай і не менш загадкавай думкай: *"Новая вайна прынесла нам жудасныя няшчасці. Я згубіў палавіну сям'і, а пазней і ўсю"*.

Што ён меў на ўвазе, занатоўваючы гэтыя балючыя словы? Па сведчанні яго жонкі і пляменніка Уладзіміра Цэлешы прымусова былі вывезены на працу да баўэра. Работа дасталася цяжкая, мазольная. Нялюдскі гаспадар таксама не ўпускаў моманту, каб паздзекавацца з сыноў пісьменніка.

– Аднойчы, – апавядае Уладзімір Піліпавіч Целеш, – калі дзядзька з дзецьмі ўбіралі віку, той баўэр прычапіўся да малодшага, Анатоля. Слова за слова, і фашыст урэшце кінуўся на юнака з кулакамі. Доўга не раздумваючы, хапіўся за вілы і дзядзька. У самы апошні момант падаспеў Леанід і паспеў-такі выбіць з бацькавых рук гэту страшэнную прыладу працы. Ноччу пасля канфлікту дзядзька з жонкай і дачкой пакінулі гаспадарку баўэра назаўсёды. Сыны ж засталіся. Іх потым вызваліла савецкае войска. Ці не гэтую акалічнасць меў на ўвазе Мікола Цэлеш, калі пісаў: "Я згубіў палавіну сям'і..."?

А можа, балела бацькоўскае сэрца за раннюю смерць дарагіх крывіначак? Леанід і Анатоль выжылі ў час вайны, але век у іх быў кароткі.

А як зразумець другую частку гэтага сказа: "Я згубіў палавіну сям'і, *а **пазней і ўсю**"* (выдзелена мною. – *М.К.*)?

На эміграцыі, спачатку ў Германіі, а з 1950 (па іншых звестках – 1949) года і ў Амерыцы, з Міколам знаходзіцца жонка, дочкі Слава і Луцэя. Займеннікам "усю" пісьменнік хутчэй за ўсё, мабыць, пазначыў увесь свой Цэлешаўскі род, які жыў у Савецкім Саюзе.

Сыны рана, дачасна памерлі. Для іх сем'яў ён – чужынец. Амерыканец. І ў перапісцы з братам Піліпам раптоўна і нечакана наспела непаразуменне, якое скончыцца поўным разрывам.

***

У сярэдзіне 1965 года Мікола атрымлівае "сярдзіты" ліст ад брата Піліпа. У выніку перапіска паміж імі абрываецца. Ліставанне, заўважу, якое на працягу амаль пятнаццаці гадоў яднала братоў, давала ім хоць ілюзорную, але ўсё ж такі надзею на магчымую сустрэчу ў будучым!

Перад гэтым "сярдзітым" пісьмом Піліп у адным са сваіх чарговых лістоў да брата "за ваду, у Новы свет", мабыць, запытаўся ў яго – ці перапісваецца Мікола яшчэ з адным іх родным братам, Ісакам? Рупіла ж Піліпу ведаць гэта. Можа, каб зарыентавацца. Ісак – не абы-хто ў іхнім родзе. Не ляснік, як Піліп. Не просты калгаснік, як сёстры Ганна і Арына. Ісак, па вясковых мерках, – вялікі чалавек: з'яўляўся начальнікам аднаго з сібірскіх лагераў. Яшчэ да вайны кар'еру зрабіў.

Тут будзе да месца невялічкае адступленне.

У артыкуле "Хто ж ён, Сядура-Глыбінны?" Сяргей Грахоўскі яскрава перадае сітуацыю з кантролем за лістамі, якія атрымлівалі грамадзяне савецкай Беларусі з-за мяжы, і ў прыватнасці – з Амерыкі. *"Пасля рэабілітацыі ў 1956 годзе,* – піша Сяргей Іванавіч, – *я прыехаў у Мінск і пачаў даволі часта выступаць у друку. Здаецца, у 1958 годзе на адрас Саюза пісьменнікаў прыйшоў мне з Нью-Ёрка ліст ад Уладзіміра Глыбіннага... Я адразу здагадаўся, што Глыбінны – Валодзя Сядура. Такі ж ліст атрымаў і Янка Шарахоўскі і расказаў мне.*

*Я яшчэ не адышоў ад страху і не ведаў, што мне рабіць з гэтым амерыканскім лістом. Вырашыў параіцца з Броўкам. Ён не здзівіўся. "Там, дзе трэба, ведаюць пра гэты ліст і чакаюць, затоішся ці каму пакажаш. Вось па гэтым тэлефоне пазвані ў ЦК таварышу (здаецца) Раманаву, ён параіць, што рабіць. І я атрымліваю ад Цэлеша і ад Казака і ўсе здаю туды", – растлумачыў Пятрусь Усцінавіч".*

Папулярна патлумачыў, такая парада ніколі не забываецца...

І вось Піліпу Цэлешу заазерская паштальёнка прыносіць пісьмо ад "амерыканскага" брата. У замежным фасоністым канверце – кароценькае пісьмо-паштоўка, датаваная 8 сакавіка 1965 года.

*"Брат Піліп! Ісак з Сібіры мне ня пісаў ні разу – ні раней, ні цяпер.*

*На картцы – Сусьветная выстаўка ў Нью-Ёрку ўначы. На гэтай выстаўцы выступалі з беларускімі народнымі танцамі і нашы беларусы, у тым ліку і Данка наша.*

*Прывітаньне Вам усім. Mikola".*

Як можна здагадацца, Мікола не адзін раз пісаў, мусіць, лісты брату Ісаку. Хацеў наладзіць перапіску і з ім. Яно і зразумела: не чужы чалавек – родны брат, свая кроў... Але той, мабыць, іх здаваў куды трэба, як гэта рабілі ў Беларусі Пятрусь Броўка, Сяргей Грахоўскі і іншыя, і перапіску, мажліва, палічыў за лепшае для сябе наогул не завязваць.

А неўзабаве і на Піліпа Яфімавіча нешта такое найшло. Цалкам верагодна, што, можа, і яму нарэшце настойліва параілі спыніць ліставанне з братам.

– У 1965 годзе, – успамінае Уладзімір Піліпавіч, – бацька дужа доўга сядзеў над напісаннем свайго чарговага ліста дзядзьку Міколу. Спісаў драбнюткімі літаркамі ажно чатыры старонкі, выдраныя з майго вучнёўскага сшытка.

Я не ўстрымаўся, прачытаў напісанае. І – жахнуўся! Бацька чамусьці, быццам той пракурор, абвінавaціў роднага брата ці не ва ўсіх вядомых яму грахах. Асабліва шмат наракаў на тое, што дзядзька нібыта не толькі прадаўся буржуям, але і сам стаў падобным да іх, заакіянскіх багацеяў-крывасмокаў, здрадзіў радзіме.

Я на бацькавых вачах парваў той ліст. Але ён напісаў яшчэ адзін і адправіў у Амерыку. З таго часу дзядзька Мікола і перастаў пісаць нам.

***

Жывучы ў Амерыцы, цяжкай працай зарабляючы на кавалак хлеба надзённага, Мікола Цэлеш, канечне ж, сумаваў па ўлюбёнаму Заазер'ю, па роднай Беларусі. Углядаюся ў здымак, пазначаны 1962 годам. Невыразная, расплывістая выява нейкай жанчыны на фоне высозных хмарачосаў. А подпіс на адвароце, зроблены рукою Міколы Цэлеша, сведчыць: *"Стаіць мая Люсічка. Здымаў я ў цэнтры Нью-Ёрка (Ракфэлер-цэнтр) пад сьцягам Беларусі.*

*Здымак выйшаў дрэнна, бо сонца закрываюць драпачы хмар.*

*14.VI. 1962. г.*

*Беларускі сьцяг дрэнна відаць".*

У паштоўцы, напісанай 18 верасня 1959 года, Мікола Цэлеш з сумам прызнаваўся брату Піліпу: *"Мне сьняцца заэерскія лясы і паляны. Перад вачыма стаіць наша возера. Не магу забыцца на ўсё гэта!*

*Душа ірвецца да іх..."*

Чалавек, жывучы ў эміграцыі, і сапраўды наўрад ці здольны пачуваць сябе шчасліва.

А вось сведчанне самага блізкага пісьменніку чалавека, ягонай жонкі: *"Ён так і не ўпісаўся ў амерыканскі лад жыцця. У сваёй сям'і мы гаварылі толькі па-беларуску. Ангельскай мовы гаспадар дома не прызнаваў у сваім крузе. Лавіў літаральна кожную навіну з Радзімы. У глыбіні душы таіў надзею, што ўдасца хоць раз яшчэ пабываць на Заазерскім возеры, паблукаць па навакольных лясах, як гэта было ў маладосці".*

З гэтага жадання пачынаецца яшчэ некалькі загадак жыцця Міколы Цэлеша.

***

Адна з іх тычыцца надрукавання ў часопісе “Полымя” некалькіх Цэлешавых апавяданняў, якія пісьменнік асабіста пры сустрэчы перадаў Максіму Танку, калі той ездзіў у Нью-Ёрк на сесію Генеральнай Асамблеі ААН. Паслухаем пісьменніка Барыса Сачанку: Максім Танк, на той час галоўны рэдактар “Полымя”, вярнуўшыся з Амерыкі, *“зайшоў у аддзел прозы і перадаў мне цэлы стос надрукаваных на машынцы на тонкай – не нашай, савецкай – паперы апавяданняў.*

*– Калі ласка, прачытайце і выберце што-небудзь да друку, – сказаў ён. – З аўтарам гэтых твораў я сустракаўся там, за акіянам.*

*– Як яго прозвішча? – пацікавіўся я.*

*– Мікола Цэлеш, ён друкаваўся ў “Полымі”. Да вайны. Цяпер жыве ў ЗША.*

*Я прачытаў апавяданні. Не скажу, каб яны мне надта спадабаліся. Але некалькі з іх – лепшых – я выбраў, падрыхтаваў да друку. Неўзабаве яны былі змешчаны ў адным з нумароў часопіса. Праўда, не пад сапраўдным прозвішчам аўтара, а пад псеўданімам. Здаецца, Пралескас”.*

Факт публікацыі апавяданняў Міколы Цэлеша ў “Полымі” пацвярджае і пазнейшы рэдактар часопіса Сяргей Законнікаў у інтэрв’ю “З вераю ў адраджэнне Беларусі”, якое было змешчана на старонках штотыднёвіка “Літаратура і мастацтва” ў 1992 годзе. Але літаральна праз пяць гадоў, у 1997 годзе, у артыкуле “...І не віна яго, а бяда, што свой талент найбольш яскрава ён здолеў раскрыць не дома, а на чужыне”, што быў змешчаны ў газеце “Народная воля”, Алесь Марціновіч, які, дарэчы, браў згаданае толькі што інтэрв’ю ў С. Законнікава, заўважае: *“У камплектах “Полымя” такіх публікацый ці блізкіх да іх няма”.*

Улетку 1991 года даваенныя кнігі Міколы Цэлеша нарэшце-такі пакінулі спецховішча Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Іх кожны мог выпісаць нават праз гэтак званы міжбібліятэчны абмен. У той жа час адбылася і мая першая гутарка пра Міколу Цэлеша з яго пляменнікам Уладзімірам, які тады працаваў пчаляром у мясцовым саўгасе “Эсьмоны”. Дык вось, Уладзімір Піліпавіч таксама згадаў, што некалькі дзядзькавых апавяданняў было змешчана ў “Полымі” пад псеўдонімам Мікалас Пралескас. Аб чым і паведаміў у адным са сваіх пісьмаў на Радзіму сам Мікола Яфімавіч.

Дык ці былі насамрэч надрукаваны ў часопісе “Полымя” апавяданні Цэлеша?

***

Мікола Цэлеш марыў вярнуцца на Бацькаўшчыну, жыў такой надзеяй. Яна яго, мабыць, не толькі саграваладь, але й прыдавала сілы. І той спадзеў на вяртанне ў мроях пісьменніка-эмігранта асабліва ўзмацніўся, калі да ўлады ў Савецкім Саюзе прыйшоў Мікіта Хрушчоў. Прычынай таму, мусіць, стала не толькі і не столькі гэтак званая хрушчоўская адліга, развянчанне культа асобы Сталіна. Эмігранты на ласку не разлічвалі, да іх гэтае паслабленне не адносілася. Нават пры змене ўсемагутных генсекаў.

Мікола Цэлеш у гэтых варунках, мажліва, вельмі спадзяваўся на даўняе асабістае знаёмства з Мікітам Сяргеевічам.

Сустрэча іх адбылася, па згадках Уладзіміра Целеша, яшчэ тады, калі Мікола працаваў у бухгалтэрыі адной з шахтаў Данбаса. Хрушчоў як партыйны работнік быў камандзіраваны на тую шахту, каб рэалізаваць на месцы нейкае партдаручэнне. Прабыў на ёй Мікіта Сяргеевіч, будучы ўсемагутны генсек, тыдні паўтара, жыў у адным пакоі з таксама будучым пісьменнікам.

Прыход да ўлады Хрушчова, вядома ж, не мог не абнадзеіць Міколу Цэлеша.

Магчыма, ён напісаў ліст і яму, свайму былому знаёмцу. Такое развіццё падзей – зусім у характары Міколы Яфімавіча. Магла быць і пэўная рэакцыя на гэты зварот з-за акіяна.

Відавочна, што Мікола Цэлеш у сваім знаёмцы аказаўся вельмі расчараваным. І яно, гэта расчараванне, вылілася нават у радкі аднаго з лістоў да брата Піліпа.

– Здаецца, у 1963 альбо на самым пачатку наступнага года, – згадвае Уладзімір Піліпавіч, – атрымалі ад дзядзькі чарговы ліст. Прачытаў яго бацька, а потым перадае пісьмо і мне. "Пачытай, – кажа, – да цябе дзядзька Мікола звяртаецца".

Узяў пісьмо, чытаю... "*Дарагі пляменнік, памятай, што ад вялікага да маленькага – усяго адзін крок.*

*Сталін некалі быў дужа вялікім, а цяпер ён – маленькі. Зараз царуе ў вас мой сябра, некалі ў Данбасе з ім на адным ложку спалі, Мікіта Хрушчоў. Падаючы мне руку на развітанне, ён казаў: "Хоць я зараз і еду ў сваю Каліноўку, але, пабачыш, буду вялікім чалавекам".*

*Так, сёння ён – вялікі. Але заўтра будзе маленькім, бо шмат чаго няправільна робіць. І з Хрушчовым будзе, як са Сталіным".*

Як у ваду дзядзька ўсё роўна паглядзеў тады – Хрушчова неўзабаве знялі.

***

Вялікія наўрад ці любяць, калі да іх з просьбамі звяртаюцца былыя сябры. Хоць наконт сяброўства з Мікітам Хрушчовым, можа, Мікола Цэлеш і гучна сказаў. І прыслухоўвацца да парад простых смяротных вялікія, надзеленыя неабмежаванай уладай, не будуць.

У звязку з гэтым мне згадваецца адна сустрэча з цікавым і неспакойным у сваім жыцці чалавекам.

Напачатку 90-х гадоў прамінулага стагоддзя пазнаёміўся з Аляксандрам Васільевічам Мураўёвым. Праязджаючы на аўтамашыне па адной з вуліц бялыніцкай вёскі Асавец, мяне і маіх спадарожнікаў літаральна паланіла сядзіба, якая выразна вылучалася ў чарадзе аднастайных пяцісценак сваёй нязвыклай архітэктурай. Разгледзелі сад з вуллямі на даху лазні, клікаў да сябе і нябачаны дагэтуль анідзе трохпавярховы спічасты хлеў, які быццам на нашых вачах вырастаў-цягнуўся ў блакітны сувой дабравешчанскага неба. Вабіў і прасторны дом – адзіны на ўсю немалую вёску, пабудаваны са шлакабетону.

З асцярожнасцю ступілі на шырокі пляц падворку, густа зарослага аксамітнай травічкай... Убачылі на ім самога гаспадара.

Узброіўшыся доўгаю жэрдкай, каржакаваты, як камель, мужчына адганяў нахабнага бусла ад буслянкі, якая лахматай шапкай вянчала крону высознай ігрушы.

– Іш ты, лайдак, – махаючы жэрдкаю перад гняздом, нейкім ужо занадта лагодным голасам сварыўся ён на птушку. – Шукай для сабе іншае жытло. Не лянуйся, паразіт. А гэтае – маіх буськаў хата. Яны хутка вернуцца з выраю. Ляці сабе, шукай свой дом... Дрэў хапае...

З размовы з гаспадаром адметнай сядзібы высветлілася, што гэтае гняздо належыць іншай пары буслоў, якія жывуць тут каля дзесяці гадоў. Проста сёлета яны па нейкай прычыне крышачку прыпазніліся з прылётам, і вось гэты пярнаты нахаба вырашыў скарыстацца іх адсутнасцю, каб "прыхватызаваць" гатовае жытло.

– І не пушчу, – сказаў, як адрэзаў, Аляксандр Васільевіч. – Я да сваіх буслоў прывык і не хачу, каб яны засталіся бяздомнымі. Ужо з тыдзень ваюю з гэтым прыхаднем, адстойваю правы сваіх бацяноў. Дачакаюся... Не можа быць, каб не прыляцелі мае буські...

Але вернемся да Мікіты Сяргеевіча.

Высветлілася, што Аляксандр Мураўёў, які зараз стаіць перад намі з жэрдкаю ў адной руцэ, а далонню другой выцірае пот з узмакрэлага твару, у свой час адважыўся павучыць жыццю самога ўсемагутнага кіраўніка Савецкага Саюза.

– Першы ліст памерам на 70 старонак машынапіснага тэксту, –расказваў Аляксандр Мураўёў, – я адправіў Мікіту Хрушчову ў лістападзе 1963 года. А

копію накіраваў у рэдакцыю адзінай тады на ўсю краіну беспартыйнай газеты “Известия”. Чакаю адказаў. Спадзяюся, што мяне зразумеюць, улічаць маю думку, можа, нават і дзякуй скажуць...

Праз нейкі час выклікаюць у Мінскі абкам партыі. Я тады жыў у сталіцы, працаваў у сістэме грамадзянскай авіяцыі. Нейкі наменклатуршчык змушана доўга і, як мне падалося, падроблена смяяўся з таго, што я напісаў такі доўгі ліст і ў канцы яго прыгадаў сваю маці.

“Ты, можа, чаго дабіваешся гэтым пісьмом? – нарэшце запытаўся наменклатуршчык. – Скажы нам. Навошта ж адразу ў Маскву пісаць?”

Мне не патрэбны была ні кватэра, ні грошы, ні падвышэнне па службе. Для сябе я ніякіх выгод, прывілеяў, абсалютна нічога ў пісьме не прасіў. Балела душа за краіну, і ўзнятыя мной праблемы трэба было вырашаць як найхутчэй.

Я тады пісаў генсеку, што нельга будаваць сацыялізм і камунізм для асоб, уладу маючых, па адным профілі, а для працоўных – па другім. І што праводзіць на людзях эксперыменты не толькі амаральна, але і злачынна. Я прыводзіў безліч фактаў з нашага жыцця, паказваў беспарадкі, безгаспадарчыя адносіны да матэрыяльных рэсурсаў і прыроднага багацця. Прапаноўваў перагледзець сістэму падаткаабкладання і ўвесці ў практыку вытворцаў сельгаспрадукцыі арэндны падрад, кіраўнікоў прызначаць не па наменклатурна-анкетным прынцыпе, а зыходзячы з іх асабістых дзелавых і маральных якасцяў...

І вось, нарэшце, дачакаўся адказу з Масквы: пошта прынесла мне ліст з газеты “Известия”. Намеснік рэдактара аддзела пісьмаў нейкі М. Сяржантаў усялякімі словамі бэсціў мяне, называў вельмі самаўпэўненым чалавекам. Ён рытарычна пытаўся: што дае мне права павучаць іншых у такіх пытаннях, як лясная гаспадарка, выкарыстанне хімічных угнаенняў, жыллёвае будаўніцтва ў калгасах, арганізацыя торфараспрацовак, вядзенне садоўніцтва, работа цэментавай прамысловасці, эфектыўная арганізацыя працы дзяржаўнага апарату, міжнародныя адносіны, падатковая палітыка і г.д? Менавіта па ўсіх гэтых пытаннях я і выклаў у пісьме да Хрушчова ўласную думку.

Аляксандр Васільевіч адышоўся ад стала, за якім працякала наша размова, і скіраваўся да масіўнай самаробнай шафы. З шуфлядкі нетаропка, нават з падкрэсленай урачыстасцю, быццам медаль самага высокага гарту, дастаў пажоўклую папяровую тэчку. Разгарнуў яе і паклаў на стол таксама пажоўклыя аркушы з ледзь чытэльным зараз, “сляпым” тэстам, набраным на пішучай машынцы праз капірку.

Гэта была адна з копій таго самага ліста Мікіту Сяргеевічу – 70 старонак машынапісу.

– А вось і ён, адказ Сяржантава, – падаў нам стары чалавек, усміхнуўшыся ў пшанічныя вусы, паперчыну з тытулам газеты “Известия”.

Звярнула на сябе ўвагу заключная частка гэтага рэдакцыйнага дакумента. *“Недапушчальна члену КПСС,* – начальніцкім тонам павучаў Аляксандра Мураўёва, відаць, самы сапраўдны чыноўнік ад журналістыкі, – *уяўляць сябе адзіным барцом за інтарэсы партыі, краіны і народа; адзіным, хто бачыць цяжкасці жыцця і ведае, як іх ператварыць у дасягненні”.*

– А да таго часу, – загадкава ўсміхаецца дзядзька Аляксандр, – я напісаў Хрушчову, даслаўшы копію зноў у “Известия”, яшчэ адзін павучальны ліст. Карацейшы, старонак на трыццаць.

У выніку, Мінск мне давялося пакінуць. Назаўсёды. Добра, што яшчэ ў турму не пасадзілі...

Па гэтай прычыне ў 1964 годзе Аляксандр Мураўёў вярнуўся ў родны Асавец. Знайшоў працу шафёра ў мясцовым саўгасе. Стаў хлебаробам, селянінам.

Пабудаваў тут для сябе дагэтуль нябачаную вяскоўцамі хату са шлаку і бе-

тону, а потым спакваля, не за адзін год, на даху лазні развёў сад з пасекай, узвёў востраверхі хлеў, пасябраваў з буслamі...

Апусціўшыся з неба на зямлю, ён, праўда, не згубіў у сваёй душы характэрны нямногім рамантызм і ўпартасць перайначвальніка, адкрывальніка, праўдалюбцы. А таму землякі ў вочы і за вочы называлі Аляксандра Васільевіча дзіваком. А ён і сапраўды быў дзіваком, бо ў грамадзе баязлівых, паслухмяных адзінадумцаў заўсёды меў уласную думку і ніколі не баяўся яе выказваць – у вочы, прама. А калі патрабавалася, то й адстойваў яе ўсімі даступнымі яму на той час сродкамі і метадамі.

Думаю, што ўсё гэта збліжае, духоўна радніць зусім незнаёмых паміж сабой Аляксандра Мураўёва з Асаўца-Мінска-Асаўца і Міколу Цэлеша – з Заазер'я-Мінска-Нью-Йорка...

***

...А, можа, Мікола Цэлеш у тым сваім, прыгаданым некалькімі старонкамі вышэй, гіпатэтычным звароце да былога знаёмца, які паспеў ужо стаць самым "вялікім чалавекам" у Савецкім Саюзе, таксама павучаў яго, патрабаваў нечага?

А тое, што Мікола Яфімавіч мог напісаць такі ліст, звярнуўшыся наўпрост да Мікіты Хрушчова, сумненняў не выклікае. Характар ужо такі меў Мікола Цэлеш. Дый імкнуўся пісьменнік на Бацькаўшчыну...

Звернемся зноўку да сведчанняў Барыса Сачанкі. Ён успамінаў, як аднойчы Максім Танк даў яму прачытаць ліст Міколы Цэлеша. У ім пісьменнік-эмігрант выкладаў умовы, паводле якіх ён пагадзіўся б пераехаць жыць у Беларусь.

Заўважце, з гэтага як быццам вынікае, што пытанне аб вяртанні для Міколы Цэлеша нібыта ўжо вырашана. Заставалася, як здаецца, хіба што толькі ўзгадніць умовы ягонага вяртання на Радзіму і атрымаць пэўныя гарантыі.

Але, з другога боку, вылучаныя ім умовы адсякалі не толькі саму магчымасць, але і руйнавалі дарэшты ўсялякую надзею для такога пераезду ў будучым.

Як прыгадвае Барыс Сачанка, "*галоўнымі з іх былі змена таталітарнага рэжыму, наданне Беларусі сапраўднага суверэнітэту, незалежнасці ад Масквы...*"

Жыццёвае кола з надзеямі, хай сабе і мройнымі, замкнулася...

Масты для вяртання спалены...

Назаўсёды ці, прынамсі, – на вельмі доўгі час...

***

У адным з першых нумароў за 1975 год рускамоўная Нью-Ёркская газета "Новое русское слово" надрукавала такую інфармацыю: *"30 снежня (1974 г.) кватэру беларускага пісьменніка і супрацоўніка нашай газеты М. Цэлеша абрабавалі ў чацвёрты раз за апошнія два гады. Забралі ў ліку іншых рэчаў самае каштоўнае для яго: машынку "Алімпія" і радыёпрыёмнік "Філко".*

*У доме, дзе жыве пісьменнік, арудуе банда злодзеяў-наркаманаў. Паліцыя добрасумленна рэгіструе кожнае абрабаванне, але... злодзеі працягваюць свае аперацыі беспакарана.*

*Міколу Цэлешу 70 гадоў* (паводле гэтай інфармацыі, пісьменнік нарадзіўся ў 1904 годзе. – *М.К.*), *ён літаральна зачынены ў сваёй кватэры. Пісьменнік хадайнічаў перад гарадскімі ўладамі аб перасяленні ў іншы гарадскі жыллёвы раён, але пакуль яго хадайніцтва не мела поспеху".*

На эміграцыі Міколу Цэлешу жылося нялёгка. Цяжкасці, сярод іх і чыста пабытавыя, не-не, дый падштурхоўвалі яго да думкі вярнуцца на Радзіму, у краіну, якой кіруюць нялюбыя яму бальшавікі-камуністы, дзе ўсталяваны таталітарны рэжым, адсутнічалі свабода слова і сумлення...

Але ж ён так любіў сваю Беларусь.

І сапраўды, толькі на Радзіме, толькі сярод свайго народа чалавеку добра, і толькі на Бацькаўшчыне кожны з нас адчувае сябе ўтульна.

Шчырасць пачуццяў Міколы Цэлеша да роднай Беларусі выразна і адназначна пацвярджаюцца і словамі аднаго з яго лістоў да Юркі Віцьбіча*: "Занадта дарагая для ўсіх нас Бацькаўшчына, каб дазваляць каму-небудзь тут, на эміграцыі, брахаць на Яе".*

Цвёрды характар пісьменніка, народжанага ў Заазер'і, ягоная незалежнасць і жаданне жыць толькі ўласным розумам выдатна праявіліся ў гэтым сказе, які, магчыма, быў выпакутаваны цягам не аднаго года нялёгкага і самотнага жыцця на чужыне.

Мікола Цэлеш заставаўся самім сабой, вольным чалавекам, ні пад каго не падладжваючыся і ў замежжы. Надзвычай характэрнае ў гэтым плане апавяданне пісьменніка, перакладзенае ім з беларускай мовы на расейскую, "Небоскрёбы на вулкане". Галоўным героем яго Мікола Цэлеш зрабіў старога і хворага прафесара-эмігранта: сціплага, сумленнага, прынцыповага чалавека. Напрыканцы вайны па дарозе на чужбіну, дзе спадзяваўся знайсці калі не другую радзіму, то ўладкаванасць, спакой і камфортныя ўмовы для існавання, ён страціў жонку. У Амерыцы, якая дала прытулак, яму ўсё не падабаецца. Тут даводзіцца існаваць выключна на грашовую дапамогу "релиф офис". А яшчэ й з дачкой Люцыяй – праблемы: *"ведь я теперь не только одинок, но почти уничтожен; ты потерял родину,* – з горыччу піша знямоглы жыццём прафесар у лісце да парыжскага сябра, мастака-эмігранта Віктара, – *но я потерял всё: родину, жену и даже возможность заниматься своим любимым трудом; дочь, которая теперь со мной и которая была, как ты знаешь, таким милым ребёнком, ещё более усиливает моё горе: теперь ей семнадцать лет, но она совершенно отбилась от дома: я очень боюсь за её будущее..."*

А вось і надзвычай характэрнае, выпакутаванае прызнанне хворага прафесара "чистенькому седому старичку": *"Да, на родине я принадлежал к группе ученых... Но не в этом дело, а в том, что вырвавшись на свободу, казалось бы, могу сказать свое искреннее слово, но не могу этого сделать..."*

У гэтым апавяданні Мікола Цэлеш стварае і каларытны вобраз антыпода прафесара, Пятровіча, з якім некалі разам шукалі дарогу ў вольны свет. Пятровіч добра ўладкаваўся ў Амерыцы, ажаніўшыся на багатай кабеце: *"нашел себе бабу со ста тысячами на книжке и катается, как сыр в масле",* – іранізуе пісьменнік.

Прафесар адносна Пятровіча мае ўласную цвёрдую думку: *"Холуй и всё. И там был холуем, и тут им остался..."*

У сваю чаргу не задаволены прафесарам і "амерыканізаваны" Пятровіч. Ён дае яму слушную жыццёвую параду: *"...Ты уже двадцать лет в Америке, довольно хорошо, как вижу, владеешь языком, а до сих пор не понял, что американцы народ деловой и чудаки у них совсем не в почете, а особенно те, которые в глаза тычут им мнимые недостатки... Прошу тебя, прими это к сведению".*

Гэтыя словы вельмі добра дастасоўваюцца да прызнання спадарыні Цэлешыхі, якая гаварыла, што пісьменнік "*так і не ўпісаўся ў амерыканскі лад жыцця".*

***

Напрыканцы 1975 года (па іншых звестках здарылася гэта ў 1976 годзе) Мікола Цэлеш пайшоў па справах у горад...

Дамоў не вярнуўся. Нібыта ў ваду кануў.

Аніхто не ведае, дзе знаходзіцца магіла пісьменніка.

Хоць жонка яго, па словах Барыса Сачанкі, *"мае звесткі, што Мікола пасля надрукавання ў "Полымі" сваіх апавяданняў пераехаў жыць у Савецкі Саюз".*

І гэта ці не адна з самых найвялікшых загадак, якія пакінуў пасля сябе Мікола Цэлеш – чалавек-легенда, чалавек-загадка, чалавек-міфатворца.

Віктар Казько



…і на Палессі,
вакол Гомля і па-за Гомлем,
ёсць людзі…

# Незваротнае

***Прыватны роздум пра ўласную, і не толькі, маўклівасць***

Я па-зладзейску доўга і пакутліва падкрадваўся да гэтага белага ліста паперы. Стрымлівала і не пускала боязь абкрасці самога сябе – памяць. Ужо мінуў амаль год, як я атрымаў кніжку «Вільча, Случ, Радзіма» Сяргея Кулакевіча, журналіста жыткавіцкай раённай газеты «Новае Палессе», былога жыхара вёскі Вільча. Неяк улетку ён абазваўся сам, пазваніў мне. А сёння, напрыканцы восені, а я ўсё марнуюся і заціскаюся на водгук. Маўклівасць – прыкмета колішняга і сапраўднага. Слова і голас у наш час страцілі сэнс, бо надта ж багата развялося навокал гаваркіх, што абгарадзіліся языком, што непраходным лесам, з-за якога дрэў не відно.

Я хаваюся ад яго і ў ім даўно ўжо збытым дзяцінствам, калі так добра было спавядацца на самоце і ў дарозе самому ж сабе, таму ж дрэву, рацэ, нейкай невядомай табе былінцы, казюрцы, небу і сонцу, сваёй непрадказальнай, але ж, безумоўна, светлай будучыні. Усё гэта падаравала мне схаваная, абароненая балотамі і дрыгвой, гацямі, абкружаная дзвюма рэкамі, Случчу і Пры-

пяцццю, і таму, лічы, апроч старадаўняй непраезднасці і непадступнасці большай часткі года, замкнутая некалі мяжой паміж двума беларусамі – заходнім і ўсходнім – па-паляшуцку сціплая, рахманая і памяркоўная вёсачка Вільча: таму што на вілах рэк у чорта на рагах, на хваёвым, дубовым ды кляновым навільніку. Вёска, што апекавала мяне, у якой я гадаваўся ў дзіцячым доме, жыў і вучыўся ў былых казармах савецкіх памежнікаў. Траўна і дрэўна ўрастаў у свой кут, мілуючы яго і шкодзячы яму. Неасэнсавана, міжвольна, але з задавальненнем і даволі спрытна, як гэта нададзена толькі дзяцінству, з якога і атрымліваюцца людзі і чалавекі.

Вільча, з веку ў век горкая і салодкая, смяротная і вечная, гарапашная і крывавая, наскрозь, навылёт паляшуцкая верасамі, багуном, буслямі ды журавамі, хвойнікамі, ліпамі і дубровамі, водамі і росамі, удыхнула ў мяне сваю душу. Надала дыханне і перахапіла яго, апякла і загаіла. Вось чаму шчыміць сэрца, стогне душа, умываецца кроўю памяць ад аднаго толькі дотыку да таго, што было і што ёсць сёння ў Вільчы, спрадвеку радзімы буслоў ды буслянят – ста пяцідзесяці былых пасляваенных сірот-бязбацькавічаў, выхаванцаў Вільчанскага дзіцячага дома. Хаця буслоў тут было значна болей, каля трохсот налічвалі ў адлётнай іх чарадзе ў вырай. Больш дваццаці адразу застрэлілі аматары-паляўнічыя. Паставілі свае шыкоўныя легкавікі пад вячыстым случанскім дубам, на якім гнездавалі мясцовыя Антоны. А яны ўзялі ды абас...алі тыя легкавікі, і пачалося смяротнае пабоішча.

Знамянальна. Знакава сёння і для палескай вёскі Вільча, і наогул для ўсяго нашага жыцця. Бытавання ў Вільчы Кулакевічаў, Канапацкіх – а гэта самае распаўсюджанае прозвішча тутэйшых жыхароў. А яшчэ – Шчуры, Кірбаі, Фіцнеры, Шаўрэі, Знаўцы ды Галіцкія. Сапраўдны інтэрнацыянал: беларусы, палякі, татары, украінцы, рускія, немцы. Вось толькі яўрэяў звялі. Але былі і яны. Марыя Майсееўна Швец хаця б, мая класная кіраўніца, выкладчыца рускай і нямецкай моваў.

Пасля вайны настаўнікаў "пастаўляў" пераважна Мазырскі педагагічны інстытут тады, цяпер універсітэт. Яны працавалі і ў нас у дзетдоме, і ў школе. Марыя Герасімаўна Нікіценка-Канапацкая, светла пайменаваная ў кніжцы Кулакевіча Марыйкай. Светлы чалавек, вучыла нас матэматыцы жыцця і проста жыццю. Вялікі дзякуй ёй і ўсім маладым дзяўчаткам, птушкам Мазырскага інстытута. Яны везлі пажыццёва ў палескую глуш сваю маладосць, спачувальную душу, святло, якога так не хапала нам, з водбліскам якога мы разляцеліся па свеце.

Вёска Града, вялікая і спрэс амаль украінская, месцілася непадалёку ад Вільчы. Загацце было з абеларушаных немцаў. Як сведчыць Сяргей Кулакевіч, яны былі суседзямі вільчанцаў. Іх былое паселішча на слыху і сёння – Харлін. На іх даўніх могілках я сам аднойчы спатыкнуўся аб лютэранскую ці яшчэ нейкую, нязвыклую тут надмагільную дошку і надоўга застыў у непаразуменні.

Здаецца, сама гісторыя зайшла ў ціхую і сціплую паляшуцкую вёску Вільча. Гісторыя з геаграфіяй. Зайшла, спатыкнулася і назаўсёды збілася тут у адно непарыўна наскае, як сведчанне не толькі паляшуцкасці, беларускасці – пра нашы заручыны з вялікім светам. Пра тое, што Палессе – сапраўды велічнае, у повязі з усёй зямлёй, а не толькі з лапцямі, каўтуном і ліхаманкай. Балотныя то балотныя людзі, але ж не толькі што гарох пры дарозе, хто ні ідзе – той і шчыкне. І мову сваю мелі і шанавалі. Навучанне дзяцей вялося на родных мовах. А разумеліся па-беларуску, ці, праўдзівей, па-паляшуцку, на звыклай і цяпер тураўскай гаворцы. С. Кулакевіч з яе і пачынае: "– Уставай, сынок... БацькО ждаць не будзе". І далей: – "Ганна, там мая кОсынка зачапіласА"... " – Ой, чОлОвеча, не мні маю кохту". Па-тураўска-вільчанску "млея ў затоцы – гэта гуска, шчупак – кажушок, а качкі – гэта вутва..." А да ўсяго гэта мілагучнасць. Здаецца, назаўсёды страчаная намі з-за ўплыву гарадскога маўлення, пазыкі замежных, а больш расійскіх слоў, і школьнага навучання. Страты выраку каранёў мовы, мацярыка дзедоў і прадзедаў – вёскі.

Так, мы крывава размінуліся са сваім пачаткам. Мінулай восенню я праехаўся

па родных мясцінах гомельскага Палесся. І сёння смыліць і плача душа. Не толькі сваіх вёсак, дзе нарадзіліся бацька і маці, не знайшоў. З цяжкасцю знайшоў дарогу да іх могілак. Большасць колішніх вёсак – гэта брацкая магіла іх жыцця і ладу. Тое ж самае адбываецца і з Вільчай. Яна пераўтвараецца ў магілу маёй памяці і душы. Сыходзяць на пагосты Кулакевічы, Канапацкія, Шчуры, Фіцнеры. А мы ж, былыя дзетдомаўцы, ці не ўзраслі на іх хлебе. Калі паводка і слота развозілі дарогу да непадступнасці, хлеб нам збіраў дырэктар дзіцячага дома Мірон Апанасавіч Сарока па вясковых хатах. І мы пахваляліся адзін перад другім:

– Ямо хлеб Кулакевіча.

– А ў мяне смачнейшы – ад Канапацкага.

– А мой ад самога Фіцнера разведчыка, паплечніка самога Каржа.

Знакамітая і багатая на сапраўдных, выбітных людзей была сціплая, глыбінна паляшуцкая вёска Вільча. Брат Марыі Маісееўны Швец будаваў у Маскве на Выстаўцы дасягненняў народнай гаспадаркі вядомы ўсёй краіне Фантан Дружбы. Я вучыўся ў адным класе з будучым палкоўнікам, а потым і генералам Мурманскай міліцыі. Меўся ў Вільчы і свой генерал, цяпер ужо нябожчык, намеснік камандуючага ўнутранымі войскамі, начальнік штаба Сяргей Андрэевіч Канапацкі.

А колькі іх тут нарадзілася і пайшло ўжо на той свет невыбітных, не славутых. Гэта мы з імі і іх дзецьмі, унукамі разам са старшынём калгаса імя ХХ-га партз’езда выходзілі ў дубнякі, пад пілы лесарубаў, калі тыя ўздумалі звесці іх дуброву. Адстаялі. Зберaглі. Толькі ці на шчасце і долю сабе. Стварылі Случанскі заказнік для аховы запаветных бароў і гаёў, чорных і белых буслоў. А самі пайшлі на згубу, адстрэл, забароны і пагост. Бо да ракі і тых жа бароў і дуброў вяскоўцам сёння не падступіцца без дазволу і пуцёўкі. І ў гэтым і мая віна. Дамогся пракласці ад Загацця да Вільчы асфальт. Праклаў дарогу браканьерам на легкавіках. Тым, хто адстрэльвае сёння буслоў, страляе ў маё дзяцінства і памяць.

Дакладна ці не, не буду сцвярджаць, казалі, што некалі ў Вільчы было сто дваццаць, а мо і пад дзвесце двароў. Не ведаю, колькі іх сёння. Але хаты знікаюць, пустуюць. Цывілізацыя, гарады хіжа і прагна з’ядаюць вёску. Нейкім чынам ратуе толькі першастворанасць кута. Дачнікі. І ўлетку вёска гудзе. А зімой – цішыня. Толькі зрэдку брэх сабак ды белае покрыва снегу. Надоечы пазразвоньваўся са сваім старым сябрам Сашам Танчынскім, як яго тут клічуць, начальнікам ракі – хварэе за Случ, птушку і звера. І тым нажывае сабе ворагаў. Піша, скардзіцца Таварыству аховы прыроды пры Акадэміі навук, з якой ён ўжо каторае дзесяцігоддзе пазаштатна супрацоўнічае. Ведае кожнага бабра і выдру ў рэчцы Случ ці не ў твар. Не аднойчы ўначы бараніў тых жа баброў ад браканьераў, выходзіў разам з бацькам, цяпер нябожчыкам, Якавам Танчынскім, са стрэльбай.

Дык вось мой сябра пры той нашай гаворцы з сумам мовіў:

– Нас, карэнных жыхароў, у Вільчы засталося толькі дзявяцёра. Астатнія перабраліся пад дубы на могілкі па-над вадой возера Вясковага, што таксама ўсыхае.

– А калісь у тым возеры чатырнаццаціметровай мачтай для дзетдомаўскай лінейкі мы не здолелі дастаць дна. І знікалі ў ім, як у апраметнай, амаль па Коласу, вуцці-качкі і неабачлівыя парсюкі, што выходзілі асвяжыцца на вадзе.

Вясковае, Фестывальнае, Беліч і Белае, Гарулёва – гэта ўсё назвы азёр і старыц каля вёскі. А іх тут ці не пад два дзясяткі. І паўсюдна ўся зямля пайменавана, нарачона прозвішчамі людзей, што хадзілі, рабілі, гібелі, святкавалі і смяяліся тут. Кожнае поле, кожная дзялянка сенажаці, кожны лясок: Харлін, Шаўрэеева паляна, Дзям’янаў брод. (Дарэчы, С. Кулакевіч сам з Дзям’янаў. Магутны быў дзед Дзям’ян, як рыкне сыну Адаму, бацьку Сяргея: “Забыўся, нясі вяроўку!” – на ўсю Вільчу чутно. А ад той балоні да вёскі тры кіламетры.)

Зямля не губляе памяць пра тых, хто хадзіў па ёй, не забывае ні аднаго слядка. Колькі гадоў, як няма ўжо дзетдома, а дзетдомаўскі востраў, дзе галапуза блёха-

ліся мы ў Случы, стаіць. І што мне салодзіць душу, каля яе стаіць дуб, названы маім імём.

Адно толькі гора горкае, сэрцу, розуму і вачам незразумелае і непадуладнае – нібыта ў прорву знікае, адыходзіць усё гэта. Разам з сынам у адно з летаў мы прыехалі ў праведкі Вільчы, ракі, пахадзіць, парыбаліць, пабачыць тых і тое, што зарубінай, нязбыўным духам і святлом агарнула і асвяціла мне дзяцінства і будучыню.

Лепш бы я не ездзіў і не вярэдзіў душу. Трава забыцця апляла ўсе мае вільчанскія сцежкі. Непазнавальнасць, адрачэнне, дрымотны сум і спакой, настоеныя на трыццаціпяціградуснай спёцы, у той дзень сустрэлі мяне. Застылая ўжо, здаецца, вечнасць. Зусім не тая, што ў карцінах Левітана. Паглынальная. Абыякава паглынаючая жыццё і чалавека. Разгубленасць і непатрэбнасць сярод раскошы і буяння прыгажосці. На былых прырэчных сцежках, дзе я збіваў ногі і зносіў пазногці ў каранях вербалозу, не прайсці і не прабіцца. Сцяна хмызоў і збуяла сплеценай травы. Белым-белы пясочак на так званым Бабскім пляжы ўчарнеў. Травы някошаныя, сцежкі няходжаныя, палі нявораныя. З вясковага, сялянскага ўжытку і побыту збыты каса, сакера (на Палессі толькі сАкера), і плуг збыты. І па-над усёй гэтай раскошай паглынальнай вечнасці, баляваннем занядбання – гуд, гуд, гуд. Гудзе і стогне адыходзячае Палессе. Цененька, усхліпна і няўцешна. Нібыта паміральным бабіным летам нячутны вецер перабірае і рве нябачнае ў высокім сонечным небе павуцінне.

Правіць хаўтуры гнюс. Машкарэча, камар'ё, слепні з аваднямі. Адбіцца ад іх няма ніякай рады. Чым больш махаеш рукамі і лазовым веццем, тым больш яны звярэюць. Развялося незлічона – і ці не яны з цягам часу зменяць тут і паўсюдна чалавека – з'еда, драбнота шыецца, што вошы, у валасы, пад адзенне. Упіваецца ад уласнай настырнасці, смерці і крыві, нібы прадчувае, што век іх кароткі. Сляпіцай імкнець на свае ж хаўтуры. Складае тутэйшаму чалавеку палудзенны сонечны рэквіем.

А рака, Случ, у сваім адвечным улонні жывая. Толькі вось кіпіць кіпнем ад слізу па ёй рыбацкіх лодак. Самых розных, ад байдарак да катамаранаў, металёвых, гумавых. Разлягаецца вада. Сыпка і хваліста, грудамі рушыцца бераг. Празрыста і моўчкі кладзецца на дно адметна бялюткі случанскі пясок. У апошнія гады яна моцна пацярпела, як і ўся наша краіна, ад чарнобыльскай навалы, хай краем, але зачапіла і яе. Далася ў знакі меліярацыя, асушэнне балотаў. І яна, як паранены звер, кідаецца ў бакі і спустошана мялее. Не хапае ёй пітва, вады, і ёй, і рыбіне не хапае. Казалі, перад вайной, калі па Случы ішоў на нераст лешч, можна было ставіць вясло, і яно стаяла. Сёння ж рака на рыбу амаль пустая, не падганяе яе і Прыпяць. Дзе калісь былі віры, там цяпер улетку выспы пяску. І ў межань Случ ці не паўсюдна можа перайсці ўброд.

А ў мяне столькі памяці пра случанскіх налімаў, язёў, шчупакоў, акунёў. І, вядома ж, плотак. Віравых, жоўталускавых, язёвых, што рвалі мае дзіцячыя вуды, як натурысты конь пастромкі. І таму мне больш даспадобы плоткі невялікія, вёрткія і гуллівыя пры белым і залатым прыбярэжным случанскім пяску. Бегалі чародкай, як і мы ў чужыя грады па гуркі. Цнатліва і здзекліва пацвельвалі мяне чырванню золата і беллю серабра, калі я, гадзінамі лежачы на крутым беразе пад дубам з борцю, цікаваў за імі. Менавіта там і так яны ўвайшлі ў маё дзяцінства, у маю памяць. І таму я так цягнуў з гэтым допісам, баяўся выплюхнуць, абкрасці сваё мінулае.

Памяць надта ж рухомае і зыбкае пачуццё. Забіць, стаптаць, згадзіць яе нават светлым сумам не так ужо і складана. Узгадаеш, разварушыш раз і другі, пашчыміць, застогне душа. І звыкнецца: а чаго гараваць па тым, што ці то было на яве, ці то ты сасніў, як і сваё жыццё. Усё гэта ўжо незваротна. А, і так добра: ціха, утульна, і мухі не кусаюць – абы не было вайны. А ў адну і тую ваду, нават звекаваўшы, двойчы не ступіш.

Неадольная, горкая, хваравітая, самая цяжкая дарога да свайго дому. Асабліва калі яна, дарога, зарасла травой і спаскуджана гнюсам. І дома ўжо няма...

А цяпер наўздагон развярэджанай памяці некалькі слоў пра тое, што прымусіла да гэтага. Цяжка варочацца ў сваё мінулае нават кніжна. “Вільча, Случ, Радзіма” С. Кулакевіча бярэ ўжо геаграфічным абвяшчэннем, што вельмі патрэбна нам, асабліва сёння. У свой час здзіўленне і адкрыццё светам Беларусі, а ў прыватнасці Палесся і палешукоў, пачыналася з падобных этнаграфічна-дакументальных твораў пра так званых у цэнтры, пасярод Еўропы, “індзейцаў”. На вялікі жаль, індзейцамі, айкуменай, зямлёй і людзьмі невядомага свету мы застаемся і сёння. Быць беларусам на Беларусі цяжка, бо надта ж пракінуліся сваімі, сваім насеннем, выбітнымі сынамі на чужыне: у Амерыках, Японіях, па Польшы і Расеі.

Кніга С. Кулакевіча па-мастацку, шчыра кажучы, няроўная, бугрыстая. Тут і раённая нарысовая журналістыка, хаця і адметная, па якой можна меркаваць, чаго ад яе ў той час жадалі, і пра тое, як змяняўся ў ёй разам з ідэалогіяй, зменамі часу і ладу жыцця стыль, падыход і само пісьмо газетчыкаў. А яшчэ вымушае схіліць галаву, пакланіцца перад раёншчыкамі і раёнкамі, якія і зусім не абразліва, па-свойску, зваліся “пляткаркамі”. Колькі здольных, апантаных і таленавітых журналістаў працавала там, што не адкрыліся, не адбыліся, заціснутыя ў межы чатырох маленькіх палос тых “пляткарак” (амаль паўтарэнне таго, што адбывалася і адбываецца па ўсім нашым краі).

І грэх будзе на мне, калі не ўзгадаю тут майго старога сябра. Аднаго з былых рэдактараў “Новага Палесся” Івана Фёдаравіча Карповіча. Светлы да прачыстасці, апантаны журналістыкай быў чалавек. І мудры. Пачынаў франтавік-сяржант пасля вайны бухгалтарам у Лельчыцкім раёне. Але адчуў – не яго гэта. Кінуў і падаўся ў газетчыкі. Апынуўся ў суседніх Жыткавічах у мясцовай раёнцы.

Усе мы добра ведаем, як фінансуецца наша культура – па астаткавым прынцыпе. Жыткавічская раёнка гібела разам з раённым аддзелам культуры ў сірочым будынку, што трэсся і пагражаў разваліцца ад друкарскіх станкоў. І перспектыў аніякіх. Пабедаваў, пахадзіў паляшук па сваім горадзе, як коласаўскі дзядзька па Вільні. Набрыў на руіны, амаль ужо спрахлыя парэшткі былой пякарні. І цюкнула: а што, калі... І ціхенька, па-паляшуцку выйшаў на гаркам з прапановай пабудаваць у Жыткавічах новую пякарню.

Вось калі яму спатрэбілася яго першая фінансавая адукацыя. Маніў усім, зрабіў дакументацыю, будаваў пякарню. А ўрэшце рэшт атрымалася новая рэдакцыя газеты. У яе будынку атрымалі кватэры і супрацоўнікі раёнкі. Вось такая пякарня – помнік самому рэдактару Івану Федаравічу Карповічу. Вось такі хлеб пячэцца, выпякаўся ў глыбінцы гомельскага Палесся, па-жыткавіцку. А даказаць тое, што менавіта ён неабходны гораду, раёну, было ўжо гульнёй розуму, вынікам паляшуцкіх хітрыкаў: горкі будзе хлеб, калі па запавету продкаў не замовіць яго добрым словам. Кожнае слова трымаецца на хлебе, а сам хлеб – на слове. І мовіў свае хлебнае слова ці не на ўсю Гомельшчыну Іван Фёдаравіч Карповіч. З “Новага Палесся” з-пад яго крыла пайшлі рэдагаваць раёнкі шмат і шмат яго гадаванцаў.

Пра гэта ж сведчыць лепшае, што ёсць у кніжцы С. Кулакевіча “Вільча, Радзіма, Случ”. Тая ж родная яго вёска Вільча, тая ж рэчка Случ, бацькаўшчына яго і яго радаводу. І наваколле – Тураў, Верасніца, Браніслаў, Княжбор.

Пачатак кнігі, пранізлівы “Праменьчык дзяцінства”, ці не лепшае, што ёсць у творы аўтара. Ён якраз і сведчыць, што ў яго асобе мы згубілі нешта вельмі светлае, добрае і таленавітае. А дадаюць яму – дзённікавыя запісы. Аўтар не толькі былы газетчык, зусім не толькі раённага разліву. З мазгамі, сэрцам, пачуццямі сапраўднага беларуса, паляшука.

***

У сувязі з гэтым мушу выказацца крыху шырэй, абагульняючы ўжо моўленае. Справа не толькі і не столькі ў творы С. Кулакевіча і яго асобе, – яна ў жанравай скіраванасці сучаснага нашага пісьменства на пошукі сваіх каранёў, пачатку сябе і

сваёй Айчыны. Адыход ад “восхитительного вымысла”, над якім абліваўся разам з А.С. Пушкіным дваццаты век, які напрыканцы захварэў на так званую натуральную школу, на праўду жыцця і ці не пахаваў ідэалагічна мастацкую выдумку. Дакумент і дакументальнасць, пахаванне прыгожага і натхнённага падману, у якім мы няўчасна, геранталагічна і маўзалейна састарэлі і амаль збылі сябе – вось ці не галоўная адметнасць нашага часу і мастацкай творчасці ў прыватнасці. Адметнасць мо не заўсёды асэнсаваная, больш стыхійная, з патрэбы часу, мо недзе нават прымусовая.

Мы атрымалі люстэрка, у якім убачылі саміх сябе, і жахнуліся. Але і мусілі ачомацца ці ачомвацца. І кінуліся да могілак, дзе пахавана не толькі наша мінулае, але і будучае. Ці не яны, могілкі, падсвядомае наша адчуванне, павінны і выратаваць нас. “Беларусь – мая магіла!” – галасна ўсклікнуў паэт Анатоль Сыс. Ад сябе ж дадам: гэта не толькі магіла, але глыбока закапаная ў могілкаваю зямлю гісторыя. Таму сёння чалавек так прагне да могілак, да люстэрка сваёй колішняй годнасці і значнасці на зямлі. Могілкі, продкі – адзіная наша не парослая травой забыцця гісторыя. Матэрыяльнае, не спрахлае пацверджанне таго, што і на Палессі, вакол Гомля і па-за Гомлем, ёсць людзі. Былі, ёсць і будуць ужо згодна іншага творцы.

І гэтае адкрыццё сваіх родных магіл і могілак, прабачце, эксгумацыя, з кожным днём пашыраецца, набірае моцы не толькі ў грамадстве, але і ў мастацкай творчасці, у нашым пісьменстве.

Пацверджанне гэтаму – творы Валеры Ліпневіча, ураджэнца вёскі Дудзічы, а цяпер расіяніна, у “Новом мире”, Усевалада Сцебуракі, Міхася Скоблы, Уладзіміра Арлова, нарэшце так нарачоны феномен Горвата з яго “Радзівам Прудок”. Беларус, хай і паляшук, пасёння індзеец, прагне спазнаць, уведаць самога сябе. Разгрэбці сваю памяць, занесенную могілкавым пяском занядбання былога. Зазірнуць ў хаўтурнае люстэрка і ўбачыць у ім сябе.

Толькі ці варта клясці пры гэтым тое люстэрка. Выкрываць і таптацца на могілкавых грудках, пад крыжом і без, узняўшы – ці не зноў жа чырвоны – сцяг праўдашукальніка і праўдаруба, пад якім так люба ідзецца да ўзнагарод і лаўрэацтва, дагаджаць натоўпу, адукаванай чэрні. Час азірацца і асэнсоўваць. Апошняе, на маю думку, тычыцца нашай літаратурнай крытыкі. Яна маўклівa зацятая і няўважная на такі жанравы паварот сучаснай беларускай літаратуры. Хаця пра тое-сёе і пішацца ў крытычных артыкулах. Але бракуе аналітыкі, разумення і пазначэння літаратурных тэндэнцый, як гэта рабілі, канечне, перш-наперш Алесь Адамовіч, Рыгор Бярозкін, Варлен Бечык, Уладзімір Конан, чым вызначаўся і вызначаецца Міхась Тычына. Маўчыць сучасная літаратурная крытыка. Мо таксама замерла ва ўладным чаканні новай “Войны и мира”, Гамераў, Шэкспіраў, Коласаў і Купалаў, найноўшых Бібліяў, Евангелляў пад Луку, Матфея і Фаму. Дзе будуць такія Гогалі, як пісалі ў сярэдзіне XX ст., “которые бы никого не трогали, и пощедрее Щедрины”. Марна, бо ў нашы дні, па словах Чарнамырдзіна, што б мы ні рабілі, атрымліваецца – аўтамат Калашнікава: увогуле свету сёння больш даспадобы не кніжка, а іменна аўтамат Калашнікава. Усё больш і больш навуковых філалагічных працаў, дысертацыйных. Сама ж крытыка ці не адзначальная, тусовачна-групавая. Таму і застаюцца сённяшнія творцы шырока вядомыя, але ў надта ж вузкім коле. Мацярык беларускай літаратуры застаецца неадкрытым не толькі светам, але і нашым чытачом. А за гэтым – незваротнасць і надалей, калі не назаўсёды, бязмоўе. Незваротнасць. Плач, стогн, енк на развярушаных і стаптаных могілках гісторыі. Апошні плявок у люстэрка, у саміх жа сябе. Калі застаецца толькі адно: раструшчыць у друз тое ж люстэрка, на што мы заўжды вельмі і вельмі здатныя маўклівай згодай.



Юлія Бібіла



...Выхаванне – складаная справа.

Не ведаеш, куды і ў які бок яно павернецца...

# "...Прысвяціць сябе справе блізкай, харошай!"

***Успаміны***

*Працяг. Пачатак у №6(91) за 2017 год.*

*Падрыхтоўка да друку і каментары Тацыяны КЕКЕЛЕВАЙ і Арсеня ЛІСА.*

## *Сшытак 6*

### Свянціца

– Пісаць?

– Пісаць!

Не таму, што мая асоба так цікава, так вызначаецца сярод іншых якімі-небудзь якасцямі і заслугоўвае асаблівай увагі. Не. Гэта пясчынка ў людскім моры. Праўда, калі прыглядзецца, то і пясчынкі адрозніваюцца чым-небудзь адна ад другой, але вецер іх гоніць у пажаданым для яго напрамку, не разбіраючы, і раскідае ў розныя бакі.

А ветры нашай эпохі буйныя, уладарныя. А пясчынкі падымаліся з розных глыбінь. А шляхі, па якіх кідала іх, завілыя, і лёс кожнай адменны. Шмат усялякіх уплываў у спалучэнні з асаблівасцямі характару кіравала гэтым лёсам.

Колькі мне гадоў было, калі бацька атрымаў пасаду валаснога пісара ў сяле Свянціца? Думаю, не больш трох-чатырох.

Я добра памятаю, як мы ехалі праз лес. Усё мне было цікава. Мяне пасадзілі ў нагах, укрылі, а была ранняя вясна. Як цікава ехаць лесам!

Калі пад'язджалі да месца, сцямнела. Бацька мне паказаў на агеньчыкі. Іх было многа ў адным месцы. Пад'ехалі. Нас спаткаў круглатвары барадаты дзядзька і ветліва правёў у кватэру. А агеньчыкі, якія мяне здалёк зацікавілі, былі тоненькія свечкі, устаўленыя ў бульбіны на кожнай шыбе вокнаў. Такой ілюмінацыяй спаткаў старшыня свайго новага пісара.

Жылі мы тут гадоў 7 – 8. Калі я падрасла, мяне ўлетку прывозілі да бабулі ў мястэчка, дзе было шмат таварышаў для маіх гульняў.

Сяло Малая Свянціца. Толькі назва, што сяло. На ўзгорку там стаяла "валасць", ніжэй, насупраць, была школа, дом дзяка, далей царква і дом папа з садам. Дарога выходзіць на шлях да горада, упрыгожаны высокімі стромкімі, як свечкі, таполямі. За рэчкай на ўзгорку – маёнтак пана Міянчынскага з броварам і крыклівымі павамі, якія, распусціўшы хвасты, поўзалі па дзірвановым узгорку. Рэчка з сажалкаю перагароджвалася панскім млыном. Гаварылі, што ў гэтым млыне не толькі малолі муку, але ў вялікіх кашах мачылі лубін на корм скаціне.

Берагі рэчкі з алешнікам, чарэмхаю. Вясною салаўіныя канцэрты. Шуміць вада ў млыне, жабы імкнуцца перакрычаць салаўёў. На змярканні сядзеш на ганачку і слухаеш гэту дзівосную музыку. Колькі разоў у снах я бачыла гэты малюнак і перажывала ўражанні далёкага дзяцінства. Вось і цяпер ён паўстае перада мною, хаця мне і не давялося больш наведаць гэтыя мясціны. І калі я бачу зграбных і спрытных ластавак, я ўспамінаю, як дзіцем любіла сачыць за імі, наглядаць, як яны ляпілі свае гнёзды пад дахам будынка "валасці". Ніхто іх не чапаў, не разбурваў гнёздаў. Плачу было б нямала!

А таполі, таполі паабапал дарогі! Іх добра было відаць з высокага ганку. Бацька таксама пасадзіў некалькі каля будынку. Ён любіў расліны, кветкі. У хаце было шмат розных вазонаў, сам іх перасаджваў, даглядаў. Бывала, прыедзе аднекуль і вацягвае з кішэні галінку якой-небудзь цікавай расліны. Матка казала, што варта бацьку ўтыкнуць венік у зямлю, і ён зацвіце.

Мне ўспамінаецца вельмі прыгожае апельсінавае дрэўца з шырокімі пахучымі лістамі. Я спала на канапе, а галінкі з яго звешваліся над маёй галавой. Хто ні бачыў, казаў, каб прышчапіць яго. Прыгажосць дрэўца ацаніў бацькаў начальнік, які з жонкаю некуды ехаў і па дарозе затрымаўся ў нас. Яны так ахалі і охалі, што нічога больш не заставалася, як адвесці гэту прыгажуню да іх у Ваўкавыск. Колькі я не гадавала апельсінаў, але такога прыгожага дрэўца не ўдалося выгадаваць.

Другі канец дарогі, што падзяляла "валасць" ад школы, віўся каля лесу з могілкамі. За лесам былі вёскі. У аднэй з іх жыў вельмі набожны селянін, які надумаўся паехаць у Ерусалім пакланіцца "святым" мясцінам. Вярнуўшыся, ён шмат апавядаў аб зведаных краінах, аб моры, прывёз адтуль розныя памяткі: лісты пальмы, кускі нейкага пахучага дрэва, крыжыкі, апельсіны. Мне падарыў дзівосныя пацеркі, якія нагадвалі бабін "ружанец", з якім яна хадзіла да касцёла і шаптала пацеры. Пацеркі перламутравыя, злучаліся паміж сабою дроцікам, дзевяць белых аднолькавых і адна вялікая бэзавага колеру, як аметыст, на канцы крыжык з кутасікам. Казаў, што пакроплены іарданскай вадой на "труне господней". З гэтага "ружанца" маці зрабіла нізку пацерак, якія і цяпер у мяне захоўваюцца, а пра "святасць" іх не ўспамінала. З гутарак дарослых я даведалася, што гэты набожны пілігрым страціў шмат сваёй святасці, ён наглядзеўся там такога, што не толькі адбіла ахвоту да такіх падарожжаў, але і значна пахіснула яго сляпую веру.

Грамадка дзяцей, і я ў тым ліку, хадзілі да гэтага чалавека, каб паглядзець на дзівы, што ён прывёз. Мяне вельмі ўразілі вялікія лісты пальмы, яны стаялі ў куце пад абразамі і скупа асвятляліся лампадкаю. Калі пасля ў школе я вывучала "Ветку Палестины" Лермантава, перада мной паўставаў гэты малюнак:

У вод ли чистых Иордана
Востока луч тебя ласкал?
Ночной ли ветр в горах Ливана
Тебя сердито колыхал?

---

За працу пісара бацька атрымліваў вельмі мала грошай, затое, паводле ўмовы, увосень давалі яму натурай – ссыпку: пэўную колькасць гарнцаў жыта, а чаго яшчэ – не памятаю. Гэта дазваляла трымаць жывёлу. Быў свой агарод. Калі вынікала патрэба справіць якую адзежу, трэба было добра памеркаваць, каб не вылузацца з бюджэту. Дапамагаў адкормлены паршук, які ехаў у горад.

Матка была добрай ашчаднай гаспадыняй, умела і спячы, і зварыць, і пашыць. Усе мае строі былі работай яе рук. Адзін час захаплялася ткацтвам. Зімовы касцюм бацькі (ткала не матка) выклікаў зайздросныя позіркі ў горадзе. Сукно вазілі “фаляваць” да немца, здаецца, у Нязбо(у?)тку. Была ў яе цэлая скрынка зрэзкаў розных тканін мясцовых ткачых. Хораша ткалі на Гродзеншчыне! Кросны ў нас стаялі ў кухні. Калі ткаліся палавікі, дазвалялася і мне пастукаць бёрдам, трэба было толькі так сесці, каб даставаць “понажы”. Мне былі знаёмы такія тэрміны як: нічальніцы, цэўка, губка, ніты...

Калі мае ручаняты здолелі трымаць іголку, я пачала вышываць шнурочкам. Як дапамагло мне ў цяжкія хвіліны майго жыцця ўменне вышываць!

---

У мяне захавалася паштоўка “Валасны суд” М. Зошчанка (з Траццякоўскай галярэі). Пісар сядзіць і піша, вусы бацькавы. Барадачы-суддзі на лаве. Толькі я бачу сваю маленькую фігурку ў куточку, а на паштоўцы яе няма. Як было цікава слухаць розныя гісторыі і наглядаць за “варожымі бакамі”. Асабліва калі хацелі іх пагадзіць. Адзін барадач штурхае аднаго, другі другога, яны ўпіраюцца. “Ну, памірэцеся! Чаго не здараецца ў жыцці? Вы ж добрыя суседзі!” І бывае, яны прыходзяць да згоды. Вось тады за бутэлькай манапалькі цікава абмяркоўваюцца падзеі ўсімі ўдзельнікамі.

А сходы ў “зборнай”! Кажухі, кажушкі, світы, лапці, бароды, чупрыны кудлатыя, лысіны. Крык, гоман. Не разабрацца, што да чаго. І аднак нейкая нітка знаходзіцца, якая звязвае ўсіх.

Пошта прыехала! Бяжым ў канцылярыю. Надта цікава перад святамі – Новым годам, Вялікаднем. Паштоўкі з анёламі, з дзедам-марозам, з каляровымі яйкамі, птушкамі, у дзюбках якіх пісьмы, сэрцы са стрэламі.

Іншы раз, калі было цёпла і бацьку трэба было наведаць па справах якія-небудзь вёскі, ён браў мяне з сабою. Я садзілася побач з маім прыяцелем, фурманам Зміттручком. Гэта быў яшчэ малады хлапец, але абыходжанне яго са мною было такое ласкавае, што я плаціла яму шчырай дзіцячай прыязню. “Зміттручок, падвязі!”, “Зміттручок, дай лейцы патрымаць!” І ён стараўся дагадзіць мне.

Адносіны сялян да бацькі былі прыхільныя. “Бач, не цураецца простых людзей. І параіць, і напіша”. Не браў хабару, за тое яго і паважалі. На вёсцы каля яго збіралася грамадка людзей.

На мяне дзеці паглядалі здалёк з-за платоў, але ў блізкіх вёсках нямала было шкаляроў, якія мяне ведалі. Яны стараліся паказаць свае дзівы: птушынае гняздечка, самаробную цацку, кіёк з адмысловым выцінаннем. А колькі ўсякіх здарэнняў мне нагавораць! Варочаюся дамоў, заціскаючы ў руках які-небудзь свісцёлак або пярэсценькае маленькае яечка.

Неяк хлопцы злавілі ў лесе маладзенькую вавёрачку, і бацькі іх прынеслі “пісаравай Юльцы, хай пацешыцца”. Якое гэта было мілае стварэнне! Прывыкла да людзей. Упадабала бацькаву кішэнь. Улезе і ціхенька сядзіць.

Тыповы вобраз пісара вандруе ў літаратуры ад Гогаля да Коласа. Аднак бачанае і пачутае ў дзіцячыя гады я ніяк не магу звязаць з прачытаным.

---

У 1905 – 1907 гг. я была малодшага школьнага ўзросту, і сякія-такія ўражанні ад рэвалюцыйных падзей у мяне захаваліся. Гадавалася я адна, браты мае і сястра паміралі малымі (іх было пяцёра). Круцілася я сярод дарослых, з аднагодкамі спатыкалася ад выпадку да выпадку. Любіла назіраць, слухаць і не задаваць лішніх пытанняў. Мне не дазвалялася ўстаўляць свае тры грошы ў размовы дарослых, але як было цікава слухаць, калі на цябе ніхто не звяртае ўвагі.

Вось прыходзіць да нас мой настаўнік з народнай школы Павел Платонавіч Балтрукевіч. Густая чупрына, расшпілены каўнер цёмнай кашулі, у руках капаніца. На твары ўхмылка. Даведваюся, што ён быў на полі і праводзіў нейкія гутаркі. Матка аб нечым з жарам гаворыць, бацька слухае. Гасцінная маці падымаецца, каб пачаставаць госця – ён напэўна галодны. І пачынаюцца за сталом гутаркі, навіны мясцовыя і больш шырокага маштабу, чытаюцца сатырычныя часопісы, а іх у нас вялікая пачка, ды розныя, з такімі яскравымі вокладкамі.

Іх прысылаў з Пецярбурга зямляк з мястэчка (К. Гарбоўскі), які паехаў з дому у “свет” шукаць сваёй долі. Ён працаваў у “экспедыцыі” (так сам называў пасаду ў паштоўцы 1907 г.) фабрыкі Лаферм, а можа і яшчэ дзе-небудзь.

У памяці маёй захавалася назва аднаго часопіса – “Злой дух”, а таксама малюнак. Цар сядзіць, падкурчыўшы ногі, і сшывае, як сапраўдны кравец, двухгаловага арла, якога трымае на каленях. Далей – царская карона і пад ёю пэўная пасудзіна. Мне дазвалялася разглядаць, аднак я ведала, што гэтыя часопісы трэба хаваць.

Там былі надрукаваны вершы, якія я і цяпер памятаю:

Все на свете чепуха,
Остальное – враки.
Полны рожью потроха
В министерском фраке.
Черт лиловый утащил
Миллион из кассы.
Пуришкевич знамя сшил
Из поповской рясы.

Так і гучыць у маіх вушах мелодыя песні “Россия, Россия”... Адкуль яна ўзялася?

Россия, Россия, как жаль мне тебя!
Казенка закрыта, болит голова.
Царь испугался, издал манифест:
Мёртвым – свободу, живых – под арест.

Памятаю, што на нашых вячорках уголас чыталі М. Горкага і гаварылі аб ім, а я ціхенька сядзела за спінамі на ложку і слухала.

Успамінаючы падзеі 1905-07 гг., матка расказвала мне, ужо дарослай, як яна агітавала за аднаго чалавека, каб паслаць яго ў Думу. Ён быў пісьменны, але нечым не падабаўся аднавяскоўцам. Вось матка і ўгаворвала адаслаць яго далей, каб не заваджаў.

Думка гэта спадабалася, кандыдат прайшоў і на павятовых выбарах і трапіў у Думу. Такому саламонаваму рашэнню былі рады і оўцы, і ваўкі. Сам дэпутат быў на сёмым небе.

Сяляне паважалі маю матку. Заходзілі да яе парадзіцца, пагаварыць. З бацькам вырашалі розныя “юрыдычныя” пытанні, а да маткі – з больш душэўнымі справамі. А ў кухні, дзе гаспадарыла дзяўчына Марыля, вечарамі збіраліся: памочнік

бацькі – “пісарчук” з прэтэнзіямі на далікацтва, сталы дзядзька – валасны вартаўнік і фурман Змітрок – “пачтар”. Ён вазіў пошту ў Ваўкавыск (гаспадаром коняй быў нейкі Дырында, над ім падсмейваліся, што ён і селядца саломінкаю дзеліць, бо быў скупы). Тут не чыталі кніг, бо апроч пісарчука, які ці прачытаў хоць адну кнігу, усе былі непісьменныя. Затое колькі апавяданняў аб бачаным, аб спатканнях з людзьмі і казак, казак... Змітрок гаворыць, што ў горадзе паны ўсё ладзяць нейкія вечарыны, рады, што цар “маніхфест” падпісаў, а знаёмы крамнік баіцца, каб не ўчынілі пагрому, як у іншых гарадах. Бунтуюць, хто разбярэ, што да чаго і ці будзе якая палёгка беднаму чалавеку ад усяго гэтага.

Ня можа ён не ўспомніць і лішні раз пераказаць пра незвычайнае здарэнне ўжо іншага парадку. Ён ездзіў з маёй маткай да хворай бабулі, і ў лесе заступіў ім дарогу “волік”. Ну і волік! Ніколі такога не бачыў! Ён не мог стрымаць захаплення і здзівіўся, што спалоханая матка грымнула кулаком у спіну і крычала, каб павярнуў назад. Гэта быў зубр-адзінец, які ўцёк з пушчы, і спатканне з ім было вельмі небяспечным. Матка не раз гасцявала ў леснікоў у пушчы і добра ведала гэтых волікаў.

Па маёй просьбе апавядаюцца казкі і неверагодныя гісторыі. П’яны Пятрук ехаў уночы праз балота, і чорт у выглядзе баранчыка завёў яго ў дрыгву. А ваўкалакі, мерцвякі, што ўстаюць з магіл апоўначы, свечкі на магілах. Яны могуць пагнацца за чалавекам і забіць яго. Колькі страхаў! Мы жылі паблізу могілак, і гэтыя апавяданні выклікалі боязь не толькі могілак, але і цемнаты. Толькі школа і кнігі развеялі гэтыя страхі.

А прыгожыя казкі пра пакацігарошка, злую мачыху, бабу-ягу і г.д. Чароўны казачны свет! Слухаю з захапленнем не толькі я, а ўсе прысутныя, пры чым кожны яшчэ ад сябе нешта дадаець.

Там недзе ў шырокім свеце адбываюцца важкія падзеі. “Забастоўшчыкі” нечага патрабуюць, сяляне пра зямлю загаварылі. Змітрок вельмі ўсхваляваны чуткамі аб нападзе на пошту і са страхам едзе ў горад. Недзе, кажуць, пан пацярпеў і г.д. І вось дзядзька-вартаўнік стаў на варце з дубінай у “зборнай” – большым пакоі, дзе адбывадіся валасныя сходы. Нападаў не адбылося, і дзядзька спакойна пасопваў на шырокай лаве.

Затое іншы вораг падкраўся, ніхто яго не чакаў. Пачаў касіць людзей сыпняк. Спачатку захварэў памочнік, ён ляжаў пад кажухом у сваёй каморцы пры канцылярыі, потым лёг настаўнік, затым прыйшла мая чарга. Бедныя бацькі! Колькі ім дасталося згрызот і непакою! Захварэў поп. І дзе тыя дактары? У Ваўкавыску ці Свіслачы. Блізкі свет!

Мы падняліся, а поп так і не ўстаў. Гэта была даволі значная фігура ў тых умовах. Такіх асоб, як настаўнік ці пісар, ён лічыў сваімі падданымі. І хаця школа была не царкоўна-прыходская, ён стараўся паказаць сябе гаспадаром яе. Але на гэты раз атрымалася асечка, як з настаўнікам, так і з бацькам. Ні настаўнік не пайшаў з паклонам, ні бацька.

Матка расказвала пра такое здарэнне. Увосень у царкве адбывалася свята – фэст (Параскевы). Шмат назбіралася ў папа гасцей з розных парафій. Трэба было іх размясціць: у папоўскім доме ім месца не хапала. Ён загадаў сваім служкам ісці ў школу з сяннікамі і падушкамі, не папытаўшы дазволу ў настаўніка, а той абурыўся і дзверы зачыніў. З папярэднім настаўнікам абыходзіўся без цырымоній, а гэты паказаў характар. Затое поп стараўся насаліць яму, дзе мог, але часы былі не тыя.

Яго заступнік а. Інакенцій быў другога характару. Нейкі летуценнік. Ссуне капялюш на загрывак і, пасвістваючы, углядаецца ў прыгожы краявід. Добра маляваў. Адносіны з ім наладзіліся неблагія, ня лез, куды ня трэба.

З цёплым пачуццём успамінаю я свайго першага настаўніка П.П. Балтрукевіча. Малады, з цёмнай капой валасоў, якія ён неяк асабліва па-свойму ўмеў адкідаць

назад, ветлівая ўхмылка і ўдумлівыя, трохі гарэзлівыя вочы. Жыў з малодшым братам Кастусём, якога некуды рыхтаваў, і старожкаю, што прыбірала клас і паліла печы.

Жыў у двух пакоях, па-спартанску абстаўленых. У клас можна было прайсці з пакояў праз кухню. У класе налева ад стала настаўніка – печ, за ёю – дзверы ў калідор. Столь нізкая, вокны падслепаватыя. Доўгія, шчыльна пастаўленыя лаўкі з праходам пасярэдзіне. На стале настаўніка – пругкая лінейка. Саўсім не памятаю, каб ён ёю карыстаўся для "вколачивания премудрости" у лахматыя галовы, але часам ёю стукаў па стале. Настаўнік, які змяніў яго, не адмаўляўся ад "лапаў", гэтай неабходнай у тыя часы мерай уздзеяння на непаслухмяных. Пісалі на грыфельных дошках, апраўленых у дзеравянныя рамкі, да якіх прывязвалася палачка грыфеля.

Я ўспамінаю некаторыя эпізоды з вельмі ранняга дзяцінства, напрыклад пажар у мястэчку, калі маці мяне на руках несла ў больш бяспечнае месца, і саўсім не памятаю, калі і як навучылася чытаць, бо ў школе я ўжо чытала. Нейкі правал у памяці.

Я была вельмі кволая, хваравітая, засталася толькі адна, і нада мною дрыжалі бацькі. Школьны будынак – гэта не цяперашняя школа: і цесна, і душна, часам і холадна. Мяне ў школу не пускалі, хаця яна была насупраць нас. Толькі скаціцца з невялічкага ўзгорка – і школа. Бацька зрання ўжо сядзіць у канцыляры, матка па гаспадарцы выйшла, а я паціхеньку апранаюся – і шмыг за дзверы, праз некалькі хвілін я ў пакоі мілага настаўніка. Ён мяне вядзе ў клас і садзіць на пярэднюю лаўку, бо ўзросту малога была. На перамене таксама не адпускаў ад сябе. Што ж? Матцы прыйшлося легалізаваць мае паходы.

Настаўнік карыстаўся ў мяне большым аўтарытэтам, чым бацькі, я яго заўсёды слухала, а з маткай без канфліктаў не абыходзілася. Калі ў мяне мяняліся зубы, то толькі настаўніку дазвалялася рваць іх.

Сярод галасістай грамады вучняў не памятаю дзяўчынак. Відаць, у той час іх мала было. Спачатку мяне дзічыліся, а потым знайшліся агульныя інтарэсы. Задоўга да пачатку заняткаў збіраліся вучні з суседніх вёсак, і іх звонкія галасы будзілі ранішні спакой, пакуль старожка не ўпусціць у клас. Яны запаўнялі яго – лахматыя, у світках, старанна залатаных, у лапцях, з кужэльнымі торбачкамі цераз плячо, у паношаных бацькоўскіх шапках.

Невыразна паўстае постаць другога майго настаўніка Рабчукова А.З., які змяніў П.П. Апошні – ці па-свайму жаданню пакінуў сяло, ці па загаду зверху – цяжка сказаць. У ім адчуваўся нейкі неспакойны, бунтарскі дух, а ў новага настаўніка – непрыкметнасць, ціхасць. Выразней памятаю яго дзябёлую матку, якая па-мастацку сыпала праклёнамі, вельмі баялася грымотаў і ў час навальніцы застаўляла свае вокны свянцонымі вербамі і запальвала грамнічную свечку:

Каб цябе пяляруш скасіў!
Каб ты па свеце хадзіў і света не бачыў!
Каб ты галавою ды ўніз скаціўся!...

Успамінаю фігуру новага настаўніка са скрыпкаю, і вучні цягнуць: до, рэ, мі, фа... Песня "Ах, ты воля..." У "зборнай", калі там нікога не было, тоненькім галаском я гэту песню цягну:

Ах ты, воля, моя воля,
Золотая ты моя.
Воля – сокол поднебесный,
Воля – светлая заря.
Не с небес ли ты спустилась?
Не во сне ли вижу я?
Аль горячая молитва
Долетела до царя?..

Воля – гэта дараваны зверху маніфест 19 лютага 1861 года, і вучні – сялянскія дзеці – павінны былі напомніць сваім бацькам аб клопаце іх заступніка – цара, які заўсёды дбае аб патрэбах сваіх падданых, толькі трэба, каб ён даведаўся аб гэтым.

Рэвалюцыйная хваля спадала, пачалася рэакцыя, барацьбіты за іншую волю паміралі на шыбеніцах. І хаця ў сялянскіх галовах яшчэ трывала іскра веры ў добрага цара, падзеі 1905 года ўтварылі нейкую змену ў шмат каго. У нашай воласці вялікіх завірух не было. Дзеці вывучалі "Волю", вершы аб гэтай волі, хвалілі цара.

Посмотри: в избе, мерцая, светит огонёк,
Возле девочки-малютки собрался кружок.
И от слова к слову, пальчиком водя,
По печатному читает мужичкам дитя.
Мужички в глубокой думе слушают, молчат,
Разве крикнет кто, чтоб бабы уняли ребят.
Бабы суют детям соски, чтобы рот заткнуть,
Чтоб самим хоть краем уха слышать что-нибудь...

Мне ўспамінаецца яшчэ адна песня, толькі не ведаю, дзе яе падхапіла. Няўжо ў школе?

Соловьем залётным юность пролетела,
Волной в непогоду радость прошумела.
Пора золотая была да и скрылась,
Сила молодая с телом износилась...

З якой сур'ёзнай мінай выводзіла я ноты песні! Уяўляю, які гэта малюнак быў! Дзяўчынка, якая яшчэ не дарасла да юнацтва, пяе, што яно ўжо праляцела.

Вясковыя дзяўчаты вельмі добра спявалі. Ідуць з работы на панскім полі і пяюць. Пачатак адной іх песні памятаю і мелодыю таксама:

Ой, з-за гор гары
Едуць мазуры.
Едуць, едуць мазурочкі,
Вязуць, вязуць нам вяночкі,
Вянкі залаты, вянкі залаты...

У маім "рэпертуары" не было дзіцячых песень, былі рэчытатывы накшталт: "Слімак, слімак, высунь рогі, дам тры грошы на пірогі!" Злавіўшы слімака і пасадзіўшы на лісток, трэба было прыгаварваць.

Або "Дождж ідзе, грыбы будуць, хлопцы згінуць, дзеўкі будуць!"

Хочацца мне ўспомніць таварышоў маіх гульняў у тыя часы. У нашым невялічкім сяле былі дзеці, апроч мяне, толькі ў папа. Поп, што памёр ад тыфусу, меў некалькі сыноў старэйшага школьнага ўзросту і дзяўчынку – самую малодшую, якраз мне да пары. Сыны недзе вучыліся і дома бывалі толькі на вакацыях. Хаця бацькі нашы не абменьваліся візітамі, але мы, дзяўчаткі, часам гулялі разам. Прысылалася служанка ад папа з просьбаю адпусціць мяне пагуляць з Аняю, і мяне адпускалі. Ролі ў нас так размяркоўваліся: Аня гуляла з лялькамі, а я або шыла ім сукенкі, або была занята прыгатаваннем абеду з сапраўдных прадуктаў, не з пясочку. Нам давалі якія-небудзь ягады, арэхі, пячэнне, і наша фантазія з гэтага ўтварала розныя стравы. З хлопцамі кантактаў не наладжвалася. У другога папа было трое хлапчукоў, старэйшы Андрэйка – мой равеснік, малодшы Косця і самы малы – тоўсценькі, яго мы называлі Пуза. Успамінаю наш удзел у падрыхтоўцы ўпрыгожванняў для ёлкі. Пад кіраўніцтвам самой "матушкі" мы клеілі, малявалі, выдумлялі і так захапляліся гэтай работай, што забывалі высмаркацца.

Вясною перакрывалі ў паповым доме дах. Сярод трухлявай гонты было ня-

мала прыдатнай. Не ведаю, чыя гэта была ідэя, пабудаваць сабе хатку. І закіпела работа. Я была за галоўнага майстра. Нам дазволілі браць з гонты і цвікі, нават малаток даверылі. Поп моўчкі паглядаў і пасвістваў. Пальцы пазбівалі, але хатку пабудавалі, ды такую, што маглі ўваходзіць не нахіляючыся. Не ведаю, ці Андрэйка стаў будаўніком, але з мяне ні архітэктара, ні будаўніка не атрымалася.

Добра гулялася з гэтымі хлопчыкамі, мой аўтарытэт сярод іх быў прызнаны.

## *Сшытак 7*

### Гімназія

Я вельмі хацела вучыцца. Калі б мяне папыталі нашто мне гэта, я магла б адказаць, што хачу быць настаўніцай, другіх вучыць. Відаць, прыклады маіх настаўнікаў мяне заахвочвалі даволі рана выбраць сабе такую прафесію. У гэтым выбары было нямала рамантыкі.

Бацькам падабалася мая ахвота да навукі і пасля народнай школы ім хацелася мяне далей вучыць. Але куды накіравацца? Якраз пайшлі чуткі, што ў Ваўкавыску маюць адчыніць жаночую прыватную гімназію. Гродна ці Вільна – гэта далёка і не па сродках, а вось блізка – можна было б. Пакуль ішлі толькі гутаркі, мяне накіравалі ў сям'ю знаёмых, дзе ў дзяцей была настаўніца, трохі падрыхтавацца. Сям'я жыла недалёка ў фальварку ці маёнтку – не памятаю. Тут я пазнаёмілася з граматыкай польскай мовы.

Калі стала вядома, што ўжо атрыман дазвол на адчыненне гімназіі і трэба чакаць афіцыйнага паведамлення аб пачатку прыймовых экзаменаў, мяне завезлі ў горад і папрасілі знаёмага, вельмі спрактыкаванага настаўніка, праверыць мае веды. Памылак у пісьме я рабіла не так ужо шмат, гэта ўдалося сяк-так выправіць, а "переложения" мне цяжка даставаліся, бо я баялася ўжыць словы і звароты, якія бытавалі ў маёй штодзённай мове, а яна лічылася некультурнай.

Мяне прынялі ў другі клас гімназіі. Вялікі клопат быў у маіх бацькоў. Трэба было набыць кнігі, пашыць форму, заплаціць за права навучання, а для гэтага патрэбны грошы. Не адзін адкормлены паршук зладжыў сваю галаву, каб залатаць дзіры ў бюджэце.

На кватэру мяне ўладкавалі ў сям'і добрых старых знаёмых маіх бацькоў і бабкі. Сям'я складалася з маткі, трох сыноў і 2-х дачок – самай старшай і самай малодшай. Дзяўчаты рэдка бывалі дома, яны жылі недзе асобна. Старэйшая ўсё шукала працы, прабавала здаць экзамены, каб атрымаць пасаду настаўніцы, але ёй усё не шанцавала. Сям'я перабівалася сяк-так. Апроч мяне, жылі на кватэры яшчэ вучні. Два пакоі, кухня і пры ёй цёмная бакоўка, дзе мясціліся хлопцы. Было цесна, вільготна, але я адчувала сябе вельмі добра. Сама гаспадыня, пані Мац., была спакойная жанчына, ніколі не чуваць было крыку, мітусні, да мяне адносіны былі як да сваёй.

З хлопцамі я пасябравала, малодшы быў майго ўзросту. Спачатку з сярэднім Міхасём мы гэркаліся, характар яго мне не падабаўся: за кожнае глупства падымаў вэрхал – то ручку не там паложыш, то здаецца яму, што яго кнігі брала і г.д. І як жа я была здзіўлена, калі прыехала пасля летніх вакацый: саўсім не той хлопец, далікатны, уважлівы. Памагалі адзін другому. Старэйшы Антось быў спакойны. Абое вучыліся ў гарадскім вучылішчы і марылі аб ваеннай школе. Малодшы быў больш легкадумны, любіў пафарсіць.

Пасля падрыхтоўкі да заўтрашніх урокаў, а часцей у суботу, пачыналася самадзейнасць. Гітара, балалайка, мандаліна... Калі хто не ўмеў іграць, вучыўся. Часам прыходзілі таварышы са сваімі інструментамі. Апавядаліся розныя гісторыі, здарэнні. Хатняя мова была беларуская, на ёй лягчэй выслаўлялася, прасцей.

Нехта даведаўся, што можна перадаваць свае думкі другому на адлегласці (тэлепатыя). І пачаліся ўсякія спробы! Зацікавіліся таксама гіпнозам. Трэба было загадаць сябру адшукаць што-небудзь, трымаючы яго за руку на пульсе. Спробы былі ўдалыя.

Самым лепшым ласункам лічылася халва і сланечнікі. У суседняй краме куплялася на капейку таго і на капейку другога, і ўсе частаваліся. Гэта здаралася, калі перападалі якія-небудзь капейкі на ўласныя патрэбы. У такіх выпадках я не забывала пашукаць таксама прыгожых паштовак.

За домам быў агарод і лужок, там цякла нейкая ручаіна. Ва ўсякім разе ўзімку была добрая коўзанка, не трэба было далёка хадзіць. Надумалі хлопцы мяне вучыць коўзацца на каньках. У мяне іх не было, прыстасаванага абутку таксама, ды і ў хлопцаў яны былі не першай якасці. Прывязалі канькі вяроўкамі, узялі мяне за рукі – і паехалі. Пусцілі рукі, я трохі праехала, але вяроўкі аслаблі, канькі падвярнуліся, і я моцна грымнулася. З тае пары я больш не адважылася паўтарыць гэту спробу, а дазволіць сабе набыць канькі з абуткам не мела магчымасці – не да таго было.

Мой настаўнік Н.А. увесь час цікавіўся маёй вучобай, даваў мне кніжкі для чытання і прасіў заходзіць да яго і паведамляць аб поспехах. Жаночая гімназія ў такім невялікім горадзе – гэта немалаважнае здарэнне, і, вядома, Н.А. добра ведаў, як пастаўлена там вучоба, чаго варты настаўнікі. Я паспяхова перайшла ў 3-ці клас. Набліжаўся час калядных вакацый. Спаткаўшыся са мною, Н.А. параіў сказаць бацькам, каб пасля вакацый мяне ўзялі з гімназіі, бо толку там мала, а з восені маюць адкрыць замест прыватнай дзяржаўную гімназію. У мястэчку ў нас ёсць настаўнікі народнай школы, якія паспяхова са мною пройдуць праграму. Так і сталася.

З восені ў местачковую народную школу прызначылі яшчэ аднаго настаўніка, які толькі скончыў настаўніцкую семінарыю ў Свіслачы, і гэта была яго першая пасада. У мястэчку яго скора заўважылі і адзначылі. Ён быў нейкі занадта сталы для сваіх дзевятнаццаці гадоў, шмат чытаў, з ім цікава было пагаварыць. Вось яго і папрасіў бацька заняцца са мною. Першае знаёмства было завочным. Калі я прыехала на вакацыі, яго не было: паехаў да сваіх бацькоў (жылі яны ў недалёкім мястэчку), затое засталіся ў нас яго кнігі. Гэта былі прыгожыя, з малюнкамі, выданні сусветных класікаў. Я накінулася на іх і мяне цяжка было адарваць ад гэтых кніг.

Займаліся мы вечарамі ў нас дома. Рыхтавала я ўрокі старанна, і мой настаўнік радаваў маю матку пахваламі мне; ён стаў ганарыцца сваёй вучаніцай, мы з ім пасябравалі. Ад гэтых заняткаў павеяла іншым паветрам, не тым, якое панавала ў гімназіі. Так, памятаю, ён даваў мне вывучаць вершы і творы, якія не былі прадугледжаны праграмай. Я з жарам дэклямавала “Деревню” Пушкіна:

Я променял порочный двор царей,
Роскошные пиры, забавы, заблужденья
На мирный шум дубрав, на тишину полей...

Лермантава “На смерть Пушкина”:

А вы, надменные потомки,
Известной подлостью прославленных отцов....
Вы, жадною толпой стоящие у трона,
Свободы, гения и славы палачи,
Таитесь вы под сению закона,
Пред вами суд и правда – всё молчи...

Для “переложений”, якія мне нялёгка было пісаць, даваў Шчадрына “Как

мужик двух генералов прокормил". Далікатныя заўвагі і папраўкі рабіліся пры выкладанні іншых прадметаў, асабліва "закона божага". І апанаваў мяне з 12 гадоў крытычны дух, які не пакідаў мяне ўвесь час майго навучання. Я ведала, што з гэтай крытыкай нельга вытыркацца, няхай думаюць у школе, што ты ўсё прыймаеш, чым цябе кормяць.

Мілыя мае настаўнікі! Схіляю сваю галаву і сэрца перад вашай светлай памяццю!

Я пачала вучыцца ў чацвёртым класе. Вясною, каля я прыехала на вялікодныя вакацыі, здарылася вялікае няшчасце: памёр мой бацька. Што далей рабіць? Каб скончыць гімназію, патрэбны сродкі, а запасаў у нас ніякіх, толькі была бабіна хата, дзе маглі жыць. Вярнулася я ў гімназію ў вялікім горы. Трэба сказаць, што адносіны настаўнікаў і дырэктара да мяне былі вельмі прыхільныя. Вучылася я добра, лічылі мяне першай вучаніцай. Не ведаю, хто прылажыў да гэтага руку, толькі мне сказалі, каб увосень я прыязджала на вучобу, а ад платы мяне вызваляць. Вялікая палёгка. У гэты час у майго дзядзькі нарадзілася дзяўчынка, жыў ён на Мальцаўскіх заводах, а па нейкіх меркаваннях вырашыў прывезці маёй матцы дзіця на догляд, за гэта абяцаўся аплаціць маю кватэру. Але ўжо ў наступным годзе я пачала займацца з вучнямі малодшых класаў, нават сам дырэктар рэкамендаваў мяне. Я мела некалькі лекцый, а з 6-га класа сама плаціла за кватэру, нават за свой заробак купіла сабе ложак, які дзесяткі гадоў верна служыў мне (застаўся ў Саратаве ў 1959 г.).

Рана давялося мне думаць, як далей жыць, рыхтавацца да працоўнага жыцця. Не было на каго спадзявацца. Матка была на ўсе рукі майстар: і згатаваць, і пашыць, але на сталую якую-небудзь працу дзе прыстроішся. Яна падтрымлівала маё жаданне вучыцца, і гэта для мяне было вялікай палёгкай.

Гімназію я скончыла з залатым медалём (7 класаў). Раптам наша жыццё крута павярнулася. Адзін з землякоў-паразоўцаў (можа і сваяк), што рынуўся ў свет шукаць лепшай долі, апынуўся на Палессі, за Бабруйскам, кіраўніком гаспадаркі маёнтка пана. У яго было двое дзяцей, якіх ён вучыў у гімназіі ў Бабруйску. Вось ён і прапанаваў матцы пераехаць у Бабруйск і ўзяць апеку над яго дзяцьмі. Абяцаў наняць кватэру і даць утрыманне. Вось і яна будзе мець кавалак хлеба.

Мы і радаваліся, і сумавалі, што трэба кідаць родныя мясціны і ехаць у блізкі той свет. Гэта здарылася за год да першай імперыялістычнай вайны. Я паступіла ў 8-мы (педагагічны) клас гімназіі без экзаменаў і абрасла тут вучнямі, на сябе я зарабляла.

Гімназія ў Ваўкавыску была маладая, і ніякіх ўстойлівых традыцый яна яшчэ не мела, не паспела абрасці імі. Утварылася яна пасля спаду рэвалюцыйных падзей і ўзмацнення рэакцыі. Настаўнікі былі ў большасці маладыя, некаторыя з іх (напрыклад, выкладчык рускай літаратуры) умелі захапіць сваім прадметам. На жаль, ён нядоўга выкладаў, а заступнік яго не выклікаў захаплення. Ніякіх дапаможных габінетаў не было. Фізіку, якой я вельмі цікавілася, выкладалі па падручніку і толькі. Калі новая настаўніца матэматыкі на ўроку геаметрыі прыйшла знаёміцца з класам і папрасіла паказаць, дзе вакол нас можна знайсці простакутнікі, ніхто не здолеў паказаць, нават я сумелася (першая вучаніца!). А вось рашыць складаную тэарэму – калі ласка. Выкладанне, далёкае ад жыцця.

Гісторыя – па падручніку Платонава. Выкладчык быў нядрэнны, яго паважалі, але мясцовая гісторыя была не ў яго кампетэнцыі. Ён сам ею не цікавіўся.

А горад Ваўкавыск – гэта сівая гісторыя. Што мы аб ёй ведалі? Лазілі на "жыдскую" горку і аглядалі помнік, які там быў пастаўлены. З лёгкай рукі самаўладнага цара Нікалая I (1842 г.) наш край страціў сваё імя, ён стаў "западным" ці "северо-западным". І не ў інтарэсах нашчадкаў яго было знаёміць моладзь з мясцовай гісторыяй. Каб чаго не здарылася!

А аб Ваўкавыску ўпамінаецца ў XIII ст. У замку яго ў 1386 г. літоўскі князь Ягела прыймаў польскіх паслоў, якія прапанавалі пасаг і руку каралевы Ядвігі. Колькі яго руйнавалі: і “псы-рыцары” ў 1410 г., і французы ў 1812 г. (корпус маршала Рэнье), і мала яшчэ хто. У 1796 г. пасля далучэння да Расіі ён стаў павятовым горадам Слонімскай губерні, а з 1812 г. – Гродзенскай.

Гэта самая блізкая гісторыя, а гісторыя ўсяго шматпакутнага края! Яе трэба было вывучаць, як патрабавалі “зверху”, а яшчэ лепш забыцца на гэту гісторыю. А вось, калі цар са сваімі нашчадкамі ехаў у Белавежскую пушчу і зрабіў прыпынак на вакзале, нас выстраілі на пероне, і мы крычалі “ўра”, а цар памахаў рукою. І гутаркі ў школе былі вельмі “патрыятычныя”.

Ці гэта было ў час святкавання 100-годдзя Айчыннай вайны ці 300-годдзя раманаўскай дынастыі, добра не помню. Наладжаны быў вечар недзе ў клубе з “жывымі карцінамі”. У цэнтры высока “Матушка Россия” з чырвона-сіне-белым сцягам, вакол яе, у ног, – народы. І я нейкі народ ўвасабляла, толькі беларусаў там не было. А яны ў гэту пару пачалі падаваць свой голас, захацелася ім “людзьмі звацца”, яны ўжо няслі сваю крыўду “на свет цэлы”.

Мае родныя мясціны былі вельмі маляўнічыя. Поразава... Навокал на ўзгорках лясы, недалёка рэчка Рось, на ёй ставок з млынам. Мы бегалі на гэту рэчку купацца, рвалі кветкі на сенажацях. Любая рэчка! Але калі далі заданне апісаць якую-небудзь рэчку, то я напісала пра Волгу. Відаць, і іншыя не палічылі патрэбным пісаць аб тым, што блізка, што добра вядома і люба, бо настаўнік, калі раздаваў сшыткі, заўважыў, што меў на ўвазе, каб апісалі знаёмыя рэкі. Чаму ж ён аб гэтым выразна раней не сказаў? Я атрымала за сачыненне чацьвёрку. Фантазіі і ведаў хапіла на гэту адзнаку. Не ведала я тады, што Волга адыграе вялікую ролю ў маім жыцці.

Так, шмат што захоўвалася ў душы ад староннягa, абыякавага вока.

Афіцыйная самаўладная Расія трымалася на трох кітах: праваслаўе, самаўладства і народнасць (вядома, пануючая). Пасля 1905 г. кіты трохі пахіснуліся, але хвастамі яшчэ целяпалі. Гэта адчувалася і ў школе.

Свяшчэннік быў ініцыятарам “святых” падарожжаў: у жаночы манастыр у Красным стоку і ў мужчынскі ў Жыровіцах. Ну што ж? Чаму не паехаць? Аглядзелі старыя пабудовы, праслухалі пра ваяўнічых езуітаў і схізматыкаў. Падабаўся жаночы царкоўны хор, у якім вылучаўся густы контральта нейкай манашкі, папілі смашнага квасу, паабедалі поснымі стравамі. Пытанняў не задавалі. Я, начытаўшыся Л. Талстога, мела свой пункт погляду на ўсякія рэлігійныя спрэчкі. Рана перастала шаптаць пацеры, тым больш, што ў нашай сям'і бацька быў праваслаўны, а матка – каталічка. Якія ж пацеры – праваслаўныя ці каталіцкія – больш падабаюцца богу? Ня трэба ніякіх. Але ў царкву хадзіць трэба было, нават у хоры спявала, ды гэта і лепш: скарэй час праходзіць. А папу здавалася, што мы такія верныя авечкі. Калі мы скончылі гімназію, ён запрасіў нас да сябе, пачаставаў і кожнай падарыў па евангеллю з вершам К.Р.[1]

Пусть эта книга священная
Спутницей вам неизменною
Будет везде и всегда...

Выхаванне – складаная справа. Не ведаеш, куды і ў які бок яно павернецца.

Хочацца ўспомніць добрым словам нашага чарнявага, у акулярах, доктара В., які праводзіў медагляды, чытаў лекцыі па гігіене і даваў добрыя парады. Загадае сесці роўна і рукі сплясці за спіною. Тлумачыць, чаму так трэба рабіць, і раіць самім без загадаў хоць некалькі хвілін пасядзець. Па яго ініцыятыве былі адпораты

[1] Цытата з верша Вялікага князя Канстанціна Раманава.

высокія каўняры ў сукенках. Ён давёў начальству, што вельмі шкодна падлеткам сціскаць шыю, гэта дрэнна ўплывае на зрок і г.д. Нам падабалася такая навінка. На ўроках ручной працы панараблялі адкладных белых каўнерыкаў, папрычаплялі банты (кожны клас меў свой колер), і выгляд у нас змяніўся.

Калі я прыехала ў Бабруйск у 8 клас у такой форме, начальніца мне зрабіла заўвагу і вельмі здзівілася, калі я ўпэўніла, што ніякага адступлення ад формы ў мяне няма. Па майму прыкладу і іншыя пачалі адкідаць каўняры.

Матэматычка была адзіная жанчына – выкладчыца "сур'ёзнага" прадмета, усе іншыя – мужчыны. Замежныя мовы выкладалі жанчыны ды яшчэ ручную працу, але хто іх лічыў за сур'ёзныя прадметы. Абавязковыя былі мовы: французская і нямецкая. (Я не ўпадабала нямецкую і не захацела яе вывучаць. Цэлая гісторыя. Я дабілася свайго, мне, як выключэнне з агульнага правіла, дазволілі).

У кожным класе была жанчына – "класная дама". Яе абавязкам было наглядаць за дысцыплінай, сачыць за дзённікамі вучаніц, патрабаваць, каб адзеты былі па форме без якіх-небудзь выбрыкаў; яны не былі выкладчыцамі, пераходзілі з класа ў клас разам са сваімі вучаніцамі. Наша была вельмі харошай, не назаляла натацыямі, і мы з ею ладзілі, але былі і іншыя.

На чале гімназіі спачатку стаяла начальніца, жанчына сярэдняга веку. А.П. сціпла ўбраная, з гладка зачэсанымі валасамі, кульгала і апіралася на мыліцу. Калі гімназія перайшла ў Міністэрства народнай асветы, прызначылі дырэктарам мужчыну, і начальніца неяк стушавалася. Якія ў іх былі адносіны, цяжка сказаць, але першую скрыпку іграў дырэктар, – малады, прыгожы, з уладным, патрабавальным характарам. Бедныя жанчыны дрыжалі перад ім, вучаніцы таксама стараліся не пападацца яму на вочы. Толькі пачуецца ад дзвярэй настаўніцкай настойлівы вокліч: "Юлья-а-ан!", і класы заміраюць, а сторож ужо бяжыць трушком, сціскаючы ў руках званок. Яму, відаць, падабалася адчуваць сваю ўладу, але ён быў не дурны, і не менш займала яго, калі бачыў, што хто-небудзь выступае перад ім без дрыжыкаў.

Не скажу, каб мне падабалася звярачацца да яго ў выпадку патрэбы, сэрца ёкала, але брала сябе за чуб і выступала смела. Не памятаю выпадка, каб ён не выслухаў і не задаволіў мяне. Сяброўкі гэта заўважылі і, калі трэба было выступаць ад класа, угаворвалі мяне стаць на чале дэлегацыі. Адмаўляцца не выпадала; толькі ў крытычны момант "дэлегацыя" разбягалася, а я заставалася сам-на-сам з грозным начальнікам. Адступаць ўжо позна было, і дыялог пачынаўся. Уяўляю я сабе гэты малюнак, і смех разбірае. Танклявы, худзенькі чыжык-пыжык і самаўпэўнены слон з паблажлівай ухмылкай.

Дырэктар, М.Д., быў ініцыятыўны і гаспадарны. Дзякуючы яго клопатам, была зроблена прыбудова да будынка гімназіі. Калі адчынілася прыватная гімназія, было толькі два класы, кожны год далучаўся адзін, і памяшканне стала цеснаватым, не было залы. Дом быў дзеравянны, прыбудова цагляная. У гэтым будынку змяшчалася кватэра дырэктара і начальніцы. Стаяў ён на ўзгорку, з якога можна было любавацца панарамаю горада. Перад домам на пустэчы былі заложаны кветнікі, пасаджаны бярозкі, пастаўлены "гіганцкія крокі". Як прыемна было вясною ў вольны час ці на перапынках пакатацца!

Неяк вясною наладзіў дырэктар экскурсію ў Маскву, нават сам паехаў. Не магу ўспомніць, колькі вучаніц паехала, толькі займалі некалькі купэ 3-га класа. Дырэктар ехаў у другім, аднак амаль увесь час праводзіў з намі. Было весела і шумна, добра хорам спявалі. Пасябравалі з дзядзькам-праваднікам, які нам галаваломкі-задачкі задаваў. Гаварыў, што ехалі настаўнікі-семінарысты і не рашылі. Паламалі добра галовы, і хоць не адразу, але рашылі. Дырэктар быў вельмі задаволены. У Маскве аглядалі Крэмль. Ішлі праз Спаскія вароты, дзе перад абразом гарэла лампадка, і хто ні ішоў – скідаў шапку. Успенскі сабор з трунамі цароў, званніца Івана Вялікага (туды нават лазілі і аглядалі маскоўскія

далягляды). Пусцілі нас і ў Гранавітую палату, і ў Аружэйную з незлічонымі скарбамі. Наведалі парк Сакольнікі, нават завялі нас ў драматычны тэатр. Шмат чаго яшчэ мы бачылі і былі вельмі задаволены. Наш грозны дырэктар паказаў сябе клапатлівым і ўважлівым чалавекам, з ім нават можна было пажартаваць.

У нашым класе вучыліся дочкі служачых розных рангаў, гандляроў, дробных прамыслоўцаў. "Сословия" (па ранейшай тэрміналогіі) былі таксама розныя. Мой бацька быў сынам селяніна і па пашпарту лічыўся сялянскага "сословия", ну і я вядома, яшчэ былі дзве сястры – Марыя і Тэкля – дочкі пісара, таксама з сялян. Па веравызнанню: католікі, праваслаўныя і іўдзеі. Апекавалі: ксёндз, поп і рабін. На ўроках "закона божага" дзяліліся на тры групы. Не ўспамінаю ніводнага выпадку, які б паказваў, што ў нас быў антаганізм на гэтай глебе. Найбольш цікавілі поспехі ў вучэнні. Апроч дзяжурных, ніякіх грамадскіх нагрузак не існавала.

Дарваўшыся да "навукі", я старалася акуратна наведваць школу, добра рыхтавацца да заняткаў, бегаць да падружак не любіла; чытала, што пападала пад рукі.

У класе вучылася дачка віднага акцызнага чыноўніка Шура П. Гэта была развітая, вясёлая і таварыская дзяўчына. Матка яе па лініі Мусін-Пушкіных была нейкай сваячкай паэта, нават пісала раманы. Шура любіла запрашаць да сябе дзяўчат свайго класа. Вечары праводзілі цікава: дэкламавалі вершы, чыталі, матка знаёміла з securing новаапісанымі раздзеламі рамана. Я доўга не адважвалася пераступіць гасцінны парог. Куды мне лезці да паноў! Але ў паводзінах Шуры была прастата і ніякага панства, такой была і матка. У старэйшых класах я з ёю пасябравала. Бацька яе памёр, у часе вайны яны пакінулі свой дом у Ваўкавыску і выехалі ў Пензу. Спаткалася я з Шурай у 1916 г. у Петраградзе, яна паступіла на нейкія курсы і жыла ў свайго дзядзькі на другім канцы горада. Часам я да яе прыязджала з начоўкай.

Мілая мая Шура! Які твой лёс? Ці ўспаміналa ты сваю Юлечку-чычку?

## *Сшытак № 8*

## Бабруйск

Пасля смерці бацькі (у 1910 г.) у нас было нялёгкае становішча. Звонку здавалася, што не так ужо дрэнна: пераехалі ў бабіну хату – ёсць дах над галавой, але здабыткаў ніякіх ды матка не заўсёды ладзіла з бабкай з яе ўладным характарам. Я мела вялікую ахвоту вучыцца: канчала тады 4-ты клас. Трэба жыць у горадзе, а дзе ўзяць грошы? Матка была вельмі працавітая і здольная, гатова была ўзяцца за любую работу, але ў той час жанчыне не так лёгка было яе знайсці. Часам ёй удавалася шытвом зарабіць якую капейку, але няпэўнае становішча яе надта хвалявала, а галоўнае непакоілі думкі пра мой лёс. У сваім лісце яна мне пісала: "Я так залегла в берлоге, что шевельнуть ни мозгом, ни руками не могу. Спячка, иначе "обломовщина". Всё валю на судьбу, она, злодейка, виновата, что еще работоспособный человек завален в берлогу и должен спать".

Я, не гледзячы на свой юнацкі ўзрост (14 год), добра разумела складанасць нашага становішча, і гэта накладала на мяне неўласцівы ўзросту цяжар суму і сталасці.

Матка пісала: "Думаю, что не сладко тебе бедненькой, одинокой, я бы свою душу отдала, чтобы тебе облегчить существование, а злой рок так устраивает, что я же делаю это существование ещё более тяжёлым. Какое-то проклятие тяготеет над всеми нами" (1913 г.).

————————————

Прыйшоў на дапамогу мой дзядзька, які вельмі любіў майго бацьку. Ён абяцаў падтрымаць мяне, каб вучылася далей. А для маткі знайшлася работа, якая каш-

тавала ёй шмат нерваў: прывёз дзядзька ёй на догляд сваю маленькую дачушку і стаў прысылаць грошы на яе ўтрыманне, якія і мне перападалі на аплату кватэры ў горадзе. Ад платы за навучанне мяне вызвалілі – вучылася я на 5-кі. Адносіны да мяне ў гімназіі былі вельмі прыхільныя – ад настаўнікаў да вучаніц.

Дзядзька (ён змоладу пайшоў у свет) у той час працаваў на Мальцаўскіх заводах шкла ў Гусь-Хрустальным і Курлаве "управляющим". Пасада адказная і нялёгкая, патрабавала шмат нерваў, але жыў ён заможна. Дзядзька быў добры, разумны і сумленны чалавек, але характар меў мягкі: трапіўшы пад уплыў некультурнай сквапнай бабы, мужняй жонкі, не мог вызваліцца ад яе ўплыву. Вось яна і пачала плесці павуцінне нагавораў: падбухторвала бабку і дзядзьку супраць маткі: што дачушку яна даглядае дрэнна, што грошы яго траціць не на тое, што трэба і г. д. Скончылася сур'ёзным разрывам з бабкаю. Лісты дзядзькі вельмі хвалявалі матку і выклікалі роспач: "Его письма отравляют моё и без того горькое существование, а нервы всё делаются слабее. Я многим ему обязана, но я так наэлектризована домашним "счастьем", что со стороны буквально не могу добавить ни одной капли яду, а то могу отравиться" (1912-1913 гг.). Аднак пасля ўзаемных "шпілек", яны прасілі адзін у аднаго прабачэння да новых сутычак. Матка мне заўсёды гаварыла, што дзядзька добры, але вельмі няшчасны, і прасіла, каб я яму пісала ласкавыя лісты і не ўпамінала пра іх непаразуменні.

Пасля разрыву з бабкай мы засталіся без даху над галавой. Куды дзецца? У маткі з'яўляліся ўсякія праекты: наняць кватэру ў горадзе, узяць дзяўчат на пансіён і жыць разам са мной. У той час у мяне ўжо быў сякі-такі падработак: дырэктар рэкамендаваў мне вучаніц, якіх мне трэба было падцягваць (15 – 16 гадоў).

Сталася трохі іначай. Дзядзька прыслаў матцы грошай на дарогу і паклікаў прыехаць да яго. Выехала яна ў канцы студзеня 1913 года. А трапіла бедная матуля ў кіпцюры злыдня, з агню ды ў полымя. "Эта мадам так впилась в мое тело и душу, что уже кажется ни одной кровинки нет во мне. С утра до вечера пилит дворника, пилит дядю, бьет дочку, похожую на нее, как две капли воды в нравственном смысле. Наушничает на рабочих, каждого дяде представит подлецом, а тот мстит за нее. Она живет кровью и мясом окружающих ее. Без чести, без веры хотя бы во что-нибудь, без совести положительно". Гэта "салтычиха". Пару месяцаў пабыла матка ў такіх ўмовах і так змаглася ад здзеку і кпінаў рыжай разанкі з заціснутымі злымі вуснамі, што ледзь жывая прыехала ў Бабруйск па запрашэнню земляка Казімера, які вёў гаспадарку нейкага пана. Ён прапанаваў матцы асесць у Бабруйску і ўзяць яго дваіх дзяцей, навучэнцаў гімназіі, на пансіён. За ўтрыманне ён будзе плаціць, а на вакацыі браць нас з маткаю да сябе на Палессе.

Калі матка ў красавіку 1913 года прыехала ў Бабруйск, горад зрабіў на яе цяжкае ўражанне. Яна мне пісала ў Ваўкавыск, дзе я вучылася: "Бобруйск – это такой город, какого ты и во сне не видела. Когда я проезжала улицей с вокзала, то чуть не утонула в грязи; лошадь извозчика засела по брюхо и хоть околевай среди улицы". Матку запрасіў да сябе К., і яна з яго дзецьмі, навучэнцамі гімназіі, паехала за 75 ці 100 вёрст ад Бабруйска (у дзяцей былі вакацыі – Вялікдзень). "Тройка сильных лошадей еле вытащила нас из ям и тины бобруйской. Ни одна улица не вымощена, грязь и вонь отвратительная". Не дзіва, што пад уражаннем такога знаёмства з горадам, матцы цяжка было адразу згадзіцца на прапанову К., і яна ўсхвалявана пісала мне, каб я параіла, што рабіць. Але становішча наша было нялегкае і выбіраць нечага было.

Матка трапіла да добрых людзей, яны вельмі чула і далікатна да яе ставіліся. З гаспадаром – паразоўцам К. – матка з дзіцячых гадоў сябравала і перакідалася "шпількамі". Пасля дзядзькавага "раю" яна знайшла тут спакой і ўвагу, але думка пра мяне трывожыла яе. Вось на свята – Вялікдзень – мы ўпершыню разлучаны. "Бывала, што папа чужих берёт к себе на праздник, а теперь я с тобой, как

паршивые собаки, должны искать приюта... Наша судьба не такая, как у всех, и мы с тобой не такие, как все. Вот и беда”. Але тры гады таму назад (1910) было яшчэ горш: якраз на Вялікдзень памер бацька. Маёй працавітай матцы сядзець у чужых людзей на ласкавым хлебе было цяжка. Яна прымае прапанову з восені пераехаць у Бабруйск, а на лета паехала да мяне ў Ваўкавыск, дзе ў маёй гаспадыні, простай і сардэчнай жанчыны, знайшлося месца для нас дваіх. Пасля экзаменаў я вельмі стамілася. Не ў маім звычаі было здаваць абы як, я рыхтавалася сумленна. Дом, дзе я жыла, стаяў пасярод гародчыка, былі тут і загончыкі з варывам і каля платоў кусты ягадніку ды некалькі яблынь. Месца для заняткаў было зручнае і ціхае. У адпачынак на верандзе мы ладзілі цэлыя канцэрты – дзяўчаты ўсе былі галасістыя. Матка трапіла ў гэту абстаноўку і потым часта ўсіх успамінала з замілаваннем.

Нечаканае павіншаванне з заканчэннем гімназіі, мяне вельмі ўсхвалявала. Тэлеграма ва ўзнёслым стылі і пасылка ад майго настаўніка з Віцебска, дзе ён канчаў інстытут. У пасылцы былі добра ўпакаваныя, што і перасылка не адбілася на іх, ружы. Што гэта былі за кветкі! Я такіх яшчэ не бачыла. Напоўнілі яны пахам наш пакойчык, на іх прыгажосць прыходзілі падзівіцца мае падружкі – і не без зайздрасці. Потым настаўнік мне паведаміў, што выпрасіў кветкі ў аднаго кветкавода-аматара, які, даведаўшыся аб мэце, зрэзаў самыя лепшыя.

---

Бабруйск... Вось мы з маткай і прыехалі. Сумна і трывожна, хаця мы і робім выгляд, што ўсё добра і настрой бадзёры. На вакзале абступілі рамізнікі. Адзін перад другім зазывалі нас, хваліліся і канём, і “фаэтонам”. Паехалі. Вуліца небрукаваная, пясок, вялізныя лужыны, ледзь конь калёсы выцягвае. Касцельная вуліца... А вось і наша Школьная. Дамы невялікія з агародчыкамі, садочкамі і пясок, пясок...

Трывожна на сэрцы... Што нас чакае? Як жыць будзем? Грошай у нас няма, знаёмых у горадзе таксама. Увесь наш багаж – пара клункаў і “зароблены” ложак. Нашы знаёмыя прыслалі адрас нанятага для нас дома, куды мы павінны былі заехаць у Бабруйску. Стукаем у вароты. Адчыняе салдат-дзяншчык і вядзе нас у дом, які належаў капітану, сам ён жыве ў другім, побач. Пуста і сіратліва. З чаго пачаць? Селі і засумавалі. Праз нейкі час адчыніліся ў кухні дзверы, і той самы дзяншчык, што нас спатыкаў, прынёс самавар, які пырскаў параю. Гэта так расчуліла, што захацелася плакаць. Неяк будзем жыць! Усюды ёсць харошыя людзі.

Скора дом ажыў, прыехалі дзеці – хлопец і дзяўчынка. Матцы было нямала клопату, трэба было ўсіх накарміць, дагледзіць.

З намі пачала жыць сям’я кіраўніка панскага маёнтка – матка і чацвёра дзяцей, якіх таксама збіраліся вучыць, апроч самага малодшага. Сам гаспадар быў родам з Люблінскай губерні, паляк, яна – з тутэйшай шляхты. Ён працаваў у маёнтку Новы двор паблізу Радашковіч. Гэта быў паважны сівы чалавек, значна старэйшы за жонку. Здабыткаў вялікіх у іх не было, яны жылі даволі сціпла, але сытна. Гэта былі людзі простыя, без налёту якой-небудзь панскасці. Мы пасябравалі з гэтай сям’ёй. Дзеці былі маімі вучнямі. Улетку на вакацыях я была жаданым госцем у іх сям’і і не адчувала сябе чужой. Ніякіх служак у іх не было.

У 8-мы клас гімназіі мяне прынялі адразу, без якіх-небудзь уступных гутарак: я атрымала залаты медаль з Ваўкавыску. Матка мая паспакайнела: яна мела занятак, добра пасябравала з сям’ёй, з якой мы жылі ў аднэй кватэры, у мяне былі вучні. Але калі часам і даводзілася сядзець без грошай, добрага настрою не траціла. Так, калі я скончыла 8-мы клас і паехала ў Ваўкавыск улетку 1914 г. – мяне запрасіла сяброўка па класу Шура – я доўга не атрымлівала ад маткі ні слова і пачала хвалявацца. Высвятлілася, што ў яе не было грошы на марку,

а суседзі таксама сядзелі без грошай. І хаця матка прасядзела некалькі дзён на малачку (напавер), пісала, што адчувае сябе бадзёрай. А я ў мілым таварыстве Шуры і нашых даўнейшых сябровак таксама трохі адтаяла і неяк пачала больш упэўнена глядзець у будучыню.

У паветры запахла вайной. Не гледзячы на наш легкадумны век, мы адчулі трывогу. Кожны дзень бегалі на вакзал па газеты. Мяне ўразіла першы раз пачутае слова "ультыматум". І калі праз гады мне даводзілася чуць гэта слова, я заўсёды ўспаміналa Ваўкавыск, ліпень 1914 г. І надумалася я заскочыць у Поразава. Дагаварылася з пачтаром (гэты транспарт мне быў добра знаёмы) і паехала. Па дарозе спатыкала прызыўнікоў з торбамі. Твары заклапочаны, часам побач крочылі жонкі з заплаканымі тварамі – ішлі ў горад на прызыўны пункт. У мястэчку ўжо не застала знаёмага фэльчара, і жонка яго паклыбала за ім. Жанчыны асірацелі. Бабку клікала ехаць да нас у Бабруйск, але ці ж яна паедзе са свайго кута – блізкі свет. На другі дзень я з гэтым пачтаром паехала назад. Мой мілы сябра пасля абвяшчэння вайны сабраўся ў Ваўкавыск (жыў за 10 вёрст ад Ваўкавыска), каб даведацца, як я маюся. Не застаўшы мяне ў Ваўкавыску і ўбачыўшы, што сям'я Шуры сабралася выязджаць у Пензу, не адкладаючы, пайшоў у Поразава, адмераўшы без перапынку шлях 10 вёрст + 20 з гакам. Непакоіўся за мяне. Шанцавала мне на добрых людзей.

Улетку 1915 і 16 гг. у Новым двары каля Радашковіч у мяне наладзілася цэлая школа, нават падабраліся хлопчыкі аканома і стоража.

Бровар у час вайны не працаваў. Кватэра знаходзілася ў гэтым бровары. З аднаго боку бровара жыла сям'я ў 2-х пакоях з кухняй, а з другога ў пакойчыку – я са старэйшай дзяўчынкай. Тут была і наша "школа". Мы нікому не перашкаджалі, бо знаходзіліся далёка. Абстаноўка была самая простая, нічога лішняга.

Успамінаю я свае гутаркі з панам Дм. Ішла вайна, праляталі срабрыстыя самалёты над комінам бровара, вечарамі стагнала зямля – фронт быў недалёка. Мы чыталі газеты і разважалі. Спалучэнне было цікавае. Пан Фелікс вельмі ўважліва ставіўся да мяне; яму, відаць, падабалася мая сталасць – не па ўзросту. Для мяне гэта была добрая практыка – слухаць польскую мову ад паляка. Я навучылася нядрэнна гаварыць па-польску з добрым вымаўленнем. Сама пані Дм. нарадзілася недзе недалёка і ведала навакольных фальваркаўцаў, успаміналa Ўласава, Замбжыцкіх. Да апошніх мы з ёю ездзілі ў Вязынку, недалёка ад Радашковіч. Не ведала я, што тут нарадзіўся наш баян, Янка Купала, вершы якога трапілі да мяне ў 1917 годзе і захапілі. Каб я ведала! І гэта пані без панскіх прэтэнзій, магчыма, шмат чаго мне расказала б.

Адносіны яе да мяне былі як да роднай. Я была шчупленькая, і яна прымушала мяне кожны вечар піць сырадой, сама прыходзіла са збанком, а то завядзе ў склеп, дзе стаялі гладышы з малаком, і корміць смятанкай. Паспрабуй адмовіцца!

Гэтыя людзі саграваліі мяне цяплом сваіх простых сэрцаў.

Сям'я нашага нізкаватага вусатага земляка, дзеці якога ў нас жылі, была саўсім іншай. Тут лезлі не ў падпанкі, а ў паны. Тон задавала бабуня, матка жонкі; яна лічыла сябе нейкага панскага роду. Ну, і паразоўцу трэба было падцягвацца. Ён быў кіраўніком маёнтка пана, які рэдка там з'яўляўся. Жыў ён у панскім доме з пакаёўкамі, кухаркамі, і абстаноўка тут была не такая, як у Дм. Неяк на зімовыя вакацыі (1913–14 гг.) запрасілі яны нас да сябе. Ехалі па саннай дарозе вёрст са 100 з папасам[1] у Глуску. Спаткалі нас ветліва: сумна ў палескай глушы. Я ўпершыню ўбачыла фанограф, які па выгляду мала чым адрозніваўся ад Эдысонавага твору. На валіках быў запіс прыгожых мелодый Манюшкі. Каб зрабіць

[1] Popas (*польск.*) – прыпынак.

прыемнасць маім “дэмакратычным” густам, дазволілі ўвайсці калядоўшчыкам, і я ўбачыла тут “Цара Максіміляна”. Бабуня бурчала.

У гэтых пакоях, на мяккім ложку, не такім, як у мяне, я адчувала сябе дрэнна, не на месцы. Не падабалася мне і бабуня, і яе камандаванне служкамі. Не прывыкла я да такой абстаноўкі і не хацела прывыкаць. Даставалася нашаму земляку шпілек, размова працягвалася і тады, калі ён наведваў горад. Занадта ён быў верным панскім служкай.

Мне ўспамінаецца матчына прымаўка: “Служы пану пільне, а ён табе вільне. Служы пану верне, а ён табе п... ”. Як разлічаліся з маткай за ўтрыманне дзяцей, я не ведаю, але я лічыла, што на сябе зарабляю, і трымалася незалежна.

Нашага местачкоўца матка ведала з дзіцячых гадоў. Ён яе паважаў і пабойваўся яе вострага язычка. З маім дзядзькам яны сябравалі. Абодва пайшлі ў свет на заробкі, бо ў хаце не было да чаго прылажыць рук. Адзін пайшоў да паноў у служкі, другі іншым шляхам хацеў разбагацець. Мне невядома, чым скончыў першы, бо ў часы польскай акупацыі ён прымушан быў пакінуць сваю службу і падаўся на бацькаўшчыну, якая нябавам[1] стала за межамі. Дзядзька ж, пагойсаўшы па Расіі, скончыў сваё жыццё як добры практык па шклу, далёка ад роднага мястэчка. Асабістае жыццё яго склалася няўдала: ён быў пад пятой сваёй з’ядлівай жонкі, якая выдзірала ў яго кожную капейку і хавала. Нават, калі ён схавае ў патайную кішэню сабе на піва, яна абмацае ўсе рубчыкі і знойдзе. Калі ён не быў так звязаны, абяцаў мне дапамагчы вучыцца далей, але гэта стала немагчыма. Спачатку я вельмі перажывала, што родны дзядзька свайго слова не стрымаў, адрокся (я не ведала яго сямейных спраў). Потым рашыла, што ўласнымі намаганнямі ўсё ж свайго даб’юся і “пакажу яму”. Дзядзька быў добры і мяккі чалавек і яму было непрыемна, што так прымушан быў зрабіць, тым больш, што я ўсё-такі без яго дапамогі паехала ў Петраград вучыцца, разлічваючы толькі на сябе. Я яму паведаміла з Петраграда, што вучуся на курсах, што год настаўнічала, мела яшчэ вучняў і зарабіла на сваё пражыццё ў горадзе. Ён напісаў мне вельмі харошы ліст, прасіў паведаміць аб маіх патрэбах, адкінуць непатрэбную “палітыку” і “щепетильность”. Калі вынікне якая-небудзь небяспека (ішла вайна), ехаць да яго.

Мама вельмі прасіла быць з дзядзькам ласкавай, не “бзыкаць”, а паехаць да яго летам на вакацыі. Ён мяне бачыў вучаніцай, а цяпер я ўжо добра падрасла. І я паехала да яго пасля заканчэння заняткаў на курсах вясною 1916 г.

Жыў ён у невялікім драўляным доме з гародчыкам. Навокал былі лясы і балоты, вузкакалейка, каровы на пашы і завод. Але я нядоўга прабыла ў гэтым манастыры. Ніхто да іх не хадзіў, яны таксама сіднем сядзелі. Сям’я суседа фельчара са мною пазнаёмілася, і мне сёе-тое расказала аб нораве гаспадыні. Ёй не спадабалася самавольнае знаёмства, і яна пачала мне ўтыкаць шпількі. Я рэагавала вельмі рэзка і, не гледзячы на просьбы дзядзькі пабыць у яго, паехала дамой. І думалася мне: чаму гэта добраму чалавеку бог шчасця не дае? Пападзецца ў рукі ведзьмы – і ніяк не можа разблытаць гэтае павуцінне. І чым гэта рыжая баба разанская, мужняя жонка з дзіцем, яго прывабіла? Няхай самі разблытваюць, а я больш да іх не яздок. Шукаў у свеце шчасця, а трапіў за краты.

Я была абурана яго мяккацеласцю, падатлівасцю і, не зважаючы на просьбы маткі быць з ім далікатнай, толькі паведаміла, што даехала добра да месца, адрасу свайго петраградскага пасля прыезду не напісала. Не трэба мне ніякай дапамогі! Не патрэбны мне сквапныя бабы! Адшукаў мяне дзядзькаў ліст, ён прапісаў мне натацыю. Не трэба быць такой гордай і злапомнай у адносінах да яго. Ён па прыродзе сваёй не злы, а “глыбока няшчасны”. Яго пакрыўдзіў мой учынак.

[1] Niebaw (*польск.*) – неўзабаве.

Абяцаў прыслаць 100 р., папярэдзіў, што гэта не яго грошы, а мае. У бацькі быў нейкі выйгрышны білет, і вось дзядзька яго рэалізаваў. Відаць, што так, бо часам ад маткі чула аб тым, але значэння гэтаму ніякага не прыдавала. Не думалася мне, што за яго можна атрымаць грошы.

Дзядзька наведаў мяне ў Петраградзе ў канцы 1916 года. Прыяжджаў наконт пераводу на работу ў іншае месца. Помніцца яго шчуплая фігурка, прасіў прабачэння, нешта тлумачыў. Мне так шкада стала гэтага харошага нешчаслівага чалавека, але грошы прыняць адмаўлялася, хаця яны і "мае". Не памятаю, відаць, ён іх пакінуў на стале. Матцы напісаў, што дачка такая ж ганарыстая, як і яна, не ў бацьку пайшла.

---

Па дарозе ў Мінск разыграўся фарс-вадэвіль. Апранута я была вельмі проста, на галаву завязала хустачку, а гэта было не так модна, як цяпер, і стаяла падоўгу ў тамбуры каля акна, любуючыся маляўнічымі краявідамі. Вясна, сонца яснае, лясы, пералескі, і паветра ласкавае. Заўважыў мяне сусед па купэ, прапаршчык ці "земгусар", з тых, што адседжваюцца ў тылах, і прысуседзіўся да акна. Ну што ж? Стой сабе. Як толькі я выйду, з'яўляецца ён. Хацеў ашчасліваць мяне сваім знаёмствам. І зайгралі ва мне чарцякі, аж рожкі пачалі паказваць. Папрабую я, чаго ён варты. Калі хочаш пагаварыць, калі ласка, а калі думаеш пачаць флірт, які я ненавіджу, паглядзіш, якія бываюць дзяўчаты. Выгляд у мяне быў саўсім не студэнцкі, падобна была скарэй да маладзенькай нянечкі, што пабыла ў горадзе і варочалася дамоў. Разгаварыліся. У словах маіх туман і ніякай вучонасці. Я ўпэўнілася, што мяне лічаць за служаначку. Гэта яму развязала язык і прыдало ўпэўненасці. Пасыпаліся кампліменты, просьбы даць адрас і ўсякія іншыя знакі прыхільнасці. Ва мне злосць закіпае. Ужо Барысаў недалёка. Праязджаем каля будкі, дзе ў гародчыку чырвоныя, ружовыя шапкі макаў. Прыгажосць! Я ў захапленні кажу, што такія фарбы толькі на палотнах Малевіча. Адкуль я ведаю? – Была ў музеі, я ж студэнтка! Кавалер скіс і перайшоў у другі вагон. Ах ты, хлюпік!

Нялёгка было ездзіць у часы вайны па чыгунцы ў прыфрантавой паласе. Плацкарта – гэта раскоша, папрабуй яе дастаць. І хаця на ўліку кожная капейка, ужо можна было б навесці эканомію на чым іншым, але даставанне – цэлая праблема. Адзін раз толькі ў Жлобіне (там перасадка) сяброўка-студэнтка, дачка мясцовага чыгуначніка, дастала, і мы праехалі, як пані, да самага Петраграда.

Успамінаю іншае. На перасадцы я з кошыкам, які замяняў чамадан (хто з нас меў іх тады?), перабягала ад вагона да вагона, мяне адштурхоўвалі, ледзь з ног не збілі. Усюды поўна, не пускаюць. Тады на білетах не ставілі нумар вагона. Прайшла далей ў канец поезда і ў роспачы паставіла на зямлю свой кошык. Бачу, перад вагонам нікога няма, а ў дзвярах стаяць салдаты.

– Эй, барышня! К нам!

Я сумелася на хвіліну, потым падышла да вагона. Узялі мой кошык, падалі мне руку – і я ў вагоне. Глянула і абамлела: адны салдаты, але адступаць позна. Нехта ўстаў, пасунуліся, месца мне далі, кошык мой прыстроілі. Адразу я сказала, што еду ў Петраград вучыцца, што вельмі ім удзячна за тое, што мяне пусцілі, а то давялося б чакаць другога поезда, хто яго знае, калі ён будзе і ці на яго сядзеш. Распытваю, ці няма землякоў, пра іх сем'і і г.д. Завязалася харошая гутарка, пасыпаліся пытанні. Як я ўмела, так адказвала. Падышлі з суседняга купэ. Мы гутарылі па-сяброўску: ніякай заборыстай лаянкі. Да суседзяў нехта прыйшоў і намерыўся "загнуць", дык на яго так гукнулі, што ён сціх. Мне ўступілі другую паліцу, бегалі па кіпяток на станцыях, а я частавала прыпасамі, якія мне матка на дарогу дала. Развіталіся, як з добра знаёмымі. Тут былі толькі салдаты і ніводнага "чына".

Думалася мне: добра, калі ты трапіш на тую дарожку, якая да сэрцаў вядзе.

У той час, як я захаплялася сваім студэнцкім жыццём, глатала прагна навуку, мая матуля ў Б[абруйску] з хваляваннем чакала ад мяне пісем. Ці здарова? Ці не вельмі стамляюся? Ці не забываюся паабедаць? Я ж такая слабенькая! Яна радавалася, што я нарэшце дарвалася да той навукі, што часам наведваю тэатр. А калі атрымала фатаграфію маю з З., нават засталася задаволена, бо ўбачыла, што я не схуднела, а нават паправілася.

У 1916 годзе шмат давялося матцы пераносіць хваляванняў. У сувязі з наступленнем немцаў на Зах[однім] фронце шмат хто падаўся з Б[абруйска] на ўсход (З. і В. паехалі ў Тамбоў). Гімназіі таксама мелі вывезці. Дзядзька прапанаваў, каб прыехала з дзецьмі да яго. Але неяк усталявалася, і ўсе засталіся на месцы. Мяне прасілі Дм. прыехаць да іх (і яе таксама) у Новы Двор каля Радашковіч (у часе летніх вакацый). Там добра былі чуваць артылерыйскія баі. Гэта хвалявала матку, і яна папрасіла, каб я паехала на нейкі час да дзядзькі і сачыла за газетамі.

Неўдачы на фронце, спекуляцыя, усякія чуткі пра здраду і г.д. выклікалі абурэнне. Пісала (1.V.16 г.), што ўсё вельмі дорага, няма нават паперы для газеты: "Бобр[уйский] курьер" печатается на синей, красной, зеленой, желтой и т. п. бумаге. Когда приходится краснеть – на красной, синеть со злости – на синей и т.п. Теперь же, то есть в настоящее время, печатают на наших шкурах: скотские очень дороги". Спекулянты паднімаюць цэны і "в обитателях нашего города кипит неукротимая злоба".

Цэны: фунт мяса 40-50-70 к. Немагчыма адзецца: аршын паркалю 50 кап. І трэба яшчэ даплачваць за вагу; шарсцяныя тканіны недаступны: 6 – 7, 10 – 12 р. аршын і асобна даплачваць за вагу! Няма газы, свечкі па 1 р. фунт і то цяжка дастаць. Няма солі, цукру. Цукеркі мясцовага вырабу 1 р., і гэта недаступна.

Просіць матка ў дзядзькі прыслаць некалькі шклянак, бо тут вельмі дарагія. Калі яна ездзіла з дзецьмі да Дм. на вялікодныя вакацыі, то ў Радашковічах іх напалохалі бомбы. У Мінску ўвечары горад замірае: ні агеньчыка, ні руху. Вакзал, як турма: вокны завешаны чорным сукном, цягнікі ходзяць удзень. У Новым Двары стаялі казакі, праязджалі ўцекачы, чуваць кананада.

*(Працяг будзе).*



прачытанне

Павал Абрамовіч



...кожная з вялікіх кніг пра рэкі
сканчаецца там,
дзе рака ўпадае ў мора...

# "Бо ён – Рака"

## *Дняпро як сістэмаўтваральная метафара ў рамане Уладзіміра Караткевіча "Каласы пад сярпом тваім"*

***Усіх славутых беларускіх літаратараў яднае натуральная сувязь са сваёй зямлёй, Беларуссю, і ў гэтым – непарыўная традыцыя нашай літаратуры, наш ціхі, але цвёрды моўны патрыятызм з часоў Францыска Скарыны і Мікалая Гусоўскага. Любоў да роднай зямлі і замілаванне велічным космасам прыроды, якія літаральна прапаведавалі нашы пісьменнікі, паўплывалі на фарміраванне мастацкага стылю беларускай літаратуры – безумоўна, ён існуе: агульны магутны голас, зладжаны харал нашага класічнага прыгожага пісьменства.***

***Але быў (ёсць і будзе) у беларускай літаратуры пясняр Вады. Чалавек, які нарадзіўся ў старажытным горадзе на магутнай рацэ. Гэта Уладзімір Караткевіч. "Прыдняпровец", як казаў ён пра сваіх літаратурных герояў, вызначаючы не проста месца іх нараджэння, а сутнасць.***

## Верны сябар

Спецыялісты даводзяць, што вытокі назвы ракі "Днепр" трэба шукаць у эпосе Заратустры, у старажытнаперсідскіх словах са складамі "да", "до", "ду". А то і яшчэ раней: задоўга да пачатку часоў паняцце "рака" вызначалася аднаскладанымі пратаіндаеўрапейскімі словамі "да на" ("цячэ тут"), "до на" ("працякае тут"), "ду на" ("працякае ўнутры тут")[1]. Сапраўды, усюды ў гідронімах – "дн": Дунай, Дон, Днестр, Дзвіна, Дардонь. І Днепр. Дакладней, "Дняпро" – у Караткевіча сустракаем толькі такое напісанне.

Я нарадзіўся ўдалечыні ад вялікіх азёр і рэк, сярод камяністых пагоркаў, якія ў старажытнасці багата наствараў у ваколіцах Койданава ляднік, і таму толькі прыблізна ведаю, што гэта такое – быць народжаным каля цякучай вады, жыць ля яе, бачыць ноччу і днём, чуць раку, думаць аб ёй. Так, я не маю досведу, але ў грунтоўным даследаванні "Тэмза" англійскага гісторыка і літаратуразнаўцы Пітара Акройда даводзіцца, што "сапраўдную "меру" ракі можна ўбачыць у пачуццях, якія яна выклікае"[2].

Уласныя пачуцці – някепская дапамога ў літаратурных падарожжах і спасціжэнні асобы пісьменніка, асабліва калі ты ўсё ж бачыў на свае вочы вялікія рэкі сваёй радзімы дый яшчэ шмат чытаў пра вялікія рэкі чужых краін. Прыкладам, кнігу "Жыццё на Місісіпі" Марка Твэна, у якой пісьменнік, ненапышлівы грамадзянін ЗША і дасведчаны лоцман, сказаў пра раку так: "Усё ж басейн Місісіпі – гэта касцяк нацыі. Усе іншыя раёны краіны – толькі чальцы, важныя не столькі самі па сабе, колькі сваімі адносінамі да касцяка"[3].

Гэта не проста назіранне, а вопыт доўгага жыцця. Караткевіч, які бязмерна абагаўляў сваю раку, але ў той жа час глядзеў на свет пільнымі, разумнымі вачыма грамадзяніна, мастака і гісторыка, аднойчы прыйдзе да той жа высновы пра раку як касцяк нацыі. Аднак падасць яе ў больш разгорнутай, метафарычнай форме:

"Ён [Дняпро] – бацька. Ён калыска наша. Ягоная душа – наша душа, усё яшчэ нястрымная, язычаская, вераломна-праўдзівая, цыганская. Ён і сапраўды язычнік, мнагажонец, і ўсе жонкі ягоныя не чуюць у ім душы. І Друць, і Прыпяць, і Дзясна. А браты ягоныя і сябры, накшталт Сажа, таксама не чуюць у ім душы. Бо гэты не выдасць. Бо ён верны сябар, які не заложыць цябе ўсякай свінні.

Бо ён – Рака"[4].

## Кніга пра Раку

Калі да Караткевіча толькі прыйшла задума "Каласоў пад сярпом тваім" (пісьменнік тады яшчэ быў студэнтам Кіеўскага ўніверсітэта), ён меркаваў абмежаваць геаграфію рамана адным Прыдняпроўем. "Але потым прыйшлося пашырыць рамкі, перакінуць з Прыдняпроўя "мосцікі" ў Вільню, Пецярбург, Варшаву", – дадае пісьменнік[5].

І ўсё ж сэнсавы цэнтр рамана застаўся ў межах роднага Караткевічу Прыдняпроўя. Пісьменік насамрэч не стаў радыкальна змяняць сваю першапачатковую задуму, нягледзячы на гаркавае слова "прыйшлося", за якім хаваюцца развіццё, ускладненне рамана, якое адбываецца найчасцей міжволі аўтара, і заўвагі рэдактараў, цэнзараў. Караткевіч быў досыць непахісны ва ўласным жыцці і творчасці,

---

[1] Шарый, А. Дунай. Река империй. – Азбука-Аттикус, 2015 г.
[2] Акройд, П. Темза. Священная река. – Издательство Ольги Морозовой, 2009 г.
[3] Твен, М. Жизнь на Миссисипи. – Петрозаводск, 1960 г.
[4] Караткевіч, Ул. Званы ў прадоннях азёр. – Мастацкая літаратура, 1991 г.
[5] Мальдзіс, А. Жыцце і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча. – Мастацкая літаратура, 1990 г.

і мосцікі (заўважце, не “масты”!) засталіся толькі мосцікамі – пабудаваны яны ў кнізе, зразумела, праз Дняпро.

Дняпро – чацвёртая па даўжыні рака ў Еўропе – цячэ праз усе “Каласы...” і з’яўляецца глабальнай сістэмаўтваральнай метафарай, дэшыфроўка якой дазваляе спасцігнуць ідэйна-філасофскую аснову рамана.

Вялікая рака суправаджае герояў, цячэ праз іх жыцці. Нават калі дзеянне “Каласоў...” адбываецца ўдалечыні ад ракі, персанажы кнігі звяртаюцца да Дняпра ў сваіх думках, жадаюць бачыць і чуць яго, суадносяць з ім свае назіранні. На ўвесь свет глядзяць яны быццам праз дняпроўскую ваду – рака з’яўляецца мерай рэчаў для герояў кнігі.

Так, у часе летняга падарожжа кампанія падлеткаў знаходзіць крынічку. Майка шэптам, быццам падчас рытуалу, кажа, што гэта бацька вады. Алесь папраўляе дзяўчыну: “Бацька вод”. І дадае: “Вось так і Дняпро пачынаецца недзе”.

Свае асабістыя адчуванні персанажы таксама суадносяць з Дняпром: “Ва ўсіх трохі сціснула дыханне, як перад першым адчайдушным крокам у ледзяную ваду Дняпра”.

Рака – мера, а таксама надзейны арыенцір: “...Война ўбачыў за сабой заліты луг, парушынкі людзей на другім яго краі, а перад сабою зарасці і далёкую-далёкую стужку Дняпра”. У гэтым рамане падчас знаёмства досыць сказаць іншаму чалавеку, з якой ты ракі – і ўсё, гэтага хопіць, каб ахарактыразаваць сябе, пазначыць у свеце. “Ты адкуль такі?” – “Я з Дняпра”.

Дняпро, кажучы словамі Твэна, – касцяк “Каласоў...”. Перафразуючы словы амерыканскага пісьменніка, можна дадаць, што “ўсе іншыя раёны кнігі – толькі чальцы, важныя... сваімі адносінамі да касцяка”.

Прыкладам, у часе навучання ў гімназіі Алесь маркоціцца, сумуе па родных краявідах і красках: “Бразгоча званок. Выйдзеш у калідор, а за адзіным акном не Дняпро, а казённыя гарадскія муры, усе пафарбаваныя ў аднолькавы “іерусалімскі”, а па-простаму, па-малярску, – жоўты колер”. Загорскі-малодшы гібее ў Вільні – Дняпро незаўважна стаў ракой жыцця для падлетка, і ён усведамляе гэта, застаўшыся надоўга без “вялікай вады”. І чым далей ад Дняпра – тым гарчэй настальгія, тым цяжэй. “Другі месяц ён жыў [Алесь] у Маскве, і кожны раз пагрозлівай і гордай прыгажосцю ўражаў яго гэты куток зямлі. Вярнуцца да берагоў Дняпра ўсё не выпадала”.

Дняпро, які шырокай сіняй ніткай праходзіць праз кнігу, даў ёй першы шывок – у прамым сэнсе. Пачатак “Каласоў...” “прыйшоў у галаву [Валодзі Караткевічу] 7 жніўня 1959 года ў Азярышчы над Дняпром, дзе ўзвышалася над кручай пахілая груша”[1].

“Вусце” рамана шчыльна звязана з Дняпром, як і аўтар, персанажы ягонай кнігі. І сама рака ад пачатку выступае ў якасці героя кнігі: “Дняпро падбіраўся да яе спакваля, патроху, як разбойнік”.

Рака – удзельнік падзей і сведка ўчынкаў іншых персанажаў. Дняпро ўважліва і адстаронена назірае, несучы свае воды ў вечнасць, і чуе, запамінае ўсё, у тым ліку словы праклёну, адчаю, кахання, малітвы, спадзеву, наказу.

“Бацька спыніўся на высокім урвішчы Дняпра і абвёў рукою ўсё, што вакол.

– Гэта тваё, – сказаў ён. – Твая зямля і тваё неба. Помні, усё жыццё ты будзеш піць ваду з Дняпра і абмываць гэтай вадой сваіх нованароджаных. І адабраць гэта ў цябе не можа ні чалавек, ні бог, ні д’ябал. Адна смерць”.

Сцэны “Каласоў...”, якія разгортваюцца на берагох Дняпра – нават “простая” бойка і прымірэнне двух хлопчыкаў у пачатку твора – падаюцца ці не самымі

[1] Мальдзіс, А. Жыцце і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча. – Мастацкая літаратура, 1990 г.

яскравымі, псіхалагічна дакладнымі, запамінальнымі, мудрымі. Быццам сама рака дала частку сваёй магутнай велічнай сілы Караткевічу, і пісьменнік не проста напоўніцу ёй скарыстаўся, а зарадзіў сваю кнігу, напоўніў як жывой вадой.

Надзвычай глыбокай падаецца ў гэтай сувязі думка старажытнарымскага філосафа Луцыя Анея Сенэкі пра сутнасць вады і ракі: "Сказаўшы, што яна – элемент, я даў ёй тым самым досыць шмат сіл. Бо ты ж разумееш: што выцякае з элемента, не можа вычарпацца" (трактат "Аб прыродзе", кніга III "Аб вадзе")[1].

Ідэі, вобразы, персанажы "Каласоў..." не вычарпаліся, не высахлі з цягам часу, яны застаюцца і для новых пакаленняў шчырых беларусаў неабходнымі, прыцягальнымі, гаючымі, як празрыстая рачная вада, – літаратура як від мастацтва сапраўды можа спатоліць духоўную смагу.

"Бясконцае жыццё Тэмзы наводзіць на думку, што прырода ўсяго на свеце цыклічная", – піша Акройд, і Дняпро, які ў старажытнасці меў назву Барысфен, таксама можа засведчыць гэта – прама ці апасродкавана, праз кнігу Караткевіча.

## Мора свабоды

Разважаючы пра Дняпро як сістэмаўтваральную метафару "Каласоў...", трэба адзначыць яшчэ дзве важкія ролі ракі ў рамане.

Па-першае, Дняпро выяўляецца цякучай, але суцэльнай, не пункцірнай мяжой паміж свабодай і прыгнётам, воляй і турмой.

Памятаеце, калі Раўбіч, расклаўшы мапу, паказвае прыдняпроўскім шляхцічам меркаваную дыспазіцыю войскаў у часе будучага паўстання супраць Расейскай імперыі? Пры размяшчэнні ўзброеных атрадаў улічаны найперш павароты, лукавіны Дняпра, і рашуча гучаць за сталом словы: "Трымаць асявую лінію Дняпра". Караткевіч не збаяўся ўвесці гэтую сцэну ў якасці стрыжнёвай, паказаць дэталёва, як нашыя прадзеды стрымлівалі і білі ворага, менавіта з улікам мясцовасці і перавагаў, якія дае родная зямля. І вада.

Па-другое, для ўсведамлення Дняпра як глабальнай метафары ў рамане трэба звярнуць пільную ўвагу на 20-ты раздзел першай часткі рамана, якая напісана ад першай асобы – ад імя самога аўтара. Быццам старонка дзённіка была наўмысна забытая паміж старонак літаратурна-мастацкай кнігі – моцны ход!

Караткевіч распавядае, як ён піша "гэтыя радкі", лежачы на вялікім камяні ля берага мора. (Пісьменнік наўмысна, дзеля абагульнення, мэтафарычнасці не кажа, што гэта Чорнае мора.) Найвялікшы рамантык беларускай літаратуры, ён з дакладнасцю мастака-марыніста апісвае наваколле. "Але галоўнае – мора! Гэта тое самае мора, у якое ўпадае мой Дняпро", – усклікае аўтар "Каласоў...". Караткевіч кажа, што кожны з нас нясе ў мора ўсё добрае і злое, што мы бачылі, "мы нясём у яго сваё жыццё, нават больш – сваю душу. І кожны ўпадае па-свойму".

Заканчваецца раздзел кранальным зваротам: "Спяшайся, цурок вады! Мора чакае!" Аўтар мае на ўвазе ці то чытача, ці то самога сябе як простага чалавека, ці то самога сябе як аўтара прыспешвае са стварэннем рамана, ці то наўпрост у стылі постмадэрністаў звяртаецца да ўласнага персанажа – Алеся Загорскага, які аднойчы адкрые Мора (Беларусь), але яшчэ доўга і пакутліва будзе спасцігаць хвалі, з якіх гэта Мора складаецца.

Сімвалы і метафары коцяцца, як воды Дняпра, – неверагоднае ўражанне робіць паэтыка Караткевіча! І адно з вытлумачэнняў: Беларусь – тая ж самая рака, якая аднойчы ўліецца ў вялікае мора свабодных краінаў. Гэта адбудзецца, калі кожны з нас – не як жыхар, а як грамадзянін – усвядоміць: мы ёсць цурок вады і мы ёсць мора.

[1] Сенека, Л.А. Философские трактаты. – Алетейя, 2000 г.

## Цемра і золата Дняпра

“Каласы пад сярпом тваім” – гімн роднай Рацэ, якая надае сэнс усяму на свеце. А Дняпро ў сваю чаргу – “вусце” і “выток” рамана, месца дзеяння, стрыжань, адзін з галоўных персанажаў. І адначасна – нацыянальны сімвал, мастацкае ўвасабленне нашай краіны, вызначэнне ідэі свабоды, метафара вечнага імкнення сапраўднага чалавека да абнаўлення, развіцця і спасціжэння моцы адзінства. У адным са знакавых месцаў рамана Караткевіч, быццам вежу, ставіць важкі злучальнік “і”: “Шлях і Дняпро”.

Кожная з вялікіх кніг пра рэкі сканчаецца там, дзе рака ўпадае ў мора. Мудры аўтар “Каласоў...” таксама ведае фінал: “А калі нас не будзе, яна [рака] усё яшчэ будзе бегчы далей і далей, да апошняга, далёкага мора...”

Скон, але і працяг. Караткевіч як сын Ракі прагнуў еднасці з Дняпром і пасля смерці, каб пабачыць тое апошняе мора. Момант уласнага канчатковага злучэння з Дняпром ён красамоўна апісаў у вершы “З вытокаў да вусця ракі”:

Калі развітання апошняга прыйдзе пара,
Ладдзя на апошні, світанкавы выплыве плёс,
І прыйме мяне валавокая цемра Дняпра,
Як месячны серп з залацістых дняпроўскіх нябёс.



Наталля Якавенка



...натуральнасць

патрабуе смеласці...

# Архіўная праўда і талент натуральнасці

***Літаратуразнаўчы водгук на архіўную аповесць Леаніда Дранько-Майсюка "...Натуральны, як лінія небасхілу"***

***Леанід Дранько-Майсюк. «...Натуральны, як лінія небасхілу»: архіўная аповесць пра Максіма Танка. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў "Кнігарня пісьменніка"; вып. 97). – 148 с.***

Так павялося з часоў глыбокай старажытнасці, што літаратурныя творы, заснаваныя на дакументальных матэрыялах, дакладных фактах, рэальных падзеях, карыстаюцца нязменным попытам. Рознаплanавасць дакументальна-мастацкай літаратуры і разам з тым узаемапранікальнасць яе відавых формаў, шматварыянтнасць, пэўная жанравая абмежаванасць і адначасова мастацкая арыгінальнасць, магчымасць творчага падыходу да строгага дакументу, пазнавальнасць і канцэптуальнасць абумоўліваюць незгасальную папулярнасць і заўсёдную за-




патрабаванасць дакументальна-мастацкіх твораў. Па сутнасці, сказанае акрэслівае асноўныя асаблівасці адной з такіх кніг сучаснай беларускай літаратуры – архіўнай аповесці Леаніда Дранько-Майсюка "...Натуральны, як лінія небасхілу" пра неспакойную маладосць Максіма Танка.

Нягледзячы на пакладзены ў аснову твора выразны дакументальны пачатак, ад навуковай і гістарычнай літаратуры архіўная аповесць Л. Дранько-Майсюка адрозніваецца мастацкасцю дакумента, калі па волі аўтара адбываецца пэўны падбор і кампанаванне дакументальнага матэрыялу, малююцца яркія, вобразныя карціны гістарычных падзей і псіхалагічныя партрэты некаторых асоб, выразна падаецца аўтарская ацэнка рэальных фактаў, а часам нават уласныя версіі адносна пэўных сапраўдных выпадкаў, якія дапаўняюць або аспрэчваюць існыя дагэтуль тлумачэнні. Характэрнымі прыёмамі аўтара архіўнай аповесці з'яўляюцца фактаграфічнасць, супастаўленне, тэксталагічны, псіхалагічны аналіз дакументаў, мантаж, рэтраспекцыя, што ўсё разам дазваляе Л. Дранько-Майсюку стварыць шырокую панараму жыцця слыннага беларускага паэта на фоне першай паловы 1930-х гадоў.

Пры ўсім тым Леанід Дранько-Майсюк сваім дакументальна-мастацкім творам зрабіў важкі ўнёсак у беларускую літаратуразнаўчую навуку – у танказнаўства. Пісьменнік доказна, на падставе архіўных дакументаў прыводзіць невядомыя дагэтуль звесткі і абвяргае высновы класікаў айчыннага літаратуразнаўства – Уладзіміра Калесніка, Дзмітрыя Бугаёва і Міколы Арочкі, а таксама даследчыцы творчасці паэта, укладальніцы Збору твораў Максіма Танка Святланы Калядка адносна першага арышту М. Танка ў 1932 г., умоў яго зняволення і пазбаўлення ад турмы ў 1934 г., памылак у назве верша "Як бог гуляў на вечарыне" і ў прозвішчы пракурора, які меў дачыненне да справы Яўгена Скурко – Максіма Танка. На гэтых акалічнасцях варта асабліва засяродзіць увагу.

*"У цень расплывістасці трапілі й даследчыкі"*, – адзначае Л. Дранько-Майсюк наконт недакладнасці звестак аб першым арышце М. Танка (у красавіку, маі ці летам 1932 г.) і тлумачыць: у кнігах У. Калесніка ("Паэзія змагання", "Зорны спеў", "Максім Танк. Нарыс жыцця і творчасці") указваюцца розныя тэрміны, некаторыя з якіх супярэчаць логіцы: *"Атрымалася дзіўная перастаноўка: арыштавалі паэта летам, а выпусцілі вясной, 2 красавіка, усё таго ж 1932 года!";* Д. Бугаёў (у кнізе "Паэзія Максіма Танка") гаворыць пра арышт у красавіку 1932 г. – без дакладнай даты; М. Арочка (у кнізе "Максім Танк. Жыццё ў паэзіі") *"мусіць, каб не памыліцца, наогул не называе ні дзень, ні месяц, ні год першага арышту, а проста кажа пра свайго героя: "...упершыню трапіўшы на Лукішкі...".* С. Калядка (у артыкуле "Дзённік – гэта шлях з верставымі слупамі-паказальнікамі...") адзначае: *"Няма архіўных матэрыялаў, на падставе якіх мы маглі б дакладна ўзнавіць даты арышту і знаходжання Максіма Танка ў турме ў 1932 г." – "Аднак жа гэтыя матэрыялы ёсць"*, – супярэчыць Л. Дранько-Майсюк і даводзіць: *"У абвінаваўчым акце, складзеным Пятроўскім, на 8-й старонцы можна прачытаць: 27 красавіка 1932 года Яўгена Скурко затрымалі, а праз два дні, 29 красавіка, рашэннем суда 1-й інстанцыі часова зняволілі"* [с. 36–37]. Усё проста, калі ёсць праўдзівы дакумент і зацікаўлены ў ім дакументаліст.

Аўтар архіўнай аповесці не прапускае таксама *"невялікую недакладнасць"*, дапушчаную М. Арочкам у даследаванні "Максім Танк. Жыццё ў паэзіі": *"...ён сядзеў на Лукішках ад мая 1933 г. па май 1934 г."*. Аднак, згодна з прыведзенымі Л. Дранько-Майсюком дакладнымі фактамі, *"...27 студзеня 1934 года на Яўгена Скурко выпісалі гончыя лісты (пачалі шукаць!) – значыць, у студзені згаданага*

*года, прынамсі пачынаючы з 27-га чысла, яго ўжо за кратамі не было"* [с. 80–81]. Пераканаўча.

Яшчэ адзін перагледжаны факт: 21 жніўня 1934 г. М. Танк быў арыштаваны і ўзяты пад канвой. *"Паводле У. Калесніка: "...закаванага ў кайданы Танка пешкі (!) пагналі ў Вільню..."*

*Няўжо пешкі?*

*Ад Паставаў жа да Вільні больш за 100 кіламетраў!*

*Колькі ж гэта трэ было цягнуцца-клыпаць?*

*Нешта не верыцца ў такі паход,* – заўважае Л.Дранько-Майсюк, – *асабліва з улікам таго, што ўжо назаўтра, 22 жніўня, начальнік Лукішак Чакала пісьмова паведаміў Пятроўскаму: а 6-й гадзіне (!) у турму дастаўлены Яўген Скурко <...>*

*6-я гадзіна не 18-я – то-бок з самага ранку адно мінула ноч, 22 жніўня паэт ужо быў за мурамі Лукішак, бо яго везлі, а не гналі пехатой – за адну ноч пехатой 100 кіламетраў не пройдзеш! <...>*

*У. Калеснік, можна сказаць, дапусціў перабольшанне ў стылі вялікага рэжысёра"* (С. Эйзенштэйна, які выдумаў штурм Зімняга. – *Н.Я.*) [с. 88–89]. Лагічна і іранічна.

Наступныя два выпадкі, калі архіўная праўда, выпушчаная ў свет Л. Дранько-Майсюком, канфліктуе з прынятымі ў літаратуразнаўстве звесткамі, датычаць не столькі канкрэтных фактаў пакручастага жыццёвага шляху Максіма Танка, колькі памылак у прачытанні некаторых тэкстаў.

Першы з гэтых выпадкаў – недакладнасць у перадачы прозвішча дзяржаўнага абвінаваўцы Яўгена Скурко – Ячыноўскі (згодна з судовым дакументам), Ячынскі (паводле М. Арочкі), Яцэноўскі (паводле У. Калесніка). На гэты конт аўтар дакументальнай аповесці зноў жа з мяккай іроніяй заўважае: *"Зрэшты, і архіўная праўда, як і ўсё на свеце, іншы раз мае дамешкі свядомай ці несвядомай няпраўды, хаця ў гэтым выпадку ў пратаколе чорным атрамантам чытэльна выведзена: Jaczynowski, а на іншай староне нават захавалася пракурорава імя – Ежы"* [с. 104]. Ну што тут скажаш, застаецца толькі ўсміхнуцца. Але пазней, падчас адкрыцця другой тэксталагічнай архіўнай праўды, – у роспачы развесці рукамі. *"Гаворка ўсё пра той жа верш (іншае жанравае вызначэнне – Паэма Апостала) "Як бог гуляў на вечарыне" – на разлінеенай паперы грыпса назва твора падкрэслена аўтарам хвалістай тлустай рысай.*

*У. Калеснік называў гэты верш "Як бог гуляў на **ігрышчы**", а Д. Бугаёў і М. Арочка – "Як бог гуляў на **забаве**", аднак жа арыгінал сведчыць: апошняе слова ў назве – **вечарына**.*

*Але чаму адносна загалоўка ўзнік такі разнабой?*

*Пэўна ж, таму, што згаданыя даследчыкі не бачылі арыгінала рукапісу – хутчэй за ўсё, карысталіся паліцэйскім перакладам рукапісу на польскую мову; назва ж верша па-польску гучыць так – "Jak Bóg hulal na zabawie (Poemat Apostola)".*

*І вось, робячы адваротны пераклад, У. Калеснік скарыстаў замест "zabawy" слова "ігрышча", а Д. Бугаёў і М. Арочка "zabawu" пакінулі як "забаву" – тым болей (хутчэй за ўсё, меркавалі даследчыкі) ёсць жа такая лексема ў беларускай мове"* [с. 119–120].

Наяўнасць дакумента або асобных дакументальных звестак у літаратурным творы не дазваляе вольнага абыходжання з фактамі, зводзіць да мінімуму магчымасці мастацкага вымыслу. У гэтым выпадку воля аўтара твора выяўляецца ў яго задуме, ідэі, жанравай форме, у падборы і кампаноўцы дакументальнага матэрыялу, у ацэнцы адлюстраваных падзей – як у архіўнай аповесці Л. Дранько-Майсюка, пра якую ідзе гаворка. А што казаць пра літаратуразнаўчыя даследаванні, якія павінны быць выключна дакладнымі, выверанымі, аднак маюць не адну фактычную і тэксталагічную памылку... Лепш парадавацца, што "невялікія недакладнасці" выпраўлены, і падзякаваць таму, хто іх выправіў.

Акрамя архіўнай, аповесць “...Натуральны, як лінія небасхілу” ўтрымлівае ў сабе жыццёвую праўду, што выяўляецца дзякуючы, так бы мовіць, таленту натуральнасці, уласціваму і герою, і аўтару твора. Леанід Дранько-Майсюк, у адрозненне ад *“нашых фігурных адраджэнцаў, якія зазвычай успрымаюць творчасць як нейкую даважку да жыццяпісу”* і сапраўднага мастака частаператвараюць у *“аб’ект злой крытыкі толькі за тое, што ў нядаўнім мінулым быў аблашчаны ўладай”* [с. 7], адкрыта і шчыра апавядае пра Танка-камуніста, паказвае нараўне са станоўчымі яго адмоўныя ўчынкі, не губляючы пры гэтым вялікай павагі да Танка-чалавека і Танка-паэта. Нават абараняе яго ад нападак тых самых “фігурных адраджэнцаў” і зайздроснікаў. Напрыклад, такім чынам: *“Зламыснікам паэта напомню: Максім Танк стаў камуністам не дзеля кар’еры, а дзеля змагання – дзеля рызыкоўнага жыцця; калі ж кампартыя сваю кіраўнічую ролю страціла, выхадзімцам не зрабіўся. <...> узнагарод і пасад не выпрошваў і не вымольваў, і не мог вымольваць, бо жыў не дзеля кар’еры; ён меў цяжкі шлях, а ягоныя зайздроснікі рабілі кар’еру; паміж сцягам і парасонам яны заўсёды выбіралі парасон, бо добра ведалі: пад сцягам ад нягоды не схаваешся!”* [с. 21]

Аўтар архіўнай аповесці не ўхваляе з’едлівых антырэлігійных твораў маладога Танка, у якіх нават слова “бог” ён пісаў з малой літары, а “Камуна” – з вялікай, але адстойвае дакументальную праўду (верш “Як бог гуляў на вечарыне”). Заўважае, як, жывучы ў БССР, паэт пісаў пра *“жудасную панскую няволю”*, якая насамрэч *“была і не такой ужо і жудаснай!”*, а яшчэ раней нахабна хлусіў, каб пазбегнуць доўгага турэмнага зняволення, але памяркоўна адзначае, што *“калі б сталася ўсё па-іншаму і паэт надоўга сеў бы ў астрог, то мы не мелі б такой з’явы, як ягоная даверасьнёўская творчасць...”* [с. 135]. Праўдзіва распавядае як М. Танк *“у сваім нядобрым вузкапартыйным пафасе хапіў цераз край”*, калі адказваў на крытыку М. Краўцова, які *“заставаўся ўсё-ткі ў межах этыкі”* [с. 138], але адзначае, што пазней Максім Танк *«па-новаму сагрэўся разуменнем: якое гэта шчасце быць беларускім паэтам! І якая гэта асалода, калі (ідучы па Вільні!), ты можаш пра сябе сказаць: “...натуральны, як лінія небасхілу...”!»* [с. 140–141].

Натуральнасць патрабуе смеласці. Шчасце быць (а не з’яўляцца) беларускім паэтам таксама патрабуе смеласці. І толькі смелыя ствараюць гісторыю літаратуры.

# Галасы

### *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»*



**Аляксандр Гужалоўскі. Сэксуальная рэвалюцыя ў Савецкай Беларусі. 1917–1927 гг. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2017. – 258 с.**

Для працы над кнігай “Сэксуальная рэвалюцыя ў Савецкай Беларусі. 1917–1929 гг.” гісторыку Аляксандру Гужалоўскаму давялося шмат папрацаваць не толькі ў шматлікіх беларускіх, але і маскоўскіх архівах. У выніку з’явіўся першы твор, прысвечаны дзяржаўнаму рэгуляванню сэксуальна-шлюбных адносін у БССР пасля рэвалюцыі.

Як адзначаецца ва ўводзінах, першае дзесяцігоддзе пасля бальшавіцкага перавароту 1917 г. характарызавалася неверагоднай нават па сённяшніх мерках свабодай нораваў. «Сэксуальная рэвалюцыя» прывяла да дэзарганізацыі традыцыйнага сямейна-шлюбнага ладу, паслаблення інстытуту шлюбу і заснаванай на ім сэксуальнай маралі, рэзкага павелічэння колькасці абортаў, росту прастытуцыі і венерычных захворванняў... Кніга адрасуецца шырокай чытацкай аўдыторыі, але перадусім – моладзі.




**Алесь Кіркевіч. Самурай. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 144 с.**

У свай дэбютнай кнізе Алесь Кіркевіч, акрамя стварэння вобразу сучаснасці, спрабуе зазірнуць як у мінуўшчыну, гэтак нават і ў будучыню. Кніга прасякнутая духам патрыятызму, але патрыятызму не паказушна-плакатнага, але – рэфлексійна-роздумнага. З дамешкам сумнаватай усмешкі з абсурдаў рэчаіснасці – што была, ёсць і маецца быць, калі толькі... Большасць апавяданняў “Самурая” пабачылі свет на старонках незалежнай перыёдыкі. Пры канцы кнігі – жменька вершаваных твораў, што дадаюць зборніку лірызму ды пранізлівай пачуццёвасці.




**Тэорыі ліаратуры XX стагоддзя / Анна Бужыньска, Міхал Павел Маркоўскі; прадм.: Ганны Бутырчык; навук. рэд.: Лявон Баршчэўскі – Мінск, Медысонт, 2017. – 628 с.**

Выйшаў шасцісотстаронкавы пераклад на беларускую мову польскага акадэмічнага выдання Анны Бужыньскай і Міхала Паўла Маркоўскага «Тэорыі літаратуры XX стагоддзя», якое змяшчае

найбольш поўнае апісанне ўсяго, што адбывалася ў сусветнай гуманістыцы за апошнюю сотню гадоў.

Студэнты ў беларускіх ВНУ дагэтуль вывучаюць тэорыю літаратуры або паводле савецкіх падручнікаў, або паводле расійскіх ці беларускіх, якія ўсё адно заснаваныя на (пост)савецкіх шаблонах і ідэалагічных штампах. Як вынік, агульная гуманітарная адукацыя ў Беларусі існуе асінхронна з сусветнай гуманістыкай. Базавыя паняцці заходняга свету нічога не кажуць выпускнікам айчынных філфакаў. Менавіта таму каманда праекта, у якую ўвайшлі Марына Шода, Святлана Рогач, Марыя Пушкіна, Таццяна Нядбай, Лявон Баршчэўскі, Ганна Бутырчык ды іншыя, пераклала на беларускую мову "Тэорыі літаратуры ХХ стагоддзя" — грунтоўнае акадэмічнае выданне, якое, паводле Максіма Жбанкова, "будзе істотным і значным не толькі для студэнтаў-гуманітарыяў шырокага профілю, але й для ўсіх, хто марыць аб нацыянальнай вышэйшай адукацыі еўрапейскага ўзроўню".

**Ксенія Шталенкова. Губернскі дэтэктыў. Справа аб крывавых дукатах. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 101). – 216 с.**



"Губернскі дэтэктыў" – другая кніга Ксеніі Шталенковай. Яна была створана ў межах праекту "Школа маладога пісьменніка: Другі год" (2016-2017 гг.) пры падтрымцы Саюза беларускіх пісьменнікаў. Калі ў папярэдняй кнізе "Адваротны бок люстра" Ксенія перанесла чытачоў у Вільню, то ў новай кнізе падзеі адбываюцца ў 1875 годзе ў Мінску. Як патлумачыла аўтарка, яна даведалася пра некаторыя здарэнні, якія адбываліся ў Мінску ў 19 стагоддзі, у прыватнасці, пра фальсіфікацыю манет. Гэта і стала зачэпкай для напісання твору. Рэдактарка кнігі Людміла Рублеўская ўпэўнена, што новая кніга Ксеніі Шталенковай ёсць пачаткам новай дэтэктыўнай серыі. Нездарма ў канцы твора стаіць не кропка, а пытальнік.

**Макс Шчур. Галасы: апавяданні, аповесць. — Мінск: А.М. Янушкевіч, 2017. – 186 с.**




У новую кнігу прозы сталага дзеяслоўскага аўтара, лаўрэата прэміі Гедройца 2016 года Макса Шчура ўвайшлі 13 апавяданняў, напісаных у 2011–2017 гг., а таксама аповесць "Чалавек з футаралам". Пры тым што большасць тэкстаў кнігі друкаваліся ў віртуальным часопісе "ЛітРаж", шырокай чытацкай аўдыторыі яны невядомыя. Кніга ўвайшла ў тройку найлепшых кніг 2017 года паводле версіі "Радыё Свабода".

# Нашыя аўтары

**Абрамовіч Павал** – крытык. Болей за 15 гадоў пісаў літаратурна-крытычныя тэксты для друкаваных і электронных СМІ, сярод якіх «Наша Ніва», «Arche», «Дзеяслоў», «Радыё «Свабода», «Белорусский журнал», агенцтва «Интерфакс-Запад» і інш. Вядзе ў месенджэры *Telegram* канал «Кнігазор» аб кнігах. Нарадзіўся ў 1977 годзе ў Койданава. Жыве ў Мінску.

**Аляхновіч Мікола** – паэт, лінгвіст. Дацэнт кафедры беларускага мовазнаўства і дыялекталогіі Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Пушкіна. Аўтар кніг вершаў «Жыццёвае веры прадзіва», «Святло дарогі», кнігі перакладаў «Такая тонкая размовы ніць». Нарадзіўся ў 1953 годзе ў вёсцы Валішча на Піншчыне. Жыве ў Берасці.

**Арлоў Уладзімер** — празаік, паэт, эсэіст, гісторык. Лаўрэат літаратурных прэмій, сярод якіх прэмія імя Францішка Багушэвіча (1996), «Гліняны Вялес» (1998), «Еўрапейскі паэт свабоды» (2010), «Залаты апостраф» (2015). Аўтар кніг «Добры дзень, мая шыпшына», «Дзень, калі ўпала страла», «Рэквіем для бензапілы», «Фаўна сноў», «Сны імператара», «Краіна Беларусь», «Ордэн Белай мышы», «Адкусі галаву вароне», «Час чумы», «Сланы Ганібала» і інш. Нарадзіўся ў 1953 годзе ў Полацку. Жыве ў Мінску.

**Бібіла Юлія** – бібліёграф. Склала бібліяграфію твораў Ц. Гартнага. Апублікавала матэрыялы да біяграфіі Цёткі. У 1930-я гады была рэпрэсавана і выслана за межы Беларусі. У 1937—59 гг. была галоўным бібліёграфам бібліятэкі Саратаўскага ўніверсітэта. Вярнулася ў Мінск у 1959 годзе. Працавала ў Дзяржаўнай бібліятэцы БССР. Нарадзілася ў 1897 годзе ў мяст. Поразава Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. (цяпер Свіслацкі р-н Гродзенскай вобл.). Памерла ў 1974 годзе ў Мінску.

**Бэн Ары Мікаэль** – нарвежскі празаік, драматург. Аўтар трох раманааў, двух зборнікаў кароткіх апавяданняў і кнігі пра сваё вяселле з прынцэсай Нарвежскай Мартай Луізай. Нарадзіўся ў 1972 годзе ў Орхусе (Данія).

**Галубовіч Леанід** — паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг «Таемнасць агню», «Споведзь бяссоннай душы», «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча», «Сыс і кулуары», «З гэтага свету», «Поўня». Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Вароніна на Клеччыне. Жыве ў Мінску.

**Гапеева Вольга** – паэтка, перакладчыца, лінгвістка. Аўтарка кніг «Няголены ранак», «Прысак і пожня», «Сумны суп», «(в)ядомыя гісторыі» і інш. Стыпендыятка міжнародных праграм для пісьменнікаў і перакладчыкаў (Аўстрыя, Нямеччына, Латвія, Швейцарыя), удзельніца шматлікіх міжнародных канферэнцый і літаратурных фестываляў (Славенія, Германія, Чэхія, Швейцарыя, Польшча і інш.). Нарадзілася ў 1982 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Гібок-Гібкоўскі Алесь** – паэт, эсэіст, бард. Аўтар кнігі вершаў «Насамрэч». пераклаў на беларускую мову кнігу Дж. Радыры «Прыгоды Чыпаліны». Лаўрэат прэміі Беларускага саюза журналістаў «Залатое пяро», Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі. Нарадзіўся ў 1952 годзе ў вёсцы Рупейкі на Ваўкавышчыне. Жыве ў Мінску.

**Ёхансэн Лідзія** — перакладчыца. Скончыла раманскае аддзяленне перакладчыцкага факультэта МДЛУ, факультэт замежных моў і мовазнаўства ўніверсітэта Ніжняй Нармандыі (Францыя), магістратуру пры гуманітарным факультэце ўніверсітэта Осла. Нарадзілася ў 1979 годзе. Жыве ў Осла (Нарвегія).

**Дзмітранок Аляксандра** – празаік, перакладчык. Навучалася на перакладчыцкім факультэце Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта па спецыяльнасці лінгвіст-перакладчык. Скончыла магістратуру МДЛУ. Сумяшчае перакладчыцкую дзейнасць з выкладаннем на кафедры ўсходніх моваў МДЛУ. Нарадзілася ў 1980 годзе ў Гомелі. Жыве ў Мінску.

**Дубянецкая Ірына** – бібліст, філосаф. Доктар філасофіі, доктар сакральнай тэалогіі. Акадэмічны дырэктар Беларускага калегіюма Нарадзілася ў 1964 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Емяльянаў-Шыловіч Алесь** — паэт, перакладчык. Аўтар зборніка вершаў »Парасонечнасць». Фіналіст конкурсаў беларускага ПЭН-цэнтра, пераможца конкурса «Экслібрыс» імя Рыгора Барадуліна. Пераможца міжнароднага конкурса на найлепшы пераклад паэзіі Віславы Шымборскай. Рэдактар літпартала Textura.by. Нарадзіўся ў 1987 годзе ў Крычаве. Жыве ў Мінску.

**Жуковіч Васіль** – паэт, празаік, перакладчык, крытык. Аўтар кніг «Паклон», «Мелодыя святла», «Як адна вясна...», «Твая місія», «Разняволенне», «У храме хараства і смутку», «Няўжо?..», «Золата лістападу»,

«Арабінавая ноч» і інш. Нарадзіўся ў 1939 годзе на хутары Забалацце на Камянеччыне. Жыве ў Мінску.

**Захаранка Мікола** — празаік, паэт, публіцыст, драматург. Аўтар кнігі «І тады ўдарыў бом». П'еса «Паехалі» (1996) ставілася на сцэне Нацыянальнага тэатру імя Янкі Купалы. Проза і паэзія друкаваліся ў «Полымі», «Літаратуры і мастацтве», «Звяздзе» і інш. выданнях. Нарадзіўся ў 1949 годзе ў Васілевічах на Гомельшчыне. Жыве ў вёсцы Швабы на Лагойшчыне.

**Зуёнак Васіль** – паэт, перакладчык, літаратуразнаўца, крытык. Кандыдат філалагічных навук. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1982). Аўтар кніг паэзіі «Вясёлы калаўрот», «Крэсіва», «Крутаяр», «Нача», «Вызначэнне», «Лета трывожных дажджоў», «Знічкі сямі нябёс», «Пісьмы з гэтага свету» і інш. Нарадзіўся ў 1935 годзе ў вёсцы Мачулішча на Міншчыне. Жыве ў Мінску.

**Казакевіч Вячаслаў** – празаік. З 1993 года жыве ў Японіі. Прафесар славістыкі. Аўтар кніг вершаў «Праздник в провинции», «Кто назовет меня братом?», «Лунат», «Ползи, улитка!», «Жизнь и приключения беглеца», «Сердце-корабль», «Из вихря и луны» і кніг прозы «Прославление заката», «Охота на майских жуков», «За мной придет Единорог». Нарадзіўся ў 1951 годзе ў пасёлку Бялынічы Магілёўскай вобласці. Жыве ў Таяме (Японія).

**Карпечанка Міхась** — празаік, драматург. Аўтар кніг «Дачка волі», «Вочы гісторыі», «На скрыжаванні болю і надзеі», «Уздоўж стромы» і інш. Нарадзіўся ў 1959 годзе ў вёсцы Болін на Краснапольшчыне. Жыве ў Бялынічах.

**Козел Андрэй** – паэт. Скончыў Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка. Творы друкаваліся ў часопісах «Дзеяслоў», «Маладосць», газетах «ЛіМ», «Літаратурная Беларусь», пераклады – у газеце «Рэспубліка». Нарадзіўся ў 1987 годзе ў пасёлку Новагарадзейскі на Нясвіжчыне. Жыве ў Нясвіжы.

**Лец Станіслаў Ежы** – польскі паэт. Майстар кароткага філасофскага парадоксу. У цыклах афарызмаў «Непрычасаныя думкі» (*Myśli nieuczesane*) пры дапамозе жарту, іроніі, сарказму, гульні словаў выказваў пратэст супраць дагматызму і любых формаў гвалту з асобы. Нарадзіўся ў 1909 годзе ў Лембергу (Аўстра-Венгрыя). Памёр у 1966 годзе.

**Лойка (Галубовіч) Вера** – празаік. Скончыла Мінскі фінансава-эканамічны тэхнікум. Працавала на «Беларусьфільме», Беларускім радыё. Вучылася ў Літаратурным інстытуце імя Горкага ў Маскве. Апавяданні друкаваліся ў тыднёвіку «ЛіМ» і ў часопісе «Наша вера». Нарадзілася ў 1958 годзе ў вёсцы Батурынка Смалявіцкага раёна. Жыве ў Мінску.

**Мудроў Вінцэсь** — празаік. Лаўрэат прэміі часопіса «Дзеяслоў« «Залаты апостраф» (2010). Аўтар кніг «Жанчыны ля басейна», «Гісторыя аднаго злачынства», «Зімовыя сны», «Ператвораныя ў попел», «Альбом сямейны», «Багун«, «Забойца анёла» і інш. Нарадзіўся ў 1953 годзе ў Полацку. Жыве ў Полацку.

**Падбярэзскі Дзмітрый** — празаік, публіцыст. Аўтар кніг «Уверцюра», «Сола на саксафоне», «Брыдкія аповяды« і інш. Нарадзіўся ў 1952 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Разановіч Анатоль** – журналіст, празаік. Аўтар кніг: «Волчья жизнь», «Я разговариваю с инопланетянами», «Постижение истины», «Отшельник», «Варшавский экспресс», «Полынь-вода». Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Рубель на Століншчыне. Жыве ў Мінску.

**Сітніца Рыгор** — мастак, паэт, публіцыст. Акадэмік Беларускай акадэміі мастацтваў. Творы знаходзяцца ў музеях Беларусі, Польшчы, Грэцыі, у прыватных зборах Беларусі, Летувы, Польшчы, Германіі, Галандыі, Ізраіля, Вялікабрытаніі і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Курыцічы на Петрыкаўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Трэнас Віка (Вікторыя Ляйкоўская)** – паэтка, эсэістка. Аўтарка кніг вершаў «Цуд канфіскаванага дзяцінства» і «Экзістэнцыйны пейзаж». Творы перакладзеныя на нямецкую, балгарскую, шведскую, рускую, літоўскую, польскую мовы. Нарадзілася ў 1984 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Хадановіч Андрэй** — паэт, перакладчык. Аўтар кніг паэзіі «Лісты з-пад коўдры», «Старыя вершы», «From Belarus with love», «Сто лі100ў на tut.by», «Бэрлібры», «Несымэтрычныя сны», «Нататкі таткі», «Цягнік Чыкага-Токіё» і інш. Перакладае з англійскай, французскай, польскай, украінскай і інш. моваў. Лаўрэат прэміі «Залаты апостраф» (2007), прэміі імя Карласа Шэрмана (2017). Нарадзіўся ў 1973 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Якавенка Наталля** – крытык, літаратуразнаўца. Аўтарка кнігі «Аўтарскі пераклад (Праблема аўтарскага перакладу прозы ў беларускай літаратуры XX ст.)», шматлікіх публікацый у беларускім друку. Нарадзілася ў 1973 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**



Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры перадруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Юрыя Дзядзінкіна, Юрыя Іванова, Анатоля Клешчука, Яўгена Коктыша,
Уладзіміра Крука, Глеба Лабадзенкі, Яна Пітэра Лінаў, Віктара Стралкоўскага,
Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.